Меў я калісьці домік свой светлы,
быў шум таполяў над ім прыветным,
сцены здаля свяцілі жадана,
лозы пайзлі на дах заламаны,
сонца пакоі скрозь залаціла...

Гэта было ўсё добрым і мілым,
гэта было ўсё з сэрцам з'яднана,
як дрэва коранем з роднай глінай,
гэта было ўсё ў свеце адзіным,
як любай маці голас адданы...
Толькі не ведаў босы малеча,
што ён прад домам некалі ўкленчыць...

Зараз, калі ўжо дом мой загінуў,
нават падмурку не засталося,
смутак над ім бязмоўна галосіць,
варта анёлаў тут — без спачыну.
Зараз, калі цень яго знікае,
шмат што становіцца зразумелым,
чым былі тыя гады шуканняў
у доме родным, у доме белым.

Дом мой мёртвы, табе на паперы
сею простыя словы, як жыта,
каб, як труна, што сынам адкрыта,
зноў твае адчыніліся дзверы,
каб вёў мяне дух вечнай Айчыны
у незабытыя сэрцам пакоі,
там я ўрэшце тугу супакою,
там я, бяздомны, знайду спачынак.

*Ян Булгак*

# КРАЙ ДЗІЦЯЧЫХ ГАДОЎ



Мінск
« Беларусь »
2004

УДК 77(438)(092)+929 Булгак
ББК 85.16
Б90

Jan Bułhak. Kraj lat dziecinnych. Gdyńska Oficyna Wydawnicza «ASP RYMSZA», 2003

Укладальнік і аўтар уступнага артыкула *Т.Г. Вяршыцкая*

Пераклад з польскай мовы *Т.Г. Вяршыцкай*

Пераклад вершаў з польскай мовы *С.І. Законнікава*

Аўтар каментарыяў, подпісаў да фотаздымкаў, бібліяграфіі,
артыкула «Жыццё і творчасць Яна Булгака» *І.Б. Кухарская*

У кнізе выкарыстаны фотаздымкі з Музея літаратуры ў Варшаве, Гданьскай бібліятэкі Польскай Акадэміі навук, сямейных архіваў Богдана Булгака, архіва сям'і Карповічаў, са збораў Іаланты Б. Кухарскай і Хэлены Рымшэвіч-Місюра

Выказваем вялікую ўдзячнасць унуку аўтара пану Богдану Булгаку
за прадастаўленыя тэксты ўспамінаў, фотаздымкі і іншыя матэрыялы

**Булгак Ян**

Б90 Край дзіцячых гадоў/Ян Булгак; укл. і аўт. уступ. арт. Т.Г. Вяршыцкая; пер. з пол. мовы Т.Г. Вяршыцкай; пер. вершаў з пол. мовы С.І. Законнікава. — Мн.: Беларусь, 2004. — 415 с.: іл.

ISBN 985-01-0538-0.

Кніга ўспамінаў знакамітага фатографа Яна Булгака разгортвае шырокую панараму жыцця Навагрудчыны канца XIX — пачатку XX стагоддзя. Жывасць і вобразнасць аповеду ставяць гэты твор, па меркаванню экспертаў Оксфардскага універсітэта, на адзін узровень з «Панам Тадэвушам» Адама Міцкевіча. Выданне багата ілюстравана аўтарскімі фотаздымкамі Яна Булгака.

Для шырокага кола чытачоў.

**УДК 77(438)(092)+929 Булгак**
**ББК 85.16**



**ISBN 985-01-0538-0(бел.)**
**ISBN 83-918580-0-6(пол.)**

## *Да чытача*

*Ян Булгак... Калі Вы хочаце зразумець каштоўнасць звычайных простых рэчаў, што акружаюць Вас у паўсядзённым жыцці, вартасць простых чалавечых адносін, адчуць сэнс самога жыцця, яго водар і смак, — акуніцеся ва ўспаміны Яна Булгака «Край дзіцячых гадоў». Яны прасякнуты такой жывой ЛЮБОЎЮ да сваёй зямлі, на якую здатны толькі вялікі рамантык.*

*Сваімі ўспамінамі Ян Булгак завяршыў эпоху рамантызму ў літаратуры, пачатую яго славутым суайчыннікам Адамам Міцкевічам. Гэту літаратуру нельга адназначна аднесці ні да польскай, ні да беларускай. Творы, напісаныя па-польску, прасякнуты атмасферай, мясцовым каларытам, моўнымі асаблівасцямі і бязмежнай любоўю да Навагрудскай зямлі. Яна натхніла Адама Міцкевіча на напісанне «Пана Тадэвуша» на парыжскім бруку (як вядома, паэма з'яўляецца сапраўднай энцыклапедыяй жыцця навагрудскай шляхты першай паловы XIX ст.), і яна ж прымусіла ў 1942 г. узяцца за пяро фатографа Яна Булгака, якому ў цяжкіх абставінах вайны, у акупіраванай немцамі Вільні не хапала таго «няўлоўнага і бясцэннага», чым валодае толькі Навагрудчына і чым яна назаўсёды прывarожвае да сябе.*

*Яну Булгаку пашчасціла нарадзіцца недалёка ад Свіцязі, якая ўвасабляе сабой і выпраменьвае ў наваколле абсалютную гармонію. Яго бацькі належалі да сярэднезаможнай шляхецкай сям'і, валодалі маёнткам Асташын на Навагрудчыне і прадстаўлялі два тыпы навагрудскай шляхты: маці, Юзэфа Хацiская, — рафінаваная шляхцянка з французскай мовай, творчымі літаратурнымі задаткамі, узнёсла-рамантычная ў маладосці, стойка і з годнасцю выконвала абавязкі гаспадыні дома «шляхціца-грэчкасея» Валерыя Булгака, які спалучаў у сабе рысы шляхціца і селяніна, гэта значыць сам займаўся гаспадаркай і абедзвюма нагамі стаяў на зямлі. Маці бязмерна любіла свайго адзінага сына Янэчка, а бацька быў цалкам адданы сваёй жонцы і клопатам аб дабрабыце сям'і. Яны абое былі тыповымі прадстаўнікамі сваіх родаў, цанілі традыцыі сваіх продкаў і дастойна іх працягвалі.*

*У гэтай атмасферы мог вырасці чалавек, які «палову свайго жыцця прысвяціў назіранню прыгажосці роднай зямлі і яе ўвекавечванню на фотаздымках». Ян Булгак пачаў займацца фатаграфіяй выпадкова, калі яго жонка ў 1905 г. атрымала ў падарунак на дзень нараджэння фотаапарат. Фатаграфія захапіла яго, і ён з усёй палымянасцю душы, атрыманай у спадчыну ад маці, зрабіў яе справай свайго жыцця, дасягнуў вышынь сапраўднага мастацтва, стаў прызнаным майстрам святла і ценю. У аб'ектыў фатографа трапляла тое, што хвалявала і цікавіла Яна Булгака як асобу, — яго зямля, яе прыродны і архітэктурны ландшафт, двары і сядзібы, тое «бясцэннае дабро, што праходзіць міма незаўважаным», а на самай справе стварае і акрэслівае атмасферу краю. Бязмежная любоў да сваёй зямлі і моцнае захапленне фатаграфіяй адсунулі на другі план людзей — гэта была яго плата за шчасце творчасці.*

*Але любоў заўсёды патрабуе большага. Максімальна выкарыстаўшы магчымасці фотаапарата, Ян Булгак адчувае, што гэтага недастаткова.*



***Булгак з унукамі Андрэем і Богданам.*** *Здымак да 1948—1949 гг.*

*Яго пачуццё і ўспрыняцце сваёй зямлі значна большыя, глыбейшыя і мацнейшыя, чым гэта даступна аб'ектыву.*

*Ва ўмовах вайны прага хоць ва ўспамінах вярнуць адчуванне шчасця, перажытае ў дзяцінстве на Навагрудчыне, становіцца выратаваннем. Ён пачынае пісаць, так нараджаецца «Край дзіцячых гадоў».*

*Нішто не перашкаджае Булгаку быць адкрытым да самых патаемных глыбінь душы, калі гэта датычыць пачуццяў, і нішто не стрымлівае аўтара пры апісанні той ці іншай карціны свайго жыцця, нават калі гэта не спрыяе стварэнню больш пазітыўнага вобраза. Гэта ўнутраная свабода і шчырасць духоўна сталай асобы робяць мемуары настолькі жывымі і кранальнымі, што вобразы, створаныя словамі, дапаўняюцца фарбамі і пахамі, не адпускаюць і выклікаюць свае асацыяцыі і ўласныя ўспаміны ў чытача, прымушаюць аналізаваць і параўноўваць, рабіць ацэнкі і высновы, расстаўляць прыярытэты сярод чалавечых каштоўнасцей на карысць вельмі простых, але важных рэчаў, якія не заўважаюцца з-за іх паўсядзённасці, як «не відаць паветра, калі яно чыстае і нічым не ўзрушана». Прыходзіць разуменне, што іх адсутнасць пазбаўляе жыццё глыбіннага сэнсу і цеплыні, абядняе духоўна.*

*«Край дзіцячых гадоў», як і «Пан Тадэвуш» Міцкевіча, энцыклапедычна шырока падае інфармацыю аб жыцці шляхецкага двара сярэдняй рукі на Навагрудчыне, стварае найбольш поўную карціну гаспадаркі і сельскага ўкладу жыцця з апісаннем галоўных работ і мясцовых традыцый праз 100 гадоў пасля Міцкевіча. Як і «Пан Тадэвуш», гэта — моцны і вельмі прыцягальны жывы вобраз страчанай Навагрудчыны. Тут ёсць апісанне самых знакамітых сядзібаў у ваколіцах Навагрудка, Міра, Баранавіч, Свіцязі, а таксама каларытных цікавых асобаў. Ян Булгак стварае вобразы, выкарыстоўваючы мастацкае слова з дакладнасцю фотамайстра. Пры гэтым ён не паўтарае свайго вялікага папярэдніка, а па вобразнасці і перадачы сілы любові стварае канкурэнцыю Міцкевічу.*

*Гэта прызнанне ў каханні, гэты гімн Навагрудчыне, напэўна, так і засталіся б у рукапісе, вядомыя вузкаму колу нашчадкаў Яна Булгака, калі б аднойчы падчас чарговай пілігрымкі ў родныя мясціны і спаткання ў музеі былая навагрудчанка родам са знакамітага Чамброва пані Пухальская не ўзгадала аб існаванні гэтых запісаў і аб тым, што вядомая ёй копія знаходзіцца ў Варшаве ва ўласнасці ўнука Яна Булгака — пана Богдана Булгака.*

*Дзякуючы пані Марыі Скатніцкай-Скажынскай мы атрымалі адрас пана Богдана, дамовіліся з ім аб сустрэчы. Ён згадзіўся перадаць тэкст успамінаў з правам перакладу і выдання іх у Беларусі. Пакуль рабіўся пераклад, успаміны выйшлі ў Польшчы ў выдавецтве «АСП Рымша». Выдаўца, пан Анджэй Спаніі, таксама звязаны з Навагрудчынай сваімі каранямі. Ён ласкава падзяліўся здымкамі Яна Булгака, сабранымі для польскага выдання.*

*Усім гэтым людзям шчырае дзякуй за дапамогу ў вяртанні нашай страчанай спадчыны і аднаўленні мінулага.*

Тамара ВЯРШЫЦКАЯ,
дырэктар Навагрудскага гісторыка-краязнаўчага музея,
перакладчык

## Уступ

Аднойчы ў маладосці я ехаў дарогай са Свіцязі[1] да Чамброва[2] з панам Янам Спехальскім з Хацішчаў[3], прыяцелем майго бацькі, вельмі закаханым у нашу родную Навагрудчыну. Прыязна пазіраючы на пагоркавы краявід, так добра нам вядомы і так цудоўна маляўнічы, мы пачалі дзяліцца думкамі, якія абуджалі ў нас гэтыя ваколіцы. Я ў той час пачынаў займацца фатаграфіяй[4] і быў поўны ахвоты, старання і цьмяных уяўленняў. Пан Спехальскі радзіў мне звяртаць больш увагі на нашы двары і праўдзіва фіксаваць іх выгляд, пакуль ён не страціў свайго характару і зместу, але мяне тады такая «звычайная» інвентарызацыя не магла задаволіць, мне хацелася нечага іншага, і я спрабаваў даволі беспаспяхова выразіць няясную, але настойлівую тугу, якая наведала мяне ў той час. Няўмелымі словамі я тлумачыў падсвядомы ход сваіх думак, тое пастаяннае пачуццё, што нешта вакол мяне мінае беспаваротна, што нейкая высокая прыгажосць, нейкае бясцэннае дабро праходзіць міма нас незаўважаным, а яно такое простае, паўсядзённае і блізкае, яго нельга разглядзець, як не відаць паветра, пакуль яно чыстае і нічым не ўзрушана. Я адчуваў, што трэба было б апісваць нашу старонку, наш край, каб усведамляць сабе і ўзгадваць нейкія неназваныя скарбы, схаваныя ў ім, якія немагчыма акрэсліць дакладней.

Я не разумеў, якім чынам рэалізаваць на справе гэтыя мае парывы, бо сам не адчуваў у сабе здольнасцей у якім-небудзь выразным кірунку, аднак жаданні непакоілі мяне ўсцяж і не пакідалі. Яны стваралі нейкі нястомны ўнутраны фермент, які не знаходзіў тлумачэння ў нязменным пастаянстве ўмоў сучаснага жыцця. Было гэта ў 1907 годзе, узрушэнні расійскай рэвалюцыі ўжо былі крыху забыты, а будучай вайны яшчэ ніхто не прадчуваў, ва ўсялякім разе ў нас, нішто таксама не паказвала на тое, што нашай за-

---

[1] Свіцязь — возера ў Беларусі недалёка ад Навагрудка плошчай 1,5 кв. км і глыбінёй да 15 м.

[2] Чамброў — памешчыцкі маёнтак, размешчаны на адлегласці некалькіх кіламетраў ад Свіцязі ў былым Навагрудскім павеце. Належаў Курчам, з XVIII ст. — Узлоўскім, у 1822 г. (дагавор ад 1827 г.) яго купіў Казімір Карповіч. Гэта сям'я валодала маёнткам да 1945 г. Упраўляючым у маёнтку суддзі Ігнацція Узлоўскага быў Мацей Маеўскі, дзед Адама Міцкевіча. Маці паэта, Барбара Маеўская, выконвала ў маёнтку абавязкі «загадчыцы аптэчкі». Жонку суддзі, Анэлю Узлоўскую, запрасілі быць хроснай маці Адама. У 1817 г. (а не як памылкова падае Адам Міцкевіч у тлумачэннях да «Пана Тадэвуша» — у снежні 1821 г.) тут адбыўся адзін з апошніх шляхецкіх наездаў у Літве. Мясцовы двор, пабудаваны ў канцы XVIII ст., які лічыўся прататыпам Сапліцова, спалены савецкімі партызанамі 16 мая 1943 г.

[3] Хацішчы — невялікі фальварак (каля 37 моргаў) у Навагрудскім павеце, належаў Шпегальскім (Шпіхальскім).

[4] Прафесійную «цямніцу» Ян Булгак абсталяваў у сваім доме ў Пярэсецы ў 1908 г. Тады ён упершыню паслаў свае працы на фатаграфічны конкурс, абвешчаны часопісам «Ілюстраванае жыццё», дадаткам да «Віленскага кур'ера», на якім атрымаў галоўную ўзнагароду. Гэты выпадак лічыцца пачаткам мастацкай творчасці вялікага майстра аб'ектыва.

цішнай паўсядзённасці нешта пагражае. Жылося спакойна, глыбока пахла вёскай і прыродай, не адчувалася, як міналі пагодныя дні і гады. Аднак як жа часта сярод гэтай бесклапотнасці мяне мучыла думка, што больш нельга заставацца бяздзейсным, што трэба заняцца нейкай працай — выканаўчай, але і творчай, можа, арганізаваць нейкае сумеснае выдавецтва, нейкія спробы даследавання і апісання краю з дапамогай людзей добрай волі, вялікага вопыту і гарачага сэрца...

Але мой суразмоўца не мог мне нічога парадзіць, а сам я адчуваў сябе бяссільным: да пяра я звяртаўся ўрыўкамі і па-дылетанцку, у фатаграфіі яшчэ толькі дэбютаваў, таму не мог апірацца на ўласную падрыхтоўку ў сваіх марах. Тады я яшчэ не ведаў, што з часам мне будзе дадзена далучыцца да стварэння вобразу краю і яго помнікаў пяром і аб'ектывам, калі пасля шматлікіх блуканняў я прыйду да жыцця больш паважнага і простага, пазбаўленага позы і фразёрства.

Прайшлі гады і засланілі ў маёй памяці тую размову з навагрудскім суседам. Але ўва мне застаўся фермент, жаданні крышталізаваліся паволна і нязначна і, нарэшце, даспелі да ажыццяўлення. Я пачаў фатаграфаваць і пісаць, адно побач з другім, а ўласна кажучы, адно пасля другога, і так паўсталі мае шматгадовыя працы над «зямлёю», а між іншым і тыя ілюстраваныя кніжачкі, якія я назваў «Вандроўкамі фатографа»[5], у якіх я паспрабаваў словам і вобразам у аднолькавай меры выказаць тое, што я адчуваў, кантактуючы з зямлёй. Цяпер я разумею, што тады гэта было яшчэ занадта рана, бо я яшчэ замала жыў, замала кахаў і пацярпеў. Спачатку трэба было страціць найдаражэйшае, вымераць уласным болем яго вартасць і незваротнасць, каб ацаніць, ушанаваць і пакахаць на самай справе... Як заўсёды... Як цябе трэба кахаць, той толькі паведае, хто цябе страціў...

Ці разумеў я тады, гледзячы на акружаную шарападобнымі дрэвамі якую-небудзь сядзібу і пестуючы вачамі яе прыгожыя замалёўкі, што ёсць нешта значна важнейшае ў параўнанні з вонкавым хараством двара: яго душа, своеасаблівае спалучэнне прастаты і шляхетнасці, праведнай працы і годнай стойкасці, якія яго ажыўляюць і асвячаюць. Ці ведаў я, што пасярод тых векавых дрэў калі-небудзь я буду шукаць сілай мары і ўспамяну Дом, роднае гняздо, агеньчык на прыпечку, лямпу над сталом, цені бацькі і маці? Што гэтыя ўспаміны, лёгкія, як восеньскае павуціннне, абаўюць маё сэрца моцнай сеткай і па іх слядах я буду вяртацца назад праз усё жыццё — да адзінага найпрыгажэйшага на ўсім свеце «краю дзіцячых гадоў», да ціхага шчасця дома?.. Што, як сляпы, які сваім дотыкам спрабуе спазнаць фарбу і прыгажосць свету, буду трымаць у руцэ пасмачку тых знікаючых прывідаў, каб уваскрасіць іх замагільнае выпраменьванне, ужо нематэрыяльнае, каб з заплюшчанымі вачамі насыціцца іх пахам і ахутацца непараўнальнай чароўнасцю найдаражэйшага міража? Ці ведаў я, што буду прагнуць з пачуццём горкага шчасця, з балючай тугою зноў адчуць церпкі

---

[5] «Вандроўкі фатографа ў слове і вобразе» — цыкл сшыткаў з тэкстамі і фотаздымкамі Булгака, які выдаваўся з 1931 г. Да пачатку вайны было выдадзена 9 сшыткаў: 1. «Віленскі краявід» (1931); 2. «Краявід, бачны праз лінзу» (1933); 3. «Праз Панары да Трок» (1933); 4—5 (падвойны). «Нарач. Самае вялікае возера ў Польшчы» (1935); 6. «Чалавек — творца краявіду» (1936); 7. «Рушчыцавы дажынкі» (1936); 8—9 (падвойны). «Пейзаж Вільні» (1936). Булгак планаваў выданне чарговых сшыткаў: 10. «Віленская Кальварыя»; 11—12. «Навагрудскае ваяводства (Край дзіцячых гадоў)».

пах вільготнай зямлі і вясенняга ветру, паслухаць ва ўязной алеі шум верхавін таполяў і сярод іх адрозніць любімыя галасы даўно памерлых?.. Што ўсё жыццё буду тужыць, каб зноў убачыць як-небудзь летнім вечарам доўгія каляровыя цені на траўніку перад домам, а на ружовых палосах заходзячага сонца — развешаныя бярозавыя гронкі, што шэпчуць услед узбуджанай дзіцячай душы?

Вядома, я ўсяго гэтага не ведаў. Не ведаў нават, якую страшэнную цану трэба заплаціць за гэту свядомасць. Аднак і тады я прыпісваў асаблівае значэнне краю, які я называў сваім. З дзяцінства я адчуваў гонар, што з'яўляюся навагрудчанінам, і гэтую думку мне прывілі бацькі і блізкія, паўтараючы агульнае меркаванне аб прыгажосці нашай старонкі. Бо была гэта старонка Міцкевіча — самы прыгожы закутак краю. Туганавічы[6], Навагрудак[7], Свіцязь былі для мяне не сухімі тэрмінамі паэтычнай геаграфіі, а жывой штодзённай рэчаіснасцю. А нашага вялікага паэта я вучыўся спазнаваць не з друкаваных на паперы тэкстаў, а з вуснага падання, са скарбонкі ўласных успамінаў, з кнігі роднай прыроды. Я памятаў імя Міцкевіча гэтак жа здаўна, як і імёны бацькоў, якія мне гаварылі пра яго на берагах Свіцязі. І навакольны краявід звязваўся ў мяне з самым першым успамінам, з гэтай узнёслай постаццю, аднак не чужой, абагатворанай, а блізкай, з постаццю маладога Адама, які бавіцца на канікулах у Туганавічах. Я навучыўся бачыць у ім земляка, які як быццам бы паходзіў з маёй сям'і, дзе ўсе парадніліся паміж сабой альбо, як найменш, зблізіліся праз сяброўскія суседскія адносіны.

Балады Міцкевіча пра Свіцязь я ведаў з самых ранніх гадоў, з той хвіліны, калі я навучыўся чытаць і пачаў шукаць у кніжках, чым падсілкаваць фан-

---

[6] Туганавічы — дзве вёскі і землі над ракой Сэрвач у Навагрудскім павеце ў праваслаўнай парафіі Цырын, каталіцкай парафіі Варонча, размешчанай на паўднёвы ўсход ад Навагрудка. Былі ва ўласнасці Тугаnoўскіх, пазней Верашчакаў, нарэшце ізноў (з другой чвэрці XIX ст.) — Тугаnoўскіх. У 1818–1820 гг. у флігелі, які называлі Мураванкай, жыў падчас канікул Адам Міцкевіч, які тут пазнаёміўся з Марыляй Верашчакай. Апошняя ўладальніца, панна Юзэфа Тугаnoўская (пам. у 1930 г.), адпісала маёнтак Мінскаму сельскагаспадарчаму таварыству з абавязковай умовай утрымліваць у сядзібе сельскагаспадарчую школу. Сядзібныя пабудовы былі спалены ў 1915 г. Пасля I сусветнай вайны Туганавічы перайшлі ва ўласнасць дзяржавы. За распаўсюджванне польскай культуры ў Навагрудскім ваяводстве панну Тугаnoўскую ўзнагародзілі ордэнам Адраджэння Польшчы.

[7] Навагрудак (Літоўскі і Крывіцкі) — да падзелаў — ваяводскі горад, месца правядзення пасольскіх і дэпутацкіх сеймікаў, а таксама пасяджэнняў гродскіх і земскіх судоў. У час панавання Расіі быў цэнтрам павета Слонімскай губерні, а з 1843 г. — Мінскай. У 1887 г. у Навагрудку жыло каля 12 000 жыхароў, у тым ліку каля 470 праваслаўных беларусаў, 2200 палякаў, 1160 магаметан (якіх лічылі палякамі), рэшту складалі яўрэі. Да студзеньскага паўстання Навагрудак славіўся сакавіцкімі кантрактамі, на якія з'язджалася шматлікая шляхта. Пасля 1864 г. засталіся штогадовы кірмаш коней і рагатай жывёлы (16 сакавіка) і продаж вясковых прадуктаў па нядзелях. Падарожнікі спыняліся ў некалькіх пастаялых дварах, карысталіся рэстаранам і некалькімі добрымі складамі. Горад ствараў уражанне занядбанага, быў убогім і брудным, з самым дрэнным брукам. Прычынай упадку Навагрудка ў другой палове XIX ст. стала тое, што горад абмінулі дзве чыгуначныя лініі, якія злучалі Маскву, Варшаву, Кіеў, Мінск і Вільню. Пасля таго як Польшча атрымала незалежнасць пасля I сусветнай вайны, горад ізноў вярнуў сабе ранг сталіцы ваяводства, самай малой у дзяржаве, нягледзячы на тое, што на гэтай тэрыторыі існавалі тры большыя і лепш эканамічна развітыя гарады: Баранавічы, Ліда і Слонім.

тазію. У маім родным Асташыне[8], у салоне з венецыянскім акном, стаяла вуглавая шафа, поўная старых кніг у цвілых вокладках, якія пахлі традыцыяй і думкамі. У гэтай шафе я знайшоў усяго Міцкевіча ў выданні Мержбаха 1858 года[9] і там па складах чытаў апісанне Свіцязі з, бадай, яшчэ большай стараннасцю, чым малітвы на «Благаслаўленні духоўным дому», якія віселі каля майго ложка ў матчынай спальні. І так паволі, год за годам, усё цясней спляталася бачанне «майго» паэта з маім уласным бачаннем зямлі Навагрудскай, стваралася пачуццёвае зрошчванне, узмацняліся нейкія рашэнні паміма ведаў, без усведамлення, аж да дня, калі я гэту зямлю страціў і вымераў памер гэтай страты незгасаючай па ёй тугою. А потым ужо ўся рэшта жыцця была запоўнена тым адзіным: уваскрашэннем у думках і замацаваннем словам і вобразам прыгажосці страчанага раю.

Доўга, аднак, хацелася апісваць менш блізкі край. Да гэтых самых блізкіх я проста баяўся падступіцца пасля спустошэння вялікай вайной. Даткнуцца да гэтых ран было звыш маіх сіл. Мая родная рака Сэрвач[10], што праплывае міма Асташына і Туганавіч, стала мяжой, што на працягу трох гадоў аддзяляла нямецкі фронт ад расійскага. Яе спакойныя шырокія лугі напоўніліся пеклам жаху і знішчэння. Тут, над Сэрваччу, спаткаліся два светы — усход і захад схапіліся тут у смяротэльным змаганні. Над лугамі маёй роднай ракі, над таполямі бацькоўскага дома, над гэтым благаслаўлёным куточкам навагрудскай зямлі раз'ярылася мярзота спустошэння, перакроіла яго крывавымі палосамі, не пакінула каменя на камені... Калі ў 1920-ым я ў першы раз адведаў месца, дзе быў наш двор, я не змог знайсці нават слядоў былога саду, і толькі пасля доўгіх пошукаў мне трапіўся зрэзаны пень старой бярозы, якая расла перад акном мамінага пакоя і была для мяне асабліва дарагой сяброўкай дзяцінства. Навокал было бязлюдна, агідна і страшна. Пазбаўленая годнасці, смерць шчэрыла спарахнелыя зубы з д'ябальскай цынічнай грымасай. Вочы ў роспачы стараліся знайсці якія-небудзь сляды былога двара, дарэмна імкнуліся ўбачыць на пустых абшарах неба памятныя абрысы старых дрэў — сяброў дзяцінства, ногі натыкаліся на агідныя руіны, на пачварныя маткі ржавага дроту, на брудныя ямы і здзічэлыя кусты... А ў нейкі момант, калі я ўжо хацеў уцячы ад выгляду гэтых агіднасцей, з раз-

---

[8] Асташын — вёска і землі над ракой Сэрвач у Навагрудскім павеце, налічвае 57 дамоў. Калісьці землі належалі Бакам, пазней Швыкоўскім. Ян Швыкоўскі пабудаваў тут мураваны кальвінскі збор, у якім сабралі каштоўны архіў, бібліятэку і памятныя рэчы. Усё прадалі радні — Атынгаўзам і Гюнтэрам. Касцёл знішчылі падчас I сусветнай вайны, руіны разабралі на цэглу. Сядзіба Швыкоўскіх XVI ст., перабудаваная Атынгаўзамі, у I палове XIX ст. аказалася ў руках Грабоўскіх у якасці спадчыны. Спалена ў 1915 г. Маёнтак налічваў 507 дзесяцін.

Асташын Мураваны (альбо Асташына) — фальварак у Навагрудскім павеце, уласнасць Валерыя Булгака плошчай «248 дзесяцін абшару з адборнай глебай. Тут вядзецца ўзорная сельская гаспадарка, рацыянальная гадоўля жывёлы, млын і вінны водкуп. Сяляне заплацілі 1948 сярэбраных рублёў за зямлю». Пасля смерці Валерыя Булгака (1905) маёнтак прадалі Грабоўскім, у 20-ыя гг. яго купілі Петрашкевічы.

[9] *А. Міцкевіч.* Лісты. Прадм. К.В. Вайціцкага. Варшава, 1858. Т. 1—8.

[10] Сэрвач — рака ў Навагрудскім павеце, левы прыток Нёмана. Пачынаецца там, дзе зліваюцца некалькі ручаёў у ваколіцах вёсак Станкевічы, Новае Сяло і гміны Гарадзішча. Яна ўвесь час цячэ ў паўночным кірунку, мінае Гарадзішча, Цырын, Туганавічы, Шчорсы, Калядзіна і разыходзіцца некалькімі рукавамі да Нёмана. У верхнім цячэнні ракі на ёй стаіць 12 млыноў. На працягу 17 вёрст ад вусця Сэрвач была сплаўной ракой у вясенні час, але з-за таго, што высеклі лясы, не выкарыстоўвалася. У час I сусветнай вайны на рацэ стаяў расійска-нямецкі фронт.

валін і папялішча, з нейкай падземнай нары выпаўзла ўскудлачаная і ўбогая постаць, больш падобная на звераня, чым на чалавека, і заскуатала, набліжаючыся да мяне з жабрачым жэстам. Калі ён загаварыў, я яго пазнаў. Гэта быў Юрка, добра мне знаёмы хлапец з нашай вёскі, спаленай датла. Ён першы вярнуўся сюды і, не маючы ўласнай хаты, пасяліўся, як сава, у руінах бацькоўскага дома... Было гэта ў 1920-ым.

Але сёння, у 1940-ым, тыя няшчасці — нішто ў параўнанні з поўным вынішчэннем, якое нам нясе новая вайна, што разгарэлася мінулай восенню.

Нішчыцца, падае ў бездань увесь былы свет, які завуць еўрапейскім і раманскім... Разам з ім гінуць і мае скарбы, якія былі часткай гэтага свету: бацькаўшчына, родная зямля, дом. З усяго, што было чалавечага, дарагога, уласнага, мне не засталося нічога, апроч успамінаў, і гэтыя ўспаміны з'яўляюцца адзінай асновай майго быцця, адзіным сэнсам жыцця перад невядомай грознай раніцай. Бо чым жа, апроч гэтых ценяў, можа сёння на схіле жыцця жывіцца чалавек, пазбаўлены бацькаўшчыны, зямлі і дома?..

Вось так — памяць пражытага, уяўленне мясцін, падзей і людзей, вобразы радаснага дзяцінства і бурнай маладосці — гэта зараз мая адзіная ўласнасць, мой апошні скарб. Не дазволю яго ў сябе адабраць. Перад тварам агульнага знішчэння хачу захаваць гэты скарб як мага даўжэй, хачу замацаваць яго ў запісах, каб не згінуў разам са мной. Хачу яшчэ раз паглядзець на яго вачамі дзіцяці, уражанага на ўсё жыццё ўбачанай у дзяцінстве прыгажосцю. Хачу аднавіць яе ва ўсёй красе насуперак сённяшняму занядбанню. Хачу абысці гэту няшчасную зямлю старымі сцежкамі, адганяючы мінулае, квяцістымі сцежкамі фантазіі, сагрэтымі сонцам маладосці. Хачу ўсе гэтыя чароўныя ўспаміны выгарнуць з напоўненага памяццю сэрца, надаць ім новы выгляд і змагацца да канца са смерцю знішчэння і небыцця адчуваннем іх жывога існавання.

*Студзень 1940 г.*



***Дарога сярод палёў.*** *Здымак да 1927 г.*

## Раздзел I

# *Месца майго нараджэння. Яго тапаграфія. Генеалогія роду*

Я нарадзіўся 6 (18) кастрычніка 1876 года ў Асташыне, маёнтку маіх бацькоў, размешчаным у Навагрудскім павеце Мінскай губерні, на тэрыторыі, анексіраванай у той час Расіяй, у роднай старонцы Міцкевіча, апісанай ім у «Пане Тадэвушы». Маім бацькам быў Валерый Булгак[1], сын Яна, а маці — Юзэфа, дачка Уладзіслава Дахновіча-Хацiскага з Міраціч[2], што знаходзяцца паблізу Свіцязі на адлегласці 2 міль[3] ад Асташына.

Род Дахновічаў-Хаціскіх герба «Рох» паходзіў са Смаленшчыны. Даніла Дахновіч, які паходзіў адтуль, дваранін караля Зыгмунта Старога, атрымаў за заслугі паводле каралеўскай граматы маёнтак Хацішчы ў Навагрудскім павеце і перасяліўся туды. На новым месцы Дахновічы пачалі называцца падвойным іменем, а потым ужо толькі проста Хаціскімі, захоўваючы першае як дадатак на выпадак урачыстасцей.

Булгакі, мае продкі ў бліжэйшых пакаленнях, паходзілі з Ігуменскага павета ў глыбіні Міншчыны, а генеалагічнае дрэва, якое мне ўдалося атрымаць дзякуючы пошукам майго стрыечнага брата Мар'яна Булгака, даходзіць да пачатку XVII стагоддзя. У гербоўніку Севярына Урускага[4] напісана, што пачынальнікам нашага роду з'яўляецца Булгак, сын Саіда Ахмета з Крыма, мурза татарскі, сябра Яўстахія Дашкевіча, казацкага гетмана ў вайне з Масквой 1530—1536 гадоў, нейкі Булгак, які пасяліўся ў Польшчы і ахрысціўся пад іменем Шымона (Сямёна). Гербоўнік Дзедулевіча[5] сягае яшчэ глыбей назад, калі адносіць жыццё «татарына Булгака» да часу вялікага князя Вітаўта (XV стагоддзе). Ва ўсялякім разе, той сын Саіда Ахмета вядомы са спіса літоўскага войска 1528 года, таму гэту асобу і дату можна лічыць верагоднай. Урэшце ў хуткім часе Шымон Булгак атрымаў маёнтак Брольнікі[6] ў Навагрудскім павеце, тытул каралеўскага двараніна, і гэта таксама аўтэнтычныя факты. Я чуў не раз пра татарскае паходжанне нашага роду — Леон Крычынскі[7] змясціў

---

[1] Валерый Антоній Булгак (16.04.1842 — 05.09.1905, Асташын), бацька Яна, уладальнік Асташына, з 1875 г. жанаты з Юзэфай Хаціскай, пазней — з Казімерай Межэеўскай.

[2] Міраціч — вёска (28 двароў) і пяць фальваркаў у Навагрудскім павеце: Войнава (27,5 валокі зямлі), належала Хаціскім (з 1847 г. 10 валок), Пятроўскім (4,5 валокі) і Стэфану Незабітоўскаму.

[3] Новая польская міля складала (пасля 1819 г.) 8534,31 м.

[4] *С. Урускі.* Сям'я — гербоўнік польскай шляхты. Варшава, 1904—1931. Т. 1—15.

[5] *С. Дзедулевіч.* Гербоўнік татарскіх сямей у Польшчы. Вільня, 1929.

[6] Брольнікі — маёнтак, размешчаны на адлегласці 10 км на ўсход ад Навагрудка.

[7] Тут, хутчэй за ўсё, гаворка ідзе аб публікацыі іншага аўтара: *С. Крычынскі.* Літоўскія татары: спроба гістарычна-этнаграфічнай манаграфіі//Татарскі штогоднік. 1938. Т. 3.

2. Зак. 297.

яго ў сваім гербоўніку татарскай шляхты, і, здаецца, гэта пацвярджаюць і пэўныя антрапалагічныя рысы Булгакаў, якія захаваліся да гэтага часу, як, напрыклад, глыбока пасаджаныя вочы. З дому маю надзвычай скупую інфармацыю пра Булгакаў, таму што мой бацька не цікавіўся гэтымі рэчамі і не пакінуў мне ніякіх сямейных традыцый. У нашым краі Булгакі належалі да сярэднезаможнай шляхты, якая сядзела на ўласных фальварках і не вылучалася знакамітасцямі, за выключэннем некалькіх найважнейшых асобаў, такіх, як Томаш Булгак[8] — землеўладальнік, высланы ў Сібір, Ежы Булгак[9] — біскуп Пінскі і Ігнаці Юзафат Булгак[10] — мітрапаліт і біскуп Брэсцкі.

Аднак з генеалогіі відаць, што гэта быў магутны род, які разросся выключна шырока, бо *possessionatus*[11] на прасторах 15 ваяводстваў, ці амаль па ўсёй Літве і Русі. Са 123 асобаў з роду Булгакаў шляхецкага паходжання, пададзеных пайменна ў выпісцы з земскай кнігі Навагрудскага ваяводства, якой я валодаю, многія займалі даволі высокія пасады, былі пасламі на выбарах каралёў, мелі вышэйшыя вайсковыя чыны, і яшчэ мой прадзед Фларыян[12] быў камергерам пры двары караля Станіслава Аўгуста і ўладальнікам вялікай зямельнай маёмасці. Але відавочна, што яго маёмасць значна зменшылася, бо мой дзед Ян[13], адзін з шасці яго сыноў, быў ужо зусім сярэдняга стану і яму ледзь хапіла сродкаў, каб захаваць ад знішчэння маёнтак сваёй жонкі Юліі Грамыка[14], гэта значыць мой родны Асташын. Да такіх здрабнелых і заняпалых членаў сям'і належаў і мой бацька, якому разам з яго братам Антоніем[15] застаўся ўжо толькі гэты невялікі Асташын.

---

[8] Томаш Мікалай Булгак герба «Сыракомля» (15.12.1801 — 06.02.1895), сын Юзафа і Бохвіц, уладальнік Альхоўкі, Міцкевічаў, Кандратовічаў, Новага Двара, Садак і Менюн. У 1836 г. уступіў у Саюз Канарскага (псеўданім Гуліча), у якім выконваў абавязкі сакратара. Быў арыштаваны і пасаджаны ў мурах кляштара базыльянаў у Вільні. У 1839—1857 гг. знаходзіўся ў ссылцы ў Заходняй Сібіры каля Томска, дзе ажаніўся з Тэрэзай Вяржбіцкай. Быў арыштаваны ў 1863 г. за прыналежнасць да Віленскага камітэта апекі над параненымі паўстанцамі і іх сем'ямі. Прыгавораны да канфіскацыі маёмасці і ссылкі ў Томск. У 1869 г. пераехаў у Казанскую губерню. У 1871 г. вярнуўся ў Варшаву, у 1874-ым — у Навагрудскае ваяводства.

[9] Ежы Булгак герба «Сыракомля» (1697—1769), базыльянін, доктар філасофіі і тэалогіі, архімандрыт Супрасльскі (1729—1760), біскуп (уладыка) Пінскі і Тураўскі (1730), архімандрыт Ляшчынскі (Лешна каля Пінска; 1730—1743), адміністратар Уладзімірска-Брэсцкі. У 1759 г. праводзіў у Пінску кананічны працэс аб цудах бл. Андрэя Баболі. Памёр 12.03.1769 г. у Храпіне, пахаваны ў Быцені.

[10] Ігнацій Юзафат Булгак (20.04.1758 — 23.02.1838, Пецярбург), доктар тэалогіі і кананічнага права, біскуп Тураўскі і каадзьютар Пінскі (1790—1795), біскуп Брэсцкі (1798), 1804—1805 — член Духоўнай калегіі ў Пецярбургу. Віцэ-прэзідэнт Біблійнага таварыства. З 1828 г. на чале асобнай грэка-уніяцкай калегіі, атрымаў наваствораную Віленскую дыяцэзію. У снежні 1830 г. падпісаў складзены Сямашкам цыркуляр да духавенства і вернікаў, які асудзіў лістападаўскае паўстанне, але ён адначасова супрацьпаставіў сябе цару Мікалаю ў справе пераходу уніяцкага касцёла на праваслаўе. Архібіскуп Полацкі і мітрапаліт беларускі (1833), апошні уніяцкі мітрапаліт. Пахаваны ў Сергіевай лаўры каля Пецяргофа.

[11] Валодае зямлёй (*лац.*).

[12] Фларыян Булгак (каля 1750 — пасля 1806), з 1788 г. камергер Яго Каралеўскай Вялікасці Станіслава Аўгуста Панятоўскага.

[13] Ян Антоній Францішак Булгак (01.09.1796 — да 1850), дэпутат шляхецкі Слуцкі.

[14] Юлія Грамыка, жонка Яна Антонія Булгака, уладальніца Мураванага Асташына, бабка аўтара.

[15] Антоній Булгак (1850—1898), уладальнік Шчэпаўшчыны.

Томаш Булгак[16] — сын Юзафа, брат Фларыяна, мой дзед — быў уладальнікам маёнтка Міцкевічы[17] пад Клецкам[18] таксама Мінскай губерні, але ў Слуцкім павеце. Ён нарадзіўся ў 1801 годзе і быў вядомы сваім надзвычайным розумам і нязломным характарам. За ўдзел у абодвух паўстаннях страціў вялікую ўласнасць: Чашнікі[19] і Новы Двор[20] — і два разы быў прыгавораны да высылкі ў Сібір: першы раз вывезены ў 1839 годзе на 18 гадоў, другі — у 1864-ым — на 10 гадоў. Ён карыстаўся вялікай павагай у грамадстве як апошні прадстаўнік былых вялікіх традыцый роду і памёр у канцы XIX стагоддзя амаль стогадовым старцам. На маёй памяці ён яшчэ святкаваў залатое вяселле са сваёй жонкай Тэрэзай Вяржбіцкай[21], якая была яго вернай спадарожніцай жыцця і дзяліла ўсе яго шляхі, ідучы з ім у сібірскую ссылку і на блуканне. Гэтыя звесткі я чэрпаю, аднак, не столькі з дамашніх аповедаў, колькі з

[16] Аўтар зрабіў памылку, бо Томаш быў стрыечным дзедам (Ян Францішак Антоній — гэта стрыечны брат Томаша).

[17] Міцкевічы — вёска над безыменным прытокам Лані ў павеце Слуцк, каля 10 км на поўдзень ад Нясвіжа.

[18] Клецк — горад над ракой Лань (прыток Прыпяці), уласнасць Радзівілаў (1586—1874 — цэнтр ардынацыі).

[19] Чашнікі — мястэчка ў павеце Лепель (на паўднёвым усходзе) над ракой Уланкай і каналам у былым Полацкім ваяводстве, 5000 жыхароў.

[20] Новы Двор — маёнтак у Слуцкім павеце.

[21] Тэрэза з Вяржбіцкіх Булгак (1816—11.06.1891, Міцкевічы), жонка Томаша, удзельніка студзеньскага паўстання, уладальніка Міцкевічаў, аўтар успамінаў, была ў ссылцы разам з мужам (1839—1857 і 1863—1871).



***Сад у Чамброве.*** *Здымак да 1926 г.*

брашуры Мар'яна Дубецкага пад назвай «Тэрэза з Вяржбіцкіх Булгак– пасмяротны партрэт», выдадзенай у Кракаве ў 1895 годзе (стар. 66, друкарня «Часу»).

Яшчэ я ведаю з архіўных дакументаў пра двух біскупаў Булгакаў. Я маю універсал 1717 года з уласнаручным подпісам Ежы Булгака, уніяцкага біскупа Пінскага і Тураўскага, архімандрыта Супрасльскага, а ў «Энцыклапедыі» Оргельбранда напісана, што біскуп Ежы быў «чалавекам вучоным, паважаным і высакародным, гарэў рэдкім запалам да пашырэння веры, асветы і да паляпшэння нораваў. Вёў прыкладнае жыццё, меў высакародную маральнасць, і за гэта ўсе яго шчыра любілі. З уласнай кішэні выдаткоўваў на друк карысных кніжак. Супрасльскую манастырскую бібліятэку ўзбагаціў новымі прыгожымі творамі, значна палепшыў Супрасльскую друкарню, і яе найлепшы час датуецца, уласна кажучы, рэформамі гэтага біскупа». Памёр у 1769 годзе.

Ігнацi Юзафат Булгак, мітрапаліт і біскуп Брэсцкі, таксама уніяцкага веравызнання, нязломны пастар і адданы справе уніі, завяршае рад верных сыноў каталіцкага касцёла, бо пасля яго прыйшоў рэнегат Сямашка[22], які давёў да адмены уніі па жаданню ўдзельнікаў падзелу. З папярэдне ўзгаданай брашуры Дубецкага я даведваюся, што мітрапаліт Булгак быў біскупам у часы незалежнай Польскай Рэчы Паспалітай і што толькі яго правата і незгінаемая пазіцыя ўстрымалі цара Мікалая і расійскі ўрад ад спроб яшчэ раней знішчыць аб'яднанне цэркваў. Мітрапаліт памёр у 1838 годзе пры вельмі трагічных абставінах. Вызваў, ці прыспешыў, яго смерць цар Мікалай, які доўга ўгаворваў яго прыняць схізму, і калі апошні нязломна працівіўся і адхіляў усялякі ціск, цар на каленях маліў яго адмовіцца ад супрацоўлення дзеля шчасця Расіі, а ў канцы, абураны непадатлівасцю біскупа, устаў і ўдарыў яго, патураючы сваёй дзікай усходняй натуры. Біскуп упаў, а праз некалькі дзён завяршыў жыццё.

У мой час найбольш вядомымі ў нашай сям'і, але ўжо толькі з-за багацця, былі Эдгар[23] і Эмануэль[24] Булгакі з памежжа Міншчыны і Магілёўшчыны, дзе яны мелі вялікія ўладанні — Дабосню[25] і Чыгрынку[26] працяглсцю, мабыць, 35 вёрст[27] без перапынку. Гэтыя двое, аднак, неахвотна прызнаваліся ў крэўнай радні з рэштай Булгакаў, лічылі сябе зляпленымі з лепшай гліны і маючымі права на княжацкі тытул. Не

[22] Сямашка Юзаф (1798—1868), у 1832—1838 гг. — уніяцкі літоўскі біскуп, з 1840 г. — епіскап праваслаўны, праследаваў уніятаў у Беларусі.

[23] Эдгар Булгак (1848 — каля 1930), сын Ігнація і Тэрэзы Слізень, уладальнік Дабосні, якую прадаў за мільён рублёў Эмануэлю Булгаку.

[24] Эмануэль Булгак (пам. каля 1943), апошні прадстаўнік самай багатай амелянска-дабаснянскай лініі, уладальнік Дабосні.

[25] Дабосня (зв. Жылічы) — землі Булгакаў (каля 1000 моргаў) у Бабруйскім і Рагачоўскім паветах, недалёка ад мяжы з Магілёўскай губерняй. Палацава-паркавы ансамбль. Палац на 100 пакояў, пабудаваны з нечуванай раскошай, у якім уладальнікі мелі шматлікую капэлу і збіралі творы мастацтва, сямейны архіў і бібліятэку. Тут знаходзілася каталіцкая капліца Бабруйскай парафіі. Фатаграфічную дакументацыю ансамбля (некалькі соцень здымкаў) выканаў Ян Булгак паміж 1908 і 1911 гг.

[26] Чыгрынка — землі ў Быхаўскім павеце каля 30 км ад Быхава на поўнач ад Дабосні, у мінулым частка графства Быхаў, у 80-ыя гг. XIX ст. — уласнасць Вітольда Булгака.

[27] Вярста — старая расійская мера даўжыні, з канца XVIII ст. раўнялася 1,0668 км.

ведаю, што там было праўдай, але Эмануэль Булгак, які меў таксама ўласнасць за мяжой, карыстаўся гэтым тытулам і там пісаўся «князь». Зрэшты, яны былі выключэннем у сям'і, у іншых не было такіх высокіх памкненняў і іх здавальняў сярэдні шляхецкі стан. Аднак на вядомае ў павеце выказванне «Co krzaczek – to Bułhaczek»[28] маглі адказаць са сціплай годнасцю: «Ale każdy Bułhaczek ma swój krzaczek»[29].

Асташын не быў родавым гняздом Булгакаў. Ён належаў сям'і Грамыкаў, а ў рукі майго дзеда Яна перайшоў у выніку шлюба з Юліяй Грамыка, вядомай сваёй беражлівасцю і гаспадарлівасцю, што, зрэшты, не было рэдкім сярод тагачасных кабет. Мой дзед, напэўна, прыехаў у Навагрудскае ваяводства з Ігуменшчыны[30], дзе, здаецца, меў толькі арэнду. Не ведаю, ці меў ён якую-небудзь спадчыну, таму што не чуў, на жаль, ад свайго бацькі ніякіх падрабязнасцей пра родныя мясціны і маёмасны стан майго дзеда Яна. Аднак ён быў вымушаны сваімі сродкамі ратаваць грамыкаўскі Асташын ад заняпаду, а можа, проста нават выкупіў яго, калі той каля 1840 года падлягаў раздзелу і быў сапраўды падзелены за даўгі паміж некалькімі крэдыторамі, так што нават дзядзінец перад ганкам належаў двум уладальнікам. Гэта адно з нямногага, што я чуў з вуснаў майго бацькі. Паходзячы з пакалення, вынішчанага пасля 1863 года, ён не любіў успамінаць аб мінулым і мала ўводзіў мяне ў сямейныя ўзаемаадносіны. Ён быў шмат заняты працай, па натуры — нешматслоўны, пазбаўлены здольнасцей расказчыка, якія квітнелі ў сям'і маёй маці.

Побач з нашым Асташынам, паўсюдна званым «мураваным», на адлегласці чвэрць вярсты на поўнач знаходзіўся другі Асташын, таксама мураваны, які належаў сям'і кальвіністаў графаў Грабоўскіх. Гэты двор быў значна старэйшы, чым наш, бо стаяў на шырокіх падпорах, меў надзвычай тоўстыя сцены, глыбокія аконныя праёмы, падобныя на байніцы, і ўвогуле выглядаў, як крэпасць. Унутранае ўбранства было пастарасвецку простым, але поўным дастойнай павагі. Я не запомніў падрабязнасцей, апрача маялікавай печы на ножках з блакітным узорам на белым фоне[31]. Як чулі з падання, Асташын Грабоўскіх некалі быў галоўным, а наш быў пабудаваны пазней. Будоўля пачалася як вынік нейкага сямейнага падзелу, да якога ўсё належала Атынгаўзенам, якіх звалі навокал Отэнхаўзамі.

Побач з гэтым дваром на другі бок дарогі на ўзгорку стаяў невялікі, але вельмі прыгожы, а таксама старажытны касцёл, уласна кажучы, кальвінскі збор, у сутарэннях якога знаходзіўся забальзамаваны фундатар Швыкоўскі, ці Швейкоўскі. Збор быў мураваны, крыты чырвонай дахоўкай, апіраўся, як і дом, на масіўныя каменныя падпоры і таксама меў паважны і абарончы выгляд. Стоячы на пагорку, ён свяціўся сваімі белымі сценамі і быў відаць на некалькі міляў наўкола. Калі я вяртаўся дадому, гэтая светлая пляма вітала мяне ўжо здалёк, як усмешка знаёмага твару, і я ўнутрана ўсміхаўся яму, такім мілым быў мне гэты мой родны касцёльчык, хоць і належаў ён да іншай веры. Зрэшты, аб гэтым забывалася, таму што служба там адпраўлялася толькі адзін раз у год, а

[28] Што ні кусцік — то Булгачок (*польск.*).

[29] Але кожны Булгачок мае свой кусцік (*польск.*).

[30] Ігумень — горад, аддалены ад Мінска на адлегласць 50 км на паўднёвы ўсход.

[31] Яго здымак Булгак змясціў на стар. 21 у нумары 2 часопіса «Зямля» ад 13 студзеня 1912 г.



***Навагрудак. Фарны касцёл, пабудаваны ў XVIII ст., і руіны замка.***
*Здымак 1924 г.*

потым ён стаяў ціхі і пакінуты, належаў ужо не столькі людзям, колькі навакольнаму пейзажу. А трэба прызнаць, што ён меў першараднае значэнне для пейзажу з-за свайго гмаху і колеру: едучы ўжо ад Райцы[32], быў відаць яго прысадзісты сілуэт, вясёлы і светлы, які вянчаў асташынскія пагоркі. Я вельмі шмат перажыў у дзяцінстве ў сувязі з гэтым касцёлам і ў сваёй адзіноце знайшоў у ім сябра большага, чым сярод людзей.

Асташын знаходзіўся па дарозе, якая злучала мястэчка Карэлічы[33] з Цырынам[34], на адлегласці пяць вёрст ад Цырына ў разнастайнай узгоркавай і людной мясцовасці, вельмі багатай лясамі, але затое поўнай вёсак і двароў. Там не было ні следа манатоннасці і пустэчы, якая пачыналася за Мірам[35]. Палі і лугі, сядзібы, сады і гаі ўсміхаліся прахожаму і прыцягвалі позірк сакавітай зелянінай ураджайнай зямлі, урадлівага збожжа, буйных траў і векавых лісцевых дрэў. Бо толькі лісцевыя дрэвы надаюць краявіду насычаныя і сакавітыя колеры; зеляніна іглістых дрэў, а менавіта сосен, манатонная і мёртвая.

Самымі блізкімі нашымі суседзямі былі Кайшоўкі[36] Незабітоўскіх, Сэрвач[37] Несялоўскіх, Крынкі[38] Ліпніцкіх, Дарахаў[39] Барановічаў, Крышылоўшчына[40] Войнаў, Далматоўшчына[41] Вяржбоўскіх і Бурдзевічы

---

[32] Райца — вёска і землі над ракой Мчаўнай, прытокам Нёўды, у Навагрудскім павеце каля 20 км ад Навагрудка. У канцы XIX ст. тут знаходзілася праўленне гміны, сельская школа, 17 сядзібаў, уніяцкая царква, з 1817 г. фундацыі Францішка Раецкага. Землі (каля 86 валок; валока — адзінка паверхні 16,796 га) калісьці належалі Раецкім, ад пачатку XIX ст. — Вярашчакам. Перабудаваны двор захаваўся да сённяшняга дня.

[33] Карэлічы — мястэчка над ракой Рута ў Мінскай губерні, на паштовым тракце са Слуцка ў Навагрудак. Спадчына Радзівілаў, пазней Вітгенштэйнаў. У 1812 г. занята французскімі, польскімі і расійскімі войскамі. Тут у XVIII ст. знаходзіліся славутыя габеленавыя мануфактуры Радзівілаў. Забудова драўляная, царква уніяцкая.

[34] Цырын — малое мястэчка (555 жыхароў) і вёска каля 30 км ад Навагрудка над ракой Сэрвач. Мела праваслаўную царкву і гмінную школку. Уласнасць Несялоўскіх.

[35] Мір — горад над Міранкай у Навагрудскім павеце, 46 км ад Навагрудка, каля 4000 жыхароў, каля 700 драўляных дамоў. Ежы Ільініч, літоўскі маршалак і Брэсцкі староста, на мяжы XV і XVI стст. пабудаваў тут замак з пяццю вежамі (лічыцца адным з прататыпаў замка Гарэшкаў у «Пане Тадэвушы»), пазней — уласнасць Радзівілаў, Вітгенштэйнаў і Мірскіх. Разбураўся ў 1655, 1706, 1794 гг. У 1812 г. — месца бітвы. Адбудаваны ў міжваенны час і пасля вайны, цяпер — музей. У 1991 г. уключаны ў спіс сусветнай спадчыны ЮНЕСКА. У мястэчку знаходзіцца касцёл св. Мікалая Цудатворцы, пабудаваны ў 1594 г., пасля 1863 г. — праваслаўная царква і былы касцёл базыльянаў (1700), перабудаваны на царкву.

[36] Кайшоўка — вёска (75 двароў) і фальварак у Навагрудскім ваяводстве, гміна Райца, над ракой Сэрвач. Уласнасць Незабітоўскіх.

[37] Сэрвач — вёска (28 двароў) і землі над ракой Сэрвач, Навагрудскі павет, гміна Цырын, каталіцкая парафія Варонча. Землі (885 дзесяцін) — спадчына Машкевічаў, потым Несялоўскіх. Прыгожая рэзідэнцыя, у якой знаходзяцца рэчы і архівы Юзафа Несялоўскага, апошняга Навагрудскага ваяводы, пахаванага ў Варончы (пам. у 1814), каталіцкая капліца фундацыі Несялоўскіх.

[38] Крынкі — вёска і два фальваркі (16,3 валокі і больш за 20 валок) Ліпніцкіх у Навагрудскім павеце над Сэрваччу.

[39] Дарахаў і Бурдзевічы не сустракаюцца ў «Геаграфічным слоўніку». Маёнткі ў Навагрудскім павеце.

[40] Крышылоўшчына — вёска (20 двароў) у Навагрудскім павеце, гміна Жухавічы.

[41] Далматоўшчына — вёска і дзяржаўныя землі ў цэнтры Навагрудскага павета, ля дарогі, што вядзе з Міра да Навагрудка. Большая Далматоўшчына (682 моргі) была спадчынай Вяржбоўскіх; меншая (277 моргаў) належала Гізбертам.

Стэфана Булгака[42]. Але і ў крыху большым радыусе роіліся шляхецкія сядзібы, вядома — усе польскія, бо іншых, праўда, не было, і ўсе яны жылі паміж сабой у пастаянным кантакце і цеснай сувязі. За паўвярсты ад Асташына працякала рака Сэрвач, прыток Нёмана, якая ўпадала ў яго ў Шчорсах[43]. Старое русла Сэрвачы ўтварала шырокую даліну, пакрытую млынамі, мастамі і грэблямі, і даліна гэта цягнулася з поўначы на поўдзень ад Шчорсаў і Карэліч аж да Туганавіч і Скробава[44] цудоўным шлейфам лугоў і выганаў. Ураджайныя мурожныя[45] лугі падчас сенакосу густа пакрываліся копамі сена, а на выганах рухаліся незлічоныя статкі быдла і коней. Гэта мноства добрых лугоў і статкаў, што пасвіліся над Сэрваччу, было адметнай рысай мясцовага краявіду і стаіць у мяне перад вачамі заўсёды, колькі б я ні думаў пра дом. Наш краявід здзіўляў сваім багаццем і шматколернай маляўнічасцю, урадлівасць залежала ад вільгаці рачной даліны, а маляўнічасць — ад рэльефу пласкагор'яў, якія акалялі гэту даліну.

Асташын знаходзіўся на ўсход ад Сэрвачы і прылягаў да падножжа ланцуга пагоркаў, якія замыкалі гарызонт з усходу. Дзякуючы гэтаму размяшчэнню ён быў як бы апошнім этапам — я б хацеў сказаць: апошняй усмешкай — прыгожай, стройнай, квітнеючай Міцкевічавай Навагрудчыны, за межамі якой пачынаўся іншы край: смутная і ўбогая спадчына іншага паэта маёй зямлі — Сыракомлі[46] — бязлесыя пагоркі Міршчыны, якія пераходзілі ў пясчаныя наднёманскія раўніны Жукава Барка[47], Залуча[48] і Беражнага[49]. Гэта былі поўныя кантрасты. Калі на захад ад Асташына ўздоўж жыватворных яроў і равоў Варончы[50], Рай-

---

[42] Не сустракаецца ў манаграфіі Вітольда Булгака «Булгакі».

[43] Шчорсы — вёска над Нёманам у Навагрудскім павеце, 3 мілі ад Навагрудка, уласнасць сям'і Літавор-Храптовічаў герба «Адрованж». Тут стаяў палац Іахіма Храптовіча (які яшчэ да 1788 г. адмяніў запрыгоньванне сялян), пабудаваны ў 1770—1776 гг. італьянскім архітэктарам Джузэпэ дэ Сака, у якім былі сабраны выдатныя творы мастацтва, а таксама багаты архіў і бібліятэка, вывезеныя ў Расію ў 1914 г. Палац знішчаны падчас ваенных дзеянняў. У парку знаходзіўся «дуб Міцкевіча», пад якім паэт напісаў «Гражыну».

[44] Скробаў і Скробава — дзве вёскі (18 і 14 двароў), а таксама два фальваркі над безыменным прытокам Сэрвачы ў гміне Цырын на адлегласці адной мілі на поўнач ад мястэчка Гарадзішча. Адзін фальварак — з 1849 г. уласнасць Данейкаў (24 валокі, млын), другі (5 валок) — з 1860 г. уласнасць Анцутаў.

[45] На Літве — сухія, незабалочаныя лугі.

[46] Уладзіслаў Сыракомля, сапраўднае імя Людвік Кандратовіч (1823—1862), паэт, пісаў на Віленшчыне і ў Вільні, аўтар палітычных і лірычных вершаў, сцэнічных твораў, а таксама падарожных нарысаў, якога звалі «вясковым лірнікам».

[47] Жукаў Барок — вёска і землі Радзівілаў над Ячонкай, правым прытокам Нёмана ў Мінскім павеце. У канцы XIX ст. — уласнасць князёў Гогенлоэ, налічвала 15 двароў.

[48] Залуча — радзівілаўскі фальварак (Вітгенштэйнаў і Гогенлоэ) недалёка ад правага берага Нёмана, Мінскі павет, Койданаўская акруга, гміна Засулле, 80 км на паўднёвы захад ад Мінска.

[49] Беражнае (Бярэзная) — мястэчка (2500 жыхароў) у Роўненскім павеце над ракой Случ, на шляху Валынь—Пінск.

[50] Варонча — землі над ракой Дарагаўкай, левым прытокам Сэрвачы, у гміне Цырын каля 30 км ад Навагрудка. Спадчына Несялоўскіх, якія ў канцы XVIII ст. пабудавалі ў старым парку драўляны дом, званы палацам (увекавечаны ў «Пане Тадэвушы»). У 1781 г. апошні Навагрудскі ваявода Юзаф Несялоўскі фундаваў тут мураваны касцёл св. Ганны. Дом спалены (разам з целамі забітых уладальнікаў) савецкімі партызанамі ў 1943 г. Касцёл закрыты пасля 1945 г., у пачатку 90-ых гг. перададзены вернікам.

цы, Плужын[51] і Свіцязі раслі дубовыя і грабавыя лясы, якія пераліваліся ўсёй палітрай фарбаў, то на ўсход аж да Міра распасціралася плоская і бязлесая мясцовасць, а за Мірам на пясчаных землях, чым далей, тым менш заселеных, пачыналі панаваць сосны. Асташын быў таксама апошнім элементам навагрудскага краявіду, а яго касцёльчык, што свяціўся на ўзгорку белымі сценамі, ствараў прыродную пляцоўку для агляду, з якой позірк ахвотна плыў у далячынь, паглыбляўся ў шыр рачных лугоў і губляўся, нарэшце, у імглістых абрысах гарызонту. Гэта пляцоўка была найлепшай кропкай сузірання: ад вяршынь пясчаных пагоркаў на ўсходзе вочы інстынктыўна адварочваліся на захад, дзе іх чакала радасць: быў відаць увесь адкрыты гарызонт, бязбрэжны, зніжаючыся і рассцілаючыся ля ног назіраючага, як гарысты план, перакрэслены рукой велікана, прыгожая панарама даліны Сэрвачы з блакітным завіткам ракі, з букетамі двароў і вёсак, што рассыпаліся па даліне, — усё добра відаць, як бы з птушынага палёту, і свеціцца ціхім ясным быццём.

Гэты від перавышаў сваёй прыгажосцю ўсё, што я бачыў у сваім жыцці, бо вызначаўся дасканалай кампазіцыяй, якая ў поўнай ступені выкарыстоўвала асаблівасці мясцовасці. Гэта была як бы ўзорная пастаноўка, якая давала поўную ілюзію прыроды, але якая замяняла выпадковасць апошняй мэтанакіраванай плініроўкай. Элементы гэтай карціны ўздзейнічалі не толькі сваёй сутнасцю, але і ўзаемнымі прапорцыямі і суадносінамі. Ля касцёла вабіла густым ценем кляновая алея, а пад дрэвамі мяккая мурава сама заахвочвала да адпачынку, хацелася аперціся галавой аб пень дрэва і глядзець перад сабой. Гэта была глядзельная зала. А калі паглядзець на сцэну, то вочы радасна патаналі ў бязмежнай прасторы, накрытай блакітным скляпеннем неба, а вусны нямелі ад захаплення. Было на што паглядзець! На самым высокім месцы адчувалася, як на каралеўскім троне, і позірк ахопліваў шырокую даль: кругападобную, выгнутую, бязбрэжную, як мора... Ад касцёла рэльеф паступова паніжаўся, утвараючы хвалі разам са стужкай дарогі і з нахіленымі палямі, пераходзіў у нізіну сенажаці і рассцілаўся шырока, далёка і плаўна вялікім дываном, упрыгожаным пасмамі цямнейшых дрэў, і дэманстраваў іншыя далёкія сілуэты ў сіняватай імгле... Нямеранымі абшарамі цягнуліся лугі і выганы з рассыпанымі па іх статкамі кароў і вогнішчамі пастухоў, з якіх струменіўся дым, падзелены папалам пакручастым меандрам ракі, а далей, за ракой, прастор блакітнеў, зацягваўся імглой аддалення і раствараўся ў сіняве бясконцасці. У гэтым краявідзе была шчаслівая, спакойная маляўнічасць, разнародная і багатая, быў непераадольны покліч у даль, які спакушаў таемнай чароўнасцю, покліч радасны і пераможны ў сонечны поўдзень і задуменны і тужлівы ў ружовую вячэрнюю гадзіну, была непераадольная спакуса кінуцца наўперад, на спатканне з гэтай грамадай, паплыць у гэту далячынь, пашыбаваць па гэтых прасторах на крылах мараў... З гэтым краявідам я жыў на працягу гадоў як з самым блізкім чалавекам, да яго самі сабой кіраваліся мае крокі падчас штодзённых паходаў з настаўнікам і сябрамі, а калі я не бачыў яго пару дзён, мяне цягнула да яго падсвядомая туга. Я палюбіў яго значна раней, не мог зразумець, чаму ён для

---

[51] Плужыны — вёска (17 двароў) і фальварак над безыменным прытокам Мезаўкі ў Навагрудскім павеце. Фальварак (каля 5,5 валокі) — з 1859 г. уласнасць Садоўскіх.

мяне такі дарагі. Я палюбіў яго, напэўна, з першага дзіцячага позірку, і ўжо на цэлае жыццё ён застаўся для мяне адной з самых блізкіх рэчаў, прыкладам і ўвасабленнем роднай прыгажосці, падставай маіх пазнейшых эстэтычных поглядаў. Мой дзіцячы розум не мог сфармуляваць розніцы паміж гэтым заходнім краявідам з боку Чамброва і ўсходнім з боку Міра і Отмыта[52], але я выразна адчуваў яе з самых ранніх гадоў. Усход — гэта рэч звычайная і мала цікавая, нешта пустое, убогае, пазбаўленае каляровай сакавітасці і шматвобразнай пластыкі — раўніны, пяскі, сасннякі, скупая раслінасць. Затое захад, пачынаючы ад гэтага віду з-пад кальвінскага касцёла, — гэта была глыбокая, насычаная зелень, ураджайнасць і хвалістасць зямлі, тысячы радасцей для вачэй, гэта былі векавыя дубровы, якія прыгожа разрасліся на тлустай глiністай глебе, густыя ліставыя лясы, вільготныя і цяністыя, зарослыя ад верху да нізу «падкладкай» з кустоў, папаратніку, ягадніку і ўсялякімі квітнеючымі травамі. Гэта былі лясістыя пагоркі і равы, прыгожыя даліны, квяцістыя, травяністыя і струменістыя, ураджайныя палі, якія хвалююцца збожжам, светлыя дарогі, якія ўюцца пасярод зеляніны ў жвавым і крутым рытме дарогі, родныя і мілыя, якія заўсёды прыводзяць да добрых і блізкіх людзей, дарогі, цвёрда ўбітыя ў спрасаваную зямлю і бадзёра цокаючыя пад конскімі капытамі як рэхавы водгук сэрца, якое моцна б'ецца. Захад — гэта была тая самая ўрадлівая, вільготная, родная Навагрудская зямля, што кожнай грудкай, да якой я датыкаўся падэшвамі ног ці браў у рукі, умела ўзрушыць дзіцячыя пачуцці і фантазію.

Я не змог бы таксама інакш ахарактарызаваць выгляд майго роднага гнязда ў радыусе некалькіх міль наўкола, як кароткім паведамленнем, што яно было закончана прыгожым у сваёй натуральнай маляўнічасці. Гэтай маляўнічасці было столькі, што яе нават лёгка было не заўважыць, пастаянна маючы яе перад вачамі без іншага вопыту і параўнання. Тое ж самае было і з Асташынскім дваром: ён быў прыгожым, таму што меў усё тое, што павінна быць у старым і сціплым, але з дастаткам, шляхецкім доме: простае, годнае, якое разумна і прыемна зраслося з навакольнай прыродай. Дом меў дасканала прапарцыянальныя формы, мілыя воку, з кожнага боку: чатырохсхільны гонтавы дах складаўся з двух ярусаў, якія належным чынам разнастаілі яго паверхню, профілі вонкавых канцоў даху выгіналіся і ўтваралі заломы, поўныя прывабнасці і лёгкасці: ганак паважна і моцна разваліўся на чатырох магутных калонах перад домам, акружаным гушчаром дзікага вінаграду, з-за якога весела выглядвалі беленыя тынкаваныя сцены. Навокал дзяцінца сярод вялікіх старых дрэў, за заслонам бэзу і акацыі, хаваліся добрыя гаспадарчыя пабудовы, пераважна таксама мураваныя, а з-за дома выглядалі кароны садовых дрэў: высокія, пушыстыя, якія стваралі спакойны фон, гарманічны з усім дваром. Усё гэта было прывабным, заможным, патанала ў буйнай зеляніне, дыхала шляхетным ладам і боскай прастатой, у якіх хавалася таямніца сапраўднай прыгажосці.

За домам сад спускаўся дзвюма тэрасамі да ставоў і заканчваўся аграмаднай сцяной таполяў, якая ахоўвала яго з поўначы сваімі густымі галінамі. За таполямі — луг з вытаптанай сцежкай вёў да Асташына

[52] Отмыт — вёска (7 двароў) і памешчыцкая сядзіба над безыменным прытокам Сулы ў паўднёва-заходнім баку Мінскага павета Засульскай губерні на паўднёвы ўсход ад Нясвіжа. Фальварак, спадчына Грынеўскіх, у якасці спадчыны перайшоў у рукі Хацiскіх (39 валок, лугі, з драўляным домам, млынамі і садам).

Грабоўскіх. Зарослы сад, крыху здзічэлы, раскінуўся ў моцна хвалістай мясцовасці і, дзякуючы гэтаму, меў шмат першабытнай прыгажосці, якую можна было палюбіць у першую чаргу. Сцежкі ў садзе былі хутчэй запушчаныя, чым узрыхленыя, але дрэвы абрасталі гірляндамі хмелю, ляшчыны, раслі сапраўдным лесам, пад імі тонкімі вяночкамі залаціліся каравякі, а пад адным лістом лопуху я мог схавацца ўвесь. Найбольшым упрыгожаннем саду і ўсяго двара былі дрэвы: вялізныя, вельмі старыя, што шырока разрасліся: ліпы, вязы і надвіслянскія таполі. Некаторыя з іх маглі мець гадоў дзвесце і больш, такой была таполя ля так званага «сліўняка» за кухняй; яго акружалі чатыры лаўкі звычайных памераў, пастаўленыя так цесна, што дошкі ўядаліся ў кару дрэў, таму можна сабе ўявіць, якім быў дыяметр пня таполі, што акружалі гэтыя лаўкі, калі на лаўках магло змясціцца больш за дзесятак чалавек.

Не ўдаючыся пакуль што ў падрабязнае апісанне, якое я прадстаўлю пазней, трэба было б сказаць, што Асташын з'яўляўся ўзорам сярэдняга шляхецкага двара і цалкам адпавядаў характару краю, часу і людзям. Ён быў створаны ў поўнай гармоніі з прыродай, як бы сам з яе вырас. Ён быў сапраўдным Д о м а м, сямейным гняздом, бачным вобразам пачуццяў, якія яго напаўнялі і ажыўлялі. Ён меў уласнае аблічча з моцна прарэзанымі рысамі, як твар селяніна, апалены сонцам і ветрам, і ў гэтым абліччы вырысоўваліся прастата, годнасць і прыгажосць.

## *Дадатак да раздзела I*

### Паходжанне роду Булгакаў і іх генеалогія[53]

Пачатак роду Булгакаў мае дзве традыцыйна розныя версіі, верагодна, незалежныя адна ад адной: літоўска-маскоўскую версію і татарска-польскую. Аднак толькі тая другая, татарская, здаецца, мае неперарваную цэласнасць і даходзіць да сённяшніх дзён, тады як першая, літоўская, перарываецца на 1581 годзе. Ад XVI стагоддзя род літоўска-маскоўскіх Булгакаў перастае існаваць як род, дае пачатак тром княжацкім рускім родам і раствараецца ў іх бясследна. Магчыма, што гэта лінія была асобнай і не мела нічога агульнага з татарска-польскай лініяй, тады як іншыя Булгакі карысталіся пячаткай з гербам «Сыракомля» (ці «Сыракомля» з адменай), у той час як княжацкая літоўска-маскоўская сям'я мела ў гербе вялікакняжацкую пагоню. Звесткі гэтыя ўзяты з гербоўніка Банецкага[54], Севярына Урускага і Дзедулевіча, а таксама з вытрымак аб паходжанні шляхецкай радавітасці Яснавяльможных Булгакаў «Відзімус» з земскіх кніг Навагрудскага павета ад 27.10.1800 года, падпісанай Антоніем Дамброўскім, рэгентам земскім Навагрудскага павета, і засведчанай суддзёй Вяржбоўскім, рэгентам Плоньскім, 17 мая 1829 года.

---

[53] Гісторыя сям'і складзена на падставе: *В. Булгак*. Булгакі. Апісанне гісторыі роду. Варшава, 1994. Тэкст, складзены Вітольдам Булгакам, які датычыць продкаў Яна Булгака, быў далучаны, напэўна, па ініцыятыве аўтара ў 40-ыя гг.

[54] *А. Банецкі*. Польскі гербоўнік. Варшава, 1899—1913. Т. 1—16. Ч. 1. Спрашчэнні і дапаўненні з. 1—6. Варшава, 1901—1907.

**I. Літоўска-маскоўская родавая лінія Булгакаў**

Нарымунт, ахрышчаны Глебам (пам. у 1348), сын Гедыміна, вялікага князя літоўскага, атрымаў ад бацькі княства Мазырскае і Пінскае і, калі не змог дамовіцца са сваім братам Альгердам, падаўся ў арду прасіць дапамогі, але замест гэтага быў там зняволены. Яго сын Аляксандр вярнуўся ў Літву і атрымаў у якасці ўдзела Падольскае княства, але вялікі князь літоўскі Вітаўт адабраў гэтае княства і аддаў яго сыну Патрыкею. У гэты час у 1397 годзе Патрыкей перайшоў са сваімі сынамі Фёдарам і Юрыем у Маскву, і там Юрый ажаніўся з Ганнай, дачкой вялікага князя маскоўскага Васіля Дзмітрыевіча (1418), і меў з ёй сына Васіля. Сын Васіля Іван (пам. у 1480) меў дадатак Булгак, і гэты дадатак, зменены на Булгакаў, прынялі яго нашчадкі, даючы пачатак новаму сямейнаму імені. Нашчадкі гэтага Івана Булгака сталі продкамі рускіх княжацкіх родаў: 1) Шчаняцьевых, ад Данілы Булгака па мянушцы «Шчаня», 2) Куракіных, ад Фёдара Булгака па мянушцы «Курака» і 3) Галіцыных, ад Андрэя Булгака па мянушцы «Галіца». Апошнім з роду маскоўскіх Булгакаў быў князь Васіль Юр'евіч Булгак, намеснік Яраслаўскі (у 1581 годзе). На ім заканчваюцца звесткі пра гэту родавую лінію.

**II. Татарска-польская родавая лінія Булгакаў (1528—1942)**

Яна мае пячатку з гербам «Сыракомля», ці «Сыракомля» з адменай[55]. Вядзецца ад татарскага мурзы Булгака («булгак» — турэцкае слова, якое абазначае «нялад», «непарадак»). Гэты мурза прыбыў з Крыма і асеў у Літве ў часы вялікага князя Вітаўта, а яго ўнук у 1480 годзе атрымаў маёнтак у Пінскім і Ашмянскім паветах.

Першапачынальнікам роду, імя якога вядома, быў мурза Саід Ахмет, які жыў каля 1500 г., яго сын значыцца ў спісе літоўскага войска 1528 года, у час праўлення караля Жыгімонта Старога. Гэты Булгак вызначыўся ў вайне з Масквой у 1530—1536 гадах як таварыш Яўстахія Дашкевіча, казацкага гетмана. Пасяліўшыся ў Польшчы, ён прыняў пры хрышчэнні імя Сімяона (Шымона, Сямёна), атрымаў частку маёнтка Брольнікі ў Навагрудскім павеце недалёка ад Гарадзечна пад Навагрудкам і тытул каралеўскага дваранін.

Сімяон Булгак меў сыноў Матыса, Антонія і Герасіма. Гэты апошні атрымаў тытул «каралеўскага баярына» (1546). Антоній меў сына Фёдара, а Фёдар — Івана і Ваську (1631), пры якіх Брольнікі яшчэ належалі Булгакам. Спачатку сыны Івана — Адам і Павел Булгакі прадалі Брольнікі, якія на працягу чатырох пакаленняў належалі сям'і (1660).

Здаецца, што генеалогія роду Булгакаў з XVIII і XIX стагоддзяў і да нашых дзён не мае прабелаў і апрацавана на ўсім працягу. У 1920—1925 гадах гэтым займаўся мой стрыечны брат Мар'ян Булгак[56], ад якога я таксама атрымаў копію генеалагічнага дрэва нашай сям'і. У ім прадстаўлена сем пакаленняў маіх продкаў па прамой лініі, пачынаючы ад Канстанціна, сына Адама Іванавіча, брата Паўла Іванавіча, упамянутых вышэй (у 1660 годзе), што разам з папярэднімі складае адзінаццаць пакаленняў да майго бацькі ўключна, і трынаццаць — да майго сына Януша. А менавіта:

[55] Герб з адменай — г.зн. герб са змяненнямі.

[56] Мар'ян Булгак, сын Антонія са Шчэпаўшчыны. Пазней узгадваецца як таварыш па дзіцячых гульнях.

1) Канстанцін[57], сын Адама, стольнік навагрудскі, ротмістр нацыянальнай кавалерыі Вялікага княства Літоўскага, які ажаніўся з Ганнай Заблоцкай.

2) Бенедыкт[58], сын Канстанціна, мінскі лоўчы, які ажаніўся з Яўфіміяй Пратасевіч, уладальніцай Начы[59], Янаўшчыны, Старынак[60], Асіпаўшчыны[61], Малева[62], Касмовіч[63], Данілавіч[64], Навадворкі[65] і Шаркаўшчыны з Даматканавічамі[66], паводле завяшчання таго самага Бенедыкта, складзенага ў 1698 годзе.

3) Мікалай, сын Бенедыкта, мінскі лоўчы[67], які ажаніўся з Мар'янай Імелінскай, валодаў маёнткам Касмовічы, які атрымаў у заклад ад князя Радзівіла.

4) Станіслаў[68], сын Мікалая, а мой прапрадзед, мінскі лоўчы, які ажаніўся з Хрысцінай Цекавай, дачкой паручніка Яго Каралеўскай Вялікасці, уладальнік маёнткаў Астраўкі[69] і Бурдзевічы[70] ў Навагрудскім павеце, які набыў Міцкевічы ад Караля Мінкоўскага ў 1804 г. (у Слуцкім павеце). Ён пакінуў сямёра сыноў: Фларыяна, Яна, Юзафа, Юзафата — уніяцкага мітрапаліта, Вінцэнта, Уладзіслава, Ежы.

5) Фларыян, сын Станіслава, а мой прадзед, камергер двара Яго Каралеўскай Вялікасці Станіслава Аўгуста, уладальнік маёнткаў Пуперы, Каты, Лычыцы, які ажаніўся з Хэленай Яблонскай, дачкой навагрудскага войскага, і пакінуў шасцёра сыноў: Мацея, Юзафа, Вінцэнта, Уладзіслава, Ігнацыя і Яна.

6) Ян Антоній Францішак — трох імён — Булгак, мой дзед (сын Фларыяна), мінскі дэпутат ад шляхты, нарадзіўся 15.09.1795 года, ажаніўся з Юліяй Грамыка, уладальніцай маёнтка Асташын у Навагрудскім павеце, пакінуў двух сыноў — Валерыя і Антонія і дзвюх дачок — Барбару[71] і Караліну[72].

7) Валерый Антоній Станіслаў — трох імён, сын Яна, мой бацька, нарадзіўся 16 красавіка 1842 года, ажаніўся першым шлюбам з Юзэфай Хацiскай з Міраціч, другім шлюбам з Казімерай Межэеўскай з Устроння[73], па-

---

[57] Загінуў у 1660 г. у бітве пад Палонкай.

[58] Пасол Навагрудскага ваяводства на выбарах караля Аўгуста II Моцнага.

[59] Нача — маёнтак у ваколіцах Клецка ў Навагрудскім павеце.

[60] Янаўшчына і Старынкі — маёнткі Булгакаў каля Івянца ў Мінскім ваяводстве

[61] Асіпаўшчына — вёска каля Гарадзеі ў Навагрудскім павеце.

[62] Малеў, альбо Малева, — маёнтак каля Нясвіжа.

[63] Касмовічы — вёска (8 двароў) і фальварак (каля 29,5 валокі) у Слуцкім павеце ў Ланскай гміне, 5 км на паўночны захад ад Клецка. Фальварак (каля 30 валок) — у канцы XIX ст. уласнасць Абуховічаў.

[64] Данілавічы, альбо Дуніловічы, — землі недалёка ад Наваельні каля 20 км на захад ад Навагрудка.

[65] Навадворкі, альбо Навадворка, — вёска (17 двароў) і фальварак над безыменным прытокам Лані ў Слуцкім павеце, 5 км на паўночны захад ад Клецка. Фальварак (каля 30 валок) — у канцы XIX ст. спадчына Абуховічаў.

[66] Шаркаўшчына і Даматканавічы — вялікія населеныя пункты ў ваколіцах Клецка.

[67] Навагрудскі лоўчы.

[68] Пасол на выбарах караля Станіслава Ляшчынскага.

[69] Астраўкі — 2 вёскі (27 і 35 двароў) і 2 фальваркі над ракой Ушай, Навагрудскі павет, на гасцінцы ад Снова і Ішкалдзі ў Мір. Адзін фальварак (10 валок і 5 моргаў) — спадчына Грыневічаў, другі — Булгакаў (376 дзесяцін).

[70] Бурдзевічы — фальварак каля 30 км на поўдзень ад Навагрудка.

[71] Барбара Булгак, цётка Яна (пам. у 1907), жонка Томаша Булгака з Садак.

[72] Караліна Карповіч, народжаная Булгак (пам. у 1905), жонка Юльяна, уладальніка Чамброва ў Навагрудскім павеце.

[73] Устронне — фальварак у Старчыцкім ключы ў былым Навагрудскім ваяводстве, на паўднёвы захад ад Слуцка.

мёр 5 (18) верасня 1905 года ў Асташыне. Уладальнік Асташына. Пакінуў адзінага сына Яна Брунона, аўтара гэтых успамінаў, у яго быў сын Януш[74], які нарадзіўся ў 1906 годзе, і ўнукі: Анджэй, які нарадзіўся ў 1942, і Богдан, які нарадзіўся ў 1944 годзе.

**«Vidimus» ад 27.10.1800 года,** ці выпіска з земскіх кніг Навагрудскага павета, адносна паходжання шляхецкай радавітасці роду Булгакаў адзначае, што герб «Сыракомля» — Белы Habdank (Хабданк) у чырвоным полі і залаты крыж на шлеме, такі ж герб і над каронай. Далей выразна называе тут папярэдне ўзгаданых Паўла і Адама Іванавічаў Сыракомляў-Булгакаў з першай паловы XVII стагоддзя і падае, што «іх нашчадкі князі Іван, Міхал, Дзмітрый, Лукаш, Пётр, Ежы і Ян з князёў Захамыльскіх Іванавічаў Сыракомляў-Булгакаў уласцівы ім гонар пацвярджалі [...] прыстойнымі справамі ў вайсковай рыцарскай службе, даказалі вернасць Айчыне доблесцю абавязковай вайсковай службы». Далей, спасылаючыся на «кнігі Каспера Нясецкага»[75], сцвярджае, што Булгакі герба «Сыракомля» сустракаюцца ў 15 ваяводствах і паветах: Навагрудскім, Мінскім, Слонімскім, Віленскім, Лідскім,

[74] Януш Булгак (27.04.1906, Пярэсека — 15.05.1977, Варшава), выпускнік Віленскай кансерваторыі, кампазітар, фатограф, член Віленскага фотаклуба (пасля вайны — Саюза польскіх мастакоў-фатографаў), пасля выхаду на пенсію перастаў фатаграфаваць каля 1959 г., супрацоўнічаў з Цэнтральным мастацкім ансамблем Войска Польскага.

[75] *К. Нясецкі.* Польская Карона... 1728–1743. Т. 1–4. Гербоўнік перавыдадзены ў 1839–1846 (з дапаўненнямі) Я.Н. Бабровічам.



***Навагрудак. Фасад палаца Радзівілаў, пабудаванага ў XVIII ст.*** *Здымак 1926 г.*

Трокскім, Віцебскім, Мсціслаўскім, Аршанскім, Рэчыцкім, Мазырскім, Брэсцкім, Пінскім, Валынскім і Кіеўскім ці амаль па ўсёй Літве і Русі, і называе 123 асобы Булгакаў, якія належалі да гэтага роду і жылі ў перыяд з 1583 па 1776 год. Сярод іх: Станіслаў, Мазырскі гродскі суддзя, Марцін і Пётр былі пасламі на выбарны сейм караля Уладзіслава IV (1632), Мацей і Станіслаў — пасламі на выбарны сейм караля Яна Казіміра (1648), Ежы, Дамінік і Вінцэнт — пасламі на выбарны сейм караля Яна III (1674). Далей: Фларыян Булгак быў Слонімскім стольнікам, Ян — земскім суддзёю і Навагрудскім лоўчым, Ежы — Пінскім і Тураўскім біскупам, абатам Супрасльскім, Ян — стольнікам і тайным суддзёю Слонімскага павета, Марцін — ротмістрам нацыянальнай кавалерыі і паслом ад Навагрудскага ваяводства, Міхал — маёрам польскіх войск.

Там жа напісана аб продажы фальварка Брольнікі Адамам і Паўлам Булгакамі ў 1660 годзе, а праз 9 гадоў (1669) успамінаецца квіток на імя Паўла Булгака ад зборшчыка Навагрудскага павета аб выплаце падатку, маёнтка Зубкава[76] з прыкупамі, якія да яго належаць. (Зараз Зубкаў з'яўляецца сядзібай дробнай шляхты і знаходзіцца ў 5 км на поўнач ад Чамброва ў Навагрудскім павеце.) Там жа чытаем далей, што «Адам Булгак, узяўшы in sociam vitæ suæ[77] яе міласць Барбару Маркевіч, progenuit[78] з гэтай жонкай шасці сынам: Андрэю, Канстанціну, Бенедыкту, Мікалаю, Францішку і Тадэвушу, а Павел, брат Адама, ажаніўшыся з яе міласцю паннай Зоф'яй Пратасевіч, меў пяць сыноў: Бенедыкта, Якуба, Яна, Стэфана і Станіслава. Нарэшце «consecutio[79] ад Бенедыкта»: Мікалай, Ежы і Шымон Булгакі былі ўладальнікамі маёнтка Янкоўшчына з вёскай Старынкі ў Мінскім (павеце), а ў Навагрудскім — маёнткаў Нача, Навадворкі і Шаркаўшчыны з вёскай Даматканавічы і з Машукоўскай Пушчай[80], а таксама Паланечкі[81], як сведчыць завяшчанне адышоўшага з Богам Бенедыкта Булгака — мінскага лоўчага ад 1698 года.

Там жа знаходзіцца ўспамін аб запісе ў 1741 годзе Антоніем — сынам Станіслава Булгака жонцы Хэлене сваіх маёнткаў Зубкаў і Лагаткі[82], размешчаных у Навагрудскіх землях.

«Vidimus» заканчваецца наступнымі словамі: «Post reproductione[83] гэтых папераў доказаў, Мы, галоўны земскі Суд Магілёўскай губерні approbando in omnia documenta[84] ўсе засведчаныя валоданні папярэднікаў, якія належыць атрымліваць у спадчыну нашчадкам, так і ў свабодах шляхецкага стану і годнасці нараджэння, сцвярджаючы перад намі, суддзямі аказана ад

---

[76] Зубкава, альбо Зубкаў, — шляхецкі засценак над Нёўдай, 7 км ад Навагрудка, увекавечаны Міцкевічам у «Пане Тадэвушы». У канцы XIX ст. тут жылі: Чачоты (1,5 валокі), Тамковічы і Тушынскія (каля 0,5), Райскія (0,25), Петрыкоўскія (1,75), Пацыны (0,5), Аўсяны (0,75), Грачыхі (0,25), Беняшы (0,75), Булаты (0,25), Бжазоўскія (5), Багуславы (0,5), Барысевічы (0,75).

[77] Спадарожніцай жыцця (*лац.*).

[78] Даў жыццё (*лац.*).

[79] У наступным пакаленні (*лац.*).

[80] Машукоўская Пушча; Машукі — вёска (26 двароў) і фальварак недалёка ад ракі Нача ў Слуцкім павеце. Спадчына Радзівілаў, да 1974 г. належаў да Клецкай ардынацыі, адтуль па сямейнай дамове разам з іншымі землямі далучаны да Нясвіжскай ардынацыі.

[81] Паланечка — маёнтак над ракой Дзвеяй (прытокам Ушы), некалі Дусяцкіх-Рудамінаў, пазней Булгакаў, з другой паловы XVIII ст. да 1945 г. — Радзівілаў.

[82] Лагаткі — маёнтак каля 10 км на поўдзень ад Навагрудка.

[83] Пасля пацвярджэння (*лац.*).

[84] Выказаныя ва ўсіх дакументах (*лац.*).

Яснавяльможных паноў Рафала — канюшага Гродзенскага павета і Станіслава — абознага Смаленскага (павета) Булгакаў cum tota prole utriusque sexus[85] [...] і ўсіх Яснавяльможных Міласцівых паноў Булгакаў старажытнай радавітай шляхтай пацвярджаем, адзначаем et circi prerogativum bona famæ nobilitatis[86] [...], якія з уласцівай годнасцю ганаруючыхся пастаянна сябе паводзілі, гэта паходжанне пасля пацвярджэння nobilitatis bona fama[87] ў земскія кнігі Магілёўскай губерні ўключана і запісана, з якіх выдадзена гэта выпіска з галоўнай пячаткай Магілёўскай губерні parti actore[88] і ля гэтай выпіскі шляхецкай радавітасці падпісаліся, як пішацца гэтымі судзейскімі словамі, пры адбіцці [...] пячаткі Даніэль Альшэўскі, камергер Польскага двара, прэзідэнт галоўных судоў Магілёўскай губерні Фелікс Ваўкавыскі, гарадскі пісар Аршанскі Станіслаў Пюра, земскі суддзя ў першай інстанцыі ротмістр Віцебскага ваяводства галоўны земскі суддзя Магілёўскай губерні Антоні Міхал Сабанскі, тарнавільскі староста дваранін казны Рэчы Паспалітай Вялікага княства Літоўскага галоўны земскі суддзя Магілёўскай губерні, а знізу выпіскі напісаны і гэтыя словы: «Паходжанне шляхецкай радавітасці вышэйпададзеных Яснавяльможнай Міласці паноў Булгакаў 1777 года месяца лютага дня 20 dictum cum actis[89] Юзаф Камароўскі, які гэту выпіску паходжання шляхецкай радавітасці пададзеную вышэй названай асобай, у кнігі земскія павятовыя Стара-Быхаўскія прынялі і выпісалі з якіх і гэта выпіска са службовай земскай пячаткай Стара-Быхаўскага parte acta[90] выдадзена». У гэтай копіі ўрыўка подпісы суддзі, завярэнне сакратара, таксама пячатка, выціснутая на чырвоным лаку і ўстанова, унізе яго запісаныя, так называюцца: Ян Жукоўскі, земскі суддзя Быхаўскага павета, correctum actis[91] сакратар Станіслаў Давідовіч L.S. Вытрымка паходжання шляхецкай радавітасці Яснавяльможных паноў Булгакаў, копія вытрымкі, пададзеная вышэйназванай асобай да дакументаў у земскую кнігу Навагрудскага павета, прынята і ўпісана. З гэтых кніг і гэты Vidimus па просьбе са службовай земскай пячаткай Навагрудскага павета ў 1829 годзе месяца мая 16 дня выдадзены патрабуючаму боку. Аб адпаведнасці кнізе сведчыць Антоній Дамброўскі, земскі рэгент Навагрудскага павета. У маі 1829 года 17 дня ў рэзалюцыі на пададзеную просьбу земскі суд J.E.S.O. Імператарскай Вялікасці Навагрудскага павета сведчыць, што гэты відзімус даслоўна адпавядае кнігам. Суддзя Вяржбоўскі, Плоньскі рэгент».

*Заўвага аўтара.* Гэта копія з'яўляецца, напэўна, адной з многіх недакладна зробленых раней, таму што мае шматлікія перакрэсленыя лацінскія словы і няясна адрэдагаваныя абзацы з-за прапушчаных асобных выразаў. Ва ўсялякім разе, я сцвярджаю, што вышэйпададзены тэкст я перапісаў з добрасумленнасцю інвентарызатара, не робячы ў ім ніякіх замен, ані паправак.

[85] З усім патомствам абаіх родаў (*лац.*).
[86] З нагоды праслухоўвання высакароднага шляхецтва (*лац.*).
[87] Высакароднай шляхетнасці (*лац.*).
[88] У частцы дакументаў (*лац.*).
[89] Пацвярджае дакументальна (*лац.*).
[90] Выпіска з дакумента (*лац.*).
[91] Праверыў дакумент (*лац.*).

## Раздзел II

## *Першыя ўспаміны. Мае бацькі*

Я быў адзіным дзіцём у бацькоў і не раз балюча адчуваў недахоп радні, які дрэнна ўплываў на фарміраванне майго характару і надаваў яму эгацэнтрычны кірунак. Самыя раннія мае ўспаміны адносяцца да чацвёртага года жыцця. Першы з іх мае выразна змрочны каларыт, які не стасуецца з фонам усяго майго дзяцінства. Як у імгле бачу нейкую бяссонную ноч, згушчаныя цені, прыцемненае святло лямпы, спалоханы твар маці, поўны вялікага непакою за бацьку, які носіць мяне на руках па спальні і стараецца закалыхаць да сну. Я хворы, але не адчуваю праяваў хваробы і толькі бачу іх адбітак на тварах бацькоў. Напэўна, у мяне тады былі прыступы канвульсіі, і той начны эпізод, напэўна, датычыўся такога моманту. Ён меў нейкі драматычны настрой і ўрэзаўся мне ў памяць на ўсё жыццё: прывіды невыказнай пагрозы, здавалася, выплывалі з цёмных куткоў пакоя і насіліся над намі. Гэта была, відавочна, магія пачуццяў, якія апанавалі бацькоў, магія настолькі моцная, што частка яе дасталася нават чатырохгадоваму дзіцяці. Тады, напэўна, нарадзілася мая дзіцячая боязь ночы і цемры, якая праследавала мяне, як здань, усё дзяцінства: я хутка перабягаў праз цёмныя пакоі, пужаўся страшных сноў і маліўся ў вячэрняй малітве, каб Бог абараніў мяне ад іх. Не любячы ночы з яе сляпой чарнатой і вымушанай нерухомасцю, я супрацьпастаўляў ёй з гарачай любоўю святло раніцы і доўгі нясумны летні дзень, калі так цудоўна адчувалася радасць жыцця на волі і ў бяспецы.

Другі ўспамін з серыі тых самых ранніх — гэта прыезд у Отмыт да дзядзькі і цёткі Хацiскіх (Тадэвуш Хацiскі, сын Уладзіслава, брат маёй маці, жанаты з Ядвігай Астроўскай з Навагрудка, спадчыннік па сваім бацьку маёнтка Міравічы ў Навагрудскім павеце і маёнткаў Беліца[1] і Отмыт у Мінскім павеце па сваім дзядзьку Адаме Грынеўскім). Аднак у ім фігуруюць не людзі, а прадметы: высокія крэслы прасторнай сталовай, поўнай бліскучага святла, гаворка шматлікіх незнаёмых людзей, рад моцна асветленых пакояў з высокай столлю, і я сам, як маленькае дзіця, што згубілася пасярод гэтага шумнага святла і незразумелых аграмадзін. Мая ўражлівасць была аддадзена на цяжкае выпрабаванне, але я не плакаў, наадварот — я адчуваў зацікаўленасць і прыцягненне да гэтага нябачанага акружэння, якое пасля ціхага і сціплага Асташына здавалася мне дзівосна прыгожым.

---

[1] Беліца — вёска і землі (750 моргаў) у Мінскім павеце, Самахвалавіцкая гміна, Анопальская каталіцкая парафія, 18 вёрст ад Мінска. Уласнасць Грынеўскіх. Ян Булгак купіў зямлю ад нашчадкаў дзядзькі Тадэвуша Хацiскага пасля продажу Асташына ў 1910 г.



**Над вадой.** *Здымак да 1926 г.*

Трэці ўспамін — гэта першы побыт у Міраціčах, яшчэ калі жыў дзед Уладзіслаў[2]. Я памятаю нейкі неспакойны начлег у «бакоўцы» за сталовай, дзе вокны прыцямнялі намаляваныя шторы, павешаныя на стрэлы ў стылі ампір. Памятаю па чарзе: нейкія прыкрыя сны, ад якіх я шукаў паратунку пад бокам у маці, прыцемненае святло малой лямпачкі, мае просьбы-ўздыхі, каб тая ноч хутчэй скончылася, адгалоскі сабачага брэху і іх бегатню па агародзе... А потым, назаўтра, бачу другі бок медаля: і вясёлую раніцу, поўную бадзёрага палявання, зграю ганчакоў, якія нясуцца ўроссып па гарыстых міраціцкіх палях і па выгане, зарослым кустамі ядлоўца, з якіх выходзіў дзед — высокі, з сівым вусам і стрэльбай за плячамі...

Гэтыя ўспаміны — выключна настраёвыя, датычацца пачуццяў задумы і боязі, з'яў цемры і святла, якія наймацней уздзейнічаюць на кожную першапачатковую рэакцыю. Постаці і твары людзей, а перш за ўсё твары бацькоў, занатаваліся ў маёй свядомасці мацней, калі я меў ужо поўных пяць гадоў. Маці памятаю найлепш, калі яна сядзіць у сталовым пакоі ля самавара і налівае гарбату альбо занята працай у вуглавым крэсле ля акна побач са швейнай машынай. Аднак я бачу яе невыразна, як у імгле; тады як бацьку магу прыпомніць значна дакладней. Праўда, бацька жыў значна даўжэй — 63 гады, а маці — толькі 45. Я страціў яе ў 1893 годзе, калі быў на семнаццатым годзе жыцця і, будучы яшчэ надта дзіцём, не разумеў памераў гэтай страты. Астатнія некалькі гадоў перад смерцю маці мучыла цяжкая і невылечная хвароба. Падобна, што яна мучыла яе даўно, бо я запомніў нейкі трагічны выраз вачэй маці, зафіксаваны і на тагачаснай фатаграфіі, нягледзячы на тое, што па прыродзе яна была жывой і вясёлай і, пакуль адчувала сябе здаровай, была поўнай гумару і энергіі. Хоць была яна сярэдняга ўзросту, вызначалася шчупласцю і стройнасцю фігуры, дзякуючы чаму здавалася высокай. Некалькі фотаздымкаў з дзявочых гадоў заўсёды паказваюць мне яе з гэтай меланхалічнай задумай у вачах, як быццам бы ад самых маладых гадоў дрэнныя прадчуванні не былі ёй чужыя. Такой сумнай яна павінна была быць унутры сябе, сам-насам, хоць з іншымі хавалася і паводзіла сябе жартаўліва, смяялася і гаварыла з вялікім запалам і дасціпнасцю. Напэўна, яна мела літаратурныя здольнасці, якія прабіваюцца ў пакінутым ёю дзённіку, а таксама ў багатай карэспандэнцыі з сям'ёй. Да напісання гэтых лістоў яна мела сапраўдную слабасць, любіла складаць іх старанна і, перад тым як адаслаць, чытала бацьку. Але часам злоўжывала гэтай схільнасцю, упадаючы ў шматслоўную і вострую палеміку, тады ў гэта ўмешваўся бацька, больш разважны, ён не прытрымліваўся нічыйго боку і звычайна адгаворваў высылаць такі ліст.

Маю дзённік маці, захаваны да сённяшняга дня: ён кранальна сумны, але не дае аніякіх канкрэтных падзей, ані дат, таму не мае біяграфічнага зместу. Ён утрымлівае агульныя думкі і шчырыя прызнанні падрастаючай паненкі, інтэлігентнай, уражлівай і экзальтаванай, жадаючай сяброўства і сардэчных прызнанняў, але адзінокай і ўжо загадзя схільнай да недаверу і горычы. Почырк вельмі ўмелы і ўзорны, зусім сталы, а форма дзённіка — літаратурна правільная і не пазбаўленая рамантычнага палёту, уласцівага эпосе пасля паўстанняў, адкрывае лёгкасць выказвання, знойдзены падбор слоў і азначэнняў, захапленне перабольшаным упрыгожваннем мовы. Маючы любоў да майстэрства слова, я павінен тут заўважыць, што здольнасці ў гэтым накірунку я атрымаў у спадчыну, без сумнення, ад маці, якая

[2] Памёр у 1881 г.



***Старая яблыня.*** *Здымак да 1918 г.*

вельмі цаніла трапныя і сакавітыя выказванні, добра арыентавалася ў метафарах з пераносным значэннем і поўнасцю адчувала вагу і значэнне прыгожага слова. А маці атрымала гэта ад свайго бацькі, Уладзіслава Хаціскага. Хоць ён быў селянінам і не меў нічога агульнага з літаратурай, аднак пакінуў пасля сябе спытак звычайных вершаў, перапоўненых шчырым пачуццём, пад назвай «Жаль старца». Гэта выражэнне самотнага цярпення чалавека, які стаіць над магілай, мае ў сабе нешта глыбока трагічнае і з'яўляецца доказам таго, што напісанне гэтых вершаў не было гульнёй, а з'яўлялася яго важнай унутранай патрэбай.

Мае дзіцячыя гады — гэта бесперапынны працяг шчаслівых дзён, напоўненых незамутненай радасцю на вачах добрых і любячых бацькоў. Калі зараз аглядаю іх здалёк, яны здаюцца мне такімі прамяніста прыгожымі, што не хацелася б пра іх гаварыць нічога іншага, толькі словы захаплення. Але яны мелі і дрэнны бок: я быў распешчаны маці, што з'яўляецца звычайным лёсам і няшчасцем адзіных дзяцей. А я быў прыгавораны лёсам быць адзіным. Маці мела слабае здароўе і не магла больш мець дзяцей, таму ўсю мацярынскую любоў сканцэнтравала на мне адным, а тым больш што ў першыя гады жыцця я быў слабаваты, часта хварэў і вельмі непакоіў гэтым бацькоў. Увесь час дрыжачы над маім жыццём, яны ўжо не клапаціліся пра тое, каб выхаваць мяне, але каб захаваць. Бацька, можа, і хацеў бы ўвесці трохі дысцыпліны ў маё выхаванне, але ўрэшце падпарадкоўваўся маці і згаджаўся на тое, што я быў у доме першай асобай, якой усё было дазволена. Я гэта інстынктыўна адчуваў і выкарыстоўваў, прызвычайваўся да прывілеяў без абавязкаў. Бацька не мог нічога з гэтым зрабіць, бо маці любіла мяне з зайздросным выключэннем і ўва мне бачыла ўсё шчасце, не хацела слухаць нічыіх парад, апрача голаса свайго ўстрывожанага сэрца. З яе лістоў



**Макі.** *Здымак да 1926 г.*

да бацькі, што захаваліся, выглядвае пастаянны страх за будучыню. Калі яна была ўжо даўно хворай і адчувала ўсё большы ўпадак сіл, яна баялася, што яе згасаючага жыцця не хопіць, каб давесці да канца маё выхаванне, і пакутавала ад гэтых прадчуванняў, якія спраўдзіліся. Кожнае маё аслабленне было драмай, кожнае дробнае недамаганне — няшчасцем, для яе не было нічога на свеце па-за заклятым кругам гэтай бязмежнай мацярынскай любові.

Роля інфанта шкодна паўплывала на ўсё маё жыццё, умацоўваючы ўва мне сляпы эгаізм, наіўны і не залежны ні ад чаго. Мае пачуцці, паводле меркавання бацькоў, апіраліся на пошук уласнай выгады і прыемнасці. Калі я трохі баяўся бацькі і лічыўся з яго ўласным быццём, то маці існавала выключна для мяне, таму што я прывык да таго, што яна ўгадвала мае думкі, дагаджала маім хаценням. А гэта не спрыяла развіццю альтруістычных пачуццяў. Пакуль я быў малы, было добра і салодка туліцца да каленяў любімай мамачкі, цалаваць яе шчуплыя, далікатныя рукі і называць яе рознымі пяшчотнымі імёнамі, але калі я трохі падрос і адчуў смак хлапечай зухаватасці, тады яе дэспатычная любоў, якая пільнавала кожны мой крок, пачала мяне звязваць і здавацца ўсё больш абцяжарваючай. Я паціху бунтаваў супраць гэтай тыраніі пачуццяў і, замыкаючыся ў недаверлівым адасабленні, усё больш аддаляўся ад маці. Я павінен адкрыта прызнаць, што не заслужыў вялікай ахвярнай любові, з якой яна прысвяціла мне ўсё сваё пакутнае жыццё, што я не быў для яе такім сынам, якога яна мела права ўва мне бачыць. Толькі ўжо дарослым чалавекам я зразумеў гэтыя свае правіннасці, горка і пакутліва адчуваючы, як расце запозненая любоў да ценяў маці, і не могучы абараніцца ад дакораў сумлення за ўчынкі, якія ўжо немагчыма паправіць.



***Драўляная забудова вуліцы Касцельнай.*** *Здымак да 1916 г.*



***Вуліца Касцельная ў Навагрудку з парканам, які акружае даменіканскі касцёл, асвечаны ў гонар Св. Архангела Міхаіла.*** *Здымак да 1910 г.*

Цяжкае адчуванне гэтай віны суправаджала мяне ўсё жыццё і навучыла мяне, што няма большага цярпення, як бяссільны жаль пасля страты любімага чалавека, якога не ведаў і не цаніў належным чынам.

Сёння, калі я хачу думаць і пісаць як найболыш пра маю дарагую маці, калі гэтыя ўспаміны аб яе жыцці з'яўляюцца патрэбай сэрца, я вымушаны з сорамам прызнаць, што так мала пра яе ведаю. Я, яе адзіны сын, не ведаю сваёй маці і толькі з яе лістоў імкнуся аднавіць яе вобраз. Усё жыццё, як стаў дарослым, я патаемна пакутаваў ад гэтага. Колькі разоў я пракрадваўся, як злодзей, па цёмнай лесвіцы нашай былой кватэры (у Аранжарэйным завулку ў доме Радкевіча[3]), каб зазірнуць праз акно ўсярэдзіну і паспрабаваць ухапіць там нейкі пах мінулага, адшукаць нейкія сляды апошніх гадоў жыцця, калі яна дагарала тут, пакутуючы ад роспачы і ад тугі аб сваім дзіцяці... З якой упартасцю я не раз напружваў памяць, каб выцягнуць з забыцця тыя часы, уваскрасіць занава зацёртую, знікаючую мару — яе гнуткую постаць, нахіленую ўперад, як трысціна на ветры, яе твар з заўсёды сумнымі вачамі, з гэтай добрай, трохі хваравітай паўусмешкай на бледных вуснах, з цёмнымі валасамі, гладка зачэсанымі і прыкрытымі карункавым уборам на галаве... Успамінаю па чарзе кожны крок жыцця пры боку маці аж да таго дня, калі яе забрала смерць, і так мне цяпер шкада кожнай хвіліны, якую я не правёў ля яе каленяў, гледзячы ёй у вочы, чуючы, як б'ецца яе сэрца, б'ецца толькі для мяне... Успамінаю гэтыя ўсё больш рэдкія парывы шчырасці, калі я змагаўся з непераадольным жаданнем пайсці да яе і расказаць пра свае пахмурныя думкі, калі я ўжо адкрываў рот, каб загаварыць і скінуць цяжар з сэрца, і словы заміралі ў мяне на вуснах, я змаўкаў, баючыся, што не буду пачуты і не знайду разумення... І зараз яшчэ мне здаецца гэта такім незразумелым і несправядлівым, што, маючы найлепшую маці, адданую мне без памяці, і сам прагнучы любові, я быў для яе дрэнным сынам і любіў яе не так, як трэба, і замала...

Мой бацька быў тыпам шляхціца-грэчкасея сярэдняга стану, чалавекам простым, здаровым, адданым працы і дому, звыклым да поля, стайні і гумна. Калі ён быў у гуморы, браў мяне на калені і цалаваў, весела жартуючы і прыціскаючы мой твар да сваёй калючай барады. Але гэтыя хвіліны не былі частымі, бо бацька, вельмі заняты працай, увесь час быў не дома: у полі ці ў дарозе. Ён не быў з'явай паўсядзённай, як маці, і таксама выклікаў у мяне пэўную нясмеласць, асабліва калі прыходзіў раздражнёны з-за нейкіх непаладкаў у гаспадарцы. А калі ён голасна крычаў на каго-небудзь з прыслугі, я адчуваў нервовы страх і жаданне схавацца ці ўцячы. Хоць бацька па натуры быў добры, справядлівы і ўражлівы да людской бяды, але толькі некантраляванасць гарачага характару прыводзіла да таго, што ён лёгка паддаваўся выбухам гневу, якія, зрэшты, аднолькава хутка згасаў, як і запальваўся, а дакладней, пад уплывам маці расплываўся ў лагоднай, дабрадушнай усмешцы. Мая дзіцячая ўражлівасць, а хутчэй, палахлівасць і празмерная ўражлівасць адчувалі, аднак, балюча гэтыя гучныя напады бацькавага гневу, хоць і не на мяне накіраваныя: я скурчваўся ўнутры і мярцвеў у чаканні, што гэты гнеў зараз упадзе і на мяне, а гэта стварала пастаянны настрой страху і неспакою, які перашкаджаў шчырым адносінам без цырымоній. Я адчуваў сябе хранічна напалоханым, але мая нясмеласць знікала, калі бацька ў хвіліны добрага настрою клікаў мяне да сябе, звяртаўся сардэчна і дазваляў пацалаваць сябе ў шчаціністы твар, знаёмая калючасць

---

[3] У Вільні.

якога была для мяне такой роднай і мілай. Я цалаваў яго ахвотна, рады, што «татачка не крычыць».

Наколькі маці была гаваркой і сяброўскай, настолькі маўклівым быў бацька. Ён не валодаў дарам гаварыць, не любіў паглыбляцца ў сябе, поўны суровай прастаты вясковых людзей, прызвычаеных да цяжкай працы, кароткіх азначэнняў, да рэальных і мэтанакіраваных рэчаў. Ён саступаў маці з-за ўмення паводзіць сябе і інтэлігентнасці, а не з-за праваты і сумленнасці. Ён валодаў сапраўднай хрысціянскай прамалінейнасцю, а недахопы адукацыі ўраўнаважваў развагай, тактам і пачуццём абавязку. Не клапаціўся пра выгляд і знешнасць, ацэньваў людзей і рэчы паводле іх сапраўднай вартасці, адрозніваючы беспамылкова праўду ад фальшу і добрае ад злога. Нясмелы і малапрадпрымальны, ён пазбягаў чужой кампаніі, трымаўся ўбаку ад гучных сходаў і прыёмаў. Затое ахвотна падтрымліваў ажыўленыя адносіны з радняй: з маім стрыечным братам Антоніем са Шчэпаўшчыны, з сёстрамі — цёткай Барбарай Булгак з Садкаў і Каралінай Карповіч з Чамброва. Для іх ён таксама быў узорным і адданым братам, як і добрым мужам для маёй маці. Самай вялікай для яго радасцю былі сямейныя адведзіны, якія збіралі ўсю радню і цягнуліся некалькі дзён. Час мінаў хутка і прыемна ў сямейным коле, і я вельмі любіў выгляд гэтых маіх блізкіх, так добра звязаных вузламі сімпатыі, дружбы і згоды. У той час не было размовы пра крыкі і гучныя сцэны, бацька быў лагодны і спакойны, меў асветлены твар і гаварыў мяккім і прыемным голасам. Тады я адчуваў, што вельмі яго люблю.

Бацька быў яшчэ добрым суседам, гатовым дапамагчы парадай і справай, і за гэта меў заслужанае прызнанне ў павеце. Як чалавек працы і закаханы ў зямлю, ён мала цікавіўся тым, што не адносілася да гаспадаркі ці да справаў грамадзянска-суседскіх, і не меў, як маці, культурных памкненняў. Ён не займаўся палітыкай, а пра паўстанне 1863 года, якое ён бачыў юнаком, успамінаў з жахам, неахвотна і рэдка: было відаць, што гэтыя страшныя часы пакінулі ў ім асадак болю і прыгнечання. Зрэшты ў адносінах да гэтага абое бацькі трымаліся меркавання гаварыць са мной як найменш. Яны не хацелі абуджаць і сілкаваць пачуцці, якія ім здаваліся бязмэтавымі і безнадзейнымі.

Бацька меў патрыярхальныя звычаі. Ён вёў сціплае і ашчаднае жыццё, далёкае ад лішку і камфорту. Клапаціўся аб патрэбах сям'і, любіў добры адпачынак пасля цяжкай працы ў дамашнім коле ці адведзіны самых блізкіх родных, для якіх у яго заўсёды было адкрыта сэрца і кішэня. Ён сапраўды быў увасабленнем дабраты, узорам сямейных дабрачыннасцей, а яго жыццё можна было заслужана назваць «жыццём паважанага чалавека». Але я ўсяго гэтага не разумеў, неабачна падпаў пад уздзеянне яго гвалтоўнай манеры ўзаемаадносін, не ўмеў перамагчы інстынктыўны страх у адносінах да гэтага самага лепшага чалавека, які горача любіў мяне, але ціха хаваў гэта ў сваёй маўклівай натуры, якая не ўмела адкрыць сябе. І гэта стала прычынай разладу на ўсё жыццё, які з цягам часу паглыбляўся, робячы сардэчнае паразуменне паміж намі немагчымым. Мы разыходзіліся ўсё далей, каб ужо ніколі не сысціся, хоць у сэрцах быў голад пачуццяў і туга па іх. І ў гэтым выпадку ёсць вялікая віна з майго боку, што пад уздзеяннем уяўнага я не мог спазнаць сапраўдны характар і вартасць майго бацькі, не ўмеў прыняць яго любоў, ахвяраваную мне з такой кранальнай няўмеласцю, і па-сыноўняму адказаць на яе. Гэта другая мука сумлення, аднолькава цяжкая, як і першая. Можа, мне і не прыйшлося б пра іх гаварыць, каб я не быў адзіным дзіцём.

**46**

## Благаславенне дому

Лямпа з-пад абажура без стомы
спеліць кругі, што ў закутках гаснуць,
ды на сцяне вынікае ясна:
«Благаславенне духоўнае дому».

Просты кавалак зжоўклай паперы —
сябра стары мой, найлепшы ў свеце,
ён штодзённа павагай прывеціць,
вучыць малітвам, асновам веры.

Як не любіць мне гравюру тую,
бо знішчае Евангелле страхі,
цішыць вецер, сны нам вартуе,
ад перуноў ахоўвае дахі.

Літары ўверсе чорна ўзлятаюць
там, дзе крыж з абразкоў узнікнуў,
дзе Маці Божая, Прасвятая
Тройца і Хрыстус у ззянні німба.

А ў самым нізе карціны строгай
ёсць пастухі і статкі жывёлы,
што крочаць вольна сваёй дарогай,
і над усімі — крылы анёлаў.
Крочаць зямлёй, не цеснай нікому,
жнеі, аратыя ў добрай згодзе,
і з анёламі ўслед ім зыходзіць
благаславенне бацькоўскага дому...
..........................................................
Пад абразом я сэрца адкрыю,
каб малітвы вячэрнія вершыць:
«Ойча наш», «Верую», «Вітай, Марыя»,
І «Дзесяцёра», і «Спакой вечны».

Хоць вочы мружыць сонная ціша,
хоць дум пагоня бязладна скача,
як толькі я абраз гэты бачу,
ціхая радасць душу калыша.

Пацеркі ўпалі, і мне ў мігценні
лямпы, што гасне, міргае млява,
бачны малюнкі то сну, то явы,
покуль абраз зноў не выйдзе з ценю.

Крочаць аратыя, крочаць жнеі,
ззяюць пад сонцам сярпы і косы,
статкі, як хмары, цягнуцца ў неба,
следам вазы паўзуць безгалоса,
а там — за імі — чорнае поле,
дзе па раллі бягуць святлацені,

бліжай — свечкі выносных таполяў,
ганак высокі, белыя сцены...

Бо гэта наша! У сне, наяве
сплецена ўсё, каб паўстаў яскравей
вобраз майго любімага дома,
кожнаю рыскай добра знаёмы...
Гэта ўсё наша, крэўнасць лунае.
«Дзякуй!» — шапчу, каму — невядома,
а галаву святлом ахінае
«Благаславенне духоўнае дому»...



***Фасад двара Булгакаў у Асташыне Мураваным.*** *Здымак 1905—1908 гг.*

Раздзел III

## Наш дом

Я трохі забег наперад у сваім апавяданні, не захоўваючы чаргу падзей у часе. Але цяжка ўтрымліваць думкі, якія націскаюць на пяро, калі адзін раз ужо сарвана плаціна маўчання. У папярэднім раздзеле я мусіў зрабіць сабе палёгку, расказваючы тое, што так доўга мяне абцяжарвала. Цяпер лягчэй вярнуся да перарванага ходу падзей, да мілых, шчаслівых дзіцячых гадоў і паспрабую перадаць іх галоўную рысу: гэта хараство маладых спраў, якое, як раніцу і вясну, лягчэй адчуць, чым апісаць.

Пачынаю аповед ад 1882 года, калі мне было шэсць гадоў і я ўжо мог усё добра запомніць. Пераношуся ў думках да роднага парога, аглядаю твары бацькоў, успамінаю іх словы, жэсты і ўсмешкі, блукаю па пакоях і садзе, па ўсім двары, сустракаю даўно памерлых людзей, прыслугу і дамачадцаў і адчуваю сябе так, як быццам бы я вярнуўся на шэсцьдзесят гадоў назад і як быццам бы яны ўсе яшчэ жылі, і жыццё ішло нязменным ходам таго часу. Бачу перад ганкам дзве італьянскія таполі, поўныя шумнага ветру і птушынага шчэбету, а за імі разложыстыя кроны стольких іншых дрэў—сяброў і апекуноў майго дзяцінства, любімых і шанаваных, як быццам бы яны былі жывымі істотамі і належалі да сям'і. Бачу півоні і флоксы на траўніку перад домам і дваровых сабак — белага ганчака Касту і пярэстага пудзеля Аміка, як яны з вясёлымі падскокамі ганяюцца каля кухні, чую скрып жураўля ад студні ў глыбіні дзяцінца і гаворку фурманаў з коньмі ля вадапою... Я так прагна хацеў бы ўваскрасіць непараўнальную чароўнасць гэтага малога свету, поўнага высакародных пачуццяў, добрых людзей і прыгожых і мілых рэчаў... забыцца пра адлегласць гадоў і зноў усімі грудзьмі ўдыхнуць паветра роднага дому... Але я ведаю, што гэту атмасферу немагчыма ўхапіць і яна выслізгвае з-пад усякага аналізу: яе вызначалі бязважкія элементарныя рэчы, якія ствараюць вялікую таямніцу — л ю б о ў.

Гэта таямніца крые ў сабе Дом, як полымя ў містычнай лямпе, дом, пабудаваны не толькі з цэглы і камення, але і з людскіх сэрцаў, з усяго, што ёсць самае лепшае і самае святое ў чалавечай душы, з сямейных повязяў, з бацькоўскага клопату, з матчынага кахання, з дзіцячай безабароннай даверлівасці. Крыніцай духоўнай прыгажосці і сілы з'яўляецца сям'я, а ў ёй цудоўная сувязь маці і дзіцяці, якая ператварае жытло ў храм, а сховішча — у святыню. Гэта сувязь умацоўваецца бясконцай стужкай цярпення і адмаўлення, радасці і захаплення, якія разрываюць сэрца маці і ўзносяць яе на шчыт гераізму, на памежжа чалавечага і Божага. Гэта сувязь праяўляецца ў ласкавым поглядзе і чуйным дотыку маці, у калыханцы, якую яна напявае, у ціхіх словах пяшчоты, а ўдзячнасць і слодыч гэтых пачуццяў дзіця запамінае і неўсвядомлена пераносіць на ўсё дамашняе, пазначаючы ўсё акружэнне рысамі сардэчнай

4. Зак. 297.

прыгажосці. Усё дамашняе здаецца найлепшым і найпрыгажэйшым, адзіным на свеце, што стаіць на мяжы дасканаласці. Дзіця ля каленяў маці спазнае найвышэйшае шчасце, а адчуваючы сябе любімым і любячы само, паддаецца выпраменьванню гэтай любові і, прасякнутае ёю, рассыпае найпрыгажэйшыя зоркі любові, расцвітае яе ўнутранай прыгажосцю. Падобна кветцы, вырастае і развіваецца ў цяпле і святле дамашняга ачага і, быццам сонечныя фарбы, убірае ў сябе пачуцці, якімі яно было акружана кожны дзень шчаслівага дзяцінства сярод старых рэчаў і векавых дрэў. Паміж добрых людзей і нявінных забаў. А калі вырасце і пойдзе ў свет, у цвёрдую рэчаіснасць, захавае назаўсёды тужлівы ўспамін пражытага ў маленстве анёльства, як блакітны прывід адкрытых нябёс. І потым ужо нястомна ўсё жыццё будзе дарэмна імкнуцца ўзнавіць вобраз мінулага шчасця, увасобіць зямнымі сродкамі тое, што з'яўляецца непаўторным, бо яно незямное; страчаны скарб матчынага сэрца, страчаны рай дамашняга ачага, асвечанага прыгажосцю любові.

Такім раем для мяне быў Асташын, ці, як найменш, такім ён здаваўся майму дзіцячаму ўяўленню, хоць было, напэўна, шмат падобных у нашай благаслаўлёнай глухамані, у глухім вясковым закутку воддаль ад горада, чыгункі і цывілізацыі. Мяркуючы па багатых фундаментальных пабудовах, а таксама свірну і стайні, Асташын, напэўна, меў выдатнае мінулае, пасля якога наступіў упадак, які цягнуўся да нядаўніх часоў. Толькі пры маіх бацьках двор зноў пачаў выбірацца з руін. У доме было прасторна і ўтульна, хоць не раскошна. Вялікі салон, абстаўлены якімісьці недаломкамі ў стылі ампір, ільсніўся гладкім наваскаваным паркетам, але я чуў ад бацькі, што яшчэ ў яго дзяцюковыя гады ён служыў свірнам і на дубовы пласцінчаты паркет насыпалі збожжа. Мэбля ў доме, зрэшты, была сціплая і сабрана выпадкова, за выключэннем некалькіх прадметаў, якія напаміналі аб лепшых часінах і адрозніваліся ад астатняга. Аднак гэта астатняе не было ані ардынарным, ані смешным; ясеневыя жоўтыя мяккія крэслы і канапы, шафы і ложкі з цёмнага дубу і вязу, простыя і спакойныя з выгляду, — усё пераважна зроблена дома пад кіраўніцтвам бацькі. Бацька вельмі любіў рамяство і будаўніцтва, у двары заўсёды былі калёснік, сталяр і каваль, круглы год і іншыя рамеснікі не пераводзіліся ў флігелі. Рабілі мэблю, рамавыя вуллі, вазы, брычкі, усю будаўнічую сталярку. Гэта былі шчаслівыя часы, калі амаль усё выраблялася дома, бо стараліся як найменш траціць грошай у горадзе. Эканомілі нават на танным цукры, які куплялі ў «галовах», замяняючы яго пры нарыхтоўцы павідлаў хатнім мёдам. Прытрымліваліся старога вясковага правіла, што за грошы купляюць толькі соль і жалеза, а ўсё астатняе трэба мець самім, хатняй вытворчасці. Час, вядома, рабіў усё часцей адступленні ад гэтага правіла, але я сам добра памятаю палатно і саматканае сукно, вытканыя на месцы, а таксама дываны над ложкамі, якія вызначаліся густам і шляхетнасцю стылю. Гэтым мы абавязаны працавітасці і ўменню нашых прабабак, якія валодалі шырокімі практычнымі ведамі ў сферы гаспадаркі і хатняга рукадзелля, хаця не мелі іншай падрыхтоўкі, акрамя дамашняй. Яны былі светлым прыкладам разумнага кіравання і няшмат ведалі пра культуру і раўнапраўе жанчын.

Вяртаюся да апісання дома. Пакоі ў ім былі прасторныя, гладка атынкаваныя, мелі высокую столь, вялікія вокны і правільнай формы дзверы з філёнкамі. Сярэдзіну дома з іншымі пакоямі злучалі калідоры і рабілі размяшчэнне зручным і з асобнымі ўваходамі, а паколькі гэтыя

калідоры былі цёмныя, то з'яўляліся для мяне месцам забавы і моцных уражанняў, якія ваганіся паміж цікавасцю і страхам. У калідоры, што вёў праз гардэробную да прыбудоўкі, былі глыбокія нішы: у адной стаяла на стаяках бочачка з воцатам, моцна спавітая павуціннем, а ў другой была печ, якую палілі торфам з вострым кіслым пахам. Распаленая печ у цемры свяцілася чырвоным з сярэдзіны, і хованкі з дзецьмі чэлядзі ў гэтых нішах былі для мяне вялікім узбуджэннем эмоцый. Справа ад прыхожай была сталовая з палісандравай мэбляй, пакрытай чырвонай шарсцяной тканінай, і з шафай для посуду, якая ў нас называлася буфет, дзе захоўваліся фарфоравыя сервізы, якія прэтэндавалі на саксонскае паходжанне. Аднак гэта «парадная» сталовая пуставала штодзень і ўжывалася толькі «ад вялікага звону», калі прымалі афіцыйных гасцей. Я не адчуваў сябе добра ў гэтым урачыстым пакоі, абклееным шпалерамі з залатымі і ярка-сінімі кветкамі, дзе былі абавязковыя розныя святочныя прымусы. Я любіў «гасцінны» пакой на другі бок ад прыхожай, які служыў нам, не ведаю чаму, штодзённай сталовай. Сярэднюю сцяну ў ім займала вялікая жоўтая канапа, а ў куце стаяў ложак, на які мяне клалі ў выпадку лёгкага нездароўя, каб я не быў адасоблены ў прыбудоўцы. Малая трохвугольная шафка ў куце ля акна замяняла буфет, а ля другога быў любімы мамін куток. Там стаяла швейная машына, а ў самым куце — крэсла, дзе звычайна сядзела і шыла маці. Я добра памятаю яе ў гэтым месцы, калі яна падымала вочы ад бялізны і доўга і трохі дзіўна ўглядвалася ў мяне, потым звярталася са словам ці ўсмешкаю. Пасярэдзіне пакоя стаяў абедзенны стол: авальны, рассоўны, з бясконцай колькасцю тонкіх ножак, ясеневы, як большасць мэблі, і, бясспрэчна, дамашняй работы. Такія сталы былі адным з важнейшых вырабаў дваровай сталярнай майстэрні, бо павінны былі адпавядаць патрабаванням тагачаснай гасціннасці і расцягвацца ў шмат разоў для прыёму шматлікіх гасцей гэтаксама, як, паводле прыказкі, расшыраліся сцены шляхецкага дома. У чацвёртым куце былі камін і печ з прыгожай узорнай кафлі з выпуклым узорам у стылі ракако, а каля іх шафка і нізкі столік — звычайнае месца маіх забаў! Там я чытаў або маляваў, уціснуты ў цесны кут паміж камінам і канапай, і замілавана адчуваў утульнасць гэтага кутка. Ужо тады я быў пераборлівы ў выбары месцаў і падсвядома адрозніваў кампазіцыйную вартасць некаторых з іх, якія я асабліва любіў у доме ці ў садзе. Над канапай на сярэдняй сцяне віселі тры пачарнелыя ад старасці алейныя партрэты Грамыкаў з пачатку XIX ст., але трэба з сорамам прызнаць, што імі больш цікавіліся павукі і мухі, чым людзі, бо іх пакрываў тоўсты слой бруду, з-за якога былі ледзь бачны твары. Гэтыя партрэты былі так даўно забыты і занядбаны, што ніхто не пратэставаў, калі я павыдзяўбаў ім вочы, страляючы ў іх з лука, і ніхто не растлумачыў мне ўсёй агіднасці і глупства майго ўчынку.

Апісанне было б няпоўным, калі б я не дадаў, што побач са сталовым пакоем дамашняе жыццё канцэнтраваў суседні пакой — прыхожая: вялізная, застаўленая вешакамі, на якіх вешалі плашчы, буркі і ўсялякае верхняе адзенне, з вялікім сталом пад акном, дзе стаялі «галовы» цукру, скрыні з цвікамі і розным хламам, з насценнай буфетнай шафай і пузатым самаварам, на куфры. Над сталом вісеў вялікі гадзіннік з гірамі з чырвонага дрэва і відам Жэневы на цыферблаце, расфарбаваным у чырвоныя кветкі. Гадзіннік ішоў гучна і пастаянна, яго рэгулярны ход, здавалася, кіраваў парадкам усяго дома, хоць у той час больш жылі па

сонцу, чым па гадзінніку. З прыхожай разыходзіліся два калідоры; яны замыкаліся з дапамогай засоваў на драўляных блоках з вельмі прымітыўным механізмам, і гэтыя блокі бразгаталі, калі адпускалі дзверы. Кожны калідор адзываўся па-рознаму: правы янкліва рыпеў, як журавель на адлёце, левы суха клекатаў, падобна буслу ў гняздзе, а я, слухаючы гэта бразгатанне, бачыў здалёк, якія дзверы адчыняюцца, і па кроках пазнаваў, хто праходзіў. Калі ўслед за буслом не адзываўся журавель, я рыхтаваўся пачуць у прыхожай таптанне і кашаль: прыходзіў нейкі наведвальнік і чакаў, пераступаючы з нагі на нагу, з'яўлення «пана». Пасля чаго часцей за ўсё наступала бурная размова, голас бацькі мацнеў, набіраў усё больш энергічных акцэнтаў, і я быў рады, калі ён не пераходзіў у крык гневу. Прыхожая замяняла канцылярыю і служыла для прыёму ўсіх наведвальнікаў — ад арандатара і парабка да эканома і ўрадніка: гэта было месца перакрыжавання большасці дамашніх спраў.

Сцены прыхожай упрыгожвалі выкінутыя з «лепшых» пакояў парыжскія гравюры: трохі пажоўклыя, але тонка выгравіраваныя, яны прадстаўлялі віды Пулаў і эпізоды напалеонаўскіх войнаў. Іх стыльныя рамы з чачоткі, сапраўды прыгожыя і каштоўныя, дарэмна стараліся прадставіць пышнасць каралёў і з абурэннем цярпелі сваю дэградацыю, як быццам бы ведалі, што на іх месцы з'явяцца танныя алейныя рэпрадукцыі з відамі швейцарскіх азёр і карамелевых прыгажосцей. Гэтыя гравюры — пяць штук — паводле традыцыі былі куплены на аўкцыёне за восем рублёў, і, відавочна, з-за гэтай нізкай цаны імі так грэбавалі. Буфетная шафа некалькі разоў на дзень прабуджалася звонам сталовага посуду, калі прыходзіла пара есці, а цяжкі медны паднос у руках лакея Фядоркі грымеў, як іерыхонская труба. Увогуле прыхожая была поўная гукаў. Шафа ў ансамблі з дзвярамі і з гадзіннікам стварала своеасаблівы аркестр, якому акампанаваў гадзіннік — любімы стары, мой сапраўдны сябра і таварыш дзіцячай адзіноты. З беспамылковасцю лёсу ён гучна адмерваў час, а гадзіны вызвоньваў так важна і велічна, як быццам бы праз яго гаварылі духі продкаў, знамянуючы нейкія важныя сямейныя падзеі. Слухаючы яго, я не мог пазбавіцца ад уражання, што гаворыць нехта жывы паважанага ўзросту і блізкі, які належыць да сям'і і мае ў ёй асобыя правы. Гэтыя адгалоскі падсвядома пранікалі ў мае вушы, як нейкі музычны паўтор, і заставаліся там незаўважана, але абавязкова, як дапаўненне бегу маіх думак, гульняў. Калі б яны змоўклі і ў прыхожай наступіла цішыня, я б адразу гэта са здзіўленнем заўважыў, але пакуль гадзіннік разважаў і маршыраваў, я нават не адчуваў, як гэты пазвоньваючы фон сплаўляецца з маімі думкамі і як гэта гарманічнае яднанне ўзмацняе радасць існавання і надае кожнай яго хвіліне новую прывабнасць. О, як моцна я любіў тады родны дом, не ведаючы нават, што гэта ёсць любоў!..

Другім важным асяродкам нашага жыцця была так званая «прыбудоўка» — трохпакаёвы драўляны дом, спецыяльна прыбудаваны да дома бацькам пад матчыну спальню, таму што вільгаць тоўстых муроў старога дома шкодзіла яе здароўю. Я ледзь памятаю гэту будоўлю, такі я тады яшчэ быў малы: толькі стаяць у вачах нейкія смалістыя стружкі — жоўтыя і пахкія, рассыпаныя вакол новых сцен, і ўзорчатыя карнізы, якімі аздаблялі фасад. Пра гэтую прыбудову я раскажу асобна ў канцы, зараз успомню яе толькі мімаходам. Пра салон я ўжо гаварыў. Да яго прылягаў меншы салон, так званы «кабінецік», дзе знаходзілася другое, горшае, фартэпіяна Віленскай фабрыкі Лапінскага, прызначанае для

вучэбных мэтаў, і вуглавая шафа з кніжкамі, у якой захоўвалася ўся Асташынская бібліятэка і ў якой гаспадарылі мышы і моль. Там было шмат добрых, выдатных кніг з сярэдзіны XIX стагоддзя, вартасць якіх я ацаніў занадта позна. Сярод іншых там было старое выданне «Марыі» Мальчэўскага з ілюстрацыямі, і на адной з іх д'ябал з вострымі растапыранымі кіпцюрамі даганяў уцякаючага казака. Бегаючы ў прыбудову праз цёмны салон і кабінецік для скарачэння дарогі вечарамі, калі было цёмна, я не мог пазбавіцца дрыжыкаў і страху, думаючы пра таго д'ябла. Мне здавалася, што зараз выскачыць з-за парцьеры і схопіць мяне за валасы нейкае страшыдла, якое мая фантазія з гатоўнасцю прадстаўляла ў змроку салона. Я прыспешваў крок, адчуваючы мурашкі па плячах, і не мог дачакацца, калі з-за дзвярэй убачу святло ў пакоі бабулі ці пачую размову ў гардэробнай. Аднак я бегаў праз цёмны салон, як быццам бы ён меў у сабе нейкую загадкавую прыцягальную сілу, хоць мог лёгка абмінаць яго іншай дарогай. Я любіў гэта трапятанне эмоцый, хутка бегучы насустрач збавіцельнаму святлу, якое жывой паласой падала з дзвярэй і прыносіла мне заспакаенне.

Пакой бабулі, як прахадны, да паловы застаўлены аграмаднай ясеневай шырмай, з якой можна было пабудаваць асобную кватэру; ніколі ў сваім жыцці я не бачыў сярод мэблі такога гмаху, і прыдумаць яго маглі толькі ў нашым двары, дзе не было недахопу ні ў прасторы, ні ў дрэве, ні ў размаху.

У гэтым пакоі было вельмі неахайна, бо бабуля была надта хворай, яна паводзіла сябе сапраўды спакойна, але рабіла розныя дзівацтвы і часта гаварыла няўцямна. Напэўна, яна нажыла сабе гэту хваробу, падаючы дагары нагамі і ўдарыўшыся галавой аб падлогу. У суседняй гардэробнай было поўна маткоў нітак і льняной кудзелі, а таксама стаялі прасніцы, на якіх у зімовыя вечары пралі дзяўчаты з чэлядзі. І я добра памятаю, што не раз пралі пры святле патрэскваючай лучыны, нягледзячы на тое, што ў доме не было недахопу газы і лямпы былі ў кожным пакоі. Я любіў прытуліцца ў куце і слухаць размову дзявоцкай пад кіраўніцтвам Юлькі. Юлька была маёй нянькай ад першых дзён, вельмі любіла мяне, хоць па-свойму, бо дзейсна дапамагала маці распешчваць мяне. Яна прыносіла мне цішком прысмакі, у якіх у мяне і без таго не было недахопу, а калі я падрос, яна дапамагала мне выкручвацца ад заняткаў, лічачы, што «дзіця павінна гуляць, а не мучыць сябе кніжкамі». Яна мела дачку Францусю, маю равесніцу, якая неміласэрна бурчала па-беларуску, хоць са мной размаўляла толькі па-польску. Гэта Франуся разам з Міхасём — сынам эканомкі фальварка былі маімі першымі сябрамі ў гульнях.

Вузкія дзверы ў сцяне ў пакоі бабулі вялі праз сені, якія называліся калідорчыкам, у прыбудову. За імі была вялікая чатырохвугольная спальня маці, а збоку меншы пакой бацькі, усё нядаўна пабудаванае з дрэва — сухога і гігіенічнага. Вокны спальні зачыняліся з сярэдзіны шчыльнымі аканіцамі, якія не прапускалі ані праменьчыка святла. Гэтыя аканіцы былі прадметам маёй глыбокай агіды, таму што яны забіралі святло, рабілі ноч больш доўгай, і мне было яшчэ цяжэй дачакацца ранку, які мне заўсёды быў патрэбны ўначы. Бо заўсёды, колькі сябе памятаю, мне трэба было па нечаму сумаваць, нечага чакаць, хоць бы прыезду гасцей, хоць бы заўтрашняй гульні ці сонечнага дня, які прыйдзе пасля ночы. З дзіцячых гадоў я ўмеў моцна і палка хацець, з такім напружаннем думкі, якая ўпрыгожвала, і волі, якая прагнула, што ажыццяўленне

малявалася ў маіх марах у цудоўных вобразах дасканалай прыгажосці ці найвышэйшага шчасця. Адлюстраваныя і шматразова памножаныя ў люстэрку гэтых мараў, даведзеныя да вяршынь фантазійных уяўленняў, жаданні набіралі незвычайную моц, апаноўвалі ўсю маю істоту і станавіліся пакутлівай страсцю, крыніцай вялікай радасці і цяжкага смутку. Як віхар матляла гэта страсць шасцігадовым дзіцём, з выгляду ціхім і спакойным, і ніхто пра гэта не ведаў. Гэта палымянасць жаданняў была маёй вялікай таямніцай, маім найдаражэйшым скарбам і творчай сілай, якая надавала жыццю вартасць і красу. Я насіў у сабе гэту прадчуваемую таямніцу ўважліва і з гонарам, як маці, якая адчувае рухі дзіцяці ў сваім лоне і патаемна ім усміхаецца. Але падсвядомы гонар праяўляўся ў сарамлівым замяшанні, колькі разоў я спрабаваў прааналізаваць гэтыя пачуцці ці, барані Божа, расказаць пра іх каму-небудзь з сяброў. Гэтыя рэдкія спробы скончыліся няўдала і поўнасцю замкнулі мае вусны.

Першая рэч, якой я пачаў моцна прагнуць з тых пор, як памятаю сябе, — чысціня раніцы, якая пачынае новы дзень майго радаснага існавання. Няма нічога дзіўнага, што я не любіў аканіц у спальні, бо яны аддзялялі мяне ад гэтага чакання раніцы, якое пры адчыненым акне я мог бы ўбачыць на некалькі гадзін раней. Я не раз абуджаўся перад світанкам альбо нават поўнасцю ўначы, адчуваў сябе выспаўшымся, жывым і прагным да руху і выгляду дня. Доўга ляжаў з расплюшчанымі вачамі, змагаючыся з гэтымі жаданнямі, а ў канцы, не могучы ўжо болей трываць, нясмела будзіў маці і прасіў, ці не можна адчыніць аканіцу і апрануцца, каб устаць. А маці — заспаная і заслужана абураная, што не даю ёй спаць, коратка загадвала, каб я зноў клаўся і не асмельваўся будзіць яе да восьмай гадзіны. Скончвалася ўсё тым, што я засынаў, забываючыся на свае беды, і цяпер мяне будзіў да новага дня скрэжат адсоўваемых аканіц і паток сонечнага святла, раптоўна заліваючы пакой.

Акно там было толькі адно, але трайное, якое давала моц святла, нягледзячы на гірлянды дзікага вінаграду, якія абрамлялі яго. Ля акна стаяў арэхавы туалетны столік з авальным люстэркам і выгнутымі ножкамі ў стылі ракако. Кут паміж уваходам і акном займаў бацькаў ложак, а на другі бок ад акна стаяў куфар і зашклёная шафка з цацкамі, памятнымі рэчамі і партрэтам караля Яна Сабескага, уздымаючага ўгару пераможны меч. З гэтай асобай я навучыўся звязваць паняцце каралеўскасці і айчыны. Супрацьлеглы кут у глыбіні займаў ложак маці, а за ім мой. Ля ложка на шафцы стаяла лямпа з зялёным абажурам, якая адкідвала цень на пакой, але на пасцель маці падала вясёлае святло з круглай шчарбаціны, выбітай у абажуры. Гэту шчарбіну я памятаю нязменнай на працягу некалькіх гадоў аж да нашага ад'езду ў Вільню. За маім ложкам стаяла табурэтка, на якую я звычайна ўкленчваў на вячэрнюю малітву, маючы перад сабой на століку жалезнае распяцце. Над ложкам вісеў абразок анёла-ахоўніка; я паглядаў на яго падчас малітвы, упэўнены, што ён трымае нас у асаблівай апецы. На бакавой сцяне знаходзілася «Духоўнае благаслаўленне дому» ў чорнай дубовай раме — самая дарагая памятная рэч з дому, якую і зараз яшчэ маю ў сябе. Гэта было сабранне малітваў, ілюстраванае віньеткамі і абразкамі, размешчанымі ў выглядзе крыжа, у той час яно было вельмі распаўсюджана і знаходзілася ў кожным доме. Да гэтага абраза я заўсёды меў асаблівае благагавенне, як да магутнага апекуна, які нясе ўсім нам Божае блага-

славенне. З пачуццём і даверам я ўзносіў яму малітвы, гледзячы на віньеткі, выгляд якіх я ведаў на памяць, а кладучыся спаць пад апеку «Блаславення», я дзякаваў Богу за ўсё, што ён мне даў, і адчуваў, што я вельмі моцна і ўдзячна люблю і бацькоў, і дом, і ўсіх, хто ў ім жыве. Падчас малітвы мяне кранала да слёз дабрата Бога, які пасылаў мне столькі шчасця ў асобе маці і няні, і ў гэтай расчуленасці я нават забываў аб пагрозе страшных сноў, якіх вельмі баяўся вечарам, хоць нічога дрэннага не рабіў удзень. Па прыродзе і паводле выхавання я быў лагодны і нясмелы, і нават палахлівы, і не меў задзірыстасці, як іншыя хлопцы ў такім узросце. Мая нервовасць была такой вялікай, што я дранцвеў ад крыку бацькі, калі ён гневаўся, а вечарам ад боязі, што мне прысніцца нешта страшнае, не хацеў ісці спаць, хоць мае павекі склейваліся. Гэтакія сны, як на злосць, наведвалі мяне часта і пастаянна прыгнечвалі мяне аж да дзесятага года жыцця. Я абуджваўся ад іх уначы перапалоханы і ўжо не мог супакоіцца, ані заснуць зноў, пакуль хтонебудзь з бацькоў не браў мяне да свайго ложка для адвагі. Найчасцей мяне забіраў бацька, і за яго шырокімі плячамі я адразу засынаў, спакойны і ўпэўнены, што тут ужо нічога дрэннага не можа напаткаць мяне.

Маці часта наракала, што мяне «цяжка загнаць у ложак», бо я адшукваў розныя прэтэксты, каб адцягнуць хвіліну развітання з поўным радасці днём і не аддацца пад уладу ночы з яе цемрай, напоўненай страхамі. Я інстынктыўна баяўся набліжэння ночы і з надыходам вечара дрыжаў ад думкі, што вось дзень заканчваецца, надыходзіць ноч, а з ёй — пакуты маіх сноў. Я не мог нават паскардзіцца маці, ані адкрыцца ёй у гэтай маёй штодзённай трагедыі, бо яна была несфармуляванай, схавана ў глыбіні пластоў неўсталяванай душы. Я быў вымушаны насіць яе ў сабе неўсвядомленай, але тым не менш вельмі адчувальнай, і цярпець у бязрадасным маўчанні. Я ішоў да ложка, як на смерць, а ўначы, прачынаючыся ад нейкай трывогі ў сне, не раз доўга слухаў ціканне насценнага гадзінніка, і ў гэтым голасе, адзіным сярод начной цішыні, я шукаў падбадзёрвання, пасля чаго адважваўся разбудзіць каго-небудзь з бацькоў. Васьміграннны стары гадзіннік, які вісеў збоку ў калідорчыку, рыпеў моцна і шумна, як восеньскі цвыркун, і з нейкай нервовай паспешнасцю выстукваў секунды, а яны, нягледзячы на гэта, здавалася мне, праплывалі так марудна. Я ў роспачы думаў, як шмат яшчэ абаротаў павінны зрабіць яго стрэлкі, пакуль прыйдзе ранішняе збавенне. На падлозе пад печчу маленькая начная лямпа капціла тонкім кнотам і адкідвала на сцены доўгія змрочныя палосы, якія не маглі асвятліць пераможнага змроку. Яе дрыжачае мігценне было адзінай святлейшай кропкай, апошнім паратункам у маёй трывожнай самоце, і я доўга вадзіў шырока расплюшчанымі вачамі за яе танцуючым светлаценем, пакуль, нарэшце, стомленасць не змружвала мне вочы і не прыводзіла да моцнага, дабратворнага сну.

Сярод іншых быў адзін дзіўны сон, які наведваў мяне з такой настойлівасцю, што, напэўна, меў аснову ў фізічным стане майго арганізма. Адбывалася звычайна так. Сплючы я адчуваў, ці сніў, што раптам, без аніякай прычыны, у мяне затрымліваецца дыханне, спыняюцца ўсе ўнутраныя рухі і я станаўлюся змярцвелы, як спынены гадзіннік. Аднак я не страчваю прытомнасці і чакаю ў скамянелым напружанні, што будзе далей. Чаканне цягнецца страшна, і сярод страшнай нерухомасці наспявае панічная трывога. І вось наступае перуновае страсенне, гром,

трэск, быццам бы нада мной ці ў маёй галаве рухнуў аграмадны гмах, а потым прыходзіць шэраг шыбкіх удараў, якія аддаюцца ў грудзях гучным паспешным грукатам, пасля чаго павалі наступае супакойванне. І я ўжо не ведаю, ці то мне сніцца гэты ўдар грому, ці ён на самай справе разыходзіцца ў маёй галаве і сэрцы, каб у канцы расплыцца паступова ў спакойнае, лагоднае супакаенне. Гэты перуновы сон паўтараўся так часта, што яго знаёмыя перыпетыі пераставалі ўжо абуджаць страх, і толькі з той хвіліны, калі ён пачынаўся, я з зацікаўленасцю сачыў за яго загадзя вядомым ходам.

Іншы сон быў сапраўды мілым і з'яўляўся шчаслівым выключэннем на фоне жудасных кашмараў, якія так часта нудзілі мяне. Я сніў, што магу лятаць у паветры, але няйначай, як пры ўмове незвычайна моцнага напружання волі, якая з'яўлялася адзіным важным рухавіком гэтых узлётаў. Я канцэнтраваў сілу думкі і напружваў яе да апошняй мяжы, каб падняць уверх сваё цела і ўтрымаць яго ў паветры, і адчуваў, як яно прыцягваецца да зямлі, калі воля слабне, а калі яна ўзмацняецца — зноў становіцца лёгкім, амаль бязважкім, свабодна ўзносіцца ўгару. Сваю волю я адчуваў як бы ў выглядзе крылаў за плячамі, але крылаў не рэальных, а хутчэй сімвалічных. Чым стараннеей я імі працаваў, апіраючыся на паветра, тым выдатнейшы быў вынік, тым больш цудоўным было ўражанне, якое распірала грудзі гордым пачуццём перамогі, шчаслівым пачуццём безгранічнай моцы, выцякаючай з гэтай волі.

Пакідаю па-за ўвагай розныя страшныя прывіды, населеныя д'ябламі і ваўкалакамі, каб затрымацца на сне аб «апошнім судзе», які засеў у маёй памяці на ўсё жыццё. Гэта быў асабісты суд, скліканы толькі дзеля мяне. Недзе ў пахмурных, змрочных прасторах я знаходзіўся ў адчувальнай прысутнасці нябачнага Бога, а перада мной узлятаў крылаты анёл з мячом і вагамі ў руках і сурова падводзіў рахунак майго жыцця і яго ўчынкаў. Чакаў майго пакаяння з маўклівым напамінам, што гэта апошняя хвіліна, калі я магу быць выратаваны, а я — прыгнечаны і ўбогі — не мог нават у думках сабраць свае грахі, ані спадзявацца на спачуванне да іх, і бездапаможна скараўся пад яго асуджальным позіркам. Не ведаю, які прысуд напаткаў бы мяне з вуснаў грознага анёла, але я прачнуўся перад канцом сну і доўга потым успамінаў гэтую незвычайную карціну, і не мог справіцца з дрыжыкамі ўнутры.

Блізкая прысутнасць іншых асобаў давала мне пачуццё бяспечнасці і стварала свайго рода ахову ад начных страхаў, таму я таксама любіў з вечара паволі пагружацца ў сон пад гукі размовы, і гэтыя хвіліны маміных гутарак у зялёным паўценю лямпы захаваліся ў маёй памяці з надзвычайнай выразнасцю. Я адчуваў сябе тады так спакойна і блажэнна, акружаны прыхільнай прысутнасцю самых блізкіх, памятаючы яшчэ хвіліну назад сказаныя малітвы і знак крыжа, якім маці перахрысціла мяне на дабранач. У маім зацішным кутку мне здавалася, што нейкая невыказная словамі ўпэўненасць і шчасце сыходзяць на наш дом і на ўсіх нас, і адначасова мяне агортвала цудоўная стома пасля бегатні на працягу цэлага дня, у якой сон быў далейшым працягам нядаўняй матчынай пяшчоты, калі яна клала мне на галаву свае мяккія, добрыя, ласкавыя рукі. Сціралася мяжа паміж явай і марай, і так добра было блукаць на гэтым імглістым памежжы з прыплюшчанымі вачамі, калыхацца і плыць туды і сюды... Калі казалі ўжо класціся спаць, прыходзіла Юлька, апіралася на руб ложка ў нагах і выслухоўвала загады на наступны дзень ці сама расказвала пра падзеі дня: колькі было курыц з

яйкам, як маюцца індычкі, якіх Франуся пасвіла на дзяцінцы, і што трэба будзе прыгатаваць на заўтрашні абед. Часам ізноў, калі прыязджала радня, маці забірала жанчын у свой пакой і адной з іх саступала свой ложак, кладучыся на маім. Бацька тады пераходзіў у свой кабінет побач, а для мяне прыстаўлялі другі табурэт і сцялілі ля самай сцяны. Там было вузка, цесна і дзіўным чынам цудоўна, уласна кажучы, дзякуючы цеснаце гэтага малога гняздзечка, якім я не мог уволю нацешыцца. Калі прыязджала цёця Ядвіня з Отмыта альбо цёця Карольця з Чамброва, я вітаў іх з падвойнай радасцю, бо загадзя ведаў, што дзякуючы ім у мяне будзе любімы імправізаваны начлег, а ўсё, што не было паўсядзённым, мела ў маіх вачах асаблівую каштоўнасць і неадольна прыцягвала мяне, як прыгожая супрацьлегласць нуднай паўсядзённасці. Колькасць гэтых падзей была па-дзіцячаму малой, але ўнутраны фон быў багаты і шырокі. Усё жыццё я сумаваў па ўсім, што было іншым, далёкім, невядомым, сумаваў па прыгодах і нечаканасцях, верыў, што некалі яны настануць, і атрымліваў найвышэйшае шчасце, палка і радасна чакаючы іх прыходу. Гэта шчасце моцных жаданняў, што стваралі міражы прыгажосці, якія немагчыма выказаць словамі, я выкарыстаў у сваім жыцці аж да самага канца, выпіў да самага дна, астатняй кроплі, і ніякія досведы і расчараванні не змаглі яго ані аслабіць, ані зменшыць. Вяртаюся да справы: нават з прыезду гасцей я рабіў сабе прадмет такіх чаканняў, бо загадзя ведаў, што ўвечары будуць доўгія размовы, што буду іх слухаць са свайго гняздзечка, не стараючыся зразумець іх змест, проста для настрою, і ўжо ўдзень загадзя смакаваў гэты цудоўны паўсон, у які павολі буду пагружацца пад прыцішаныя размовы...

Прылягаючы кабінет бацькі меў акно, скіраванае на поўнач, на так званы «балкончык», які я лічыў самай цікавай рэччу ва ўсім доме. Гэта была доўгая веранда, якая ішла ўздоўж прыбудоўкі з тылу дома і мела ў канцы вітую лесвіцу на верхнюю галерэйку пад страхой. Галерэйка ўтварала свайго роду балкон, адкуль адкрываўся прыгожы від на сад, які тэрасамі сыходзіў уніз да ставоў, на цёмную сцяну яловай алеі і на рад аграмадных надвіслянскіх таполяў, што замыкалі двор. Я спешна пакідаў ніжні паверх і караскаўся па лесвіцы ўгару, каб адчуваць сябе ўзвышана над ваколіцамі, і з цікавасцю назіраў, як па меры пад'ёму перамяшчаецца пункт бачання, расшыраецца перспектыва і становяцца даступнымі новыя віды: палі, узгорысты гарызонт і кальвінскі касцёл, акружаны клёнамі.

За пакоем бацькі ў прыбудоўцы быў «складзік» — яшчэ адна мясцовая назва, інакш кажучы, вялікая кладоўка з прыпасамі, у той час як штодзённая кладоўка знаходзілася ў другім канцы дома бліжэй да кухні. У складзіку віселі вянкі сушаных грыбоў, кольцы каўбасаў і салцісонаў, стосы шынак, паляндвіц, языкоў і паўгузак, грувасціліся кубы з саланінай і салёным мясам, батарэі сокаў і канфіцюраў на паліцах, кадушкі з мёдам, бочачкі са старкай і да таго падобныя прысмакі — усё ў аграмаднай колькасці і найлепшага гатунку, смачна прыгатаванае з веданнем справы і любоўю. Асабліва вяндліна з'яўлялася гонарам кожнай гаспадыні, і яе выраб сваім майстэрствам падымаўся да вышынь артыстызму, бо яна была галоўным прадметам на стале рана і ўвечары і найважнейшым запасам у выпадку прыезду нечаканых гасцей. Таму для гэтых запасаў быў патрэбны асобны складзік, і даволі аб'ёмны, бо недахопу ў гасцях мы не адчувалі ніколі, а госцем лічыўся кожны чужы чалавек, прыезджы наведвальнік, які прыблукаў да двара, не гаворачы ўжо пра

крэўных, што прыязджалі «на коратка», на некалькі дзён, а заставаліся не раз на пару тыдняў і даўжэй. Кожнага трэба было прыняць па-суседску і пачаставаць ад шчырага сэрца, як гэта было ў нас тады агульна прынята. Не магло быць, каб нехта ад'ехаў інакш, як накормлены і адпачнуўшы.

Для апісання застаўся ўсходні канец дома. За «парадная» сталовай знаходзіўся астатні вуглавы пакой, дзе ад пачатку размяшчалася сталярня. Затым гэты пакой падрыхтавалі да прыезду майго настаўніка — пана Рышарда Лапушынскага — і абклеілі яго вельмі смешнымі зялёнымі шпалерамі са сцэнамі палявання, у якіх ганчак глядзеў на аленя зусім абыякава, а засеўшы ў засадзе паляўнічы меў выраз твару бандыта. З гэтага пакою маленькія дзверы вялі ў калідор з цаглянай падлогай і вялікай хлебнай печчу, а насупраць на другі бок была кухня і так званы буфет, гэта значыць пакой для службы. Кухня была вялікая, вечна задымленая і чорная, а па сценах і над печчу маршыравалі цэлыя кагорты мажных бурых прусакоў. Гэта нікога не здзіўляла, бо прусакоў — гэты неад'емны кухонны атрыбут — лічылі відам хатніх жывёл, як катоў ці мышэй, і яны нікому не перашкаджалі, пакуль не падалі ў страву. Не перашкаджалі яны і кухару, у руках якога нажы стукалі па сталешніцы хутка і задзірыста і, вядома, не аднаго пазбавілі жыцця і пасеклі разам з мясам на катлеты. Кухар быў гаваркі і любіў заводзіць са мной размовы, але я хацеў прыходзіць да яго, калі ён быў адзін, без чэлядзі, якая збіралася найбольш разам на вячэру. Тады я быў вымушаны слухаць незразумелыя трывіяльныя жарты, пра якія я ведаў, што яны напэўна былі непрыстойнымі, бо выклікалі раптоўныя выбухі смеху сярод слухачоў, і гэты смех асабліва сарамаціў мяне і ўражваў сваёй грубасцю.

Ля дзвярэй каля буфета знаходзілася крутая і слізкая лесвіца на гарышча, «на гару», як у нас казалі, і тут для мяне пачыналася краіна патаемных радасцей. Я ахвотна лазіў па гэтай лесвіцы, стараўся хутчэй, каб не заўважылі, і мог там заставацца доўга. Гэта была добрая магчымасць мець гадзіну самастойнасці, адзіноты і моцных уражанняў, і я яе ніколі не прапускаў. У мутным паўзмроку, які панаваў на гарышчы, вырысоўвалася грубая моцная перавязь даху і рада нізкіх папярочных брусоў. Ідучы ўперад, я быў вымушаны падлазіць знізу ці пераскокваць над імі, а ногі блыталіся ў жалезе, дратах і хламе, што зласліва падсцерагалі на кожным кроку. У паўзмроку віднеліся невыразныя абрысы нейкіх прадметаў, шырмы, паламаныя крэслы, дошкі і іншая рухлядзь, выкінутая з пакояў, на тоўстых вяроўках віселі скуры, рагожа, мяшкі, а масіўныя контуры каміноў уздымаліся, як умацаваныя вежы, перабольшаныя цемнатой месца і фантазіяй гледача. Трохі патрэсканыя вокны вясёлкава блішчалі ржавымі ад старасці шыбамі, па куфрах і скрынях, напханых паперамі, шасталі пацукі, а зверху праляталі кажаны, шыбуючы, як прывіды, без шэлесту ў змроку паддашша... Навокал было панура, страшна, але цікава, і, аглядваючы гэты храм плесні, даўніны і прывідаў, можна было на яго фоне марыць і імправізаваць, колькі душа захоча. Ну і перш за ўсё, можна было адчуваць сябе па-іншаму, чым штодня, і спазнаць дрыжыкі хвалявання, якія так упрыгожваюць жыццё.

І яшчэ павінен дадаць, што гэтыя заплеснелыя куфры на гарышчы захоўвалі, як я трохі позна аб гэтым даведаўся, поўны сямейны архіў, мноства актаў і дакументаў з двух апошніх стагоддзяў, якія датычылі сямей Грамыкаў і Булгакаў. Частка гэтых папер, верагодна, бліжэйшых

да сучаснасці, захоўвалася ў пакоі бацькі ў дубовым куфэрку з выгнутымі аковамі, і з часам мне ўдалося іх захаваць і перадаць у музейную калекцыю ў Вільні. Але тая ўся вялізная рэшта на гарышчы была незваротна змарнавана, бо ніхто пра іх не клапаціўся, а мне не растлумачылі, што гэтыя дакументы каштоўныя і павінны старанна захоўвацца.

Сёння, аглядваючы вачамі старога чалавека мае тагачасныя адносіны да свету рэчаў у бацькоўскім доме, я павінен падкрэсліць, што гэтыя адносіны былі вельмі жывыя, інтымныя і фантастычныя. Навакольныя прадметы цікавілі мяне не з-за свайго практычнага ўжытку, але як аб'екты цікавых назіранняў, поўных уражанняў займальных прыдумак, якія сілкавалі фантазію. Пакоі нашага дома былі як пушча, цяністая і зарослая, праз якую прадзіралася дзіця, якое прагнула ўражанняў і паглынала ўсюды новае. Гэта быў свет, поўны адкрыццяў, загадак і нечаканасцей. Я жыў з імі блізка, твар у твар, назіраў іх найдрабнейшыя асаблівасці і знаходзіў у іх тое, што абуджала далейшыя эмоцыі і фантазіі. Акружэнне пераставала быць зборам мёртвых прадметаў, станавілася жывым і актыўным, падлягала працэсу суб'ектызацыі, а ён прыводзіў да пачуццёвага зрошчвання дзіцяці з домам і, нарэшце, заканчваўся ланцужкамі знаёмстваў і звычак, любові і прыхільнасцей, якія апляталі сэрца і назаўсёды вызначалі яму месца ў сценах дома, нават незалежна ад іх рэальнага існавання.

Не ведаю, ці не будуць адзінкавыя прыклады занадта нікчэмнымі і дробнымі, аднак з такіх, уласна кажучы, дробязей складалася маё бесперапыннае зліццё з родным домам, якое прыносіла мне столькі новага досведу. Не раз праз шмат гадоў пазней я глядзеў на тую ці іншую абабіўку, падлогу, клямку ці мэблю, бачачы іх не ў звычайнай дзіцячай рассеянасці, але маючы ў вачах і ў руках дакладнае адчуванне і запамінаючы іх уласцівасці, абрысы, фарбы, узоры і да таго падобныя рэчы. А потым раптам я адкрываў усе гэтыя дробязі, усведамляў сабе іх сапраўдны выгляд, якімі паглыбляўся ў аздобы-каментарыі, створаныя маёй фантазіяй, і чэрпаў адтуль кожны раз новыя рэсурсы ўцех і адчуванняў. У чорнай шафцы мамы ў спальні стаяла фарфоравая фігурка, якая прадстаўляла танцорку ці пастушку, выгнутую ў паваротным руху, але з надта расфарбаваным у чырвоны колер тварыкам, як бы пакрытым крывавым запекшымся румянцам. Гэтыя плямы на шчочках надавалі ёй жаласлівы, нават хваравіты выгляд, і не раз у маіх вачах збіраліся слёзы, калі я на яе глядзеў, так мне было шкада танцоркі, яе сцертай скуры і акрываўленых шчок. Клямка ў малым сталовым пакоі таксама прыцягвала маю ўвагу: замок у яе быў не ўнутраны, як іншыя, але пастарасвецку прыбіты да дзвярэй з сярэдзіны, і з яго вытыркала выгнутая клямка з меднай авальнай пласцінкай для націскання. Гэта пласцінка блішчала прыгожа адпаліраванай меднай паверхняй, з-пад якой выглядаў рубчык ніжняга слоя жалеза. Замок ад доўгага ўжывання быў ужо моцна счарнелы, але клямка свяцілася зверху вясёлай жоўтай плямай, а пад націскам рукі пружыніста ўгіналася, і шматразовы вопыт гэтых уражанняў зроку і дотыку быў для мяне прыемным і з'яўляўся сапраўднай забавай.

Такіх уцех было безліч. Іх давалі няроўныя парогі, выслізганыя і падобныя на сядло, каляровыя сцены з абабіўкай розных узораў, малюнак якіх даследаваўся з інвентарызатарскай дасціпнасцю, закураныя столі з павуцінай па вуглах, самая розная мэбля, прыгажэйшая і брыдчэйшая, але поўная ўспамінаў нашага дамашняга жыцця, — словам, убранне

кожнага пакоя гэтага старога дома, запушчанага, поўнага слядоў аддаленых часоў і ўсыпанага гэтымі слядамі, як ліст паперы, увесь пакрыты надпісамі ўздоўж і ўпоперак, нават на палях. У гэтым доме не было нічога абыякавага ці раўнадушнага: уважлівая ўзбуджальнасць дзіцяці надавала кожнай рэчы светлы ці змрочны каларыт, прыпісвала яму вясёлы ці сумны настрой і малявала змест дома фарбамі яго настрою, яго бачання альбо адчування. У калідоры, які злучаў пакой бабулі з прыхожай, была цёмная ніша, падобная на сківіцу, чорная і таямнічая. Гэта месца навявала на мяне перабольшаны страх, і я думаў сам сабе, што калі дзе-небудзь павінен знаходзіцца д'ябал, то хіба ў той нішы. У кабінеціку стаяла другое, горшае, фартэпіяна фабрыкі Лапінскага ў Вільні, і на ім бабуля часта іграла свае «бандуркі», як у доме называлі яе досыць няскладны падбор песень на слых. Заходзячае сонца пранікала праз патройнае венецыянскае акно гэтага пакоя і апошнім бляскам чырваніла палісандр фартэпіяна, афарбоўваючы пакой водблескамі вечаровага зарава. Я бясконца любіў гэта развітальнае святло заходу, якое іграла на мэблі кабінета, цешыўся з яго гарачых крывавых водбліскаў і не мог абараніцца ад пачуцця летуценнага смутку, калі сонца гасла і на фартэпіяна знікалі яго палахлівыя промні, саступаючы вячэрняму змярканню. Ва ўсіх месцах дома я перажываў такім чынам незлічоную колькасць разоў глыбокія і тайныя ўражанні, якія вынікалі з узаемадзеяння са светам рэчаў роднага дома, светам, да якога я ставіўся ўважліва і прыхільна, як да пастаяннага спадарожніка маіх самотных забаў і да якога я набліжаўся з жывой зацікаўленасцю пазнавання і са спакойным задавальненнем звыклай знаёмасці.

Так, кожны пакой нашага дома меў сваё прызначэнне, сваю назву, сваю гісторыю ў ладзе дамашняга жыцця. З кожным звязвалася маё дзіцячае быццё, утвараючы нагрувашчанне назіранняў і адчуванняў, што западалі глыбока ў сэрца і ў памяць. Дзякуючы гэтаму адбывалася нязначнае найпрасцейшае і самае трывалае нарастанне пачуццяў, станавілася грунтоўнай любоў да дамашніх кутоў, аднолькава паважаная і святая, як вузлы сямейных пачуццяў, якія ўжо не можна было ані забыць, ані выкрасліць інакш, як разам з жыццём. Падсвядома стваралася прадстаўленне аб доме — рэчы хоць і штодзённай, як хлеб, вада і паветра, рэчы, аб якой часам можна надоўга забыць, але пагроза страты якой адразу выклікае прыліў цнатлівага замілавання і парыў самага гарачага пратэсту, бунту і адпору. Узмацнялася ўпэўненасць, што ўсё ў гэтым доме — самае лепшае, самае прыгожае, адзінае на свеце, што знаходжанне ў ім з'яўляецца шчасцем, а аддаленне ад яго — нядоляй. Гэтыя думкі не былі выразна сфармуляваны і выступалі хутчэй як цьмяныя інстынктыўныя адчуванні, якія не праяўляліся звонку. Яны прыходзілі самастойна, развіваліся павольі, але няспынна. Як дробныя пылінкі, яны няўлоўна падалі ўглыб сэрца, наслаіваліся там нябачнымі пластамі, якія павінны былі некалі адкрыцца і здзівіць сваімі аграмаднымі памерамі, ствараючы скарб любові і ўспамінаў, якога хапала на ўсё жыццё.

## Забаўкі



Я, калі «сённяшні дзень» звадай злою,
тупасцю шэрай ушчэнт даканае,
зноўку ўцякаю да крэўнага краю,
да падарожжаў сваіх у былое.

Мне праз жыццёвую стому і золкасць
люба прыйсці і прад шафкай укленчыць,
дзе за дугою іржавай вясёлкі
забаўкі бачу святога маленства...

Тут з палісандравых дзверцаў на волю
мкнецца нутро, што глядзіць таямніча,
мой успамін называе і кліча
памяткі, што дарагія найболей.

Вось на пажоўклай, збуцвелай гравюры
з мечам кароль Ян Сабескі паўстане,
вось у гірляндах ліст шлюбнага стану,
зблякнуў, але ацалеў праз віхуры.

Вось статуэткі саксонскага роду:
гронку пастушка скубе сумнавата,
і бернардзін, што вяроўкаю сцяты,
з доміку выйшаў дазнацца пагоды.
Я разглядаю малюнкі і ўзоры,
кубікі сцёртыя галаваломкі,
колер жывы не згубілі алоўкі,
тыя, што колісь завострыў сцізорык.

Гэтая сіняя скрыначка туліць
светлай любові і болю хвіліны,
там перапіска між сынам адзіным
і дарагой, незабыўнай матуляй...
..................................................
Пераглядаю, да згадак прыкуты,
кветкі засохлыя, запісаў словы,
ціха абходжу былога закуткі,
долю сваю ўваскрашаю нанова...

І хоць так лёгка, о мілыя цацкі,
сэрца няўзнак успамінам скрывавіць,
хоць, нібы зданяў, вас мушу баяцца,
ды пастаянна займаюся вамі.



***Фасад дома ў Ліпе.*** *Здымак да 1912 г.*

## Раздзел IV

# Навокал дома

У доме заўсёды гаварылі, што Асташын абавязаны сваім эстэтычным выглядам густу і намаганням бабулі Юліі Грамыка, жонцы дзеда Яна Булгака. Яна прывяла ў парадак сад, які да гэтага ўяўляў сабой дзікія зараслі, насадзіла пладовых дрэў і дэкаратыўных кустоў, зрабіла кветнікі і паабсаджвала дваровыя пабудовы. Яна навяла ў двары парадак, а з ім прыйшло хараство. Фальваркавыя будынкі знаходзіліся недалёка, але не кідаліся ў вочы, умела заслоненыя і заценены прысадамі дрэў з купамі бэзу і акацыі. Клумбы кустоў засланялі стайні насупраць дома і вянком апаясвалі авальны траўнік, а над імі другую сцяну стваралі векавыя таполі, якія вельмі разрасліся і займалі сваімі тоўстымі галінамі вялікія кавалкі неба. Здавалася, што яны аддзяляюць зацішны двор ад цэлага свету і ахоўваюць яго сваёй магутнасцю ад усялякіх злых сіл. Верхавінамі яны лавілі паднябесныя вятры і стваралі ім гаваркі і шумны супраціў, а ў гэтым шуме чулася як бы супакойваючае запэўніванне, што да нашага зацішку тут уніз, у межах квітнеючага дзяцінца, нічога дрэннага прыйсці не можа.

Рэдка які двор мог пахваліцца такім цудоўным падборам раслін, як наш. Таполі акружалі яго з усіх бакоў, узвышаючыся раскідзістым чатырохвугольнікам, і здалёк акрэслівалі на небе сілуэт двара, схаванага ў іх гушчары. Перад ганкам, як масіўныя калоны, стаялі дзве італьянскія таполі і выстрэльвалі ўгару слупы вертыкальных тоўстых галін, але ўсе іншыя нашы таполі належалі да гатунку надвіслянскіх і мелі шырока разгалінаваныя на недасягальнай вышыні кроны. Іх бакавыя галіны адыходзілі далёка ад мацярынскага пня сваімі паднятымі рукамі і выглядалі як вялікія асобныя дрэвы. Таполі адзіныя ішлі ўгару вышэй за ўсе астатнія дрэвы, і нават самыя вялікія і старыя не маглі з імі справіцца і заставаліся ўнізе, як лясны маладняк. Гіганцкімі і адвечнымі былі таполі, і кожная з іх з'яўлялася асобнай, сапраўды магутнай, займала вялікую паласу зямлі сваімі каранямі і яшчэ большую прастору неба цудоўным шматпавярховым дахам кароны з лістоў. Была ў іх спакойная сіла, поўная сваёй, ні з чым не параўнальнай, павагі і перавагі, была звышчалавечая сіла, якая абуджала пашану і пакланенне, як святы гай паганскага бажаства. З вышыні вечных нябёсаў бясстрасна пазіралі таполі на малыя часовыя справы двара, і іх ледзь-ледзь узрушала лёгкае дрыжанне. Але я глядзеў на іх штодня з падсвядомым замілаваннем і прывык да іх выгляду, захоўваючы яго перад вачамі і ў памяці як нешта вельмі блізкае. Я любіў прыслухоўвацца да іх шуму і ўяўляць сабе, што чую ў іх голас бацькі. Я ішоў да таполяў з даверам і ахвотай, як да сваіх самых блізкіх. Прытуляўся да іх вялізных пнёў, камякаватых, парытых глыбокімі распадзінамі патрэсканай кары, у якія ўлазілі і цалкам хаваліся мае нядужыя рукі. Кара была цвёрдай і жорсткай, парослая тоў-

стымі слаямі чырвонай мякаці, пакрытай шэра-зялёным шалупіннем, і, лопаючыся, утварала вялікія шчытападобныя разрэзы, прарэзаныя паглыбленнямі, у якіх гняздзіліся авадні і раслі купіны моху і плесні. Асабліва вялікай і магутнай была таполя каля сліўняку, акружаная чатырма лаўкамі, якая адзінока расла на схіле садовай тэрасы. Пры набліжэнні да яе я забываўся, што гэта пень дрэва, і было ўражанне нейкай аграмаднай істоты, якая займала зямлю па праву сваіх велізарных памераў, нейкага адвечнага гмаху, збудаванага не людскімі, а божымі рукамі, ля падножжа якога адчуваеш такую ж самую ўпэўненасць, як дома з бацькамі. Як жа можна было не любіць такіх шаноўных дзядоў, што засланялі неба сваім размахам, і стаялі на ахове двара, і, нібыта багі-ахоўнікі, благаслаўлялі яго выцягнутымі далонямі з пальцамі-галінамі!..

Ля ўезда ў двор стаяў фундаментальны мураваны будынак на слупах з аркадай і дзвюма моцнымі дубовымі дзвярамі, якія мелі ўнізе квадратную адтуліну для катоў. На мясцовай мове ён называўся «свірнам», у адной палове размяшчаліся засекі, напоўненыя збожжам, а другая насіла назву «імбар», і гэта экзатычная назва спалучалася ў маіх успамінах з пахам газы, аліфы і змазкі, бо гэтыя рэчы побач са скурамі, мелам і жалязякамі складалі сутнасць імбару. Да яго рухомасці належалі таксама пацукі. Яны былі велізарныя і такія смелыя, што не ўцякалі, калі бачылі чалавека, і на іх трэба было ладзіць паляванне са стрэльбай. У імбары панаваў паўзмрок, святло скупа пранікала праз малыя і мутныя шыбы, закрытыя кратамі, і стварала атмасферу, падобную па зместу на страху ў жылым доме. Няяснымі абрысамі там мутнелі прадметы з невядомым прызначэннем, якія мелі пах мінулага і нерэальны выгляд, нейкія бочкі, карабы, колы і скрыні, заплеснелыя, пакрытыя пылам і поўныя шоргату пацукоў. Там было трохі страшна, і гэта, уласна кажучы, мне падабалася.

Я толькі сёння разумею, якой вельмі падатлівай на фантастычнасць была мая дзіцячая натура, як яна прагнула незвычайнасці і была схільнай шукаць яе паўсюдна, дзе надаралася для гэтага нейкая магчымасць. Гэта натура мела два аблічы, супрацьлеглыя адно аднаму, аднак яны лёгка ўжываліся побач: адно свавольна смелае, ахопленае віхрам неразборлівай весялосці, поўнае легкадумнай бесклапотнасці ў святле сонечнага дня, а другое — вечарамі ці ў хвіліну рэакцыі — сур'ёзнае, задумлівае і сумнае, жадаючае моцных перажыванняў і выключных сітуацый, якое з захапленнем гоніцца за ўсім, што ёсць іншае, дзіўнае, не падобнае на звычайнае. Залезці на дрэва, каб паглядзець з гары, захапленне цемрай і добраахвотнае жаданне папалохацца, лазіць па стрэхах і адшукваць у садовых зараслях схованкі, якія б мелі таямніцу, настраёвы характар — усё гэта былі постаці таго, другога, абліччa, і я ўжо сапраўды не ведаю, якое з іх было больш сапраўдным і маім уласным.

Дзіцячая фантазія такая своеасаблівая і творчая, што хапае самага малога адступлення ад паўсядзённасці, каб яна пачала працаваць і ўзносіць свае чарадзейныя палацы. Не трэба было імбарных пахаў, каб абудзіць фантазію. Яна спраўна дзейнічала і ў свірне, куды прывозілі збожжа ў мяхах і высыпалі ў засекі. Калі заязджаў воз, я бег да свірна і ахвотна прымаў удзел у разгрузцы мяхоў, серабрыста-жоўтыя ручаі жыта выліваліся з мяхоў з сыпучым шэлестам і ўкладваліся ў пагоркі — копы, якія плылі, разліваліся, імкнуліся зраўняць паверхню. Было прыемна ўвайсці ў засек і адчуць, як ногі тонуць у паглынаючай і падатлівай

тоні, а потым узяць шуфель і перакідваць з шэлестам збожжа, якое падала пасмамі сухіх зярнят, пругкіх, гладка праслізгваючых скрозь пальцы, як нейкія жывыя стварэнні. Але са збожжам трэба было абыходзіцца ўважліва. Не толькі бацька, але і парабкі перасцерагалі мяне, каб не кідаў жыта дарэмна і гуляў з ім толькі ў межах засека. Я вучыўся ў іх пашане, у якой быў крыху забабонны сантымент, але ён быў пачуццёва моцны і слушны. Гэта ж быў надзённы хлеб, які карміў і даваў сілу, той самы, аб якім я штодня маліўся ў пацерах і крошкі якога нельга было ганьбіць, кідаючы на зямлю, бо такая непавага лічылася грахом. «Хлеб — гэта дар Божы, хто яго не шануе, таму яго пан Бог не дасць», — казаў мне бацька, і твар у яго быў сур'ёзны, а голас суровы, як тады, калі ён гаварыў аб нейкай святыні. Толькі вясковыя людзі адчуваюць і разумеюць вартасць хлеба і годнасць працы, якая яго стварае.

Іншыя будынкі таксама прадастаўлялі магчымасці для фантазіравання. У вазоўні побач са стайняй я шнырыў па брычках і калясках з асаблівай цягай да фаэтона і карэты, бо яны былі больш за ўсё падобны на асобныя домікі, у якіх можна было добра схавацца. Адшукванне такіх зручных сховішчаў, каб незаўважна ў іх затаіцца і раптам вываліцца з іх і напалохаць каго-небудзь, хто праходзіў міма, было маім сапраўдным захапленнем, а таксама з'яўлялася асаблівай гарэзлівай навукай — абдуманае ўменне «хавацца», вывучанае ва ўсіх кутах дома і двара з палкай любоўю, вартай чырванаскурага знішчальніка з амерыканскай аповесці. За стайняй было «гумнішча» — шырокая плошча, засаджаная дрэвамі і замкнутая чатырохвугольнікам будынкаў. Будынкі былі драўляныя, але мелі мураваныя шчытавыя сцены і бакавыя слупы, што сведчыла пра былую заможнасць двара да пажару 1885 года, які быў для нас сапраўднай бядой. Бацька ўсё адбудаваў з бітай гліны з гонтавым дахам. На жывёльны двор я хадзіў радзей, хіба часам, каб выпіць малака проста з-пад каровы падчас вячэрняй дойкі, але затое гумно было для мяне прыцягальным у першую чаргу, хоць па прычынах, якія мелі не шмат агульнага з земляробствам. Бо на многія хатнія рэчы ў мяне быў уласны пункт гледжання: я не пытаўся, што, як і чаму робіцца ў гэтай справе ў гаспадарцы, але цікавіўся ёй выключна з боку маляўнічасці ці сенсацыйнасці. Мала ўнікаючы ў змест рэчаў і людзей, я не стараўся іх ані спазнаць, ані паглыбіць, але горача займаўся іх знешнім выглядам, суб'ектыўным уражаннем, якія яны ў мяне выклікалі. Для мастака ці лірыка гэта магла быць добрая метадыка, але для дзіцяці яна была шкоднай, бо адсоўвала ўбок ад людзей і іх спраў, стварала паміж мной і імі непраходную ізаляцыйную сцяну, рабіла больш убогімі пачуцці, развіваючы разам з мастацкімі схільнасцямі эгаізм. У гумне мне падабалася яго асаблівая архітэктура, поўная скрыжаванняў і папярочак, яго складаная ўнутраная перавязь. «Сохі» — тоўстыя перпендыкулярныя слупы з папярочнымі бэлькамі — дзялілі гумно на тры часткі: сярэдняя да часу заставалася свабоднай для праезду, а ў бакавых знаходзіліся «торпы», поўныя збожжа ці сена, якія закладвалі высока, аж да самага даху. Заходняя частка гумна, прызначаная для сена, мела дзверы высока ў шчыце, а звонку да іх быў мост, па якім вазы ўз'язджалі і скідвалі сена ўніз. Гэтак жа было і са збожжам. Ствараліся пахучыя і хрусткія горы і завалы, з вазоў ляцелі снапы і вязкі і засыпалі ўсё, што сустракалі на сваёй дарозе. На рознай вышыні грувасціліся рухомыя і здрадлівыя ўзгоркі, прабіваліся ямы і варонкі, якія зацягвалі

5. Зак. 297.

неасцярожных пад смех больш уважлівых. Выварочвалі вазы, якія ўз'ехалі на мост, і вялікія горы сена абсоўваліся і апускаліся разам з людзьмі і конямі, пад крыкі і вясёлую мітусню, а потым воз, вызвалены ад цяжару, лёгка з'язджаў уніз, яго неслі накіроўваемыя коні, і далей ён грукаў па цвёрдым таку гумна. У гэтым хаосе кожную хвіліну нехта спатыкаўся і тануў у мяккім сене, як у вадзе. Ніхто і не стараўся гэтага пазбегнуць. Бо гэта была цудоўная забава, якая ўсім дадавала гумару. А ў першую чаргу нам, дзецям. Можна было закапацца ў глыбіні торпаў, поўзаць падземнымі калідорамі і хавацца ў сховішчах, якія не маглі знайсці. Можна было ляцець з гары ўніз і падаць на мякка падсцеленае сена, адчуваючы, нібыта на арэлях, казытанне ў пазваночным слупе і як займае дух — адчуванні аднолькава страшныя і цудоўныя. Можна было куляцца ва ўсе бакі, заходзячыся ад смеху і набіраючы сена ў рот і вушы, калі пры гэтым сустракаўся з суседам і атрымліваў ад яго гуз ці, наадварот, штурхаў яго, што яшчэ лепш. Усё здавалася мілым і смешным у гэтай атмасферы, дзе замест аднастайнай раўніны былі навокал узгоркі, якія выклікалі эмоцыі, схаваныя бездані, поўныя смешных выпадкаў, словам, на кожным кроку — казачная весялосць!

Флігель называўся ў нас «пякарня» — і гэта назва павінна была мець нейкую ўжо забытую прычыну з былых, лепшых часоў Асташына. Пякарня стаяла воддаль пры дарозе да студні, хлявоў і сажалкі для птушак. Далей дарога выходзіла ўжо за межы двара на выган, у канцы якога была адрына, ці стадола, для сена, якую, аднак, звалі не іначай як «броварам», хоць ужо ніхто не памятаў, калі ў ёй варылі піва. Але гэтыя назвы належалі да гісторыі двара і мелі сваю традыцыйную прыцягальнасць: сведчылі, што гэта гісторыя была доўгай і багатай. Нават лугі мелі сваю назву: адзін, каля двара, называўся «Селішчам», а другі, больш далёкі, — «Пастэўнікам» («Кармавіком»). За броварам быў масток праз роў, які ўпадаў у раку Сэрвач, а далей — вялікая конская паша, якую чамусьці называлі «кашарамі» (лагерам). Паша даходзіла да Сэрвачы, куды мы звычайна хадзілі купацца, а дарога вяла ўздоўж рова, які зарос альшанікам, дзе над тарфяністай вадой віліся раі блакітных і гранатавых стракоз і сядалі штохвіліну на аер. Я любаваўся іх поўнымі святла і сонца колерамі і нематэрыяльнымі ўласцівасцямі — лятучасцю і зваротнасцю рухаў, і дарогу ў мяне займала разглядванне гэтага відовішча, якое было падобна на ўрывак з байкі.

Вяртаюся да пякарні. Адзін пакой у ёй займаў пад сыраварню арандатар Іцка — стары сівабароды патрыярх, які ўсіх нас з павагай тытулаваў «вяльможны» і меў з бацькам бесперапынныя спрэчкі аб рахунках і даўгах, якія заканчваліся перуновымі выбухамі бацькоўскага гневу і драматычнымі жэстамі Іцкі. «Каб я быў так здароў, як я не магу даць даражэй!» — крычаў Іцка і пры гэтым заломліваў рукі, біблійна ўздымаў іх да неба, беручы яго ў сведкі праўдзівасці, і ўмеў так стаміць і надакучыць бацьку, што яму часта ўдавалася настаяць на сваім. У другім пакоі гаспадарыла Алеся — насатая і васпаватая «гаспадыня», гэта значыць, апякунка птушак і нерагатай жывёлы. Яе дзяцей — Міхася і Ганну — называлі ў двары «самасейкамі», альбо яшчэ горш — «байстрюкамі», а я доўга паўтараў гэтыя словы, не разумеючы значэння і не ведаючы, што яны служаць для абазначэння пазашлюбных дзяцей «выпадковага» і невядомага бацькі.

Сярэдні, самы вялікі, пакой у пякарні быў прызначаны для сталярні, у ім працаваў стары Вінцусь, ён меў доўгія абвіслыя вусы і злосны

выраз твару, якія не вязаліся з яго лагодным характарам. Ён хадзіў у зрэбных портках, падпяразаны поясам і палатняным фартухом, і гучна соп, працуючы сякерай ці соўгаючы рубанкам. Напружваючыся, ён выдаваў грознае «га!», якое гучала адначасова з бразганнем прылады, а я, прыглядаючыся з зацікаўленай павагай да яго працы, салідарызаваўся з гэтай методыкай і думаў сабе, што я хацеў бы гэтак умець часаць і габляваць, а таксама выдаваць пры гэтым такія мэтанакіраваныя і эфектыўныя гукі. Гадзінамі я глядзеў, як рубанак хрыпіць, і вые, і здымае танюткія стружкі з жоўтай слаістай дошкі альбо як круціцца кола такарнага станка і з-пад долата Вінцуся пырскаюць каскады дробных стужачак і пілавін, як цюрбан, які хутка круціцца, атрымлівае выпукласць, палоскі і ўпадзіны і пры гэтым шыпіць і ўецца, як шалёная змяя. Вінцусь добра памятаў часы паншчыны і па-старасвецку звяртаўся да мяне адначасова «пан» і «ты». «Вось паглядзі, пан, як гэта робіцца», — гаварыў ён, паказваючы мне якуюсьці дэталь работы, задаволены, што можа ёю пахваліцца. А я таксама падсвядома і моцна любіў дрэва, як збожжа. Любіў яго смалісты рэзкі пах, светлы колер, перарэзаны чырвонымі жылкамі, якія ўтваралі такія прыгожыя, мудрагелістай формы малюнкі на дошках, я любіў нават лічыць колькасць слаёў, якія павінны былі азначыць узрост дрэва, і ў гэтых забавах Вінцусь быў мне ахвотным дарадцам. Уначы сталярня служыла спальняй для некалькіх парабкаў і, між іншымі, для Язэпа — свайго роду асташынскай адметнасці. Гэта быў трохі дурнаваты чалавек, кудлаты, ніколі не голены, з бледнымі вачамі, зрэшты, спакойны і няшкодны, хоць быў прадметам кпінаў усяго двара. Ён не ўмеў кіраваць коньмі, але быў добрым хадаком і служыў пераважна на пасылках ці ўвогуле — куды папхнуць. Язэп меў выгляд непрыглядны, нешта паміж жабраком і бандытам, але гэта не ўражвала нас, прывыклых да яго выгляду. Ён быў у Асташыне на міласцінным хлебе ад дзіцячых гадоў, не ўмеў лічыць і не ведаў грошай, апрача «вялікай дзесяткі», гэта значыць, меднай пяцікапеечнай манеты старога ўзору, і толькі ў гэтай манеце прымаў узнагароджанне, якое яму належала.

У сваім апавяданні я вымушаны ўвесь час забягаць наперад і гаварыць аб справах, якія не абавязкова адносяцца да 1882 года, але і да наступных гадоў. Гэтага патрабуе характар апісання мясцовасцей і рэчаў, з якіх кожная ўплывала на мяне пэўным чынам і атрымлівала асаблівы выгляд у сувязі з гэтым уплывам. Усё ў Асташыне «жыло» ў маіх вачах такім жыццём і ў такіх вобразах, якія яму надавала мая ўласная фантазія і пачуцці. Я не змог бы даць выключна апісанне рэчаў у доме, бо кожную яго частку перажываў унутры сябе, на працягу свайго дзяцінства, і перажываў глыбока і горача, усёй душой. Гэтыя перажыванні пакінулі ў памяці незацёрты след, гэты след здаецца мне вартым таго, каб перадаць яго, і ўсе мае намаганні маюць намер толькі правільна і выразна перадаць, можа, не столькі выгляд майго дома і карціну майго дзяцінства, колькі іх колеры, пах, настрой, усе гэтыя дробныя рысы і паўтоны, якія надавалі яму столькі прывабнасці і красы.

З будынкаў застаецца ўжо толькі апошні, але, можа, найважнейшы, — садовы лямус, які, відавочна, па-нашаму называўся інакш, бо быў «залкай», хоць не меў нічога агульнага з залай і служыў вяндлярняй. Залка стаяла ў самым канцы сада ў заходнім кірунку. Яе акружалі густы арэшнік і чаромха, а над крутым дахам звешвалі свае галіны

старыя бярозы, якіх у садзе было шмат. Залка была вялікай, чатырохграннай, ажурна збудаванай са смалянога пачарнелага дрэва і мела каменны падмурак, дзе размяшчалася кузня. На ніжнім паверсе залкі палілі галіны ядлоўцу, дымныя і пахучыя, а на верхнім падвешвалі мяса, прызначанае на вэнджанне. Навокал паверха ішла галерэйка на слупах, заслоненая дрэвамі, і мела толькі пару выхадаў з відам на даліну над Сэрваччу. Калі па прагнілых прыступках я ўзыходзіў на гару і па бэльцы дапаўзаў да той аркі, то заўсёды меў хвіліну радасці і адчуваў сябе вельмі шчаслівым. Я быў схаваны, як быццам бы ў высокай ложы, адкуль мог, сам застаючыся нябачным, акідваць позіркам далі, а вечарам развітвацца з заходзячым сонцам у тую хвіліну, калі яно чырваніла хмары і апускалася распаленым кругам без промняў, пакуль не хавалася за гарызонт і не згасала за фіялетавымі абрысамі варанчанскіх узгоркаў. Гэта залка — мой першы і цалкам уласны, ні з кім не падзелены тэатр, які меў краявід з цудоўным каларытам і нечувана зменлівым размяшчэннем воблачных дэкарацый. Я адчуваў сябе ў ім поўнасцю адасобленым і абсалютна самадастатковым, і гэта пачуццё было незвычайна інтэнсіўным. Я завёў звычку прыходзіць туды часта вечарам, цешыцца думкай, што знаходжуся сапраўды ў сябе, у нікому не вядомым месцы, зайздросна схаваным. Пасля забаў на працягу цэлага дня, запоўненага бегатнёй і крыкамі, пасля таго, як перажыты шалёныя скокі свавольстваў, наступала рэакцыя, прыплывала вячэрняе суцішэнне, і мяне агортвала нейкая блажэнная туга. Тады я ўцякаў на залку, сядаў высока на бэльцы і ўглядаўся ў каляровае зарава заходу, агорнуты раптоўным задуменнем. Нейкае замілаванне сыходзіла з заружавелага неба і рабіла мяне добрым, мяккім і сумным. З даху садовай альтанкі ўражліва крычалі паўліны жаласлівымі галасамі, якія для мяне гучалі на французскі манер, як воклік «helas!», і гэтым яшчэ больш падкрэслівалі меланхалічны настрой акружэння. Але мой смутак быў поўны ўзнёслай гордасці, а сляпы інстынкт шаптаў мне — можа, голасам змея-спакушальніка, — што ў такія хвіліны вызваляецца мая сапраўдная сіла і ў іх хаваецца маё самае вялікае шчасце...

Залка, як я ўжо казаў, стаяла ў канцы саду за домам, у якім яблыні ўжо пазасыхалі ад старасці і на прыгожым дзёрне дажывалі век толькі рэдкія кастраватыя грушы. За хлявом і за пякарняй былі два малодшыя сады, а гэты сад па пачыну маёй маці ператварыўся ў сад для прагулак. Аздобіць яго было лягчэй яшчэ і таму, што ён ляжаў на схіле і спускаўся тэрасамі са значнай розніцай узроўняў. Ад прыбудоўкі да залкі ішла сцежка з капрызнымі закрутасамі, замаскіраванымі зелянінай, а лаўкі і ступені ў цяністым гушчары былі мілай нечаканасцю. Галоўная сцежка знаходзілася на палове схілу, гэта значыць з аднаго боку быў узгорак, парослы дрэвамі, а з другога — схіл да ніжняга ўзроўню траўнікаў і да ставоў. Гэты апісальны інвентар гаворыць не шмат і не дае магчымасці ўявіць прыгожую канфігурацыю саду, які я і сёння так дакладна бачу перад вачамі, што мог бы намаляваць яго план і абазначыць у ім кожны паварот сцежкі і кожную каляровую пляму раслін. Трэба ўмець маляваць, каб пераканаўча перадаць хараство гэтага саду. Я разумею, што няма сэнсу растлумачваць іншым маё захапленне і хацець, каб яны мне паверылі на слова. Бо там, праўда, не было нічога асаблівага: шмат дрэў, кустоў і зелля, крыху дарожак і кветак. Але ўсё гэта было адвечнае, якое расло само па сабе і, дзякуючы гэтаму, поўнае маляўнічасці. Ісці прыходзілася галоўным чынам у прыемным цені зялёнымі калідорамі,

па разнастайнай мясцовасці з нізінамі і ўзвышшамі, з відам на ваду, далячынь і прыгожыя групы дрэў пад сплеценымі галінамі арэшніку, пасярод развешаных гірляндаў і абрамленняў буйнай расліннасці. Ну і, нарэшце, я хадзіў і бегаў па тым садзе хуткімі дзіцячымі нагамі, глядзеў прагнымі да ўражанняў вачамі дзіцяці, а гэта вялікая розніца. Немагчыма перадаць рамантычную чароўнасць гэтага раю майго дзяцінства, каб не перанесціся ў яго шчаслівую эпоху і не паглядзець на яго вачамі, якія глядзелі на яго тады. А сёння?.. Што з таго, што мілай і прыгожай бачу ў ім кожную грудку зямлі, кожны лісцік зарасніка, калі словы бяссільныя і далёкія ад таго іх цудоўнага выгляду?.. Як, напрыклад, апісаць сліўняк, увесь аплецены гірляндамі хмелю і падшыты парасонамі аграмадных лопухаў і маркоўніку, дзе зухавата і заўзята мы сядзелі вярхом на высокай галіне, падглядвалі за шмыганнем вавёркі, свісталі разам са смяшлівымі івалгамі і зрывалі з ляшчын недаспелыя арэхі, хрумкаючы іх цепкую малочную мякаць як найлепшыя прысмакі, дзе я адчуваў сябе самым сапраўдным Рабінзонам, які мае навокал сябе ўласнае звярынае і расліннае царства, і глядзеў з гонарам уладара і з фамільярнасцю сябра на яго квітнеючы і спяваючы абшар?.. Альбо як апісаць уязную алею даўжынёй на некалькі сотнях крокаў, якая вяла да дома цяністымі шпалерамі дрэў, такіх аграмадных і разросшыхся, што там панавала вечная вільгаць і сонца ніколі не даходзіла ў сярэдзіну! На сярэдзіне дарогі мы праязджалі праз масток, бярвенні якога, рухавыя, як клавішы, глуха стукалі пад капытамі, потым пасля крыжа паварочвалі ўправа, уязджалі паміж ліпамі і сцяной бэзу на ўзгорак каля свірна, і адтуль — раптам — адчынялася цудоўная панарама двара, акружанага гушчаром зелені, і дома, які свяціўся белымі сценамі, увенчаны высачэзнымі дрэвамі, з усмешкай, як рознакаляровы аазіс ціхага шчасця!.. «Вітаю цябе, госць, — здавалася, гаворыць гэта зацішша, — хадзі да нас і пераканайся, якое добрае і прыгожае жыццё!..» Коні апісвалі зігзагападобную падвойную дугу на прыгожа выгнутым пад'ездзе, збягаючы з гары лятучай рыссю, фурман моцна шчоўкаў пугай, і экіпаж весела грукатаў па бруку і спыняўся перад ганкам, каб радасна прывітацца.

А з таго ганку які цудоўны быў від — не наглядзецца! Якое там усё было мілае і ладнае, як запрашала вочы задаволена адпачыць на сабе, як абуджала толькі самыя станоўчыя пачуцці згоднага, радаснага ўхвалення! Шырокі ганак апіраўся на чатыры тоўстыя калоны, якія неслі ў сабе спакой і статычнасць адвечных рэчаў, а іх трохі агаленую прастату ўпрыгожвалі перапляценні вінаграду, якія звешваліся над уваходам кучаравай заслонай і пляліся па шчыце на дах. Паўкруглае акно ў шчыце з прамяністым падзелам шыбаў было падобна на вока вышэйшай Божай волі, і ў дзіцячай галаве марылася, што нейкая магутная Божая апека ёсць над намі і над нашым домам. А навокал па баках дома мноства кветак, якія пышна разрасліся, вабілі фарбамі і мядовым пахам, цэлымі кустамі і градамі пераліваліся нашы вясковыя няхітрыя, але такія любімыя півоні, флёксы, мальвы і касачы, засланяючы ніжэйшую да зямлі братву настурак, маргарытак і незабудак. А ў пару цвіцення бэзу і акацыі ўвесь дзядзінец станавіўся адной пахучай кадзільніцай, каляровай ўпрыгожанай кветкамі і звонам харальнай музыкі пчол. Двор стаяў акружаны бела-ліловым воблакам кветкавай пышнасці, як маладая ў шлюбным строі, якая не адважвалася паварушыцца, каб не перарваць чароўнасці гэтай хвіліны. Удзень на стражы двара стаялі буслы і

важна паглядалі на яго з вышыні свайго гнязда на зламанай таполі, а ў месячную летнюю ноч салаўі заліваліся салодкімі спевамі, і гарлавое жабіна кваканне, памножанае адлегласцю, суправаджала салаўіныя канцэрты пад зорным купалам неба...

Справа ад дома крыху ўглыбіні стаяла прыбудоўка са сваім разным шчытом, таксама зарослая вінаградам з развесістымі гірляндамі, перад ёй красаваліся клумбы-кветнікі жывых колераў, якія свяціліся на сонцы, як каштоўныя камяні. Тут жа побач была мая любімая бяроза з арэлямі на вяроўках, павешанымі на бакавой галіне. Там мы смакавалі салодкае шаленства імкнення і ўзлятання высока, з кожным разам усё вышай, над усім садком... А садок быў такі ладны і ўтульны, што яго нельга было не любіць. Я ведаў у ім кожную кветкавую градку на памяць і сёння яшчэ мог бы назваць, якія кветкі дзе раслі і якія матылі ляталі над іх высокімі сцяблінамі каляровымі хмарамі, спакушаючы да бесперапыннага захаплення. Кожную раніцу я вітаў усё гэта, як мілых сяброў, вясёлым поглядам і меў справу да кожнай раслінкі, да кожнай пупышкі. Садок быў мой, квітнеў пад самым акном прыбудоўкі на маіх вачах, я мог сачыць за ўсімі пераменамі ў ім і не расставацца з ім усё лета. Я браў у ім невычарпальныя запасы радасці, спазнаючы на кветках шматлікасць, багацце і прыгажосць фарбы і вобразу, вывучаючы тайнікі пупышак і пялёсткаў, пабудову карон і пладаножак, не могучы наглядзецца на гэта адкрыццё прыроднай прыгажосці, якое само прыходзіла да мяне і прыносіла мне столькі шчасця. Гэты кветкавы садок быў маім настаўнікам у цудоўным свеце колераў, яму я абавязаны сваімі раннімі эстэтычнымі пачуццямі. Воддаль зялёнымі фіранкамі калыхаліся тонкія галінкі бярозы, прысадзістай і грузнаватай, як старая баба. Гэта бяроза была самай любімай сяброўкай майго дзяцінства і выслухала больш маіх прызнанняў, чым усе дзеці-равеснікі. Яна будзіла мяне рана і клікала на малітву сваёй гаворкай, яна засланяла мяне ад паўдзённай спёкі сваім ахоўным ценем, яна суправаджала думкі рытмічным шумам і захоўвала сяброўскую змову ў розныя хвіліны майго дзіцячага жыцця. Калі рана я стаяў ля акна і ўзыходзіў на парапет, каб выскачыць у сад, першы позірк я клаў на бярозавыя плечы, што мерна і спакойна калыхаліся пад ветрам, як бы ціха запамінаючы прыгажосць летняга ранку. Яна належала да сям'і, як старая мудрая бабуля, якая ўсё ведае і ўсё можа прабачыць. І, як бабуля, памерла, кінула малодшае пакаленне. Калі ў 1920 годзе пасля заканчэння вайны я першы раз наведаў Асташын, страшна спустошаны і зруйнаваны, я не знайшоў ані следу ад дома, ані ад дрэў, што акружалі яго, толькі ламачча, груды, папялішча. Але пасля доўгіх пошукаў у зямлі, як быццам бы мяне вяло прадчуванне, я наткнуўся ў адным месцы на абрубак пня маёй бабулькі-бярозы і змог яшчэ раз дакрануцца да яе рукамі з глыбокай пашанай, як да праху дарагой асобы...

Такой была дамашняя атмасфера ў Асташыне, так выглядаў «сельска-анёльскі» фон, на якім я пражыў свае дзіцячыя гады ў ціхім шчасці.

## Сон



О, вазьмі мяне і ахутай,
сад любові, шчасця, пакуты!
Так прыму я збуджэння кару
пры зары знямелай, сцьмянелай,
ты акрэслі сонныя мары
і самоты маёй стань целам...

Бо для тых, хто спіць, прападаюць
рубяжы між мрояй і явай,
дух мой, што заплеснеў з гадамі,
зноў выпроствае крылы жвава.
Я цяпер малады і годны,
і нібы пазбаўлены цела,
з матылямі вяду карагоды,
а наўкол — абсяг срэбна-белы,
поўны радасці і лагоды.

Не іду, а плыву. Як птаха,
штосьці ўзносіць мяне ў вышыні,
каб ляцеў я знаёмым шляхам.
Сэрца страх, аднак, не пакіне,
што ўяўленне, дзе ў небе ясным
льецца, ззяе святло ласкава,
гэта ўсё ці не можа згаснуць
раптам ранкам, у промнях явы?
Сон трывожным крыкам я рушу:
«О, вазьмі мяне і ахутай,
сад любові, шчасця, пакуты», —
і працягваю з болем рукі...
..........................................

Сон не знік: півоневым шляхам,
сцежкай, што між ляшчын уецца,
я іду ў той куток без страху,
дзе акацый мядовыя пахі,
дзе ад шчасця зойдзецца сэрца.

Зноў акацый духмяных гронкі
бурштынова цякуць дадолу,
і гудуць у квецені пчолы,
як арган, урачыста, звонка;
крылы пчол іскрацца вясёла,
лёгка кратаюць кветак ззянне,
залатых, важкіх грон гайданне
так гучыць, нібы арфы голас...
..........................................

Зноў дзіцём я стаў, мне цікава
адчыняць у свет Божы дзверцы,
лён маіх валасоў кучаравы,
б'ецца радасць гонкая ў сэрцы.

Я ныраю ў гушчар зялёны,
што атульвае ціхім гаем,
чую кліч зязюлі і звоны,
ім насустрач сам загукаю,
каб затым з салодкай уцехай
слухаць, як адгукнецца рэха.

Лёг на дол, стаяць нада мною
шчаўе, моркаўнік — лес вялікі,
непралазны, таемны, дзікі,
ды пяшчоты мне не шкадуе,
ахінае шчыльнай сцяною;
праз густую травы заслону
дзень цячэ, спякотай стамлёны,
а зямля хмеліць церпкім духам
зёлак цёплых і, як калыска,
прытуляе да сэрца блізка...

О зямля, мой цуд невымерны,
і вільготнаю, і гарачай,
і духмянай ад траў прывялых
я люблю цябе і не страчу!
Ты для сэрца з маленства стала
як сястра, чулай і лагоднай,
як матуля, ахвярнай, вернай —
мне вядомай, блізкай і роднай
кожнай кропляй расы сцюдзёнай,
кожнай пасмай мяккага лёну,
кожным коласам, кожным зернем...

О, вазьмі, зямля, на калені,
каб не быў да явы прыкутым,
прыгарні, атулі ўяўленнем,
сад любові, шчасця, пакуты!..

..............................................

Ява, прэч! — бо доўжацца чары:
за крыжом, у канцы алеі,
дзе пагорак сіўцом бялее
і збягае на шлях пясчаны,
там палын густы серабрыцца,
там чабор цвіце, ганарыцца,
і чмялі, як чорныя кулі,
мкнуць да квецені, каб упіцца,
а пасля гудуць басавіта.
Прагну ў цёплых зёлках стаіцца,
з галавою яны атуляць,
заміраю, пахам спавіты,
думкі зараз сэнсу не месцяць,
вецер ходзіць па травах з песняй,
сонца спёкай лагоднай песціць...

..............................................

Час спыніўся — свет замірае
і знікае, але без скону
ёсць узгорачак лілій белых,
побач снег бярозавы гаю,
пералёт аблачын нясмелых,
ёсць альтанка з крыжом, прысады,
рой пчаліны з мядовым звонам,
зёлак розных ціхая радасць,
ёсць сінеча родных нябёсаў,
што ўплыла ў дзіцячыя вочы,
і бабулькі-бярозы косы,
што расплесці вятрыска хоча;
ёсць дзянёк, што цудоўным выйшаў,
бег гадзін упрыгожыла квецень,
ёсць бязмернасць боскае цішы,
у якой добра жыць на свеце,
ёсць мой дом, крыжа блаславенне,
у абдымкі да іх лячу я,
і плыве праз бэзу кіпенне
мама — вось імя сваё чую...

.................................................

О матуля! Зямля! Прыкуты
да цябе, сваіх летуценняў,
не хачу я ў свет мёртвых ценяў,
бо збуджэнне нясе пакуты...

.................................................

Толькі ўсё дарма — мроя меркне,
рэчаіснасць расклад іначыць.
Без жальбы і слёз сэрца плача,
пакідае мой сад памерлы...



***Панарама з відам на касцёл у Варончы.*** *Здымак да 1912 г.*

## Раздзел V

## Пачаткі навукі. Дамашняе жыццё (1882–1884)

Мяне пачалі вучыць, калі я меў 7 поўных гадоў, бо да таго берaглі маё заведама слабое здароўе. Зрэшты, без патрэбы, бо хоць я і часта паддаваўся тым ці іншым дзіцячым недамаганням, аднак зусім не быў зломкам, і мне б дакладна не пашкодзіла крыху старанна пасядзець над кніжкамі. Але сярод тагачаснай шляхты панавала даўняе, яшчэ даволі распаўсюджанае, меркаванне, што навука дрэнна адбіваецца на здароўі. Аб гэтым нагадвалі забабоны з XVII ст. аб шкоднасці купання, якое ў пэўных выпадках нават пагражала жыццю смельчака, які б адважыўся на такі ўчынак. Прадузятасць да навукі паходзіла з таго, што моладзь мужчынскага полу, прызвычаеная да гарцавання на кані, да палявання і ўвогуле да руху на свежым паветры, без радасці садзілася за кніжкі, і ў школьным пакоі ёй было цесна і душна. Часта пасля некалькіх гадоў, праведзеных у гімназіі без аніякіх поспехаў, бацькі забіралі дадому вусатых сыноў, у якіх ужо не граматыка была ў галаве, а жаніцьба. Так было з братам маёй маці — дзядзькам Тадэвушам Хаціскім, які вярнуўся дадому ў Мірацічы з другога класа гімназіі ў Навагрудку, бо бацькі баяліся дрэнных наступстваў школы для яго квітнеючага здароўя. А хлопец быў ужо як дуб, проста са школы пачаў ездзіць у сваты і праз пару гадоў ажаніўся. Большасць тагачаснай моладзі не скончыла гімназіі: чатырохкласны школьны стаж ужо лічыўся сур'ёзным вынікам, а універсітэцкі дыплом папросту быў рэдкасцю. У нашым краі яго мелі лічаныя асобы, між іншымі дзядзька Юліян Карповіч з Чамброва[1], жанаты з сястрой бацькі Каралінай.

Калі мяне тады яшчэ не вучылі, гэта, аднак, не азначала, што я нічога не ўмеў. Я вучыўся таму-сяму лёгка сам, ведаў усе літары алфавіта і чытаў друкаваныя тэксты павольна па складах, задумваючыся, таму што так вучыла Юлька сваю дачку Францусю, бо яна не была кемлівай і ёй трэба было ўсё паўтараць шмат разоў, а мне хапала здольнасці паслухаць і запомніць. Я сам не заўважыў, калі навучыўся чытаць «па вярхах», гэта значыць, без складоў, і мог без памылак пералічыць літары алфавіта. Пры гэтым я вымаўляў «a-oń-be» замест «a-ą-b», бо так было лягчэй гаварыць Юльцы, якая на сялянскі манер спрошчвала гучанне насавых галосных. Юлька, мая нянька, мела худы і бледны твар, вузкія бяскроўныя вусны, дробную фігуру і насіла на галаве хустку, завязаную накшталт буды ад дажджу. Яна не была ані ладнай, ані мудрай, але для мяне была вельмі добрай. Яна клапацілася пра мяне як пра ўласнае дзіця, не адступала ні на крок, пакуль я быў малы, і выказвала мне шмат прывязанасці, якую я шчыра вяртаў, бо не раз думаў сабе, што

[1] Скончыў права і Акадэмію мастацтваў у Пецярбургу, пам. у 1911 г.

пасля мамы больш за ўсё люблю маю «Юлечку». Калышучы мяне перад сном, калі не было маці, яна спявала нейкія рэлігійныя песні гарлавым, янклівым голасам, і пазней любіла напяваць пад сон сентыментальныя песні з багатага мясцовага рэпертуару, як, напрыклад, «О, мой матылёк з залатымі крыламі, чаму хочаш мяне пакінуць?..», ці «Ой там на лузе, там на зялёным, ляжыць Францішак, вельмі стамлёны...», альбо яшчэ «Будзь здароў, Караль, непрыяцель строгі ў гарах Карпацкіх заняў усе дарогі».

Юлька называла мяне па-беларуску «каточак», «дзетачка», «любачка», і гэтыя назвы на яе мове гучалі вельмі ўтульна і пяшчотна. Слухаючы, я паддаваўся гучанню яе голаса, як пагладжванню мяккай рукі ці сцяканню цёплай вады пасля ванны, і адчуваў эгаістычнае задавальненне, што гэта мая каханая «Юлечка» — цалкам мая і жыве толькі для мяне. Яна мне дазваляла ўсе свавольствы, бо лічыла, што «панскае дзіця не павінна нічога рабіць, толькі гуляць» і, бронь Божа, «не мучыць сябе навукай». Потым, калі ўжо падлеткам я доўга ўночы сядзеў над якойнебудзь пісанінай, Юлька паціху ўваходзіла ў прыбудоўку, станавілася за маёй спінай з нямым дакорам і, нарэшце, голасам, поўным перажывання, казала: «Каточак, ці табе дня мала? Нашто ты мучыш сябе, трaціш здароўе, седзячы начамі над гэтымі кніжкамі?.. Адпачні, ідзі спаць...» І я тлумачыў маёй добрай няні, што са мной нічога не зробіцца, калі я трохі недасплю, і, каб супакоіць, цалаваў яе зморшчаны твар... Відаць, што і яна моцна верыла ў шкоднасць і непатрэбнасць навукі разам з большасцю іншых. Калі, нягледзячы на гэта, я сам навучыўся чытаць ля яе каленяў і пад яе наглядам, то гэта адбылося цалкам выпадкова і мая бедная Юлька не нясе за гэта абсалютна ніякай адказнасці.

Урокі з Франусяй звычайна адбываліся ў гардэробе. Юлька вадзіла чорным пазногцем па старонцы патрапанага лемантара з аслінымі вушамі і жаласна і нудна выкрыквала: «бэ-а-ба, цэ-а-ца, дэ-а-да», а калі няўдалай вучаніцы не ўдавалася ўслед за ёй належным чынам «сілабізаваць» (прачытаць па складах), яна атрымлівала ад маткі штурхача, альбо і «за кудлы», што, аднак, не надта дапамагала. Чытанне Франусі ішло з вялікай цяжкасцю, бо як вучаніца, так і настаўніца бачылі ў ім Божую кару. Мяне гэты марудны тэмп навукі моцна раздражняў. Будучы жывым і кемлівым, я дзівіўся, як можна было марудзіць над такімі лёгкімі рэчамі, і падказваў Франусі часта і трапна. А Франуся сядзела маленькая, згорбленая ў тры пагібелі, у хустачцы, насунутай на лоб, у «дарослым» кафтане і доўгай саматканай спадніцы, хліпала, пацягваючы носам, і праз слёзы паўтарала манатоннае бурканне, якое стварала ўражанне дажджу, які мерна капаў з жолаба за акном. Я здзіўляўся яе тупой абыякавасці. Мяне цікавіла ўсё. У чытанні, апрача справы гучання, мяне цікавіў яшчэ графічны бок, малюнкавыя рысы тэксту і яго геаметрычная афармленасць. Я разглядаў роўныя і вуглаватыя палачкі, круглыя авалы, якія немагчыма апісаць словамі, сакавітую чарнату літар, якія роўнымі шнурочкамі запаўнялі лісты паперы. У літары «А» я бачыў прысадзістага раскірачанага чалавека, у «О» — вусны, якія крычаць, у «S» — выгнутага да скачка вужа, літара «В» наводзіла мяне на думку аб прыметніку «брухаты», а трайны рытм пабудовы літар «М» і «W» прыцягваў дэкаратыўнасцю і вобразнай складанасцю малюнка. У маіх вачах літары жылі, рухаліся і вандравалі па буквары, прыгожыя,

дзівосныя стварэнні таямнічага мастацтва ўтварэння мовы, пра якую я думаў з сумнай пакорнасцю, як думаюць пра рэчы далёкія і недаступныя. Колькі памятаю, я меў асаблівую любоў да друку, пісьма і малюнкаў, я з цікавасцю разглядаў усё, што трапляла мне ў рукі, ці гэта была кніжка, ілюстраваная гравюрамі, ці каліграфічныя ўзоры, ці карты для гульні, этыкеткі, налепкі і іншыя падобныя рэчы, якія часам прыносілі вандроўныя перакупшчыкі. Маёй марай было мець шмат каляровых алоўкаў і акварэльных фарбаў розных адценняў, а адзінкавыя экзэмпляры, якія мне ўдавалася дастаць, я лічыў скарбам. Прыход з пошты свежага нумара «Сябра дзяцей»[2] быў з'явай, якую я загадзя тужліва чакаў, а яго тытульную віньетку я мог разглядваць гадзінамі, як факір уласную асобу, і знаходзіць у ёй кожны раз новы змест і новую прывабнасць. Невялікія аповесці і апавяданні, што друкаваліся ў гэтым часопісе, я паглынаў з такім жаданнем і захапленнем, як спечаная гарачынёй зямля п'е дождж, і кожны радок тэксту быў для мяне з'явай, якую я моцна перажываў. Я не ўмеў быць памяркоўным ні ў чым, я мог быць толькі халодным ці гарачым. Тое ж самае было і з пісьмом. Уменнем звычайнага пісьма я авалодваў пазней, ва ўзросце каля васьмі гадоў, але друкаваным пісьмом я пачаў карыстацца, напэўна, адначасова з уменнем чытаць, бо з гэтай хвіліны, ведаючы выгляд літар, я мог іх намаляваць. Я ганарыўся гэтым уменнем і хутка знайшоў для яго практычнае прымяненне: пісаў лісты бацькам і Юльцы, падпісваючыся поўным імем і прозвішчам і падаючы на адвароце свой дакладны адрас. Потым я сам насіў гэтыя лісты на пошту, гэта значыць, у рукі адрасатам, якія адказвалі мне на іх вусна. Некалькі такіх дакументаў з датай «1882 год» я маю да гэтага часу, у іх хапае памылак, але як на шасцігадовага самавука — іх адносна няшмат.

Тым часам у доме было прынята рашэнне пачаць маю навуку з французскай мовы, як у той час было заведзена ў польскім асяроддзі, якое яшчэ не адвыкла ад «паўлінавых» і «папугайскіх» звычкаў XVIII ст. Пачалі гаварыць аб тым, каб выпісаць французскую настаўніцу праз рэкамендацыйнае бюро пані Жаленскай у Варшаве. Я не вельмі разумеў, аб чым ідзе гаворка, і не верыў, што нешта магло змяніцца ва ўстаноўленым ходзе нашага жыцця. Я быў вельмі моцна і прыкра здзіўлены, калі аднойчы вечарам Юлька насмешліва сказала мне, аціраючы вочы рогам хусткі, што яна ўжо не будзе мяне больш няньчыць і забаўляць, бо прыехала «новая губернантка» і яна падбярэцца да мяне пасвойму. Пры гэтым яна была вельмі прыгнечанай і з цяжкасцю стрымлівала слёзы, а потым пачала нешта мармытаць пад нос пра «панскія выдумкі» і пра «замучванне дзяцей». Усё гэта праняло б мяне яшчэ большай трывогай, каб я ведаў, пра што ідзе гаворка.

Неўзабаве мяне паклікалі на вячэру і сказалі прывітаць нейкую невысокую шчуплую пані з вострымі рысамі, чорнымі валасамі і дзіўнай незразумелай мовай. Хуткасць і гартаннасць гэтай мовы здалася мне чужой і смешнай, бо я бачыў у ёй нешта птушынае. Мне сказалі, што гэта настаўніца, якую я павінен называць «мадэмуазэль» і слухаць ва ўсім, як бацькоў. Уласна кажучы, гэта была не настаўніца, а толькі

[2] «Сябар дзяцей» — штотыднёвы навуковы і забаўляльны часопіс для моладзі, выдаваўся ў Варшаве ў 1861—1915 гг.

бонна, панна Францішка Рэй, якая паходзіла з горада Аннецы ў верхняй Сабоджыі. У аслупянелым маўчанні я прыслухоўваўся цэлы вечар да размовы маці з прыехаўшай і меў вялікую ахвоту ўцячы куды-небудзь у цёмны кут ці паплакаць на каленях у Юлькі. Але трэба было выцерпець да канца, таму я сядзеў і панура слухаў чужаземную мову, якая для мяне гучала варожа, як цёмны прыгавор лёсу. Я толькі не мог зразумець, навошта ўвесь час упамінаюць нейкае «прасаванне», як мне здавалася з некаторых выразней зразумелых гукаў. Я зразумеў гэта толькі пазней. Гаварылі пра Варшаву, адкуль прыехала бонна і якую па-французску называлі «Варсові», а гэта гучала для мяне аналагічна з «прасоваць» і выклікала такое рэалістычнае ўражанне прасавання, як быццам бы я бачыў рукі, якія соўгаюць жалязкай па сталовым абрусе.

Панна Францішка насуперак песімістычным прадказанням Юлькі аказалася асобай лагоднай і цярплівай, з якой ніхто ў доме не меў вялікага клопату. Праз пару месяцаў яна змагла навучыць мяне даволі бегла гаварыць па-французску, а затым пачала ўводзіць у ярмо граматыкі, скланенняў і спражэнняў, усё з абсалютна здавальняючым вынікам, бо кожная навука, за выключэннем лічбаў і правіл матэматыкі, была для мяне хутчэй забавай, так лёгка яны мне даваліся. Зрэшты, панна Францішка не разумела ні слова па-польску і, хочаш не хочаш, прымушала гэтым кожнага прыстасоўвацца да яе мовы. Толькі праз некалькі гадоў яна навучылася настолькі, што магла калі-небудзь вылаяць фурмана, які біў коней, словамі: «Анджэк, вар'ятка, зяба», што нас усіх забаўляла да слёз, не выключаючы самога вылаянага. Мама некалі бегла гаварыла па-французску, таму хутка ўспамінала гэту мову, і нават бацька вывучыў што-кольвечы і смешна пераплятаў французскую з польскай мовай. Бацькі патрабавалі, каб я для большай карысці і з імі размаўляў па-французску, што было залішне, бо і без таго я ўмеў даволі. Гэта патрабаванне здавалася мне дзікім і невыносным, у такой размове з самымі блізкімі асобамі я бачыў прэтэнцыёзнасць і камедыянства, як мог, пазбягаў звяртацца да бацькоў па-французску і ўжо зусім хацеў маўчаць нават тады, калі меў ахвоту нешта ім расказваць. Мне здавалася, што без польскай мовы і дом, і бацькі, і ўсё навокал страцілі б сваю сардэчную роднасць і сталі б чужымі. Наогул я быў паслухмяны і падатлівы, пазбаўлены настойлівасці і пераканаўчасці, але ў гэтым адным я праяўляў непарушнае пастаянства: я ніколі не даў сябе прымусіць да афранцужвання майго інтымнага свету.

Так карыкатурна пераймалі тады ў сярэдніх шляхецкіх дамах панскія звычаі французскага дваранства. Моцным быў іх уплыў, хутка нават у сціплым асяроддзі ў канцы XIX ст. не вагаліся пачынаць выхоўваць дзіця на іншаземнай балбатні, пакідаючы без увагі вывучэнне ўласнай мовы. Гэты ўплыў дайшоў так глыбока да ніжэйшых слаёў грамадства, што нават у простых людзей асобныя словы, прынесеныя да нас у часы Напалеона, увайшлі ў мясцовую беларускую гаворку і плашч называўся «бурнусам», а жаночы кафтан — «алжыркай». Далёкай была дарога з Алжыра да Асташынскай вёскі на Навагрудчыне, але для моды няма адлегласці, а мода на французскае была вялікай сілай.

Маючы гадоў восем, я ўжо многае ўмеў на гэтай мове, але па-польску мяне не вучылі ўвогуле, пра граматыку і польскую гісторыю не было аніякай размовы ні тады, ні потым. Проста забываліся пра гэтыя прад-

меты як практычна непатрэбныя і, нарэшце, лічылі, што хопіць таго, што можна вывучыць у паўсядзённым жыцці. Я таксама магу смела сказаць, што ўсім, што я ведаю па-польску, я абавязаны толькі самому сабе. Правапісу я навучыўся сам шляхам назірання, бо меў добрую зрокавую памяць: мне было дастакова ўбачыць раз нейкае напісанае слова, а асабліва надрукаванае, каб без памылак запомніць яго арфаграфію. З часам, канешне, успомнілі, што трэба падумаць і пра польскую мову, але гэта было зроблена позна і ў недастатковай ступені, бо перашкаджала абавязковае навучанне па-руску, патрэбнае для ўступнага экзамену ў гімназію. Памятаю, што з-за такога выкладання польскай мовы і я нейкі час лічыў яе другараднай, што яна мае нейкую вузейшую, толькі прыватную сферу дзеяння, не так, як руская ці французская. І таксама, каб не выпадак і ўласная схільнасць, я мог бы да канца жыцця не ўмець правільна гаварыць і пісаць на роднай мове.

Ну і калі б не кніжкі. З васьмі гадоў я пачаў так шмат чытаць і аддаваць кожную хвіліну друкаванаму слову, што ўжо адно гэта магло мяне шмат чаму навучыць. Я зачытваўся ўсім, што мне трапляла ў рукі без разбору і чыйго-небудзь кіраўніцтва, хаатычна і бессэнсоўна, але з незвычайнай здольнасцю запамінаць. Кніга была для мяне адпачынкам, уцёкам ад нуды і перасычанасці, праваднікам у цудоўную краіну прыгожага падману і сяброўкай самотных мараў. А як горача і палымяна я перажываў змест гэтых прыгодніцкіх кніжак, як наіўна верыў: ўсё, што ў іх апісваецца, сапраўды і на самай справе адбывалася, нават калі гэта была самая звычайная аповесць пра лёс двух закаханых. Шкада, што мне ў рукі не трапіла больш кніг гістарычнага зместу. Я меў толькі «Капрэю і Рым»[3] Крашэўскага. Да сённяшняга дня ў мяне стаіць перад вачамі постаць ката Тыберыя і сцэна катавання нявольніка з дапамогай вострай лускі рыбы мурэны. Я шукаў у кніжках дзіўных прыгод, незвычайных сітуацый, далёкіх гарызонтаў, таго, што было «іншым», чым паўсядзённая шэрасць. Я закахаўся ў перанасычаны аздабленнямі барочны стыль апісанняў і дыялогаў, запамінаў іх і паўтараў, як папугай. Я мяшаў гарох з капустай. Дзіцячыя аповесці і байкі, егіпецкія соннікі і раманы, падарожжы і прыгоды, паэзію і гумарыстычныя вершы — усё гэта я прачытваў ад вокладкі да вокладкі, я прагна аб'ядаўся гэтым хаатычным бігосам. З кніжкай у руках я мог забыць пра ўвесь свет, нічога ўжо больш мне не было патрэбна для шчасця, нішто не магло мне падараваць такую раскошу, якую я атрымліваў, уваходзячы ў гэты прыгожы свет. Я ўкладваўся з кніжкай уздоўж шыбаў на падаконніку акна ў гасцінным пакоі, апіраўся на локці, пагружаўся ў чытанне і не ўставаў адтуль, пакуль мяне не клікалі. Які я быў малы, аб гэтым найлепш сведчыць тое, што я мог змясціцца ўздоўж падаконніка звычайнага акна. Калі пра мяне забывалі, я мог заставацца так незаўважна шмат гадзінаў.

Асташын жыў рэальным працавітым жыццём у сферы дамашняй гаспадаркі і яе спраў, а літаратурна-навуковыя пытанні былі яму цалкам невядомыя і абсалютна нецікавыя. Пра іх пачалі думаць толькі ў сувязі з неабходнасцю навучання адзінага дзіцяці. Не падпісваліся і не чыталі

[3] *Я. І. Крашэўскі.* Капрэя і Рым: карціны першага стагоддзя. Вільня, 1860; Варшава, 1875.

ніводнага перыядычнага часопіса і не адчувалі недахопу палітычных ці іншых навін з шырэйшага свету. Яны даходзілі да нашай глушы ў форме цьмяных плёткаў і так позна, што гублялі ўсякую актуальнасць і таму здаваліся малаважнымі. У 1885 годзе для мяне выпісалі «Сябра дзяцей» і, бадай, у тым жа годзе бацькі аднекуль дасталі выразкі з варшаўскага «Слова»[4] з «Агнём і мячом» Сянкевіча, якое тады пачынала выходзіць. Гэта былі два важныя выпадкі ў маім жыцці. Мяне горача зацікавілі лёсы Скжэтускага і Хэлены, хоць, хутчэй, з боку рамантычнага, чым гістарычнага. Я любіў Заглобу, ненавідзеў Багуна і княгіню Курцэвіч. А «Сябар дзяцей» сапраўды стаў маім сябрам і самым любімым таварышам. Нават бандэроль з этыкеткай з адрасам на рускай мове цешыла і хвалявала, калі я з цяжкасцю чытаў на ёй маё перакручанае прозвішча, напісанае чужымі літарамі, але загаловак часопіса быў напісаны ў двукоссі па-польску. Жыццё старэйшых у Асташыне склалася неяк так, што яны не надта мелі час для чытання. Не было такога звычаю, бо не было ані патрэбы, ані здольнасцей. Не ведалі яшчэ перасоўных бібліятэчак аповесцей, якімі ўзаемна часова абменьваліся, а старыя кніжкі, што захоўваліся ў хатнім кнігазборы, лічылі даўнінай, не вартай увагі, і ў іх увогуле не заглядвалі, хоць там былі пераважна высакародныя і каштоўныя рэчы. Я адзін толькі капаўся ў вуглавой жоўтай шафе, якая стаяла ў кабінеціку, і даставаў адтуль то Міцкевіча і Сыракомлю, то Крашэўскага і Каржанеўскага, то старыя гадавыя падборкі «Каласоў»[5], «Літаратурнай бяседы»[6] і «Штотыднёвіка раманаў і аповесцей»[7], дзе не давала мне спакою якая-небудзь дэтэктыўная аповесць Эміля Габорыя пад загалоўкам «Пан Лекок». Я зрабіў сабе ў кабінеціку «чытальню», у якой без перашкоды праводзіў вольныя хвіліны, бо гэты пакой не быў прахадным і знаходзіўся ўбаку. Там перад канапай стаяў вялікі стол, дзе я размясціў альбом Матэйкі, які свяціўся залатымі літарамі, — прадмет майго асаблівага занятку. Ніхто ў доме не цікавіўся маім чытаннем, ані яго зместам, а само чытанне хутчэй хвалілі, бо за ім я сядзеў ціха, не шкодзіў і не «даказваў». Старэйшыя зрэдку прыносілі якую-небудзь пазычаную кніжку з выпадковым зместам, яна потым блукала па кутах цэлымі месяцамі, пакуль у яе не загіналіся рагі, а мухі не заседжвалі вокладку. Адзіныя ж разносчыкі ежы духоўнай у нашых краях — вандроўныя венгры — не мелі ў сваіх «карабах» іншых твораў літаратуры, апрача дваццацікапейкавых брашур тыпу «Гісторыі пра Магелону, неапалітанскую прынцэсу»[8], «Ружы з Таненберга»[9] ці «Рынальда Рынальдзіні, славуты італьянскі разбойнік»[10]. Але я і гэта глупства ахвотна праглынаў, бо сустрэча хоць з якім-небудзь вымыслам аповесці кнігі падарожжаў была для мяне самай вялікай прыемнасцю.

---

[4] «Слова» — дзённік, які выдаваўся ў Варшаве ў 1882—1914 гг.

[5] «Каласы» — штотыднёвік, прысвечаны літаратуры, навуцы і мастацтву, выдаваўся ў Варшаве ў 1865—1890 гг. Ф.С. Левенталем.

[6] «Літаратурная бяседа» — ілюстраваны літаратурна-палітычны штотыднёвік, выходзіў у Варшаве ў 1876—1917 гг.

[7] «Штотыднёвік раманаў і аповесцей» — выдаваўся ў Варшаве ў 1869—1898 гг.

[8] «Гісторыя пра Магелону, неапалітанскую прынцэсу» — выдадзена без аўтара Брэслаўэрам у Варшаве ў 1880 і 1882 гг.

[9] *Ц. Шмід.* Ружа з Таненберга: аповесць для каталіцкіх чытачоў.

[10] *Ц. А. Вульпіс.* Рынальда Рынальдзіні, славуты італьянскі разбойнік. Варшава, 1880.

На фоне ўбогасці і хаатычнасці сілкавання для розуму ў Асташыне становача вылучаўся мастацкі матэрыял, які там выпадкова знаходзіўся. У старых гадавых падшыўках часопісаў было нямала ілюстрацый і добрых гравюр, выкананых з мастацкім пачуццём, а не варварскіх фатаграфічных здымкаў, якія ў хуткім часе замянілі гравюры. Перагортваючы гэтыя тамы з затхлым пахам, я даведваўся пра тое ці іншае падчас разглядвання карцін. Напрыклад, што ў 1870 годзе была франузска-пруская вайна, што французаў перамаглі, што яны капітулявалі пад Седанам, а немцы трыумфальна ўвайшлі ў Парыж і забралі ў Францыі Эльзас і Латарынгію. Пра дадатковыя падрабязнасці я даведаўся ад маці і вельмі шчыра шкадаваў французаў, спачуваў латарынгцам, аддадзеным, як і мы, у чужую няволю, а слова «Седан» з таго часу гучала для мяне панура і грозна — ужо на ўсё жыццё. Я вельмі любіў штотыднёвік «Каласы» і яго мілую тытульную віньетку, якую стваралі стылізаваныя літары, пераплеценыя людскімі постацямі на фоне відаў Варшавы, а ў ім ілюстрацыі Андрыёлі[11] і Густава Дарэ[12]. Першы ілюстраваў літоўскую аповесць Крашэўскага пад назвай «Кунігас» («Князь»), а другі — самога Дон Кіхота з Ламанчы. Што гэта была за раскоша — углядацца ў гэтыя карціны, адкрываць у іх аграмадны, невядомы свет прыгажосці і снаваць з іх нітку ўласных мараў і фантазій. Паважаныя раскідзістыя дубы ў пушчанскіх нетрах, ваяўнічыя літоўцы, апранутыя ў скуры, набожныя каплані, прыгожыя вайдэлоткі, абарончыя замкі і ваенныя намёты старажытнай Літвы, і тут жа побач — Іспанія, экзотыка невядомых краін і звычаяў, змрочныя замкавыя залы, маўрытанскія ўнутраныя галерэі, сярэднявечныя строі, рыцары і дамы, шлемы і парыкі, нарэшце, сам Дон Кіхот, уражваючы худобай і ўзброены з галавы да ног, які чытае рыцарскія раманы ці гатовы да бітвы з ветракамі, неўспрымальны да насмешлівых размоў свайго дабрадушнага збраяносца. Кожны твар, постаць і сітуацыю сто разоў разглядваў уважлівы ненасытны позірк дзіцяці, і гэта давала яму столькі ашаламляльных уражанняў, столькі незабыўных узрушэнняў заставалася яму ў дар! А гэта ж былі звычайныя гравюры ў штотыднёвым часопісе, даступным кожнаму! Як няшмат патрэбна дзіцяці, каб абудзіць яго фантазію і насяліць яе цэлымі сусветамі! Якая важная рэч — своечасова даць дзіцяці ў рукі патрэбную кніжку, і як цудоўна нараджаюцца вынікі!

Але найбольшае захапленне, найгарачэйшы энтузіязм абуджаў ува мне альбом Матэйкі, які ляжаў у ганаровым месцы ў маёй «бібліятэцы». Гэта была вялікая кніга з рэпрадукцыямі абразоў і малюнкаў Матэйкі[13], даволі нядаўна выдадзеная Левенталем у Варшаве. Апынулася яна ў Асташыне хіба з нейкай аказіяй, сляпы выпадак, бо ніхто ў

---

[11] Міхал Эльвіра Андрыёлі (1836—1893), рысавальшчык, ілюстратар і мастак; з 1871 г. працаваў у Варшаве ў якасці ілюстратара часопісаў («Каласы», «Літаратурная бяседа», «Ілюстраваны штотыднёвік») і кніг, у т.л. аўтар ілюстрацый да «Князя» (1882) Я.І. Крашэўскага; у 1881—1882 і 1889 гг. стварыў шмат гуашавых ілюстрацый да «Пана Тадэвуша», а ў 1891—1892 гг. — да «Конрада Валенрода» А. Міцкевіча.

[12] Густаў Дарэ (1832—1883), французскі графік, рысавальшчык, мастак, скульптар; аўтар ілюстрацый, літаратурных твораў, распаўсюджаных у дрэварытах (у т.л. «Дон Кіхот» Сервантэса, 1863).

[13] Альбом... Яна Матэйкі з тлумачальным тэкстам Казіміра Уладзіслава Вайцickага. Варшава, 1876.

6. Зак. 297.

доме ёй не цікавіўся і не даваў сабе клопат нават памятаць аб яе існаванні. Альбом складаўся з некалькіх дзесяткаў гравюр вялікага фармату, а на вокладцы знаходзіўся энергічны профіль Матэйкі, я на яго часта глядзеў, і ён рана стаў мне знаёмы і родны. Ніхто ў доме мне гэтага альбома не паказваў, я знайшоў яго сам, сам растлумачваў, як мог, і сам зрабіў яго пэўнай пастаяннай кропкай у сваіх туманных пошуках і тузе. Нечым шаноўным, дастойным і прыгожым павеяла на мяне з гэтых лістоў. Я з любоўю глядзеў на крэмавую гладкую паперу, на якой тонкія рысачкі гравюры былі адціснуты так чыста, так прыгожа, што ад іх цяжка было адарваць вочы, хоць я і не разумеў, што мне ў іх падабаецца. А змест гэтых карцін? Падзеі нашай нацыянальнай славы, увасобленыя ў фарбах і вобразах! Праз тоўсты панцыр няведання і забыцця да мяне адтуль звярталася Айчына голасам пранікнёным, незаглушаным усімі супрацьлегласцямі. Гаварыла сапраўднае мастацтва, магутнае, трагічнае, бронзавае мастацтва Матэйкі, паказвала каралёў, рыцараў і біскупаў, малявала бітвы і світы, вяло ў касцёлы, палацы і на рынкі, абвяшчала моц, славу і прыгажосць Рэчы Паспалітай, выражаную ў крэсках і плямах, ажыўленую чарадзейнай уладай пэндзля і разца. Першы раз я апынуўся перад невядомым светам артыстычнасці і творчасці, і хоць я нічога не разумеў з яго сутнасці і ўзнёсласці, аднак гэта збліжэнне агортвала мяне подыхам нейкай сілы, якая абуджала пакорлівы гонар і захапленне. Альбом Матэйкі паўплываў на маё жыццё, бо мне на ўсё жыццё хапіла пачуццяў, якія ён ува мне нарадзіў. Шкода, што ў іншых галінах думкі маё дзяцінства не мела такіх высокіх прыкладаў і мудрых павучанняў.

Аднак не трэба занадта сурова асуджаць маіх бацькоў за адсутнасць інтэлектуальных інтарэсаў. Яны былі дзецьмі сваёй эпохі, а гэта была эпоха пасля паўстання, пасля драмы 1863 г. Не прайшло яшчэ і дваццаці гадоў, а памяць пра Мураўёва[14] і шыбеніцы на Віленскіх Лукішках[15] была жывая ў душы кожнага дарослага паляка. Бацькі мае станавіліся на ногі, выходзячы з гаротнага стану, абцяжараныя бацькоўскімі даўгамі, працавалі цяжка, каб дасягнуць незалежнага жыцця. У бацькі было мала ініцыятывы ў справах, якія не датычылі штодзённага побыту, а матчына жыццё запаўнялі клопаты пра дом, пра ўласнае здароўе і маё. Доктар і аптэка не выходзілі з дому, і пры самым нязначным маім недамаганні ўсіх падымалі на ногі і пачыналася доўгая мітусня, якая парушала бег жыцця, звужала яго русла. Не заставалася месца на духоўныя патрэбы. Пасля нацыянальнай катастрофы людзі паволі вярталіся да жыцця і жылі як у летаргічным сне, пад пагрозай арыштаў, даносаў і канфіскацыі. Радаваліся, калі тыя сціхалі і давалі людзям спакойна жыць, ці, хутчэй, весці расліннае жыццё. Сядзелі як мышы пад венікам і клапаціліся пра хлеб надзённы. Больш мелі дачынення да пеўня і сонца, чым да гадзінніка і календара. Пісалі толькі хатнія рэестры і лісты да родных, не ведалі ніякіх тэрмінаў і вэкселяў, бо горад

---

[14] Міхаіл Мураўёў, празваны Вешальнікам (1796–1866), граф, у 1861–1865 гг. – генерал-губернатар Літвы з неабмежаванымі паўнамоцтвамі, патапіў у крыві студзеньскае паўстанне.

[15] Плошча Лукішкі ў Вільні, у 1863–1864 гг. – месца экзекуцыі ўдзельнікаў студзеньскага паўстання, у т.л. Кастуся Каліноўскага і Зыгмунта Серакоўскага.

быў далёка, абароты за наяўныя грошы былі рэдка і мала, спажыванне не нашмат пераўзыходзіла пералік уласных прадуктаў. Дбалі аб парадку і гаспадарлівым ладзе, гэта значыць, каб усё было выкарыстана належным чынам і нічога не змарнавалася, але пра эстэтыку ўкладу дому, пра вышэйшы ўзровень жыцця, адпачынак ад працы не было самага малога паняцця. Не было для гэтага месца ў тагачасных умовах памешчыцкага жыцця, калі трэба было выконваць суровы абавязак штодзённай працы, каб выплаціць падаткі і кантрыбуцыю, не кажучы аб іншых цяжкасцях, і не быць выкінутым з маёнтка, не страціць зямлю, на якую паляк ужо ніколі не мог вярнуцца.

Трэба тут успомніць, што тады нас прыгнятала вайсковая кантрыбуцыя, ці карны падатак, накладзены пасля паўстання Мураўёвым, які бралі ад «лиц польского происхождения» аж да рускай рэвалюцыі 1905 года. Асабліва дзейнічала з усёй суровасцю выключнае права, якое забараняла купляць зямлю па ўсёй Літве і Русі не толькі палякам, але нават каталікам. Маёнткі знішчанай польскай шляхты, паводле гэтага права, пераходзілі выключна ў чужыя рукі, і кожны такі пераход змяншаў колькасць нашых уладанняў, ужо значна скарочаную пасля паўстання, калі мноства маёнткаў канфіскавалі і аддалі расіянам. Памешчыкі адчувалі, што за імі назіраюць, сочаць і пагражаюць у іх апошнім аплоце, на зямлі, на бацькаўшчыне, у родных гнёздах, якія, аднак, былі асяродкамі польскасці і канцэнтрацыя ці раскіданасць якіх вырашала лёс краю і яго прыналежнасць да вялікай польскай бацькаўшчыны. На зямлі пад пагрозай была Айчына, і людзі, як падчас пажару, ні



***Царква ў Валковічах, пабудаваная ў XVIII ст. і ўвекавечаная Адамам Міцкевічам у баладзе «Люблю цябе».*** *Здымак да 1912 г.*

аб чым не маглі думаць, апрача ратавання таго, што гінула на вачах. Тут яшчэ дзейнічаў агульны наказ пераважыць на атрыманай у спадчыну зямлі, наказ не аддаць яе ў чужыя рукі, і ён ставіўся на першае месца перад усім іншым. Разам з катэхізісам яго прывівалі бацькі дзецям як самы святы абавязак, і рэлігійны, і нацыянальны. Паляка, які прадаў свой кавалак зямлі, лічылі б здраднікам, ён страціў бы сваё добрае імя і трапіў бы да ганебнага слупа агульнай пагарды. І я з дзіцячых гадоў наслухаўся ад бацькоў перасцярог і павучанняў у гэтай справе і разумеў яе дакладна. Калі бацькі замала вучылі мяне па кніжках і сшытках, то навукі аб абавязках перад зямлёй не шкадавалі мне ад самых маладых гадоў. У гэтым сэнсе ўсе ў нас былі свядомыя, перакананыя і нястомна працавалі і ў палацах, і ў дварах, і ў засценках — усюды, дзе толькі гучала польская мова.

Пра гэтую мову трэба тут сказаць некалькі слоў асобна. Уласна кажучы, у нас былі дзве польскія мовы — святочная і штодзённая. Літаратурная мова і хатняя гутарковая. Пры чытанні і на пісьме мы ўжывалі мову больш-менш правільную, якая не так моцна адрознівалася ад сапраўднай польскай мовы, хоць наша мела трохі іншы націск і вымаўленне. Але на штодзень, у жывой мове, якая ўзнікала непасрэдна і імпульсіўна, у нас было нешта асаблівае, блізкае да размоўнай, якая склалася пад моцным уплывам народнай беларускай гаворкі з дадаткам розных іншых уплываў. Гэта быў крэсовы бігос, не вельмі правільны граматычна, багаты правінцыяналізмамі, рускімі запазычаннямі, народнымі скрыўленнямі, — прадукт аплаканага часу, калі ад навукі ўхіляліся, а тыя кніжкі, якія ўрэшце ведалі, былі не польскія, а расійскія альбо французскія. А, зрэшты, народная гаворка пранікала ва ўсе поры жыцця двара, на ёй бегла гаварылі не толькі дарослыя, але ёю хутка авалодвалі дзеці, кантактуючы са слугамі і работнікамі. Тыя, наадварот, лёгка вучыліся па-польску, але недакладна і неміласэрна калечылі польскую мову гутарковым варыянтам, які нагадваў рускую мову старых літоўскіх актаў XVI і XVII стст. Сяляне-каталікі былі больш схільныя да апалячвання, чым праваслаўныя, але тых першых было ўсё менш, бо пасля знішчэння уніі пад бізуном запісвалі на праваслаўе цэлымі вёскамі і гмінамі, не пытаючыся згоды людзей, а большасць касцёлаў забралі на цэрквы. Дзяцей ад змешаных шлюбаў па закону павінны былі хрысціць у царкве, і за гэтым пільна сачылі папы і паліцыя, якія акружалі кожную каталіцкую плябанію сеткай шпікоў і шчыльнага нагляду.

Падвергнутая адусюль чужым уплывам, наша мова станавілася пазбаўленай натуральнасці і набывала знявечаныя формы, якія яе засмечвалі ўсё больш. Напрыклад, на нашым паўсядзённым жаргоне гаварылі «я ходзіл» замест «ходзілэм», «кобеты пшышлі» замест «пшышўы», «зобач», «покаж» з націскам на апошнюю галосную, як па-руску, гаварылі «пшынесь та ксёнжка», губляючы выразнасць насавых канчаткаў у вінавальным склоне, і ўвогуле надаючы мове народны каларыт. Усюды чуліся такія выказванні, як «гэта печ», «гэты тополь», «вершэк», «карасіна», «бумажка», «верувка», «открытка», «яшчык почтовы», «казначэйство», «яйко всмятку», — словы і формы, жыўцом узятыя з рускай мовы, і прыводжу я толькі тыя, што мне адразу прыходзяць у галаву, забываючы пра незлічоную колькасць іншых.

Апрача гэтых уплываў засталіся яшчэ з былых часоў французскія словы, якія выразней і ў большай колькасці ўжываліся ў мове адукаваных кабет, бо пані з багацейшых сем'яў прытрымліваліся звычаю размаўляць паміж сабой па-французску і лічылі свайго роду адрозненнем і добрым густам тое, што на самай справе было толькі позай і малпіным крыўляннем. Нават мая маці не адчувала прэтэнцыёзнасці падпісвання сваіх дзявочых лістоў іменем «Жозефіна» і іх адрасавання на падвойным канверце «Мадам» і кінула гэта толькі пасля таго, як выйшла замуж. Уся наша польская мова, нават самая штодзённая і, здавалася б, непрэтэнцыёзная, была прасякнута французскімі ўплывамі і нашпігавана галіцызмамі. Не «істнелісьмы», а «эгзыстовалісьмы», не «провадзілісьмы розмовы», а «конверсац'е» — усе справы майго дзіцячага жыцця былі пакрыты французскім лакам. Я пісаў заданні ў «касце», які часам называлі таксама «сэкстэрнам», на фартэпіяна не займаўся, а «экзэрцытаваў», а пасля скончаных урокаў у мяне была «рэкрэацыя». Калі я дэкламаваў верш, мяне перасцерагалі, каб я не «дэтанаваў» з-за якой-небудзь памылкі і стараўся захаваць «контэнанс». Калі па загаду бацькоў я вызначаўся сваёй няшчаснай ігрой на фартэпіяна, мне рэкамендавалі, каб не «дэканцэртаваў» і не паддаваўся «суб'екцыі», а смела «контынуоваў» ігру.

На імяніны я атрымліваў ад старэйшых «прэзэнты», якімі быў вельмі «контэнт», але за якія павінен быў у «сэкрэце» падрыхтаваць «рэванж» і рабіць ім «сюрпрызы» якой-небудзь «лауркай» з віншаваннем, хоць усе гэтыя імянінныя «фетованя» мяне моцна «жэновалі». Здавалася, што ад нашай беднай зняважанай польскай мовы засталіся толькі канчаткі слоў і граматычныя формы, так усё было пераробленa з французскай мовы і да дзіўнага пазбаўлена натуральнасці. Гэта было, можа, яшчэ горш за навязаную нам рускую мову, нелюбімую і адразу ўзненавіджаную, бо пры нашай уласнай згодзе і дапамозе гэта абядняла і калечыла нашу самую дарагую ўласнасць — прыгожую і дастойную польскую мову.

Мая маці на пісьме ўжывала правільную польскую мову, але ў размове падпадала пад уплывы акружэння і не магла абараніць ад іх мяне, толькі дарослым хлопцам ужо пасля яе смерці я пачаў ачышчаць мову ад чужога смецця і дбаць аб яе правільнасці. Бацька абыходзіўся з мовай вельмі практычна і гаварыў так, як яму было лепш і хутчэй, густа мяшаючы гутарковыя рускія словы, хоць па-руску не ўмеў правільна гаварыць, увогуле не меў здольнасці да моў, а кампаніі расіян пазбягаў, як чорт свянцонай вады. Пазбегнуць было нялёгка, бо ўжо ў суседняй вёсцы быў поп, «урherнік» і «настаўнік» (паліцэйскі і народны настаўнік), а таксама павятовы лекар у Гарадзішчы Сцепужынскі выдаваў сябе за расіяніна і прымушаў гаварыць з ім на дзяржаўнай мове, што выклікала часам смешныя непаразуменні, асабліва з дамамі. Калі доктар запытаў аднойчы ў польскім доме, ці знаходзіцца пацыентка, да якой яго выклікалі, у «краваці» (у ложку), запытаныя пані не маглі зразумець, чаму доктар цікавіцца адзеннем (краватэм — гальштукам) пацыенткі, а не станам яе здароўя. У той час кабеты яшчэ не зусім добра разумелі па-руску, бо атрымлівалі адукацыю дома ці ў прыватных пансіёнах, а дзяржаўных выхаваўчых устаноў пазбягалі як заразы. Бацька, як я ўжо казаў, адчуваў агіду да расійскіх чыноўнікаў і адносіны з імі зводзіў да

афіцыйнага мінімуму. Не наладжваў, як некаторыя іншыя, сяброўскіх выпівак з прыставам і спраўнікам — дзвюма найвышэйшымі палітычнымі ўладамі ў павеце, а ўрадніка супакойваў шчодрым хабарам у натуры і на гэтым абмяжоўваў свае сутыкненні з расіянамі. Затое любіў беларускую гаворку як родную, нараўне з польскай мовай, і ахвотна ёй карыстаўся нават у размове з намі, цытуючы якія-небудзь народныя прыказкі ці характэрныя выказванні. Ён гаварыў пра добрыя ўчынкі: «Кінь за сабою, а знойдзеш перад сабою», аб ашчаднасці: «Ёсць — то разыдзецца, няма — то абыдзецца», пра злых жонак: «Усе дзевачкі, як анёлачкі, адкуль гэтыя жонкі бяруцца?», або пра незаслужаныя прыдзіркі: «Усе бабры дабры, адна выдра ліхая», і гэтую апошнюю прыказку часта з горыччу паўтараў, калі бабуля па сваёй звычцы давала яму прыкурыць: «Даганяючы не нацалавацца», «Свая сярмяжка — нікому не цяжка», «Ахвота горш няволі», «Воўк сабакі не баіцца, адно звягі не любіць», «Пашлі дурнога, а за ім — другога». Можна без канца працягваць гэтыя лапідарныя зярняты народнай мудрасці і спрыту, якія з любоўю ўжывалі бацькі, а мы слухалі, запаміналі і ведалі, як нешта вельмі блізкае. Мы любілі гэту мову, але не ведалі, што нехта мае прэтэнзію называць яе беларускай, бо гэта назва не існавала ў нас увогуле і яе не ведалі і не ўжывалі сяляне. Мову гэту проста называлі сялянскай, бо іншага азначэння не было і самі вяскоўцы не прызнаваліся ў нейкай беларускасці, называлі сябе «тутэйшымі», а сваю мову называлі «простай», альбо «мужыцкай». Бацька ўвогуле любіў прыводзіць у прыклад дэвізы, якія адлюстроўвалі мудрасць народа, і часта мне паўтараў: «Не чыні другому, што табе не міла», прадбачліва павучаў: «Што маеш з'есці сёння — з'еш заўтра, а што маеш зрабіць заўтра — зрабі сёння». А найважнейшым было тое, што гэтыя ўмовы не толькі выконваў, але і спраўна пацвярджаў усім сваім жыццём.

Характар бацькі ўяўляў сабой дзіўнае спалучэнне запальчывасці і лагоднасці. Калі ён быў спакойны, яго твар асвятляла добрая ўсмешка, поўная абаяльнай дабрадушнасці. Цяжка было не адчуваць даверу і сімпатыі, стоячы з гэтым незвычайна добрым, добрасумленным і сціплым чалавекам, а я гаварыў пра пачуцці чужых людзей, бо свае любілі яго ўсім сэрцам. Але я не мог правільна ацаніць яго з-за сваёй боязі і агіды да жэстаў, гвалту і крыку. Я кідаўся ад гарачай сардэчнай прыхільнасці да нясмелай боязі, бо мяне палохалі бацькавы інстынкты, якія я лічыў жорсткасцю, тады як іншыя ведалі, што гэта толькі знешняе, і не прымалі гэтыя выбухі ўсур'ёз. А выбухі здараліся пры любой нагодзе. Калі ў прыхожую прыходзіў парабак, які патрабаваў грошы, адбываўся ўсім вядомы дыялог наступнага зместу:

— Паночку! Я прыйшоў да пана...

— Ну так што ж, што ты прыйшоў? Чаго хочаш?

— Паночку, грошай, — енчыў ніякаваты віноўнік і камячыў шапку ў жмені.

— Чаго?! — роў бацька, як леў у пустыні, і шыбы зашклёных уваходных дзвярэй адказвалі яму дакладным рэхам, звонячы са страху.

— Паночку, я ж прыйшоў, каб пан даў зароблены грошы, — дрыжала пакорная просьба, як быццам бы гаворка ішла аб міласціне, а не аб належным.

— Няма ў мяне грошай. Ідзі к чорту!

— Дак калі ж мне абавязкова трэба на боты, вось зараз разваляцца. Проша даць хоць з пяць рублёў, — маліў адасланы да чортавай інстанцыі.

— Няма, — грымеў бацька ў найвышэйшай ступені ярасці, — адкуль я табе вазьму, чы ў мяне хвабрыка грошай? Не дам!

І тут, як быццам бы яму пагражала канчатковае банкруцтва, ён кідаўся па пакоі, тупаў нагамі, і здавалася, што зараз сатрэ няшчаснага прасіцеля ў парашок. А пасля гэтага выбуху гневу, выкліканага абавязковасцю выдаткаваць грошы, чаго ён не любіў, бацька ішоў самым спакойным чынам да пісьмовага стала, адлічваў, колькі належала, і ўручаў іх патрабуючаму, як бы нічога і не было. Гэты абрад быццам бы панскага гневу быў так добра ўсім вядомы, што толькі навічкі прымалі яго ўсур'ёз, а хто меў вопыт — выказвалі вінаватую пакорнасць, а на самай справе не звярталі на гэта ўвагі.

Калі мой бацька быў тыповым гаспадаром, адданым выключна сельскай гаспадарцы і хатнім справам, то я не магу сказаць таго ж пра маці, хоць і яна была дзейснай, клапатлівай і ніводнай хвіліны не сядзела без занятка. Яна вызначалася палкім тэмпераментам, які і я атрымаў ад яе ў спадчыну, умела прагнуць горача і настойліва і ажыццяўляць свае жаданні. Але ў дамашнюю працу не ўкладвала ўсёй душы. Яна як бы знаходзілася па-за ўсім, мела нейкі свой асобны свет, ізаляваны ад нястрыманых позіркаў і ўмяшанняў. Вядзенне вялікай жаночай гаспадаркі не перашкаджала ёй іграць на фартэпіяна і аддавацца вельмі абшырнай і паглынаючай час сямейнай перапісцы, пра якую я ўжо ўспамінаў. Гэта была адзіная даступная ёй форма праяўлення літаратурных здольнасцей і сімпатый, бо яе звычайна вельмі доўгія лісты займалі папросту дзесяткі старонак і былі падобны то на старонкі дзённіка, то на рытарычна-юрыдычныя філіпікі ці маралізатарскія казанні. Па іх змесце было відаць, што яны мелі на мэце не столькі які-небудзь практычны вынік, колькі папросту жаданне выказацца і напісаць тое, што было ў аўтаркі на сэрцы, што было прыглушана ўмовамі жыцця і не знаходзіла, каму даверыцца. Свае дамашнія любімыя справы маці ўмела ўзгадняць са звычаем часта адведваць блізкую радню ў Отмыце і Чамброве, а пэўную псіхічную адасобленасць спалучала са схільнасцю да адкрытасці і доўгіх размоў з сяброўкамі, і ў першую чаргу з цёцяй Ідалькай са Скробаўка[16], пра якую я раскажу потым асобна. Але ва ўсіх гэтых рэчах маці ўдзельнічала як бы напалову і нават, здавалася, адсоўвалася ад іх на пэўную дыстанцыю за нейкую паўпразрыстую заслону, якая хавала іншыя бакі яе жыцця. І так было на самай справе.

Я не ведаю, якія нязбыўныя парывы непакоілі яе душу ў маладосці, але пасля майго нараджэння яна жыла ўжо толькі думай аб сваім дзіцяці, была ўжо толькі маці. Я ведаю, як яна мяне любіла і як поўнасцю запаўняла жыццё гэтай прыхільнасцю, чэрпаючы з яе і радасць, і боль, і хіба што апошняга было больш за ўсё... Яна поўнасцю аддалася гадаванню сына, слабасць якога перабольшвала да засмучэння. Яна здаўна адчувала пачатак хваробы, якая раней часу звяла яе ў магілу, і ўвесь час трывожылася, што не здолее выканаць сваю задачу, што ўпадзе, змораная, і адразу не ўбачыць сына дарослым і самастойным. І ўжо гэта

[16] Скробавак — фальварак у гміне Цырын над прытокам Сэрвачы.

дазваляла зразумець, якія запасы жывучасці і энергіі крыліся ў гэтай багатай натуры, калі, нягледзячы на трагічны лёс, прадчуваны з маладых гадоў, яна змагла нарадзіць у сабе і распаўсюдзіць навокал сябе столькі цнатлівых, ахвярных сямейных пачуццяў, столькі цудоўнага гумару, вострых жартаў і жывога розуму... О, як гэта сумна — не ведаць сваёй маці, і толькі занадта позна вывучаць па скупых слядах, якой яна была!..

Расказваючы аб пачатках маіх навук, я ўпамінаў музыку, гэта значыць, ігру на фартэпіяна, якой тады, не ведаю чаму, павінен быў валодаць кожны і паказваць сябе, калечачы вушы няшчасных слухачоў. Мяне пачалі вучыць музыцы хутка пасля прыезду француженкі, бо гэтыя два ўменні спалучаліся ў адной салоннай сістэме выхавання. Мяне вучыла сама маці, якая іграла вельмі пасрэдна і не выходзіла за межы банальных танцаў, песень і ўрыўкаў з папулярных опер. Мы садзіліся за старое фартэпіяна ў кабінеціку, маці ўголас адлічвала такты і сачыла за тым, як я трымаў рукі, і за дакладнасцю выканання «экзерцыцый», якія здаваліся мне смяртэльна нуднымі. Не столькі цяжкімі, колькі нуднымі. Я не мог дачакацца канца ўрока і не ведаў, калі прыйдзе хвіліна збавення, бо гадзіннік быў далёка, а панурая манатоннасць і бясколернасць гэтай гадзіны даводзілі мяне да роспачы. Я адчуваў сябе безнадзейна прыгнечаным, як быццам бы ўжо ніколі не засвеціць сонца і не прыйдзе весялейшая хвіліна. Аднастайнае пераліванне тонаў у гамах рабіла на мяне ўражанне бурчання галоднага жывата, а пасажы выклікалі агіду сваёй сухасцю, няўмольнай размернасцю. Яны распаўзаліся шырока па ўсёй клавіятуры, як вялізныя раскірачаныя павукі, а вяртаючыся назад нарастаючым басам, знаменавалі сваё набліжэнне да другога канца клавіятуры, як прыгавор смяртэльнай нуды. Жыццё здавалася нямілым і траціла ўсю сваю прывабнасць у іх абцугах. Так менавіта я ўспрымаў тады гэтыя практыкаванні. Я дрэнна трымаў рукі, нягледзячы на пастаянную муштру маці, мае пальцы былі, як калы, і я станавіўся такім бяздумна атупелым, што маці ўрэшце страчвала цярпенне і біла мяне «па лапах», што, вядома, не вытанчала маіх музычных натхненняў, а выклікала абрыдласць да музыкі, якая гранічыла з нянавісцю.

Я ўспамінаю гэтыя ўрокі з сапраўднай прыкрасцю, а маю мілую любімую маму ў неўласцівай ёй ролі настаўніцы, нелюбімай сваім непаслухмяным вучнем. Праўда, гэтага можна было лёгка пазбегнуць, бо слых я меў добры, мелодыю запамінаў адразу і спяваў яе без фальшу, словам, меў дастаткова прадпасылак, каб стаць пасрэдным дылетантам у музыцы. Аднак гэта было незапатрабавана і скалечана дрэннай методыкай навучання, занадта механічнай, якая ўлічвала псіхічныя асаблівасці вучня. Мая ўвага падчас ігры была сканцэнтравана выключна на тым, каб не памыліцца і не сфальшывіць, і гэты нервовы страх, уласна кажучы, павялічваў колькасць памылак і паскараў катастрофу разгубіцца і скампраметаваць сябе перад слухачамі, што адхіляла мяне ад далейшых спробаў. Праз гады навукі я ўмеў няшмат, урэшце зусім страціў ахвоту і абсалютна перастаў іграць, але не кінуў музыку, бо яе я толькі тады пачаў спазнаваць. Да гэтага я не меў паняцця, што такое сапраўдная музыка, колькі прыгажосці і велічы можа ў ёй быць, я гэта крыху зразумеў толькі ў старэйшых класах гімназіі, калі калега Грыцкевіч пазнаёміў мяне з санатамі Бетховена і творамі іншых класікаў.

У нашым засценку было мала магчымасцей да зносін з музыкай, бо ніхто не займаўся ёй усур'ёз, і нават вандроўныя музыканты былі рэдкасцю. Першае маё сутыкненне з аркестрам таксама не даказвала адсутнасці ў мяне музычнасці. Неяк выбег я на ганак у тую хвіліну, калі прыйшоў такі вандроўны аркестр у складзе чатырох музыкантаў і зайграў нейкую мелодыю, пабедна загрымеў меднымі трубамі. Я адчуў сябе так, як быццам бы ў мяне стрэліў Пярун, і пачаў голасна плакаць, не столькі перапалоханы, колькі прасякнуты грознай прыгажосцю гэтых ніколі раней не чутых гукаў. Я схіляўся пад цяжарам захаплення і трывогі, якія па чарзе апаноўвалі мной, аж пакуль мяне не схапілі і не забралі ў пакой. Але я вырваўся да музыкі і не супакоіўся, пакуль мне не дазволілі стаць у дзвярах і здалёк слухаць іграючых. Бацькі нешта шапталіся паміж сабой пра нервы, а я адчуваў сябе дзіўна, быццам бы мяне неслі крылы, і быў адначасова аглушаны і знішчаны. Тут, напэўна, была яшчэ адна прычына — асаблівая рыса майго характару: крайняя сарамлівасць і страх выказаць перажытыя пачуцці. У нас дома гэта называлася «сарамлівасцю», альбо «суб'екцыяй», і яе мы атрымлівалі ў спадчыну. У мяне гэта было ад бацькі, які меў вельмі моцныя пачуцці, але быў нясмелым, не ўмеў іх выказваць. Чым больш пяшчотным, далікатнейшым, больш інтымным было пачуццё, тым больш мяне ўражвала думка ў ім прызнацца і тым старанней я яго хаваў, тым больш яго саромеўся, як нейкага дрэннага ўчынку. Гэта сарамлівасць была даведзена да апошняй крайнасці, яна выклікала ў мяне магутную рэакцыю, магла падштурхнуць да самых недарэчных і гвалтоўных учынкаў. Я хутчэй бы схлусіў, чым сказаў бы бацьку ці маці нешта вельмі мілае, відавочна звернутае да іх, хоць такія словы не раз меў у сэрцы, у дум-



***Палац Рдультоўскіх у Снове, пабудаваны ў XVIII ст.*** *Здымак да 1912 г.*

ках, нават на вуснах. Я хутчэй бы прызнаўся ў нейкім свавольстве ці хлусні, чым ва ўзрушэнні ад прыгажосці прыроды альбо твораў мастацтва, а гэтыя ж узрушэнні праціналі мяне няспынна, накшталт электрычнага току, і так вясёлкава расфарбоўвалі, так чароўна ўпрыгожвалі мае дзіцячыя гады. Мне здавалася, што мая ўнутраная сутнасць уздрыгвае, дрыжыць ад страху перад самым зневажальным дотыкам чужой рукі, перад позіркам чужога вока і зачыняецца, як бутон кветкі, каб застацца незаўважаным і некранутым. Я палахліва ўцякаў ад малазнаёмых асобаў і не хацеў да іх выходзіць са страху, што павінен буду адказваць на іх пытанні, якія часта здаваліся мне вельмі нястрыманымі. Я саромеўся пахваліцца перад гасцямі ігрой на фартэпіяна або дэкламацыяй, да чаго мяне ўгаворвалі пры кожнай магчымасці, я не пераносіў аніякай дэманстрацыі сябе і выступленняў у вялікай кампаніі. Я нават не любіў, калі хто-небудзь чужы глядзеў на мяне вочы ў вочы, бо мне здавалася, што зараз ён паспрабуе дастаць на паверхню нешта з таямніц майго ўнутранага свету. А я хацеў бы здавацца самым звычайным, лічыцца дурнаватым і дрэнным хлопцам, чым адкрыць што-небудзь з тых прыгожых, далікатных і няўлоўных пачуццяў і парываў, якія перапаўнялі мяне. Мая нясмеласць была на мяжы з хваравітай расчуленасцю і з'яўлялася для мяне прычынай многіх прыкрых хвілін і цяжкіх засмучэнняў, бо яна пазбаўляла мяне раўнавагі і павагі да самога сябе, рабіла нерашучым, ледзьве не баязлівым, даводзіла да роспачы, да бязвыхаднага становішча. Я веру, што такі характар пры неспрыяльным збегу акалічнасцей мог бы падштурхнуць больш дарослага хлопца нават да самагубства.

А ўнутраныя формы жыцця нашага дома былі такія добрыя і спакойныя, такія далёкія ад гэтай маёй унутранай драмы. Асабліва зімой усталёўваўся вельмі ўпарадкаваны і рэгулярны ход жыцця. На працягу дня кожны быў заняты сваім: бацька — у гумне, маці — паміж гардэробнай і кладовай, я меў урокі, а з надыходам прыцемкаў усе збіраліся ў сталовай і размаўлялі паміж сабой ці з гасцямі. Бо трэба заўважыць, што нас рэдка наведвалі такія госці, якіх трэба было праводзіць у салон на размову ні аб чым на канапе. Людзей блізкіх запрашалі да сталовага пакоя і там разам бавілі час за накрытым сталом. Увечары нехта запальваў вісячую лямпу, якая заўсёды пахла сцякаючай з яе газай, пры гэтым гаварыў «Слава Ісусу Хрысту», і адразу навокал рабілася светла і ўтульна. Вясёлы круг святла падаў на стол, асвятляў тых, хто сядзеў наўкола, і здавалася, што ён агортвае і аб'ядноўвае іх, пакідаючы астатнюю частку пакоя ў цені. Твары набывалі вострыя выразныя контуры і прыцягвалі позірк сваёй падкрэсленай характэрнасцю. Я любіў займаць цёмны куток збоку, адкуль можна было ахапіць позіркам увесь пакой і падсвядома цешыцца выглядам гэтай ціхай дамашняй групы, што сабралася пад лямпай. Я ведаў, што я іх усіх кахаю і люблю і сэрцам знаходжуся з імі, але адначасова я разумеў значэнне свайго адасобленага наглядальнага пункта і думаў пра яго з гордасцю. А дакладней, праз маю галаву пралягалі розныя няясныя думкі, у якіх, аднак, дамінавала такое самазадавальненне.

Неўзабаве з шумам і пырсканнем уязджаў самавар — вялізная медная махіна, якая магла напаіць больш за дваццаць асобаў, а напаіць — гэта не значыць задаволіцца парай шклянак, бо гарбату пілі без канца і

без меры, ужо трохі па-руску. Сервіроўка была простай, але разлічанай на шмат асобаў, бо звычайна ў нас было людна і поўна гасцей, родных, дамашніх і выпадковых асобаў, і наш дамашні ачаг гарэў весела. А самым цэнтрам ачага быў, уласна кажучы, самавар, які ўвесь час трымалі пад парай і які ніколі не гаснуў, як літоўскі зніч.

Роля самавара ў апісаннях жыцця нашых двароў у XIX ст. яшчэ мала ўзята пад увагу. Самавар недаацэнены. Памыліўся б той, хто палічыў бы яго толькі забеспячэнцам гарачага напою. Самавар глыбока пранік у сямейнае жыццё двара і проста стаў сімвалам дома і яго гасціннасці, ён нястомна рыхтаваў сардэчнае цяпло і прыхільны прыём ва ўсёй шырыце гэтых паняццяў. Самавар ля стала, накрытага для гарбаты, — гэта бачны знак клопату жанчын у доме, прасякнутых жаданнем як мага хутчэй і больш шчодра накарміць, напаіць і абагрэць мілага госця, а таго, хто прыйдзе нечакана з холаду, цемры і непагадзі, прыгалубіць светлымі промнямі дамашняга ачага. Самавар, які блішчыць паліраванай меддзю, выпускае бадзёрыя клубы пары, вядзе сваю бурлівую бяседу, — гэта прыемная вонкавая абалонка пачуццёвага зместу, які называецца прастата, павага, гасціннасць, людскасць.

У нашых дварах сярэдняй шляхты не любілі цырыманіяльных гарачых вячэраў, якія патрабавалі доўгіх прыгатаванняў, зрэшты, у вёсцы не заўсёды было ў запасе мяса ад мясніка, а хатнюю птушку лічылі нечым апошняга гатунку. Трэба было падаваць ежу шчодра і хутка. Ад фармальнасцей вызваляла імправізацыя. Хапалі цапу-лапу, што было пад рукой, а паколькі запасаў было незлічонае мноства, заставалася толькі паклапаціцца аб выбары. Замест адной гарачай стравы, спешна прыгатаванай, на стол падавалі некалькі халодных страў, якія складаліся з самых лепшых кансерваў і саграваліся дасканалым араматызаваным напоем. Так утвараўся новы тып вячэры, які коратка называлі «гарбата», але які быў роўны самай лепшай вячэры. Гэты тып вячэры быў у нас заведзены з незапамятных часоў. Кожны прыём ежы апрача абеду называўся гарбатай, назвы «снеданне» і «вячэра» былі закінуты, але наіўным быў бы той, хто меркаваў, што атрымае толькі голую гарбату з нейкім лёгкім дадаткам, як гэта практыкавалася ў арыстакратычных дамах вышэйшага свету, якія, як малпы, пераймалі замежныя звычаі. О, не! Няхай кожны падзякуе небу за навагрудскую шляхецкую гасціннасць — простую, ненадуманую, але шчодрую, радую кожнаму госцю, а хоць бы яго на той свет адправіць ад празмернага пераядання смачным пачастункам. На прыезджага кідаліся, як на ахвяру, як на паддоследнага труса, каб на ім выпрабаваць вартасць дамашніх прысмакаў і задаволіць патрэбу шчодрага сардэчнага частавання. Стол застаўлялі, як на Вялікдзень, неверагоднай колькасцю халодных страў і закусак, і гэта рабілася з такім гастранамічным марнатраўствам, што госць сам не ведаў, з чаго пачынаць, і капітуляваў, не дайшоўшы да паловы сталовага спісу. У гэтай шчодрасці быў, безумоўна, поўны прымітывізм, але яго пачуццёвая аснова ўсё выраўноўвала і ратавала сваімі раззбройваючымі намерамі: гаспадары хацелі пахваліцца перад госцем колькасцю і якасцю сваіх запасаў і належным чынам яго ўшанаваць, частуючы ад усяго сэрца самым лепшым, што толькі мелі. Цяжка было не прыняць такога пачцівага намеру і не ўважыць яго належным разуменнем.

І чаго там не падавалі да такой «гарбаты»! Першынства, вядома, трымалі нашы славутыя на ўсю Польшчу вяндліны, што пахлі дымам



***Чамброў. Ганак з калонамі перад аднаўленнем дома.*** *Здымак каля 1925 г.*

ядлоўцу, паляндвіцы, шынкі, каркавіны, каўбасы і сальцісоны, языкі, паўгузкі, нарэшце, рулеты з парасяціны, марынаваная ялавічына і цяляціна. Потым ішлі сыры: свежыя, сухія і паўсухія, белыя і зялёныя, каровіны і авечыя, тварожныя сметанковыя, нарэшце жоўтыя галандскія і швейцарскія — тлустыя, з дзірачкамі, якія плачуць смачнай салёнай слёзкай, — усе вырабляліся дома. Потым столькі ж відаў адборнага печыва, якія я не змагу нават пералічыць, — ад шафранавых булак, сухарыкаў і пернікаў да крохкіх пірожных, што раставалі ў роце. І, нарэшце, канфіцюры самых адборных ягад, фрукты, засмажаныя ў цукры, макаўнікі, сушаныя слівы, фаршыраваныя міндалём, і да таго падобныя прысмакі, паглынаючыя безліч цукру, якога не шкадавалі. Ну і нейкія розныя пікулі, марынады, грыбочкі, карнішоны, цэлая літанія смакаты, якую немагчыма ўспомніць, — з сокамі, наліўкамі, ратафіямі і крупнікамі на завяршэнне. Усё гэта выплывала на стол пад акампанемент бесперапынных прабачэнняў гаспадыні, што прыём такі сціплы і недастатковы, а тым часам стол угінаўся ад страў, блішчэў фарбамі, як мастацкая выстава, і напамінаў французскае выказванне: «embarras de richesse»[17]. Але гаспадыні гэтага было замала: трэба было пачуць яе скаргі, што госць «нічога не есць» і «ўстане галодны з-за стала», што палічылі б найвялікшым сямейным няшчасцем, вечным сорамам і непазбыўнай ганьбай для ўсяго дома. Трэба было бачыць гэты поўны просьбы ліслівы выраз, з якім аб'еўшагася і ледзьве лыпаючага вачамі госця малілі, каб ён захацеў пакаштаваць яшчэ адзін від якіх-небудзь прысмакаў, і просьбы гэтыя былі абсалютна шчырыя, ішлі з самага сэрца, не мелі ў сабе ані кроплі крывадушнасці ці прытворства. Бо гаспадыня сама ці пад сваім асабістым наглядам рыхтавала гэтыя прысмакі з адборных прадуктаў, падрыхтаваных добрасумленна, з любоўю і веданнем, укладвала ў гэта ўсё сваё ўменне і нямала пачуцця, бо гэта рабілася не на продаж, не дзеля марнай карысці, а для ўласнага спажывання, для выгады сваіх самых блізкіх. Гэта гарбата, больш падобная да велікоднага свянцонага, была прадметам гордасці і гонару гаспадыні дома, яе экзаменам і пасведчаннем сталасці, а самавар, які пампезна ўязджаў у сталовую ў воблаках пары і выдаваў незлічоную колькасць шклянак пахучай гарбаты, — ён быў самай лепшай магчымасцю прадэманстраваць таленты і дамашнія пачуцці.

Такая гарбата — гэта не быў гала-прыём з лакеямі ў фраках і халоднай нерухомасцю гарадскога цырыманіялу: гаспадыня сама прыслужвала гасцям, сама накладала ім на талеркі, карыстаючыся просьбамі, угаворамі і прымусам, сама прыносіла з шафаў і буфетаў усё новыя запасы, і ўсё сэрца ўкладвала ў гэты гарбатны пачастунак. Ён таксама меў зусім іншы настрой, чым модныя афіцыйныя прыёмы вялікага свету, цягнуўся цэлымі гадзінамі ў цёплай, поўнай даверу атмасферы, пераплятаўся размовамі, жартамі і ўсялякімі шчырымі прызнаннямі, ствараў сямейны настрой і дзяліўся ім нават з чужымі, незаўважна ўключаючы іх у сваё кола, як тая лямпа над сталом, што ахоплівала ўсіх, хто сядзеў, прыхільным кругам святла. Гарбата ў шляхецкім доме мела рысы беспарадкавай, але ад гэтага яшчэ больш мілай імправізацыі, поўнай добрага гумару, шчырай ахвоты і вясёлай выпадковасці, адлюстроўвала

[17] Клопат з-за багатага выбару (*фр.*).

характар гаспадароў, была люстэркам іх чалавечнасці і павагі, і ў гэтым была яе прыцягальнасць, у той час распаўсюджаная і незаўважальная, але якая зараз з адлегласці гадоў набывае вартасць і абуджае сардэчную сімпатыю да самавара і яго прыхільнай сімволікі. Не зразумеюць яе гарадскія людзі, непрызвычаеныя да самавара, якія п'юць дрэнную гарбату, запараную ў жалезным чайніку.

Гэта быў час, калі яшчэ захоўваліся былыя патрыярхальныя звычаі, старапольская прастата і гасціннасць, якія ішлі ад сардэчнай дабраты. Грошы былі дарагія і рэдкія, але на вёсцы менш патрэбныя, бо амаль усё было сваё, а аказія купіць здаралася нячаста. Час і людскую працу цанілі няшмат, але багатага хлеба ў двары не шкадавалі нікому, яго хапала для ўсіх, а невялікія грошы чэлядзі былі, уласна кажучы, толькі дадаткам «на боты». Я памятаю некаторыя тагачасныя цэны: фунт ялавічыны — 8 грошаў (4 капейкі), цяляціны — 6 грошаў (3 капейкі), фунт масла, мёду альбо цукру — 12—15 кап., збан малака — 5 кап., пуд жыта (16 кілаграмаў) — 60—70 кап., падзённая плата работніка — 15—25 кап., гадавое ўтрыманне пакаёўкі — 20 рублёў, пара ботаў — 3—5 рублёў. Апрача расійскіх банкнотаў, якія лічылі на рублі і капейкі, яшчэ хадзілі бронзавыя манеты і сярэбраныя расійска-польскія з надпісам «Каралеўства Польскае» і валюта ў злотых і грошах, а назва «два злотыя» і «пяць злотых» замест «трыццаць» і «семдзесят пяць капеек» трымалася да канца стагоддзя, хоць ужо даўно былі выведзены з карыстання гэтыя нібыта польскія залатыя грошы.

Манеты, як графіка, таксама ўваходзілі ў кола маіх вострых зацікаўленняў. Кожную я дакладна аглядваў, вывучаў яе арнаментацыйныя дэталі, стараўся прачытаць надпісы і зразумець дэвізы. Хутка я даведаўся, чаму на іх яшчэ меліся надпісы «Каралеўства Польскае», хоць пра яго ўжо нельга было нават гаварыць пасля паўстання. Мне з жалем і смуткам расказвалі, як да 1863 года ў нас усё было па-польску і якія змены да горшага, якія страты, няшчасці і паражэнні прынёс гэты страшны год для краіны, грамадства, для сямей самых блізкіх родных і суседзяў, шапталі пра экзекуцыі і катаванні, пра маладога Пуслоўскага — амаль хлопчыка, расстралянага па загаду Мураўёва, нягледзячы на мальбу маці, якая была ў роспачы. Пра гэта гаварылі ўпаўголаса, аглядваючыся на дзверы, неахвотна ўспамінаючы перажытае, што ледзьве мінула, і з жахам датыкаючыся да свежазарубцаваных ран. З гэтых напамінанняў у маёй галаве ствaралася змрочная легенда, крывавая і балючая, але перш за ўсё да якой нельга было дакранацца, легенда, авеяная містычным жахам, аб якой гаварылі прыцішаным голасам, як у касцёле падчас набажэнства. Я баяўся сам пытацца пра падрабязнасці, але слухаў уважліва і запамінаў дакладна, хоць і не ўсё мне было зразумела.

Пад уздзеяннем гэтых уражанняў розум дзіцяці працаваў з напружаннем. Я сам пачаў абдумваць спосабы вярнуць забраную Айчыну, і адкрыццё, якое я зрабіў у гэтым накірунку, заслугоўвае, каб быць упамянутым дзеля раззбройваючай наіўнасці адзінага пестуна. Маё шасцігадовае сэрца ведала толькі добрыя пачуцці, бо іх развівалі ўва мне, кахаючы і акружаючы мяне чулым клопатам. Калі мне ў нечым адмаўлялі альбо калі мяне крыўдзілі і я хацеў, каб мяне пашкадавалі, я ўжываў наступны выпрабаваны спосаб. Я бег да прыбудоўкі ці ў які-небудзь

з самых далёкіх пакояў, зашываўся ў самы цёмны кут і пачынаў там медытаваць над сваім няшчасцем, абліваючы яго слязьмі і ціха ўсхліпваючы, але дастаткова голасна, каб гэта магла пачуць маці, якая, як я ведаў з вопыту, адразу заўважала, што мяне няма, і пачынала мяне шукаць. Гэты спосаб не падводзіў ніколі. Маці расчульвалася, прытульвала заплаканага да сябе, выконвала яго хаценне, і зноў было добра і весела. Адгэтуль я зрабіў выснову, як вынік маіх просьбаў і захадаў, і ўявіў сабе па прастаце душы, што і іншыя, так, як маці, не змогуць застацца да іх абыякавымі і адразу выслухаюць мяне. Гэта наіўнае перакананне было вельмі глыбокім ува мне і падштурхнула мяне да пэўных практычных высноў. Слухаючы пра тое, што расійскі цар забраў Польшчу і пазбавіў яе незалежнасці, я не толькі хваляваўся з-за такога стану рэчаў, але і знайшоў вельмі лёгкі спосаб, як дапамагчы няшчасцю. Я вырашыў, што, відаць, ніхто не ўмеў узяцца за справу належным чынам, паколькі да гэтага часу не дасягнута добрых вынікаў. Бо гэта ж было так проста: трэба было трапіць да самога цара і толькі расчуліць яго, добра папрасіць, каб аддаў нам Польшчу, і не можа быць, каб ён не паслухаў. Я моцна верыў, што ўся цяжкасць заключалася ў тым, каб дабрацца да Санкт-Пецярбурга, які быў недзе страшна далёка, пасярод снягоў і ільдоў, і што калі б мне толькі ўдалося стаць перад абліччам цара і сардэчна папрасіць яго, як я прызвычаіўся дома са сваімі, то ён, напэўна, не змог бы мне адмовіць, і Польшча была б вольнай. Можна справядліва назваць кранальнай гэту веру дзіцяці ў чалавечую дабрыню, але страшна падумаць, колькі расчараванняў трэба перажыць, пасля якіх пазнаецца горкая праўда, што бацькі і чужыя людзі — гэта не тое самае.

Аднастайнасць нашых зімовых вечароў ажыўлялі вандроўныя гандляры, даволі шматлікія ў нашым глухім баку. Іх з'яўленне было вялікай забавай і выклікала агульнае ўзрушэнне ў доме. Гэта былі «крамнікі» і «венгры», якіх мы ахвотна сустракалі, бо яны прыносілі карысць і пацеху. Крамнікаў набіралі з яўрэяў, пераважна з Гарадзішча, Міра і Нясвіжа[18], і насілі яны самы горшы тавар у невялікім выбары. Да эліты сярод крамнікаў належаў Міхель з Нясвіжа — даўгабароды патрыярх у попельнага колеру халаце да пят з рэшткамі пейсаў каля вушэй і паважнай пачцівай усмешкай на румяным твары. Міхель не хадзіў проста пешшу, як іншыя, а ездзіў у палатнянай будзе з дзвюма дужымі скрынямі, якія называлі «карабамі» і якія былі запоўнены не толькі дробязямі, але і тэкстыльнымі таварамі. Яны мяне зусім не цікавілі, і да крамнікаў я ставіўся наогул даволі абыякава.

Іншая справа венгры! Гэта была асобая катэгорыя вандроўных пешых ці конных купцоў, якія паходзілі з-за мяжы і разносілі далікатны варшаўскі тавар, хоць, вядома, ён не перавышаў узроўню дробязі. Гэта былі выключна славакі з Аўстрыі, якія размаўлялі так-сяк па-польску і, уласна кажучы, калечылі польскую мову «аўстрыйска-вугорскім» славянскім жаргонам. Усе яны мелі аднолькавыя куфры-скрыні з кляно-

[18] Нясвіж — горад над Ушай у Слуцкім павеце, сядзіба ардынацыі Радзівілаў у канцы XIX ст., налічваў 8177 жыхароў, у т.л. 5000 яўрэяў, 1000 палякаў-католікаў, з замкам, езуіцкім касцёлам з пахаваннямі Радзівілаў, 4 цэрквамі, каля 60 мураваных і 700 драўляных дамоў, 50 мураваных крамаў і 40 драўляных. У горадзе знаходзілася 5 складаў, 2 заезныя дамы і каля 20 шынкоў.

вых дошак, абшытыя жоўтай скурай і напакаваныя аднолькавым таварам: галантарэя, пісьмовыя прыборы, туалетныя дробязі, кніжкі, ноты, невялікія карціны. Падбор тавару і спосаб яго ўпакоўкі групамі на добрых падкладках грубай тэкстуры сведчылі аб паходжанні ўсяго з адной крыніцы, а для нас яны мелі прысмак рэчаў асаблівых, якія паходзілі вельмі здалёк, можа, нават з-за мяжы? Гэтых купцоў называлі венграмі, але ў бліжэйшай размове выяснялася, што яны — славакі, венгерскія падданыя. Я з цікавасцю прыслухоўваўся да іх дзіўнай напеўнай мовы і ўспрымаў як чужую, хоць нібыта і польскую. А што гэта была за сенсацыя, калі венгр уносіў кораб у сталовую, адшпільваў рамяні, здымаў вечка і пачынаў даставаць і перакладваць тое, што змяшчалася ўсярэдзіне! Гэта рабілася часцей за ўсё ўвечары, калі ўсе ўжо мелі вольны час, і цягнулася дапазна. Венгр напеўна вымаўляў назвы прадметаў, паказваючы іх аслепленым вачам, хваліў тавар, называў цэны са славацкай зацятасцю, вымаўляючы «двадзешце», «трыдзешце», «чтэрдзешце», таргаваўся насмерць за кожны грош, прысягаў усімі святынямі, што не можа аддаць танней, што губляе ўжо ўвесь свой заробак і прадае са стратай. Для заахвочвання адкладваў выбраны прадмет на стол, дзе сквапныя вочы прыцягвалі гэтыя цуды, гэтыя ручкі, маляванкі, ножыкі, часам кніжачкі з карцінкамі, часам вельмі прыгожыя пераводныя карцінкі ці каляровыя пячаткі з малюначкамі, ваўчкі, якія круціліся з меладычным звонам, пакуль не падалі, зялёныя шары для надзімання і падкідвання ўгару, якія так раптоўна і лёгка ўзляталі, а потым прыгожа апускаліся на зямлю...

Якое гэта было шчасце — атрымаць у рукі, дрыжачыя, сквапныя рукі, такія прыгожыя рэчы, якая роспач, калі рэч была надта дарагая, купец занадта мала саступаў, калі бацькі не хацелі яе купіць і венгр хаваў яе ў глыбінях свайго куфра. Гэты куфар зачароўваў мяне, як вочы вужа, быў крыніцай радасці, пеклам адчаю, магілай надзеі і зноў крыніцай шалёнага, аслупяняючага шчасця. Я сачыў за рухамі рук укленчыўшага венгра, калі ён даставаў новыя прынады, вачамі з мальбой звяртаўся да іх прадчуваемай прыгажосці, з жалобай развітваўся, калі яны хутка знікалі, калі ішоў далейшы паказ. Яны хітра разлічвалі, што, можа, пры зваротным перакладванні сэрца бацькоў памякчэе ці яго змогуць змякчыць мае просьбы. І я, з сухімі, спёкшыміся вуснамі, з заміраючым дыханнем, углядаўся далей у жарало куфра венгра, чакаў, калі зноў дастануць жаданую рэч, і хапаў, нарэшце, у рукі выпрашаныя кніжачкі ці цацку і пажыраў вачамі на працягу доўгіх гадзін нямога экстазу гэтыя захапляючыя дары далёкага, незнаёмага свету!..

Першы грэх жадання я здзейсніў, без сумнення, ля кораба венгра, і першыя хвіліны найвышэйшага шчасця прыйшлі да мяне, напэўна, таксама з гэтай жа крыніцы. Наша ціхая вясковая глухамань, поўная малака і мёду, мела ўсё сваё, дамашняе, і гэта, уласна кажучы, самае лепшае, не цанілася, але мы не мелі і не ведалі нічога гарадскога, фабрычнага, таму кожную бліскучую дробязь лічылі нечым надзвычай прыгожым і каштоўным. А для маіх вачэй, для маёй фантазіі, абсалютна нявіннай, бо яна была пазбаўлена якога-небудзь вопыту, гэтыя розныя фабрычныя цацкі выглядалі чароўнымі і абуджалі палкае жаданне валодання. Ва ўсялякім разе, гэта былі не толькі выпадковыя дзіцячыя цацкі, але і прадметы «першай патрэбы», як алоўкі, фарбы, карцінкі для размалёў-

вання, лісты, запоўненыя прыгожым друкаваным шрыфтам, малюнкі і маляванкі, якія прыцягвалі думку і прыводзілі ў захапленне формай і зместам. Увесь дамашні свет у паўсядзённым ходзе жыцця здаваўся пустым і нудным, і толькі з прыходам венгра адразу пераўтвараўся ў краіну цудоўных нечаканасцей: светлую, шматколерную і радасную! Бо само з'яўленне гэтага пасланца фартуны з корабам на плячах, нахіленага ўперад, які крочыў паволі, як наўючаны аднагорбы вярблюд, уздоўж алеі ад крыжа, прыводзіла да біцця сэрца, якое пачынала так стукаць, што я прытрымліваў яго рукой, каб не выскачыла. У шаленстве ад радасці я кідаўся на шыю першай спатканай асобе і выдаваў нечалавечыя крыкі, як дзікі туземец чорнага кантынента. А потым не мог дачакацца вечара і дакучаў усім пытаннямі пра венгра. Бо гэта быў адзін з тых сюрпрызаў, дзеля якіх варта было цярпець пустату паўсядзённасці, адна з тых цудоўных з'яў, чаканне якіх складала змест майго жыцця, а сустрэча — яго найвышэйшую прыгажосць! І вось прыходзіла рэха чужога, у марах існуючага свету і прыносіла з сабой гэтыя чароўныя падарункі.

Так час ад часу ў наш закутак пранікалі адгалоскі цывілізацыі і выклікалі сапраўдныя ўзрушэнні, амаль буры ў маёй галаве, схільнай да вострага рэагавання на кожны штуршок. У душы, не кранутай вопытам, не занятай клопатамі, чыстай, як белы ліст паперы, уразаліся глыбока запаўшымі рысамі атрыманыя тады ўражанні, каб назаўсёды пакінуць выразныя сляды. Было нешта асаблівае ў гэтай падатлівасці дзіцяці на кожны покліч унутры сябе, у гэтай здольнасці моцна перажываць зведанае, уласцівай толькі дзецям і мастакам, што з'яўляецца асновай творчасці. Здавалася,



***Фасад двара ў Чамброве.*** *Здымак да верасня 1910 г.*

7. Зак. 297.

што ўвесь дасканалы свет існуе толькі для таго, каб даваць магутныя, ашаламляльныя перажыванні і станавіцца матэрыялам для творчасці, з якога дзіця — гэты першы мастак — сплятае паэму свайго жыцця.

Але ў бліжэйшых межах, у нашай мясцовасці, лёс пасылаў мне часам падзеі, вартыя таго, каб застацца ў памяці. Напрыклад, нашы святочныя звычаі і абрады. На Раство Хрыстова вясковыя хлопцы прыходзілі з Калядой і крыклівымі галасамі весела спявалі песні аб нараджэнні Хрыста, а пару разоў прыходзілі з батлейкамі ці лялечным тэатрам, і было гэта надзвычайнае відовішча, сенсацыя для ўсяго дома. Шкада, што гэтыя мілыя паважаныя батлейкі хутка пасля гэтага выйшлі са звычаю і перасталі існаваць. Яны мелі наіўную прывабнасць і непасрэднасць народнага прымітыву. Збіралася група хлопцаў у жоўтых авечых кажухах і шмараваных дзёгцем ботах і напаўняла пакой здаровым, але вельмі моцным пахам сваіх асобаў і ўбрання. На табурэтах ставілі тэатр, гэта значыць, размаляваную скрыню з выразанай наперадзе невялічкай сцэнай, а за скрыняй завешаныя імправізаванай заслонай хлопцы-акцёры рухалі фігуркі Ірада, Смерці, Д'ябла і Жыда, а таксама па-майстэрску і грозна гаварылі ад іх імя на мясцовым польска-беларускім дыялекце. Недахопы дыкцыі стараліся кампенсаваць напружваннем голасу і імклівасцю рухаў, а таксама нянавісцю да Ірада і яго подласцей. Не хацеў бы я быць на месцы Ірада ў руках гэтых дарагіх артыстаў. Яго барацьба са Смерцю выглядала ў вышэйшай ступені трагічна і пасля шматлікіх маніпуляцый з касой заканчвалася зганьбаваннем пад яе смяротнымі ўдарамі. Я першы раз бачыў сцэнічнае прадстаўленне, таму ахвотна паддаваўся яго ўздзеянню з вялікай верай, смакуючы ва ўсёй паўнаце прыгажосць ажыццёўленай задумы. Я смяяўся з падрыгванняў Жыдка і нейкай брыклівай Казы, якая, ведаю для чаго, уплялалася ў гэта дастойнае таварыства, і мой смех далучаўся да моцнага рогату ўсёй кажуховай кампаніі і патанаў у ім, даючы мне пачуццё супольнасці перажываемых эмоцый.

Сама вігілійная вячэра перад Раством Хрыстовым, якую ў нас называлі куццёй, не рабіла на мяне надта вялікага ўражання, напэўна таму, што кожны год яе засланяла нецярпліва чаканая ёлка — прадмет мараў на працягу ўсяго снежня.

...А, зрэшты, апрача салодкага, я быў даволі абыякавы да яды, і традыцыйная абавязковасць пакаштаваць пад час куцці кожную з дванаццаці страў, з якіх яна павінна была складацца паводле звычаю, здавалася мне хутчэй прымусам, чым прыемнасцю. Нягледзячы на гэта, я любіў гэтыя перадсвяточныя вячэрнія прыгатаванні, калі ўжо ўся прыхожая была застаўлена талеркамі, у сталовай пад абрусам засцелена сена і маці мітусілася ля стала, клала на талерку аплатку, а потым, калі ўсё ўжо было гатова, ламала яе і падавала разам з пажаданнямі, гаворачы кожнаму што-небудзь добрае і прыемнае, а мне — прыгарнуўшы абедзвюма рукамі і моцна прытуліўшы да сябе. З адламанай аплаткай у руцэ і засаромеўшыся ў душы, я падыходзіў да бацькі і іншых асобаў, і няёмкі абрад пажаданняў спрошчваў маўклівымі абдымкамі, бо хоць адчуваў сябе сапраўды ўсхваляваным, аднак «саромеўся» гэта паказваць і хацеў схаваць у сабе.

Потым мы сядалі за стол, я забаўляўся выцягваннем з-пад абруса доўгіх сцяблін сена і абыякава прапускаў доўгую чаргу вігілійных страў.

Не ведаю, ці змагу я сёння пералічыць іх усе. Пачыналася з селядца з гарнірам, гэта значыць, з мноствам халодных закусак з гародніны, і абавязковага шчаўя з вушкамі, фаршыраванымі грыбамі. Потым ішло некалькі гатункаў рыбы: шчупакі, ліні, карасі, часам судак, падаваныя то ў жэле, то смажаныя ці фаршыраваныя. Нарэшце ішлі журавінавыя кісялі і сама куцця, гэта значыць, вельмі нясмачны моташлівы і кіславаты аўсяны кісель, які, аднак, трэба было абавязкова пакаштаваць, каб ушанаваць традыцыю і мець права дарвацца да рысу з разынкамі, кампоту з яблыкаў, груш і сліў, да ламанцаў з мёдам і іншых падобных прысмакаў, шчодра палітых мядовай сытай[19], макавым малаком і аршадам[20]. Тут была толькі асалода, тым больш што старэйшыя з-за ўрачыстасці не вельмі стрымлівалі мяне, і дзіцячы ласунак даводзіў мяне ўрэшце да аб'ядання і соннай абцяжаранасці, ад якіх было адзінае лякарства — ложак. Але я не хацеў бы, каб мяне дрэнна зразумелі. Калі я тут шмат гавару пра ежу і расчульваюся ад падрабязнасцей, то з упэўненасцю маю на ўвазе не толькі звычайнае задавальненне паднябення, але і пачуццё, якое ў гэтыя стравы і звычаі ўкладвалі рукі маёй маці. Успамінаючы ўсё гэта, я ўваскрашаю частку яе асобы і гутару з ёй і з родным домам, як быццам бы яны яшчэ існуюць. Бо ў кожную страву ў якасці «інгрэдыенту» ўваходзіла сэрца, у кавалак спажыванай ежы — добры намер, адвечны дамашні звычай. Si parva magnis comparare licet[21], як у Святой Камуніі пад вобразам хлеба таіцца Бажаство, так і ў гэтых вясковых прысмаках увасабляліся сямейныя і чалавечыя пачуцці тых асобаў, якія іх гатавалі і хацелі імі камунебудзь дагадзіць. Матэрыяльны бок яды быў сімвалам, рэчаіснасцю было пачуццё, і гэтае пачуццё знаходзілася ў кожнай крошцы дамашняга хлеба.

Расчулена ўспамінаю я сёння гэтыя вігілійныя вячэры ў Асташыне і думаю аб шчасці дзіцяці, якое немагчыма выказаць словамі, дзіцяці, акружанага добрымі, любячымі людзьмі ў такі ўрачысты дзень. Аглядаю вісячую над сталом у сталовай лямпу, бачу твары бацькоў і дамашніх і з любоўю ўдыхаю ціхую, сардэчную атмасферу дому, у якой, здаецца, вырастаюць адвечныя, найкаштоўнейшыя элементы сямейных пачуццяў. Але ў той час я не разумеў свайго шчасця, не разумеў значэння звычаю вігілійнай вячэры і бачыў у ёй хутчэй толькі нуду і прымус. А яшчэ тым больш, калі пачыналі ладзіць для мяне ёлку, якую ў нас называлі «дрэўцам», яе прамяністасць поўнасцю засланяла для мяне справы вігіліі, і я нецярпліва прагнуў, каб яна хутчэй прамінула, каб як мага хутчэй дачакацца «дрэўца». Першы раз яго ладзілі для мяне ў 1882 годзе, каб адзначыць мае 6 поўных гадоў, і зрабілі з гэтага цудоўны сюрпрыз, які назаўсёды застаўся ў маёй памяці. На прывоз з лесу ялінкі — высокай, аж да столі — я, можа б, не звярнуў вялікай увагі, каб не яе заснежанасць, якая абсыпалася, калі яе ўнеслі ў прыхожую. На галінках бялелі рэшткі снегу, якія дыхалі марозным павевам зімовай ночы, серабрыліся ў святле лямпы і не раставалі. Разам з ялінкай з напаўадкрытых уваходных дзвярэй веяла холадам,

---

[19] Сыта — вада з мёдам.

[20] Аршад — напітак з міндалю.

[21] Калі можна параўноўваць вялікія рэчы з малымі (*лац.*).

цемрай лесу і смалістым пахам расцёртых іголак — і ўсё гэта разам складала дзіўны кантраст са святочным асвятленнем нашых пакояў і навявала думку пра лес — халодны, цёмны лес, поўны ваўкоў альбо злых духаў. Гэты вобраз пранізваў на кароткую хвіліну дрыжыкамі трывогі, каб зараз жа вызваліць месца для пачуцця радаснага спакою і бяспекі. Але потым я забыў пра ялінку, займаўся нечым іншым і не звяртаў увагі на таямнічую мітусню бацькоў у салоне і на іх змоўніцкія знакі і паўсловы. Мяне выправадзілі нават аж у прыбудоўку пад нагляд Юлькі і далі нейкую кніжку з карцінкамі, якая прыкавала мяне там эфектыўна да месца.

У гэты момант я пачуў, што мяне клічуць, і ў пакой увайшлі бацькі з дзіўнымі выразамі твараў. Па іх стрыманых усмешках я здагадаўся, што мяне чакае нешта прыемнае, і хутка пабег за імі ў салон. Трэба было прайсці праз кабінецік, а з яго дзверы ў салон былі завешаны шырокімі парцьерамі. Бацька рукой адсунуў парцьеру, маці сказала мне: «Паглядзі, Ясютка! Гэта для цябе на зорачку». Я паглядзеў перад сабой і аслупянеў: у абрамленні парцьеры было бачна нейкае іскрыстае святло, шырока распасцёртае і палыхаючае аж да столі. Спачатку я хацеў уцячы, напалоханы гэтым незвычайным відам, але потым, падбадзёраны маці, пераступіў парог салона і прыклеіўся вачамі, поўнымі захаплення, да гэтага святла. Я ледзь пазнаў прывезеную з лесу ялінку, так яна была прыгожа ўбрана і так свяцілася. Рой каляровых свечак танцаваў у мігатлівай аўры, вясёлка зіхатлівых іскраў і зарніц запарушвала прамяністым дажджом. Ялінка гарэла, як агромністы факел, і ружовым заравам афарбоўвала пакой, а яе бляск адбіваўся ў наваскаваным паркеце салона і доўгія пасмы падыходзілі аж да маіх ног, вабячы і прыцягваючы да сябе. Я хутка кінуўся наперад і спыніўся перад ялінкай, прыкаваны хваляваннем, анямелы ад захаплення: вочы ўглядаліся ў запаленыя ліхтарыкі, бліскучыя ўпрыгожанні, зіхатлівыя цацкі і прысмакі, якімі яна была абвешана... І зноў моцнае ўзрушэнне, якое цяжка было перанесці: паскорана б'ецца сэрца, мурашкі бегаюць па спіне, салодкія дрыжыкі ўзнёсласці, шчасце без межаў, якое распірае грудзі, шчасце да слёз, да болю, да забыцця... Ой, як добра жыць, калі фантазія працуе і творыць, калі сэрца вібрыруе, як нацягнутая струна, калі знаходзішся дома ў сваіх любімых бацькоў і маеш 6 гадоў!..

## Вігілія



Вечар. Марозна. Рыпіць снег ля хатаў.
Гоман на кухні я чую праз дзверы,
стукае нож, звоніць ступка заўзята,
блізіцца час вігілійнай вячэры.
Дыхае спёкаю печ, нібы пекла,
полымя скача, гудзіць ашалела.
Кухар з памочнікам нешта не петраць —
рыба чаму, як на грэх, прыгарэла?

Вось і на стол накрываюць. Матуля,
каб не забыцца, усё ўспамінае,
сцеле абрус, ён стальніцу атуліць,
сена пад ім прымінае, раўняе.

Шум, гамана поўняць сцены сталовай,
сходзяцца ўсе на вячэру адразу,
шэпчуць малітву кароткую разам.
Снежна бялее наш стол адмысловы.
Маці з аплаткай абходзіць сабраных:
«Каб і праз год дачакацца, дай, Божа...» —
і больш нічога прамовіць не можа,
толькі аплатку нам дзеліць старанна.

Стравы змяняюцца, іх строга лічаць,
быць страў павінна дванаццаць, і толькі,
і не на масле ці тлушчы гатоўка,
есці пры посце наказвае звычай.

Я ўрэшце сонна прымружваю вочы,
чую спіной ласку дрыжыкаў нейкіх,
бачу ледзь-ледзь праз замкнутыя вейкі
стол, што пасунуцца некуды хоча.
Думкі мутнеюць і прагнуць спачынку,
і ўсё ж адну не збівае знямога —
заўтра прыходзяць Народзіны Бога,
і ў нашым доме заззяла ялінка!..

Мне не дакончыць думак, што ўюцца,
маці не чую, змыкаю павечкі,
толькі і ў мройлівым сне застаюцца:
цуд мой — ялінка... прыгожыя свечкі...



***Флігель двара Туганоўскіх і Верашчакаў у Туганавічах, знакамітая Мураванка, у якой праводзіў канікулы малады Адам Міцкевіч.*** *Здымак прыпісваюць таксама Каралю Карповічу. Фота да 1912 г.*

## Раздзел VI

## *Дарогі і двары. Праз Навагрудак да Міраціч*

Калі мне споўнілася поўных шэсць гадоў, бацькі пачалі часцей браць мяне з сабой, едучы ў адведзіны да радні, і я вельмі любіў гэтыя вандроўкі. Бацькі не падтрымлівалі сяброўскіх адносін, не наносілі «візітаў» і не рабілі прыёмаў з запрашэннямі. Іх не хапала на тое, каб мець «адкрыты дом», і, зрэшты, яны не любілі пышнага ўкладу жыцця. Замест гэтага для адпачынку пасля дамашняй працы яны любілі паехаць раменным дышлам да родных і сваякоў альбо прыняць іх у сябе. «Гасцяванне» пачыналася з начлегу і адлічвалася на дні або тыдні, бо рэгулявалася не цырыманіялам, але звычайна добразычлівасцю, чалавечай і суседскай. Гэтыя адносіны характарызавала сардэчная прастата, шчырая, шчодрая, як увесь вясковы звычай. Прымалі не на канапах у салоне, а ў сталовай пры багата накрытым стале альбо хадзілі разам па ўсім доме і гаспадарцы, заглядваючы ў кожны кут. Бо прыязджалі ў адведзіны не дзеля таго, каб адбыць пустую фармальнасць, а каб задаволіць добразычлівую цікаўнасць, каб прыгледзецца да бегу жыцця гаспадароў, каб на нейкі час прыняць удзел у гэтым жыцці. Не дэкларавалі прыказку «Госць у дом — Бог у дом», але бралі гэта за аснову па глыбокаму перакананню ўсе без выключэння. Самага ніякаватага суседа не выпусцілі б з дому ў той самы дзень, ён павінен быў хоць переначаваць і назаўтра з'есці абед. Дазволіць каму-небудзь ад'ехаць без абеду было непрыстойнасцю, нават калі госць меў толькі гадзіну дарогі дадому. А радня і сябры затрымліваліся на некалькі дзён і даўжэй і павінны былі загадзя асцярожна папярэдзіць гаспадароў аб намеры хутка ад'ехаць, каб іх не засмуціць і не выклікаць нараканні, што «прыехалі як на пажар, ледзьве паказаліся і ўжо хочуць уцякаць». Тагачасная гасціннасць мела сямейны характар, і калі б хто-небудзь абмяжоўваў час свайго «візіту» з гадзіннікам у руках, выклікаў бы недавер, і яго палічылі б чужым, а яго ўчынак — актам непрыязні.

Калі мае бацькі не любілі этыкетных адведзін, затое ахвотна падтрымлівалі гэтыя звычайныя, простыя і прыяцельскія адносіны, пад час якіх называлі адзін аднаго па імені, ведалі адзін аднаго наскрозь і любілі не крывячы душой. Знікала розніца паміж дамашнімі і прыезджымі, бо ўсе былі блізкімі тым ці іншым чынам. Рэдка тая ці іншая сям'я не была звязана з усімі суседзямі ў даволі шырокім радыусе. У Кароне жартавалі з нас, што «на Літве ўсе паміж сабой радня і разам ядуць боршч з буракоў», але пры гэтых кпінах забывалі, што боршч з буракоў меў выдатны смак, калі яго гатавалі на вэнджанай шынцы, а парадненне суседніх родаў надавала адносінам рысы сардэчнай бесцырымоннасці і сямейнасці, невядомай дзе-небудзь яшчэ. Жылі тады сапраўды з людзьмі, і гэта былі свае людзі, жылі сапраўды з павагай і пабожаму.

Найчасцей бацькі ездзілі да самай блізкай радні ў Отмыце і Шчэпаўшчыне[1], не гаворачы ўжо пра Чамброў, з якім, дзякуючы блізкай адлегласці, адносіны былі яшчэ больш частымі. Але і большая адлегласць іх не палохала, і не раз яны лёгка пераадольвалі шэсць ці сем міль за адзін дзень. Мяне кожнае паведамленне аб выездзе працінала найвышэйшай радасцю, бо валацужную натуру я меў з дзіцячых гадоў і слова «ехаць» нават незалежна ад мэты язды было для мяне поклічам, які азначаў такі цудоўны ўздым, накшталт звароту да Сезама з «Тысячы і адной ночы».

Калі я чуў аб гэтым, то забываў пра ежу і сон, кідаў усе гульні і станавіўся непрытомным ад радасці, увесь дрыжаў ад стрыманай нецярплівасці. У думках я аздабляў паездку рознымі прыгажосцямі, якія толькі мог сабе ўявіць, акружаў яе прагным чаканнем прыгоды і нечаканасці і на ўсіх парах выбягаў спаткаць іх, шчасліва прамяніўся самым прадчуваннем шчасця.

У гэтых паездках мяне прыцягвала не столькі мэта, колькі дарога, якая вяла да яе, не столькі чалавек, колькі яго сядзіба, акружэнне, натуральная сутнасць дадзенага месца. Людзі цікавілі мяне менш. Відаць, гэта было мне прызначана здаўна, каб ад пачатку жыцця я быў сляпым да людскіх спраў, усюды прамінаў без увагі чалавека, успрымаючы свет аднабакова, толькі як пейзаж. Свет прыроды бесперапынна адцягваў мяне ад людзей і іх жыцця, я ўсё кідаў, каб агледзець яго, ніколі не маючы дастаткова часу, каб наблізіцца да людзей з добразычлівай увагай, палюбіць іх бескарысліва і звязаць з іх жыццём сваё ўласнае. Я набліжаўся толькі да тых, якіх добра ведаў штодня і пра якіх з наіўным эгаізмам меркаваў, што яны існуюць для таго, каб рабіць маё жыццё прыемным. На іншых я глядзеў спадылба, з недаверам дзікага стварэння, і пазбягаў іх як толькі мог.

Гэта сябелюбівае адасабленне было, без сумнення, вялікай памылкай майго жыцця, і гэта памылка цяжка на ім адбілася, але ўзамен за гэта яна звязала мяне з прыродай і родным краявідам вельмі моцнымі вузамі. Дзеля зямлі я адрокся ад людзей і многіх каштоўных людскіх пачуццяў, трапіў у адзіноту, сам тады гэтага не ведаючы, і ўпэўніўся ў гэтым з жалем занадта позна. Таму сёння я так няшмат магу расказаць пра людзей майго дзяцінства, хоць ведаю, што маё акружэнне стварала вельмі цікавая, адзіная ў сваім родзе галерэя арыгіналаў, кожны з якіх быў варты апісання. У гэтым зборы тыпаў, цудоўна ахарактарызаваных сваімі залётамі і слабасцямі з подыхам дастойнай старасветчыны, адбівалася ўсё наша нацыянальнае мінулае, праглядвалі ўсе рысы, характэрныя для шляхецкай Польшчы, якая адыходзіла ў цень забыцця.

Цікавыя вобразы тагачасных людзей пабляклі ў маёй памяці, бо мне іх засланілі справы зямлі, гэтае маё ненасытнае ўгляданне ў дамашні краявід, у яго радасную і прыгожую выразнасць, у яго ўзгорысты і каляровы вобраз, угляданне інстынктыўнае, але ўважлівае, чуйнае, якое не праміне ніводнай рысы, ніводнай прывабнасці ў гэтым няспынным захапленні. Малога, якім быў я, прыцягвала перш за ўсё тое, што было самым блізкім і самым дарагім, да чаго адразу беглі вочы, колькі б

[1] Шчэпаўшчына, Слуцкі павет, — вёска Радзівілаў (14 двароў) і фальварак (26,5 валокі) над безыменным прытокам Ланi, да 1874 г. у Клецкай ардынацыі, потым у Нясвіжскай князёў Радзівілаў.

разоў я ні выбіраўся з двара ў поле. Кожная дарога мела свой выгляд, добра мне вядомы, і выклікала, калі на яе глядзець, розныя пачуцці ў шырокім спектры — ад усмешлівага захаплення да тужлівай задумлівасці. Дзіцячая душа была ўражлівым фатаграфічным клішэ, на сапраўдных адбітках якога замацоўваліся вопыт і эмоцыі, вобразы і фарбы, якія прыходзілі з навакольнага асяроддзя. У гэтым дзіцячым свеце ўсё для мяне мела аблічча, поўнае красамоўнасці: дарога, лес і поле, далячынь, прастор і неба — усё гэта гаварыла жыва і кранальна, рабіла з мяне быццам бы скрыпку, якая беспералынна вібрыравала нацягнутымі струнамі, кранутымі прыгажосцю Божага свету. Кожную хвіліну налягалі віхры ўражанняў, буры парываў і хісталі мяне, як панікшую галінку, а я паддаваўся іх сіле ахвотна, хоць не без пэўнага страху, — такое цяжкае бярэмя адчуванняў кідалі яны на мае слабыя плечы. Бярэмя было прыцягальным, пранізвала гордым пачуццём узнёсласці і паўнаты, але не раз сапраўды яго цяжка было перанесці. Так паўставалі ў душы вобразы ўзнёслага настрою, ужо назаўсёды забытага і зведанага з аднолькавай сілай шмат разоў пазней. Апанаваны гэтымі вобразамі, я вучыўся ісці праз жыццё без людзей, але поўны галасоў прыроды і перажыванняў, атрыманых ад кантакта з ёй. Увесь час заняты гэтым узаемадзеяннем, я жыў так у адзіноце, самотны, пазбаўлены таварышаў і прыяцеляў, але мала наракаў на самотнасць, бо маім таварышам быў увесь свет дзяцінства, зачараванае кола ўяўленняў і ўражанняў, якія мне даваў гэты маляўнічы, гарысты родны краявід, перапаясаны стужкамі самых прыгожых дарог, якія я хачу тут успомніць і апісаць.



***Лясная дарога (Рудніцкая пушча).*** *Здымак да 1911 г.*

Дарогі гэтыя былі розныя: адны — вясёлыя, усмешлівыя, маляўніча ўзорыстыя, капрызна хвалістыя, іншыя раўнінныя і прасталінейныя альбо нават пустынныя і сумныя, ад якіх веяла меланхалічнай тугой, яшчэ іншыя — таямнічыя і страшныя, якія губляліся ў лясным гушчары і з надыходам змроку прымушалі сэрца біцца жывей. Але ўсе яны для мяне такія знаёмыя і родныя, як постаці дамашніх і чэлядзі, усе займаюць паверхню са сваімі асаблівасцямі, з кожным завітком, верставым слупом, грушай на мяжы, купай прыдарожных дрэў ці крыжам на раздарожжы, нават з кожным каменем, што ўрос у мурава ля вытаптанай сцежкі... А калі я выязджаў з дому і з высокіх козлаў пачынаў разглядваць ваколіцу з радасным уздымам, тады гэтыя любімыя дарогі, што прамяніста разыходзіліся ад Асташына ва ўсе бакі, прыязна віталі мяне, акружалі сваімі клопатамі і паволі няўлоўна ўцягвалі ў сваю прыгожую далячынь, вялі за сабой у свет сонечнай прамяністасці ці ў імглу блакітных мараў...

Цяжка сказаць, якім з іх я аддаваў перавагу: звычайным палявым дарогам, што злучаюць паміж сабой двары, вёскі і засценкі, ці шырокім гасцінцам, што вядуць да галоўных цэнтраў. Бліжэйшымі і зручнейшымі, таму што яны былі лепш вядомымі, здаваліся мне гэтыя першыя дарогі, вузкія і непрыкметныя, слаба выезджаныя, зарослыя па баках травой і белымі кветкамі ў абрамленні вытаптаных пешых сцежак. Наша ваколіца роілася ад такіх «сабачых сцежак», якія ніхто ніколі не выпраўляў і, можа, таму яны былі такія прыгожыя. Іх прыгажосць заключалася ў даступнасці прылягаючага краявіду: ён быў тут, на адлегласці выцягнутай рукі, можна было з павозкі кранаць рукой галінкі суседніх дрэў, заглянуць на падворкі засцянковых сядзібаў, нырнуць і з шэлестам схавацца ў калідорах жыта, якое я гладзіў рукой, калі вецер нахіляў каласы бліжэй. Дарога арганічна ўпляталася ў пейзаж: абягала якія-небудзь дваровыя палі ці вясковыя шнуры і выганы, вілася паміж пералескамі, паглыблялася ў лясны цень, вяла праз грэблі і ручаі міла прытуліўшыхся вёсак і падобных на зялёныя шары двароў, і ў кожным месцы ўводзіла ездака ў кантакт з наваколлем, у кантакт інтымны, прыхільна зацікаўлены, схільны да лёгкага збліжэння і няскорага развітання. Не раз, ціха едучы пясчанай каляінай, я саскокваў з брычкі, каб выпрастаць ногі, дакрануцца ступнямі да падатлівай зямлі, а рукой адчуць пяшчоту якіх-небудзь траў ці кветак, як перламі, упрыгожаных нявысахлымі кропелькамі расы. Дарога дакладна паўтарала ўсе пластычныя ўласцівасці мясцовасці і размаўляла сваімі выпукласцямі і паглыбленнямі так красамоўна, як быццам бы гэта былі адгалоскі добра вядомага шрыфту альбо выразы сардэчнай сямейнай мовы. Я ведаў на памяць і любіў па простай звычцы ўсе яе нечаканасці: і завалі-дарогукамяні, на якіх брычка раптам падскоквала, вымушаючы прыкусіць язык, і небяспечныя ямы, вымытыя даждждом у гліністай глебе і заплыўшыя жоўтым ілістым пяском, і глыбокія раўкі каляін, зарослыя муравой і залітыя лужынамі стаячай вады. Я ведаў усе гэтыя грэблі, дзе можна было зламаць карак, і пераправы, падазроныя масткі і аб'езды, падманлівыя ўзгоркі і лагчынкі, якія ў вячэрнім змроку ўводзілі ў зман наконт сваіх сапраўдных памераў. Я ездзіў і хадзіў па гэтым бездарожжы, тануў у балоце, адпачываў на вялікіх валунах на дарозе — і ўсюды заставаўся ў прыязнай бесцырымоннасці з гэтай неахайнай, разбітай стужкай дарогі, якая, здавалася, з'яўлялася прадаўжэннем дамашніх дарожак на падворку і ў садзе і таму была такой роднай.

Гасцінец, інакш кажучы паштовы тракт, быў ужо іншым, не такім блізкім, яго я бачыў радзей і аглядаў з пэўнай павагай, як рэч нештодзённую. Але які ж ён быў прыгожы і як падабаўся — гэты агромністы, бясконцы майдан, што раскінуўся на дзесяткі сажаняў у шырыню і ствараў не адну дарогу, а заблытаную сетку шляхоў, каляін і сцежак, засцелены травяністымі дзірванамі і пясчанымі пусткамі, засаджаны чатырма радамі старых патрэсканых бяроз, якія развяваліся на ветры і выстраіліся ў рад адна за адной урачыстым картэжам, як быццам бы хацелі крочыць услед за падарожнікам. Гэта была бясконцая натуральная алея, якая цягнулася на сотні вёрст і радамі вялікіх купістых дрэў азначала свой шлях на далёкі ўсход, закручасты, раскідзісты, мнагалюдны паход пілігрымаў, якія вандруюць да невядомых рубяжоў! Які ў гэтым быў бесперапынны рух наперад, які магутны размах і імкненне! Яны шумелі віхрам у бярозавых каронах і спявалі думы аб велічы нашай бацькоўскай спадчыны... Які ўладарны покліч блакітнай далі, у якую плылі і губляліся павароты гасцінца, што віўся шэрым вужом з зялёным акрайкам! Драбнеў навакольны краявід, калі на яго глядзець з далёкай перспектывы, нікнуў перад перавагай гасцінца, а апошні па-начальніцку займаў месца і прыцягваў да сябе ўсю ўвагу падарожніка. Ён не быў, як палявая дарога, дапаўненнем краявіду, а сам ствараў яго паводле ўласнага густу, надаваў яму ўласныя рысы і быў у ім галоўнай накіроўваючай воссю, якая дзяліла прастору на дзве вялікія паласы і вілася па прывабных пагорках і плаўных спусках. Калі ехалі гасцінцам, забываліся дробязі дзеля вялікіх рэчаў, дзеля шырокіх гарызонтаў, што рассціляліся па баках бярозавых прысадаў, дзеля закругленняў і загібаў бягучай у даль дарогі, дзеля гэтага магнетычнага прыцягнення агромністых абшараў, якія паглыналі ў сябе падарожніка, як кроплю, і так бралі яго ў палон відам сваёй бязмежнасці, што чалавек губляў пачуццё месца і часу і ўвесь аддаваўся тужлівым чарам гэтага падарожжа ў зялёна-сінюю даль, якая пастаянна спакушала наперад да зацягнутага імглой гарызонта.

Гасцінец існаваў сам для сябе, меў уласны быт, змест і насельнікаў. Па ім цягнуліся шнуры фурманак, якія былі цяжка гружаныя і марудна пасоўваліся доўгімі караванамі ці парожна і лёгка вярталіся ў воблаках пылу і ляскату грукатлівых падводаў. Раз'язджаліся ў розныя бакі адзіночныя брычкі і падводы, а па баках, у цені развесістых бярозавых кронаў, паволі ішлі пешаходы: сярмяжныя сяляне ў лапцях ці абсалютна босыя з ботамі, перакінутымі праз плячо, бабы ў хустках з вузялкамі на плячах, якія сабраліся грамадой і гагаталі, як сагнаныя ў кучу гусі, нарэшце, яўрэі і жабракі — чорныя і абадраныя — усе пешыя, хто не меў у сваім распараджэнні каня і быў вымушаны абыходзіцца ўласнымі нагамі. А часам гэты шэры натоўп падарожнікаў рассейваўся па бакавых дарогах да месцаў свайго прызначэння і апаражняў гасцінец, і тады ён заставаўся пусты, самотны, шумеў бярозамі, яшчэ мацней уражваў сваёй бязбрэжнай веліччу, яшчэ ўладарней схіляў да ціхага назірання, яшчэ відавочней прыслухоўваўся да магутнага покліча зямлі...

Добра было ехаць так цэлымі гадзінамі, глядзець навокал на зялёныя прыдарожныя кулісы, слухаць шум бяроз, які тураваў расплываючымся думкам і саступаў чарам гэтага вандроўнага паходу ў невядомую даль.

Асташын быў для мяне цэнтральным пунктам свету. Ад яго ўсё пачыналася ў жыцці, таксама і дарогі, што вялі ў розных кірунках. З

самога двара выходзілі, папраўдзе, толькі дзве: на поўнач і на поўдзень, але адразу за садам побач з Асташынам Грабоўскіх паўночная дарога разыходзілася на дзве — усходнюю і заходнюю, так што наш двор здаваўся асяродкам, з якога наўкола выпраменьваліся шляхі ва ўсе бакі навагрудскага свету. Гэты свет сапраўды быў багата адораны, поўны прыгажосці і разнастайнасці, варты ўвагі і вывучэння. Я не магу сцвярджаць, што ён быў унікальным, хоць такіх прыгожых было, бясспрэчна, няшмат, ведаю толькі, што гэтыя родныя пейзажы да гэтай пары ў мяне перад вачамі, як быццам бы я аглядаў іх учора, і што, гледзячы на іх вачамі памяці, я атрымліваю такую асалоду, як быццам бы мяне напаткала нейкае вялікае шчасце. Гэтае шчасце невычэрпнае, бо яно не залежыць ад вонкавых умоў, і пакуль я жыву, нішто не зможа ў мяне яго адабраць.

Я пачну свой агляд з паўночнага шляху, які вёў міма кальвінскага касцёла і Асташынскай вёскі, каля ўзгорка з прыгожым далёкім відам на даліну ракі Сэрвач, ужо апісаным у адным з папярэдніх раздзелаў. Увесь гэты пейзаж глыбока ўрэзаўся ў маю памяць: я бачу там кожны прыдарожны камень, на якім сядзеў пад час нашых пасляабедзенных паходаў са Стасем, бабуляй і панам Лапушынскім — маім настаўнікам, кожную каляіну, вымытую раўчуком на пясчаным павароце да Кайшоўскіх[2] млыноў, кожную купу мятліцы, што развявалася ля сцежкі на дзірване; і калі б я слухаў голас сэрца, то павінен быў бы апісваць усё гэта падрабязна, не прамінаючы ніводнай сцяблінкі, груды ці камяка. Разумеючы фізічную немагчымасць і мастацкую немэтазгоднасць такой работы, я спыніўся на агульных замалёўках. Ля кальвінскага касцёла дарога разгаліноўвалася, заломвалася пад прамым вуглом на захад і спускалася да Кайшоўкі, а далей праз Шчонаў і Райцу вяла да Міраціч, Чамброва і Свіцязі — сэрца Навагрудчыны, да гэтага найпрыгажэйшага кутка нашага краю, так шчодра адоранага прыроднай маляўнічасцю. Я ўжо не раз гаварыў і, напэўна, яшчэ буду вяртацца да гэтага «сэрца», бо яно назаўсёды звязана з маім уласным, але зараз я павінен захаваць паўночны кірунак і рухацца праз вёскі Асташын, Любанічы[3] і Сэрвач, якія ляжаць па прамой лініі адна за адной. Вялікія, нядрэнна забудаваныя вёскі патаналі ў вішнёвых садах і знаходзіліся так блізка адна ад адной, што ледзьве мінала адна, як ужо пачыналася наступная, што надавала вясёлы выгляд ваколіцы. За чацвёртай вёскай — Крынкамі[4] — быў двор з такой жа назвай, які належаў сям'і Ліпніцкіх і быў пабудаваны на самым беразе ракі, як бы прыпёрты да яе.

Сям'я Ліпніцкіх была вельмі шматлікай, складалася, бадай што, больш чым з дзесяці чалавек, сярод якіх я ніколі не ведаў, як сябе паводзіць, — столькі там заўсёды было незнаёмых асобаў — і дарослых, і дзяцей. Адна з дачок выйшла замуж за прафесара Бенедыкта Дыбоўскага[5], бы-

---

[2] Кайшоўка — вёска і фальварак у Навагрудскім павеце, гміна Райца, над ракой Сэрвач, спадчына Незабітоўскіх.

[3] Любанічы — вёска і засценак у Навагрудскім павеце, у акрузе Мір.

[4] Крынкі — вёска ў Навагрудскім павеце.

[5] Бенедыкт Дыбоўскі (1833—1930), заолаг і ўрач, прафесар у Галоўнай школе ў Варшаве, у 1865—1879 гг. у ссылцы ва ўсходняй Сібіры, у 1879—1883 гг. — доктар на Камчатцы, у 1884—1906 гг. прафесар заалогіі ў Львоўскім універсітэце, член ПАУ. Даследчык фауны возера Байкал, усходняй Сібіры і Камчаткі. Аўтар звыш 350 прац, у т.л. успамінаў. Яго партрэт Булгак паказаў на выставе ў Мінску ў 1911 г.

лога паўстанца, сасланага ў Сібір, якому нельга было пастаянна жыць на захопленай Расіяй тэрыторыі і які разам з маладой жонкай вымушаны быў пасяліцца ў Львове. Я быў у Крынках на іх вяселлі, з якога ў маёй памяці засталіся толькі дзве рэчы: што было вельмі шмат разнастайных прысмакаў, тортаў і марцыпанаў і што мне страшна хацелася спаць пасля гэтай салодкай вячэры. З Дыбоўскімі я пазнаёміўся бліжэй у Львове на схіле іх жыцця ў 1921—1923 гг. падчас маіх фатаграфічных вандровак па ўсёй Польшчы. Яны мелі прыгожы зацішны домік на вуліцы Засценак, які называлі «Белым дворыкам», і абедзве гэтыя назвы дасканала падыходзілі да месца і да людзей. Дарагі прафесар Дыбоўскі, чалавек вялікай дабрыні сэрца і адвагі перакананняў, заслужаны вучоны, успамінаў там са мною не раз далёкія Крынкі, і Сэрвач, і асташынскую старонку. Ён дажыў да ста гадоў і памёр нядаўна, акружаны агульнай павагай і любоўю. Іх львоўскі «засценак», поўны зеляніны і кветак, быў прыстанішчам старадаўняй вясковай гасціннасці, якое ахвотна наведвалі землякі з Літвы, бо гаспадары спалучалі сапраўдную памешчыцкую сардэчнасць з вытанчанай далікатнасцю і з'яўляліся незвычайным інтэлектуальным асяродкам, выклікалі павагу і сімпатыю ўсіх, хто з імі зблізіўся. Дыбоўскія паходзілі з Нянькава[6] ў ваколіцах Любчы[7], якое знаходзілася на адлегласці некалькіх міляў ад Крынак. Напэўна абедзве сям'і, з якіх выйшлі такія людзі, як спадарства Дыбоўскія, былі паважаныя.

Я забыў сказаць, што перад Крынкамі быў двор Сэрвач — вялікі і багаты, які некалі належаў заможнай сям'і Несялоўскіх, апошні нашчадак якой бяздетна дажываў там пад час майго дзяцінства, прыгнечаны нейкай хранічнай хваробай. Неўзабаве Несялоўскі памёр, а маёнтак перайшоў да пабочнай лініі нашчадкаў у рукі зрусіфікаванай нямецкай сям'і Рызенкампфаў і хутка, дзякуючы ім, страціў свой былы характар. «Генерал» Рызенкампф, цалкам пазбаўлены густу і павагі да мясцовых традыцый, набудаваў там калярова размаляваных прыбудовак у расійскім «дачным» стылі і вельмі гэтым знявечыў двор. У нас было звычайнай справай, што калі які-небудзь двор трапляў у рукі расіяніна, то адразу з'яўлялася маляваная бляха і драўляныя прыбудоўкі самага дрэннага густу, сапраўды варварскага, а за імі — здзічэласць і агульнае знішчэнне двара, так што па знешнім выглядзе можна было заўсёды пазнаць, хто жыве ў двары.

За Крынкамі, на дзесятай вярсце ля вёскі Беразавец[8], наша дарога зливалася з шырокім бярозавым гасцінцам, які вёў да мястэчка Карэлічы, адкуль мы забіралі пошту. Двор Карэлічы належаў да райчанскага ключа, які знаходзіўся ва ўладанні сям'і Верашчакаў і некалі славіўся вырабам мастацкіх саматканых дываноў, пра што, аднак, я даведаўся позна і не з дамашніх крыніц. Мястэчка было ўбогае, перанаселенае

[6] Нянькаў, альбо Нянькава, — вёска над ракой Осай, прытокам Валоўкі, Навагрудскі павет, недалёка ад гасцінцаў з Навагрудка і Нягневіч да мястэчка Любча. У вёсцы — уніяцкая царква фундацыі Вайніловічаў 1730 г. Землі сям'і Раецкіх (каля 23,5 валокі), два млыны, вінны водкуп. Тут жыў прыродазнаўца Уладзіслаў Дыбоўскі, брат Бенедыкта, былы прафесар Дэрпцкага універсітэта.

[7] Любча — горад над Нёманам, які ў канцы XIX ст. налічваў звыш 1300 жыхароў. Былая сядзіба дысідэнтаў Кішкаў. Замак Кішкаў, пазней Радзівілаў, Вітгенштэйнаў, Гогенлоэ, паводле ўказа цара Аляксандра III прададзены сям'і Фальц-Фэйн.

[8] Беразавец — вёска ў Навагрудскім павеце, каля 10 км ад Навагрудка.



***Гасцінец ля Карэліч, які называюць «Трактам Напалеона».*** *Здымак да 1911 г.*

яўрэямі і, як ўсе іншыя ў нашым краі, даведзенае захопніцкімі ўладамі да заняпаду.

Беразавец, нягледзячы на свой прыгожы тракт, выклікаў у мяне нейкае панурае і трывожнае пачуццё толькі таму, што сваёй назвай напамінаў мне сібірскі Бярозаў на далёкай поўначы, пра які я чуў, што туды ссылалі нашых паўстанцаў на мукі катаргі і адзіноты, голаду і марозу. Гэтае ўражанне было такім моцным, што яго не маглі сцерці прыгажосць і размах бярозавых прысадаў гасцінца. У шуме ветру, які гуляў па чубах гнуткіх дрэў, я чуў нейкі пастаянны плач і скаргі, і яны яшчэ больш узмацнялі трагічнасць моманту. Мне казалі, што так енчаць на ветры тэлеграфныя правады, якія разам са слупамі ішлі ўздоўж гасцінца і злучалі Карэлічы з Мірам і Навагрудкам, але гэта натуральнае тлумачэнне з'явы не магло мяне заспакоіць, і не раз потым са сціснутым сэрцам я прыслухоўваўся да жаласных енкаў Беразавецкага гасцінца. Глыбока ў душу запаў мне яго голас. У ім гучалі нейкія скаргі, што плылі ад слупа да слупа, ад дрэва да дрэва, скаргі, якія дзіўным чынам кранаілі сваёй меладычнай пакорай і так шырока, так бясконца, як гэта дарога, ішлі ўдалечыню, як гэтыя шумныя рады бярозы, што цягнуліся на сотні вёрст за край гарызонта і варушылі сумнымі косамі. З таго часу далеч паштовага тракту і туга яго вібрыруючых правадоў з'ядналіся ў маім уяўленні і кожнаму гасцінцу, які мне сустракаўся, надавалі адбітак сумнай бяскрайнасці...

З Карэліч дарога вяла праз мястэчка Нягневічы[9] да Лычыц[10] — маёнтка, які належаў нашаму крэўнаму Адаму Булгаку[11]. У Лычыцах мы набліжаліся да Нёмана, які тут, крыху вышэй за Нягневічы, у Панямоні[12] забіраў у сябе нашу родную раку Сэрвач, акрэсліваў шырокую дугу, абапіраючыся аб Любчу — мястэчка з руінамі замка — і адмяжоўваў бязлесныя Навагрудскія ўзвышшы ад нізінных балот і лясоў Налібоцкай пушчы. Пушча за Нёманам распасціралася на вялікім кавалку тэрыторыі, а ў сваёй паўднёвай частцы даходзіла амаль да Отмыцкіх мясцін, бо заканчвалася каля Дзераўной[13], Ругайцаў і Аталезі[14], што суседнічалі з Отмытам. Лычыцы знаходзіліся ўжо на подступах да пушчы, як быццам бы на канцы нашага асташынскага свету, і, можа, таму мы іх мала наведвалі. Са мной бацька быў там толькі адзін раз, і я не вельмі добра памятаю, каб пасля гэтага я калі-небудзь адведаў сваю пушчанскую радню, хоць нас тады прымалі вельмі гасцінна і хоць да Шчэпаўшчыны, якая знаходзілася на такой жа адлегласці, як і Лычыцы, бацька заўсёды быў гатовы ехаць. Гэты мой адзіны побыт у Лычыцах пакінуў туманны ўспамін аб старасвецкім прасторным доме з вялікімі белымі сенямі, што ашчаціліліся рагамі аленяў і іншымі паляўнічымі трафеямі, а таксама пра негаваркога дзядзьку Адама і яшчэ больш маў-

---

[9] Нягневічы — мястэчка, каля 16 км на паўночны ўсход ад Навагрудка, на паўдарозе паміж Карэлічамі і Любчам, раней уласнасць Храптовічаў, пазней Буцянёвых.

[10] Лычыцы — вёска (15 двароў) у Мінскім павеце, адна міля на поўнач ад мястэчка Рубяжэвічы, недалёка ад вытоку ракі Рудзіцы. Некалі належала Радзівілам.

[11] Адам Фларыян Булгак (1831—1904).

[12] Панямонь — адзін з некалькіх населеных пунктаў з гэтай назвай, размешчаны над Нёманам. Не сустракаецца ў «Геаграфічным слоўніку».

[13] Дзераўная — вёска і землі ў паўночна-ўсходняй частцы Навагрудскага павета ў гміне Новая Мыш, спадчына Бжазоўскіх.

[14] Ругайцы і Аталезь — вёскі на поўдзень ад Мінска, не ўзгадваюцца ў «Геаграфічным слоўніку».

клівую яго сям'ю ў вечна прыгнечаным настроі ці, па меншай меры, з такім выразам твараў. Паміж сабой яны гаварылі ціха і баязліва, як быццам бы ў гэтым доме гняздзіліся якія-небудзь прывіды ці пярэваратні, і гэты настрой урэшце апанаваў бы таксама і мной, каб не цікавая кніжка, якую мне пазычыў дзядзька Адам, аб падарожжах славутага венецыянца Марка Пола па Тыбеце і Кітаі. Яшчэ больш дзейсна адмежавала мяне ад гэтай дамашняй панурасці «сапраўдная» стрэльба, якую ён падараваў мне, на маё бязмернае шчасце. Гэта была аднастволка, і вядома, пістонаўка[15], бо ружжаў, якія зараджаліся з казённай часткі, у нас тады яшчэ не ведалі. Не трэба дадаваць, што яна была далёкай ад дасканаласці, цяжкай і тапорнай, але мне здавалася нечым незвычайным і на працягу доўгага часу выклікала пастаяннае захапленне. Порах і шрот трэба было набіваць у яе праз дула з дапамогай шомпала, запячатаць усё шматком пакулля, што я тады вывучыў толькі тэарэтычна, бо быў яшчэ замалы, каб мне сапраўды дазволілі страляць. Я задавольваўся тым, што гасіў з драбавіка свечкі, страляючы па іх з пістонаў, якія мелі прыгожае меднае пакрыццё, як золата, узрыўны шпянёк збоку і выбітыя літары «SB» на донцы. Я неўзабаве даведаўся, што гэтыя літары абазначаюць фабрыку боезапасаў «Селіер і Беллот», размешчаную недзе далёка ў Расіі, і гэтыя чужаземныя назвы пранізвалі мяне яшчэ гарачэйшай любоўю да майго цудоўнага драбавіка, як я ў думках называў гэтую не вартую таго рухлядзь, прыдатную хіба да страляння па вераб'ях. Кніжка аб падарожжах Марка Пола таксама была для мяне падзеяй, бо мела шмат ілюстрацый, і я ўпершыню ўбачыў на іх дзіўныя постаці людзей з Далёкага Усходу, кітайскія коскі, абвіслыя вусы, раскосыя вочы і рагатыя капелюшы, а таксама падобна да іх загнутыя ўгару дахі кітайскіх дамоў і палацаў.

Лычыцы, размешчаныя на парозе Налібоцкай пушчы, захоўвалі забытыя ў іншых месцах традыцыі ловаў. Там у пэўны час ладзілі вялікія аблавы на ваўкоў і нават паляванне на вялікага звера, як ласі, статкі якіх бадзяліся па пушчы. Там траплялія і дзікі, а старэйшыя памяталі такі час, калі можна было здабыць і мядзведзя ў самым глухім лясным гушчары. Гэта быў новы свет, які поўнасцю адрозніваўся ад нашага і быў цікавы сваёй экзатычнасцю. Шкада таксама, што бацькі толькі адзін раз, і то на кароткі час, пазнаёмілі мяне з ім. Ужо адныя назвы накшталт «Рудня», «Купелішча», «Воўчае балота» ці «Уюнішча» гучалі пераканаўча і ўздзейнічалі на маю фантазію рашучым чынам. Не раз потым я шкадаваў у думках, што гэты Лычыцкі эпізод быў пазбаўлены далейшага працягу.

У паўночныя ваколіцы павета мы з бацькамі выязджалі вельмі рэдка. Я памятаю яшчэ побыт у Нянькаве і Войнаве[16], крыху на захад ад Лычыц. У Нянькаве жыў пан Уладзіслаў Дыбоўскі, брат прафесара Бенедыкта, таксама прыродазнаўца, і прыехаўшы туды, я быў здзіўлены, што застаў пана аднаго ў двары, дзе, мяркуючы па назве, я быў гатовы ўбачыць іх самых — нянек. Тут побач у Войнаве жыў пан Нар-

---

[15] Пістонаўка (капшонаўка) — стрэльба з пістонавым запалам (капшонам).

[16] Войнава — фальварак (каля 15 валок) над Нёманам, 23 км ад Навагрудка, на гасцінцы паміж Дзяляцічамі і Любчай. Уласнасць сям'і Наргілевічаў. Апошні з роду, Ян (памёр у 1886 г.), палымяны бібліяман, сабраў тут вялікую бібліятэку, якая налічвала звыш 20 000 тамоў выключна старых і сучасных польскіх літаратурных твораў.

гілевіч, жанаты на Дыбоўскай, якога лічылі арыгіналам з-за таго, што ён меў вялікую і багатую бібліятэку і праяўляў вялікую любоў да кніг. Пра яго гаварылі, што ён купляў кнігі не столькі дзеля зместу, колькі дзеля прыгожых акладаў, але, можа, гэта былі толькі суседская зласлівасць і непрыязь да чалавека, які адрозніваўся захапленнямі ад звычайных людзей.

Пра іншыя двары ў паўночнай частцы нашага павета я ведаў толькі на слых, як, напрыклад, пра Барацін[17] паноў Лазінскіх, у якіх было шмат сыноў, і сярод іх — таленавітыя ў музыцы і жывапісе. З гэтай сям'і выйшаў пазней біскуп Зыгмунт Лазінскі, шырока вядомы святасцю жыцця і гарачым патрыятызмам.

Недалёка ад Барацiна знаходзіўся двор Асташын, які называўся гэтак жа сама, як наш, што мяне заўсёды абурала, бо я лічыў недапушчальным, каб недзе магло быць нешта такое ж важнае і прыгожае, як наш дом, і каб «нейкі двор» асмеліўся дзяліць назву з тым, што было маёй самай вялікай любоўю. У тым Асташыне жыла сям'я пана Рышарда Чачота, вядомая вельмі суровым спосабам выхавання сваіх дзяцей і цвёрдага, па-спартанску бессардэчнага абыходжання з імі, чым мяне часта страшылі дома, расказваючы нявыдуманыя рэчы пра гэтую турэмную дысцыпліну. Я слухаў гэта з вялікім уражаннем, бо не мог сабе ўявіць, каб бацькі мучылі сваіх дзяцей і так жорстка каталі іх. Думка пра той агідны Асташын непакоіла мяне, як кашмар, а скрыпучая цвёрдасць зычных у прозвішчы «Рышард Чачот», здавалася мне,

[17] Барацін — вёска і землі (2256 моргаў) у заходняй частцы Навагрудскага павета на паштовым тракце з Навагрудка ў Карэлічы. Уласнасць Чачотаў, пазней — Лазінскіх.



***Вёска ў ваколіцах Навагрудка.*** *Здымак да 1926 г.*

8. Зак. 297.

пасавала характару чалавека і фанетычна пацвярджала яго злавесныя ўласцівасці. Педагогіка сям'і Чачотаў павінна была быць нейкім новым, выратавальным спосабам, прыдуманым дзеля дабра саміх дзяцей, але, здаецца, яна прывяла да дрэнных вынікаў і стварыла манекены замест людзей.

У ваколіцах Беразаўца я прамінуў яшчэ маёнткі Адамаў[18] Ежыкові-чаў і Вілятаў[19] Карповічаў. Пан Казімір Карповіч[20], брат дзядзькі Юльяна з Чамброва, часта прыязджаў да нас і звычайна наракаў на няўдачы ў гаспадарцы, з якой яму неяк не пашанцавала. Ён быў вельмі высокі і шчуплы, як Лонгінус Падбіпяты, і вызначаўся, зноў жа як і той, лагоднай і маўклівай дабрадушнасцю. Я пазнаёміўся з ім бліжэй у Вільні некалькі гадоў пазней, калі мяне аддалі ў гімназію і ўся сям'я Казіміраў таксама перасялілася ў горад. У выніку сямейных камбінацый Вілятаў перайшоў тады ў рукі пані Зоф'і Пятроўскай з дому Карповіч, стрыечнай сястры Казіміра і Юльяна, асобы бязмерна таварыскай, актыўнай і гаваркой: дзякуючы яе тэмпераменту Вілятаў быў увесь час на слыху ва ўсіх суседзяў. Гэта сапраўдная hic mulier[21] па-вайсковаму кіравала ў фальварку і ў павеце, то сварылася, то мірылася то з адным, то з другім і ствapaлa шмат шуму вакол сваёй асобы, але, нягледзячы на гэта, была паважанай з-за сваёй праваты і грамадзянскай адвагі, з якой яна рэзала людзям праўду проста ў вочы. Яна запала мне ў памяць, хоць я ніколі не быў у Вілятаве, бо я не раз сустракаў яе ў Чамброве і бачыў яе пародзісты сухі профіль з арліным носам, такім рэдкім у нас і так добра адпавядаючым яе энергічнаму характару. Нягледзячы на слабасці, гэта была сапраўдная дама і свой парывісты, узрыўны тэмперамент умела трымаць у межах, акрэсленых добрым выхаваннем. Яна, без сумнення, заслугоўвае абсалютна навуковай працы, калі б я здолеў яе напісаць.

Увогуле, праглядаючы ў думках галерэю тагачасных людзей — маіх родных і знаёмых, я не знаходжу сярод іх асобаў пасрэдных, нудных альбо тых, якія ўвогуле не былі асобамі: кожны з'яўляецца арыгінальным, мае характэрныя адметныя і каштоўныя рысы, вартыя павагі, або смешныя і дзівацкія, але заўсёды цікавыя і выразна бачныя; кожны, хоць самы брыдкі, мае пародзісты выгляд, незвычайную знешнасць, уласны спосаб паводзіць сябе, апранацца і трымацца і цалкам прадстаўляе індывідуальны тып, які станоўча адрозніваецца ад нудна знівеліраваных асобаў, якія выраслі ў горадзе. Шкода, што ані ў запасніках памяці, ані ў здольнасцях намаляваць псіхалагічны вобраз я не маю дастатковых падстаў, каб перадаць спадчыннасць гэтай галерэі тагачаснага навагрудскага памешчыцтва.

Паўночны шлях, апісаны хвіліну назад, быў трохі бяднейшы, чым заходнія шляхі, бо замест невялікай гарыстасці, якую разнастаілі купы зеляніны, ён меў манатонную паверхню і месцамі бліжэй да Беразаўца набываў амаль суровы характар з-за шматлікіх грабенчатых узгоркаў, якія былі пазбаўлены раслліннасці і акупіравалі мясцовасць вялікімі цёмнымі масамі. Было ў ім нешта змрочнае, і я пакідаў яго з ўздыхам

[18] Адамаў — фальварак на паўднёвы ўсход ад Навагрудка.

[19] Вілятаў (Вілятава) — фальварак у гміне Ярэмічы каля 35 км на паўднёвы ўсход ад Навагрудка, 15 валок. З 1844 г. уласнасць Карповічаў.

[20] Казімір Карповіч, сын Казіміра, які набыў Чамброў.

[21] Літаральна: агонь-кабета *(лац.)*; жанчына энергічная, дэспатычная, герой-баба.

палёгкі дзеля вясёлых краявідаў, якія прапаноўваў паўночна-заходні шлях, што вёў па прамой лініі да Навагрудка — нашага павятовага горада. Гэты шлях праходзіў праз двор і раку Сэрвач і ад Рудкевічаў[22] станавіўся больш гнуткім і прыгожым. У саміх Рудкевічах мяне, аднак, уражваў мураваны флігель, скупа абсаджаны дрэвамі, які, бадай што, застаўся ад нейкай фабрыкі, бо быў двухпавярховы, з незлічонай колькасцю вокнаў, але з голым і пустым фасадам, як свіран, пазбаўлены ўсялякай архітэктурнай думкі, словам, звычайна брыдкі. Затое людзі ў ім жылі добрыя і мілыя, да якіх маці любіла заязджаць па дарозе і ніколі іх не праміналa, калі ехала ў Навагрудак. Гэта былі пані Барановіч і яе сястра панна Францішка Шалевіч, тая самая, якая пазней у Вільні на працягу некалькіх гадоў была маёй настаўніцай музыкі і беззвынікова імкнулася прывіць мне любоў да фартэпіяна. Пані Барановіч я памятаю менш, але да «панны Фані», як яе ўсюды называлі, я адчуваў вялікую сімпатыю за яе ўважлівы і прыхільны погляд, поўны абаяльнай дабрыні. Мая маці вельмі любіла кампанію Фані, цаніла яе разважлівасць, адкрыты розум, тонкае веданне жыцця і размаўляла з ёй у Рудкевічах доўгімі гадзінамі, якія для мяне цягнуліся б яшчэ даўжэй, каб не выдатныя канфіцюры і іншыя прысмакі, якімі нас там звычайна частавалі. Я любіў цішком прыглядацца да непрыгожага, але мілага і выразнага твару панны Францішкі. Яна абуджала павагу і давер, але я не мог зразумець, чаму нават тады, калі яна ўсміхаецца, вочы яе блішчаць ад слёз, як быццам бы яна нядаўна плакала. Я любіў яе, але ў яе прысутнасці мне заўсёды рабілася сумна і я адчуваў нейкую няёмкасць, як побач з чужой хваробай ці няшчасцем. Гэтае адчуванне было інстынктыўным, але абсалютна правільным. Толькі значна пазней я даведаўся, якім цяжкім, адважным і поўным адмаўленняў было жыццё гэтай мужнай жанчыны і як высока трэба было яе шанаваць за тое, што яна поўнасцю прысвяціла жыццё сям'і. Падбадзёрвае думка, што ціхая ахвяра пані Шалевіч не была выключэннем і што ў нашым грамадстве шмат жанчын, таксама вартых ўшанавання за сваё высакароднае разуменне і выкананне абавязку.

Ля Навагрудка мы зноў уязджалі на паштовы тракт, абсаджаны бярозамі, і па меры набліжэння да мястэчка дарога ўсё прывабней вілася разам з узрастаючай гарыстасцю ваколіцы. Пейзаж станавіўся больш разнастайным і багацейшым, вандроўны картэж бярозавых прысадаў мякка плыў уніз і лагодна ўздымаўся ўгару, вычэрчваючы зялёныя дугі, здаля падобныя да скручаных вусеняў. У закругленнях гасцінца ваколіца набывала з кожным разам новую аздобу і выглядала як адзін бесперапынны сад, абсаджаны бясконцымі алеямі, і гэты сад шумеў дрэвамі, пераліваўся нівамі збажыны і ўсім тварам смяяўся сонцу. Вочы ўсцешана прабягалі па знаёмых рысах гэтага пейзажу, усё больш прыгожага па меры набліжэння да Навагрудка.

Навагрудак, раскінуты на высокім узгорку, які быў самым высокім месцам узвышша, здаля свяціўся бачнымі руінамі замка і старажытнай фарай ля яго падножжа і ўражваў. Ад нас у горад уязджалі па вуліцы Карэліцкай спачатку праз лужыну-балота, а потым па бруку, поўным нядобразычлівых дзір і выбоін, каб, урэшце, патрапіць на біткам набіты

[22] Рудкевічы (Руткевічы) — фальварак паблізу ракі Сянежыцы, левага прытоку Нёўды, Навагрудскі павет.



**Ураджай.** *Здымак да 1925 г.*

рынак, шэры ад сялян і чорны ад яўрэяў, цесна застаўлены радамі фурманак, калі гэта быў базарны дзень. Мы спыняліся воддаль у «першаразрадным» заездзе Баруховіча альбо ў так званай «Жарскай карчме», якія, зрэшты, і адзін і другая былі бруднымі і з клапамі, як і іншыя гатэлі, менш вядомыя. На гэта не звярталі ўвагі, бо пакоі былі патрэбны толькі на кароткі час удзень і ў такім прытоне мы ніколі не начавалі, лёгка знаходзячы ў выпадку патрэбы начлег дзе-небудзь у знаёмых у прыватным доме.

Ледзь удавалася ўвайсці ў «нумар» і размясціцца ў яго неахайным інтэр'еры, як праз прыадчыненыя дзверы пачыналі заглядваць з лісліваи усмешкай твары перакупшчыкаў, а неўзабаве цэлы натоўп іх са скрынкамі пад пахай навадняў пакой, учыняў пякельны гармідар і, няпрошаныя, яны закідвалі ўсю мэблю сваімі таварамі, ухваляючы іх дабротнасць, перакрыкваючы адзін аднаго і ўзаемна супакойваючы адзін аднаго. Рабіўся судны дзень, і не было іншага спосабу ўратавацца, як выкінуць за дзверы ўсю кампанію. Але навагрудскія перакупшчыкі, поўныя бадзёрасці, не дазвалялі сябе нічым застрашыць. Яны нават маглі акружыць з усіх бакоў павозку і затрымаць яе пасярод рынку, і трэба было нямала цярпення, каб вытрымаць перад імі. У той час быў вядомы выпадак, калі нейкі малады памешчык — жартаўнік і расказчык анекдотаў пачаў смешна кпіць з надакучлівых купцоў. Ён спыніўся ў экіпажы на рынку і разглядваў усё навокал, некага чакаючы. Калі яго заўважылі яўрэйкі, то пачалі прыносіць у экіпаж скрынкі з галантарэяй, адчыняць іх і заахвочваць яго паглядзець з надзеяй на вялікія пакупкі. Памешчык вяла паддаваўся гэтай напасці, а калі назбіралася поўна тавараў, загадаў фурману ехаць. Той, як выстраліў, шчоўкнуў пугай, чацвярык зрушыў з месца, і экіпаж пакаціўся па бруку, забіраючы скарбы яўрэйскай галантарэі. Пачаўся крык, піск, лямант. Напужаныя яўрэйкі кінуліся даганяць, запрэжка неслася шыбка, а за ёй праз увесь рынак, як на скачках, галопам беглі купцы. Тады ён са смехам загадаў спыніцца, падпусціў да сябе задыханых праследавальніц і, прыкінуўшыся дурнем, пачаў распытваць аб прычыне іх узрушэння. Калі яму растлумачылі, ён адказаў моцна раз'юшаным яўрэйкам, што палічыў за падарунак складзеныя тавары, бо сам ні аб чым не прасіў і нічога не патрабаваў, і таму хацеў ужо ехаць з імі далей. Калі ж гэта было непаразуменне і гандляркі не хочуць дарыць яму, то ён просіць прабачэння і ветліва просіць ачысціць экіпаж ад непатрэбных скрыначак.

Так пажартаваў сабе той памешчык, але ў нашым выпадку справа была цяжэйшай, бо ўсе гандляры, як знаёмыя, стараліся расчуліць мяккае сэрца маці, навязваючыся ёй нахабна-дакучлівым чынам, і заўсёды настойвалі ў канцы на сваім, здзіраючы за тавар яшчэ даражэй, чым калі б мы ўзялі ў краме. А крамы былі тут жа побач, у некалькіх дзесятках крокаў пасярэдзіне рынку ўздымаліся мураваныя гандлёвыя рады на слупах з мноствам цёмных і цесных крамак, дзе, як у вуллі, роілася і чарнела ад яўрэяў. Вялікая, напэўна, была ў мястэчку нястача, бо продаж так нашмат перавышаў попыт. Нягледзячы на гэта, гандаль адбываўся весела, без спеху, паводле паважнай старасвецкай моды з шумным гандляваннем, з моцнай лаянкай, з доўгімі размовамі пра сямейныя і прыватныя справы, бо тагачаснае мястэчка мела вясковы характар, дабрадушна-даверлівы, далёкі ад жорсткага і халоднага фармалізму вялікіх гарадоў. Пры гэтым цэны называліся найначай як у польскіх злотых. Хоць гэта было ўжо праз некалькі дзесяткаў гадоў пасля паў-

стання, побач з рублямі яшчэ хадзілі манеты з надпісам «Каралеўства Польскае» і з двухгаловым арлом на другім баку і ніхто нават з сялян і яўрэяў не сказаў бы «семдзесят пяць капеек» ці «паўтара рубля», бо неяк лягчэй і прасцей было гаварыць «пяць злотых» і «дзесяць злотых». Пасля вырашэння спраў бацькі ішлі на абход знаёмых і перш за ўсё адведвалі панну Вацлаву Шулякоўскую, якая жыла ў сваім прыгожым дворыку недалёка ад фары і замка. Калі Навагрудак увогуле мала адрозніваўся ад вёскі, то тут было ўжо зусім як у вясковым двары. На вялікім цяністым дзяцінцы сярод старых дрэў, кустоў і кветак стаяў прысадзісты дом з ганкам, паднятым на класічных невялікіх калонах, як гэта ў звычаі ў нашых дварах, калі ўладальнік не гнаўся за чужымі навамоднымі ўзорамі, як правіла, няўдалымі. За домам на краі саду над абрывам некалькі ясеняў стваралі альтанку, адкуль быў прыгожы від на Замкавую гару і ваколіцы горада. Уладальніца двара панна Вацлава — рухавая, вясёлая і гаваркая старая панна выконвала ў Навагрудку ролю неіснуючай мясцовай газеты, бо ведала ўсіх, ведала пра ўсё, што рабілася ў горадзе, і не любіла трымаць язык за зубамі, у яе двары таксама заўсёды было як у збане і аж шумела ад вясёлых размоў, навінаў і плётак. Калі гаварыць аб атрыманні нейкай інфармацыі ці аб тым, каб супакоіць грэшную людскую цікавасць, кожны ўпэўнена ішоў да панны Вацлаўкі і там знаходзіў першаразраднае інфармацыйнае бюро, якое працавала бясшкодна, было пазбаўлена цені зласлівасці, проста так сабе, з-за лішку часу і ахвоты. Тэмперамент панны Шулякоўскай не выносіў маўчання, спакою і адасаблення, таму не дзіва, што яе дворык ахвотна наведвалі жыхары наваколля і ён заўсёды быў поўны гасцей. Гэта быў прыгожы закуток, з саду была відаць пакінутая фара[23] на схіле гары, пра якую мы тады не ведалі, што яна была месцам хрышчэння Міцкевіча. Далей — руіны замка на высокім стажкаватым схіле Замкавай гары, а адтуль рассцілаўся адзін з надзвычай цудоўных панарамных відаў Навагрудчыны, бо мястэчка ляжала на высокім пласкагор'і, якое ўзвышалася над ваколіцай, і ўзвышалася прыгожым сілуэтам, бачным здалёк з поўдня і яшчэ прыгажэйшым з поўначы.

Гэты від можна было бачыць з замка, як на далоні: гэта быў як бы мастацкі план у вялікім маштабе, які пачынаўся ад палёў і сенажацяў, клеткамі размешчаных на каляровай шахматнай дошцы, ад утульных двароў і сядзібаў, зялёных гаёў і вітых дарог, і кожная дробязь гэтага плана гаварыла аб асаблівасці і прыгажосці зямлі. Сама Замкавая гара выглядала прывабна, нягледзячы на запусценне, яе магутныя муры і вежы ўздымаліся над горадам у сумнай велічы мінулай значнасці і, здавалася, адсоўваліся з пагардай ад запалоненага яўрэямі мястэчка. Я не надта мог разглядзець замак зблізку, бо быў яшчэ надта малы, каб мець уласную ініцыятыву, а бацькі зусім не цікавіліся такімі помнікамі мінулага, мала ведалі гісторыю, яшчэ менш пра стылі, таму і мяне не маглі навучыць чаму-небудзь з тых рэчаў, якія ў другой палове майго жыцця сталі складаць амаль увесь яго змест і якія я толькі тады навучыўся ведаць і цаніць. У дзяцінстве я быў цалкам пушчаны на самапас

[23] Фара ў Навагрудку ў гонар Пераўвасаблення Гасподняга з 1719—1723 гг. На месцы касцёла XIV ст., зачынена ў 1857 г. з-за таго, што знаходзілася ў зруйнаваным стане. Да адбудовы прыступілі ў 1906 г., скончылі ў сярэдзіне 20-ых гг. Дзейнічае пасля 1945 г.

і пазбаўлены дасведчанага кіраўніцтва ў справах эстэтыкі і мастацтва, якое магло б паглыбіць і пашырыць мае веды, і з-за гэтага замкі ў Навагрудку і Міры, нягледзячы на сваё выключнае значэнне і каштоўнасць, не кранала мяне так, як павінны былі. Незаменную страту нясе дзіця, калі яго фарміруе толькі настаўнік і школа, а не дом і бацькі, бо ў дарослым узросце ён вымушаны здабываць вялікай цаной і з пачуццём прыніжанасці тое, што ў дзіцячых гадах магло б дацца гладка і незаўважна.

Трэці шлях ішоў ад Асташына на захад, і ён быў самы цікавы і самы прыгожы, бо вёў да Чамброва, які быў для мяне ўзорам досканаласці, у роўнай ступені чалавечай і прыроднай, і прытым ішоў з адпаведнай градацыяй маляўнічасці краявіду, якая няспынна ўзрастала аж да найвышэйшай ступені ў Міраціčах і Чамброве. Гэтай маёй любімай дарозе і блізкаму сэрцу Чамброву я прысвячаю наступны раздзел, а тут толькі скажу, што я захаваў вернасць прыхільнасці да яе праз усё жыццё і ніякія перамены не змаглі пахіснуць гэтыя мае сардэчныя пачуцці любові: калі мне было шэсць гадоў, ці калі было трыццаць, альбо шэсцьдзесят — я заўсёды праязджаў Міраціцкай дарогай з тымі самымі ўражаннямі, глядзеў на яе з тым самым ціхім унутраным захапленнем, чэрпаў з яе выгляду тыя самыя запасы радасці, аптымізму і любові да зямлі і да жыцця. У гэтых адносінах час не здолеў змяніць мяне ані на кроплю, і якім я быў у дзяцінстве, такім і застаўся да сённяшняга дня — невылечным энтузіястам зямлі, якому для шчасця дастаткова яе бачыць. «Адной радасці вачэй мне было дастаткова, каб жыць», — як гаворыць дэвіз, выбраны мною для гэтых успамінаў.

З усёй гэтай роднай зямлёй мяне звязваюць дзіўным чынам моцныя сувязі, але я гэта адчуваю асабліва на прыгожым заходнім шляху, які вядзе праз хараство Райцы і Міраціч, Чамброва, Валеўкі[24] і Свіцязі. Самі іх назвы гучаць для мяне як музыка і абуджаюць нейкую ўсёпераможную зачараванасць, само паветра там здаецца чысцейшым, неба — блакітнейшым, далячынь — больш прывабная і больш заселеная творамі прыгожай фантазіі. Там кветкі, здаецца, цвітуць ярчэй, дрэвы шумяць напеўней, травы растуць буйней і сонца свеціць ласкавей і гарачэй. Цяжка адразу знайсці трапнае раўназначнае слова для пачуццяў, якія выклікае ў мяне гэтая зямля, параўнаць яе можна хіба з тым, што адчувае дзіця ў адносінах да аблічча і фігуры любімай маці, добрай і прыгожай. У гэтым пачуцці не можа быць развагі і крытыкі, толькі бясконцае, поўнае любові захапленне. Як не хочацца мне адкладваць пажоўклы здымак маці, калі трымаю яго ў руцэ і гляджу на гэтыя самыя дарагія рысы, гэтак жа цяжка думцы і фантазіі адрачыся ад гэтых малюнкаў дзяцінства.

Я пераношуся ў думках у Свіцязянскую старонку і спыняюся ў Міраціčах дзядулі Уладзіслава Хацiскага, ад якіх недалёка знаходзяцца Міраціčы пані Абламовіч і, нарэшце, Пясчанка[25], ці сама Свіцязь. Там кожны кавалак зямлі насычаны дарагімі ўспамінамі, там кожная пешая

---

[24] Валеўка — вёска, 15 км на поўдзень ад Навагрудка, у якой знаходзіцца драўляная уніяцкая царква XVII ст. (паводле іншых крыніц — былы касцёл дамініканцаў), зараз — праваслаўная.

[25] Пясчанка — фальварак (17,5 валокі) над Свіцяззю ў Навагрудскім павеце, аддадзены ў 1886 г. ураднiку Ахлопкаву.

прагулка з'яўляецца пілігрымкай, абходам пунктаў балючых і салодкіх успамінаў. Там я ізноў станаўлюся малым хлопцам і, ступаючы па слядах маці, я раблю так, як гэта было ў яе звычцы, калі па дарозе да Чамброва яна спыняла экіпаж у Мірацічах на дарозе каля лесу, каля ўзгорка-магільніка, дзе пахаваны дзядуля, брала мяне за руку і вяла за сабой праз поле мяжой, што зарасла конскім шчаўем і мятліцай. Памятаю, як яе сумны твар і чарната жалобы дзіўным чынам кантраставалі з каляровым буйствам летняга пейзажу, як, ідучы за ёй, я неахвотна паддаваўся сур'ёзнаму настрою і задаваў сабе ў думках пытанне: навошта засмучацца, калі навокал так прыгожа, а свет такі поўны шчасця? Дайшоўшы да магілы і мінуўшы браму могілкаў, я ўкленчваў услед за маці і спяшаўся прагаварыць «Вечны спакой» за душу дзядулі, каб чым хутчэй адвярнуцца і паглядзець назад, нацешыцца наймілейшай для вачэй міраціцкай панарамай, поўнай сонечнай радасці...

Не раз праз многа гадоў я ахвотна наведваю ў думках магілу дзядулі, і мне ўжо не ў цяжар сумны настрой магілы, бо я хачу быць разам з ім і разам з ім глядзець на яго любімы пейзаж, што рассцілаўся з гэтага ўзгорка. Як тады, я спыняюся на гарыстай дарозе каля лесу і сцежкай, якую некалі вытаптала маці, даходжу да самага высокага месца, дзе пад магільным каменем у цені бяроз спачывае памерлы. Я ўкленчваю пасярод папаратнікаў і салодкіх траў, гавару малітву, шукаю на замшэлым камяні надмагілля з кожным разам усё менш бачныя літары і даты надпісу, успамінаю тую ноч, калі бацькі атрымалі вестку пра смерць дзядулі і пакінулі мяне з Юлькай, потым па даўняму дзіцячаму звычаю адварочваюся і аглядваюся назад... Якая прастора, якая далячынь... Не магу адарваць вачэй ад віда, які ён так любіў, што выбраў гэты ўзгорак месцам свайго спачынку і завяшчаў, што хоча быць пахаваны абавязкова там. Гэты краявід лашчыць прыгажосцю з такім пачуццём, як калі б ён яднаўся з дзядулем па нейкаму сардэчнаму абраду, разам з ім узнаўляў таемныя радасці ўзаемасувязі з гэтай зямлёй, такой прыгожай, такой любімай, і прысягаў разам з ім у вернасці ёй да смерці. Гляджу, слухаю рэха мінулага, якое навявае мне вецер, слухаю даўно замоўклыя, а для мяне заўсёды жывыя галасы і адчуваю ў сабе заўсёды, як праплывае цэлы свет пачуццяў і падзей мінулых пакаленняў у асобах маіх самых блізкіх, адчуваю супольнасць з гэтымі людзьмі і з гэтай зямлёй аж да апошняга ўздыху...

Шуміць вецер у верхавінах бялявых бяроз на дзядулевай магіле і нашэптвае мне ціхія, тужлівыя думы мінулага, а навокал ва ўсе бакі рассцілаецца прыгожая панарама мірацікай ваколіцы і бярэ ў палон вочы і сэрца. На поўначы драўляны дом з невялічкім ганачкам туліцца да высокай ліпавай сцяны, а сад спадае крутым схілам да става, ля якога адзінокая елка падпірае стары нахілены крыж. Ад двара алея ясеняў вядзе да вёскі, што расцягнулася шнурам стрэхаў, схаваных у вішнёвых садах. Хаты, як рудыя баравікі, прыліплі да падножжа гары, іх ледзь відаць у зялёным гушчары дрэў. А на поўдні сінеюць свіцязянскія лясы, вабяць здаля зубчатай дымкай і купамі зарасляў, што падступаюць да выгану. За вёскай высокі выган раскінуў свае гарбы, парослыя ядлоўцам і ўсеяныя статкамі, якія пасвяцца там: вясёлымі плямамі блішчаць на цёмнай зелені кустоў ядлоўцу рудыя каровы, а чорныя і

бурыя авечкі мільгацяць стракатай мазаікай па купістых адлогах пашы. А далей зноў горы і даліны, яры і дубровы ўздымаюцца хваліста і квяціста, сцелюцца спеўна і разліўна, як карціны з самых прыгожых сноў, як строфы сардэчнай песні, што гучыць самымі салодкімі словамі, якія толькі маці можа шапнуць свайму дзіцяці... Маладая, светлая радасць і дзіцячае сонечнае шчасце стукаюць у галаву, як віно, і расплываюцца ціхай усмешкай падзякі... І стаіш так бясконца, вочы ў вочы з гэтым відам дзядулевых Міраціч, чэрпаеш з яго нявыкарыстаную сілу цярпення і стойкасці, салодкі боль памяці і ўспамінаў, і няма канца гэтай любові і гэтаму ўгляданню... І цягнецца так гэтае зачараванне — не адарваць вачэй ад самай дарагой з родных карцін — твару маці-зямлі, якім я яго запомніў з тых дзіцячых гадоў...

Твар гэты, які даўно ўжо змяніўся, з'яўляецца для мяне сёння такім жа жывым і рэальным, як калі б ён існаваў у тым выглядзе і я глядзеў на яго на самай справе. Гэта датычыць як панарамы міраціцкай ваколіцы, так і даліны Сэрвачы, якую відаць ля падножжа кальвінскага касцёла, падобна некалькім іншым відам на маіх дамашніх шляхах, якія я ведаў з дзяцінства і любіў больш за ўсё. Гэтыя лятучыя прывіды, чароўныя палотны ўвесь час прыходзяць да мяне, увесь час вяртаюцца нязваныя, але я іх ахвотна вітаю, яны адсоўваюць прэч нудную, брыдкую і страшную рэчаіснасць, засланяюць яе жудасную ўбогасць сваёй маладой прыгажосцю і загадваюць лічыць сябе адзінай істотай, вартай разгляду. Гэтыя ўяўныя карціны жывуць на самай справе, маюць незабыўныя вобразы і фарбы, дасканалыя па пластыцы і каларыту, маюць бясспрэчнае жыццё, такое незнішчальнае, як душа, у якой замацавалася іх



***Двор у Дунайчыцах.*** *Здымак да 1926 г.*

адлюстраванне. Гэтыя родныя вобразы суправаджаюць мяне неразлучна, наведваюць пастаянна, непазбежна, як непазбежны лёс, што акружае мяне атмасферай тужлівых успамінаў, як духі дарагіх памерлых...

Гэтыя вобразы існуюць не толькі ўва мне, як прадукт памяці, але і наўкола мяне, як існуючая рэчаіснасць, увасобленая ў вобразы, да якіх можна дакрануцца. Бо я жыву з імі і кантактую, як з жывымі істотамі, бо я штодня блукаю па асташынскім доме, набліжаюся да знаёмых прадметаў, дакранаюся да мэблі, гляджу на карціны, хаджу з пакоя ў пакой, знаходжу кожную рэч на сваім былым месцы, дакладна памятаю, асцярожна пераступаючы высокія парогі ў дзвярах і адчуваючы пад рукой пружыністую падатлівасць націснутай клямкі, адчыняю шафы і шуфляды з памяткамі пра бацькоў, дыхаю родным паветрам і глыбока зацягваюся яго знаёмым, мілым, ні з чым не параўнальным пахам... Бо я штодня выходжу на ганак паміж белымі калонамі, аплеценымі сувоямі вінаграду, чую скрып уваходных дзвярэй, што зачыняюцца за мной, і як брынчаць іх малыя шыбкі, чую шоргат жвіру пад нагамі на сцежцы, што ідзе ў сад, апускаю руку, каб пагладзіць мімаходам атласныя бутоны расцвітаючай півоні, падымаю руку, каб сарваць галінку язміну, схаваць твар у яе светлай пушыстасці і да смерці захлынуцца ап'яняючым пахам тых кветак і тых дзіцячых гадоў... Бо я штодня тапчу чорныя вільготныя каляіны, што вядуць да ўязной алеі, мінаю прадзедавы таполі, што растуць у рад уздоўж грэблі, дастаючы да неба, чую, як гулка аддаюцца мае крокі на крывым мастку ў канцы алеі, бачу, як падымаецца пад націскам нагі канец незамацаванага бервяна, і спяшаюся пясчанай дарогай пад гару паўз браму двара Грабоўскага да свайго самага дарагога ўзгорка, каб ужо здалёк вітаць моцную, сцягнутую ўверсе шапку касцёла, а потым дайсці да яго кляновай дарожкай, абаперціся на яго шчарбатую падпору і патануць позіркам у бязбрэжжы даліны, якая калыхала маё сонечнае дзяцінства і першая вучыла мяне прыслухоўвацца да хараства дамашняга свету... Бо я штодня, ужо праз столькі гадоў, выклікаю з небыцця гэтыя страчаныя вобразы, свабодалюбіва ствараю іх нанова і заклікаю да жыцця самага прыгожага, якое не перакрыўлена ніводнай часовай выпадковасцю, да жыцця самага поўнага, бо яно непадуладна адмене альбо знішчэнню смерці... Ад маёй волі залежыць, якія вобразы паўстануць з магілы бяспамяцтва і ўсцешаць вочы сваёй уваскрэшанай прыгажосцю, якая ажыве і адчыніць мне сваё створанае ў марах, ужо ідэальнае аблічча, гэтыя найвышэйшыя формы свайго быцця, насычанага нейкай незямной анёльскай дабратой...

У гэтым уваскрашэнні мінулага, у гэтым ажыўленні памерлай прыгажосці — усё маё жыццё. У гэтым заключаны адзіны сэнс, мой гонар і слава, што я меў такое прыгожае мінулае, у гэтым мая творчая радасць, што я магу ўваскрасіць маё права на жыццё, якое я так моцна, так поўна адчуваю.

Адзінай маёй любоўю была зямля, родная мая зямля, яе выгляд і выраз, яе краса, яе мова... Усё жыццё я быў звязаны з ёй, як з самай дарагой маці, сэрца якой білася для мяне, як з верным сябрам, які быў мне заўсёды моцнай апорай і ніколі не падвёў. Усё жыццё я паддаваўся мудраму і супакойваючаму ўздзеянню гэтага пачуцця, і яно асыпала мяне бясцэннымі дарамі і было крыніцай самых шчаслівых хвілін, якія я толькі калі-небудзь зведаў.

Вось прызнанне, да якога мяне падводзіць гэты дзённік, які аднача-сова з'яўляецца рахункам майго сумлення. Ён адкрывае мне вочы на рэчы, якія да гэтага таіліся ў маёй падсвядомасці. Ён дапамагае мне сцвердзіць, што сутнасцю майго жыцця, сутнасцю адзіна важнай, выкананай добрасумленна, незаплямленай ніякім фальшам, ані здрадай, незамутненай ніякімі матывамі нізкага паходжання, была любоў да зямлі, замілаванне родным краявідам, сувязь з роднай прыродай, жыццё адначасова няспыннае, без памяці, фантастычнае, жыццё, якое аднача-сова было малітвай, поўнай любові, і гімнам падзякі... Не адна рэч магла ў маім жыцці быць бяздарнай, палавінчатай, з хібамі, не адна рэч пакінула згрызоты сумлення і зневажальнае пачуццё дрэнна выкананых абавязкаў, толькі ў адносінах да зямлі я адчуваю сябе без заганы, толькі ў адносінах да свету роднай прыроды я адчуваю сябе чыстым і правым... Калі маё жыццё не пайшло цалкам па крывой дарозе, калі яно не прамінула без аніякага следу і карысці, калі яно пакінула жменю добрых і светлых пачуццяў, то я абавязаны гэтым ЗЯМЛІ. Яна была мне сапраўднай маці, яна ўвяла мяне ў святую тайну ДОМУ, яна навучыла за агіднасць зла шукаць збавення ў любові да вечнай прыгажосці прыроды.



***Вёска над Нёманам у ваколіцах Навагрудка.*** *Здымак да 1926 г.*

## Раздзел VII

# Дарогі і двары. Чамброў

Я не адчуваў сябе добра ў ролі адзінага дзіцяці. Кожны прывілей вядзе за сабой нейкія абмежаванні і крыўды. Я сапраўды быў у доме першай асобай, там усё існавала для мяне аднаго, але, уласна кажучы, з-за гэтага я адчуваў сябе сапраўды адзінокім, пазбаўленым кампаніі равеснікаў, прагнуў аддзяліць думкі ад уражанняў, дарэмна шукаў, як супакоіць гэтыя жаданні. Дзеці службы не падыходзілі для такога таварыства, а, зрэшты, бацькі неахвотна бачылі мае гульні з імі і толькі цярпелі іх, не ў стане поўнасцю іх забараніць. Я шукаў выйсця для эксплуататарскіх схільнасцей як мог і то свавольнічаў з дзецьмі з фальварка і дакучаў ім, кідаючыся ў дзікую распусту, то з-за наступаючай рэакцыі паглыбляўся ў кніжкі, у самотныя мары, то, урэшце, маючы ўсё ў дастатку, бег да маці са скаргай, што мне дрэнна і сумна. Трэба было нешта з гэтым рабіць, таму бацькі пачалі браць мяне з сабой да радні, дзе былі дзеці, а гэтыя дзеці, наадварот, прыязджалі ў Асташын. Часцей за ўсё гэта былі мае стрыечныя браты Мар'ян і Богдан — сыны дзядзькі Антонія са Шчэпаўшчыны. Іх прыезд выклікаў у мяне выбухі шалёнай радасці, што паказвала, як моцна мне не хапала кампаніі равеснікаў: я кідаўся ім на шыю з такім энтузіязмам, што куляў сваіх гасцей на зямлю і прывітанне адразу заканчвалася спрэчкай і слязьмі, асабліва з Мар'янам, да якога было зусім «не даткнуцца» — ён хныкаў з-за чаго б ні было. Мы самі часцей за ўсё ездзілі ў Чамброў і Отмыт, радзей у Шчэпаўшчыну, якая знаходзілася далей. Гэтыя тры двары былі сядзібамі нашых самых блізкіх крэўных, гэта значыць сясцёр і братоў маіх бацькоў.

У Чамброве жылі Карповічы: цётка Карольця і яе муж дзядзька Юльян. Чамброў знаходзіўся на адлегласці 1/6 мілі ад Асташына і быў недалёка ад Свіцязі і ад Міраціч дзядулі Хацiскага. Туды мы ехалі па адной з самых прыгожых пейзажных дарог нашага павета, як быццам бы створанай для таго, каб задавальняць эстэтычнае пачуццё і памнажаць радасць жыцця. Гэта дарога адыграла значную ролю ў фарміраванні ў мяне гэтых пачуццяў і не стала звычайнай для мяне ніколі — ані ў дзяцінстве, ані ў сталым узросце. Яна была мне наймілейшай усё жыццё, колькі існавала, але, на жаль, яе знішчыла вялікая вайна напярэдадні дваццатых гадоў, непазнавальна змяніўшы выгляд ваколіцы. Сёння ад гэтай дарогі няма і следу — яна існуе толькі ва ўспамінах, бо ўсе дрэвы ўздоўж яе ляглі пад сякеру.

Прыгажэй за ўсё было пачынаючы ад Шчонава[1] каля Райцы. Я нават думаў, што назва гэтага прыгожага закутка паходзіць ад слова «рай» і што, можа, з такога раю Бог выгнаў нашых першых бацькоў. Ужо за Шчонавам ваколіца пераходзіла ў прыгожы парк — гарысты і лясісты,

[1] Шчонаў – вёска ў Навагрудскім павеце, на паўднёвы ўсход ад Навагрудка.

зарослы дубамі і елкамі і акружаны цудоўнай далінай: здавалася, прырода зрабіла ўсё, каб сабраць тут пейзажныя элементы, якія складалі адзінае цэлае, поўнае прыгажосці і гармоніі. Дарога вілася ля падножжа лесу, што ўзвышаўся на пагорках, і вяла за край прыгожай даліны, прыцягальная зацішнасць якой не паддавалася ніводнаму апісанню. Даліна завяршалася прыгожай дубровай і фанабэрылася сваёй прыгажосцю, як залётная дзяўчына, якая ведае сілу сваёй красы і ведае, што на яе глядзяць. Даліна і дуброва ўвесь час суправаджалі дарогу, вытвараючы з ёй розныя выкрутасы: то дрэвы выходзілі з лесу на луг, ствараючы цёмна-зялёныя кулісы, то зноў даліна цікава заходзіла ў цяністасць лесу паміж ляшчынавай падкладкай і пакручастымі папаратнікамі, а паслухмяная дарога паддавалася гэтым капрызам і мяккімі паваротамі абыходзіла дубовыя паўастравы, каб з усіх бакоў паказаць іх велічную архітэктуру... Калі ехалі з усходу, з правага боку была цёмная сцяна бору, якая ішла ўгару густой таямнічай шчацінай, а з левага — гладка раскінуты зялёны луг, куды позірк бег свабодна і весела, як на спатканне з нейкім неакрэсленым, але абсалютна беспамылковым шчасцем. Я сапраўды не ведаю, што надавала лугу гэты святочны радасны выгляд, які дагэтуль стаіць у вачах, але я ніколі не бачыў такой свежай аксамітнай травы, ані такой светлай раскідзістай далі, ані такога дзівосным чынам згарманізаванага акружэння, якія ўпрыгожвалі гэтую шчаслівую даліну пры райчанскай дарозе. А дарогу кожную хвіліну засланялі дубы — магутныя і раскідзістыя, як тыя, намаляваныя Андрыёлі, што я бачыў у «Каласах». У Асташыне дубоў не было ўвогуле, таму я лічыў іх дрэвамі рэдкімі і асабліва вартымі ўвагі, а ад іх выгляду я адчуваў божае ўзрушэнне, як паганец у часы Ягайлы ў святым літоўскім гаі. Аб'езд гэтых фантастычных дубовых астраўкоў разнастаіў перспектыву і рабіў бесперапынныя сюрпрызы-відовішчы. На гэтай дарозе я зведаў першыя хвіліны эстэтычнай прыгажосці, якую моцна перажываў, і гэты вопыт узнаўляўся потым не раз з ніколі не змяншаючымся напружаннем, уводзячы мяне ў стан гарманічнай згоды з акружэннем, які з'яўляецца падставай для шчасця, якое я адчуваю з усёй паўнатой.

Потым даязджалі да двара ў Райцы, міналі браму і ехалі ўздоўж парку. Каля дома праз жалезную агароджу быў відаць дзядзінец, поўны элегантных кустоў і дэкаратыўных раслін, падабраных па колеру, якія стваралі вытанчаную каляровую гаму. Райчанскі парк не меў роўных ва ўсёй ваколіцы: раскінуты па лашчынах і пагорках, ён спакушаў прыгажосцю таямнічасці ўсярэдзіне, абуджаў ува мне прагную цікаўнасць і неспакойнае здзіўленне, якія я адчуваў з нервовым напружаннем, адчуваў аж да болю. Я не мог адарваць ад парку вачэй і, едучы міма, паварочваўся ўвесь час у яго бок, як жалеза да магніта. Стараючыся пранікнуць у тайнікі гэтага зачараванага саду, я прыпісваў яму ўсё, што калі-небудзь запамінаў з кніжак, і думаў пра яго ўладальніка, як пра паўбога, які мае шчасце знаходзіцца пасярод гэтага хараства, колькі душа захоча. Дарэмна марыў я, каб хоць на хвіліну змагчы пераступіць браму гэтага прытулку і прыглядзецца да яго зблізку, нават у снах я бачыў, як набліжаюся да забароненых пладоў. Але я не сказаў пра гэтыя мары нікому ані слова.

За вёскай Забердава[2] распасціраліся зноў іншая зялёная далінка і іншыя дубовыя гаі, а потым дарога пачынала доўга і цяжка ўзбірацца па

[2] Забердава – у канцы XIX ст. вёска (14 двароў) і фальварак (каля 43 валок) Верашчакаў над ракой Мчанкай, прытокам Моўчадзі, за 3 мілі ад Навагрудка.

гарбатай гары з усё больш высокім пад'ёмам. Дажджавая вада пастаянна размывала яе папярэчнымі равамі і стварала вялікія цяжкасці — ехалі паволі, нага за нагу, і не было канца гэтай цяганіне. Але затое, калі даязджалі да верху гары, адкрываліся новыя віды і міраціцкі двор, акружаны дзвюма высокімі ліпавымі шпалерамі, а далей — ізноў прыгожы свіцязянскі краявід з у вышэйшай ступені сканцэнтраванай выразнасцю. Дарога ізноў плялася па лугах і гаях, засценках і пасеках, спускалася ў яры, зашывалася ў зараснік, узбіралася на вяршыні ўзгоркаў, каб, урэшце, перад самай Валеўкай дасягнуць найвышэйшага пункту ўзняслення і адтуль паказаць найпрыгажэйшую панараму рэчкі Нёўды з гручочучым млыном і грэбляй, з вёскай і драўлянай цэркаўкай на гары пад ліпамі, з бярозавай алеяй, што імкнулася па хвалістай мясцовасці да двара, з надзвычай вялікай прасторай гарыстых палёў і дольных лугоў, на якія глядзелі, як з птушынага палёту, і, урэшце, з вянцом і мэтай гэтай цудоўнай дарогі — моцна жаданым Чамбровам, які свяціўся здаля белымі калонамі ганку. З Чамбровам — прытулкам усялякіх дзівосаў і цудаў, ад выгляду якога здалёк дрыжала і замірала ад цудоўнага чакання дзіцячае сэрца...

Паездка ў Чамброў была для мяне незвычайнай падзеяй, і абяцанне яе я песціў у думках, як вялікае шчасце, бо апрача гэтай прыгожай дарогі сам Чамброў захапляў мяне і ўражваў, як нешта нябачанае і непадобнае на Асташын. Пачынаючы ад дому, усё там было іншым. У доме панаваў парадак і ўзорная чысціня, якая на мяне рабіла святочнае ўражанне: падлога свяцілася, як люстэрка, нідзе ні следу пылу. Дзецям не дазвалялася смеціць на падлогу, рабіць непарадак, дакранацца да прадметаў у салоне: мэбля, накрытая чахламі, дазваляла толькі здагадвацца пра яе аксамітныя вартасці, на сценах віселі «сапраўдныя» карціны ў цяжкіх пазалочаных рамах, а кабінет дзядзькі быў, уласна кажучы, бібліятэкай, якая блішчэла залатымі і каляровымі тарцамі кніг. Там была вялікая колькасць кніг, прыгожа апраўленых і ілюстраваных, поўна альбомаў і папак з малюнкамі і гравюрамі, нарэшце, прыгожыя выданні, штотыднёвікі, газеты, словам, адусюль выглядвала друкаванае слова, малюнак, карціна і абуджала зацікаўленасць, павагу і зайздросную ахвоту быць у гэтым свеце і спазнаць яго зблізу. Дзівосны гэта быў дом, такі непадобны на іншыя. Тут ніхто не павышаў голасу, не грукаў дзвярамі, не рабіў непатрэбнага шуму, было поўна дарослых людзей і дзяцей, аднак панавалі спакой і цішыня, у якой разносіліся выразна нават словы, вымаўленыя ўпаўголаса. Апрача гэтага там не ведалі ні прымусу, ані змушанасці, твары былі вясёлыя, размовы свабодныя, толькі вытрыманыя ў межах добрага выхавання, якім, здавалася, прасякнута ўся атмасфера. Пры народжанай дабрыні гэтых людзей выхаванне надавала ім рысы асаблівай далікатнасці, якую нельга было не адчуць з першага зблiжэння.

Але ў Чамброве не толькі дом выклікаў маё здзіўленне. Мяне захапляў сад, не менш прыгожы, чым недаступны райчанскі эдэм. Сады, ягаднікі і парк займалі больш чым дзесяць моргаў і маглі змясціць на сваёй тэрыторыі цэлы фальварачак. Усё гэта знаходзілася на адным абшары, было добра агароджана і здзіўляла прасторам і маляўнічым размяшчэннем. Пасярэдзіне праходзіў роў з дугападобным выгнутым мастком, потым пачынаўся дубовы гай, які падымаўся ўсё вышэй угару і вёў да самай далёкай часткі сада, званай «Гарадзішчыкам». Некалі гэта было гарадзішча на асобным узгорку, які таксама парос дубамі і высока

ўзнёсся на самым канцы парку, як абсерваторыя для агляду. За ім узгорак раптам абрываўся, а паміж кронамі дрэў адкрываўся від на даліну, на вёску Радагошча з млыном на ставе і на далёкую ваколіцу, якая ізноў уздымалася зялёнымі гарбамі зарасніку. Від з Гарадзішчыка быў сапраўды надзвычай прыгожы і з'яўляўся прадметам любавання гасцей і гонару гаспадароў, якія ахвотна паказвалі яго шматлікім прыезджым. А трэба дадаць, што Чамброў, як суседні са Свіцяззю, часта наведвалі чужыя, якія здалёк ішлі ці ехалі ў паломніцтва ў край Міцкевіча, і ў гэтым паломніцтве ён быў адным з самых важных этапаў. Падабаліся і памеры гэтага саду, бо ад дома да Гарадзішчыка была найменш як вярста. На схілах саду раслі адборныя гатункі садавіны і ягад, побач з якімі нашы дамашнія здаваліся вельмі простымі і беднымі. Усё там было нейкае іншае, больш шляхетнае і далікатнае. Не ведаючы, што такое культура, я спаткаўся ўпершыню ў Чамброве з вышэйшай культурай жыцця і звычаю, і яе формы здаліся мне вартымі разгляду і зайздрасці, хоць яны крыху абмяжоўвалі.

Чамброўскія дзеці, выхаваныя старанна і ў лагоднай дысцыпліне, былі спакойныя, ветлівыя, добра выхаваныя, аднак у цэлым не пазбаўленыя свабоды і жвавасці, вясёлыя і натуральныя ў штодзённым жыцці. Самы старэйшы, Караль[3], быў у гімназіі ў Слуцку, таму я пазнаёміўся з ім крыху пазней. З трох яго сясцёр старэйшая, Юльця[4], вызначалася вялікай дабрынёй сэрца, Казя[5] была летуценніцай з паэтычнай душой, а самая малодшая, Марыся[6], — жывой, энергічнай і гаспадарлівай[7]. Я гаварыў, зрэшты, аб пазнейшых назіраннях, у той час я толькі заўважыў, што дзяўчынкі ветлівыя і вызначаюцца ўмеранасцю ў рухах і інтанацыі голасу, якой дагэтуль я не сустракаў. Мяне здзівіла таксама іх надзвычайная паслухмянасць у адносінах да бацькоў, абсалютна добраахвотная і натуральная, бо я сам быў свавольным і непаслухмяным. Прычынай яе было як выхаванне, так і лёгкі падатлівы характар, атрыманы ў спадчыну ад бацькоў, якія былі добрымі людзьмі ў поўным значэнні слова. Гасціннасць, сардэчнасць і гатоўнасць дапамагчы дзядзьку і цёткі здабывалі сімпатыю кожнага. Дзядзька Юльян быў сапраўды крыху замкнутым ў сабе і дэспатычным, але ўраўнаважваў гэта добрымі якасцямі характару і разумовымі здольнасцямі. Па адукацыі ён быў юрыстам і пасля заканчэння універсітэта ў Санкт-Пецярбургу працаваў там

---

[3] Караль Карповіч (1869–1942) — прыродазнаўца, выпускнік фізіка-матэматычнага факультэта Маскоўскага універсітэта (1894), даследчык фауны і флоры на Міншчыне і Навагрудчыне. Сабраў вялікія энтамалагічныя калекцыі (галоўным чынам, жукоў), а таксама батанічныя, якія былі, верагодна, вывезены ў Маскву ў 1940 г. Вялікі гербарый перадаў у калекцыю Ягелонскага універсітэта. У 1926 г. апублікаваў працу «Свіцязь як ландшафтны запаведнік». Супрацоўнічаў з Фізіяграфічнай камісіяй Польскай акадэміі мастацтваў. Займаўся грамадскай дзейнасцю: у 1908 г. заснаваў у Мухаўцы Усходняе агратэхнічнае бюро, якое займалася распаўсюджваннем штучных угнаенняў (з 1911 г. у Вільні), а таксама Сельскагаспадарчую вопытную станцыю штучных угнаенняў у Новым Свеце каля Туганавіч. Адзін з першых фатографаў на Навагрудчыне, угаварыў Яна Булгака зацікавіцца фатаграфіяй. Жанаты з Марыяй Паплаўскай (памерла ў 1955 г.). Арыштаваны ў маі 1940 г., сасланы ў ваколіцы Омска. Не вярнуўся з ссылкі.

[4] Юлія, у замужжы Хацiская. Арыштавана, памерла ў Казахстане.

[5] Казіміра, памерла ва ўзросце 20 гадоў да 1904 г.

[6] Марыя, у замужжы Браноўская, пазней Чэховіч, пасля вайны жыла ў Варшаве.

[7] Аўтар не ўспамінае пра Казіміра, які памёр ва ўзросце некалькіх гадоў, пахаваны на сямейных могілках у Чамброве.

нейкі час у якасці супрацоўніка Міністэрства юстыцыі. Там ён таксама вучыўся жывапісу ў Акадэміі мастацтваў, адкуль прывёз у Чамброў некалькі нядрэнных копій майстроў, выкананых уласнаручна. Потым ён быў прызначаны ганаровым міравым суддзёй у судзе ў Навагрудку, і гэта надавала яму яшчэ большую павагу. Інтэлектуальная атмасфера, якая так станоўча адрознівала Чамброў і абуджала маё палахлівае здзіўленне, была выключна яго справай і заслугай. Дзядзька быў шчуплы і высокі, апранаўся заўсёды ў цёмны сурдут і насіў даволі доўгія валасы, выказваўся па-польску больш правільна, чым гаварылі ў нас дома, і прыгаворваў: «Маё сэрца», паўтараў гэта часта з усмешкай, якая выклікала сімпатыю. Ён быў патрабавальны, але вельмі вытрыманы, ніколі не павышаў голасу і не мяняў ветлівы тон размовы, але яго трэба было слухаць, і ўвесь дом пра гэта ведаў. Усе без супраціўлення падпарадкоўваліся яго лагоднаму дэспатызму, пачынаючы ад жонкі, для якой ён быў найвышэйшым аўтарытэтам. У адносінах з іншымі ён меў таксама часам крыху павучальны тон і любіў выказваць свае меркаванні ў катэгарычнай форме, але заўсёды спакойна і ветліва. Зрэшты, ён меў на гэта поўнае права, бо валодаў адукацыяй, розумам і вопытам, якія забяспечвалі яму вядучую ролю ў павеце.

Былі ў дзядзькі і слабасці, адной з якіх было славалюбства. Ён любіў хваліцца, напрыклад, сельскай гаспадаркай, якая ў Чамброве ішла ў цэлым не лепшым чынам. Жняяркі і касілкі яшчэ толькі пачыналі з'яўляцца ў нас і былі сенсацыяй, таму, калі дзядзька іх завёў, з гэтага часу гаварыў, што «у мяне, маё сэрца, усё робіцца машынамі», і хваліў сваю даволі прымітыўную гаспадарку. А мой бацька, які меў пачуццё гумару і практычны погляд на рэчы, па-сяброўску спрачаўся са шваграм і жартаўліва ўказваў яму на розныя недахопы, пытаўся пра іх прычыну ў такой развітой гаспадарцы. Дзядзька адказваў на гэта паблажлівай усмешкай, ухіляючыся ад дыскусіі па сутнасці.

Аднак самай істотнай рысай характару дзядзькі Юльяна быў яго бязмежны аптымізм, які выцякаў не толькі з выгаднай самазадаволенасці, з якой ён крочыў па жыцці, але і з прыроджанай дабраты сэрца і жыццярадаснай веры ў лепшыя бакі чалавечай натуры. Ён лічыў, што ўсё робіцца найлепшым чынам на гэтым божым свеце, і нішто не змагло абвергнуць у ім гэтую ўпэўненасць. Адгэтуль, напэўна, паходзіла і яго наівіннае імкненне да славы ці наіўнае самахвальства, якое пачыналася словамі: «А ў мяне ў Чамброве, маё сэрца, робіцца так і так...» Будучы сам польскім шляхціцам у поўным значэнні слова, няздольным на подлыя і брыдкія ўчынкі, чалавекам, які заўсёды кіруецца правіламі ветлівасці, гонару і добрага выхавання, ён з гэтай самай мерай падыходзіў і да ўсяго свету. Ён не хацеў падазраваць ні ў кім горшых матываў і нізкіх намераў, наадварот, хацеў свята верыць, што ўсе — добрыя і навокал усё робіцца як найлепш. На самай справе рэчаіснасць не раз балюча насміхалася з гэтага трохі эгаістычнага аптыміста і ставіла яго перад цяжкімі выпрабаваннямі, але ён заўсёды выходзіў пераможна: ані не надта добрыя вынікі гаспадаркі ў Чамброве, якую ратаваў толькі вінакурны завод, ані маруднасць парабкаў і службы, за якой замала наглядалі і кіравалі, ані страта млына ў Валеўцы, прайгранага ў выніку працэсу, які быў кампраметацыяй для юрыста і суддзі, і гэта на карысць нейкіх асобаў з-пад цёмнай зоркі, — нішто не змагло пахіснуць жыццярадаснага, квітнеючага настрою дзядзькі і замуціць ружовыя акуляры, праз якія ён глядзеў на свет і на свой на самай справе прыгожы Чамб-

роў. Калі ў яго на полі згніла канюшына, не ўпарадкаваная ў пару і пакінутая на пашы дажджам, ён пасмейваўся ў размове з маім бацькам, што яна паслужыць угнаеннем для будучага асенняга ворыва; калі рабочыя коні свяцілі рэбрамі, спыняліся за плугам з-за недахопу аўса, ён і ў гэтым умеў знайсці нейкі добры бок і тлумачыў бацьку ў поўным унутраным перакананні, не звяртаючы ўвагі на іранічныя ўсмешкі і дабрадушныя шпількі свайго заядлага швагра. Дэспатычная выключнасць дзядзькі не прызнавала існавання іншых рэчаў і спраў, апрача тых, якія давалі спакой і выгаду, як, напрыклад, парадак, цішыня, паслухмянасць, павага, поспех, а ўсё тое, што з гэтым не стасавалася, ён проста лічыў неіснуючым: ён заплюшчваў вочы на такія з'явы і разглядаў іх як «per non sunt»[8]. А шчаслівы выпадак распарадзіўся, што ў дзядзькі была жонка анёльскай дабраты і мяккія, па характару ціхія дзеці, падобныя да маці, такія дысцыплінаваныя і так лёгка паддаваліся кіраванню, што былі вядомыя па гэтай прычыне ўсім суседзям, і назву «чамброўскія дзеці» доўга лічылі ў нашай ваколіцы найвышэйшай пахвалой, нечым накшталт ідэала добрых дзяцей.

У паўсядзённым жыцці дзядзька вызначаўся вялікай любоўю да парадку і рэгулярнасці. Кожная рэч мела сваё месца і не магла быць пакладзена дзе-небудзь яшчэ альбо проста кінута дзе папала, бо такі выбрык у тую ж хвіліну атрымаў бы ад яго далікатную вымову, але з усёй катэгарычнасцю. За сталом дзеці ніколі не асмельваліся голасна размаўляць ці перабіваць размову старэйшых, і было б нечувана, каб у нейкім выпадку яны не прытрымліваліся правіл ветлівасці і добрых манераў у адносінах да бацькоў ці каго-небудзь з дарослых. Час прыёму ежы быў дакладна акрэслены і павінен быў вытрымлівацца пунктуальна, а вечарам, калі гадзіннік біў дзевяць, дзяцей выпраўджвалі спаць, і ніякія просьбы, ані хітрыкі не маглі змяніць устаноўлены парадак, па якому, зрэшты, і дарослыя а дзесятай гадзіне падлягалі падобнаму рэжыму. Калі нехта з дзяцей скардзіўся на найлягчэйшы боль галавы ці горла, яго адразу клалі ў ложак, і ніякае заступніцтва дамашніх не магло адмяніць гэты загад мяккага дэспата.

Памятаю, калі я ўжо быў дарослы і пасля вячэрняй гарбаты даўжэй засядзеўся за сталом з дамашнімі, дзядзька Юльян з ударам дзесятай гадзіны ўстаў з-за стала, запаліў у высокім сярэбраным ліхтары свечку, якую ўзяў са століка ля дзвярэй, і са сваёй лёгкай, трохі халаднаватай усмешкай звярнуўся да маладой кампаніі: «Ну, вы, мае дарагія, як сабе хочаце, але я ўжо кажу вам дабранач...» Ён пацалаваў у галаву тых, хто схіляўся да яго рук, і выйшаў з пакоя — высокі, сівы, з прамой спінай і поўны стыльнай патрыярхальнай значнасці. Тое, што ён пакінуў нас сам-насам, было з яго боку актам найвышэйшай талерантнасці ў адносінах да дарослай моладзі і адначасова сведчыла аб адрачэнні ад непарушных канонаў Чамброўскага дамашняга парадку: ён ужо не гнаў спаць усіх цэлым домам, як некалі, а толькі сам прытрымліваўся сваёй звычайнай пары адпачынку, дазваляючы нам не прыстасоўвацца да яе. Дзядзьку часам жартаўліва называлі «Міністрам» з-за яго ўрачыстага выгляду і пэўнай дыстанцыі, якой ён адгароджваўся нават ва ўласнай сям'і, і, вядома, у яго важных, урачыстых і элегантных жэстах было нешта ад Падкаморага з Сапліцова Міцкевіча. Да таго ж даследаванні

[8] Як не існуючы *(лац.).*

апошніх гадоў геаграфіі «Пана Тадэвуша» адкрылі з усёй праўдападобнасцю, што, апісваючы двор у Сапліцове, Міцкевіч не мог узяць за прыклад нічога іншага, як Чамброў, гэтак жа сама, як замак з «Пана Тадэвуша» павінен быў быць узяты з Міра і перанесены ў Сапліцова. Некалькі гадоў раней у Чамброве разыгрываліся сцэны з фільма «Пан Тадэвуш», і Караль Карповіч, вельмі падобны да свайго бацькі, быў запрошаны пазіраваць, як Падкаморы[9]. З усяго гэтага відаць, у якой вялікай ступені гэты двор і гэтыя людзі адпавядалі атмасферы і сцэнічнаму афармленню «Пана Тадэвуша».

Цёця Карольця была маёй хрышчонай маці і выказвала мне шмат сардэчнасці. Праўда, я не ведаю, да каго з самых блізкіх яна не ставілася сардэчна, бо ў жыцці я не сустракаў такой анёльскай добрай жанчыны, якая поўнасцю аддавала сябе іншым. У яе прысутнасці мяне пакідала звычайная нясмеласць і страх перад старэйшымі, які я адчуваў у Чамброве яшчэ ў большай ступені. Я гарнуўся да яе ахвотна і з даверам. Мяккасць і дабрата выпраменьваліся з яе рысаў і мовы. Яна часта прыгаворвала: «Коценька мой, міленькі мой», — і вымаўляла гэтыя словы з вялікай асалодай, адчувалася, што яны — не пусты гук, а выражаюць яе сапраўдныя адносіны. Яна мела прадаўгаваты твар з лёгкім румянцам, які застаўся ў яе да старасці, ціхі голас, далікатна мадуляваны, фігуру, крыху пададзеную наперад, як бы ў пастаяннай гатоўнасці паспяшыць з добразычлівай паслугай. Яна ніколі не смяялася ўголас, і нават усмешка не вельмі часта гасціла на яе твары, але яе замяняў выраз прыхільнай увагі, трохі журботны, але вельмі шчыры, які заахвочваў да збліжэння. Калі я схіляўся да яе рукі пры прывітанні, цёця падавала мне пацалаваць адкрытую далонь, другую клала мне на галаву, і прытуляла да сябе сапраўды мацярынскім рухам. У мяне тады рабілася дзівосна цёпла і канальна на сэрцы, як быццам бы мая ўласная маці прытуляла мяне, і мне не хацелася адыходзіць ад гэтых добрых цёціных рук, у якіх я адчуваў столькі ціхай пяшчоты. Цёця была сярэдняга росту, невялікая, спакойна рухавая, займала сваёй персонай мала месца і не звяртала на сябе ўвагі. Затое яна сама звярталася да іншых, памятала пра патрэбы і звычкі кожнага ў доме, спяшалася з дапамогай туды, дзе здаралася нейкая бяда, недахоп ці недамаганне. Яна аддавалася дамашнім справам і абавязкам поўнасцю, забываючы пра сябе. Калі праз многа-многа гадоў такога высакароднага жыцця яна смяртэльна занемагла, то доўгі час утойвала хваробу, каб не хваляваць тых, каго любіла, і не прычыняць ім клопату. Урэшце яна згасла так ціха і незаўважна, як і жыла, пакідаючы пасля сябе сардэчны і кранальны ўспамін, як пасля прамяністага святла.

Замест замалёўкі, звязанай з канкрэтным момантам, я быў вымушаны прывесці тут кароткае жыццеапісанне цёці Карольці, бо немагчыма было адлучыць ад яе вобраза гэтыя рысы, якія самі выходзілі з-пад пяра, ствараючы з яе прыклад жанчыны, варты любові і пашаны. Яна была занадта сціплай, каб памяць магла захаваць аб ёй круг, шырэйшы за

[9] Фільм здымалі ў 1928 г., рэжысёр – Рышард Ардынскі. Яго прэм'ера адбылася на 10 гадавіну вяртання незалежнасці Польшчы. Булгак памыліўся: Падкаморага іграў Павел Аверла, а Каралю Карповічу даверылі толькі невялікую эпізадычную ролю. У захаваўшыхся да сённяшняга дня фрагментах фільма не збераглісі сцэны з удзелам гаспадара Чамброва. У шматлікіх публікацыях прыводзіцца памылковая інфармацыя, што фільм здымаўся ў маёнтку Красінскіх у Радзеёвічах каля Варшавы. Тут зняты адзіны эпізод, які прадстаўляе канцэрт Янкеля.

дамашні, але трэба па заслугах аддаць ёй доўг і прызнаць, што яна сама з'яўлялася любоўю і прысвячэннем, была старannай і ціхай, як рубінавы агеньчык, што мігае ў храме перад алтаром Хрыста. Сваю анёльскую дабрыню яна перадала двум наступным пакаленням — дочкам і ўнучкам: яе старэйшая дачка — Юльця Хаціская цалкам пайшла па маці і гэтак жа верна прысвяціла ўсё сваё жыццё дому і сямейным абавязкам. Нават, як маці, яна гаворыць «мая міленькая» з добрай і салодкай усмешкай. Яе жыццё было поўным цяжкіх падзей і цярпення, якія яна мужна прыняла на свае плечы і вынесла па-хрысціянску, выхаваўшы дзяцей высакароднымі і мужнымі людзьмі, вартымі сваіх папярэднікаў. Зараз вайна раскідала іх па свеце гэтак жа, як і іншых у нашым краі, і я нічога пра іх не ведаю, апрача таго, што яны церпяць галечу ў выгнанні недзе далёка на ўсходзе. Гэты лёс падзяліла і малодшая сястра — Марыся Чэховіч і, безумоўна, брат Караль. Ён — мая самая блізкая радня з боку бацькі, бадай, ужо адзіны, хто застаўся ў жывых.

Вяртаючыся да тых часоў, не магу сказаць, што чамброўскія дзяўчаты былі маімі сяброўкамі па гульнях, бо яны былі старэйшыя за мяне і займаліся мной хутчэй з-за гасціннасці і добрага выхавання, чым па сапраўднай ахвоце. Гэта выхаванне стварала паміж намі выразную перашкоду, бо я быў дзікі, баязлівы і нязграбны, не прызвычаены да згладжаных форм і выверaных слоў. Мая кампанія іх з упэўненасцю не прыцягвала, але яны ніколі не далі мне гэтага адчуць. Я пераважна хацеў захаваць пазіцыю наглядальніка, чым удавацца ў больш блізкія сяброўскія адносіны з дзяўчынкамі, якія пераўзыходзілі мой узровень і не адпавядалі майму характару. Я памятаю дзіцячы пакой з зялёнай печчу, які знаходзіўся побач са сталовай, куды мяне клікалі пагуляць, у ім шмат прыгожых кніжак з малюнкамі, якіх у мяне тады яшчэ не было, і незвычайная галаваломка з кубікаў, абклееных фрагментамі каляровых малюнкаў, якія трэба было падбіраць і складваць, каб утварылася цэлая карціна. Я не меў нават паняцця, што такія цудоўныя рэчы могуць існаваць: галаваломка здавалася мне асаблівай, была для мяне незвычайна прыгожай, і я быў задаволены, што магу хоць здалёк паглядзець на яе з пачуццём пакорнай ніжэйшасці. Увогуле ўсё ў Чамброве прыводзіла мяне ў маўклівае захапленне і здзіўленне настолькі, што я забываў пра забавы і мне не надакучвала спадылба прыглядацца да акружэння. Калі падрос, замест забавы я адважваўся прасіць дзядзьку, каб ён дазволіў мне паглядзець кніжкі ў бібліятэцы, на што ён ласкава даў дазвол, калі пераканаўся, што я не раблю там непарадку. Некаторыя з гэтых кніг не толькі ўрэзаліся мне ў памяць, але аказалі ўплыў на фарміраванне майго розуму, можа, не адразу, але на працягу бліжэйшых гадоў, адкуль відаць, якой важнай рэччу для развіцця дзіцяці з'яўляецца падбор дамашніх кніг. Перш за ўсё там была «Дрэздэнская галерэя» — два тамы прыгожых гравюр на сталі, якія прадстаўлялі сабой рэпрадукцыі самых каштоўных карцін, што знаходзіліся ў гэтай калекцыі. Дзякуючы ім мне перасталі быць чужымі творы і імёны такіх мастакоў, як Рубенс, Рэмбрант, Рафаэль, і даволі рана ў мяне стварылася ўражанне пра вялікае еўрапейскае мастацтва. Далей там было ілюстраванае парыжскае выданне «Конрада Валенрода» і «Гражыны» 1857[10]

---

[10] Міцкевіч памёр у 1855 г. Відавочная памылка ў даце, бо гаворка ідзе пра «Конрада Валенрода» і «Гражыну». Святочнае выданне па даверанасці аўтара ажыццёўлена за кошт працы, сродкаў і намаганняў Яна Тысевіча (Парыж, 1851 г.).

года, якое зараз з'яўляецца бібліятэчнай рэдкасцю, бо выдадзена яшчэ пры жыцці Міцкевіча на трох мовах — польскай, французскай і англійскай і ілюстравана прыгожымі планшэтамі і віньеткамі Яна Тысевіча[11]. У вершах я разбіраўся тады слаба, аднак пазнаёміўся са зместам абедзвюх паэм Міцкевіча дзякуючы шматлікім малюнкам Тысевіча, якія яскрава ілюстравалі найважнейшыя моманты дзеяння. Такія постаці, як Альманзор, Хальбан, Альф, Гражына, такія моманты, як песня пустэльніцы, смерць Валенрода, поле бітвы Гражыны, — моцна ўздзейнічалі на маю фантазію і пакідалі ў ёй глыбокі след, які нішто не змагло сцерці. Яшчэ і сёння бачу гэтыя карціны, падзеі, твары і іх выразы з усёй пластыкай і сілай успамінаў, і гэта праз 50 гадоў, што прайшлі з таго часу. Калі б бацькі ведалі, якая важная і рашаючая рэч — даць дзіцяці адпаведную кніжку ў патрэбны момант, якую невымоўную страту можна выклікаць, калі прапусціць гэты момант, то яны б, безумоўна, не пакінулі гэту справу на волю выпадку.

Я ахвотна ўдыхаў гэтыя чамброўскія сенсацыі, нават не спрабуючы рабіць параўнання з тым, што меў дома. Трэба прызнаць, што гэта параўнанне не было б на карысць Асташына. Дом у Чамброве быў пастаўлены на вышэйшым узроўні не толькі з матэрыяльнага пункту гледжання, што датычыць ладу, чысціні і культуры. Там бывала шмат людзей з суседзяў і з больш далёкіх краёў і збіралася адборная кампанія з цэлага

[11] Тысевіч Ян (сапраўднае імя Уладзіслаў Невяровіч, 1815–1891) – мастак, мініяцюрыст і ілюстратар, аўтар 100 чорна-белых дрэварытаў да «Конрада Валенрода» і «Гражыны».



***Нёман каля Любчы.*** *Здымак да 1911 г.*



***Зося і Данэк Карповічы каля дома перад уваходам у парк.***
*Чамброў, 1929—1930 гг.*

павета, а не раз — і прадстаўнікі інтэлектуальнага свету. Нават з пункту гледжання прыгожага месцазнаходжання Чамброў пераважаў Асташын, бо гэта быў той шчодра адораны прыгажосцю кавалак зямлі паміж Мірацічамі, Сёгдай, Райцай і Навагрудкам. З чамброўскага ганка, як у калейдаскопе, была відаць пейзажная панарама — вялікая па абшырнасці і разнастайнасці суседняя вёска Валеўка і яе ваколіца, фантастычна выгнутая, поўная зацішных далінак, пагоркаў і гаёў. Гэтак жа сама хваліста выгінаўся Чамброўскі сад — агромністы, цяністы, пасаджаны на некалькіх дзесятках моргаў, і меў тысячы адборных пладовых дрэў і алей цудоўных дубоў, ліп і ясеняў. У садзе раслі вельмі прыгожыя кветкі і дэкаратыўныя кусты, вырашчаныя ў аранжарэі абрыкосы і вінаград, адусюль вабілі самыя першакласныя гатункі садавіны і ягад. Як быццам бы гэтага было замала, бабы з вёскі прыносілі яшчэ кашамі лясныя маліны і суніцы, і летам прыхожая не раз была засыпана гарой чырвоных ягад, якія перабіралі ўсім домам, елі, грэбаліся ў іх рукамі і шпількамі, робячы сабе з гэтага лянівую пацеху. Гэты ягадны разліў — каляровы, пахучы і смачны, ствараў уражанне нейкага благаслаўлёнага летняга дастатку, і можна было смела назваць Чамброў краінай, у якой ракой цякуць малако і мёд, зямлёй абяцанай, квяцістай, маляўнічай, багатай на рознага роду прыгажосць і прыродныя багацці. Такім здаўся мне Чамброў у першы раз, і такім ён застаўся ў маіх успамінах назаўсёды.

Гасціннасці, што вітала кожнага прыезджага добрым словам і шчодрым пачастункам, ва ўнутранай сферы адпавядалі чалавечнасць і павага, з якой адносіліся да службы і дамашніх. У Чамброве ўсе былі адной сям'ёй, злучанай паміж сабой вузламі сумесных добразычлівых інтарэсаў. Цёця была маці для ўсяго двара і не выпускала з-пад сваёй апекі ніводнай кухаркі ці пасудамыйкі. З дамачадцаў там быў пан Баляслаў Тарвід, былы настаўнік дзядзькі, які выконваў абавязкі пісара на вінакурні, стары чалавек з моцна ўскудлачанымі валасамі, вельмі мяккім выразам вачэй і мілымі манерамі. Пры хадзьбе ён моцна кульгаў з-за таго, што адмарозіў нагу, і насіў вялізныя юхтавыя боты, якія моцна стукалі. Ён садзіўся сціпла на канцы стала ці ў куце пакоя і, прымаючы ўдзел у размове, гаварыў рытарычным стылем, як належала былому педагогу. Нягледзячы на непрыкметны выгляд і занядбанне ва ўбранні, ён валодаў вытанчанай старасвецкай ветлівасцю, якая так прыемна адрознівала тагачасных людзей і вынікала не толькі з добрага выхавання, але і з дабрадушнасці вясковага характару, які не ведаў гарадской жорсткасці.

Сярод шматлікай жаночай службы рэй вяла Баба — былая нянька дзядзькі Юльяна, а потым нянька Караля і дзяўчынак, нізкага росту і каранастая, старая, з амаль квадратнай фігурай, у чырвонай хустцы на галаве і са зморшчаным, як печаны яблык, тварам, падрумяненым у бронзавы колер. Яна гаварыла грубым кантральта і толькі «па-сялянску», як тады называлі беларускую мову, але з павагай і аўтарытэтам, якому б не адна пані магла пазайздросціць. Яна без цырымоній ганяла службу, а дзяўчатам казала «ты» і называла па імені, што гучала смешна на яе цвёрдай загрубелай мове. Зрэшты, у хвіліну гневу яна магла прыкрыкнуць на самога «паночка», якога яна памятала дзіцём, толькі да добрай і мяккай пані яна ставілася з пастаяннай павагай. Баба дэспатычна кіравала ў кладовай, на кухні і ў птушніку, без яе не скісла ні адна смятана, ніводнае качаня ці індычаня не вырасла без яе клапатлівага нагляду. Яна была любіміцай цэлага двара, але і яго мучыцелькай

таксама, бо ўсім рабіла ласку, але і ганяла ўсіх сваім беларускім басам, паказваючы суровы гнеў і ўсміхаючыся пад носам. Любілі і цанілі гэтую простую сялянку з бруднымі спрацаванымі рукамі і звычайную з выгляду, але з высакародным сэрцам, як блізкага, роднага чалавека. Не ведаю, ці была ў яе калі-небудзь нейкая свая сям'я, ва ўсялякім разе, гэта, напэўна, было даўно.

Я не ведаў яе імя і не ведаю, ці знаў хто-небудзь іншы, гаварылі «Баба» — і гэтага ўсім было дастаткова, не выключаючы яе самой. Чамброў быў яе сям'ёй, і домам, і ўсім. Так асоба гэтай добрай душы растварылася і ўвайшла ў дружалюбнае акружэнне, не шукаючы і не хочучы нічога для самой сябе. Баба была ўвасабленнем вернай любові, лічыла сябе проста дамашняй прыналежнасцю, якая служыла на карысць сям'і. Яна добра ведала сямейныя і суседскія ўзаемаадносіны і вельмі дбала пра гонар дому, пра яго забеспячэнне і пра сваіх любімчыкаў, якія хмарай лawталі за сваёй любімай Бабай і не давалі ёй спакою. «Юльця! Казюня! Марыся! Адчапіцеся ад мяне, ідзіце вучыцца», — бурчала яна на дзяўчынак, адмахваючыся ад іх, як ад дакучлівых мух, але толькі прыкідвалася незадаволенай, а па сутнасці справы прападала за імі і песціла, як магла. Яна мела пры кухні ў канцы дома маленькі пакойчык, у якім панавала трапічная духата і які ўвесь быў завешаны «талькамі», гэта значыць маткамі напрадзеных ільняных нітак, прызначаных на тканне дамашняга палатна. Ільняное палатно, так званае «кужэльнае» і «зрэбнае», выраблялася ў нашых дварах у велізарных колькасцях і ўжывалася паўсюдна: на мяшкі, сеннікі, анучы, а таксама больш грубую асабістую і сталовую бялізну. Далікатнейшыя віды бялізны шыліся з тонкага галандскага палатна, якое належала да пасагу гаспадыні дому, лічылася на шмат тузінаў і перадавалася з пакалення ў пакаленне, такім яно было моцным і нязношваемым. Вось чамброўскія палатняныя запасы знаходзіліся ў распараджэнні Бабы, якая вельмі любіла і ведала льняную справу — уласцівасць выключна жаночая і разам з тым чалавечая. За ўсё гэта дзядзька і цётка шчыра любілі і паважалі сваю Бабу і рабілі, што маглі, каб ёй аддзячыць, ставіліся да яе з усёй сардэчнасцю, як да радні. Але, на жаль, не шмат маглі для яе зрабіць, бо Баба нічога не патрабавала, па-сялянску ўхілялася ад прыхільных прапаноў павышэння па службе, поўная прастаты і свабодная ад усялякіх амбіцый, узнагароду выплачвала сама сабе натурай — манетай сэрца. Было нешта ўзвышанае ў гэтай цвёрдай і вернай сялянскай душы.

Апрача Бабы быў там яшчэ Піліп, фундушовы слуга, фурман на заслужаным адпачынку, пазней прызначаны садоўнікам. Ён таксама меў за сабой жыццё, праведзенае ў Чамброве на добрасумленнай, паважанай службе, і так прырос да двара, што немагчыма было ўявіць сабе Чамброў без Піліпа. Яго асоба звязвалася з наступным здарэннем, падобным на анекдот. Дзядзька лепш ведаў заканадаўства, чым гаспадарку, а на справы, якія тычыліся экіпажаў і запрагання коней, ён меў цалкам тэарэтычныя погляды. Аднойчы ў дарозе нешта сапсавалася ў экіпажы ці вупражы і нельга было ехаць ні кроку далей. А было ўжо позна, і адведзіны былі тэрміновыя, навокал ані жывой душы, аднак не начаваць жа ў полі. Дзядзька ўпаў у дэпрэсію ад роспачы, забыўся пра свой гонар і пачаў маліць Піліпа, каб выратаваў яго з гэтага клопату. Не ведаючы, што трэба рабіць, толькі гарачкава паўтараў: «Піліп, дай рады! Піліп, дай рады!» А Піліп пачухаў за вухам, пабурчаў, што папярэджваў пана аб пашкоджаннях у экіпажы і што трэба было ўзяць брычку, але, урэш-

це, раскінуў мазгамі, выразаў у зарасніку нейкі дубец, звязаў з горам нейкім канатам, і паехалі. Так, ва ўсялякім выпадку, расказваў мой бацька, які не прапускаў ніводнай магчымасці, калі мог пажартаваць з бесталковага швагра. Быў у Чамброве таксама заслужаны эканом Білевіч у круглай фуражцы з аколышкам, з пышнымі вусамі, моцны і румяны. Ён прыходзіў вечарамі ў прыхожую па распараджэнні і доўга ўважліва абмяркоўваў нешта з дзядзькам высокім скрыпучым голасам, а паколькі ў дзядзькі таксама быў тонкі, трохі пісклявы голас, асабліва калі ён падымаў яго вышэй, таму гэтыя вячэрнія канферэнцыі ўрэзаліся мне ў памяць сваёй арыгінальнай формай гучання. Білевіч таксама прабыў у Чамброве ўсё жыццё і там памёр.

Такія былі ў той час слугі ў нашых дварах, станавіліся з гадамі сябрамі, уваходзілі ў сям'ю, заваёўвалі давер і ўдзячнасць сваіх паноў і ўжо не расставаліся з імі да смерці. Яны былі вартыя адзін аднаго ўзаемна, бо не магло быць добрых слуг без добрых паноў, а Чамброў асабліва падыходзіў для стварэння такога высакароднага і сардэчнага асяроддзя, у якім квітнелі найлепшыя чалавечыя пачуцці.

Якім жа пасля гэтага Чамброўскага раю здаваўся мне мой бедны незамыславаты Асташын? Ці не бляднеў, драбнеў, ці не станавіўся менш вартым любові, бо не мог ніякім чынам зраўняцца з прыгожым Чамбровам, цудоўным, асаблівым Чамбровам? А вось і не. Ён нічога не траціў ад параўнання, бо не падлягаў параўнанню. Ён быў чымсьці адзіным, сваім, выключным, не падлягаючым крытыцы, ані ахвоце змяніць. Ён не мог быць лепшым ці горшым, ён быў такі, які быў, і гэта спыняла ўсе развагі. А Чамброў, хоць такі прыгожы і цікавы, быў, аднак, чужым домам, часам добра было на яго паглядзець, але ён быў не для штодзённага кантакту. Я не ўмеў жыць з Чамбровам так, як са «сваім» Асташынам, мілым па-за ўсімі параўнаннямі.

Можа, я не адчуваў гэта так выразна, як прадстаўляю зараз, але такім быў, без сумнення, паток маіх пачуццяў у гэтай справе. Са знаёмства з Чамбровам я шмат чаму навучыўся, атрымаў мноства каштоўных уражанняў, але дзеля яго я не здрадзіў ані на хвіліну роднаму парогу.



***Стаў.*** *Здымак да 1912 г.*

## Раздзел VIII

# Дарогі і двары. Ад Свіцязі да Варончы

Верх прыгажосці заходняга шляху прыпадаў на ваколіцу Чамброва і Свіцязі: тут быў цэнтр маляўнічасці, і адсюль яна выпраменьвалася на пару міль наўкола, тут была таксама найбольшая канцэнтрацыя пагоркаў у спалучэнні з самым лепшым відам ураджайнай глiністай глебы, якая менш прапускала вільгаці, спрыяла росту лісцевых лясоў, а перш за ўсё цудоўных дубовых лясоў, якія мне асабліва імпанавалі. Каля Асташына зямля была лягчэйшай, пераважна з шэрага перагною, даволі ўраджайнай дзякуючы шматгадовай апрацоўцы, але больш пясчанай. На ёй добра раслі бярозы і сосны, але дуб быў рэдкасцю, а граба не было ў лясах нават на лякарства. Толькі за Шчонавам, бліжэй да Райцы, палі гублялі шэрую афарбоўку, набывалі жоўты і чырванаваты колер, і там пачыналася ўраджайная паласа, парослая дубамі і так моцна ўздыбленая пагоркамі і лагчынамі, што ёй давалі назву навагрудскай Швейцарыі. Я не здолеў бы растлумачыць навукова геалагічныя ўмовы, якія надалі ёй такі вы-гляд, але гэта сапраўды было нешта асаблівае, бо на невялікім кавалку зямлі сабралася столькі прыроднага хараства, столькі прыцягальнай разнастайнасці, столькі важных пейзажных элементаў, якія пастаянна цешылі вочы і абуджалі думку. Праўда, гэта была родная старонка Міцкевіча, апісаная ім у «Пане Тадэвушы», але трэба таксама прызнаць, чаго варты быў палац Паца. Нават не скорыя на энтузіязм мае бацькі часам хвалебна гаварылі пра «маляўнічую наваградскую старонку» як пра нешта выключнае, заслугоўваючае ўвагі, і я вывучыў на памяць гэту прапісную ісціну раней, чым змог праверыць на вопыце яе слушнасць. Мы так прывыклі ў штодзённым жыцці да прыгожых відаў і шырокіх перспектыў, што зусім гэта не цанілі, толькі параўнанне з іншымі мясцовасцямі, бяднейшымі у адносінах пейзажу, як, напрыклад, пясчаныя раўніны за Мірам, камяністыя пусташы пад Наваельняй альбо плоскія ляхавіцкія і клецкія адкрытыя прасторы, дазваляла ўсвядоміць, як мы выключна багатыя скарбамі маляўнічасці.

Зграбны рэльеф паверхні аздабляў прыгожы раслінны покрыў. Гэта было нешта, што не паддаецца апісанню, — буйны высокі зараснік дрэў самых прыгожых відаў, бо былі яны не пушчанскія і не баравыя, а хутчэй паркавыя, гаёвыя, рассыпаныя групамі, часта перарваныя і пры гэтым змешаныя хвойна-лісцевыя. Палі і лугі выглядалі як агароды і сады. Там не было чыста сасновых лясоў, як за Нёманам, сосны трапляліся толькі па адной, часцей і гусцей раслі елкі, але найбольш было грабаў, бяроз і дубоў, і ўсё падшыта ляшчынай, рабінай, папаратнікам і брусніцамі, шматлікімі відамі траў і імхоў. Сцелючыся мякка і вільготна ў зацішных глыбінях, поўных каляровага святлаценю, дубровы ўзбіраліся на вяршыні гор і спускаліся лашчынамі да прыцягальных палянак і зялёных далін, адзіночныя дрэвы стаялі купамі на пад'ёмах дарогі, як

садовыя алеі і клумбы, высокія дубы хавалі ў сваім ценю дарогу і прымушалі яе лавіраваць паміж калонамі пнёў крутой стужкай і кожную хвіліну ўтвараць утульныя закуткі, якія заахвочвалі да адпачынку і агляду. А было на што паглядзець: навокал разбушавалася нейкая оргія маляўнічасці, нейкая звыш меры хвалістасць і нагрувашчванне пейзажных дэкарацый на ўсіх узроўнях, каб стварыць як найбольш разнастайнасці і супрацьпастаўленняў, прыцягальнасці і сюрпрызаў, каб асляпіць гледача багаццем відовішча, а потым даць яму адпачыць вокам на якім-небудзь малахітавым гроце, які паблісквае каштоўнымі кроплямі падсвечаных сонцам фарбаў, на нейкай бірузовай далі, што выглядае з-за фіранак квяцістага рова. Гэты краявід трымаў у пастаянным напружанні, не даваў ні на хвіліну забыць пра сябе, прымушаў да сузірання, трымаў у стане пастаяннай узнёсласці, як высакароднае віно, што дае іскрыстую пену радасці. А калі гэты краявід ты ведаў ужо так добра, што нечаканасці былі немагчымыя, тады кожны новы агляд яго падрабязнасцей, на якія немагчыма было наглядзецца, выклікаў задаволеную ўсмешку ўзаемаразумення, уводзіў у стан гарманічнай згоды на ўсе чарговыя цуды, якія з'яўляліся на блакітным экране неба ў гэтым калейдаскопе навагрудскіх чараў. Вось так выглядалі дарогі на заходнім шляху, які вёў да «сэрца» Навагрудчыны.

За трыццаць гадоў свайго жыцця я не рабіў нічога іншага, як толькі тое, што імкнуўся ўхапіць выраз і прыгажосць гэтага пейзажу ўсімі даступнымі мне спосабамі. Гэту задачу, хоць наогул цяжкую для выканання, удавалася, як я мяркую, лягчэй ажыццявіць у сотнях фатаграфічных здымкаў, чым на старонках гэтага дзённіка, дзе я вымушаны круціцца ў коле адных і тых жа заношаных «чужых» слоў і шаблонных прыметнікаў, каб увасобіць у словах невымоўнае, каб выразіць невыразнае. Лаўлю сябе за руку на тым, што колькасцю апісанняў спрабую замяніць іх якасць, бо цешу сябе надзеяй, што ў якім-небудзь, нарэшце, ухаплю сутнасць справы. Аднак не трэба па чарзе апісваць усе мясцовасці, усе ўзгоркі, даліны і лагчыны, падобныя адна на адну, калі не браць пад увагу суб'ектыўны пункт гледжання таго, хто піша. Таму скажу толькі пра тое, што, на мой погляд, з'яўлялася найбольшым прыцягненнем, самай большай каштоўнасцю навагрудскага краявіду. Гэта былі добра падабраныя прапорцыі раздзялення гарызантальных і вертыкальных паверхняў, прыгажосць вобраза, які яднаў і браў за сэрца, як усмешка прыгожага твару, блізкага і дарагога. Там не было сапраўдных гор — вялікіх і цяжкіх, прыгнятаючых панараму ці адсоўваючых яе занадта далёка; яны адразу паказваюць зашмат, вядуць погляд, пакуль ён не губляецца ў далечыні, але не даюць яму адпачыць, заціхнуць і адчуць сябе па-дамашняму. Не было таксама плоскіх раўнін, бедных на рэльефнасць, бо яны пазбаўлены шматпланавай перспектывы; яны ізноў хаваюць нават тое, што маюць перад вокам падарожніка, калі засоўваюць адзін план за другі па прычыне роўнага ўзроўню і за першым планам не маюць чаго паказваць, хіба што імглу сіняватай далі. А нашы навагрудскія горкі, узгоркі і пагоркі ўмелі, уласна кажучы, захаваць залатую сярэдзіну паміж гэтымі дзвюма крайнасцямі, не давалі ані замала, ані замнога паглядзець зараз, развівалі паволі, але няспынна, калейдаскоп відаў, утваралі розныя планы, выразна, па-

ступова нарастаючы, словам, кампанаваліся сапраўды па-мастацку і штохвіліны адкрывалі карціны, на якія глядзелася з задавальненнем ці проста з энтузіязмам.

Мяне гэты энтузіязм не пакідаў ніколі, і сёння я вымушаны стрымліваць яго, каб, апісваючы Навагрудчыну, не ўпасці ў нуднае шматслоўе. Таму спынюся толькі на некалькі найбольш характэрных відах, а пасля гэтага абмяжуюся пералікам мясцовасцей, якія мне так запомніліся. Магчыма, самай «швейцарскай» з пункту гледжання пабудовы паверхні была траса ад Навагрудка праз Моладаў[1], Сёгду, Ізабэлін[2], Радагошчу, Катлова, Мондзін[3], не гаворачы ўжо пра Чамброў. У Моладаве, які належаў сям'і Стравінскіх, цяжка было знайсці які-небудзь кавалак роўнай паверхні, такія там уздыбліваліся лясістыя горы і спадалі ўніз глыбокімі цяснінамі, якія ўтваралі дзікія, цяніста зарослыя яры. У гэтым хаосе ўзроўняў, вышынь і ўпадзін ужо была пэўная суровая недаступнасць, і гэта адчувалася падчас зацяжнога пад'ёму па крутых з небяспечнымі выбоінамі дарогах. Дрэнныя былі там дарогі, кожны дождж жалабамі пракладваў у гліне глыбокія равы і нізіны, якія стваралі пагрозу для начных падарожнікаў, але чым горшай была дарога, тым прыгажэйшым быў яе фон і тым большую асаблівасць уяўлялі сабой сюрпрызы мясцовасці, калі раптам з-за павароту, што ішоў пад ухіл з'езда, паказвалася дно яра і плоска пераходзіла ў зацішны лужок з пакручастым ручаём і ружанцам вясковых хат уздоўж яго. Незвычайна прыгожым быў гэты краявід, але на больш доўгім адрэзку стамляў празмернасцю гор.

Ваколіцы Сёгды прыносілі пэўнае расслабленне, дзякуючы мякчэйшай хвалістасці паверхні, а сам двор складаўся з ансамбля фундаментальных, заможна пабудаваных гаспадарчых будынкаў, у якіх відаць была неперарыўнасць папярэдніх пакаленняў, так усе яны былі задуманы асобна і эстэтычна і так старанна выкананы. Двор зацянялі прыгожыя шпалеры і букеты разложыстых старых дрэў, якія мелі выгляд натуральна згрупаваных і зарослых гушчаром, бо ўсе нашы двары мелі тую амбіцыйную ўласцівасць, што не ганяліся за чужаземнай абстрыжанай і па-цырульніцку ўкладзенай аздобай, а хацелі ўяўляць сабой тайнае спалучэнне планавага замыслу чалавечай рукі са свабодным разрастаннем дзікай прыроды. Спалучэнне было такім умелым, так інстынктыўна падабраным, што азеляненне шляхецкай сядзібы мела выгляд фрагменту прыроды, які стварыўся сам па сабе, але фрагменту дасканала скампанаванага, свабоднага ў роўнай ступені як ад беспарадкавай выпадковасці, так і ад халоднай, бяздушнай помпы. Таму нашы двары былі сапраўды прыгожымі і дастойнымі ў сваёй сціплай і мудрай прастаце і ўздзейнічалі на гледача гарманічна і мякка, падсвядома даючы пачуццё ціхага задавальнення.

Такой была Сёгда, хоць ужо ў той час крыху занядбаная, што надавала ёй адценне панурасці, а адбывалася гэта таму, што ўладальніца —

---

[1] Моладаў – маёнтак у Навагрудскім ваяводстве. Не сустракаецца ў «Геаграфічным слоўніку».

[2] Ізабэлін – маёнтак у Навагрудскім ваяводстве, уласнасць Бжазоўскіх. Не сустракаецца ў «Геаграфічным слоўніку».

[3] Мондзін – фальварак у Навагрудскім ваяводстве, уласнасць Браноўскіх, у канцы XIX ст. налічваў каля 6,5 валокі.

пані Марыя Цывінская — асоба ў гадах і хваравітая, мала магла займацца домам і гаспадаркай, таму ўсё паволі ішло да заняпаду. Мая маці называла яе цёткай і, спачуваючы, часам адведвала, а кроўная роднасць з ёй, не ведаю ўжо якая, вялася праз Верашчакаў і Туганоўскіх. Пані Цывінская была высокай, худой, з вострым пародзіста вырысаваным профілем, апраналася ў чорны шоўк і карункі і гаварыла напалову па-французску, а зрок мела такі блізарукі, што не адрознівала прадметы далей чым на выцягнутую руку і не расставалася з чарапахавым «Face á main»[4]. Арыстакратычная дама жыла адна пасля смерці мужа і адзінага сына ў вялікім, пустым сёгдзянскім доме, які, відавочна, не выглядаў вясёлым. На мяне ён рабіў прыгнятаючае ўражанне ў яшчэ большай ступені, чым дом у Туганавічах, пра які я буду пісаць, як быццам бы і тут панавала атмасфера нейкай драмы і сумным ценем агортвала дагаранне выміраючага роду. Пані Цывінская была ўжо тады бабулькай і праз некалькі гадоў адышла з гэтага свету, з якім яе ўжо нічога не звязвала.

Размешчаны недалёка ад Сёгды Ізабэлін спадарства Бжазоўскіх не пакінуў у мяне аб сабе амаль ніякіх успамінаў, за выключэннем асобаў уладальнікаў, бо бацькі там не бывалі, а толькі сустракаліся з імі ў Чамброве. Спадарства Бжазоўскія падабралася такім чынам, што яго звалі Адам, а яе — Эва, і з-за гэтага яны святкавалі сумесна імяніны 24 снежня на вігілію, калі ў Ізабэлін з'язджаліся суседзі, бо гаспадароў вельмі любілі за іх дабрату, спагаду і мілы, таварыскі характар. Гэтыя рысы, зрэшты, былі агульныя для ўсіх нашых тагачасных людзей, бо павага і чалавечнасць былі паўсюдна і лічыліся звычайнымі, нечым, што разумелася само сабой і не магло быць інакш. Здзіўляліся толькі тады, калі нехта, за выключэннем, здраджваў гэтаму маральнаму абліччу і выказваў іншае, не адпаведнае памешчыцкаму звычаю. На такога чалавека глядзелі са шкадаваннем, як на адступніка, і трымаліся ў адносінах да яго з асцярожнай стрыманасцю. Але вернемся да пана Адама. Ён быў худы, высокі, барадаты і моцна зарослы, таму выглядаў у маіх вачах крыху страшна, хоць, па сутнасці, быў увасабленнем мяккасці, пачцівасці, часу і месца, а таксама вельмі скрупулёзна цытаваў дакладныя даты, так што кожны яго аповед нязменна пачынаўся словамі: «А было гэта ў тысяча васемсот шэсцьдзесят трэцім годзе...». Яго ведалі ўсюды з-за гэтай бясшкоднай скрупулёзнасці і злёгку пасмейваліся з яго храналогіі. Пані Эва, якую бліжэйшыя прыяцелі звалі Эвелінкай, была невялікага росту, мела худую фігуру і выступаючыя пярэднія зубы, якія надавалі ёй выраз пастаяннай усмешкі, што, зрэшты, адпавядала яе ўнутранаму стану, бо была яна добрай і вясёлай. Яна вельмі сябравала з маёй цёткай Карповічавай з Чамброва, які знаходзіўся тут жа побач з Ізабэлінам, дзякуючы чаму «Эвеліна і Карольця» заставаліся ў пастаянных суседскіх і сяброўскіх адносінах, разам былі завадатаркамі ў акцыях добрай волі, лекарскай дапамогі і ўсялякай дзейнасці, і няхай нас усіх благаславіць неба, утваралі нейкі сардэчны асяродак, які прамяніўся самымі прыгожымі жаночымі рысамі. Аж дзіўна сёння ўспамінаць, калі людзі ва ўсім свеце здзічэлі і масава забіваюць адзін аднаго, тэхнічна і навукова, які тады быў іншы

[4] Від ларнета з ручкай.

час і як шмат было ў нас высакародных і шляхетных людзей, і асабліва жанчын, з вялікай душой, ахвярным сэрцам і пачуццямі, якія далікатна адцяняліся.

З Ізабэліна ехалі ў Чамброў праз вёску Радагошча, якая падходзіла аж да самага Чамброўскага парку. Канец, павернуты да вёскі, размяшчаўся на высокай гары, на ўзроўні значна вышэйшым, чым вёска, зарос дубамі і на вяршыне меў альтанку з бязмерна шырокім і прыгожым відам на стаў, млын, грэблю, а таксама на прылягаючыя паселішчы, якія распаўзліся па гарыстым схіле. Ля вёскі парк канчаўся абрывістым насыпам, пясчаныя рэбры якога, заблытаныя кустамі, выглядалі гэтак жа рамантычна, як карціны, намаляваныя дзядзькам Юльянам і развешаныя ў яго чамброўскіх салонах. Гэтая гара — гэта быў, уласна кажучы, той Гарадзішчык, старажытнае гарадзішча, пра якое я ўжо ўспамінаў як пра падставу гонару дзядзькі і цёткі Карповічаў, дзеля незвычайнай прыгажосці яго размяшчэння, умела імі выкарыстанага і падкрэсленага. Раней там было гарыстае поле, перарэзанае ровам, а на схіле парослае дрэвамі. Дзядзька Юльян без ваганняў далучыў амаль цэлую валоку зямлі да невялікага Чамброўскага саду, абгарадзіў усю гэту прастору плотам, засадзіў садовымі дрэвамі, разбіў дарожкі, праз роў перакінуў мосцік і ператварыў поле ў цудоўны агромністы парк — аздобу Чамброўскага двара, якой любаваліся ўсе суседзі. Ад Радагошчы дарога вілася ля падножжа гэтага парку, закручваючыся разам з яго скачкамі, а мінуўшы двор, ішла ў суправаджэнні бярозавай алеі ўсё ніжэй і крутымі зігзагамі даходзіла да перакрыжавання з Валеўскім гасцінцам, дзе стаяла так званая «Баравая карчма».



***Фасад двара Хаціскіх у Отмыцы.*** *Здымак да 1912 г.*

У Баравой сядзеў, вядома, яўрэй, бо месца на адрэзку паміж Валеўкай і Навагрудкам было рухавым, яго часта наведвалі прыезджыя, і ў карчмара, нягледзячы на акцызныя абмежаванні, заўсёды знаходзілася якая-небудзь прыхаваная пляшка гарэлкі для гасцей. Вялізная карчма прагніла і нахілілася ад старасці, а страха мела такія заплеснелыя буразялёныя наросты імху, што выглядала, як стары чарвівы грыб. Пад'язджаючы, я любіў сустракаць позіркам яе пафарбаваныя ў чырвоны колер дзверы адрыны, а пра бурую шапку даху я думаў, што яна па праву належыць карчме Баравой, таму што яна так падобна на баравік. Паблізу расло некалькі вербаў, засцяняючы карчму, а далей гасцінец узбіраўся працавітымі кідкамі на ўспучаныя голымі жыватамі горы паміж Чамбровам і Мондзінам, дзе на вяршыні стаяў вялікі крыж, які востра вырысоўваўся на гарызонце і прыцягваў позірк сваім суровым відам. Ён узвышаўся над ваколіцай, цвёрда ўзносіўся да неба над гарбамі гары, сурова асуджаў і абяцаў апеку, непакоіў і суцяшаў выцягнутымі плячамі. Ён быў адзін у ваколіцы, адзінокі, сімвалічны, вялізны, немагчыма было праехаць міма, каб не заўважыць яго і не ўшанаваць яго па-божаму.

Гэты вір крыжовай гары, напамінаючай Галгофу, урэзаўся ў маю фантазію глыбокімі рысамі, заахвочваў яе да актыўнасці, а ў сэрца запаў, як нешта вельмі блізкае і важнае, абуджаючы несвядомыя, невыразныя пачуцці любові і пашаны, якія потым, праз гады, я знаходзіў у душы як бясцэнны скарб, магчыма, як адзіную надзейную вартасць пражытага жыцця... Я маю ў сэрцы шмат такіх назаўсёды замацаваных відаў, якія з'яўляюцца маёй пастаяннай уцехай і клопатам: уцехай, таму што магу іх аглядаць з усёй свежасцю першага ўражання, клопатам, таму што не магу ўхапіць і апісаць іх сапраўднае аблічча, таму што не ў стане акрэсліць, што ў іх, уласна кажучы, было такога асабліва прыгожага, у чым заключаліся іх бязмерныя чары, якія нішто не здолела зменшыць, нягледзячы на столькі прайшоўшых гадоў. Думаю, што гэты клопат будзе суправаджаць мяне да самага канца і што я ніколі не знайду слоў, вартых гэтай самай прыгожай зямлі, бо калі б знайшоў сапраўды ўласцівыя словы, якія поўнасцю яе раскрываюць, то стварыў бы шэдэўр, перад якім усе павінны былі б укленчыць, а сам я памёр бы ад шчасця.

З Валеўскага гасцінца зварочвалі направа да Мондзіна, які належаў спадарам Браноўскім. У той час я не ведаў ні двара, ні людзей, бо бацька не падтрымліваў з імі сувязей, хоць гэта былі нейкія нашы крэўныя. Але ваколіца Мондзіна, калі мы часта праязджалі, была суцэльным цудам. Я б сказаў: ізноў нейкія цудоўныя швейцарскія горныя патаемныя мясціны, перанесеныя на Навагрудчыну. Там былі глыбока запалыя яры, аброслыя ляшчынай і рабінай, крутыя і вузкія дарожкі, якія закручваліся абсалютна па-вар'яцку, але якія за кожным паваротам адкрывалі новыя цуды. На гары пры дарозе быў могільнік з плакучымі бярозамі з доўгімі жалобнымі косамі, а на ім поўна замшэлых і нахіленых да зямлі крыжоў, як бы занямоглых ад старасці. Стаў быў як люстэрка з плаваючымі плытамі белых гарлачыкаў і з нерухомымі купамі чароту, а ля яго буркатаў млын, былі таксама балоцістая грэбля і мост з перагародкамі, праз які прасочваліся ніткі плёскаючай вады. Былі старыя вербы, што глядзеліся ў ваду пакручанымі тулавамі і пагружа-

ліся ў яе навіслымі галінамі. Было зацішна, хораша, прыгожа, як у мары, і не дзіва, што, едучы гэтымі ваколіцамі і гэтымі дарогамі, я правёў з імі ў марах столькі майго жыцця, што мне ўжо не засталося нічога іншага. Дзеля гэтай зямлі я адрокся ад многіх спраў і людскіх пачуццяў, пазбавіў сябе ўсяго, што ўсе называюць дамашнім шчасцем. Я адышоў папросту ад жыцця, каб знайсці зямлю, каб здабыць яе ва ўласнасць і затрымаць у марах. Мэты гэтай, як мне здаецца, я дасягнуў, але якім коштам, гэта ведаць мне аднаму. Я не хачу аб гэтым гаварыць, бо, зрэшты, разумею, што адбылося тое, што было абавязкова і непазбежна.

Я вяртаюся да Мондзіна. Яго цяжка пакінуць, не паказаўшы цалкам яго выключнай прыгажосці, але як гэта зрабіць, калі словы такія далёкія ад сутнасці? Таму я дарэмна расказваў бы, як з Мондзіна, заціснутага ў сваёй прыгожай катлавінцы паміж гарамі, трэба ўзбірацца ізноў па нейкаму зламішшыю-бездарожжу, дзе чым вышэй, тым яшчэ прыгажэй, каб выбрацца на дарогу да Міраціцкага лесу; як у гэтай дарозе дасягаецца з кожным разам усё вышэйшы ўздым і здзіўляюць усё больш шырокія гарызонты, каб, урэшце, стаць на вяршыні ў лясным краі і ўдыхнуць поўнымі грудзьмі, засмяяцца ад усёй душы чароўнай панараме мондзінскай даліны, якая, здаецца, створана для таго, каб песціць і ашчаслівліваць вочы. А недалёка знаходзіцца новая, не менш маляўнічая катлавіна, і яна ўжо называецца дакладна і даслоўна Катловам, бо змяшчае ў сваёй варонцы вёсачку, атуляе яе сваімі берагамі і робіць з яе новы прадмет для любавання. А потым за лесам на падгорку пойдуць адзін за адным лясныя засценкі, у якіх жыве дробная шляхта. Сакаў і Грачыхаў з «Пана Тадэвуша», гэтыя чарэшневыя сады і сядзібы з рагатым частаколам, гэтыя домікі з ганачкамі на слупах, абапертыя на адзінокую ліпу ці елку, гэтыя свірны і галубятні на дзярновых дзяцінцах з дробнай травой, якую шчыплюць чароды гусей і качак... Як гэта ўсё апісаць, каб не прапусціць важныя рысы гэтага краявіду, каб з гэтай каляровай вязанкі не згубіць кветак і не застацца з голай сцяблінай у руцэ?..

Блукаю акольнымі шляхамі, бо задача звыш маіх сіл. Можна зрабіць цэлыя тамы геалагічных і геаграфічных інвентароў і не пасунуцца ані на крок у пытанні, у чым заключаны чары Свіцязянска-Навагрудскай зямлі. Бо няпраўда, што было шмат такіх жа прыгожых відаў дзе-небудзь яшчэ. Для мяне, у прыватнасці, яна адзіная ў сваёй сканцэнтраванай паэтычнасці, у рамантычным настроі, якім быў да краёў напоены кожны яе закутак. І гэта можа, нарэшце, наблізіць мяне да больш дакладнага азначэння. Там была нейкая бязмернасць маляўнічасці, гарманічна раскладзеная і выстраеная ў дасканалую цэласнасць, было нейкае багацце вобразу і колеру, якое выражалася ў зменлівай і гнуткай разнароднасці прыродных формаў, была нейкая сардэчная прыгажосць праяўлення, асветленая шчырай усмешкай, а побач з гэтым — нейкі павеў патэтыкі, нейкая паціна легенды, якія, магчыма, гэтаксама адвечна засялі ў гэтых ярах, лясах і горках, як элементы раманаў Вальтэра Скота закляты ў шатландскіх скалах, замках і азёрах...

Цяжка ўхапіць гэта неакрэсленае «нешта», якое надавала майму роднаму краю такія прыгожыя рысы, але трэба прызнаць існаванне чараў, якія ўздзейнічаюць на кожнага, хто першы раз з імі сутыкнецца. Бо гэта родная зямля Міцкевіча, яго «край дзіцячых гадоў», яго «сельскае анёль-

ства», яго несупакоеная туга з «парыжскага бруку»!.. Ці трэба гаварыць больш?.. Дастаткова ўзяць у рукі «Пана Тадэвуша» і на кожнай яго старонцы знаходзіць сапраўдны, ва ўсёй сутнасці намаляваны вобраз гэтай маёй зямлі, якую я, няварты яе, парываюся апісаць, замест таго каб скурчыцца, замоўкнуць і сказаць: «Domine, non sum dignus...»[5]. Але не, не магу маўчаць. Каб жыць, я павінен гаварыць. З-за двухгадовай вайны і знішчэння ўсяго нашага свету мне засталося адно гэта, апошняе. Усё, што згінула ў жыцці, няхай ажыве ў марах...

Гэта «сканцэнтраванае» навагрудскае харaство размяшчалася на адносна невялікай прасторы. Ужо праз пару міляў ад свіцязянскага «сэрца» мяняўся від глебы, пачыналася выраўноўванне паверхні, а з імі пясчанасць, камяністасць, сухасць, шэрасць і ўбогасць краявіду. Так было пад Наваельняй, дзе Косічы, Барышын, Лапушна і Зарой[6] утваралі мяжу, куды даходзіла ўраджайная глiністая глеба, пагоркаватая і парослая лісцевымі дрэвамі. За гэтымі дварамі пачыналася памежжа Слонімскага павета — плоскае, камяністае і парослае саснякамі, іншае па характару, якое стварала нуднае і сумнае ўражанне пасля гэтай прыгажосці. Я добра пазнаёміўся з ім некалькі гадоў пазней, калі ехаў туды па чыгунцы праз Наваельню да Вільні. Тут абрываліся і гаслі промні навагрудскай прыгажосці. Апошнім яе адбіткам былі кашалёўскія лясы — некалі пушча, апетая Міцкевічам, у мой час ужо значна парадзелая. Сосны былі векавыя, вялізныя, вельмі густыя, а важкія яловыя лапы, якія звешваліся адусюль накшталт цяжкіх фіранак, дадавалі лясным глыбіням таямнічага выгляду. Піхта, дарэчы, з'яўляецца самым выразным дрэвам, і мала якое параўнаецца з ёй па прыгожай, правільнай, сіметрычна размешчанай кроне. Я ведаю, што раблю батанічную памылку, называючы піхтай, уласна кажучы, яловыя дрэвы, але хачу хутчэй саграшыць супраць нашага старадаўняга звычаю, які не ведаў слова «яловы», гэтаксама, як яго не прызнаваў Міцкевіч у сваіх творах. З дрэвамі мяне з дзяцінства злучалі ніці цесных сувязей, я добра іх ведаў і адрозніваў па выгляду лісцяў і пупышак, паводле пабудовы пня, галінаў і кары. У лясным свеце я меў шмат добрых знаёмых і гарачых сімпатый, і адной з іх была, уласна кажучы, піхта — з-за свайго пірамідальнага сілуэта і гатычнай, востраканечнай стройнасці.

Сярэдзіна, якая збірала вакол сябе ўсё наша пейзажнае багацце, побач са Свіцяззю і Чамбровам, знаходзілася ў Мірацічах дзядулі Хацiскага — месцы нараджэння маёй маці. У бліжэйшай ваколіцы былі яшчэ два іншыя двары з гэткай самай назвай: Мірацічы Абламовічаў і Мірацічы Бародзічаў — абодва паблізу Свіцязі. Колькі разоў я ні знаходзіўся ў тым баку, не мог устрымацца ад пачуцця захаплення і ўздыму, у якім усё наўкола здавалася мне асабліва вартым увагі і любавання і настройвала мяне прыгожа і ўзнёсла. Як ап'яняючы гашыш уздзейнічала на мяне атмасфера, якая нарадзіла верш і вобраз: «Калі будзеш калі-небудзь у навагрудскай старане...» Гледзячы навокал, я адчуваў глыбокае ўзрушэнне, і ў гэтым узрушэнні не было ніякіх раптоўных парываў, толькі добрая ўнутраная ўсцішанасць, пяшчота спакою і раўнавагі, якія

[5] Божа, я не дастойны... *(лац.)*.

[6] Населеныя пункты, размешчаны ў ваколіцах Наваельні, каля 20 км на захад ад Навагрудка.

характарызуюць стан сапраўднага шчасця — гармонію душы чалавека з душой зямлі. Гэта было як быццам бы ўздзеянне даўняга мінулага, рэха мінулых пакаленняў, сляды пачуццяў людзей, якія тут да мяне пражылі свой лёс сярод гэтай рамантычнай прыгажосці так моцна і буйна, водблескі іх перажыванняў засталіся, зліліся з наваколлем і, падаючы на мяне, арэолам энтузіязму асвятлялі мае заблытаныя дзіцячыя пачуцці...

З любога месца там плылі чароўныя флюіды. У Мірацічах бор за гарой пры плужынскай дарозе сінеў таямніча, як бы хаваючы ў сваёй сярэдзіне нейкія цёмныя пагрозы ці падманлівыя абяцанні, прыцягальныя, як страшная казка, якую не варта слухаць без цудоўных дрыжыкаў. Хаты Міраціцкай вёскі туліліся да травяністых пагоркаў з квітнеючымі мальвамі, а над насупленымі стрэхамі бярозы і рабіны, нахіленыя, як апекуны, развесілі дрыжачыя галінкі з усёй грацыёзнасцю жэсту. За вёскай дарога на Свіцязь ішла ўбок паміж шнурамі сялянскіх палеткаў і блукала па нейкіх скупых сасновых лясках, як бы наўмысна непрыгожых, каб даць адпачыць вачам і фантазіі. Але фантазія, заўсёды чуйная, працавала няспынна; і калі вочы сустракалі ў пэўным месцы пару раскідзістых дубоў, напалову засохлых, і літасціва спыняліся на іх голай крывізне, тут жа падступала фантазія: «Гэта толькі тут так звычайна, але падумай, што чакае цябе праз хвіліну там, над возерам!..» І лёгкі вецер навяваў нейкія меладычныя рэфрэны, сонца прамяніста залаціла дарогу да возера, і аблокі не хацелі засланяць яе сваім ценем і плылі чарадой, дадаючы залацістасці збожжавым нівам.

Потым ля Мірацiч Бародзічаў настрой змяняўся, і дарогу заступалі нейкія жалобныя цені: немагчыма было супрацiўляцца ўражваючай змрочнай цяністасці старых ліп, што драмалі над заплеснелай сажалкай з нерухомай вадой, чорнай, як смала, на якой заўчасна апалае лісце свяцілася, нібы залатыя дукаты: там было змрочна і мёртва, і з пачуццём палёгкі я праязджаў сядзібу і паварочваў налева пад гару, думаючы з нецярплівай радасцю, што вось праз хвіліну пакажацца возера. Яго яшчэ не было відаць, а ўжо дзейнічалі яго неспакойныя чары. Я паглыбляўся ў грабавую алею з тоўстымі, цесна прыціснутымі адзін да аднаго стваламі, цёмную, як тунель, у які не пранікалі сонечныя промні, у пралёце пяшчотна гладзіў позіркам зараснік з некалькімі здзічэлымі яблынямі і замшэлыя камяні, што засталіся ад двара ўжо даўно не існуючай Пясчанкі, выбіраўся на паляну з магутнымі дубамі невымоўнай прыгажосці і велічы, і вось ужо з-за верхавін прыбярэжных дрэў вынырвала сіняя паласа вады, і вочы беглі да яе шпарка і ахвотна, і сэрца білася паскорана. Я не мог без узрушэння наблізіцца да гэтага прыгожага месца, і гэта пачуццё яшчэ больш мацнела, калі я чуў раўнамерны подых возера, якое пляскалася аб бераг пеністай хваляй: у гэтым нязмаўкаючым рытме я адшукваў цёмнае рэха нейкіх адвечных спраў, якія даўно адгучалі, але ніколі не паміралі, здольныя вярнуцца, як гэта зваротная свіцязянская хваля. І тады ўжо да салодкага стану згоднага яднання дадавалася нейкая невымоўная туга і непакоіла сваёй схаванай імглістасцю, дарэмна шукаючы выйсця. Хацелася пранікнуць праз нейкую цемру, дабрацца да нейкай невядомай праўды, згубленыя ключы ад якой ляжалі на дне хвалістай бездані, хацелася здабыць з сябе нешта самае патаемнае, каб яно настроілася на адзін лад з гэтым азёрным

зачараваннем і дазволіла дайсці да самых дальніх краёў разумення, да найвышэйшых вяршынь свядомага адчування... Хацелася пранікнуць у непранікаемае, ахапіць неахопліваемае...

Не ведаю, ці гэтыя шматлікія словы, у якіх я ўвесь час губляюся, пасоўваюць наперад разуменне сутнасці чараў маёй зямлі. Можа, трэба толькі проста сказаць, што яна мела душу, і душа гэта была настолькі высакародна прыгожай, наколькі паэтычна-напеўным быў яе матэрыяльны покрыў. Ва ўсялякім разе, на гэтай зямлі былі людзі, якія разумелі так глыбока, што ўсе пачуцці злілі з ёй у адно. Ці магла зямля застацца да гэтага глухой і абыякавай? Людзі надаюць зямлі душу, зрастаючыся з ёй, пояць яе сваімі радасцямі і пакутамі, робяць з яе ўласнае люстэрка і рэха, выціскаюць на ёй пячатку сваёй духоўнасці і ўзамен чэрпаюць з яе ўсё новыя запасы сіл і пачуццяў, ўсё новыя сродкі да іх паглыблення. Суіснаванне паміж зямлёй і чалавекам становіцца тым глыбейшым, чым больш адчувае чалавек, і гэта сужыццё можа дасягаць вышынь святога прычасця. Бо, можа, гэта зямля Навагрудская, гэта калыска Міцкевіча абавязана свайму паэту настойлівай трывалай энергіяй, якая блукала тут паміж Свіцяззю і Туганавічамі, вечна жывая і незнішчальная, і не давала мне спакою ўсё жыццё, прымушаючы аддаць сябе на службу роднай зямлі, прымушала да такога любавання яе воблікам і да яшчэ больш палкіх пошукаў і паглыблення ў яе душу!..

Вярнуся да рэальных рэчаў, бо хачу яшчэ крыху расказаць пра людзей у Мірацічах. Да двара прылягала вёска, вельмі вялікая і заможна разбудаваная на пагорку ля выгана для пашы, з цэркаўкай пасярэдзіне



***Сядзібны парк у Райцы**. Здымак да 1911 г.*

і цяністай плябаніяй, абсаджанай ліпамі. За плябаніяй былі ўжо не сялянскія агароды, а большыя сядзібы і больш ладныя дамы з ганачкамі, у якіх жыла засцянковая шляхта: Тэрлікоўскія, Лешчылоўскія і Лашкоўскія. Апошнія мелі самы вялікі дворык на краі вёскі, прыгожа засаджаны дрэвамі, і такой формы, такога закончанага тыпу, як быццам бы ён быў узяты з партфеля Юліуша Коссака. У сям'і Тэрлікоўскіх адзін быў скульптарам з Божай ласкі, бо ніколі не вучыўся майстэрству скульптара, і, не маючы ніякай адукацыі, выразаў з дрэва добрыя фігуры людзей і звяроў, якія ў выглядзе чарніліц, прэс-пап'е і іншых прадметаў аздаблення траплялі ў навакольныя двары і памнажалі славу мастака. Бародзічы з другіх Міраціч таксама належалі да гэтага слоя дробнай шляхты, толькі ўжо крыху заможнейшай, якая сядзела на большых абшарах зямлі. Усе яны разам стваралі сярэдняе звяно паміж вясковым сялянствам і гербавай шляхтай, слой даволі сварлівы і цёмны, але шчыра каталіцкі і польскі, які востра супрацьпастаўляў сябе праваслаўнаму сялянству і надаваў ваколіцы польскі характар. Быў, вядома, у міраціцкай вёсцы і яўрэй — Мося, сядзеў у карчме насупраць царквы ў самай сярэдзіне вёскі і, згодна з традыцыяй, выціскаў з яе сокі патаемным гандлярскім ліхвярствам. Яго жонка — грубая і тоўстая, з шырокай усмешкай на мясістых шчоках, была ўпэўненай ў сабе і свабодна з усімі фамільярнічала, займалася па-аматарску акушэрствам, але з вялікім поспехам з-за адсутнасці спецыялістаў у павеце. Мосеву жонку звалі ўсюды, дзе гаспадыня дома «чакала», і шанавалі ў самых першых дварах, бо яна мела шчаслівую руку і кожная парадзіха яе добра ўспаміналa. Яна прысутнічала і пры маім нараджэнні ў Асташыне, і з гэтай прычыны расчулена гладзіла мяне пад барадой бруднымі рукамі і называла на пяшчотным жаргоне «сынком», што выклікала ўсмешку на тварах бацькоў, а ў мяне непераадольнае пачуццё агіды і абурэння.

Апошні промень свіцязянскай прыгажосці быў развітальным, бо праз Плужыны і Варончу вёў да Туганавіч, за якімі ўжо заканчваўся мой зачараваны круг і пачыналіся ваколіцы іншага характару. Затое гэты развітальны промень быў адным з самых цудоўных, як гучная фанфара, што завяршае Бетховенскую уверцюру. Фартысіма ўзмацнення маляўнічасці прыпадала на прыгожую дарогу, якая вяла ад Плужын да Варончы. Спачатку цягнуліся лясы, не ўсюды ўжо падобныя «да цёмнага бору» з балады Міцкевіча, аднак не менш моцныя па выразнасці. Дарогу перацінaлі гушчары, поўныя лісцевага ценю, вільготных равоў і крутых уездаў, месцамі яна выходзіла на зацішныя паляны ці пераходзіла ў гразкія, камяністыя грэбелькі. За вёскай плужынскія лясы заканчваліся, гарыстасць мясцовасці зноў павялічвалася, ля дарогі ўсё часцей паказваліся дубровы, якія расселіся групамі па ўзгорках. Дарога стварала самае прыгожае відовішча, якое можна было сабе ўявіць: блукала па хрыбтах пагоркаў, што выглядалі як паркавае ўрочышча, спакушала прывабнымі загібамі, тулілася да цяністых лашчын, зарослых ляшчынай і папарацццю, была старанным правадніком па гэтым шляху Міцкевіча і ішла ўгару, каб паказаць яго ездаку з самага лепшага боку і здзівіць багаццем дэкарацый і аксесуараў. Гэта багацце прыбывала па нарастаючай па меры набліжэння да Варончы, а там узрывалася колькасцю самых замысловатых форм і кампазіцый звыш меры, якія выклікалі сапраўднае асляпленне. Усё гэта стаіць у мяне перад вачамі, а я не магу

апісаць гэтай прыгажосці кампазіцыі і прасторавага размяшчэння, гэтыя адвечныя дрэвы, гэтыя шпалеры, гэтыя фарбы... Невядома, ці, гледзячы на гэта, паўтараць строфы з «Пана Тадэвуша», ці таксама ўсклікнуць разам з Гётэ: «Verweile! Du bist so schön!»[7]. Памятным было гэта месца, гэты пад'езд да Варанчанскага касцёла з боку Равін, гэты прыгожы луг з альшанікам, які пераходзіў у лясістыя ўзгоркі і завяршаўся белым сілуэтам касцёла на гары, як увянчанне пейзажу. Колькі разоў ні праязджаў там будучы дзіцём, я не мог абараніцца ад пачуцця радаснай узнёсласці, блізкай да экстазу, а калі праз шмат гадоў дарослым стаяў перад гэтым відам, намаляваным, як у «Пане Тадэвушы», я адчуваў сябе шчаслівым, што магу яшчэ на яго глядзець, і называў яго ў думках «Краявідам Міцкевіча».

Двор у Варончы быў спланаваны па велікапанскіх мерках. Нездарма пра яго ўспамінаюць як пра «Варанчанскі замак» ваяводы Несялоўскага. У мой час замка не было ні следу, і гэтыя землі належалі пані Марыі Межэеўскай — удаве інжынера Антонія Межэеўскага. Жылы дом, зручны і пpасторны, збудаваны з дрэва, быў ужо не першай маладосці і праўдападобна датаваўся як найменш пачаткам XIX ст.[8], але воддаль стаяў яшчэ вялікі мураваны будынак з вежай-гадзіннікам, як рэшткі з «замкавых» часоў. Пасля позняй абедні ў нядзелю бацькі заязджалі часам з касцёла да пані Межэеўскай, у якой была дачка майго ўзросту па імені Іза. Мне казалі гуляць з ёй, але прыроджаная нясмеласць прыкоўвала мяне да месца, і памятаю, што хадзіў з ёй па парку ў мёртвым маўчанні, глядзеў на яе спадылба і не мог сказаць ёй ані слова, а яна таксама не вельмі ведала, як прыдаць смеласці такому дзікуну, таму на гэтым скончыліся нашы сяброўскія адносіны.

А наўкола было на што паглядзець. Апрача прыгожай забудовы і планіроўкі сядзібы і вялікага парку Вaронча мела алею прыдарожных дрэў, была абсаджана наўкола двара дрэвамі рэдкіх памераў і разложыстасці. Векавыя каштаны, клёны і дубы — гэта былі папросту веліканы па росту, таўшчыні і шырока распасцёртых кронах, якія ўтваралі шпалеры і альтанкі з высокім і густым скляпеннем, поўныя халоднага ценю ў найвялікшую спёку, а колькасць і шаноўны ўзрост дрэў, якія стаялі тут стагоддзямі, сведчылі аб даўгавечнасці лёсу гэтай шляхецкай сядзібы, якая пераможна супраціўлялася ўсім пераменам. Прыгожыя лясістыя пагоркі і лагчыны вакол двара дапаўнялі цэласнасць і былі натуральным прадаўжэннем парку, гэтаксама як парк, здавалася, быў далейшым працягам лясных зацішных куткоў, што акружалі двор. Гэта было майстэрскае спалучэнне прыроды з садовым мастацтвам, уласцівае нашым дварам увогуле, якое служыла дадатковай характарыстыкай нашай шляхты, яе форм жыцця, таго, што яны любілі, і іх узроўню культуры. Патаемнасць стылю, якая пазбягала дэманстратыўнасці і аддавала перавагу годнай сціпласці перад бліскучай пышнасцю, добра сведчыла аб шляхетнасці духу людзей, якія заклалі гэтыя двары і жылі ў іх.

---

[7] «Затрымайся! Ты такая прыгожая!» – цытата з «Фаўста» Гётэ (*ням.*).

[8] Дом з лістоўніцы ў Варончы, адзін з найпрыгажэйшых у Літве, быў пабудаваны ваяводам Несялоўскім у 1787 г. Пазней яго зрабілі большым. Спалены разам з жыхарамі савецкімі партызанамі 30 чэрвеня 1943 г.

Ніжэй двара быў вялікі стаў з чатырохгранным прысадзістым млыном, вымураваным заможна і падпёртым каменнымі контрфорсамі. Яго колы хутка шумелі ў нястомных абаротах і ўтваралі пеністыя каскады, якія гучна плылі ўніз паміж зараснікамі вольхі. Млын стаяў у самым прыгожым месцы і быў галоўным матывам, эстэтычным цэнтрам краявіду, як бы наўмысна выбраны вопытным пейзажыстам, каб спалучыць прыемнае з карысным і, з'яўляючыся рэччу практычнай, даць адпачынак воку. Нашы двары заўсёды вызначаліся трапным выбарам месца размяшчэння і выкарыстаннем натуральных умоў месца і не раз непасрэдна выдавалі рафінаваны густ у планіроўцы элементаў азелянення. Яны дазвалялі сабе сціплую раскошу валодаць мноствам вялікіх, прыгожых дрэў. Каб выгадаваць іх, патрэбны быў пастаянны клопат многіх пакаленняў: мудрыя намеры тых, хто садзіў, і клапатлівая ўвага тых, хто валодаў. Такім чынам, гэта сціплая раскоша станавілася ў канчатковым выніку вельмі каштоўнай, папросту немагчыма было падлічыць яе кошт, бо дасягалася цаной стараннясў і любві на працягу стагоддзяў. Таму, можа, дрэва было заўсёды блізкім і сардэчным сябрам памешчыка, яго таварышам дома і ў полі, неад'емным фонам усяго яго жыцця, і ні ў чым так выразна не праяўлялася душа нашай зямлі, як у падборы і спалучэнні дрэў, якія акружалі дом памешчыка. Гэтыя думкі падказвала Варонча на кожным кроку. Ад млына дарога ішла ўгару і вяла да касцёла па глыбокіх выбоінах, бо з-за крутых схілаў усюды была размыта дажджамі. Гэты кавалак дарогі быў праклёнам для запрэжкі, але наўкола ўзвышаліся прыгожыя старыя дубы, а сярод іх карон блакітна прасвечвалі віды далёкіх далін. На самай вяршыні гары, на прасторнай паляне стаяў Баранчанскі касцёл — вялікая двухвежавая мураваная святыня, якая здалёк бялела сваімі сценамі і панавала над лясістай ваколіцай, дзе сыходзіліся Баранчанскія і Дорагаўскія лясы.

У Варончы была наша парафія, а пробашч — ксёндз Юстын Кодзь[9] — быў нашым добрым знаёмым і прыяцелем нашага дому. Да сённяшняга дня я захаваў яго фатаграфію, а зрэшты, і без яе добра памятаю рысы любімага пробашча, які мяне хрысціў і рыхтаваў да першай прычасці. Ён меў шляхетны адкрыты твар з добрым і светлым выразам і нешта экстатычнае ў вачах. Плябанія размяшчалася пры касцёле ў двухпавярховым мураваным доме, і ў ёй пасля нядзельнай позняй абедні ксёндз Кодзь частаваў сваіх прыхаджан гасціннай гарбатай з дасканалай вяндлінай і канфіцюрамі. Ён меў добрую дыкцыю і, прамаўляючы казанне, падымаў голас з дэкламатарскім, але, зрэшты, абсалютна шчырым пафасам і ўмеў дайсці да сэрцаў і сумлення слухачоў. Баранчанскі касцёл застаўся для мяне назаўсёды нечым асабліва дарагім, як першае з'яўленне Божай праўды ў зямной прыгажосці. Там я слухаў першую святую імшу і чытаў першыя малітвы з кнігі для богаслужэння, там пад каштанамі налева ад касцёла ляжаць пахаваныя мае бацькі і дзядуля з бабуляй, і там я хацеў бы спачываць, калі б страта Асташына не пазбавіла мяне гэтай магчымасці.

Ад Варончы на поўдзень ішла дарога да Туганавіч, амаль такая ж гарыстая і разнастайная, як і апісаная папярэдне. Гэта быў далей за іншыя высунуты промень міцкевічаўскіх чараў, і, бадай, самы важны,

---

[9] Ксёндз Юстын Кодзь, пробашч з Варончы, 7 лістапада ахрысціў Яна Булгака.

бо ён вёў да месца, дзе «пазнаў і развітаўся» — да альтанкі ў Туганавічах, старой ліпавай альтанкі, што была яго шчасця «калыскай і магілай». Завоссе — мяркуемае месца нараджэння паэта — знаходзілася яшчэ далей на поўдзень пад Калдычэвам, але ўжо ў мясцовасці са значна больш убогім краявідам. А дарога з Варончы да Туганавіч проста дыхала рамантычным настроем, падобна, як самыя Туганавічы, нават назва якіх мела ў сабе для мяне нешта незвычайна гучнае, што перакanaўча звярталася да маёй фантазіі на мове мінулых стагоддзяў. Варонча, Плужыны, Туганавічы... Гэтыя словы спявалі, гралі і пераліваліся фарбамі вясёлкі, гэтыя імёны навявалі нейкія мелодыі, вобразы і легенды, самі былі для мяне вобразам і песняй, вобразам дамашнім, песняй роднай і дарагой. Можна было б цешыцца імі бясконца, і таму я хачу на гэтым спыніцца, а Туганавічам прысвяціць асобны раздзел у сваіх успамінах.

Назад з Варончы ў Асташын ехалі праз Дорахаў Барановічаў. Дарога ішла праз лес, размешчаны на схіле вельмі высока ўзнятага ўгару варанчанскага пласкагор'я, заходні схіл якога я апісаў хвіліну таму назад. Усходні схіл спускаўся да Дорахава: ён быў не менш крутым і парос змешаным лесам, быў надзвычай маляўнічым як дзякуючы хвалістай мясцовасці, так і па прычыне разнастайнасці дрэў. Пра гэты лес я напішу, калі буду гаварыць пра гаспадарку маёй маці і пра нашы з ёй паездкі ў касцёл у нядзелю, бо ўжо ў гэтым лесе пачыналася богаслужэнне. Таму лес, поўны сонца і паху жывіцы, здаваўся мне перадпакоем у касцёл, а спяваючыя птушкі — яго служкамі. Як лёгка і як салодка было ўхваляць Бога, які праяўляўся ў гэтай прыгожай прыродзе!..



***Ці дасі мне дом?*** *Здымак да 1912 г.*



***Фасад двара Верашчакаў і Жултоўскіх у Райцы.*** *Здымак да верасня 1910 г.*

Недалёка за лесам ляжаў Дарахаўскі двор, які адрозніваўся ад усіх іншых мне вядомых тым, што дом быў зусім новы, пазбаўлены прывычнай пацiны i пры гэтым пафарбаваны алейнай фарбай у зялёны колер. Гэта мне здавалася такім неўласцівым і ўражваючым, аж непрыстойным, бо ўжо тады, нягледзячы на свае восем гадоў, я меў нейкія зачаткі эстэтычных пачуццяў і разуменне ўстаноўленага тыпу двара — якім ён павінен быць. Таму я з некаторым здзіўленнем глядзеў на жыхароў гэтага дзівацкага дома, якія не саромеліся сваёй недаразвітасці. Бо не раз я чуў ад бацькоў, што толькі расіяне, некультурныя і пазбаўленыя густу, без меры ўжываюць алейную фарбу ў будаўніцтве, фарбуючы свае драўляныя цэрквы, «дачи» і «пристройки» ў блакітна-зялёныя колеры, але польскаму двару такая варварская афарбоўка сцен не да твару. А ў Дарахаве было так, што жылы дом даўно згарэў падчас пажару, а новы быў пабудаваны адносна позна і таму трапіў пад уплыў расійскіх узораў.

Сям'я Барановічаў была шматлікай і выглядала на адзін тып: кучаравыя, чырванатварыя, з моцна адтапыранымі вушамі і шырокімі, поўнымі здароўя тварамі. З гэтага пункту гледжання пяцёра ці сямёра дзяцей былі цалкам падобны на бацькоў. Яны былі пераважна малыя, але старэйшыя Алесь і Казя былі больш-менш майго ўзросту і падтрымлівалі са мной сувязь, хоць неяк ніколі не дайшло паміж намі да блізкіх сяброўскіх адносін. Яны былі звыш меры фізічна здаровыя і непасрэдныя, занадта чырвоныя на твар і рэалістычныя для маёй трохі анемічнай і складанай натуры, якой падабаліся паўтоны і недаказанасць. Акрамя гэтага, Дарахаўскі двор не ўяўляў сабой нічога асаблівага, але яго агібаў ручай з вялізнымі крывымі вербамі з надзвычай доўгімі галінамі, якія звешваліся над вадой, як у роспачы выцягнутыя рукі.

А потым? ...Потым быў ужо канец вандроўкі па заходніх дарогах Навагрудчыны. Альховая Кайшоўская грэбля вяла назад да Асташына, замыкаючы круг выпраменьвання свіцязянскай прыгажосці, якую я ўсімі сіламі стараўся тут ідэнтыфікаваць і выразіць словамі. Павінен прызнаць, што гэтыя намаганні былі пакутлівыя, і нават ёсць крыху дакорлівае ўсведамленне, што я не магу пранікнуць у тайну гэтай няўлоўнай душы зямлі, якую я, аднак, так адчуваю і люблю, як самы дарагі скарб. Усё жыццё мяне не пераставаў здзіўляць прыгожы вобраз, у які ўвасобілася гэта душа, я не пераставаў імкнуцца стварыць яго партрэт словам і творам. Праца стольких гадоў, усё, што пісаў і што так самазабыўна фатаграфаваў, было адным хвалебным гімнам у гонар маёй зямлі, адным нястомным жаданнем, каб сарваць заслону са знаёмых рэчаў, каб паказаць людзям тое, што варта глыбейшага пакланення, вернасці і пашаны... Я ўклаў у гэту працу ўсяго сябе, і кажуць, што не без значных вынікаў, якія, можа, даюць мне права спачываць на лаўрах па зразумелай прычыне. Але я не ведаю ані спакою, ані адпачынку. Мне ўвесь час здаецца, што таго, што я зрабіў, замала. Мяне непакоіць нейкая няўтольная прага, нейкі ненасытны голад новай працы, новых пошукаў, як быццам бы душа зямлі, якую я так моцна адчуваю, не хацела даць мне спасцігнуць сябе і выразіць да глыбіні, без астатку, аж да апошняй рысы, да самай сарцавіны сваёй істоты. Я ўвесь час адчуваю сумненні, пастаянны душэўны разлад, бо гэта зямля прыцягвае мяне сваімі пераможнымі чарамі і так уладна спакушае ўвесь час на яе глядзець, увесь час

пра яе думаць і марыць, увесь час яе маляваць і апяваць, і гэтай прыверданасці прысвяціць усё, адрачыся надалей ад усяго ў жыцці. А потым зноў вяртаецца пачуццё прафесіі і незадаволенасці і мучыць думка, што ў гэтай пагоні за марай я нічога не здабыў, а страціў шмат, як той Твардоўскі, які ад зямлі адляцеў, а да неба не даляцеў. Але разам з пакутамі колькі ж радасці я праз яе атрымліваю! Быць з ёй, глядзець на яе — вялікае шчасце, ні з чым не параўнальнае, і гэта шчасце наведвала мяне ўсё жыццё і рабіла яго лёгкім і шматколерным, дапамагала мне спакойна пераносіць самыя цяжкія выпрабаванні. Бо яна змяншае турботы. Яна прымае з пакорнай удзячнасцю адно і другое, дабро і зло, шчасце і цярпенне. Мне назаўсёды застаецца неад'емнае права: укленчыць перад гэтай маці і каралевай і схіліцца перад ёй з позіркам, поўным любові, узнятым да яе яснага вобліку. А воблік гэты ўжо нішто не заменіць і не сапсуе, бо я маю яго выразаным у сэрцы.

### Нядзеля

Зранку чакаюць мяне: каўнер чысты,
новыя боты, святочнае ўбранне;
зманліва марыць настрой урачысты,
што незвычайнае нешта настане.
А дзень, і праўда, — ласкавы, адкрыты,
ён весялосць між людзьмі шчодра дзеліць...
(Горда гляджу на штаны з аксаміту
і сабе думаю: сёння ж — нядзеля!)
Святасць і радасць на тварах відаць мне,
маці ўбірацца прад люстрам закончыць,
а потым скажа, і сам здагадаўся, —
мы на імшу едзем сёння ў Варончу!

Ля ганка ржуць нецярплівыя коні,
бацька, па звычцы, сядаць падганяе,
доўга я муляюся ў «фаэтоне»,
бо бўда ўвесь далягляд засланяе.
Ды па дарозе мне доля спрыяе,
уладкаваўся на козлах з фурманам.
Радасць палоніць мяне несціхана,
велічна ў зрок краявід наплывае.
Так мне прыемна вандроўная дзея:
з жыта валошкі міргаюць вачамі,
шлях выгінаецца стужкай пясчанай,
хвалiста поле зялёнае дзеліць.
Бомы бразготачак конскіх хвалююць,
пыл за сабой «фаэтон» густа сцеле...
О, як люблю, як сардэчна люблю я
гэту вандроўку ў касцёл у нядзелю!..

Рэчку, млыны прамінае павозка,
чуйна масты, нібы клавішы, граюць,
а дзе канчаюцца грэбля і вольхі,

там нас Варончы лясы паглынаюць.
Пнемся ўгару каляінай няроўнай,
сонца праз кроны цячэ залаціста,
лісце дубоў у дрымоце прыціхла...
О лес, як бачу цябе я, мой родны!

Фыркаюць коні, фурман хвошча батам,
аж лес увесь адгукаецца рэхам.
Івалга дражніць яго перасмехам,
нібы на флейце, выводзіць стаката.
І зноўку ціха — увагі людское
лесу не трэба, пад веяй пяшчоты,
пад арэолам густой пазалоты
спіць, закалыханы ўласным спакоем.
Шматкаляровая чуйная ціша,
дзе скрыжаванні таемных сцяжынак,
дзе шоргат, шолах, трымценне і ціўкат,
дзе ўсё калыша святочны спачынак,
дзе мушкі звоняць у лётным квартэце,
дзе бас чмяля заварожвае, хмеліць,
радасць у сэрцы і радасць у свеце,
лета, пагода, лагода, нядзеля!..



***Настрой.*** *Здымак да 1930 г.*

## Раздзел IX

## *Дзядзька Бранiслаў (1884–1886)*

Маючы восем гадоў, я бегла гаварыў па-французску, ведаў правілы граматыкі, вядома, таксама французскай, а не польскай, правільна пісаў на гэтай мове і меў нейкае паняцце аб старажытнай і французскай гісторыі, зачэрпнутых з апавяданняў Лам-Флёры[1] для самых маленькіх дзяцей. Апрача гэтага я ведаў яшчэ некалькі вершыкаў і баек Лафантэна з прыгожа ілюстраванай энцыклапедыі пані Амабль Тасту пад тытулам «Education maternelle»[2]. Зрэшты, я не горш пісаў і па-польску, але гэта хутчэй з-за назірanняў, чым дзякуючы сістэматычнай навуцы, а пра граматыку і польскую гісторыю я не меў найменшага паняцця. Я папросту не ведаў, як выглядаюць падручнікі па гэтых прадметах, бо такіх кніжак не было ва ўсім нашым доме. Акрамя таго, я вучыўся ігры на фартэпіяна з вельмі мізэрнымі вынікамі, аднак умеў спяваць без фальшу ўсё, што іграла мая маці: і розныя вальсікі і полечкі, некаторыя патрыятычныя песні і шмат арый з «Traviaty» і «Trovatora»[3] Вердзі. Пра «Гальку» Манюшкі я не ведаў нічога, пра Шапэна таксама. Пра існаванне польскай музыкі не здагадваўся ўвогуле. З літаратуры чуў, што быў Міцкевіч і што напісаў вершы пра Свіцязь, якую я добра ведаў, бо мы туды ездзілі на маёўкі.

Мае бацькі пры ўсёй сваёй любові да мяне мала займаліся маім выхаваннем, бацька — бо заўсёды быў заняты гаспадаркай і быў такі сціплы, што ў адносінах да маці не адчуваў у сабе кіраўнічай ролі, матка — таму што сама часта недамагала, увесь час клапацілася аб маім няважным здароўі і не мела ўжо часу на іншыя справы, менш непасрэдныя. Пад любым прэтэкстам выклікалі доктара Марцінкевіча з Міра, пра якога гаварылі, што ён не мог адрозніць тыф ад запалення лёгкіх, дом быў заўсёды поўны лякарстваў і прэпаратаў, пры аказіі не пагарджалі парадамі знахараў і замовамі. Незалежна ад усяго гэтага прывезлі з Варшавы вялікую гамеапатычную аптэчку разам з лекарскім падручнікам, і мяне частавалі нейкімі бясколернымі кропелькамі, якія мелі такую добрую якасць, што былі пазбаўлены смаку. Мяне забаўлялі іх дзіўныя назвы, як «іпеакуарыя»[4], «пульсаціла»[5], «аканіт»[6], «сантаніна»[7] і «камаміла»[8], а таксама вытанчаная аздоба аптэчнай скрыначкі і прыгожых бутэлечак. Маці, здавалася, чакала шмат вынікаў ад гэтых нявінных

---

[1] *Лам Флёр.* «Жуль Раймонд».

[2] Мацярынскае выхаванне *(фр.)*.

[3] Оперы Джузепе Вердзі «Травіята» і «Трубадур».

[4] Іпеакуарыя – травяны адкашліваючы альбо рвотны сродак.

[5] Пульсаціла – кроплі са звычайнай сон-травы.

[6] Аканіт – травяное лякарства на аснове лекавай расліны – боцікаў (аканіту).

[7] Сантаніна, цытвар – сродак ад кішэчных глістоў з насення і сцяблін азіяцкай расліны Artemisia maritima.

[8] Камаміла – рамонак.

кропелек. Урэшце, я хацеў іх лепш за іншыя лекі, бо з імі можна было забаўляцца: камаміла напамінала мне Камілу, а сантаніна — Антаніну, і з-за гэтага яны гучалі для мяне не па-чужому і сімпатычна, я яшчэ больш любіў аканіт за тое, што ён быў так падобны да коніка.

Размовы старэйшых вельмі часта кружыліся вакол здароўя і ў маёй галаве звінела ад розных гарчычнікаў, пластыраў, кратонавага алею[9] і кропляў Дацкага караля. Са мной таксама шмат гаварылі пра справы харчавання і лячэння, мяне прымушалі есці мяса і іншыя пажыўныя прадукты, забаранялі садавіну, халодную ваду і ўсё, што, на думку маці, магло мне пашкодзіць, а шкодзіла, бадай, усё, апрача мяса. Рана і вечарам мне пагражала паласканне горла, перад абедам — глытанне рыбінага тлушчу, а пры найменшай хваробе — адразу розныя прыпаркі і кампрэсы, парашкі і мікстуры хранічна атручвалі мне жыццё. Адзінай пацехай у гэтай гігіенічнай апантанасці былі прыгожыя скрыначкі ад лякарстваў, аздобленыя каляровымі этыкеткамі. Калі ж я быў здаровы, са мной, нягледзячы на гэта, абыходзіліся як з выздараўліваючым і ўскладнялі мне жыццё тысячай лішніх перасцярог. Гэты распарадак быў трохі істэрычны і, безумоўна, звыш меры ўзмоцнены, гэта прыводзіла да таго, што я адчуваў сябе ўвесь час абмежаваным, схаваным у клетку, пазбаўленым магчымасці свабоднага жыцця, і гэта мяне падсвядома злавала і прыніжала. Пры самым недарэчным болю галавы ці горла мяне клалі ў ложак ці, як найменш, запіралі ў межах аднаго пакоя як у манастыры, забаранялі мне ўсялякія рэзкія рухі, у халодную пару — цёпла і цяжка апраналі, што я ледзьве мог на сабе рушыць увесь гэты рыштунак, а ўжо ж што мяне найбольш прыгнятала і злавала, ледзь не даводзіла да роспачы, дык гэта хустка, якую мне завязвалі на галаве, «як бабе». Я задыхаўся ад гарачыні, але быў вымушаны фарсіць у хустцы, цярпець пачуццё нязручнасці і смешнасці.

Гэты рэжым здароўя маёй маці выцякаў, безумоўна, з найлепшых намераў і паказваў меру яе пачуццёвага забыцця і мацярынскай чуласці, але быў аднабокім, у выніку — шкодным. Я хутка прывык чуць ад маці тыя самыя перасцярогі і забароны, гэта значыць рэчы непрыемныя і нудныя, якія слухаюць адным вухам, каб як найхутчэй пра іх забыць дзеля цікавых спраў. Я меў вельмі жывыя паводзіны, быў рухавы і экспансіўны, пры гэтым хуткі і няўважлівы, таму нагоду для заўваг даваў на кожным кроку і вечна чуў за сабой бурклівы голас маці. Ужо не заставалася месца на іншыя размовы, больш прыемныя, адарваныя ад надзвычайных спраў, ані на пытанні і прызнанні з майго боку, на цікавыя расказы ці стрыманыя павучэнні з боку маці, яшчэ менш на нейкія сумесныя забавы ці гульні, якія так аблягчаюць шлях да душы дзіцяці, дапамагаюць здабыць яго давер і фарміраваць яго асобу. Добры выхавацель умее часам перастаць быць «старэйшым» і апускаецца да ўзроўню дзіцяці, гаворыць на яго мове, а мае бацькі заўсёды заставаліся паважанымі людзьмі, у адносінах да якіх дзіця адчувала недавер і нясмеласць, і яны ніколі не дапамаглі мне пераадолець гэту сцяну перадузятасці і непаразумення сумеснымі намаганнямі. Гэта, вядома, толькі аб'ектыўнае сцвярджэнне, а не нейкі папрок маім добрым і паважаным бацькам. Яны, аднак, не былі вінаватыя, што пры самых лепшых жаданнях і гарачай любові да мяне не ведалі справы выхавання і не ўмелі знайсці дарогу і заваяваць душу дзіцяці. Гэта не зменшыла маю адда-

---

[9] Кратонавы алей – моцна прачышчаючы алей з насення краценя.

насць ім, але парадзіла ўва мне непатрэбную пільнасць і асцярожнасць, замест таго каб падштурхнуць да даверу і шчырасці.

Сёння, зрэшты, я разумею, што інакш быць не магло. Маці не мела здароўя, каб добра мяне выхаваць, ёй не хапала для гэтага нармальных умоў спакою, упэўненасці ў заўтрашнім дні, раўнавагі духу. Ужо тады яна павінна была прадчуваць будучыню і адчуваць першыя папярэджванні аб хваробе, якая пакінула ёй ужо толькі некалькі гадоў жыцця і пасля страшных мук давяла да магілы. З яе лістоў, якія я зараз чытаю, прабіваецца пастаянны страх заўчаснай смерці, думка, што яна будзе вымушана пакінуць мяне аднаго. Толькі цяпер я магу ахапіць веліч яе трагічнай мацярынскай любові, яе поўныя роспачы змаганні са слабасцю цела, з фізічнай бяссільнасцю, яе безнадзейныя намаганні, каб як найдаўжэй захаваць здароўе, атрыманае ў спадчыну ад яе, і што за мной трэба хадзіць, як за цяплічнай раслінай. У гэтым сумненні яна ўжо не магла быць жанчынай, жонкай, грамадзянкай, стала толькі маці, устрывожанай і збалелай, і гэта празмерная мацярынскасць заглушала ў ёй усе іншыя жаданні і імкненні і адхіляла яе ад усяго свету. Яна ўсё прысвяціла дзіцяці, аддаючы сябе ўсю ў ахвяру дзеля яго дабра, якое яна разумела па-свойму. Адсюль паходзіў яе пастаянны непакой за мяне, яе баязлівыя перасцярогі, яе нястомны нагляд, суровы, ахоўны, каб са мной нічога не здарылася, адсюль няздольнасць да больш ураўнаважаных паводзін, простых і жыццярадасных, якімі так лёгка можна асмеліць дзіця, атрымаць яго давер, здабыць яго душу...

Хаця ж — не. Са мной не заўсёды абыходзіліся так сурова! Бывалі лепшыя хвіліны, калі яна адчувала сябе здаравейшай і адважней глядзела ў будучыню. Тады яна ўся свяцілася і давала волю сваёй сапраўднай натуры, станавілася вясёлай, бесклапотнай, ахопленай радасцю жыцця, сыпала жартамі, станавілася мілай і каханай, так што сэрца само рвалася да яе і, нарэшце заспакоенае, дыхала шчасцем хвіліны. Я кідаў забавы і не хацеў ад яе адыходзіць, каб не губляць з віду яе светлы твар, што свяціўся бязмежнай чуласцю, від яе гладкага ілба з адной папярэчнай маршчынкай цярпення, якую ўжо нішто не магло разгладзіць, від яе цёмных валасоў, злёгку хвалістых на празрыстых скронях з сінаватымі жылкамі, і яе бледнаватыя вусны, якія ўсміхаліся мне разам з вачамі той адзінай, самай салодкай усмешкай... Я ўсё гэта ведаў у ёй дакладна і любіў сардэчна, усё глядзеў ёй твар у твар, калі яна дазваляла мне гладзіць сябе і цалаваць, а я, асмялелы і шчаслівы, вадзіў рукамі па яе ілбе і валасах і шаптаў ёй ціха нескладныя пяшчотныя словы... Для размоў з ёй я меў у такія хвіліны асобную прыдуманую мову, у якой словы былі змякчаны і зменшаны, як у немаўляці, каб яны маглі выразіць гэтыя самыя пяшчотныя парывы, якія кідалі мяне ў яе абдымкі. Гэта былі гукі чуйныя і салодкія, як піск жаўтаротага птушаняці, як птушыны шчэбет, раззбройваючыя і кранальныя, дыхалі паўнатой шчаслівай аддачы, з якой дзіця прыбягае да любячай маці як да свайго найпрыгажэйшага перажывання. Сёння ў мяне ўжо ўцякла з галавы гэта дзіцячая мова сэрца, якую я вынайшаў тады, я запомніў толькі імя мамы, якое ў той інтэрпрэтацыі гучала накшталт «Мівецька Ціпулінька». Першае слова павінна было азначаць нешта вельмі сардэчнае, нейкае недарэчна чулае «наймойша», а другое — выражаць нешта такое цудоўна-пяшчотнае і безабароннае, як малое кураня. Гэтыя словы я знайшоў зараз у адным з маіх тагачасных лістоў да маці, напісаным друкаванымі літарамі ў 1882 годзе, якія я вывучыў сам, без чужой дапа-

11. Зак. 297.

 могі. Гэтыя лісты я з палкасцю пісаў да мамы і сам ёй адносіў, урачыста адрасуючы: «Да вяльможнай пані Юзэфы Булгак у Асташыне». На гэтым я спынюся і абмяжую характарызаванне маіх пачуццёвых адносін да маці, бо гэта надзвычай дарагія і надзвычай балючыя ўспаміны.

У 1884 годзе бацькі вырашылі ўзяць мне настаўніка, ці, як у нас гаварылі, «гувернёра», бо нас, уласна кажучы, пакідала панна Францішка, пасля таго як навучыла мяне больш-менш усяму, што ведала сама. Слугі «страшылі», што хутка мяне завязуць у гімназію куды-небудзь далёка ў чужы горад, іншыя дадавалі, што там я павінен буду гаварыць па-руску і цярпець нейкія небывалыя мукі. Слухаючы гэта, я адчуваў, як скура становіцца гусінай, хоць былі хвіліны, калі я не верыў гэтым страхам і лічыў іх выдуманымі, бо яны былі занадта жахлівыя. Дзеля чаго і чаму павінен быць парушаны наш ход жыцця, раз і назаўсёды так міла і нязменна ўсталяваны? Таму я заплюшчваў вочы на гэтыя пагрозы лёсу, а страх перад імі легкадумна тапіў у прыемнай штодзённасці майго дамашняга малога свету, дзе ўсё заўсёды было па-ранейшаму. Аднак гэты спакой хутка парушылі адначасова дзве падзеі, якія прыйшлі з вялікага свету, з ваколіц Мінска-Літоўскага: прыезд майго новага настаўніка — пана Рышарда Лапушынскага з Беларучча[10] і перасяленне да нас сям'і дзядзькі Браніслава Хацiскага з сынам Стасем. Ужо не памятаю чаргі, у якой адбыўся гэты ўваход прыбыўшых з Міншчыны ў наша зацішша, але здаецца, што першымі былі дзядзька з цёткай, і я спачатку раскажу тут пра іх.

Да той пары я нават не чуў пра існаванне Браніслава Хацiскага і яго сям'і. Гэта была далёкая радня, з якой сям'я маці да таго часу не падтрымлівала адносін, бо ён жыў далёка ў ваколіцах Івянца ў сваім фальварку Пятрове і меў даволі няважную рэпутацыю. Заўчасна асірацелы, ён застаўся без апекі і добразычлівай парады, трапіў у дрэнную кампанію, жыў легкадумна і гуляшча і хутка зусім страціў добрую маёмасць, атрыманую ў спадчыну ад бацькоў, і пайшоў у свет з голымі рукамі і сумным вопытам. Гэтыя падрабязнасці шырока каменціравалі ў нас пасля прыезду дзядзькі і цёткі, і вакол прычэсанай шчоткай галавы дзядзькі Браніслава ўтварылася легенда, не пазбаўленая пэўнай прыцягальнай пікантнасці. Пасля страты Пятрова дзядзька нейкі час быў давераnай асобай, упраўляючым у нейкага пана Бжазоўскага ў Кулях пад Мінскам і, бадай, яшчэ больш — сябрам яго забаў і гулянак. Я наслухаўся пазней ад дзядзькі бясконцых гісторый аб тым, як ён ратаваў свайго прыяцеля і яго маёмасць ад крэдытораў і канфіскацый і якія надзвычайныя здзяйсняў учынкі ў кампаніі з гэтай гераічнай асобай. А на самай справе Бжазоўскі быў, напэўна, авантурыстам, які пралайдачыў і загубіў яшчэ большую маёмасць, чым яго ўпраўляючы, і выйшаў з Куляў з моцна пашарпанай рэпутацыяй. Не было асабліва чым хваліцца ад такога знаёмства, але дзядзька Браніслаў быў добрым і салідарным кампаньёнам, заядла бараніў гэтага зняслаўленага растратчыка і сілай хацеў яго бачыць у арэоле нейкага рыцара ці мучаніка, вядомага і пакрыўджанага грамадствам. Я не раз слухаў гэту апалогію, якую ён марна выкладаў мясцовай аўдыторыі, аж пакуль не надакучыла, але я не вельмі мог зразумець сімпатыі і захапленне ў адносінах да чужога чалавека, які

[10] Беларучча – вёска і мястэчка над ракой Вячай, каля 26 км ад Мінска. Фальварак плошчай 647 моргаў з млынамі і вінакурнымі заводамі, з 1864 г. належаў Лапушынскім.

толькі тым і вызначаўся, што пазычаў грошы, якія потым не аддаваў, і рабіў шумныя авантуры, але дзядзька меў на гэта свой, іншы погляд скандальнага шляхціца, які, верагодна, вёў свой радавод яшчэ з саскай эпохі.

Пасля апошняга банкруцтва Бжазоўскага дзядзька Браніслаў апынуўся разам з жонкай і сынам на мінскім бруку. Яны жылі ў адной хатцы на прадмесці і чакалі са складзенымі рукамі Божай літасці. Тады радня занялася іх лёсам і склала зварот аб дапамозе да дзядзькі Тадзі, як вельмі заможнага чалавека, а той выкруціўся з-пад цяжару, расчуліў сястру і накіраваў сям'ю ў Асташын. Прыезд сям'і дзядзькі Браніслава быў мне памятны з-за вялікай колькасці прывезеных імі клункаў і вузлоў, сярод якіх знаходзілася клетка з вавёркай. Клетка была драцяная, круцілася накшталт бубна, вавёрка ў ёй скакала, перабіраючы зграбнымі лапкамі, і пад яе цяжарам бубен круціўся беспярапынна па крузе, як вечны рухавік. Я першы раз бачыў зблізку гэта прыгожае звераня і адразу вымушаны быў заплаціць за нявопытнасць, бо ў вавёркі былі вельмі вострыя зубкі і яна маланкава кусала імі пальцы неасцярожных.

З прыездам гэтых гасцей у доме зрабіўся гоман, мітусня і непарадак, і адначасова ў ціхі Асташын уварваўся нейкі новы павеў, з'явіліся незнаёмыя твары і распаўсюдзіліся новыя выразы — рэха далёкіх краёў, якія гучалі чужой нотай. Яны прыехалі з усходняга губернскага горада, ужо пафарбаванага адміністрацыйным лакам, бо разам з імі прабіраліся рускія выразы і паняцці, нейкае гарадское адрозненне, якое ў маіх вушах гучала па-чужому і непакоіла, але адначасова цікавіла сваёй экзотыкай з рускай афарбоўкай. Яно адштурхоўвала, але і прыцягвала, як голас аднекуль здалёк, адтуль, «дзе нас няма».

Дзядзька Браніслаў быў высокі і худы, сухі і касцісты, з вельмі рабым тварам пасля воспы. Ён касіў адным вокам, насіў пышныя вусы, злучаныя з бакенбардамі, якія выглядалі, як пучкі рыжага колеру, і былі падобны на хвост яго вавёркі. Ён меў пабляклыя вочы і вузкую галаву з шорсткай, як шчотка, чупрынай саламянага колеру, пры гэтым жэсты рэзкія і задзірыстыя з паляўніча-салдацкім адценнем. Дзядзька заўсёды працаваў у скуранай куртцы і доўгіх ботах вышэй за калена, і гэта ўбранне яшчэ больш дадавала яму ваяўнічага выгляду. Гаварыў вельмі шмат і голасна, а калі ўпадаў у азарт, крычаў грамавым голасам, што аж сцены трэсліся, і варушыў вусікамі, якія здаваліся самастойнай і самай істотнай часткай яго асобы. Гэты шумны від не перашкаджаў яму быць у сваёй аснове чалавекам даволі нясмелым і дабрадушным, з абсалютна слабай воляй і вельмі абмежаванай адвагай, і толькі алкаголь ці кампанія дадавалі яму гэтай грознай рашучасці. Ён любіў расказваць эпізоды са свайго бурлівага жыцця, а таксама паляўнічыя байкі, пры гэтым неміласэрна пахваляўся сваімі выдуманымі перавагамі і здзяйсненнямі, а расказваемыя сцэны ілюстраваў выразнай мімікай. У гэтым, здаецца, было, аднак, больш грубасці, чым гумару, і больш перабольшвання і проста самахвальства, чым праўды. Ва ўсялякім разе мае бацькі недаверліва ўсміхаліся, слухаючы апавяданні дзядзькі Браніслава. Дзядзька Тадзя — часты наш госць і сведка гэтых споведзей — як правіла, ігнараваў іх верагоднасць, перакідваўся жартамі са стрыечным братам на гэту тэму і, імітуючы яго голас, выкрыкваў: «От, слухайце, як гэта было: я паехаў у Міранку на паляванне, выпіў кварту гарэлкі, закусіў селядцом, забіў два з паловай зайцы, сказаў: «Чорт вас усіх бяры», — і вярнуўся дадому...»

Дзядзька Браніслаў не прымаў блізка да сэрца гэтыя кпіны, або, ва ўсялякім разе, не паказваў гэтага, і грымеў далей сваім сенсацыйным выхваленнем. Ён быў непатрабавальны да аўдыторыі і, калі яна адсутнічала, з задавальненнем прыслухоўваўся да ўласных разважанняў — іх адных было дастаткова, каб запоўніць размовай вялікі пакой. Нягледзячы на цяжкія жыццёвыя перажыванні, ён захаваў добры гумар і бесклапотнасць, якая магла рабіць добрае ўражанне на тых, хто не ведаў мінулага гэтага па-дзіцячы легкадумнага і безадказнага чалавека, і мне, безумоўна, вельмі падабалася. Сімпатыя была ўзаемнай, дзядзька таксама палюбіў мяне і называў «пстрыкунчыкам» з-за маёй рухавасці і жывасці, з якой я рэагаваў на ўнутраныя ўражанні. На самай справе ён быў чалавекам, змарнаваным хатнімі ўмовамі, неразумнымі бацькамі, у якіх ён быў адзіным дзіцём, якому патуралі да крайнасці. Ён належаў да катэгорыі так званых «памешчыцкіх сынкоў», якіх выхоўвалі ў раскошы і бяздзейнасці, быў лянiўцам, які не хацеў нічому вучыцца, не меў ніякай спецыяльнасці, а пасля страты маёмасці стаў няўдачнікам, які шукае ўцехі ў стрэльбе, размовах і чарцы. Гэтыя рысы яго характару я, вядома, пазнаў не адразу, а паступова, праз гады, і яны не перашкаджалі маёй сімпатыі і спачуванню гэтаму беднаму чалавеку, так сурова навучанаму лёсам.

Яго жонка — цёця Адолька выклікала поўнасцю іншыя пачуцці. Яна была даволі нізкаарослай, квадратнай асобай, схільнай да флюксій[11], плачу і катару, і вельмі любіла розныя плёткі і нагаворы, з чаго потым вынікалі розныя сваркі і перапалкі. Яна мела надзвычай чуйнае вуха на ўсялякія звесткі, што датычылі жыцця бліжніх, любіла вынюхваць сенсацыі і скандалы нават там, дзе іх увогуле не было, і мела ўсю інфармацыю пра жывую павятовую хроніку здарэнняў, якія былі і не былі ў стылі сённяшняй «жоўтай» (у Булгака «чырвонай». — *Пер.*) прэсы. Яна ведала заўсёды падрабязна і з найбольш аўтэнтычнымі дэталямі, хто, з кім, дзе, як і колькі разоў, і што потым з гэтага выйшла, раскладвала памайстэрску кабалы і пасьянсы, тлумачыла сны, умела загаворваць рожу і была expedite[12] ўсялякімі прагнозамі. Яна мела невялікія, але жывыя і хітрыя вочы, прыцішаны і шыпячы голас, а агульны выгляд — падманліва-хваравіты, не выклікаючы даверу. Маці мая пасля выезду са мной да Вільні не раз на яе вельмі скардзілася, што яна парушае спакойную атмасферу сваёй кузняй плётак і ў дамашніх адносінах пастаянна з'яўляецца раздражняльнікам. Іх сын Стась прыехаў праз некалькі месяцаў, таму я пазнаёміўся з ім не адразу. Дзядзька з цёткай пачалі жыць у нас спачатку як госці, а потым, калі маці выехала ў Вільню, заняліся гаспадаркай у Асташыне. Тады дзядзька Браніслаў хваліўся на старане па сваёй звычцы, што «ён працуе і гаруе за ўсіх, сее, збірае, малоціць, прадае і Булгаку дае ў зубы гатовыя грошы, а Булгак нават не ведае, адкуль яны ўзяліся». На справе было абсалютна інакш, бо мой бацька быў занадта добрым гаспадаром і занадта працавітым чалавекам, каб усё ўзваліць на даволі няўмелыя плечы дзядзькі Браніслава, а прасіў яго выручыць хутчэй толькі па прычыне сваіх частых выездаў у Вільню, да нас, бо мы там жылі. Спачатку, калі мы ўсе яшчэ былі ў Асташыне, дзядзька з цёткай размясціліся ў гасцінным пакоі побач са сталовай, дзе

[11] Флюксія — запаленне дзёснаў.

[12] Вядома *(лац.)*.

 мы штодня харчаваліся, і запхалі яго мноствам манаткаў, і стварылі ў ім грунтоўны беспарадак. Мне адразу там спадабаліся паляўнічыя прыстасаванні, дубальтоўка на зялёным вышываным поясе, рог для пораху, манерка для шроту, таксама трубка з рэзкім голасам. Усё гэта было маляўніча развешана на саматканым дыване з аленямі над ложкам дзядзькі і выглядала вельмі займальна. Гэта было для мяне навіной, бо мой бацька не быў аматарам палявання і не меў ніякіх паляўнічых прыстасаванняў, апрача нейкай нікчэмнай аднастволкі, якая, вядома, служыла для абароны, але была звычайна заплецена павуцінай.

Гэтыя новыя прыезджыя сталі свайго роду сенсацыяй у нашым аднастайным жыцці, у якое яны ўнеслі новыя акцэнты. У тую зіму мы сыходзіліся вечарамі ў іх пакоі і слухалі апавяданні, якіх яны абое нам не шкадавалі. Слухалі, уласна кажучы, старэйшыя, бо я заставаўся збоку, заняты ўласнымі думкамі, і лічыў агульную гаворку ў пакоі фонам для іх. Час ад часу ў маю свядомасць траплялі адарваныя выразы, нейкія імёны і падзеі, назвы Пятрова, Мінска і Куля, а таксама паміж імі часта праскоквала асоба Бжазоўскага, нарэшце, даляталі нейкія ўрадавыя азначэнні і рускія прымаўкі. Я думаю, што не толькі мае вушы, але і асташынскія сцены слухалі з поўным здзіўленнем і абуджэннем гэтыя небывалыя гісторыі, якія так не адпавядалі нашай паважанай адсталасці. Чаго там не было: нейкія падробленыя векселі, вераломныя канфіскацыі, падман пры продажы дрэва і збожжа, суды з яўрэйскімі падстаўнымі сведкамі, бурныя нашэсці крэдытораў, крайнасці ў гасцініцах і на кірмашах з папойкамі ў п'янай кампаніі, словам, увесь змест нядоўгага, але разнастайнага жыцця дзядзькі Браніслава. Усё гэта было мне мала зразумела, часам здзіўляла ці шакіравала, і нават палохала, але наогул, аднак, было вельмі цікавым, бо пульсавала ў нейкім хуткім тэмпе, пахла нейкім прыцягальным размахам, маляўніча адбівалася ад нашай нерухавай і нуднай правінцыяльнасці.

Дзядзька і цётка гаварылі з іншым акцэнтам, пахнучым засценкам, якіх на Міншчыне было больш, чым у нас, апрача таго, іх мова была ўсыпана русізмамі, набытымі ў Мінску. У нас таксама гаварылі не вельмі, але, аднак, менш бесцырымонна калечылі польскую мову, а я на гэтыя рэчы меў уражлівы слых, і кожнае новае слова выклікала ў мяне жывую цікавасць. Я запамінаў яго, клаў на захаванне ў кладоўку памяці, а потым даставаў ізноў, аглядваў, узважваў, прымяраў да іншых, рабіў нейкія параўнанні, словам, забаўляўся са словамі, як з цацкамі, як з каляровымі алоўкамі і фарбамі, не шукаючы для іх хуткага прымянення, а задавальняўся гамай іх колераў, якая цешыла вока. Калі, напрыклад, я лавіў нейкае слова з многімі складамі, то паўтараў яго некалькі разоў, але кожны раз у новых парадкавых камбінацыях, гэта значыць перастаўляючы склады альбо нават літары ў складах так, каб цэлае слова ўтрымлівала ўсе гэтыя самыя літары і гэтую самую колькасць складоў, што і першапачатковае слова. Я з прыемнасцю, без найменшай памылкі, цешыўся гэтым даволі бессэнсоўным забаўленнем музыкай слова. Самай слабай была польская мова цёці Адолькі, але калі яна кульгала граматычна, то кампенсавала гэта багаццем зместу: яе галава, што ішла кругам, і выразныя вусны раіліся ад запасаў навін пра людзей, якіх ніхто з нас не ведаў і якія нікога не цікавілі. Пры гэтым яна любіла шмат і адкрыта гаварыць пра страхі, духаў і ведзьмаў, а плаксівая інтанацыя голасу расказчыцы, поўная страху, надавала аповедам асаблівы жах. Гэту частку вячэрняга рэпертуару я слухаў больш уважліва, чым

астатняе, і не раз адчуваў пры гэтым моцныя эмоцыі. Асабліва запала мне ў памяць сенсацыйнае апавяданне пра страшны зялёны твар, які яна некалі ўбачыла на змярканні праз аконную шыбу. Гэты зялёны твар доўга потым не даваў мне спакою і ў цёмныя зімовыя вечары мучыў сваім успамінам.

Бацькі былі рады дзядзьку і цётцы, бо шчыра іх шкадавалі і хацелі дапамагчы ім у бядзе, а паміма гэтага шукалі кампаніі і чым разнастаіць зімовую аднастайнасць, але ставіліся да іх трохі злёгку, як да людзей не зусім сур'ёзных. Яны лічылі сваім абавязкам ратаваць родных, але не маглі забыць дзядзьку Браніславу грахоў маладосці, яго гулянак, змарнаванага здароўя і маёмасці і ўсяго яго нешчаслівага мінулага. А я — наадварот — вельмі палюбіў дзядзьку за яго вясёлую і дзёрзкую, хоць і не надта мудрую балбатлівасць, за яго добры гумар, наіўную пахвальбу і паляўнічыя выдумкі, з якімі ў доме заўсёды адчуваліся рух, ажыўленне і бестурботнасць. Я адчуваў яго паблажлівасць да іншых, бо яму самому яна была патрэбна, а яго зухаватая грубасць і безразборлівая жартаўлівасць рабілі мяне больш смелым і абуджалі фамільярную сімпатыю. Словам, было тое самае, што пазней з Отмытам і дзядзькам Тадзем: я любіў у людзях вясёлыя памылкі больш за мудрую сур'ёзнасць, адчуваў цягу не да маральных аўтарытэтаў, а да пустога розуму і слабых характараў, якія таму цярпелі мае ўласныя слабасці. Я гарнуўся да людзей не дзеля навукі і прыкладу, а для забавы і гульні, шукаў у жыцці недаўгавечныя кветкі, праміналючы раўнадушна пладаносныя зярняты. І адбывалася ўсё гэта ў глыбокіх тайніках маёй падсвядомасці: не было каму даверыць гэтыя невыразныя пачуцці, а да бацькоў я нават не спрабаваў прыходзіць з гэтакімі думкамі. Таму што мяне навучылі, што да старэйшых трэба звяртацца толькі з тым, што «павінна быць», калі гэта нешта ветлівае і паслухмянае, а не з тым, што «ёсць» у душы сапраўды, хоць бы наперакор ветлівасці і добраму выхаванню. Паміж дзіцем і дарослымі ўсё вышэй расла сцяна ўзаемнага непаразумення і недаверу.

## Раздзел X

## *Пан Лапушынскі (1884–1886)*

У гэтую ж самую зіму ў Асташын прыехаў мой настаўнік пан Рышард Лапушынскі, і адсюль пачынаецца новы перыяд маёй адукацыі. Скончыўся перыяд французскі, пачаўся рускі. Перыяду чыста польскага, уласна кажучы, не было ўвогуле, бо па-польску мяне вучылі толькі катэхізісу і святой гісторыі, а астатнія ўменні я набыў выпадкова і абавязаны гэтым сам сабе. Момант прыезду настаўніка я не памятаю: ён, напэўна, адбыўся пры абставінах, якія выскачылі з-пад маёй увагі. Я адразу бачу пана Лапушынскага, калі ён сядзіць за сталом у школьным пакоі, аддадзеным у яго распараджэнне, і дыктуе нам па-руску. Яго мiласцi было каля пяцiдзесяцi, ён быў невысокі і паўнацелы, з чырвоным з фіялетавымі жылкамі тварам і з кароткай апаплексічнай шыяй, сабранай ззаду ў складкі тлушчу. Рэдкія лысеючыя валасы ён фарбаваў нейкай дрэннай фарбай брудна-зеленаватага адцення, а дзёрзка падкручаныя вусы чарніў так старанна, што яны пераходзілі ў фіялетавы колер. Ён насіў цёмныя задымленыя акуляры, з-за якіх абсалютна не было відаць вачэй, а раздуты, пакаты жывот упрыгожваў залатым гадзіннікам з вялікай колькасцю бірулек, якія брынчалі. Ён чамусьці ганарыўся гэтымі бірулькамі і ахвотна паказваў іх жанчынам, у прыватнасці нейкі маленькі ларнет, які меў у сабе нешта незвычайнае. Ён быў павольны, гаварыў мала, важны і даволі недаверліва замкнуты ў сабе, пазбягаў размоў на навуковыя тэмы, затое любіў расказваць пра дамы, дзе быў настаўнікам, і надаваў вялікую вагу ролі, якую ён там адыгрываў. Ён шмат і ўрачыста еў, як быццам бы святкаваў нейкі нечуваны важны абрад, і рабіў гэта так марудна, што звычайна быў апошнім, з-за яго не раз трэба было затрымлівацца за сталом. З-за кароткай тоўстай шыі ў яго не паварочвалася галава, і ён з цяжкасцю паварочваў яе ў бок, як зубр-адзіночка, што сунецца проста перад сабой. Жанчынам цалаваў руку доўга і са смакам, як бы хацеў праглынуць іх пальцы, чаго маці вельмі не любіла і што называла «смактаннем».

На мой сённяшні розум, гэта была асоба вельмі несімпатычная, ён увогуле не заслугоўваў даверу, якім бацькі адразу, без абмежавання акружылі яго. Немагчыма было дапытацца, якую навуковую падрыхтоўку меў пан Лапушынскі, бо, сапраўды, ён шмат гаварыў пра сваю педагагічную кар'еру, але вельмі агульна, без падрабязнасцей. Бацькі дазволілі асляпіць сябе славай знакамітага педагога і шматлікімі рэкамендацыямі, забываючы, што гэтыя водгукі паходзілі з іншых часоў і ўмоў. Па прычыне прыроджанай дабраты яны абыходзіліся з новым настаўнікам з вялікай павагай, як з памешчыкам і чалавекам са свайго асяроддзя. Ён прадставіўся памешчыкам з маёнтка Беларучча за Мінскам-Літоўскім, што было вялікім перабольшваннем, бо, як потым стала вядома, ён быў толькі тытулярным уладальнікам часткі нейкага фальварачка і не меў нічога агульнага з сапраўдным памешчыцтвам. Я не

адчуваў ніякай сімпатыі да новага настаўніка, але паддаўся ціску бацькоўскіх рэкамендацый і лічыў пана Лапушынскага безагаворачным аўтарытэтам, да таго часу, вядома, калі вопыт яго пахіснуўся. Ён хутка пранікся дамашняй атмасферай, зразумеў, што мае справу з распешчаным адзіным дзіцём, бажаством сваёй маці, і быў у адносінах да мяне паблажлівы і непатрабавальны з вялікай для сябе выгадай і з не меншай шкодай для маіх поспехаў у навуках. Калі праз два гады, якія пан Лапушынскі прабыў у Асташыне, мяне праэкзаменаваў малады памочнік рэпетытара, які ведаў патрабаванні гімназіі, аказалася, што па-руску і па-лацінску я ведаў няшмат, што быў поўнасцю непадрыхтаваны да першага класа гімназіі і што трэба было ўзяць новага настаўніка і працаваць інтэнсіўна на працягу некалькіх апошніх месяцаў, каб ўратаваць мяне ад правалу на ўступных экзаменах у Вільні.

Праз пару месяцаў пасля сваіх бацькоў прыехаў Стась Хаціскі, і з гэтага часу мы вучыліся ў пана Лапушынскага разам. Стась быў на некалькі гадоў старэйшы за мяне, але ведаў значна менш; быў няздольны, маларазвіты і нават проста тупы і дурнаваты, так што з гэтай сумеснай навукі сапраўды ўзяў вельмі нямнога. Ён прыехаў у палатнянай блузе мешкаватага расійскага пакрою, у так званай «рубашцы», падпяразаны чорным рэменем з літарамі «М.Г.», таму што Стась ужо быў у першым класе Мінскай гімназіі, хоць, здаецца, без ніякіх бачных вынікаў. Затое добра ведаў чыгунку і цягнікі, меў касцяную зорачку, якой пранізліва сігналіў цягнік, што павінен быў адысці, крычаў звычна, як лакаматыў, і грубым кандуктарскім голасам аб'яўляў: «Станцыя Мінск. Трэці званок». Я ведаў гэту справу толькі па расказах і малюнках і адчуваў вялікую цікавасць да чыгункі, доўга і безвынікова марыў, каб калі-небудзь сапраўды яе ўбачыць, таму кампетэнтнасць Стася мне надзвычай падабалася і абуджала ўва мне здзіўленне і павагу. Я глядзеў, як на вясёлку, на яго вялы і малавыразны твар з тупым поглядам паблеклых вачэй, і калі б гэта быў іншы, больш сапсаваны і прадпрымальны хлопец, мог бы трапіць пад яго дамінуючы ўплыў з немалой для сябе шкодай. Але Стась быў такі малаіндывідуальны, такі вялы і флегматычны, што яму не прыходзіла ў галаву хацець мной верхаводзіць; і на самай справе, нягледзячы на старшынство, ён сам хутка паддаўся перавазе майго інтэлекту і тэмпераменту, і так ужо засталося назаўсёды. У гэтым хлопцы было нешта ненармальнае, нейкая хваравітая спадчына, бо ён пакутаваў ад нечага накшталт лунатызму, хоць гэта не залежала ад месяца. Уночы, калі ён чуў нейкі голас ці шэлест, пачынаў голасна і страшна крычаць па некалькі разоў: «Ха! Ха!» Пры гэтым ён, аднак, не абуджаўся і хутка заціхаў і спаў далей. Часам аднак ён зрываўся з ложка, ішоў наперад з заплюшчанымі вачамі і выгукваў сваё дзікае «ха!», будзячы цэлы дом і даводзячы да непрытомнага страху тых, хто не ведаў пра яго звычкі. Адсюль выцякалі забаўныя непаразуменні і перапалохі, пра якія назаўтра гаварылі ўжо са смехам, жартуючы без меры з крыклівага лунаціка. Дамашнія былі прызвычаены да яго вакальных выступаў і нічога з гэтым не рабілі, ведаючы, што трэба яго разбудзіць, каб ён супакоіўся і пайшоў з прабачэннямі ў свой ложак, але з чужымі прыезджымі ў нас была сапраўдная пацеха, калі іх забывалі папярэдзіць, а Стась забаўляў прыяцеля па спальні начной трывогай з поўным рэпертуарам.

Мая навука на працягу пары гадоў з панам Лапушынскім усплывае зараз ва ўспамінах як доўгая чарада дзён і заняткаў, якія паўтараліся

аднастайна, але ў цэлым не былі ані непрыемнымі, ані абцяжарваючымі. Бо я быў дастаткова здольны, каб без намаганняў запамінаць усё, чаму мяне вучылі, і не раз сядзеў даўжэй, чым планаваў настаўнік, і хацеў нешта зразумець. Значыць, навука таксама магла быць для мяне забавай, і вельмі карыснай, калі б яе маглі падаць больш займальным і больш эфектыўным спосабам. Але пан Лапушынскі належаў да гувернёраў старога часу, вучыў няйначай як па кніжцы, задаваў урокі пазногцем «адсюль-дасюль», патрабаваў вучыць на памяць ад «а» да «я» і расказваць на адным дыханні. Больш яго нічога не хвалявала, і яму, напэўна, нават не прыходзіла ў галаву, што вучня можна зацікавіць прадметам, калі выкладаць яго жыва, незвычайна і індывідуальна. Гэта былі занадта разумныя рэчы для яго закаснелай галавы, у якой змяшчаліся толькі элементарныя звесткі. Пра рускую і лацінскую мовы ён меў вельмі слабае паняцце і ў пытаннях ведаў не хацеў выстаўляцца, захоўваючы дыпламатычнае маўчанне як знак мудрасці. Дзякуючы гэтаму ён лічыўся непарушальным аўтарытэтам, і нікому з нас да пары не прыходзіла ў галаву думка, што ён быў толькі спрытным невукам і ахвотнікам пажыць за чужы кошт, якога абчасала і выгладзіла жыццё, праведзенае ў памешчыцкіх дварах. А, зрэшты, навошта было пану Лапушынскаму прыкладаць намаганні, калі ён ведаў, што мяне не трэба празмерна абцяжарваць навукай, каб гэта заўважыла чуйнае вока маці. Таму ён вучыў патроху, як Бог дасць, на недахопы глядзеў праз пальцы, а патрэбу аўтарытарнага бурчання спаўняў на Стасю. Той, не маючы за сабой, як я, моцных бацькоўскіх плячэй, аўтаматычна стаў «папялушкай» у нашай школе, да чаго, зрэшты, меў усе асабістыя здольнасці, будучы ў вышэйшай ступені непанятлівым, сонным і апатычным. Ён быў пастаянным прадметам жартаў не толькі маіх, але патроху і ўсяго дому, але не звяртаў на гэта ўвагі і цярпеў усё з абыякавай пакорнасцю, якая хутчэй абурала, чым раззбройвала. Ён не атрымаў у спадчыну ані гумару і тэмпераменту свайго бацькі, ані нават хітрасці маці.

Што датычыць мяне, то, адчуваючы вяласць пана Лапушынскага, я дазваляў сабе ў адносінах да яго розныя хітрыкі. Калі мне не хацелася вучыць нейкі ўрок, я даваў рады, падглядваючы ў падручнік, які ён трымаў на стале для ўпэўненасці заўсёды адкрытым у адпаведным месцы, бо без гэтай апоры ён не адважваўся рызыкаваць ані кроку на полі ведаў. Пан Лапушынскі без акуляраў бачыў так слаба, што я беспакарана мог запускаць жураўля ў кніжку і схапіць розныя кавалкі падчас дыктоўкі. Для французскай мовы, якую ў дапаўненне я ведаў лепш за ўсё, я недзе знайшоў сабе другі экземпляр кніжкі і з таго часу ўжо ніколі не клапаціўся, каб падрыхтаваць урок, а толькі самым нахабным чынам чытаў жыўцом з кнігі да вялікага задавальнення настаўніка, што я так добра ведаю. «Дакладна, усё слова ў слова, літара ў літару. Ніводнага перакручанага слова. Цудоўна. Зух Ясь», – цешыўся мой слепаваты настаўнічак, я ўсміхаўся спадцішка, а Стась са здзіўленнем барана глядзеў на маю рызыку, але дальнабачна маўчаў, дрэмлючы над сваім сшыткам. А я нават не ведаю, навошта я гэта рабіў, хіба для сенсацыі, бо не быў лянівы і вучыць урок мне сапраўды нічога не каштавала.

Школьны пакой быў адначасова спальняй пана Лапушынскага, і на камодзе побач з нашым сталом узвышаліся нейкія яго газеты, некалькі расійскіх кніжак і календароў, шкатулка для галення, а на ёй нікелі-

раваны квадратны будзільнік, а таксама бутэлька з чарнілам і пісьмовыя прыборы. Што датычыць апошніх, пан Лапушынскі быў вельмі патрабавальны, меў нейкія асаблівыя сарты, і, калі бываў у добрым настроі, паказваў нам, і, пасопваючы ад задавальнення, пералічваў іх надзвычайныя вартасці. Але звычайна ён захоўваў маўклівую грозную веліч і не раз дазваляў нам сумаваць такім спосабам, які нам быў па густу. Я тады глядзеў праз акно ці ўглядаўся ў сцены і печ, абклееныя зялёнай, вельмі смешнай абабіўкай. Памятны любімы зялёны пакой з той смешнай абабіўкай, так знаёма абстаўлены, сумны і паважаны пакой. Не магу ўспамінаць яго без узрушэння. Я бачу яго стракатыя сцены, пакрытыя карцінкамі паляўнічых сцэн, – такіх вульгарных і бессэнсоўных, на якія глядзелі месяцамі і гадамі з рассеянай нудотай! Няпраўда, што нешта любяць перш за ўсё за яго прыгажосць, можна палюбіць і за брыдкасць. Абабіўка была жудасна брыдкай, аднак такой мілай! Справа, пад навесам з галінак, як бы ў альтанцы, сядзеў, нахіліўшыся, паляўнічы ў круглай жакейцы і белых штанах. Ён быў падпяразаны рэменем, за сабой меў прытарочаную вялікую торбу і трымаў напагатове стрэльбу. Ён углядаўся, павярнуўшыся ў профіль, і дэманстраваў тоўсты, мясісты нос і густую разбойніцкую бараду, падстрыжаную клінам; невядома было, каго ён падпільноўваў, бо перад ім не было ніводнага звера, толькі на адным з дальніх планаў сярод чароту на беразе возера другі паляўнічы з каранастай квадратнай фігурай цэліўся ў хмары, вельмі падобныя на птушак. Але самая цікавая сцэна была вышэй: там бег, як выцягнутая рысь, тлусты алень і ўважліва і спакойна на бягу прыглядаўся да такога ж адкормленага выжла, выжал жа не лічыў аленя за звера, хоць такім павінен быў быць намер рысавальшчыка, а бег сабе паволі побач з абыякавай мінай, не зважаючы на аленя. А над выжлам пляма святлаценю на пагорку мела выгляд адрэзанай заечай галавы, якая без ног бегла па зялёным пейзажы нечувана камічным спосабам. Усе гэтыя сцэнкі мелі сакавіты жоўта-зялёны каларыт і паўтараліся незлічоную колькасць разоў: зверху, знізу, над ложкам, на печы – усюды падпільноўваў гэты чорны дзяцюк у белых штанах, цэліўся ў лятучыя хмары квадратны ягоміласць, адусюль выдурняліся сабака з аленем, а ідыёцкая заечая галава, адцятая ад тулава, падскоквала ўслед за імі ў недарэчнай пагоні. Так «маляўнiча» выглядаў наш школьны пакой.

Стол для навучання стаяў упоперак ля акна, і там сядзеў Стась, я займаў месца бліжэй да канца, а на другім баку, насупраць, развальваўся з мінай чорнага сфінкса пан Лапушынскі. Будзільнік на камодзе шумным рытмам адзначаў бег часу, Стась вадзіў носам па сшытку, які мы называлі «сэкстэрнам», пан Лапушынскі муркаў з адабрэннем, не заўсёды чуючы, што мы яму казалі, разам з часам беглі па сценах алені і смяшылі зялёныя заечыя галовы, дакучліва лезлі ў вочы і ў думкі. Калі рабілася надта сумна, я паглядаў праз акно, паўз якое павінны былі праходзіць усе, хто ішоў з дома да пякарні, і канстатаваў, што рабая Алеся са скрынкай пад пахай пляцецца па муку для свіней альбо служка Міхась, пасвістваючы, маршыруе па ваду да крыніцы і звініць меднымі збанамі на выгнутым каромысле. А потым я вяртаўся да сваёй працы і глядзеў, як люта блішчаць акуляры настаўніка, як старанна дапамагае сабе языком падчас пісьма Стась, а зялёныя хлопцы, як і раней, займаюцца на сценах зялёным браканьерствам. Незаймальныя, але і не непрыемныя гадзіны навукі плылі роўным руслам падобных

адзін на другі дзён, нібы ціхая спакойная вада малой рачулкі, і рабілі маю навуку такой лёгкай і бестурботнай, што перад яе працягласцю бляклі ўсе страшныя расказы пра гімназію ў Вільні, якімі мяне папярэдне палохалі.

Зрэшты, нягледзячы на сціплы запас інфармацыі, якой валодаў пан Лапушынскі, гэта былі новыя для мяне рэчы, таму не надта нудныя. Перш за ўсё — руская мова, абсалютна мне невядомая, прыняла разам з сабой новыя падручнікі, і ў тым ліку некаторыя з малюнкамі, на што я заўсёды быў уразлівы. Сярод іх была атрыманая па падпісцы кніжка пад назвай «Родина», у якой я знайшоў займальныя апавяданні і віньеткі. Рускі каляндар Сыціна – вельмі тоўсты і абшырны – таксама зацікавіў мяне, бо руская мова, якую так нязграбна выкладаў мой настаўнік, не рабіла на мяне непрыемнага ўражання, словам, яна цікавіла мяне і абуджала жаданне даведацца штосьці новае. Падобна ж і латынь, падабенства якой да французскай мовы я ўхапіў адразу з задавальненнем і сімпатыяй. Але настаўнік сам валодаў гэтымі мовамі слаба, як аказалася пазней, і быў разумны толькі з кніжкай у руках і з акулярамі на носе. Ён абмяжоўваўся абсалютна аўтаматычным чытаннем і дыктаваннем і мог бы так вучыць нас дзесяць гадоў без аніякага разумнага выніку. Ён нібыта размаўляў з намі па-руску падчас урока, але з вельмі моцным мясцовым акцэнтам, і яго ўбогі лексічны запас не пераходзіў сферы самых простых выразаў. Некалькі разоў на год пан Лапушынскі ездзіў у Мінск, адкуль ён прывозіў нам нейкія кніжкі ці пісьмовыя прылады, і перш за ўсё — дыханне вялікага горада ў выглядзе розных апавяданняў.

Самай большай рэдкасцю былі пёры Шылера[1] з бюстам паэта на авальным шчыце. Пёры былі нікеліраваныя, заграцічнай вытворчасці, з надпісам «Blanzy Poure et Comp.», і бліпічалі, як сярэбраныя. Вядома, яны мелі вельмі прыцягальны выгляд. Пан Лапушынскі расказваў нам пра іх шмат раней, ад'язджаючы ў Мінск, і гэтым дадаваў ахвоты валодаць такімі цудоўнымі рэчамі. Калі ён паехаў, я не мог дачакацца яго вяртання: марыў пра абяцаныя пёры, якія маё жаданне рабіла яшчэ больш прыгожымі і падымала ў рад прыгожых сюрпрызаў. Калі ён вярнуўся і прывёз пёры, яны прынеслі мне вялікую радасць не толькі як добрыя інструменты для пісьма, але і як прыгожая сама па сабе цацка. Партрэт Шылера ў авале здаваўся мне далікатнай мініяцюрай ці барэльефам, а замежная фірма «Blanzy Poure et Comp.» – нейкім магічным сезамавым заклінаннем з «Тысячы і адной ночы», здольным адчыніць вароты для ўсялякіх цудаў. У думках і марах я з зайздрасцю пераносіўся ў гэтую невядомую краіну «Blanzy Poure», дзе выраблялі такія прыгожыя прадметы, прыпісваў ёй усе вартасці, а потым, калі вяртаўся да рэчаіснасці, маё акружэнне здавалася мне некаторы час дзіўна бясколерным і нікчэмным.

Пан Лапушынскі, нягледзячы на сваю фанабэрыстую павагу і халадчасць старога халасцяка, праз пэўны час зжыўся з намі, бо бацькі былі надта гасцінныя і дабрадушныя, каб доўга трымаць свайго на цырымоннай дыстанцыі. Паўсядзённае жыццё ў Асташыне, запоўненае простым і важным зместам, свабоднае ад агульнапрынятай пустаты, хутка выклі-

[1] Фрыдрых Шылер (1759–1805) – славуты нямецкі паэт і драматург, самы вядомы разам з Гётэ прадстаўнік нямецкага рамантызму.

кала давер людзей. Збліжэнню яшчэ дапамагала бабуля Ганна Хацiская, маці дзядзькі Тадзі і мамы. Я ўжо казаў, што яна ўжо даўно мела не поўны розум з-за таго, што стукнулася галавой, а таксама, здаецца, з-за адначасовай страты дзвюх дачок, якія памерлі малымі дзецьмі. У 1881 годзе пасля смерці мужа дзядулі Уладзіслава бабуля пасялілася ў нас і засталася ў Асташыне аж да нашага выезду ў Вільню, калі я паступіў у гімназію. Памяшанне розуму бабулі мела мяккую форму. Яна гаварыла без сэнсу толькі пра пэўныя вядомыя рэчы, на якія ў яе была нейкая «ідэя фікс», а па-за гэтым паводзіла сябе абсалютна нармальна, вяла талковую размову і праяўляла гумар і нават зласлівасць. Напрыклад, яна пастаянна дакучала майму бацьку вострымі прымаўкамі, і рабіла гэта з рафінаванай любоўю за сталом у прысутнасці шматлікіх сведкаў. Бацька спачатку цярпеў шпількі моўчкі, потым сціскаўся і хмурнеў, у канцы ж траціў кантроль і выбухаў якім-небудзь выкрыкам адчаю альбо стукаў кулаком аб стол і клікаў Бога ў сведкі сваёй крыўды. Яго парывістая натура не ведала стрыманасці, калі ён упадаў у моцнае ўзбуджэнне: ён выгукваў шалёныя выкрыкі, кідаўся і махаў рукамі, біў сябе ў грудзі, як молатам, альбо трапаў рукамі па галаве і вушах, каб праз хвіліну раптам супакоіцца, ветліва ўсміхнуцца і зноў стаць лагоднай авечкай, паслухмяным узмаху жончынай рукі. Калі прыступ гневу мінаў, яны абое жартавалі з гэтага, а мама называла гэтыя бацькавы аплявухі «выганяннем чмялёў з вуха». Бабуля сваім вострым языком не раз рашаючым чынам мела дачыненне да гэтага выганяння чмялёў, але пад змякчаючым маміным уплывам спакой хутка вяртаўся, бо бацька меў зашмат здаровага сэнсу, каб доўга злаваць на асобу, хворую разумова.

Бабуля была нізкага росту і сярэдняй камплекцыі, ужо вельмі старая і змарнелая, апраналася па-старасвецку, насіла на галаве чорныя карункавыя каптуры і даглядала ўсіх сабак і катоў-знайдаў, пазбіраных з усяго свету, для якіх пакідала ежу па ўсіх кутах дома, робячы тым самым вялікі беспарадак. Яна вельмі любіла чорную сучку Мілютку і песціла яе самымі ласкавымі словамі, а да людзей была хутчэй абыякавая, не выключаючы сваю сям'ю і ўсіх нас. Яна не магла перажыць смерць мужа, часта ўспаміналa яго і нават не вельмі ў яе верыла, лічыла яго божай істотай і чакала яго паўторнага ўвасаблення. Пасля прыезду пана Лапушынскага бабуля ўявіла сабе, што гэта ўвасабленне ўжо наступіла і што ён і ёсць яе ўваскрэслы муж. Таму яна абсалютна паддавалася яго ўплыву, слухала яго аднаго ва ўсім доме, як прарока, і пачала аказваць яму пашану, амаль як Богу. Яна называла яго, праўда, не Уладзіславам, а чамусьці па-французску «месьё», ахвотна знаходзілася ў яго кампаніі і хадзіла за ім следам, як толькі ён не быў заняты ўрокамі з намі. Калі мама хацела да чаго-небудзь прымусіць бабулю ў сэнсе яе здароўя, парадкаў ці ўбрання, то была вымушана звяртацца па падтрымку да пана Лапушынскага, бо яго аднаго бабуля слухалася безагаворачна. Яго становішча было б даволі цяжкім і смешным сярод людзей злых, але ў нас такіх не было, а бацькі прасілі яго, каб ён не супрацьўляўся ахвотна гэтаму бясшкоднаму вымыслу. Высакамерная і маўклівая абыякавасць пана Лапушынскага якраз падыходзіла для ролі, якую яму навязаў выпадак, а ўвесь дом хутка да гэтага прызвычаіўся і не звяртаў увагі на выбрыкі бабулі.

Распарадак нашага дня быў вельмі рэгулярны. Ён пачынаўся з ранішняй гарбаты. Мама садзілася за авальны стол каля самавара і налівала гарбату, побач з ёй займаў месца я, потым бабуля, пан Лапушынскі, Стась, дзядзька Браніслаў, цёця Адолька і, нарэшце, бацька — па другі бок ад самавара недалёка ад маці. Пан Лапушынскі славіўся добрым апетытам і заўсёды выпіваў тры шклянкі гарбаты замест звычайных дзвюх, пры гэтым за ядой ён даволі гучна соп, а часам нават мармытаў. Ён часта кашляў неяк асабліва, як быццам бы быў чымсьці незадаволены. У цэлым гэта быў пануры ягоміласць, які ні на грош не валодаў ані прывабнасцю, ані весялосцю, і трэба было мець нашу дзіцячую прастату, каб не даць атруціць сабе жыццё яго выглядам. З раніцы я ніколі не быў галодны і лічыў, што сядзець за абедзеным сталом — увогуле нудны і непатрэбны звычай старэйшых. Я шукаў там сабе, чым пазабаўляцца, і хутка знайшоў. Я заўважыў, што мама ў спешцы налівае мне занадта поўную шклянку гарбаты, не пакідаючы месца на цукар і малако, якія выліваюцца на сподачак, а з яго на цырату. Пры добрым жаданні і дапамозе з майго боку з гэтага добра капала на падлогу, а паколькі гэта паўтаралася амаль штодзённа, то я прыдумаў зрабіць у гэтай каналізацыі пэўныя паляпшэнні. У тарцы стала я выразаў сцізорыкам трохвугольны жалабок, праз які гарбата цякла лягчэй, бо ішла па вузейшаму карытцу, а мае пальцы ёй яшчэ дапамагалі. Такім чынам каля майго крэсла штодня ўтваралася вялікая лужына, але ніхто з дамашніх не быў такім назіральным, каб гэта заўважыць і адгаварыць мяне ад гэтага недарэчнага плёскання. Зрэшты, было б дастаткова не наліваць мне такіх поўных шклянак, але ў нас не займаліся такімі дробязямі. Пасля гарбаты мы ішлі на ўрокі, якія цягнуліся да абеду, гэта значыць да першай гадзіны, і былі для мяне не прымусам, а свайго роду забавай. Я любіў займацца з кніжкамі і пісаць, любіў самі надрукаваныя літары, любыя, а ілюстрацыі ў тэксце выклікалі поўную сімпатыю да яго, бо ў кожнай было нешта займальнае. Я любіў чарціць вялікія цякуча-хвалістыя літары з таямнічымі завіткамі, старанна каліграфічна выпісваючы іх шылераўскім пяром, а велічны трон літары «R» я выпісваў з інстынктыўнай любоўю да яе прыгожай паставы, якая мае ў сабе нешта каралеўскае. Зрэшты, гэта не перашкаджала мне рабіць побач чорныя кляксы, якія ў нас называлі «жыдамі», і размазваць у гарачцы рукавом усю сваю каліграфію. Я любіў нават паперу ў клетку для арыфметыкі, на ёй можна было так дакладна размяшчаць лічбы, уціскваючы кожную ў сваю клетку, як пчолы ў ячэях воску. Для пачатковага навучання пісьму ў мяне былі сшыткі з гатовымі ўзорамі, якія трэба было абводзіць чарнілам. Сшыткі былі скрозь прыгожа і размашыста спісаны бледна-зялёнымі тэкстамі і прадстаўлялі сабой нейкія разважанні. Адно з іх пачыналася словамі «Рэдкі такі сябар...», і само «Р» давала мне дастатковую кампенсацыю за працу, дзякуючы сваёй бездакорнай каліграфічнай імпануючай і эстэтычнай постаці. Што да навучання граматыцы, геаграфіі і гісторыі, — я меў дасканалую памяць і лёгка засвойваў усё, што ўважліва прачытваў. Думаю, што вопытны і адукаваны настаўнік не меў бы са мной вялікага клопату і мог бы шмат чаму мяне навучыць да ўзаемнага задавальнення. Пан Лапушынскі, вядома, гэтага не змог, нават не імкнуўся паспрабаваць, здавальняўся ўбіваннем у мяне звестак з кніжак. Затое навука адбывалася з найменшымі намаганнямі для настаўніка і для вучняў. Калі мы пазнаёміліся бліжэй, паміж намі ўсталяваліся та-

кія адносіны, што на ўроках ні ён мяне, ні я яго не ўспрымалі ўсур'ёз, ён — свядома, я — інстынктыўна, і рабілі справу фармальна, павярхоўна. Затое пан Лапушынскі хутка атрымаў у нас вялікі аўтарытэт у такіх «навуковых» справах, як вастрыць алоўкі, разлінейваць сшыткі, альбо ў веданні найлепшых сцізорыкаў недастойнай расійскай вытворчасці, у якой тады мела поспех фірма Заўялава ў Ворсме, а нажы Кандратава лічыліся горшымі. Як я зараз успамінаю, усе гэтыя сцізорыкі былі звычайныя і брыдкія, лёгка тупіліся і не ішлі ні ў якое параўнанне з англійскімі ці нават варшаўскімі вырабамі. Пан Лапушынскі быў, аднак, іншай думкі і вельмі падтрымліваў Заўялава. Ён меў яшчэ нейкую бутэльку з так званым «вечным» чарнілам, у якое трэба было толькі час ад часу даліваць ваду, каб мець выдатнае чарніла, якое ніколі не заканчвалася. Наш педагог вельмі ганарыўся гэтай бутэлькай, гэтак жа як і доўгай чорнай лінейкай, акаванай меддзю, з дапамогай якой ён акуратна разлінейваў паперу з любоўю і глыбокай пашанай тайнага штукара. Гэтак жа сама ён адносіўся да сваіх ручак і пёраў, а з паперай і сшыткамі абыходзіўся з апломбам прафесійнага канцылярыста. Хто ведае, ці не атрымліваў гэты педагог сваю вышэйшую навуковую адукацыю ва ўрадавых канцылярыях мінскага чыноўніцтва? Ва ўсялякім разе, мы шчыра здзіўляліся яго ведам і з разяўленым ротам слухалі цуды, якія ён нам расказваў пра магазіны пісьмовых прыладаў у Мінску.

Пасля ўрокаў мы сыходзіліся на абед, да якога заўсёды падганяў бацька, бо ён уставаў вельмі рана і прыходзіў з гумна ці з поля галодны. Ён адразу пачынаў рэзаць хлеб і выбіраў сабе агурок да мяса. Для мяне абед праходзіў без уражанняў і хутчэй нудзіў мяне і выклікаў нецярпенне, бо я не меў добрага апетыту, як іншыя хлопцы, выкручваўся, каб не есці мяса, і хацеў ласавацца салодкім і канфіцюрамі замест таго, каб падсілкоўвацца сур'ёзнымі стравамі. У дадатак абавязак піць рыбін тлушч перад абедам выклікаў у мяне агіду, што забірала рэшткі апетыту, бо рыбін тлушч быў агідны і на выгляд, і на дотык, і на смак, і сам выгляд бутэлькі з гэтай жоўтай маззю − густой і клейкай, даводзіў мяне да ванітаў. Маці бедавала, што я так мала ем карысных прадуктаў, і ўвесь час мне іх падсоўвала, упіхваючы ў мяне нейкія катлеты і булёны. Даходзіла да таго, што думка пра ежу выклікала ў мяне дрыжыкі, а добрая маці, якая клапацілася аб маім здароўі, здавалася мне праследавацельніцай, што атручвае жыццё непатрэбнымі патрабаваннямі. Шкода, што маці ніколі не прыходзіла ў галаву думка прадаставіць мяне маёй уласнай натуры і пачакаць, пакуль я сапраўды адчую сябе галодным і пачну думаць пра ежу з прыемнасцю, а не з агідай. Звычайна я раўнадушна прапускаў суп і мясную страву і чакаў дэсерт, які ў нас не называўся пазагранічнаму «легуміна», а быў проста «трэцяй стравай» і складаўся з маіх самых любімых прысмакаў, такіх, як аладачкі з яблыкамі, запечаная шарлотка, наліснікі з павідлам, вафлі, печаныя яблыкі з шадонавым соусам[2], яблыкі, запечаныя ў сухарах, і іншыя такога ж кшталту. На вялікія святы падавалі марожанае, крэм і вафлі, якімі нас можна было завесці ў пекла. Анця[3], калі ёй было шэсць гадоў, неяк сказала, што калі вырасце і будзе гаспадыняй у сваім доме, будзе мець штодня на абед

[2] Шадонавы соус гатуецца з віна, цукру і жаўткоў.

[3] Ганна Хацiская, стрыечная сястра Яна, з 13 жніўня 1901 г. яго жонка.

тры віды дэсерту. Я прапанаваў ёй, каб яна напісала мне гэта на лісце, і шмат гадоў пазней, калі мы ўжо былі дарослымі і былі заручаны, я паказаў ёй гэты ліст і напомніў яго змест, з чаго было шмат смеху. Дзіўна, як дзеці гоняцца за салодкім, відавочна, што гэта — патрэба арганізма, які расце. Я звычайна сядзеў за абедам асалавелы і ажыўляўся толькі тады, калі на стале з'яўляліся канфіцюры як неад'емная частка трэцяй стравы. Канфіцюраў і павідла ў нас варылася штогод дзесяткі вялікіх слоікаў і гарнцаў, і на гэта ішло некалькі галоў цукру, кожная з якіх важыла якія-небудзь дваццаць фунтаў[4]. Павідла было рознае, але пераважна бруснічнае, якое ў нас так і называлі і якое мела цудоўны цёмна-чырвоны колер гранатавых зярнят. Канфіцюры — малінавыя, клубнічныя і вішнёвыя — давалі розную ступень чырвані, а агрэставыя мелі залацісты колер тапазаў. Іх варка з'яўлялася важным дамашнім абрадам, я любіў дапамагаць пры гэтым, каб сёе-тое пакаштаваць. Аднак гаворка ішла не толькі пра паднябенне, але і пра зрокавае ўражанне, якое я атрымліваў, разглядваючы гэтыя розныя ягады і садавіну, сокі і сіропы моцных, насычаных колераў. Яны ўносілі прыемную разнастайнасць у нудны абед з той хвіліны, калі было што пасмакаваць і з чым пазабаўляцца. Асабліва падабаліся мне вафлі сваёй канструкцыяй накшталт каморкі, у кожную адтуліну я клаў адну вішню ці наліваў сіроп і еў расфарбаваную такім чынам вафлю з сапраўдным апетытам. Расчулена ўспамінаю гэтыя не вытанчаныя, а адборныя здаровыя і смачныя стравы, клапатліва і смачна прыгатаваныя з дамашніх прадуктаў добразычлівымі рукамі. Пазней у жыцці я сустракаў іх усё радзей па меры таго, як гарадскі звычай выціскаў іх і змяняў нашы вясковыя формы жыцця. Гэтыя старыя стравы мелі рысы паважанай асаблівасці і трапна характарызавалі сціплы дастатак нашага дому і тых часоў.

Пасля абеду пан Лапушынскі апранаў плашч і шапку з суконным верхам, завязваў на шыю фіялетавы шалік, браў у рукі палку з алавянай ручкай, абшытай скурай, і з рэгулярнасцю хранометра ішоў за «лядоўню», дзе знаходзіліся сакрэтныя апартаменты, на справе не абазначаныя нулямі, але добра забяспечаныя сыпучым і сухім тарфяным пылам з выдатнымі абсарбіруючымі здольнасцямі. Потым ён вяртаўся і кідаў кліч: «На шпацыр!», які нязменна ўваходзіў у штодзённую праграму. Мы ішлі ўчацвярох, бо і бабуля звычайна належала да нашай групы, каб падтрымаць кампанію пану Лапушынскаму, прычым яна пастарасвецку вымаўляла «шпац'ер», а запалкі называла «сярнічкамі». Пан Лапушынскі казаў «сярчыкі». Накірунак прагулкі бываў двуякі: «пад Баяры» альбо пад кальвінскі касцёл, ці на поўдзень альбо на поўнач, часцей, аднак, гэты апошні. Вёска Баяры ляжала за вярсту ад нас у нізкай катлавіне, і звычайна мы да яе не даходзілі, затрымліваючыся ля гары на дарозе, дзе з сасновага бору быў від на вялікія сенажаці і тарфянішчы, якія цягнуліся па абодвух берагах Сэрвачы аж недзе пад Альшаны іВарончу. Ля нашых ног ляжала асташынскае тарфянішча, дзе капалі і складвалі ў вялікія прызматычныя стосы тарфяныя цаглінкі. Бацька надаваў вялікую вагу гэтым запасам, бо эканоміў дрэва на апал, якое трэба было вазіць аж з Міранкі, за пяць міль да Асташына, дзе ў

[4] Фунт – адзінка масы вагой каля 0,4055 кг (новы польскі фунт).

12. Зак. 297.

нас быў кавалак лесу і лесьнічоўка, а наш торф быў чорны, шчыльны, найлепшага гатунку, выдатна замяняў дрэва. Хіба што бацька быў першым у ваколіцы, хто пачаў ужываць торф, што было мала вядома і мала практыкавалася, пакуль было шмат лясоў і дрэва было танным. З яго пачалі браць прыклад суседнія двары, і нават сяляне, звычайна недаверлівыя да новага, кінуліся дабываць торф па яго прыкладу. Зімой у нас палілі ім усе печы, бацька рана ўставаў і з качаргой у руках хадзіў ад печы да печы і папраўляў цаглінкі, якія гарэлі, ці сачыў, каб своечасова зачынілі дзверцы і засаўкі. Да гэтага зімовага ранішняга абраду бацька ставіўся вельмі ўважліва, бо ён любіў парадак і належнае ўжыванне кожнай рэчы, не цярпеў, каб нешта марнавалася, і вельмі клапаціўся пра парадак у доме. Я бачу яго высокі цёмны сілуэт, які выступае з ранішняга змроку, яго паважны барадаты твар, нахілены да печы, які кожную хвіліну то асвятляўся чырвонымі водбліскамі агню, то гаснуў у цемнаце. Я чую металічнае бразганне качаргі аб жалезныя дзверцы і каласнікі і гучны рытм распаленай печы, які ідзе ад прычыненых дзверцаў, і хвалямі плыве цяжкі, размераны рытм нейкага вялізнага ўздыху. Праносяцца і міргацяць на бацькавым твары крывавыя водбліскі, з енкам рыпяць дзверцы, а жарало печы, распаленае і гучнае, яскрава свеціцца ў цёмным пакоі, прыцягвае позірк мігценнем полымя. Я адчуваю пранізваючы кісла-смаляны пах торфу, які зімой напаўняў усе пакоі настолькі, што гэта пераставалі заўважаць. Сёння гэты пах для мяне кранальна мілы, бо ён увасабляе і жыва і сардэчна нагадвае гаспадарку, працу і ўсё жыццё майго бацькі, такое простае, добрасумленнае і высакароднае.

Аднак мы хацелі накіроўваць свае прагулкі на поўнач, дзе было і людней, і прыгажэй. На паўдарозе мы ішлі праз ясеневыя прысады Асташына Грабоўскіх з муравынай брамай, а калі мінalі двор, пачыналася кляновая алея, што вяла да касцёла на ўзгорку, і адтуль распасціраўся гэты самы прыгожы від на даліну ракі Сэрвач, пра якую я ўжо ўспамінаў раней як пра маё першае дзіцячае каханне. Касцёл меў правільную і сціслую форму, моцна сядзеў у зямлі прысадзістымі контрфорсамі, прыгожа чырванеў на фоне неба пакрытай пацінай дахоўкай, якая адсвечвала ад белізны атынкаваных сцен, і быў, як я гэта запозна зразумеў, прыгожым і каштоўным помнікам архітэктуры XVII ст. у стылі абарончых касцёлаў. Сёння, вядома, ад яго не засталося ані следу, апрача фотаздымкаў у маіх зборах. Гэты касцёл так мяне тады вабіў, што я не раз браў з сабой паперу і алоўкі, каб яго намаляваць, але скончылася гэта нейкай бяздарнай мазнёй, бо я не меў да гэтага ані здольнасцей, ані кіраўніцтва. Пан Лапушынскі лічыў прагулкі справай пасляабедзеннай гігіены, таму ён мала з намі размаўляў, мяркуючы, што час па-за ўрокамі належыць яму; ён звычайна ішоў моўчкі, старанна закручаны шалікам, і толькі праз зубы адказваў на поўныя пакланення звароты бабулі, а мне са Стасем даваў поўную волю, толькі каб мы не занадта аддаляліся. Зрэшты, нас яшчэ суправаджалі дваровыя сабакі, якія часцей за ўсё беглі за намі і ішлі ў авангардзе. Дайшоўшы да касцёла, я любіў адасобіцца, абаперціся на касцёльную сцяну ў самым высокім месцы, якое летам зарастала пушыстай травой, і адтуль патануць позіркам у прасторы і прыгажосці краявіду, што рассцілаўся ў мяне пад нагамі. Я ўжо шмат пра яго пісаў, яшчэ больш марыў на працягу цэлага

паўвека, аднак мне ніколі не надакучыць успамінаць яго цудоўную маляўнічасць. Я думаю, што гэты від значна больш, чым людзі, быў маім настаўнікам, сябрам і дарадцам і больш, чым падручнікі, маёй кніжкай па эстэтыцы і евангеллем прыгажосці. І сёння вільготнымі вачамі я лашчу яго і прабягаю па гэтых старых касцёльных мурах, пamаляваных зацёкамі і пакрытых цвіллю старасці, і сёння я расчулена чытаю ў іх гісторыю майго дзяцінства, усе ўражанні і пачуцці, якія на ўсё жыццё звязалі мяне з гэтым касцёлам і з гэтым відам. Ёсць у рускай мове трапнае азначэнне «ненаглядный». Уласна кажучы, гэта я магу сказаць пра мой від — ён быў ненаглядны, бо я ніколі не мог удосталь наглядзецца і гадзінамі разглядаў яго з увагай і ўражлівасцю дарослага чалавека. Зрэшты, гэта не азначала, што я быў разважлівым і пагарджаў гульнямі, уласцівымі майму ўзросту: праз хвіліну я мог сарвацца з месца, забыць перажытыя ўражанні і ганяцца навыперадкі з сабакамі ці перакідвацца жартамі са Стасем, які хутка стаў ахвярным казлом усяго дому і цярпеў ад мяне шмат незаслужаных прычэпкаў і кпінаў. Але ля самога касцёла нешта ўсяляла ў мяне спакой. Калі было цёпла, я часам клаўся дагары і ад краявіда пераносіў позірк да хмараў, якія плылі па небе, перажываючы асаблівае пачуццё яднання з блакітам нябеснага скляпення, і губляўся ў разліве плывучых аблокаў. Іх снежныя сінія і жамчужныя жываты вольна плылі па сапфіравым глыбокім небасхіле; прыцягвалі мяне да сябе, як магніт, і проста зачароўвалі: нерухомы, я ўпадаў у нейкае блажэннае здранцвенне, замілавана глядзеў на пластычную акругласць і мяккасць аблочных вобразаў, да якіх амаль што можна было дакрануцца, а ў чыстым блакіце паміж імі я адчуваў нейкую каларыстычную дасканаласць, у якой ахвотна танулі вочы і думкі.



***Стагі.** Здымак да 1926 г.*

 Я станавіўся летуценнікам і на хвіліну забываў пра свавольствы і дзіцячую празмернасць, пакуль што-небудзь не вяртала мяне ў рэчаіснасць. І яшчэ тады я з гордасцю думаў пра зведаныя хвіліну назад уражанні, лічыў іх нечым вельмі важным і каштоўным, што мяне, да майго гонару, адрознівала ад іншых хлопцаў майго ўзросту. Я паглядаў на іншых з маўклівай пагардай і гаварыў сам сабе: «Калі б вы ведалі тое, што ведаю я, і чулі тое, што я чую!» Але гэта толькі пралятала ў галаве як мутны бясформенны туман, а сфармуляваць гэта выразна я не ўмеў. Заставалася пакутлівае пачуццё недасказанасці, немагчымасці зразумець самога сябе і дабрацца да ўласнага «я», але найлепшым ад гэтага лякарствам было кінуцца ў іншую крайнасць — у якія-небудзь выбрыкі гучнага шалёнага свавольства, якое заканчвалася пакараннем і плачам.

Пасля вяртання з прагулкі я з засмучэннем садзіўся за ўрокі музыкі з мамай і адчуваў, што ад усяго сэрца ненавіджу фартэпіяна ўсяго свету. А дачакаўшыся з цяжкасцю канца, я з палёгкай пераходзіў да выканання ўрокаў для пана Лапушынскага на наступны дзень, што, аднак, не цягнулася надта доўга і пакідала мне пару вольных гадзін перад вячэрняй гарбатай. На «гарбату» мы сядалі каля восьмай гадзіны, і пачыналася яна звычайна з кіслага малака з бульбай, для якога не шкадавалі смятаны. Часам замест малака падавалі забелены крупнік з бульбай ці «прываранную» зацірку, якую ўсе мы любілі. «Прываркамі», альбо прыварковай мукой, у нас называлі сумесь ячменнай і грэчневай мукі, такая зацірка нам была смачнейшай, чым жытняя ці пшанічная. Да малочных страў належала яшчэ «лямешка» – густое цеста з грэчневай мукі, залітае гарачым малаком, затое «жалезную кашу» падавалі «засквараной», гэта значыць з саланінай, але таксама было выключна смачна. Увогуле, гэтыя нашы стравы мелі рысы напалову сялянскага стала, такія яны былі простыя і немудрагелістыя. Гарадскі франт, напэўна, моцна скрывіўся б, але нашы двары пры значным дастатку вялі жыццё сціплае, любілі рэчы вельмі звычайныя і зусім іх не саромеліся. Не магу думаць раўнадушна пра гэтыя нашы стравы, бо бачу ў іх знакавую асаблівасць цэласнасці вясковага старашляхецкага звычаю, які я высока цаню.

Вечарамі доўга сядзелі за сталом і пасля таго, як прыбіралі посуд, размаўлялі пра падзеі дня і іншыя рэчы, бо гэта была хвіліна адпачынку пасля заняткаў на працягу ўсяго дня. Грамавая пахвальба дзядзькі Браніслава і яго сенсацыйныя гісторыі часта сутыкаліся з крытычнымі заўвагамі мамы, і іх верагоднасць падвяргалася з яе боку сумненню. Яна любіла пажартаваць з яго, і паколькі мела пачуццё гумару і была спрытнай, то не раз востра выгаворвала яму з-за яго гулянак у вясёлай кампаніі. Дзядзька на гэта «адпускаў вуглы» і змяняў тэму размовы, бо вельмі паважаў маму і не хацеў яе настройваць супраць сябе, а маме ў нас усё было дазволена. На другім баку стала ў руках бабулі з'яўляліся карты і пачынаўся яе паядынак з панам Лапушынскім у «воза» ці «мар'яна». Да першага часам дапускалі і мяне, бо ў воза маглі іграць некалькі асобаў. Для яго бралі цэлую талію – усе пяцьдзесят дзве карты – старыя і зашмальцаваныя, з загнутымі рагамі, і той, хто прайграваў, атрымліваў цэлы стосік такой «лапшы», якую яму падсоўвалі пад гучны смех партнёраў. Але пан Лапушынскі захоўваў непарушны спакой і маўчанне, ажыўляўся толькі тады, калі меў магчымасць расказаць пра рамантычныя і таварыскія перавагі, атрыманыя ў сваёй педагагічнай кар'еры.

Калі гадзіннік у прыхожай з важным звонам адбіваў дзесятую гадзіну, тэмп размовы слабеў і мне пачынала здавацца, што лямпа ўтварае вясёлкавыя кругі вакол полымя. Вочы жмурыліся ў шчыліны, і пакой зацягвала імгла аддалення, якое рабіла яго дзівосна невыразным і прасторным. Тады мама брала мяне за руку, казала ветліва пажадаць усім добрай ночы і забірала ў прыбудоўку. Там я гаварыў пацеры, паглядваючы час ад часу на круглую дзірку ў зялёным абажуры матчынай лямпы, не забываў прасіць Бога, каб абараніў мяне ад страшных сноў, потым распранаўся пры дапамозе Юлькі і надзяваў начную кашулю, нагрэтую ёю ля печы, калі была зіма. Мама абхінала мяне коўдрай і на дабранач развітвалася са мной знакам святога крыжа, а я адчуваў, як прыемна падаю ў нейкую бясконцую глыбіню. Да маіх вушэй ледзь даходзілі абрыўкі размовы бацькоў, як прыглушанае рэха, што губляецца ў аддаленні, пасля чаго ўсё сціхала і толькі заставалася пачуццё поўнага шчасця, якое выцякала з самога бесклапотнага дзіцячага існавання. Так заканчваўся мой дзень, каб назаўтра заступіць месца новаму, такому ж жыццярадаснаму.



***Жніво. На больш далёкім плане відаць, які хвалісты навагрудскі пейзаж.*** *Здымак да 1915 г.*

## Раздзел XI

## *Гаспадарка маёй маці*

Нагрувашчанне стольктх гадоў жыцця падае людзей і здарэнні дзяцінства за заслонай блакітнай смугі аддалення, не заўсёды дастаткова празрыстай. І за гэтай заслонай нават самыя дарагія твары выглядаюць смутна і маюць сцёртыя контуры, хоць я напружваю зрок памяці, каб убачыць іх выразна і нацешыцца іх відам. Бацьку бачу яшчэ даволі добра, але хутчэй у яго пазнейшыя гады, маці ж — менш дакладна, бо яна жыла нядоўга і памерла, калі я быў малы. Зрэшты, цяжэй за ўсё прыпомніць сабе рысы тых асобаў, якіх любіў больш за ўсё, — яны занадта блізкія, каб разглядаць аб'ектыўна. Аднак, што датычыць маці, я запомніў адну такую хвіліну, у якую бачу яе асабліва жыва і выразна: гэта падчас нейкай буры, калі яна разам з намі моліцца аб папярэджанні небяспекі і ўголас чытае чатыры Евангеллі.

Стаіць лета, спякотны ліпеньскі поўдзень поўны святла і колераў, але душна, аж не вытрымаць. Мне сумна, я сяджу на ганку і бяздзейсна гляджу на манеўры мух, якія трапляюць у мухалоўку, што стаіць на стале. А нашы няхітрыя мухалоўкі складаюцца з міскі сыроваткі і скарынкі жытняга хлеба, пакладзенай на дзве палачкі. Лёгкага ўдару па гэтым мастку дастаткова, каб скінуць муху ў смяротную купель. Мяне агортвае нейкі сонны цяжар, у якім я ледзь чую агіднае гудзенне мух, што ўюцца над сталом. Нейкі час я практыкую рамяство ката на мухах, але і гэта мне ў канцы надакучвае. Пасярод парнай цішыні ўздымаецца вецер, гоніць курэй па дарозе, калыша верхавіны дрэў і зноў змаўкае. У гэтым маўчанні адчуваецца напружанае чаканне, збіраецца бура. У нейкі момант бацькі клічуць мяне ў пакой і кажуць там застацца.

Вось чуваць гром, яшчэ глухі і далёкі, але неба зацягваюць усё гусцейшыя хмары, і іх сіне-алавяныя клубы раздуваюцца грозна і панура. Неўзабаве цямнее так, што дзень ператвараецца ў вячэрняе змярканне. Дамашнія сабраліся ў сталовай, нічога не гавораць паміж сабой і занепакоена глядзяць у вокны. Пажары ад перуноў бываюць часта, і страх перад імі з'яўляецца пастаянным кашмарам. Вось маланка. Асляпляльнае бела-ружовае святло б'е ў вокны, бледна мільгае па тварах і сценах; пасля чаго робіцца яшчэ цямней, і ў гэтай цемры страшны грукат аглушае нас і рассыпаецца сторазовым рэхам, як быццам бы дах разламаўся над нашымі галовамі. Па шыбах пачынаюць барабаніць кроплі дажджу, віхар шуміць і гне дрэвы на дзяцінцы, дождж мацнее і выстуквае на даху пабудку. Лівень шалее, глушыць шум віхру, але праз хвіліну ўсё яшчэ мацней заглушае залп перуноў, якія зліваюцца ў адзін страшэнны гук, разадраны незмаўкаючым рэхам. У вокнах ужо нічога не відаць апрача рухавых шнуроў сцякаючай вады, шыбы пад ёй баязліва дрыжаць і звіняць. Змрочна і страшна. Над нашымі галовамі разбушаваліся магутныя сілы, побач з якімі мы адчуваем сябе безабароннымі, а наш дом здаецца слабым і ненадзейным сховішчам, аддадзеным на міласць

стыхіяў. Твары бацькоў заклапочаныя, вусны маўчаць. Мяне больш палохае непакой старэйшых, чым пагроза самой буры, бо з бацькамі я адчуваю сябе ў бяспецы і веру, што яны не дапусцяць, каб са мной здарылася нешта дрэннае. Калі ёсць добрыя бацькі, гэта непарушная вера з'яўляецца для дзіцяці моцным шчытом, які бароніць ад усіх пагроз жыцця. Але я бачу, што яны ўстрывожаны і гавораць упаўголаса пра пажар, які запаліла нядаўна бура недзе па суседству. А маланка штохвіліну раздзірае паўзмрок варожым мільгаценнем, паказваючы бледныя твары сабраўшыхся з пранізлівай яснасцю. Ёсць нешта нерэальнае ў гэтых праблісках бледна-жоўтага святла і рогаце і трэску перуноў. Вялікі страх агортвае мяне і прыгнятае.

Тады мама прыносіць кніжку з малітвамі, хрысціцца, адкрывае кніжку і зычным урачыстым голасам пачынае чытаць Евангелле. Мы акружаем яе маўклівым колам. Перуны прадаўжаюць грымець з няўмольнай зацятасцю, як быццам бы неба раскалолася над нашым домам і абвяшчае нам блізкасць вогненнай пагібелі. Маці падыходзіць да акна, каб лепш бачыць у змроку, і з яе вуснаў роўна, выразна, спакойна падаюць словы Евангелля: «Кнігі роду Ісуса Хрыста, сына Давіда, сына Абрама. Абрам нарадзіў Ісака. А Ісак нарадзіў Якава. А Якаў нарадзіў Іуду і братоў яго...» Я слухаю гэты бясконца доўгі пералік біблейскіх імёнаў да і пасля «вавілонскага панавання» і не магу зразумець, што яно можа азначаць. Атупела задаю сабе пытанне, што агульнага маюць гэтыя ізраільскія патрыярхі з бурай, якая нас праследуе і кожную хвіліну можа прывесці да гібелі. Аднак відавочна, што яны патрэбныя, калі маці пералічвае іх імёны такім упэўненым і гучным голасам, як быццам бы хоча імі заглушыць грымоту. Але вось пералік імён заканчваецца святым Янам і Ісусам Хрыстом, і з той хвіліны, калі я пачуў гэтыя імёны, надзея ўвайшла ў маё сэрца. Ужо з усёй набожнасцю я слухаю далейшы працяг Евангелля: «Спачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Богам было Слова... І святло ў цемры свеціць, і цемра яго не агарнула... Быў чалавек пасланы ад Бога, якому імя было Ян... Ён прыйшоў на свет, каб даць сведчанне святла...»

Голас маці гучыць дзівосна моцна і ўпэўнена сярод гэтых разбушаваўшыхся стыхіяў. Здаецца, ён кідае ім смелы выклік — столькі ў яе голасе глыбокай веры. Словы Евангелля супрацьстаяць перуновай навальніцы — чыстыя, гучныя, цвёрдыя, поўныя веры ў міласць Божую, поўныя ўпэўненасці, што без Божай волі волас не ўпадзе з нашай галавы. Я слухаю матчыны малітвы з пакорнай узнёсласцю, і кожнае яе слова здаецца мне дзейсным закляццем ад варожых сіл, надзейнай абаронай ад небяспекі. Я перастаю баяцца буры і нават чуць яе грукатанне. У душы наступае суцішэнне, і словы Евангелля становяцца найважнейшымі, больш важнымі, чым гром і маланка, і пачынаюць панаваць над імі як адзіная сапраўдная рэчаіснасць. Маці трымаецца проста, сціплая і стройная, твар яе асветлены нейкім унутраным святлом, вочы ўзняты ўгару. Яна гаворыць далей: «І слова стала целам і жыло паміж намі... І бачылі мы славу яго, славу, як адзінароднага ад бацькі, поўнага ласкі і праўды...»

Ужо прагучалі з яе вуснаў апошнія фразы малітваў, вось яна хрысціцца і застаецца нейкі час засяроджанай, а я гляджу на яе з такой любоўю і не магу наглядзецца, такой яна мне здаецца мудрай і моцнай, добрай і любімай. Нейкае кранальнае хваляванне распірае мне грудзі і падступае да горла. Я адчуваю, што вельмі люблю яе за само існаванне, за кожны яе рух і погляд і за гэтую малітву, з якой мы настолькі і поўнасцю забыліся пра буру, што яна перастала пагражаць нашаму дому. Цяпер ужо не страш-

на ані выццё віхру, ані чорнае неба, якое расколваюць зігзагі вогненных маланак... І вырываецца дзіцячае сэрца да гэтай больш за ўсё любімай мамачкі, каб расказаць ёй пра гэта з радаснай шчырасцю, каб да самага дна выказаць усё больш мацнеючыя пачуцці. Але нясмелыя, нязграбныя вусны не ўмеюць адкрыць сэрца, застаюцца нямымі і халоднымі, і сардэчны парыў расплываецца бясследна ў наступных уражаннях...

А тым часам бура ўжо, па сутнасці, выдыхлася. Адплыла на ўсход за сцяну надвіслянскіх таполяў ля ўезда і адтуль бясшкодна падтрымлівае яе слабеючае рэха. Дзверы ганка расчынены насцеж, у доме ажывае рух і размовы ўголас. З прыхожай я чую, як мерна капаюць і напеўна прасочваюцца дажджавыя кроплі ў бляшаных вадасцёкавых трубах, цурчаць нейкай бясконцай фугай. Весела, хутка шумяць кроплі ў лісцях дрэў і, падаючы з дзікага вінаграду на ганак, рассыпаюцца па каменнях бруку бліскучымі вадзянымі пырскамі. Я высоўваюся на ганак, зацікаўлена разглядваю жвавыя струменьчыкі, якія, віхляючыся, плывуць па дарозе, спыняюцца і злучаюцца ў большыя лужыны. Лужыны то моршчацца хвалістымі кругамі, то зноў разгладжваюцца і адлюстроўваюць блакітныя прасветы з кожнай хвілінай усё больш лагоднага неба. На сцежцы паміж плямамі вады праходжваецца рухавая пліска і какетліва калыша доўгім хвосцікам. Яна вельмі занята сваёй інспекцыяй, як быццам бы ёй трэба ўпарадкаваць дзяцінец пасля буры. Верціхвостка зграбна праскоквае паміж лужынамі і падскокамі прабягае ўсю дарогу, а яе трапяткі хвосцік плыве за ёй і, як руль, трымае кірунак руху. Пліска адносіцца да сваёй ролі вельмі важна, не дае сябе напужаць прахожым і пасля кароткіх адлётаў зноў вяртаецца на сцежку і шпацыруе далей з апломбам і элегантнасцю. У гушчары ніжніх галін суседняй таполі заселі вераб'і і, як сварлівыя перакупшчыцы, заходзяцца бурным ціўканнем, а потым цэлай кучай падаюць на траву, мітусяцца ў траве і разлятаюцца шэрымі клубкамі. Уцякаюць на ўсход апошнія хмары, ператварыўшыся ў пасмы сівой імглы, і з-за іх пачынае праблісркваць сонца. Яно пасылае промні і запальвае залатыя іскаркі ў дажджавых кроплях, а яны падаюць з галін вязаў з паспешлівым шэлестам і стукам. Ёсць нейкая вясёлая, легкадумная забава ў гэтым зіхатлівым капанні, якое выдае сябе за дождж пасля мінуўшай буры, і гэты настрой перадаецца ўсім наўкола. Свежа, светла, радасна, хочацца жыць і радавацца жыццю. Нешта мне карціць, некуды кліча, цягне... У дзвярах з'яўляецца маці і затрымлівае на мне позірк з ласкавай паўусмешкай, а на маё пытанне дазваляе ісці на дзяцінец, але перасцерагае, каб я не забрудзіў ногі. А я зрываюся, хутка выбягаю на дарогу, брыду непрытомна па вадзе, пакідаючы глыбокія, мяккія сляды ў размоклай зямлі. Даходжу да вяза ля студні на дзяцінцы, хапаюся за ніжнія галіны і страсаю на сябе цэлую паводку бліскучых кропелькаў, цёплых і ласкавых, як матчына пяшчота.

Такой часцей за ўсё я бачу ў думках сваю маці. Бачу, як малітвай яна праганяе буру, як усю душу ўкладвае ў гэтую малітву. Такой яна была заўсёды. Не ўмела нічога рабіць напалову. Яе асаблівай рысай была палкасць, здольнасць да крайнасці напружваць думкі і волю, каб дасягнуць пастаўленай мэты. Калі яна кахала — то ўсім сэрцам, калі верыла — то ўсёй душой. Сваё нядоўгае саракапяцігадовае жыццё яна пражыла сапраўды страсна, палаючы і згараючы ў агні сваёй палкай натуры. З яе дзявочага дзённіка я бачу яе як энтузіястку, якая працягвае рукі да прыдуманых у марах пачуццяў дружбы і любові. Але, дзіўная рэч, ужо тады, нягледзячы на маладосць, яна нечакана паддаецца сум-

неннем і схільна да песімізму. Здаецца, яна мела для гэтага прычыны, пакінутая сама на сябе, амаль сірата, хоць пры жывых бацьках, пазбаўленая апекі старэйшых і вымушаная адна вывучаць цяжкую навуку жыцця. Я ведаю, што яна некага кахала, хто быў не варты яе любові, здаецца, што і ў сваёй дружбе яна таксама не мела шчасця, і гэтыя выпрабаванні напоўнілі яе горыччу і прымусілі радыкальна змяніць жыццёвыя планы. Ва ўзросце дваццаці шасці гадоў яна выйшла замуж за майго бацьку, суседа і блізкага знаёмага бацькоў. Гэта быў шлюб хутчэй па разважаннях, бо інтэлектуальны вобраз гэтага высакароднага чалавека і працавітага грэчкасея павінен быў значна разыходзіцца з рамантычным ідэалам, які пеставала амазонка з-над Свіцязі. Але хутка разважлівае замужжа пераходзіць у моцную пачуццёвую сувязь: абодвух — і мужа, і жонку звязвае сардэчная дружба і прыкладная згода, і працягваецца гэта без ніводнай хмаркі да самай смерці маці. А пасля бацька доўга не знаходзіць суцяшэння і жыве ўвесь час думкай пра так каханую і рана страчаную жонку.

Здаецца, што пасля замужжа маці знайшла той спакойны від шчасця: «цішыню ў душы, спакой без смагі жаданняў, гады без перамен...», на якое некалі не хацела згадзіцца аўтарка экзальтаванага дзённіка ў 1865 годзе. Але гэты паварот да прыстані памяркоўных пачуццяў цягнуўся нядоўга. Пасля майго нараджэння палкасць яе паводзін перамагае ізноў і знаходзіць выйсце ў мацярынстве. Любячая жонка ўсё часцей саступае месца маці, фанатычна адданай свайму дзіцяці, і гэта маці перажывае над яго калыскай хвіліны радасці і трывогі, даверу і сумнення з найвышэйшым напружаннем. Гэта пачуццёвае напружанне ўжо не зменіцца, будзе непакоіць яе да канца. Яна будзе гадаваць адзінага сына, будзе выхоўваць, вучыць, праводзіць у школу ў Вільні, дрыжаць над яго быццам бы слабым здароўем, марыць аб нейкім прыгожым будучым для яго — усё з той самай страснасцю, з тым палымяным тэмпераментам, не шкадуючы сіл і сродкаў, здароўя і жыцця.

Апісваючы фігуру маці як гаспадыню дома ў Асташыне, я быў вымушаны акрэсліць гэту яе дадуманую характарыстыку ў маладосці, каб стала зразумелым, чаму другая палова яе жыцця пайшла па шляху такой хваравітай спазматычнасці... На першым плане была ідалапаклонніцкая любоў да дзіцяці, а мужу, дому, акружэнню яна магла ўдзяляць толькі рэшту ўвагі, думкі і адданасці, тое, што ад яе заставалася. Якой жа багатай павінна была быць натура гэтай палкай жанчыны, калі гэта рэшта была яшчэ такой значнай, жывой і поўнай зместу!..

Хатняя гаспадарка, якой яна магла прысвяціць частку сваёй энергіі, была абшырнай і шматбаковай, хоць Асташын належаў да невялікіх маёнткаў вельмі сярэдняга стану заможнасці. Значная разбудова гаспадаркі адбывалася не ад лішку, а ад абавязковасці, з патрэбы. Умовы тагачаснага жыцця прымушалі да самадастатковасці амаль ва ўсіх галінах. За грошы куплялі як мага менш, а патрэбы задавальнялі дамашнімі сродкамі і запасамі. Самы сціплы памешчыцкі дом павінен быў валодаць многімі ўменнямі і змяшчаць у сабе мноства майстэрняў па вытворчасці прадуктаў харчавання і вопраткі, невялікіх, прымітыўных, разлічаных на малы маштаб, але вельмі разборлівых, што тычылася якасці выраблямых прадуктаў. Цяжка было палічыць і запомніць гэтыя самыя разнастайныя вырабы, і будзе дастаткова, калі я прыпомню некаторыя.

Адным з найважнейшых тавараў былі мясныя кансервы, па-нашаму — вяндліны, сярод якіх першае месца займалі шынкі, палядвіцы,

каўбасы і сальцісоны, не гаворачы ўжо пра языкі, каркавіны, паўгузкі, пекфляйш[1], марынаваную цяляціну, бачок і саланіну некалькіх гатункаў. З агароднінавых кансерваў — салёныя агуркі, квашаная капуста, гародніна для булёнаў, гарошак і карнішоны, з садавіны — канфіцюры, павідла, мармелады, сокі, наліўкі, пікулі, сушаная садавіна і звараная ў цукры. Асобны раздзел складалі грыбы марынаваныя і салёныя, баравікі і рыжыкі, потым сыры сушаныя і запраўленыя, белыя і зялёныя, галандскія і швейцарскія. Далей ішлі мучныя вырабы: макароны, сухарыкі, мядовыя пернікі, сушаныя абаранкі і іншае печыва ў розных відах, якое магло доўга захоўвацца і якое можна было заўсёды мець напагатове. Дома рабілі таксама бульбяны крахмал, вінны воцат, гарчыцу, каву з зярнят. Збіралі насенне з агародніны і кветак, араматычныя зёлкі, лекавыя і спецыяльныя, якія ўжываліся для таямнічай практыкі, што часам аддавала знахарствам. Прыгатаванне і захоўванне гэтых запасаў патрабавала незлічонай колькасці посуду — слоікаў, бутэлек, гарнцаў, скрыначак, балей, дзежак, — і ўсё гэта ледзьве змяшчалася ў кладовых, падвалах і свірнах. Пра гадоўлю птушак — кур, качак, індыкоў і гусей, а таксама пра хлявы я ўжо не ўспамінаю, бо яны звязваліся з мужчынскай гаспадаркай, хоць, уласна кажучы, ніколі не было вядома, хто ёй займаецца больш. Таму ў Асташыне па гэтай прычыне ішла вечная барацьба паміж жанчынамі і мужчынамі з-за зерня для гэтых птушак і з-за паблажлівых адносін да шкоды, якую яны чынілі на полі. Мужчынскі пол лічыў птушак шкоднымі рабаўнікамі і дармаедамі і па-геройску бараніў доступ да рэшткаў у гумне і свірне. Нягледзячы на гэта, слабы пол умеў выцыганіць звыш меры шляхам тонкага ашуканства ці звычайнага прысваення. Але, урэшце, гэта не абцяжарвала бязмерна бюджэт асташынскай гаспадаркі, перш за ўсё з-за таго, што гэтага бюджэту не было ўвогуле, а потым, таму што скрупулёзна лічылі толькі грошы, а з прадуктамі абыходзіліся шырокай рукой, па-панску, без усялякіх рахункаў. У рамках нашых сціплых, спартанскіх патрэбаў хапала на ўсё: хлеба і зерня не шкадавалі нікому і нічому, і па гэтай прычыне дазвалялі сабе нявінную раскошу пэўнай шчодрасці. У канцы гаспадарчых клопатаў ішлі справы адзення і пасцеляў, збірання пер'я і пуху, перапрацоўка льну і канапель, стрыжка авечак, трапанне і часанне льнянога прадзіва і воўны, прадзенне нітак на калаўротах і прасніцах, тканне на станках палатна і сукна, раскрой і шыццё, падрубліванне і мечанне.

Наш хатні промысел вызначаўся той асаблівасцю, што не меў ніякіх гандлёвых рысаў. Ён быў прызначаны толькі да ўласнага спажывання, выконваўся са стараннасцю, любоўю і веданнем, але без ценю думкі аб продажы і прыбытку, бо, нягледзячы на велізарныя запасы ўсялякага дабра, якія збіралі з году ў год, нічога з гэтага не выходзіла з дому, а спажывалася і патрэбна было на месцы. А есці было каму, бо пры нашай невялікай сям'і, якая складалася з трох асобаў, круцілася яшчэ пяць разоў па столькі дамачадцаў і частых, амаль пастаянных гасцей, якія сталаваліся і жылі, а ў кухні, буфетнай і пякарні за так званым «другім сталом» харчаваліся каля дваццаці душ чэлядзі і слуг, і прытым харчаваліся тлуста і шмат. Асабісты штаб маёй маці складаўся з эканомкі, кухаркі, дзвюх пакаёвак, гаспадыні і некалькіх дзяўчат з пякарні, даярак, птушніц і свінарак. Ну і прытым была яшчэ Юлька, мая былая нянька, з дачкой Францусяй, як памочніца, упраўляючая маці для асобных даручэнняў.

[1]Пекфляйш — салёнае альбо марынаванае мяса.



***Царква Святых Пятра і Паўла ў Валеўцы, пабудаваная ў XVII ст.*** *Здымак да 1926 г.*

Для гэтай аравы кожную пятніцу ў кухні пяклі хлеб, цёмны ржаны, з карычнева зарумяненай скарынкай. Ён прыемна пахнуў аерам, на які клалі боханы ў печ і шабельныя лісты якога пасля выпечкі прыляпляліся да спода боханаў, як зялёная інкрустацыя. А ў суботу была звычайна раздача: узважаныя буханкі з вагой, напісанай на кожнай крэйдай, раскладвалі на тапчанах пры кухні. Яны важылі больш-менш па дваццаць фунтаў, і гэта колькасць складала порцыю на тыдзень для адной асобы. Атрымаўшы хлеб, чэлядзь дэфіліравала міма ганка, трымаючы боханы пад пахай і частуючы адзін аднаго шпількамі і кухталямі — у прыступе добрага перадсвяточнага настрою. Я ахвотна ўдыхаў кіславаты пах свежавыпечанага хлеба, змешаны з вострым араматам аеру, і знаходзіў у іх нешта блізкае і сімпатычнае, з чым я адчуваў сябе аднолькава моцна зросшымся, як і з многімі іншымі дамашнімі справамі, як з голасам бацькі ці пяшчотай маці. Штодзённае сутыкненне са звычайнымі справамі нашага жыцця ўтварала такія зросты — нязначныя, падсвядомыя, але такія абавязковыя, як чыстае паветра для лёгкіх, што аблягчае дыханне.

На снеданне для слуг звычайна гатавалі ў кухні зацірку ці крупнік, забелены або засквараны, або таксама бульбянку, якую яны звалі «булёнам» — ён быў ужо толькі засквараны, гэта значыць, багата запраўлены саланінай. Гэтыя супы павінны былі быць не горшыя, калі і для майго распешчанага паднябення яны былі выключна смачныя. Я часта прыходзіў на кухню на дадатковае сняданне, вядома, не ад голаду, але дзеля забавы, і найбольш любіў бульбянку. Я еў і вылаўліваў лыжкай апетытныя карычневыя скваркі, якія густа ў ёй плавалі. Чэлядзь сядала па дзве ці тры асобы да адной вялікай місы з супам, і ўсе елі разам драўлянымі лыжкамі, гучна сёрбаючы і заядаючы шмат хлебам. Скончыўшы есці, яны выціралі вусны рукавом і клалі лыжкі на паліцу. Скваркі ў бульбянцы мелі адзін толькі недахоп: яны былі надзвычай падобныя па колеры і велічы да прусакоў, незлічоная колькасць якіх бегала па пліце і па сценах навокал. Праз гэта быў страх памыліцца, і не раз здаралася, што нейкі нязграбны ці ацяжэлы прусак губляў раўнавагу і падаў у гарнец альбо ў місу са стравай. Нікога са слуг гэта, зрэшты, не хвалявала, выкідвалі проста лыжкай на падлогу заблудзіўшага нязванага госця і елі далей, але я не мог так спакойна адносіцца да гэтых непаразуменняў і вельмі баяўся, каб замест скваркі не разгрызці прусака. І хоць няцяжка было б выгнаць іх больш частым бяленнем сцен, гэта неяк нікому не прыходзіла ў галаву. Прусакоў лічылі хатнімі жывёламі, якія мелі ў кухні адвечны сервітут і засядалі там па праву даўнасці.

Калі ў нас у доме культгалі чыстата і эстэтыка, то гэта не перашкаджала, каб ва ўсім быў лад і парадак. Варта было звярнуць увагу на практычнасць і спраўнасць, з якімі маці ўвіхалася па гаспадарцы, спраўляючыся з усімі яе галінамі. Сёння, аднак, я разумею, што ў гэтай працы было больш прымусовай звычкі, чым сапраўднай схільнасці. Вопыту яна набралася рана, вымушаная яшчэ ў Мірацічах замяніць хворую маці ці бацьку, якога вечна не было. Маладая дзяўчына не раз павінна была поўнасцю выконваць ролю гаспадыні дома ў гэтых пустых сіратлівых Мірацічах і займацца практычнымі справамі, вельмі аддаленымі ад уласцівых ёй зацікаўленняў, якія так выразна адлюстроўваліся ў яе дзённіку ад 1865 года. Яна тады мела семнаццаць гадоў і галаву, поўную мараў. Я вярнуся да іх у наступных раздзелах, калі буду пісаць пра Свіцязь і пані Абламовіч, прыяцельку маці. Пасля выхаду замуж маці мела ў Асташыне значна лягчэйшую задачу, дзякуючы дамашнім умо-

 вам свайго дзяцінства, а паколькі яна была грунтоўнай і сумленнай, то пранікласся гэтай сваёй новай роляй і іграла яе добрасумленна, але без энтузіязму. Схільнасцямі і сімпатыямі яна яшчэ знаходзілася ў сферы былых дзявочых ідэалаў, да якіх яе прыцягвалі востры розум і гібкая фантазія. У ёй абуджалі тугу больш шырокія разумовыя кругагляды, здольнасці, неразвітыя і прыгавораныя да замарожвання з-за адсутнасці адукацыі і занадта ранняга пераходу да практычнага жыцця. Нягледзячы на гэту адсутнасць, яна ведала шмат, хоць павярхоўна, бо была кемлівай, розум мела востры, памяць — выдатную. Яна рвалася да́ літаратуры, музыкі, замежных моў, разумела і цаніла вагу красамоўнага і трапнага слова. Яна мела прыроджанае пачуццё формы і стылю і слабасць да яго квяцістасці і ўпрыгожвання, мела выразныя здольнасці расказчыцы і эпістолярныя, любіла дыскусію і ўмела яе весці займальна і жыва, а ў лістах давала выхад занядбаным здольнасцям і не прапусціла ніводнага выпадку складання сажнёвых лістоў, якія грашылі, без сумнення, пустаслоўем, аднак знаходзіліся на пэўным узроўні стылю і вобразнасці. Тое самае было ў размове: сакавітыя і пластычныя азначэнні, нярэдка перабольшаныя, альбо меткія, але ніколі бледныя альбо памылковыя, прыказкі, цытаты на некалькіх мовах, параўнанні, метафары сыпаліся з яе, як з рукава. Што-небудзь можна было б сказаць крытычнага пра гэту барочную празмернасць, адно з'яўляецца дакладным: тое, што гутарыць з маёй маці было не сумна і не нудна і што субяседнік не мог скардзіцца на адсутнасць уражанняў, а павінен быў добра напружваць думку і красамоўства, каб адпавядаць субяседніцы.

Мову маці запаланілі галіцызмы, што з'яўлялася звычайнай модай, якая вынікала з галоўнай ролі, адыгрываемай французскай мовай са шкодай для роднай мовы. Замест «далягляду» яна гаварыла «гарызонт», замест «уяўлення» — «імажынацыя», замест «існавання» — «экзістэнцыя», замест «перамена» — «метамарфоза». У яе мове пастаянна чуліся такія словы, як «кантэнанс», «амбарас», «канкета»[2], «карэсы»[3], «сюрпрыза», «здэтонованы», «заафераваны», «мальтрэтованы», «консумоваць», «кажаловаць»[4], «трутыноваць»[5], — вырваныя жыўцом з французскай мовы, напэўна, яшчэ папярэднімі пакаленнямі, бо гэты ўплыў датуецца часамі Станіслава Аўгуста. У вуснах маці сустракаліся і замежныя выразы іншага паходжання, напрыклад нямецкія, як «апзыт»[6], «шліхтада»[7], «рэйтэрада», альбо лацінскія, як «трубатар хоры»[8], «з партэсу»[9] «мікстум хаос»[10], «фрукты». Гэтыя апошнія ўплывы былі значна больш раннія, чым французскія, а таксама больш паважаныя, бо сведчылі, як глыбока і арганічна некалі ўкаранілася лацінская мова ў нашым грамадстве, калі яе рэшткі дажылі да канца XIX стагоддзя ў вуснах жанчыны, якая не ведала гэтай мовы. Увогуле, стыль маёй маці быў шматколерны, пластычны і багаты, вобразнасць з меткім, крыху карыкатурным

---

[2] Канкета – падбой, аздабленне.

[3] Карэсы – пяшчоты.

[4] Кажаловаць – лашчыць.

[5] Трутыноваць – разважаць.

[6] Апзыт – развітанне.

[7] Шліхтада – паездка на санях.

[8] Trubator chori – спявак, які парушае зладжанасць хору, псуе яго гармонію *(лац.)*.

[9] З партэсу – часткі.

[10] Mixtum chaos – беспарадак *(лац.)*.

задорам, праглядвала з кожнага яе меркавання і павінна была быць вынікам не толькі прыродных здольнасцей, але і ўплываў нейкага інтэлектуальнага асяроддзя, пра якое я, аднак, ужо нічога не ведаю. Верагодна, цэлыя пакаленні, якія выраслі паміж паўстаннямі 1831 і 1863 гадоў, захавалі больш чыстай, натуральнай, нязмененай польскасці, чым тыя, што прыйшлі пазней і сутыкнуліся з усё больш узрастаючай русіфікацыяй і варварызацыяй. Асаблівыя рысы той некранутай старой пальшчызны з рыцарскім ваенна-паляўнічым каларытам багата праяўляліся ў крыху фамільярнай, але якой жа красамоўнай, сакавітай і па-мастацку жывой мове маёй маці! Яна заўсёды гаварыла вобразамі. Пра пакамечаную вопратку яна не сказала б інакш як «выглядае, як з сабачага горла», пра маруднага чалавека — «лезе, як на ра́ку», пра таго, хто мяняе намер, — «згарнуў харугву», пра хуткага — «высунуўся наперад». Пра рамантычнага чалавека яна гаварыла — «мае сэрца, як заезная карчма», пра разгубленага — «збіўся з панталыку», пра невязучага — «выйшаў, як Заблоцкі на мыле». Нездагадлівы ў яе «чуў, што звоняць, але не ведае, у якім касцёле», той, каму шанцуе, «плаваў, як пончык у масле», нясмелага і баязлівага «так у казіны рог загналі, што падкурчыў хвост» і «ўсе блохі на ім паздыхалі». Але хопіць гэтых прыкладаў моцных матчыных выказванняў, з іх можна было б скласці цэлы слоўнік жывой мовы нашых продкаў, якая так яскрава адрозніваецца ад мярцвячыны сучаснай казённай польскай мовы. Ясная рэч, што яны павінны былі паходзіць калі не з «Дзённікаў Паска», то хаця б з «Запісак Сапліцы» Рэвускага.

Я слухаў мову маці з цікавасцю, і яна мне падабалася, хоць, вядома, я не думаў тады аб гэтым, бо гэта было справай звычайнай і штодзённай. А слухаючы, я ўяўляў сабе на самай справе гэтыя заезныя корчмы, казіныя рогі, «здыхаючыя блохі» і «падкурчаныя хвасты» з усім майстэрствам і меў ад гэтага сапраўдную пацеху як ад эпізодаў цікавай аповесці, у якіх жыццё б'е крыніцай. Такім чынам я трохі вучыўся з вуснаў маці, што слова мае на мэце не толькі практычнае разуменне, але з'яўляецца самастойным творам, бескарыслівым, які можа ўздзейнічаць сваім гукавым і вобразным складам. У гэтай любові да бесперапыннага стварэння вобразаў, якія гранічаць з гратэскам, праяўлялася дынамічнасць тэмпераменту, але яна не знаходзіла належнага выйсця ў важных задачах жыцця і рассейвалася ў выніку гэтага ў дробязях... І было вельмі шкода, бо маці была прызначана для нечага лепшага, чым славеснае фехтаванне і пісанне доўгіх лістоў да радні, якія яны не заўсёды чыталі да канца. Пазбаўленыя адпаведнага прымянення, яе здольнасці змарнаваліся. Праніклівы і вытанчаны розум быў сапсаваны банальным рамантызмам, засмечаны літаратурнымі прапіснымі ісцінамі з трэціх рук, і яна ўжо не змагла выбрацца з зарасніку ўсяго гэтага на ўласную дарогу. Але маці мела таксама даволі здаровага сэнсу і рашучасці, каб закрыць беззваротна тую сваю няскладную першую частку жыцця і пачаць іншае — звычайнае, прысвечанае сям'і, дому і гаспадарцы. Аднак і тут не адпусціла яе прыродная крайнасць, якая знайшла сабе новае выражэнне ў мацярынскай любові, даведзенай да вяршынь ахвярнага забыцця.

Вялікая праўдзівасць і шляхетнасць маці даходзіла да ваяўнічага донкіхоцтва. Любая чужая крыўда балела ёй, як уласная, і з тымі, хто яе зрабіў, яна была гатова ваяваць да апошняга, не шкадуючы сябе, не аглядваючыся на наступствы, і стаяла горача і мужна на баку пакрыўджанага. А калі і зрабіла каму-небудзь прыкрасць праз паспешнасць, то, астыўшы, не вагалася самой прызнаць віну і зрабіць усё, каб паправіць

памылку. Яна была вернай і надзейнай сяброўкай, умела быць удзячнай і адорваць сваіх сяброў прыхільнасцю да самай смерці, але гэтак жа імпульсіўна ўставала на барацьбу з людзьмі злымі і несправядлівымі і без літасці кляйміла фальш і крывадушнасць. Маючы ў дзяцінстве ў сваім акружэнні больш дрэнных прыкладаў, чым добрых, бо хворая на розум бабуля не ішла ў разлік, а дзядулі заўсёды не было дома, яна рана спазнала горшыя бакі жыцця і вырасла з жарам бунту ў грудзях, з пратэстам і насмешкай на вуснах, з нянавісцю да няпраўды. Яна не паспела яшчэ вырасці сама, а ўжо павінна была сачыць за хатнім парадкам у Мірацічах, адказваць перад чужымі людзьмі за справы, якія не ад яе залежалі і перад якімі яна была бяссільная. Яна старалася быць выхавацелькай для свайго малодшага брата Тадэвуша, пушчанага бацькамі на самапас і цалкам закінутага. Яна была заўзятай настаўніцай, палкай і стараннай, палымяна красамоўнай, але, на жаль, нешчаслівай, бо разбэшчаны брацік прапускаў яе напаміны міма вушэй і рабіў сваё. Да канца жыцця яна не пазбавілася гэтай ролі апякункі ў адносінах да брата, але ніколі не змагла дасягнуць якога-небудзь выніку. Усе яе перасцярожэнні былі «гарохам аб сцяну», як яна сама любіла казаць.

Рэлігійнасць маці была шчырай і гарачай, але — ва ўсялякім разе для навакольных — крыху фармальнай. Яна магла хутчэй асудзіць грэх, чым паказаць прыгажосць дабрадзейнасці. Яна больш гаварыла пра катэхізіс, чым пра яго прымяненне ў жыцці. Жывучы сама ў згодзе з маральнасцю, яна не ўмела заахвоціць да яе іншых інакш як з дапамогай крыху сухаватага дагматызму, замест таго каб павучаць практычна, як трэба жыць, каб дасягнуць унутранай гармоніі. Яна не мела педагагічных здольнасцей, ані адпаведных ведаў і падрыхтоўкі, а занядбанае выхаванне, рамантычна раздутае, не магло навучыць яе, што дзейнасць і воля вышэйшыя за парывы пачуццёвасці і летуценнасці. У выніку гэтых супярэчнасцей праўдзівая, разумная жанчына з высокім пачуццём абавязку прадстаўляла сапраўдны ідэал чалавека няясна і недакладна і не магла намаляваць яго свайму дзіцяці. Таму яе перасцярогі таксама не выходзілі за межы тэорыі і не змаглі мяне пераканаць. Я быў да іх абыякавы, слухаў іх машынальна, як капаючы дождж, цярпліва чакаючы, што перастане. Але затое было зусім інакш, калі маці падчас урачыстага свята чытала літанію і малітвы, збіраючы вакол сябе ўвесь дом. Тады ў ёй было нешта ад урачыстасці, і каплан і я не зводзілі з яе вачэй з любоўнай пяшчотнай павагай. А больш за ўсё яна ўзрушвала мяне, калі запявала песню «Не пакідай нас» не моцным, але звонкім голасам, поўным асалоды і пакорлівага падпарадкавання. Я тады адчуваў, што яна — гэтая мая добрая мама — заслугоўвае таго, каб гаварыць з Маці Божай і быць Ёю выслуханай, і я свята верыў, што гэта споўніцца. Мне здавалася немагчымым, каб высахлі незаўважанымі гэтыя слёзы, якія з'яўляліся ў сумных вачах маці, калі з бледным тварам, узнятым угару, яна спявала так пранікнёна свае малітоўныя просьбы. Гэта «Не пакідай мяне», якое выражала асаблівы культ Святой Дзевы, абудзіла ўва мне больш рэлігійных узрушэнняў, чым увесь катэхізіс, які мне казалі вучыць на памяць.

Рэлігійныя прадпісанні маці сама захоўвала цвёрда і мяне да гэтага рана прывучала. Яна сачыла, каб я гаварыў пацеры рана і вечарам і прымаў удзел у агульнай малітве ў нядзелю і ў святы, калі мы не ехалі ў касцёл. Перад кожнай ядой бацькі хрысціліся і мяне так вучылі, а ў пятніцу і суботу скрупулёзна захоўвалі пост, не гаворачы ўжо пра адвент і Вялікі пост, калі распарадак быў яшчэ больш строгі і датычыў

трох дзён у тыдзень. Зыходзячы з маральных прынцыпаў, я часта чуў наказ: «Не рабі другому, што табе не міла», але, не маючы радні ці раўнапраўных таварышаў па гульнях, я не мог ацаніць практычнай вартасці гэтага правіла, а яго тэарэтычнае гучанне ў вуснах бацькоў здавалася мне нудным, пустым і пазбаўленым істотнага зместу. Таму я слухаў такія павучанні толькі па прымусу і з затоенай неахвотай. Ужо больш мяне пераконвалі нядзельныя набажэнствы ў касцёле ў Варончы, на якія я ездзіў з бацькамі, калі было цёпла. Прыгожай была дарога да Варончы, якая вяла ад Кайшоўкі да Дорахава ўздоўж рэчкі па грэблі, абсаджанай вольхамі. Доўгім чорным радам выцягваліся сутулаватыя, пакручаныя вольхі з вострымі бліскучымі лістамі і мачалі ў ваду нізка звешаныя галіны, на якіх сядзелі раі зялёных і гранатавых мошак. Тарфяністая высахшая зямля ўгіналася і глуха грукатала пад капытамі, бо мы ехалі нізінай, якая спускалася да прыбярэжных лугоў ракі Сэрвачы. За Дорахавам узровень падымаўся, дарога ўзбіралася на пагоркі і ў канцы хавалася ў прыгожым змешаным хвойна-лісцевым лесе з нечувана буйным покрывам з ляшчын, ягадніку і папараці. Старыя дрэвы былі ў ім крыху высечаны, але якраз дзякуючы гэтаму маладнякі буйна разрасталіся, а прагаліны паміж соснамі адкрывалі віды з прывабнай перспектыўнай глыбінёй. Дарога ўвесь час ішла пад гару — няроўная і камяністая, — таму фурман ехаў паволі, даючы ўздыхнуць коням, а я з цікавасцю прыглядаўся да лясных краявідаў. На адкрытых палянах сонечныя плямы пераліваліся смарагдавым аксамітам, цені пад дрэвамі прапітваліся гранатавым налётам, які нагадваў колер спелай слівы. Над коньмі хмарай лятали сляпні і сядалі ім на хрыбты на бяспечнай адлег-



***Драўляны двор Керсноўскіх і Шпілеўскіх у Гарадзечне, пабудаваны ў XIX ст.***
*Здымак да 1912 г.*

13. Зак. 297.

ласці ад махаючых хвастоў, коні фыркалі і пазвоньвалі вудзіламі, радыя адпачынку. Недзе ў глыбіні лесу зязюля сварылася з івалгай, і абедзве напаўнялі прастору гучнымі крыкамі, поўнымі забытай святочнай радасці. Усё было напоена нейкай спакойнай і разам з тым мяккай бесклапотнасцю, якую я не мог бы назваць інакш як святочнай, бо верыў, што ў нядзелю, калі сонечна, цёпла і ўсё каляровае, святкуюць не толькі людзі, але і ўсё, што жыве: авадні, матылі і птушкі, кветкі, дрэвы і ўся прырода. Таму я і сам паддаваўся гэтаму нядзельнаму «dolce far niente»[11] і з усёй паўнатой адчуваў яго прыгажосць у гэтым цудоўным лесе.

Выехаўшы з Дорахаўскага лесу, можна было ўбачыць дзве белыя невялікія вежы Варанчанскага касцёла, а потым усё касцельнае ўзвышша, густа запоўненае павозкамі, брычкамі і фурманкамі парафіян. Праз хвіліну мы ўваходзілі праз рызніцу ў прасвіцерскую і займалі месцы на бакавой лаўцы. Маці пагружалася ў малітву, а я, карыстаючыся гэтым, разявіўшы рот глядзеў ва ўсе бакі, больш, аднак, паглядаючы на хоры, чым у бок ксяндза і галоўнага алтара, бо на хорах быў арган, і ён мяне цікавіў больш за ўсё ва ўсім касцёле. Я ўздрыгваў, калі пачынаў іграць арган. Яго ўрачыстыя гукі, што разліваліся аграмадным рэхам, прыводзілі мяне ў баязлівае захапленне, і ўжо сапраўдным жахам напаўнялі грамавыя гукі бубнаў, у якія білі падчас уздыму. Я думаў, што гэта грозны, разгневаны Бог так выражае сваю няласку. Збавіцельнай была медная зорачка, невядома чаму яна тырчала на гары паміж трубамі аргана і чамусьці круцілася і вельмі смешна трашчала падчас самага гучнага фартысіма, ствараючы забаўны дысананс з велічнасцю музыкі. Дыханне і сапенне мяхоў, якое выразна прабівалася падчас больш ціхай мелодыі, і гэтая недарэчная зорачка, якая круцілася, смяшылі мяне і прыводзілі да граху няўважлівай, бяздумнай малітвы. Але хутка мне на дапамогу прыходзілі малітоўныя песнапенні — гімн «Святы Божа», які спяваў хорам увесь касцёл, і від маці, засяроджанай у малітоўным забыцці. Пры кожным паўтарэнні слова «Святы» спеў набіраў сілу, вырастаў, узносіўся з кожным разам усё вышэй па нябачных ступенях поўнага мальбы экстазу, а падчас прызыву «Святы Бессмяротны» ён разыходзіўся магутнай хваляй, сатрасаў скляпенні касцёла і, забіраючы ўсё пад сваю ўладу, плыў у славе сонечных промняў і кадзільнага дыму і ўзлятаў аж пад скляпенні святыні, аж да схаванага за імі вялікага, добрага Бога, які добразычліва слухаў маленне спяваючага люду... Маці спявала таксама, і яе ўзрушаны твар выражаў сакраментальную павагу і журботнае падпарадкаванне. Раз за разам яна выцірала слёзы на вачах. Я не ведаў тады, што гэта пра мяне і за мяне моліцца мая маці перад Найвышэйшым, але часам адчуваў, што падчас гэтых песнапенняў адбывалася нешта незвычайнае, што кідала мяне на калені і вучыла маліцца без кніжкі з глыбокай пашанай. Я адчуваў спазм расчуленасці і святую трывогу перад гэтым Вялікім Бессмяротным, перад якім пакорна і прасіцельна ўкленчвала ўсё, што жыло, і першая — мая маці. Гэтыя практычныя ўрокі рэлігіі лепш і даўжэй засталіся мне ў памяці, чым катэхізіс.

Маці верыла ў забабоны, як большасць тагачасных жанчын, і па прычыне слабага здароўя і пастаяннага сутыкнення з аптэкай і медыкаментамі гэтыя забабоны яна пераносіла і на справу лячэння. Часта карыстаючыся паслугамі дактароў, яна не пагарджала і «знаючымі бабамі», верыла ў «знаменне» і «сімпатычныя» сродкі і пагружалася без агіды ў гушчу забабонных практык. Пры гэтым яна змешвала медыцыну са зна-

[11] Салодкае марнаванне, бяздзейнасць *(італ.)*.

харствам, а знахарства з гамеапатыяй. Для загойвання ран яна ўжывала альяс, так нязручна разрэзаны папалам, што яго калючкі ўпіваліся ў цела, а для таго, каб спыніць кроў, — хлеб, замешаны з павуцінай, чорнай і аж кудлатай ад пылу. У прыбудоўцы ў яе была вялікая шафка, прызначаная пад аптэку, а ў ёй стосы рэцэптаў, скрыначак і пляшак з лекамі ў такой вялікай колькасці, што цяжка было ва ўсім гэтым разабрацца і толькі яна адна магла нешта знайсці ў гэтым хаосе паперы, шкла, парашкоў, вадкасцей і зёлак, збіраемых гадамі, выветраных, засохлых і перамешаных, як гарох з капустай. Жаданне лячыць пераходзіла ў разрад страснага аматарства, якому павінен быў падпарадкоўвацца ўвесь дом. Я адчуваў гэта не раз на сваёй скуры, бо мяне лячылі пастаянна з-за самай малой прычыны, і дастаткова было нейкага ґалаўнога болю ці пачырванення горла, каб мяне тут жа запакавалі ў ложак і адносіліся як да цяжка хворага. Я не мог пераносіць, калі на ноч мне націралі грудзі дрэнна пахнучым ёлкім і ліпкім казіным тлушчам, а на шыю завязвалі хустку, намыленую тоўстым слоем мыла, якая да раніцы застывала, як кара, душыла і драпала скуру на шыі і, нібы «падсядзёлак» з-пад конскага хамута, вылазіла ў мяне з-пад каўняра кашулі, цвёрдая і нерухомая. Ад «чарвякоў» мяне павінны былі засцерагчы порцыі «цытвару» альбо дзёгцю ў кроплях, якія глыталі ўнутр, ад болю ў горле ўжываліся паласканні з горкага палыну альбо берталетавай солі, якую называлі «Каліклорыкум». На шыю мне завязвалі і казалі пастаянна насіць «жылку», гэта значыць шырокую чырвоную стужку з воўны, калючую і вельмі непрыемную на дотык. Яна павінна была быць ахоўным сродкам, важным і дзейсным супраць нейкіх недамаганняў, больш дакладна якіх — не казалі, але адзіны яе вынік, які я адчуваў, было тое, што яна націрала і кусала мне шыю. Калі да гэтага я дадам кампрэсы з цыраткай, якая заўсёды была задоўгай і вылазіла бокам, гарчычнікі, якія моцна пяклі, масажнае націранне шкіпінарам і кратонавым алеем, ад якіх рабіліся пухіры на скуры, нарэшце, клізмы з гумавай помпы для клізмаў з доўгай вужападобнай трубкай, з якой вада трапляла мне на штаны і ў панчохі, а таксама рыбін тлушч і рыцыну ў капсулках з абрыдлівага, слізкага і даўкага жэлаціну, то і тады яшчэ спіс маіх тагачасных непрыемнасцей не будзе вычарпаны. Усё гэта даводзіла мяне да роспачы, абуджала гарачыя пратэсты і аблівалася не менш гарачымі слязамі, але маці была няўмольнай з той самай хвіліны, калі гаворка ішла пра маё здароўе, таму заканчвалася заўсёды тым, што гэты келіх горычы я быў вымушаны цадзіць да дна. Атмасфера забабонаў згушчалася слугамі, якія прыносілі з вясковых хат асаблівую схільнасць да ўсялякай варажбы, чараўніцтва і здымання чараў. Вялікі поспех у гэтым мела мая няня Юлька, якая не магла і кроку ступіць без чарадзейных закляццяў і прафілактычных знахарскіх сродкаў і ахвотна ўцягвала ў аркан чорнай магіі. Яна не раз варажыла мне на картах і па раскладзе вельмі брудных карт прадказвала надзвычай добрую будучыню. Яна забараняла мне пляваць на агонь, бо ад гэтага рабіліся прышчы на вуснах, і не давала абразаць валасы і пазногці ў пятніцу, бо гэта пагражала каўтуном на галаве, а было вядома, што каўтун можа суправаджацца паралічом. Калі я чаго-небудзь пужаўся, трэба было сплюнуць тры разы і пабегчы за вугал, інакш наступствы пярэпалахаў маглі быць вельмі сур'ёзныя. Амаль кожны від дзейнасці патрабаваў асцярожнасці і прыняцця пад увагу адпаведнага часу і абставін. Штосьці трэба было рабіць на маладзіку, а штосьці — у апошнюю чвэрць, а смельчакоў, якія легкадумна абыходзіліся з гэтымі



***Сядзіба ў Мірацічах.*** *Здымак да 1912 г.*

відавочнымі ісцінамі, патаемныя сілы каралі рознымі пакутлівымі праследаваннямі. Мяне яны не вельмі палохалі, бо за плячамі старэйшых я адчуваў сябе бяспечна, ведаючы, што ў выпадку чаго старэйшыя абясшкодзяць невядомыя сілы, якія ўглядаюцца ў наша жыццё і нашы ўчынкі. Але калі я заставаўся адзін, я баяўся ўсяго, бо трэба прызнаць, што дамашнія, асабліва слугі, як быццам бы пакляліся палохаць мяне, трымаць у пастаянным страху і ўвесь час выпрабоўваць маю ўражлівасць.

Вяртаюся да жаночай гаспадаркі ў Асташыне. Для мяне там заўсёды знаходзілася нешта смачнае, таму я не пазбягаў яе і прымаў удзел у рознай яе дзейнасці ў якасці памочніка, якому плацілі натурай. Зрэшты, я рабіў гэта не толькі дзеля ласавання, але і дзеля настрою. Я заўсёды быў адчувальны да эмацыянальнай тэмпературы акружэння і адразу радасна адчуваў яе павышэнне, калі нейкая падзея ці агульны занятак выклікалі ажыўленне, рух і ўвогуле нешта не штодзённае. Я любіў гэты настрой разнароднай актыўнасці, рэагаваў на яго падсвядома вясёлым тварам і шчасліва ахутваўся ім, як цёплым і мяккім плашчом. Але такі час наступаў толькі бліжэй да святаў Божага Раства, на пачатку зімы жыццё было ціхае і манатоннае. Я не любіў зімы, бо быў яшчэ занадта малы, каб мець смак да снежкаў, санак і коўзанкі, а марозныя аковы, якія сціскалі свет, прыгняталі мяне і пранізвалі пачуццём безнадзейнай скаванасці. Усё жыццё зіма была для мяне сімвалам смерці і мела прысмак паразы і банкруцтва, бо знішчала жыццё і адбірала ў яго колеры, свабоду і бесклапотнасць. Было вялікім шчасцем, што час працягласці зімы быў акрэслены зараней, і ўсе добра ведалі, што вясна ўсё зменіць да лепшага. Таму на пачатку зімы да Божага Раства ў мяне было менш за ўсё ўражанняў. Голыя дрэвы, якія цягнулі да неба ў роспачы кроны, асеннія груды, прыпарушаныя снегам, скарчанеўшыя ў цвёрдую скалістую пароду, змрочны дзень Задушных, у які вясковыя сяляне святкавалі сваё напаўпаганскае свята Дзядоў, бесперапынны гук малацілкі, які даносіўся з гумна манатонным рытмам, ранняе запальванне печаў, пра якое сведчыў кіслы смалісты пах торфу ва ўсім доме, урокі, якія займалі большую частку дня, ранняе змярканне пасля пахмурнага безнадзейнага дня, вячэрняя лямпа над абедзенным сталом, якую сустракалі весялейшым позіркам як адзіную за ўвесь дзень светлую кропку, хоць крыху каляровую, — гэта была сутнасць лістапада і снежня. Пасля лета, колеры якога было так цяжка забыць, увесь час была туга па нечым жывым, цяплейшым па тону, што б нагадвала летнюю залацістасць і прамяністасць і ўводзіла нейкую іншую ноту ў мёртвую шэра-белую пустату зімовага дня... Якая ж гэта была палёгка і радасць, калі ў садзе сярод калючай белі заснежаных галін была відаць неапалая гронка чырвонай рабіны ці яркі камяк глогу альбо я заўважаў у стайцы шэрых вераб'ёў прыгожую грудку снегіра, які весяліў вока сваёй рознакаляровасцю...

Заставалася тужлівае чаканне, як адзіны сродак ад зімовага смутку. Я рабіў сабе каляндар, які прыдумаў сам, і ў ім закрэсліваў дні, што аддзялялі нас ад Божага Раства. Я цешыўся думкай аб святочных прыемнасцях, аб ялінцы са свечкамі розных колераў, аб прыездзе радні, аб заканчэнні ўрокаў, аб прыемным шуме галасоў і беспарадку, які ідзе ў пары са святамі. Мы адзначалі тады святы паводле старога стылю[12],

[12] Стары стыль — юліянскі каляндар, які тады ўжываўся на тэрыторыі Расіі, супрацьпастаўляецца «новаму стылю» – грыгарыянскаму календару, які ўведзены ў Еўропе ў 1582 г. папам Грыгорыем XIII.

уведзенага расійскім урадам пасля паўстання 1863 года, і толькі час вясенніх сельскагаспадарчых дамоваў «на кантракты» ці дзень Святога Юрыя не падлягаў пераносу і трымаўся па-старому звыклай даты 11/23 красавіка. У гэты час аж да паўстання ў Навагрудку адбываўся вялікі штогадовы кірмаш «на кантракты», якія цягнуўся пару тыдняў і збіраў усіх навакольных памешчыкаў і сялян, а таксама купцоў і гандляроў з самых дальніх закуткоў краю. З'езд быў такі шматлюдны і пышны, абарот грошай такі значны, што на кантракты прыязджаў нават тэатр з Вільні і з вялікім поспехам даваў польскія спектаклі. Мястэчка было перапоўнена прыезджымі, жыллё ішло на вагу золата, і Навагрудак станавіўся сапраўднай сталіцай, у якой першае месца займалі польскія памешчыкі. Так было да 63-га года. У мой час навагрудскія кантракты былі ўжо толькі прайшоўшым і забытым мінулым, пра якое я чуў ад бацькі, але слаўная іх дата перажыла змест, і таму ўсе дамовы з арандатарамі і афіцыйнымі асобамі заключалі па-ранейшаму ў «святаюр'еўскі» дзень 11 красавіка, ці «на кантракты», што засталося аж да вялікай вайны 1914 года. Гэта быў польскі час, вызначаны паводле даўно ўжо скасаванага новага стылю. Па-польску святкавалі таксама сямейныя ўрачыстасці, як, напрыклад, дзень Святога Юзафа 7, а не 19 сакавіка ў нас, а ў Чамброве — імяніны цёці Карольці не 4 лістапада, а 23 кастрычніка. Іншыя польскія даты не засталіся з-за націску ўрадавага календара, таму Божае Раство наступала позна, і ўжо ад Святой Варвары 4/16 снежня цешыліся пагаворкай, што «Варвара кавалак ночы адарвала» і хутка пасля яе дзень пачне ізноў прыбываць, набліжаючы надзеі вясны.

Пра гэтае прыбыванне дня гаварылася з добразычлівым націскам і лёгкім узрушэннем у голасе, як пра справу нікому не абыякавую і ўсім добра зразумелую. Павелічэнне дня азначала перамогу над зімой, паварот да вясны, яшчэ няўлоўны, хутчэй тэарэтычны, але ўсім вядомы, нават такім малым, як я, і ўсе яго сустракаюць з сапраўдным задавальненнем, што ўжо можна будзе «пачаць чакаць» вясну. Гэта абмяркоўвалася ажыўлена, растлумачвалі пераломнае значэнне дня Святой Варвары і да гэтых абмеркаванняў дапускалі дзяцей і слуг на роўных правах, бо гэта была справа радасная, агульная, найважнейшая сялянская зімовая справа, з-за якой сярод людзей пераставала існаваць розніца ва ўзросце і (маёмасным. — *Пер.*) стане. Гэта была справа самога жыцця. Асцярожны бацька не любіў, праўда, складваць гараскопы на будучыню і замест іх гаварыў: «Калі пан Бог дазволіць дачакацца», паўтараў з недаверлівай сялянскай аглядкай, што палова зімы праходзіць толькі на пачатку лютага, бо быдла і коней трэба карміць у яслях да мая і да мая нельга выганяць іх на пашу. Зіма, гаварыў бацька, цягнецца дзвесце дзён, таму ў снежні не трэба гаварыць пра блізкую вясну, а, зрэшты, дадаваў ён, вядома, як у нас: «Да Святога Духа не здымай ка-жуха і пасля Святога Духа хадзі ў тым самым кажуху». Тым не менш, аднак, і бацька меў пэўны сантымент да дня Святой Варвары як да дня імянін цёці Басі з Садак, сваёй любімай сястры.

У нашай дамашняй кампаніі любілі гаварыць пра такія ганебна банальныя рэчы; толькі ў горадзе размова пра надвор'е лёгка становіцца банальнай і пустой, у вёсцы яна з'яўляецца істотнай і важнай тэмай. У нас таксама кожную пару года, кожную метэаралагічную з'яву абмяркоўвалі жыва і ўсе разам. Спантанна і шчыра дзяліліся думкамі, на якія яны наводзілі, бо для вясковых людзей гэта былі самыя рэальныя рэчы, справы хлеба і ўраджаю, цяпла і вільгаці, дажджу і сонца, пытанне

корму для хатніх жывёл, чакання веснавых надзей, летняй паўнаты і асенняга багацця. Вясковае дзіця разумела, што жыве не толькі пад Богам, але і пад сонцам, пад гэтым найвышэйшым Божым дарам, і што з гэтага сонца ўсё чэрпае сокі і жыццёвыя сілы, абавязана яму ўсёй радасцю, паўнатой і насычанасцю. Дзіця адразу вучылася арыентавацца ў датах календара і порах года, здымаць паказанні тэрмометра і барометра, распазнаваць надвор'е па стану неба і паводле кірунку ветра. Калі сонца заходзіла чырвона і крывава з высокім заравам, якое займала паўнеба, старыя гаварылі, што гэта на вецер, і такі прагноз адразу запаў і замацаваўся ў маёй памяці, як уласным вопытам здабыты матэрыял; калі яно брудна заходзіла за густую хмару, назаўтра прадказвалі дажджлівы дзень, і гэта таксама пераважна спраўджвалася і павялічвала суму дзіцячага вопыту. Ластаўкі ляталі высока на пагоду, а нізка — на дождж, берасцянка сіпела на слату, перапёлка сваім голасам «ідзіце жаць» запрашала да жніва, цвыркуны ў аўсе стракаталі гусцей пад восень, і кожнае жывое стварэнне сваімі паводзінамі давала поле для трапных назіранняў, пра якое было прыемна думаць і гаварыць, як пра вельмі блізкія рэчы. Непадобныя ў гэтым да мяшчан, якія не ведаюць і не разумеюць неба і паводзін жывёл, мы, вяскоўцы, жылі ў цесным і сяброўскім кантакце з прыродай. Прыклад такіх адносінаў да наваколля ішоў зверху, выхоўваў моладзь і нават дзятву, вучыў жыць запанібрата з зямлёй і небам, з хмарамі і сонцам.

Больш-менш на Масленіцу прыпадала самая звычайная і нецікавая дзейнасць, але не пазбаўленая пэўнай абраднасці, і адыгрывала немалую ролю ў жыцці вясковага двара. Я гавару пра штогадовы забой кормных свіней, выраб вяндлін, што пачыналася з такім імпэтам, каб праз некалькі тыдняў вэнджання ўсё было гатова на Вялікдзень. Пагалоўе свіней было адным з галоўных нашых харчовых прадуктаў. На кожны дзень абыходзіліся хатнімі запасамі, у той час як купляць ялавічыну ў рэзніка лічылася, як я ўжо казаў, празмернасцю, дапушчальнай толькі ў выключных выпадках. Але бараніна і цяляціна з уласнага забою былі сезоннымі рэчамі, не пастаяннымі, птушка прыядалася, і яе цярпелі толькі пры неабходнасці, бо ні адзін вясковы абед не мог абысціся без свініны ў тым ці іншым выглядзе: ці то ў выглядзе тлушчу і саланіны, скварак і бачку, ці скабкаў і марынаваных рабрынак, ці, нарэшце, у выглядзе шынкі, паляндвіцы, каркавіны, каўбас і сальцісонаў. Свініна была нашай асноўнай ежай, гадоўля свіней — адной з найважнейшых галін гаспадаркі, а ўменне рабіць смачную вяндліну, якая доўга захоўваецца, — абавязкам і гордасцю кожнай гаспадыні дома. Пры гэтым існавалі розныя больш-менш патаемныя метады і спосабы, якія трымалі ў сакрэце альбо дзяліліся з прыяцелямі, толькі калі існаваў найбольшы давер.

Хлеў у Асташыне змяшчаў некалькі дзесяткаў нерагатай жывёлы, сярод іх звычайна не менш за дзесяць вепрукоў на адкорм, якім нарошчвалі тлушч збожжам і бульбай так доўга, што яны ўжо не маглі варушыцца і вяла ляжалі ў загарадках. Тады пра іх гаварылі, што «ўжо не ўстае», і гэта было доказам належнага адкорму. Такая гатовая да забою жывёліна мела жывой вагі якіх-небудзь 15 пудоў[13] і каштавала 50 тагачасных рублёў, гэта значыць пяць фунтаў стэрлінгаў, таму продаж некалькіх вепрукоў нямала значыў у гадавым бюджэце гаспадаркі. Нягледзячы на гэта, прадавалі няшмат, бо забеспячэнне кладоўкі павінна

[13] 1 пуд — 16,3805 кг.



***Млын у Нагародавічах.*** *Здымак да 1926 г.*

было быць багатым і амаль усё захоўвалася для ўласнага спажывання. Апрача вепрукоў былі яшчэ худыя свінаматкі і падсвінкі, і яны мелі ў адрозненне ад кормных свіней назву «надворных», бо яны хадзілі свабодна па двары і ў полі. Мяне гэта назва, адарваная ад рэчаіснасці, наводзіла на думку пра каралеўскі двор з харавoдам прыгожых і бліскучых дваран і розныя іншыя вобразы дварцовасці. Але прыгажосць гэтай назвы захоўвалася нядоўга: я перастаў яе цаніць, калі зведаў расчараванне і пераканаўся, што не выпадае адшукаць якую-небудзь прыгажосць двара ў выглядзе нашага «надворнага статка» з бруднымі задамі, худымі і шчаціністымі, і з хвастамі, завязанымі пятлёй.

Разбіранне свіных тушаў адбывалася ў вузкай і цеснай гардэробнай паміж пакоем бабулі і прыбудоўкай, хоць у кухні і ў буфетнай было б значна зручней і бліжэй да падворка, дзе, пасля таго як заколюць, свіней смалілі. Але маці не хацела мець месіва і работу далёка ад сябе і дапускаць да яе чужых, прысутнасці якіх там цяжка было б пазбегнуць на працягу некалькіх дзён. Таму абсмоленыя тушы прыносілі ў гардэробную, старанна прыбраную для гэтай мэты, клалі на тапчаны і разбіралі, разразаючы доўгімі нажамі. Гэтыя хірургічныя аперацыі выконвала пераважна Юлька з дапамогай дваровай чэлядзі, вядома, пад непасрэдным кіраўніцтвам маці. Пра аналітычныя падрабязнасці справы я памаўчу, бо, зрэшты, я даволі старанна пазбягаў іх віду, але жанчыны мужна пераносілі гэту разню і нават выказвалі пэўнае задавальненне ад капання ў амаль што жывым мясе. Паветра перанасычалася салодка-моташлівым пахам крыві і вантробаў, цёплым і мярзотным, сталы і тапчаны сцякалі крывёй і тлушчам ад ляжачых на іх стосаў чырвонага мяса, белай і ружовай саланіны і сініх клубкоў кішак. Чацвертавалі, пласталі, рэзалі, перамешвалі мяса, сцэджвалі кроў, напіхвалі кішкі праз каўбасную машыну, якую круцілі ручкай, зашывалі і шнуравалі паляндвіцы, салілі, перчылі, дадавалі салетру і выконвалі мноства іншых работ, якія я ўжо і не ўспомню, і ўсё з разборам і павагай, пад уважлівым наглядам маці і пры яе непасрэдным удзеле. Стук нажоў суправаджалі размовы і смех чэлядзі, у якіх маці ўдзельнічала не без ахвоты, аднак сачыла за ходам работы і яе якасным выкананнем, для чаго патрэбны былі немалыя веды і практыка. А жанчыны, падпяразаныя акрываўленымі фартухамі, перамазаныя ў кроў і тлушч па локці, завіхаліся ў біткам набітай гардэробнай, як вядзьмаркі ў нейкай д'ябальскай бойні. Маці з беспамылковай дакладнасцю падбірала патрэбныя інгрэдыенты, якія дадавалі мясу патрэбны тэрмін захавання і смак, узважвала на бязмене перац і салетру, адмервала колькасць солі, правярала дозы іншых дадаткаў і пракалвала іголкай пухіры, якія выскоквалі на каўбасах падчас іх напіхвання. Час ад часу яна ўпаўголаса перагаворвалася з Юлькай пра тую ці іншую рэч і зноў вярталася да нагляду. Са слугамі яна абыходзілася мякка і па-сяброўску, удавалася з імі ў вясёлыя размовы, але захоўвала пры гэтым пэўную дыстанцыю, якая абавязвала да павагі. Яна ахвотна давала паблажку слугам у напружаны час, бо, калі збіралася шмат людзей і яны пры гэтым абавязкова спяшаліся, дысцыпліна сама сабой слабела і дом кіпеў ад руху, бегатні і перакліканняў. Рабіўся невыказны гвалт і апаноўваў усё, ні адзін абед не адбываўся своечасова, ні адна страва не падавалася з кухні гарачай, як належала, ні адзін наведвальнік у прыхожай не мог дачакацца вырашэння пытання, а ўвечары самавар дарэмна шыпеў і клубіўся парам, а ў канцы змаўкаў і сумна астываў. Пазней за дзесятую гадзіну працу перапынялі, не чуючы ўжо пад сабой

 ног, і ледзь дапаўзалі да ложка, каб заснуць каменным стомленым сном. Мне, вядома, казалі класціся спаць раней, але пасля не заганялі ў ложак, я адчуваў сябе ў гэтым акружэнні выдатна і добра праводзіў час, любіў нештодзённую размову, бязладдзе і імправізацыі.

Праз некалькі «судных» дзён слабела рэзніцкая страсць у гардэробнай і прылягаючых пакоях, і цэлыя ахапкі гатовых вяндлін вандравалі на плячах слуг да «залкі» ў канцы саду, каб павіснуць там для вэнджання. Я ўспамінаю, што ў той залцы размяшчаліся адна над адной кузня і вяндлярня, а галерэйка на другім паверсе была ўлетку маім любімым пунктам назірання за заходам сонца. Вэнджаннем займаўся вартаўнік Андрэй, які падтрымліваў і падкладваў агонь з сырых зялёных галін, што давалі шмат дыму. З гэтай мэтай звозілі сасновыя галіны і кідалі іх кучамі каля вяндлярні, наглядаючы, каб хапала таксама галінак ядлоўцу, якія надавалі вяндлінам духмянасць. У сакавіку, калі з адкрытых месцаў ужо сыходзіў снег і толькі абыякава ляжаў у зарасніку, а зямля на ўзгорках пачынала падсыхаць, мне дазвалялі часам пайсці да вяндлярні, і яна ўжо здалёк вабіла белымі воблакамі дыму, якія клубіліся ўгару або слаліся па парудзелай леташняй мураве. Воблакі дыму плылі хвалямі, закручваліся і завіваліся спіралямі, чапляючыся за цёмную сетку голых галін, яшчэ мёртвых і сухіх, як карыца. Дым даносіўся здаля, прыемна пахнуў ядлоўцам, які потым распазнаваўся ў велікодным пачастунку, але пры набліжэнні да чорнага квадрата адчыненых дзвярэй вяндлярні ён станавіўся кусачым і яго цяжка было вытрымаць. Цёмны сілуэт вартаўніка, які папраўляў агонь унутры залкі, то з'яўляўся з воблакаў дыму, то тануў у іх і знікаў з вачэй, як фантастычная з'ява з соннай мроі; пад рухамі качаргі агонь выбухваў чырвонымі языкамі і зноў згасаў, і тады над агнём клубіліся сувоі жаўтаватага і сіняватага дыму, якія падхопліваў вецер, кідаў на прылягаючыя кусты і расцярушваў. Але, распарушаныя, клубы дыму чапляліся за галінкі і кроны і праз хвіліну сядзелі на іх, як замёрзлыя снежныя кветкі, светлыя і радасна прывабныя. На двары голасна спявалі пеўні, разграбаючы нагамі грудкі гною, і склікалі паслухмяных прыдворных фрэйлін — курэй; дым круціў у носе і забаўляў вочы сваім хуткім палётам з подыхам ветру, сонца ледзь прасвечвала праз грады бледнажоўтых аблокаў, падобных на кіслае малако, і гэта перадвясенняя прэлюдыя з панікшымі фарбамі і скупымі водгаласамі абуджанага жыцця мела мяккую прыгажосць, ледзь адчувальную, але бязмерна прыцягальную: яна была першым вестуном вясны, пра якую я марыў і чакаў бясконца доўгімі зімовымі вечарамі. Хвалі аблокаў дыму нагадвалі веснавое неба з хмарамі, іх гналі парывы ветру, а задорная пабудка пеўня рабіла з яго сапраўднага герольда вясенняй «добрай навіны». Ён стаяў горда напружаны, па-рыцарску задзірысты, высока трапятаў крыламі, узнімаў галаву і раз за разам з вялікай асалодай выспеўваў сваё «кукарэку», як бы кідаў пераможны выклік цёмным зімовым сілам, ужо бяссільным і перхаючым перад прыбліжэннем сонца. Ён быў сапраўды ўвасабленнем перамогі святла над цемрай, жыцця над смерцю, абвяшчаў аб гэтым цудоўным вясеннім пераломе, які павінен быў хутка надысці, асвяціць і абагрэць, абрадаваць і ашчасліваць увесь свет. Ён кідаў свой трыумфальны кліч маладога жыцця, і яго голас весела разносіўся ў свежым сакавіцкім паветры і будзіў навокал гучнае рэха, поўнае бадзёрай надзеі.

Ніякія салаўіныя спевы не прыводзілі мяне ў такое захапленне, як гэты крыклівы і звычайны пеўневы спеў у першыя дні вясны. Калі я яго сабе прыпамінаю і ўяўляю, адчуваю падступаючую хвалю аграмад-

нага шчасця — такога чыстага, такога анёльска-высокага і ўзнёслага, якога я ніколі не ведаў потым. З ім звязаны мае самыя раннія ўзрушэнні, глыбокія і сардэчныя, памяць доўгіх дзён, запоўненых чаканнем гэтай перамены. А пачыналі яе імяніны мамы, якія прыпадалі якраз на гэты час. Дзень Святога Юзафа, як заступніка, прыпадаў на 19 сакавіка, бо так абавязваў расійскі каляндар, а ў нас было прынята святкаваць імяніны з усёй урачыстасцю «па-польску» 7 сакавіка, як гэта было ад незапамятных часоў, а потым яшчэ дадаткова другі раз 19-га, бо заўсёды знаходзіўся нехта, хто спазняўся і віншаваў у гэты дзень. Таму імяніны мамы былі «падвойныя», як святы ў Варшаве, і мне здавалася абсалютна слушным, што такая важная ўрачыстасць святкуецца два разы. Асаблівасцю было тое, што імянін бацькі ў Асташыне не святкавалі ўвогуле. Яны, праўда, прыпадалі на 14 красавіка — часта на святочны тыдзень, але не гэта супадзенне было галоўнай прычынай занядбання, прычына знаходзілася ў характары бацькі і ў яго надзвычайнай сціпласці і нясмеласці. Ён не любіў ніякай помпы, калі гаворка ішла пра яго, і хацеў адсунуцца ў цень, каб займаць сваёй асобай як найменш месца. Ён не хацеў святкаваць сваіх імянін, хоць вельмі ўрачыста ўшаноўваў імяніны мамы, прывозячы ёй нязменна флакон дарагіх парыжскіх духоў з Мінска. Духі мелі блакітную ўпакоўку з надпісам «Oriza-lys» і выклікалі ў мяне нямое захапленне. Бацька змог нас так прызвычаіць да сваёй стрыманасці, што пра яго імяніны ўжо не было размовы і дзень 14 красавіка праходзіў незаўважна.

Я хутка навучыўся лічыць маміны імяніны брамай, праз якую да нас прыходзіла вясна з усімі сваімі дарамі. Дзякуючы гэтаму, дзень Святога Юзафа набыў для мяне большую прыцягальную сілу і стаў самай важнай датай года ў маім дзіцячым жыцці. Мы ўжо загадзя рыхтавалі віншаванні, так званыя «лауркі» — віншавальныя лісты, упрыгожаныя малюнкамі, і гэта па ініцыятыве і пад наглядам пана Лапушынскага — знаўцы канцылярскіх і пісьмовых спраў. Спецыяльная папера для лістоў, аздобленая карункавым берагам, з пазалочаным краем, з надрукаванымі віньеткамі і каляровай квяцістай наклейкай куплялася загадзя ў венгра і захоўвалася ў сакрэце на такі выпадак. На віншавальным лісце мы старанна выпісвалі нейкае вершаванае віншаванне, прыдуманае панам Лапушынскім, — халоднае і надзьмутае, пры гэтым уважліва асцерагаючыся «жыдоў», якія былі маім кашмарам. Яны прыходзілі самі, як на злосць, бо мае пальцы мелі дзіўную цягу да чарніла. Яны тут жа афарбоўваліся ў той самы колер, які быў у чарніліцы, і пакідалі сляды на паперы. А часам і чарніліца не хацела ўтрымліваць раўнавагу, нахілялася і перакульвалася, няпрошаная, заліваючы старанна выпісаныя каракулі. Заплямленыя чарніламі пальцы былі маёй пастаяннай рысай і рана прадвызначылі мяне як пачынаючага літаратара.

Калі прыходзіў дзень Святога Юзафа, я вітаў яго з немалым пачуццём, але ў гэтым пачуцці быў і элемент хвалявання, бо трэба было пачынаць з афіцыйнага віншавання, а я такіх «выступленняў» страшэнна саромеўся і шмат аддаў бы, каб пазбегнуць гэтага «клопату»... І адначасова прыхільнасць падштурхоўвала мяне да маці ў гэты доўгачаканы дзень: расчырванелы і дрыжачы, я з нецярплівасцю чакаў, каб, нарэшце, ужо адбыць абавязковую павіннасць і потым чым хутчэй прытуліцца да маміных рук і каленяў проста і звычайна, як я рабіў гэта штодня, і вачамі расказаць ёй усё, што я меў на сэрцы і чаго не маглі расказаць вусны. А калі я адчуваў на галаве яе руку, адразу праходзіла пачуццё прымусу і заставалася толькі сардэчная расчуле-



***Бярозавая алея ў Отмыце, якая вядзе да двара***. *Здымак да 1938 г.*

насць, якая потым асвятляла ўвесь гэты дзень імянінаў нейкім узвышаным каларытам.

У такія дні я асабліва любіў прыглядацца да высокай зграбнай фігуры маці і яе худога бледнага твару з добрым і часта сумным позіркам. На зграбнай галаве яна насіла карункавы чорны ўбор, цёмныя валасы зачэсвала з выразным раздзяленнем на два бакі, і ў гэтай прастаце прычоскі была нейкая суровая элегантнасць. Рухі яе былі спрытныя і рашучыя, хада — лёгкая і плаўная, хоць апраналася яна, згодна з модай, шырока і са складкамі, з мноствам фальбонак, уставак і іншых аздабляючых дапаўненняў. Святочныя сукенкі насілі на турнюры[14], які быў апошнім успамінам аб крыналінах, ад якіх не так даўно адмовіліся. Такая сукенка павінна была абавязкова быць «матэрыяльнай», гэта значыць, шаўковай, з дарагой каляровай цёмнай ці чорнай тканіны і багата ўпрыгожанай камянямі, бліскучымі бусінкамі з гагата, рушамі, і як там яшчэ называлі гэтыя розныя кравецкія дамскія дзівацтвы. Красамоўны стыль канца эпохі вельмі ўскладняў жаночы строй і надаваў яму прэтэнцыёзны і перагружаны выгляд, трэба было мець шмат асабістага густу, каб змякчыць перабольшаныя формы гармоніяй фарбаў. Але затое сукенкі мелі ўрачысты выгляд, поўны годнасці, і маці ў святочным уборы выглядала як каралева ў сваіх уладаннях. Яна падабалася мне надзвычайна, бо нагадвала матэйкаўскіх герояў з майго любімага альбома.

Неяк зіма была суровая і доўгая, і вясна прыйшла пасля яе раптоўна на самыя імяніны мамы і ўпрыгожыла іх сваёй сціплай, далікатна адцененай красой такім чынам, што гэта назаўсёды засталося ў маёй памяці. Я хачу расказаць пра гэты момант, бо ён запаў на самае дно маіх пачуццяў і быў для мяне сапраўдным адкрыццём. Я адчуў тады цудоўны пах вясны, які немагчыма апісаць, яе першае ажыўляючае дыханне, і ад гэтага паху ў мяне на ўсё жыццё закружылася галава. Але так пахла толькі тая адзіная вясна і толькі ў той адзіны благаславёны дзень. Потым ужо ніколі больш. Потым кожны год жылося толькі ўзнаўленнем таго адзінага чароўнага успаміну...

Я быў вельмі ўразлівы на пахі, адрозніваў іх беспамылкова і класіфікаваў па шкале з многімі адценнямі. Розныя найглыбейшыя перажыванні злучаліся ў маёй памяці з пахамі, якія іх суправаджалі, і набывалі ад гэтага яшчэ большую выразнасць і лепш запаміналіся. З месяца ў месяц, з года ў год паўставаў няпісаны дзённік жыцця, ілюстраваны гамай разнастайных водараў, і яны так цесна атаясамліваліся з падзеямі, што адно напаміналa другое, і ўслед за пахам фантазія малявала сцэнарый злучанага з ім перажывання са здзіўляючай дакладнасцю. Я свядома меў у галаве градацыю пахаў, якія датычылі пораў года, спраў і хатніх работ, асобаў, пакояў і будынкаў, словам, пахі, якія датычылі прадметаў, што некалі аказалі ўздзеянне на маю фантазію, і я адчуваў іх самую тонкую розніцу. Так, напрыклад, пах каменнага вугалю азначаў Варшаву, бо там я першы раз адчуў гэты чужы і абсалютна незнаёмы мне пах, пах чабору звязваўся ў маёй галаве з самотнымі летнімі марамі ў нашым садзе, пах карболкі і каўчуку — з зімовай хваробай суседа пана Хенрыка Войны, які так раптоўна занямог, што не змог вярнуцца дадому і вымушаны быў застацца ў нас аж да выздараўлення. Бацьку характарызаваў пах скураной курткі і тытуню, а маці — аптэчных лякарстваў. У садзе былі розныя травы, зёлкі і кветкі, якія размаўлялі са мной

[14] Турнюр — падушачка з тылу жаночай спадніцы, модная ў другой палове XIX ст.

мовай свайго водару такімі рознымі спосабамі, як быццам бы гэта былі склады і выразы чалавечай мовы. Я заплюшчваў вочы, паддаваўся ўражанню, наталяўся пахамі, як музыкай, і цешыўся фантазіямі, якія яны мне навявалі. Я тады не ведаў, што гэта экстаз, аднак не раз яму паддаваўся, бо нельга было інакш называць тую канцэнтрацыю пачуццяў і ўспрыняцця, тую адарванасць ад рэчаіснасці і напружанне волі, каб выклікаць нейкае даўно зведанае ўражанне і нацешыцца яго ўваскрэшаным дзеяннем. Моцна скарачаючы, я мог бы сказаць, што дзённік усяго майго жыцця складаецца з вязанкі пахаў. І на чале іх знаходзіцца той неапісальна прыгожы вясенні пах з майго ранняга дзяцінства, які я хацеў бы паспрабаваць тут узнавіць.

Была суровая, цяжкая зіма, і на працягу некалькіх месяцаў мне не дазвалялі выходзіць з дому. Мяне трымалі пад замком у зачыненых душных пакоях, я забыўся пра Божы свет і прызвычаіўся да гэтых крыху турэмных умоваў, якія я ўжо лічыў нармальнымі. Але ў сакавіку зіма раптам памякчэла і прыйшла нечаканая вясенняя адліга. Снег прагнала на працягу некалькіх дзён, зачарнелі прагаліны аголенай зямлі, бледнае сонца пачало прыграваць з нейкай лагоднай нясмеласцю, і дома прызналі, што можна выпусціць мяне на дзяцінец. Мне абвязалі галаву хусткай на моцны вузел, апранулі ў розныя шчыльна зашпіленыя цёплыя рэчы і адчынілі перада мной зашклёныя дзверы ганка, якія бадзёра прывіталі мяне знаёмым скрыпам завесаў і звонам шыбаў. Я выбег на брук перад ганкам, а з яго на дарогу, і раптам мне зрабілася так дзіўна, што я спыніўся як укапаны і ў ашаламленні не мог зрушыцца з месца. Мяне ўдарыла хваля паху, якая плыла разам са свавольным настойлівым ветрам, яна прыкавала мяне да месца і асляпіла, як покліч самага дарагога голасу, як усмешка самага любімага твару. Адкуль гэта да мяне прыйшло? Наўкола не было яшчэ не толькі кветак, але нават травы, зямля была чорная і голая, пакрытая плесняй і рудзізной, дрэвы стаялі без лісцяў з пупышкамі, яшчэ амярцвелымі пасля зімовай няволі. Што мне тады так цудоўна запахла? Можа, вільготная зямля, поўная маладых абяцанняў, можа, лятучы вецер, што шумеў у кронах таполяў аб вясеннім абнаўленні? Я не ведаю, але ўражанне было магутнае, аграмаднае, ні з чым не параўнальнае. Паветра наплывала пахучымі струменямі, спявала ў вушах, лашчыла твар, адзывалася ў сэрцы паспешлівым бубнам, навявала думкі, дзівосна прыгожыя ў сваёй музычнай неаформленасці, думкі, якія звінелі галасамі жаваранкаў і чаек, што плылі разам з гуляючай хваляй ветру і ўжо пачыналі песенную варту над загонамі адталай раллі, над разлівамі затопленых прастораў. Паветра было перанасычана няўлоўным пахам церпкай свежасці, поўным ажыўшых абяцанняў і ўсміхаючыхся надзей. Яно несла запаведзь уваскрашэння, схаваную ў павеве ветру, зачараваную ў слабым водары зямлі і даючых парасткі траў. Солодка вабіла да сябе ў сонечную даль, праймала дрыжыкамі захаплення, акрыляла да самых смелых узлётаў у нязведаную дагэтуль краіну мараў...

Гэта гуляючая хваля веснавога віхру была музыкай маіх заручын з зямлёй. Я доўга стаяў нерухомы, п'ючы вуснамі і ноздрамі вясну. Віхар гуляў у верхавінах таполяў, якія выцягвалі да сонца рукі-вехі, пеўні спявалі галасістыя паведамленні, падобныя на воўну белыя хмаркі палахліва праляталі па бірузовым небе, а з захаду ад разліўшыхся над ракой лугоў наплывалі ўсё новыя хвалі віхру, гучныя, раскалыханыя, і неслі ўсяму жывому шчаслівую навіну...

Але пасля такога прыгравання вясна не адразу ўступала ў свае правы. Нейкі час яшчэназіраліся ваганні надвор'я і прадаўжалася змаганне

поўначы з поўднем, вяртанне марозу і снегу, праўда, недаўгавечнае, і дарослыя не звярталі на гэта ўвагі, але яно праймала дзіця смуткам і расчараваннем. Я з трывогай глядзеў на гурбы зорачак снегу, якія занава засцілалі дзяцінец белым пакрывалам, і кожная зорачка, якая тулілася да зямлі, замарожвала і нявечыла частку маіх вясенніх радасцяў. Даведзены да роспачы лютай настойлівасцю зімы, я пераставаў верыць у магчымасць перамены і перажываў у душы сапраўдную драму. Але хутка пераконваўся, што гэта былі толькі мімалётныя пахаладанні, якія саступалі перад цёплым заходнім ветрам. Ён то праганяў сьаткі зрушаных з месца хмараў, прыцямняў ясны дзень і сыпаў вострым дробным снегам, то ізноў чыста вымятаў неба, адкрываў блакітныя прасторы і даваў магчымасць сонцу ласкава свяціць і міласэрна абаграваць. Віхар быў падобны на старога дзядулю — запальчывага, гарачага, але па сваёй сутнасці паважнага: ён сціскаўся, бурчаў, церабіў чубы таполяў, трапаў за валасы кудлатыя бярозы, рабіў наўкола такі пякельны гармідар, як быццам бы праз хвіліну павінен быў усё зваліць, знесці і сцерці ў парашок, але гэта было толькі для віду, на самай справе ён сушыў і абаграваў, разганяў хмары, дэманстраваў сонечную яснасць і весяліў душу. Я не баяўся размашыстага дзядулю, хоць ён быў такі запальчывы і гняўлівы. Наадварот, я ва ўвесь рот усміхаўся яго гучным учынкам, калі пераканаўся, наколькі яны прыхільныя да маіх вясенніх спадзяванняў. Я любіў пабегчы насустрач шумнаму ветру, даць яго тугім крылатым рукам схапіць сябе і адчуць, як яны ахутваюць мяне, падхопліваюць, як міма вушэй хутка пралятаюць яго шумныя парывы, як раскідваюць мае валасы і сцёбаюць па твары, цёплыя і нечаканыя, пяшчотныя і прагныя. Я любіў слухаць гадзінамі размову ветру з нашымі таполямі, шырокія патрапаныя сілуэты якіх загароджвалі паўнеба і абступалі вакол дзяцінца грамадай старых веліканаў з выцягнутымі ўверх рукамі. Пад напорам ветру нахіляліся іх пальчатыя кроны, але высакаствольныя торсы саманадзейна мераліся сілай са штурмуючай навалай, толькі часам рыпелі і ціха паенквалі, і іх скарга ўпляталася ў бесперапынны шум крон і расплывалася ў віхурным громе знікаючым падгалоскам. Усё заглушала вясенняя віхурная моц, якая непадзельна ўладарыла ў прасторы і гнала наперад у радасным шаленстве, аж зямля вохкала пад напорам магутнага павеву, аж кусты клаліся пакорна, калі ён пралятаў. Але гэта падпарадкаванне было ахвотным і добраахвотным, салодкай была бязвольнасць зямлі пад ціскам яго ажыўшага дыхання. А дыханне было, як у велікана: грымучая бура з перуном шумела і гучала, як раз'юшаны прыліў марской хвалі, разрывала і тузала паветра. І абвяшчала пераможную песню абуджанага жыцця раскаванай зямлі, вольных прастораў, і страфы гэтай песні западалі ў дзіцячае сэрца, насялялі і афарбоўвалі растучую фантазію і дазвалялі адчуць наперад і зразумець, якім цудоўным Божым дарам з'яўляецца жыццё!..

Вялікдзень у нас часцей за ўсё бываў даволі позна, бо, паводле расійскага календара, выпадаў часам нават у канцы красавіка, калі сад ужо знізу зелянеў травой і кустамі, а дрэвы пачыналі распушвацца распусціўшыміся пупышкамі. Навязаны нам чужы стары стыль меў адну тую вартасць, што ператвараў позні Вялікдзень у сапраўднае свята вясны. Таму Велікодныя святы былі для мяне сянямі летняга раю з усёй яго прывабнасцю. Я любіў гэтыя святы больш за ўсе астатнія, звычайна яны прыносілі першыя кветкі, але ў нас гэта былі не падснежнікі, якія чамусьці ў садзе не раслі, а фіялкі. Іх было мноства на схілах каля сліўняка, а расцвітаць яны пачыналі рана, яшчэ сярод парудзелай мінула-

годняй травы, і было гэта тым мілей, што было так нечакана. Рваць фіялкі было маёй любімай вясенняй забавай, і калі набіраў шмат, я прыносіў іх маці і ставіў на яе туалетным століку ў прыбудоўцы. Але часта я перабіраў меру ў гэтай забаве, стараючыся прагна пазрываць усе кветкі, колькі іх там ні расло, і рабіў гэта з нейкай мне самому незразумелай страсцю. Альбо заглядваўся на іх каляровае праблісканне ў мёртвай траве і вёў з імі размовы «ў чацвёра вачэй», бо мне здавалася, што ліловыя плямкі глядзяць на мяне з травы, як дураслівыя дзіцячыя зрэнкі, і пасылаюць мне шматзначныя позіркі. Навокал было яшчэ бясколерна і шэра, засумаваўшы па колеры, вочы дарэмна шукалі нейкай жывейшай ноты, каб абаперціся на яе і развесяліцца яе выглядам, і ў гэтай манатоннасці толькі фіялкі стваралі каляровыя кропкі прыцягнення, нябачныя здалёк, але тым больш радасныя, калі іх адкрываеш пры набліжэнні. Таму я зноў пачынаў рваць іх без памяці, удыхаючы іх водар і стараючыся адшукаць у ім той незабыты подых першага веснавога ветру. Фіялкі, схаваныя ў траве, віхар, што гуляе ў развілінах таполяў, і паветра, якое пахла ветрам і зямлёй, стваралі вясеннюю сімфонію, рэха якой гучала мне ўсё жыццё і ў яго дрэнныя часіны было для мяне не раз радасцю і супакаеннем.

Але якімі ж вялікімі вясёлымі крокамі набліжаўся Вялікдзень! Ужо так цёпла, што дысцыпліна зачыняць уваходныя дзверы палягчэла, і яны не раз застаюцца напаўадчыненымі. Я бегаю праз іх свабодна на дзяцінец, пра хустку на галаве ўжо няма размовы, і нават палітко — у руках мамы, якая перастае мяне праследаваць. Скончылася зімовая няволя, цёпла, светла, можна бегаць па садзе і па ўсім двары колькі душа захоча. А беганне — гэта такое шчасце! Беганне крыху падобна на мае сны пра лятанне ў паветры: адчуваю ўсёй сваёй сутнасцю цудоўную акрыленую лёгкасць, адчуваю, як ахоплівае радасць і выбухае нястрыманым дзіцячым смехам... Надыходзіць Перадвелікодны Тыдзень і выклікае ўзрушэнне ва ўсім Асташыне. Усе бегаюць туды-сюды, голасна крычаць, як у лесе, ледзьве могуць трымацца на нагах, напрацаваныя, узнёслыя, і ўсміхаюцца, нягледзячы на стому. Паміж залкай, кладовай і свірнам усталявалася непарыўная працэсія ідучых і вяртаючыхся, прыносячых і адносячых. Развейваюцца па ветры апошнія клубы ядлоўцавага дыму над вяндлярняй, а з яе адчыненых дзвярэй з'яўляюцца груды вэнджанага мяса, якое кладуць на дошкі і нясуць у склады. У гэтым паходзе ёсць нешта абрадавае, што прыцягвае выпадковых гледачоў: яны далучаюцца да яго і крочаць з зацікаўленай павагай, паглядваючы, як нясецца «дабро», харчаванне, прадмет доўгіх і працавітых зімовых старанняў, каб мець з чым сустрэць свята вясны і Уваскрэсення. Духмяна пахнуць ядлоўцам акруглыя колеру чырвонага дрэва каўбасы і сальцісоны, пузатыя шынкі і абкручаныя шпагатам паляндвіцы і каркавіны. Маці прымае вяндліны паводле рэестру, сарціруе і сочыць за тым, каб іх адпаведна паклалі. Аказваецца, што «людскія» каўбасы перамяшаліся з іншымі і трэба іх аддзяліць і перакласці. Прыметнік «людскія» ў адносінах да каўбас гучыць для маёй растрапанай галавы крыху па-канібальску, таму па дурасці я задаю пытанне, ці былі гэтыя каўбасы зроблены з людскога мяса, што выклікае агульны выбух смеху і супакойваючае растлумачэнне, што каўбасы з сапраўднай свініны і адрозніваюцца ад іншых толькі апошнім гатункам мяса, а назва паходзіць ад таго, што яны прызначаны для «людзей», гэта значыць для нашай чэлядзі. Я прымаю гэта тлумачэнне рассеяна, бо ў гэты час ужо спрабую садраць скуру з сальцісону, якая мае

залацісты колер, амаль празрыстая і пахне надзвычай смачна. Але і дзецям не дазваляецца парушаць пост у Перадвелікодны Тыдзень, і з каштаваннем прысмакаў трэба пачакаць аж да нядзелі. Таму кожны з наступных дзён я буду падвяргацца спакусе паласавацца і не заўсёды змагу перамагчы яе, нягледзячы на малітвы і напаміны, якія штодня прыводзіла маці. Вясенняе ажыўленне ва ўсім двары і шумныя клопаты ў доме каля свянцонага дзіўна кантрастуюць сваім настроем са звычаем гэтага збавіцельнага назірання Божай мукі. Гэта для мяне прымус, які цяжка вынесці, бо душа рвецца ў сад, да сонца, руху і жыцця. Але маці знаходзіць штодня час, нягледзячы на мітусню без памяці, каб сабраць нас на агульную малітву. І калі прыходзіць Вялікі Чацвер і набліжаецца час Крыжовай Пакуты, нават мае легкадумныя забавы ўціхамірваюцца, становяцца больш паважнымі і дадаюць адказнасці моманту, хоць не без частых адступленняў. Маці чытае раздзел на сённяшні дзень голасам, як заўсёды моцным і ўрачыста-пранікнёным. За акном вецер стукае ў шыбу пакручастымі пабегамі вінаграду, якія, як фіранкі, звешваюцца зверху, залаціста-палевай мазаікай кладуцца на мураву сонечныя блікі, якія гаснуць ад наплыўшых завіхраных хмарак, за жывёльным дваром таполі шумяць паднябесныя гімны вясенняй удзячнасці, каля пякарні певень выкрыквае сваё «кукарэку» так звонка і весела, як быццам бы склікае ўсіх на нейкую шалёную пацеху, і гэта радасць плыве з ветрам і звоніць у шыбы. Але нельга дазваляць гэтым спакусам зводзіць сябе, трэба зрабіць над сабой намаганне, перанесціся ў думках да Святой Зямлі, засяродзіцца на пакутах Збавіцеля і па чарзе абыходзіць іх месцы прыпынку ад Аліўкавай гары да Галгофы... Ой, як гэта цяжка, калі за акном усё шуміць, спявае і свеціць... Але вось мама скончыла, перахрысцілася, спяшаючы выходзіць у прыхожую, і ўжо адтуль я чую голас Алесі з пякарні, якая просіць паратунку: «Панечка, скарэй проша ісць, бо ўсё папсуецца».



14. Зак. 297.

***Застылае люстэрка.*** *Здымак да 1912 г.*

Ну, і маці ляціць, бо са свянцонымі бабамі няма жартаў. Гэта сорт капрызны, нялёгка яго задобрыць. Бабы, як тыя бабы, маюць сотні нараваў, строяць капрызы і самі не ведаюць, што хочуць. То ім захаладна і яны патрабуюць цяплічнай тэмпературы, аж да ўкрывання пярынамі, то ім зашумна, яны патрабуюць спакою і прымушаюць людзей хадзіць на пальчыках, размаўляць шэптам, як ля ложка хворага. Інакш яны бунтуюць і робяць злосныя сюрпрызы: сядзяць у каструлі каменем, не хочуць расці і, як пагарда ўсяму дому, запякаюцца ў сваім супраціве непрыгожым закальцам. Выпечка велікоднага печыва — увогуле цяжкае і адказнае майстэрства. Маці ўкладала ў яго шмат энергіі, намаганняў і ведання, і трэба было добра папрацаваць, пасля чаго печыва пойдзе на стол, упрыгожанае палівай і марцыпанамі. Усё, што жыве ў доме, ёй дапамагае: бегае, крычыць, падганяе, прыносіць, адносіць, наглядае і каштуе, крытыкуе і хваліць. Падзея важная, штогодная, амаль эпахальная, моцна закрануты гонар дому: гаворка ідзе аб тым, каб печыва ўдалося бездакорна, каб было ўсіх відаў, прыгожае і смачнае, не горш, чым у суседзяў.

А трэба ведаць, што велікоднае печыва дзеліцца на тры асноўныя віды: бабкі, мазуркі і торты, а апошнія ізноў маюць столькі відаў, колькі пяску ў моры. Мужчыны не ведаюць гэтых тонкасцяў, і толькі востры жаночы розум можа іх ахапіць і ацаніць належным чынам. Бабкі бываюць шафранавыя, ванільныя, хлебныя і пекцінавыя. Гэтыя апошнія патрабуюць неймавернай колькасці жаўткоў, а калі яны падыходзяць, нельга набліжацца да печы нікому, і асабліва мужчынам, якія па натуры нязграбныя і цяжка ступаюць. Сям'ю мазурак пачынаюць драждж авыя ляпёшкі, абтыканыя разынкамі і міндалём, і гэтыя прысмакі звычайна тырчаць так правакацыйна, што рукі самі выцягваюцца, каб выкалупаць іх і з'есці цішком. Уласна мазуркі пачынаюцца ад каралеўскай ці міндальнай, побач ідуць роднасныя ім марцыпанавыя, потым — апельсінавыя і лімонныя, што ўсміхаюцца цёплым колерам паўднёвай садавіны, і — «пуховыя», збітыя з бялковай пены. Але вышэй за ўсіх стаяць цыганскія мазуркі, стоўчаныя з саміх разынак і міндалю з дадаткам фігаў і фінікаў, густыя і цяжкія, як волава, а смачныя, як усходнія прысмакі з раю прарока Магамета, — словам, сапраўдныя цуды з «Тысячы і адной ночы». Нарэшце, маці не забывала пра торты: арэхавы, шакаладны і, напэўна, яшчэ не адзін іншы, бо яе фантазія і эрудыцыя былі небывалымі. У выніку ўсяго гэтага пакоі ў доме выглядалі, як татарскае пабоішча, бо гэтыя бабы, торты і мазуркі выходзілі з кухні і гардэробнай і захоплівалі пакрысе ўсе пакоі, не выключаючы спальню. І не палічыць, колькі для іх ужыта цукру, шакаладу, арэхаў, міндалю, разынак, ванілі, імбіру, мускатных арэхаў і іншых салодкіх і вострых інгрэдыентаў, не гаворачы ўжо пра муку, масла і яйкі. Але на Вялікдзень замаўкае звычайная ашчаднасць, нічога не шкадуюць, і свянцонага павінна быць дастаткова, смачна і багата, каб кожны мог наесціся ўволю і каб цэлы тыдзень да Правадной Нядзелі хапіла ўсяго і дамашнім і гасцям.

Раз у год перад Вялікаднем разам з вясновым паслабленнем ва ўсім двары наступала вясёлая мітусня. Тонка і піскліва заводзяць ступкі, як каплічныя званочкі: грукаюць качалкі ў макотрах і стукаюць па стальніцах, месячы цеста, гудуць і трашчаць дровы ў распаленых печах, дробна стукаюць і тупаюць жаночыя крокі, клічуць па ўсім доме пісклявыя і нецярплівыя галасы. Печы павінны жорстка кантралявацца наконт ступені награвання, а потым у іх пашчах знікаюць каструлі, накрыўкі і бляхі, напоўненыя каштоўным цяжарам. Ён атрымлівае ганаровую варту, якая

забяспечвае недатыкальнасць іх каралеўскіх вялікасцей бабаў і мазурак. У прадпісаны час яны вынырваюць зноў назад у прысутнасці ўсхваляваных фрэйлін, якія абступаюць бляхі і шумна выказваюць свае меркаванні аб якасці печыва. Ахвярнымі казламі пры гэтым сталіся сабакі і дзеці з фальварка: першым не шкадавалі ўдараў нагамі, а другім — лаянкі і кухталёў за тое, што блытаюцца пад нагамі і заўсёды знаходзяцца там, дзе яны менш за ўсё патрэбныя.

Я апускаюся ў гэты беспарадак з асалодай, як шчаня ў траву, і сцвярджаю з каварным задавальненнем, што ўжо няма гаворкі пра які-небудзь хатні парадак, ані пра разумныя гадзіны абедаў, што дазволена ўсюды смяцiць, з усім забаўляцца побач і, можа, нават адыграць нейкую неапошнюю ролю ў якасці памочніка. Праўда, часам і мне даставалася едкая перасцярога, каб «не падлазіў пад рукі», але гэта можна было навярстаць дзе-небудзь у іншым месцы, як, напрыклад, пры таўчэнні арэхаў, прамыванні разынак і вылускванні міндалю, нарэшце, пры расціранні марцыпанавай масы альбо пры выпісванні аздобаў белай і каляровай палівай, якую выпускалі з конуснай папяровай трубкі, не гаворачы ўжо пра рознакаляровы цукровы мак, якім упрыгожваюцца мазуркі. А колькі радасці пры фарбаванні яек! Самі пакеты з фарбамі цікавяць дзівацкімі надпісамі на некалькіх мовах, а парашкі, якія раствараюць у бутэльках ці шклянках, радуюць вочы сваім моцным яркім колерам. Ёсць, зрэшты, і дамашнія фарбы, як, напрыклад, светла-апельсінавая, якая атрымліваецца з шалупіння цыбулі, а таксама блакітная, якую рабілі з кветкаў сасонак, і гэтыя колеры, бадай, нават больш тонкія, чым анілінавыя. З фабрычных захапленне выклікала невядомая да гэтага часу мармуровая: гэта калі яйка абгортваецца прамочанымі стракатымі колерамі паперкамі, завязваецца і замочваецца ў гарачай вадзе, і атрымліваецца прыгожая з пражылкамі мазаіка. Зрэшты, з імі прыемна ўсялякае корпанне, і неўзабаве не толькі яйкі, але таксама стол, рукі і адзенне набываюць усе колеры вясёлкі з самымі першакласнымі анілінавымі адценнямі. На шчасце, маці не мае зараз часу, каб выказаць сваё меркаванне аб гэтых маіх малярскіх спробах, таму яна не парушае маёй забавы. І пакуль пануе агульная нервовасць, выкліканая вялікім аб'ёмам працы, спешкі і кулінарных хваляванняў, жанчыны, што круцяцца каля цеста, — злыя як восы, нельга ім слова сказаць, і нават мама губляе свой звычайны кантроль і ўголас бурчыць на кожнага, хто ёй пападаецца на вочы, не выключаючы сваё адзінае дзіця.

У Вялікую Суботу каля паўдня наступае пералом: спадае гарачка вялікага тыдня, пульс гаспадарчага цела становіцца крыху больш павольным, з'яўляюцца прыкметы вяртання да прытомнасці і спробы нармальнай дзейнасці асобных членаў. Мітусня ў доме супакойваецца, настрой мякчэе, праца з мясам і цестам скончана, застаецца толькі прыгатаваць хлеб, масла і іншыя дадаткі, выкапаць з зямлі ў падвале сметанковы сыр і збірацца ставіць і накрываць сталы. Гэты сыр, які таксама называлі «тлустым» і які з'яўляецца маім любімым прысмакам, робіцца з чыстай смятаны, злітай у густы палатняны клінок і закапанай у зямлю на пару дзён перад ужываннем. Пасылаюць у лес па зяляніну для ўпрыгожвання стала, для чаго служыць дзераза, якая сцелецца па зямлі сярод імху касматымі разгалінаваннямі.

Пасля таптання на працягу цэлага дня і нечалавечай стомы апошніх дзён маці не рашаецца сама ехаць у касцёл у нядзелю рана, тым больш што дарогі яшчэ не цалкам абсохлі і масты на Сэрвачы пасля зімы знаходзяцца ў безнадзейным стане. Што праўда, дык гэта іх хранічная

рыса, з-за чаго пераезд праз Кайшоўкі з'яўляецца пастаянным страхам для бацькоў, якія баяцца, каб не сапсавалася павозка: масты складаюцца з асобных круглякоў, якія танцуюць пад конскімі нагамі, як рухомыя клавішы. Летам нікому не прыходзіць у галаву, каб па краях мастоў дакласці па адным бервяне і падсыпаць зямлёй круты з'езд, таму праязджаючыя звоняць зубамі і хрысцяцца, калі без здарэнняў прабяруцца праз гэтую мастовую засаду. Пастанавілі на тым, што на ранішнюю імшу ў Варончу паедзе Юлька і возьме з сабой для асвячэння мазурку, каўбасу і яйкі, як патрабуе звычай. Мы тым часам молімся старанна дома, бо сёння ўжо нішто не адрывае маці ад малітвы і мы слухаем жалобныя суботнія разважанні да канца, зло сёння ноччу будзе пераможана, а заўтра заблішчыць нам светлае, поўнае радасці Уваскрашэнне. Пасля абы якога абеду, шчыра поснага, да якога ніхто не ставіцца ўсур'ёз, бо гэта дзень умярцвення, пачынаецца фінал тыдня — ставіцца свянцонае ў кабінеціку побач з салонам на самым вялікім стале, прынесеным са сталовай і раскладзеным на ўсю даўжыню дадатковых дошак. Наперадзе ўзвышаецца, як на троне, свіная галава, упрыгожаная зялянінай, якая трымае ў зубах чырвонае яйка. За ёй размяшчаюцца цецярук, парася, цяляціна і ялавічына, нарэшце сцірты каўбас і горы шынак. Пасярэдзіне фігуруюць найцудоўнейшыя торты, багата прыбраныя варанай садавінай і ягадамі, а між імі — кошык з фарбаванымі яйкамі, цукровы баранчык з пазалочанымі рагамі і харугвачка, прывезеная неяк з горада. Мазуркі і ляпёшкі, белыя і жоўтыя, карычневыя і вясёлкавыя ляжаць усюды пакрыху, а на чатырох рагах — цудоўныя бабы, тоўстыя, як пухіры, расселіся ганарліва і сцерагуць стол, нібы чатыры вежы абарончай крэпасці. Хлеб, сыры і іншыя рэчы, якія ўжо не ўдалося размясціць, ідуць на другі стол ля сцяны. Там узвышаліся стосы сурвэтак, талерак і сталовых прыбораў, у рад выцягнуліся бутэлькі з рознакаляровымі напоямі: вішнёўкай, слівовіцай, апельсінавай і старкай, а суправаджэнне гранёных кілішкаў дадае батарэі яшчэ больш глянцавай раскошы. Познім вечарам з апошнім шыўком іголкі, якая прычапляе да вонкавага боку абруса гірлянды зяляніны, велікодны стол гатовы. Бацькі ўласнаручна замыкаюць на ключ дзверы, баючыся катоў, і ўсе разыходзяцца на адпачынак. Я адчуваю сябе стомленым не менш за іншых сваёй працавітай бяздзейснасцю, бо таксама быў на нагах цэлы дзень, а акрамя гэтага я вымушаны быў змагацца з пастаяннай спакусай пакаштаваць свянцонае. У першыя дні тыдня я бяссільна паддаваўся ім, але ад Вялікай Пятніцы вырашыў для сябе, што ні да чаго, акрамя салодкага, не дакрануся і свята вытрымаю слова, хоць мне гэта каштуе нямала. «Затое ў Нядзелю, — мару суцяшальна, — узнагароджу сябе шчодра...» А каб хутчэй дачакацца раніцы, найлепш хутчэй заснуць, таму я іду, не марудзячы, у ложак і засынаю, ледзь паспеўшы распрануцца, і ў сне перада мною праходзяць усе спакусы свянцонага...

Назаўтра красавіцкая раніца ўстае, бледна ўсміхаючыся, і, як бы няўпэўненая, ці ўсміхацца далей, ці захмурыцца і расплакацца на добрае, спыняецца пасярэдзіне, глядзіць нерашуча, зацягваецца хмарамі і з выразнай неахвотай ставіцца да выканання перадсвяточных чаканняў, да якіх належала таксама і цудоўнае надвор'е. Я адчуваю, што ў маёй радасці пачынаюць праскокваць дробныя зярняты расчаравання, і пераконваюся на ўласным вопыце, што здзяйсненне жаданняў ніколі не зраўняецца з іх напружанасцю. Зранку я павінен прайсці праз нудны абавязак віншавання са святам, які робіць мяне нерухомым і напалоханым, і

толькі ў абдымках маці я расслабляюся і адчуваю здольнасць да натуральнай сардэчнасці. А потым свянцонае не прыносіць мне спадзяванай карысці, бо да мяснога я не маю ахвоты, а печывам хутка аб'ядаюся і атрымліваю боль у жываце, які адмоўна ўплывае на мой звычайны аптымізм. Я вымушаны глытаць нейкія горкія лекі, трымаюся за жывот і думаю, што, аднак, прыемней за ўсё было на працягу тыдня, калі ўсё гэта яшчэ гатавалася і святы былі наперадзе, як справа будучыні. Зрэшты, хутка недамаганне мінае, таму я бягу на дзяцінец, ладжу забаву з дзецьмі з фальварка ў «крашанкі» і падчас гэтага запалу забываюся пра непрыемнасці, праследуючы вачамі яйкі, якія качаюцца па траве, і дрыжу ад эмоцый: ці спаткаюцца яны і ці прынясуць мне жаданы выйгрыш?

На другі дзень святаў прыходзяць з раніцы «валачобнікі» ў новых жоўтых кажухах і ў каляровых шаліках, дастойныя і важныя ў сваім святочным убранні. Ахрыплымі і нястройнымі галасамі яны спяваюць перад ганкам святочныя абрадавыя песні, выказваюць пажаданні і атрымліваюць пачастунак. Гэта хлопцы з нашай вёскі, усіх мы ведаем па імені і прозвішчу, яны спяваюць па чарзе «для пана», «для пані» і, нарэшце, «для паніча», і тады хто-небудзь са старэйшых гаспадароў спявае мілую старадаўнюю прыпеўку:

> Проці лета песня спета,
> проці лета ўрадлівага,
> проці року шчаслівага...

Шмат спраў, што датычаць гаспадаркі маці, я тут праміну, бо не быў тады дастаткова ўважлівым, каб усе іх заўважыць і запомніць. Гаспадарка была вельмі разгалінаваная, бо ахоплівала не толькі клопат пра жывёлу, але і пра бялізну і пра вопратку. Некаторыя галіны працы маці сутыкаліся і перасякаліся са сферай дзейнасці бацькі. Трэба было мець шмат практычных ведаў, вопыту, стараннасці, каб усё гэта асіліць. Тагачасная сельская гаспадарка складалася з розных дробных майстэрняў рукадзелля, накіраваных на дастатковае забеспячэнне дому і пазбаўленых нават цені гандлёвых разлікаў. Ніхто не ведаў, не хацеў і не ўмеў падлічыць, колькі што каштуе, калі вырабляць дома. Гаварылі толькі пра тое, каб зрабіць рэч добра ўласным промыслам, выдаткоўваючы як найменш наяўных грошай, бо з імі заўсёды было цяжка. А тое, што было ўласнае, не куплялася за грошы, гэта ўвогуле не цанілася і расходавалася шырокай рукой: спажывалі, частавалі, раздорвалі як дамашнюю рэч, якая «нічога не каштуе», а таму не мае цаны. Асабістай працы і намаганняў пры гэтым не падлічвалі і не шкадавалі, бо яна была не толькі абавязкам, але і натуральным і прыемным запаўненнем вясковага жыцця.

З пакупных тавараў адносна менш эканомілі на цукры, дазвалялі сабе нават у пэўнай меры ім раскідвацца, бо цукар быў ужо недарагі і самы лепшы сорт беласнежнага ўкраінскага рафінаду ў галовах каштаваў пяць рублёў за пуд, ці толькі ў пяць разоў даражэй, чым жыта... Цукар прывозілі ад Фейгі з Гарадзішча або ад Левіна з Міра ў стажкаватых галовах, абгорнутых тоўстай сіняй паперай, і ставілі купленыя галовы ў прыхожай на стале пад гадзіннікам, дзе яны стаялі ў рад, аж пакуль іх не паколюць і не схаваюць. Куплялі выключна ў яўрэйскіх магазінах, таму што хрысціяне тады не займаліся гандлем увогуле, кааператыва не было, і не ведалі нават, што такое кааператыў. Наш правінцыйны невялікі свет быў і адсталым, і прымітыўным, дастаткова сказаць, што папера ад цукру, хоць і была амаль міліметровай таў-

шчыні, пастаянна ўжывалася парабкамі на тое, каб круціць папяросы з махоркі, так званыя «банкруткі», бо тонкая белая папера была занадта далікатнай для пагардлівых вясковых спажыўцоў. Парабак цёці Басі, выпрошваючы ў яе паперу ад цукру, хваліў яе такімі словамі: «Бо гэта, бачыш, панечка, яна і добра смярдзіць, і ў нос дае». Прымяненне цукру было дваякім: штодня да гарбаты і страў і ў летні і асенні сезон — для варкі варэння, павідлаў і сокаў. Час выспявання ягад пачынаў гэты сезон, вельмі гарачы для маёй маці, бо варылася аграмадная колькасць усяго і ўжывалася цукру на гэта пэўна каля дзесяці трыццаціфунтавых галоў. Другасортныя павідлы варылі дзеля ашчаднасці і на мёдзе, бо мёд быў з уласнай пасекі і не патрабаваў выдаткавання грошай. Але гэты звычай паволі выходзіў з ужытку па прычыне таго, што мёд даражэў, а цукар таннеў. Ужывалі цукар выключна ў галовах, як самы лепшы, і біццё цукру было адным з важных дамашніх абрадаў. Для гэтага была спецыяльная машына — плоская драўляная скрыня з тупым зубатым нажом, які падымаўся на завесах. Глыбу цукру клалі на ніжнюю палову нажа і націскалі верхняй пры дапамозе ручкі, расшчапляючы цукар на патрэбныя кавалкі. Падчас варкі шмат часу займала нудная падрыхтоўчая дзейнасць: перабраць агрэст і парэчкі, а таксама падаставаць костачкі з вішняў і чарэшняў. Сама варка адбывалася на пліце ў сталовай і абуджала ў мяне вялікую цікавасць, бо я прападаў за салодкім, а пры гэтай рабоце заўсёды знаходзілася, што палізаць. Маці сядзела на нізкім табурэце перад плітой і мяшала лыжкай у вялікай меднай місе, дзе пырскала, бурліла і дыміла чырвоная кіпячая маса. Юлька прыносіла цукар і патрэбныя дадаткі, і ўсё ўзважвалася на бязмене, бо вагаў з маятнікам не ведалі. Побач стаяла дзяўчына з кухонным ручніком увесь час напагатове хутка зняць мядніцу з агню, як толькі тое, што ў ёй уздымалася, дэманстравала схільнасць «пацячы». Праз пэўны час маці з належнай увагай здымала пену з варыва доўгай друшлякавай лыжкай. Пену збіралі ў асобную міску, у якую я часта заглядваў, стараючыся дабрацца да смачнай ружовай пенкі, як толькі яна трохі астыне, каб не апячы вусны.

Варка мела свае сакрэты, якія трэба было ведаць, каб што-небудзь не сапсаваць, такія, як рэгуляванне тэмпературы, апарванне гарачай вадой ягад і выбар іх ступені спеласці. Агрэст, напрыклад, атрымліваўся пасля варкі жоўты, губляючы свой натуральны зялёны колер, і мама не магла з гэтым справіцца, пакуль нехта з пань не парадзіў ёй кінуць у варэнне медны пятак, і з таго часу нашы агрэставыя варэнні мелі цудоўны натуральны колер, які абуджаў зайздрасць у тых гаспадынь, якія не ведалі сакрэту. Пасля летняй наступала восеньская варка брусніц, якія ў нас так і звалі, альбо «брушніцамі», як, зрэшты, піша і Міцкевіч у «Пане Тадэвушы». Аднак брусніцы забіралі столькі цукру, колькі ўсе астатнія ягады, разам узятыя, бо бруснічнае павідла было штодзённым дадаткам да абеду і спажывалася ў велізарнай колькасці. Павідла складвалася ў вялікія гліняныя гарнцы, варэнне — у меншыя альбо ў шкляныя слоікі, сокі злівалі ў бутэлькі, і ўсё старанна абвязвалася, закаркоўвалася і забяспечвалася надпісам аб тым, што ў пасудзіне і калі зварана. Гэтыя апошнія справы я лічыў найменш цікавымі, бо яны беззваротна зачынялі дарогу да «каштавання» і патурання майму вялікаму ласаванню па пункту «салодкага». Відаць, дзіцячы арганізм патрабуе шмат цукру, калі я мог з'ядаць такую незвычайную колькасць варэння і іншых прысмакаў, чаго ў нас нікому не шкадавалі. Але побач з тым, каб дагадзіць

паднябенню, у гульню ўваходзіла і дробка эстэтыкі: я шчыра любаваўся канкрэтнымі прыгожа насычанымі колерамі варэння і сокаў, і асабліва цешыла мой позірк цёмная чырвань вішань і брусніц, жывая зелень агрэсту і светлы малінавы колер малінавага соку.

Я не буду пералічваць іншыя раздзелы гаспадаркі маёй маці. Яна была абшырнай і складалася з занадта многіх дробязей, каб не прычыняць ёй не раз шмат клопату і раздражнення, калі адбываліся нейкія страты ці нешта не ўдавалася, таму я памятаю яе не раз заклапочанай і мала схільнай да жартаў і пустога. Стан здароўя і дамашнія клопаты некарысна адбіваліся на яе паводзінах і выклікалі азлобленасць і нецярплівасць. Таксама лепш за ўсё ўспамінаю маці падчас адпачынку, калі яна забывала пра дамашнія справы і, шукаючы магчымасці павесяліцца, падавала праект якой-небудзь паездкі на «маёўку». Мы залазілі ўсім кагалам[15] на вялікі воз і ехалі ў «беразняк», гэта значыць у бярозавы гай, які знаходзіўся за вярсту ад двара, дзе збіралі ягады, грыбы, пераважна лісіцы, падасінавікі і бабкі, бо баравікі не любяць лісцевы лес, а вакол нас раслі бярозы радамі стройных белых калон, што аж мільгацела ў вачах чорна-белая стракатасць бярозавай кары. Потым мы раскладвалі вогнішча і пяклі бульбу, забаўляючыся скаканнем праз агонь і падкідваннем сухога ядлоўцу, ад якога касцёр трашчаў, сыпаў іскрамі, а клубы жоўтага дыму слупам узнімаліся ўгару, аж дрыжалі і пралятаді над кастром завяўшыя бярозавыя лісты. Печаная бульба была цудоўна смачнай, хоць бывала прыпаленай ці недапечанай, і елі яе часта ўсухую, калі забываліся пра масла і соль. На завяршэнне па ініцыятыве мамы мы спявалі хорам, і з таго рэпертуару мне засела ў памяці патрыятычная песня пра атаку Казетульскага пад Сома-Сьерай, якая пачыналася словамі:

> Дзе цясніна Сома шчацініцца скаламі,
> ёсць цесны праход, як на строй рыцараў,
> там горды іспанец, сеўшы на вяршыне гор,
> чакаў з перуна, калі прыйдзе вораг!

Я спяваў гэту песню даволі раўнадушна, не здагадваючыся, чаму, урэшце, на «верх акопаў сеў белы арол», бо ніхто мне не растлумачыў, што тут гаворыцца пра польскія легіёны, якія падтрымлівалі Напалеона, і іх пакутніцкія дарогі на бацькаўшчыну, але, нягледзячы на гэта, мне падабаўся гераічны пафас тэксту.

На нашых маёўках было страшна весела, бо радасныя бацькі скідвалі з сябе дамашнія клопаты, упадалі ў добры настрой, і асабліва маці ажыўляла кампанію сваімі дасціпнымі жартаўлівымі паводзінамі, уступаючы ў славесныя паядынкі з дзядзькам Браніславам. Часам яна спявала сялянскія песні ці вельмі камічна цытавала вясковыя дыялогі, загадкі і прыказкі, выклікаючы агульную весялосць. Калі не хапала часу на даўжэйшую вылазку, тады маёўку замяняла гарбата на траве пад каштанам ці дзе-небудзь у садзе, часцей за ўсё ў альтанцы за кветнікам. Маці любіла такія імправізаваныя падвячоркі не менш за мяне, і з гэтага пункту гледжання паміж намі не было розніцы ва ўзросце: мы аднолькава маглі радавацца адступленню ад нуднай паўсядзённасці, якую прыносілі гэтыя забавы. Здавалася, што разам са зменай месца і пераносам сталовай у які-небудзь закуток у садзе маці пераўтваралася і ажыўлялася, свяцілася

[15] Кагал — тут: сход, група *(яўр.)*.

маладым румянцам, упадала ў адмысловы бесклапотны гумар, гатова была забаўляцца, бегаць і даказваць, як малая дзяўчынка; яна прыцягвала да сябе пасвятлеўшыя погляды ўсіх. А я глядзеў на яе з захапленнем і гордасцю, думаючы паціху, што ніхто не зможа быць такім мілым, мудрым і незвычайным, як мая любімая мамачка. Я адчуваў, што яна для мяне найдаражэйшая на свеце і што я побач з ёй такі бязмерна шчаслівы. Весялосць маці перадавалася і бацьку, ён свяціўся сваёй пачцівай усмешкай, сыпаў вясковай дасціпнасцю і прымаўкамі, жартаваў на свой дабрадушны грубаваты лад. І я гарнуўся да іх абаіх, пазбыўшыся сваёй звычайнай нясмеласці, туліўся то да бацькавых шчаціністых шчок, то да мяккіх рук маці, падпарадкоўваўся ўсёй істотай ціхай мяккай радасці і ўжо не ведаў сам, што рабіць з гэтай хваляй, якая ўздымалася і распірала мяне.

Некалькі разоў на працягу лета, заўсёды па ініцыятыве маці, ладзілі сапраўдную маёўку, гэта значыць паездку на Свіцязь з самаварам і ўсімі прыборамі. Рашэнне прыходзіла напярэдадні вечарам, і ўжо з гэтай хвіліны я не меў спакою і не даваў яго іншым, дапытваючыся пра час выезду, пра прадказанні надвор'я і розныя іншыя падрабязнасці паездкі. У думках я будаваў ужо цэлы гмах прыгажосці і шчасця, сніў яго ва ўсёй красе і пышнасці, абуджаўся ад сну кожную хвіліну і не мог дачакацца гэтай жаданай раніцы. Я станавіўся сапраўдным кашмарам для маці, бо ўжо не мог вытрымаць сам-насам, таму будзіў яе і пачынаў размову пра заўтрашнія радасці. Я перажываў сваё найвышэйшае шчасце, і, можа, адзінае надзейнае, бо гэта было шчасце чакання, якое я потым навучыўся ўпрыгожваць, афарбоўваць і напаўняць ім усе найлепшыя хвіліны свайго доўгага жыцця.

Ажыццяўленне прыходзіла заўсёды ў канцы інакш, чым я сабе зараней уяўляў. Пасля ранняга абеду наступаў выезд, благаслаўлёны прыгожым бясхмарным надвор'ем і сцякаючай з неба гарачынёй. На воз пакавалі правіянт, посуд, абавязковы самавар і каго-небудзь са слуг і адпраўлялі воз наперад, а мы накіроўваліся за ім у прыўзнятым і вясёлым настроі. Для маці Свіцязь была ледзь не месцам нараджэння і наводзіла на яе сілу ўспамінаў маладосці. Ад адной думкі пра Свіцязь яе вочы пачыналі блішчаць, а калі мы даязджалі і аказваліся на беразе возера, маці станавілася маладзейшай, жывой, поўнай натхнення, запалу, такой любімай мною!.. А для мяне гэта маёўка была нагодай задумацца на кароткі час і сузіраць, і значна больш — выпусціць неўтаймаваную дзікую радасць, якая мяжуе з шаленствам, бо ў шчаслівыя хвіліны я ніколі не мог захаваць меру, упадаў у «цялячае захапленне» і рабіў нейкія глупствы, выклікаючы незадавальненне і вымову бацькоў. Але гэта былі пералётныя хмары, нікому не хацелася згушчаць іх, калі так святочна распагодзілася, таму і я карыстаўся спрыяльнай сітуацыяй, якую лавіў на ляту, і беспакарана адпускаў лейцы свайму некантралюемаму тэмпераменту. Усё было цудоўна і незвычайна на гэтай прыгожай палянцы ў Каралеўскай купальні[16] пад ценем аграмадных дубоў, якія, напэўна, яшчэ памяталі часы польскіх каралёў: і ўстаноўка самавара фурманам з дапамогай бота, знятага з уласнай нагі, які служыў замест мяхоў, і халодная смажаніна з куранят, якую елі проста рукамі з пачуццём правамоцнасці гэтага занядбання этыкету на маёўцы, і мернае

[16] Каралеўская купальня — частка берага Свіцязі недалёка ад фальварка Пясчанка.

плясканне хваляў аб сходкі купальні, і суніцы з малаком, напалову перамешаныя з чарніцамі і з нейкімі жвавымі маладымі аваднямі, што ратаваліся з малочнага тапелішча, і само купанне ў мяккай празрыстай свіцязянскай вадзе ў спалучэнні са збіраннем ракавінкаў і трыснягу ў белым, чыстым драбнюткім прыбярэжным пяску... А наўкола было так прыгожа, так зялёна і цяніста, як у самым прыгожым дзікім парку, акультураным нябачным дотыкам чалавечай рукі, і дрэвы, і кусты стваралі залацістыя альтанкі і алеі, мурава заахвочвала да адпачынку сваёй мяккай аксамітнай зелянінай, паміж дубамі блішчала блакітная паверхня спакойнага возера, якая ішла далёка аж да ледзьве бачнага супрацьлеглага берага. Нягледзячы на маё дзіцячае свавольства і няўважлівасць, гэта акружэнне падабалася мне сваёй правільнасцю і абуджала павагу да сваёй незвычайнай прыгажосці. Я параўноўваў яго з Чамбровам і знаходзіў, што тут, можа, яшчэ прыгажэй, і, па меншай меры, інакш, я адчуваў сябе неяк ўзвышана і нясмела пад уплывам на дзіва дастойнага віду прыгажосці Свіцязі, яе берагоў, яе насаджэнняў і дрэў. Толькі значна пазней я зразумеў прычыну маіх адчуванняў: уся Пясчанка разам з берагам Каралеўскай купальні — гэта быў некалі двор, сляды якога можна было яшчэ распазнаць у правільна і прыгожа абсаджаных берагах, у рэштках пладовых дрэў і нейкіх замшэлых фундаментаў. Потым усё здзічэла і зарасло, але не страціла агульнай эстэтычнай планіроўкі; вось так чалавечая рука, выгнаная з гэтай пусткі, давала аб сабе знаць нязначным чынам, але станоўча, ствараючы прыклады прыроды і мастацтва. Адсюль асаблівая прыгажосць Пясчанкі, якую дарэмна было шукаць на другім беразе ў Свіцянцы.

Вечарам, калі ўзыходзіла вялікая апельсінавая поўня, мы выплывалі на лодцы на возера і спявалі хорам, і па суцішанай воднай гладзі нашы галасы разыходзіліся далёка, звонка і хутка — ажыўленне часам пакідала маці, яна ўпадала ў роздум і моўчкі паглядала на адлюстраванне месяца ў гладкай, ледзь зморшчанай вадзе. Можа, яна ўспаміналі нейкія ўласныя даўнія перажыванні, зведаныя ў падобным акружэнні... Далейшы працяг усяго гэтага здаваўся мне незвычайна прыгожым, але я быў ужо занадта стомлены ўражаннямі і сонны, каб у гэтым разбірацца. Я ледзьве памятаю пасярэбраныя месяцам палосы туману, якія засцілалі лугі на зваротнай дарозе, а апошнім уражаннем была пабляклая і затуманеная поўня, што пагружалася ў малочную імглу даліны пад Навасадамі[17]. Я ўжо не памятаю, як мы даязджалі да дома, і толькі праз сон чуў, як мяне выносілі з павозкі, распраналі і клалі ў ложак...

А назаўтра я ўспамінаў мінулы дзень з пэўным жалем, бо мне здавалася, што я не вычарпаў належным чынам вопыт, які ён мне прапаноўваў, што трэба было паводзіць сябе больш уважліва, з большым роздумам, каб дабрацца да сутнасці нейкіх схаваных магчымасцей, тых нявыкарыстаных і, як меркавалася, самых прыгожых. Як заўсёды, прыходзілі непазбежна па чарзе прагныя жаданні, чаканне, захапленне, ажыццяўленне, расчараванне, смутак... Таму я бег шукаць маці і здалёк крычаў ёй: «Мамачка, калі ізноў паедзем на Свіцязь?» А маці паблажліва ўсміхалася мне, прыгладжвала мае доўгія растрапаныя на бягу валасы і абяцала ўзяць мяне ізноў на маёўку, калі я буду паслухмяным...

[17] Навасады — вёска ў Навагрудскім павеце, не ўзгадваецца ў «Геаграфічным слоўніку».



***Кірмаш перад касцёлам у Дзятлаве.*** *Здымак да 1927 г.*

## Раздзел XII

# *Гаспадарка майго бацькі*

Толькі маладосць можа жыць выключна сённяшнім днём і аддае перавагу абяцанням дня заўтрашняга, грэбуючы ўчарашнім. У старэйшым узросце, калі знаходзішся ўжо бліжэй да краю, думка ўсё часцей вяртаецца да мінулага, да жыцця папярэдніх пакаленняў, да спраў роду. Сталы чалавек хацеў бы ведаць як найбольш пра сваіх продкаў, каб рабіць параўнанні, устанаўліваць падабенствы, ствараць абагульненні, атаясамліваць сябе са сваімі продкамі. Гэта натуральнае імкненне адшукаць сэнс жыцця, і вельмі шкада, што мы не спрабуем рабіць сінтэз раней, калі яшчэ не высахлі крыніцы сямейнай традыцыі, калі яшчэ жывуць людзі старэйшага пакалення, якія захоўваюць гэту традыцыю. Але ў нашым доме, на жаль, не было ўмоў, якія б падводзілі да зацікаўленасці такімі рэчамі, ані я з моладу не дбаў аб мінулым нашага роду, ані мой бацька не мог мне што-небудзь з яго асвяціць. Таму сёння, адшукваючы характар Булгакаў, я вымушаны блукаць па воблаках ці карыстацца інтуіцыяй.

Затое свайго бацьку я бачу добра. Я разумею асаблівасць яго натуры і характару, якая рабіла яго абсалютна не падобным да маці. Гэта розніца была глыбейшай за індывідуальную, родавая розніца паміж Булгакамі і Хацiскімі, і праявілася яна з асаблівай выразнасцю ў асобах маіх бацькоў і дзядоў. У Хацiскіх я заўважаю больш цывілізаванасці, нейкі пачаткова ўпарадкаваны розум. Дзядуля Уладзіслаў піша вершы, у маладосці сябруе з элітай моладзі свайго павета, адлюстраванне чаго я знаходжу ў Паўловіча, ва «Успамінах з-над Віліі і Нёмна»[1] (вечар, праведзены ў Мірацічах у Уладка Хацiскага). Пра прадзеда Тадэвуша Хацiскага я чуў, што ў якасці юрыста і навагрудскага суддзі ён карыстаўся вялікай павагай у грамадстве і належаў да выдатнейшых асобаў. Затое пра дзеда з боку бацькі, пра Яна Булгака, я ведаю толькі тое, што ён змоладу хадзіў па арэндах недзе на Ігуменшчыне, потым ажаніўся з дачкой Грамыкі і асеў у яе маёнтку ў Асташыне, які ён усё ж выкупіў з даўгоў. Што не вызначаўся ані моцным характарам, ані працавітасцю, а ў старасці стаў іпахондрыкам, цэлымі днямі сядзеў моўчкі ля акна, а калі адзываўся, то толькі каб па-сялянску наракаць, што ўсё даражэе, што зараз «не будзе за што купіць солі» і што ўсё дрэнна і будзе яшчэ горай. Ідучы яшчэ на адно пакаленне назад, я сустракаю ў тым, што датычыць сямейнай традыцыі, адну цемру, і пра сваіх продкаў па мячу ведаю толькі тое, што вычытаў у гербоўніку.

Але паколькі яблык падае недалёка ад яблыні, таму, мяркуючы па характару некалькіх апошніх пакаленняў, я характарызую род Булгакаў, паводле ўласных домыслаў, як працавітых і гаспадарлівых, вельмі

[1] *Э. Паўловіч.* Успаміны з-над Віліі і Нёмна. Падарожныя назіранні. Выд. 3, перагледжанае і расшыранае. Львоў, 1901. Стар. 61—67.

здаровых маральна, вельмі прыстойных і ветлівых, загартаваных у цяжкай працы, але простых, неадукаваных, пазбаўленых якіх-небудзь памкненняў па-за падворкам уласнай гаспадаркі. Гэта, вядома, датычыць самых блізкіх пакаленняў з часу ўпадку сям'і, бо мой прадзед па прамой лініі — Фларыян Булгак — быў камергерам двара караля Станіслава Аўгуста і ўладальнікам маёмасці, а дзед па пабочнай лініі — Томаш Булгак — ахвярай двух паўстанняў, два разы быў сасланы ў Сібір. Чалавек вялікага розуму і характару, ён быў славай і гордасцю ўсяго нашага роду, што я сам памятаю з дзяцінства. А сягаючы яшчэ далей углыб, я знаходжу ў нашай генеалогіі, як я ўжо ўспамінаў у першым раздзеле, паслоў на выбарныя сеймы і вышэйшыя ваенныя чыны, што дазваляе зрабіць вывад, што Булгакі не ўхіляліся ад грамадскай службы і не былі апошнімі ў абароне Айчыны.

Прозвішча наша, здаецца, указвае на паходжанне з далёкага Усходу. У корані слова «Булх»—«Булых» мне чуецца нешта татарска-рускае, нешта з далёкіх усходніх абласцей, дзе сустракаліся славяне і манголы. Яно напамінае прозвішча «Булыхаў-Курцэвічаў» з кнігі «Агнём і мячом», а ў Брукнера я знайшоў, што ў татарызаванай Маскоўскай Русі «булгамі» называлі мяхі, пашытыя з валовых скур, якія, відавочна, належалі да качавога мангольскага рэквізіту, а не аселага славянскага. Адсюль магло з'явіцца прозвішча «Булгак», «Булгакоў», якое часта сустракаецца на ўсходзе ад Пінска да Пецярбурга, а ў нас яго цвёрдае «г» згодна з патрабаваннямі беларускай і польскай фанетыкі было заменена на «х», і так паўстала заходняя паралель прозвішча. Аднак гербоўнік Дзедулевіча, Банецкага і Урускага выводзіць род Булгакаў не з Русі, а з Крыма, ад татарскага мурзы Саід Ахмета, сын якога прыехаў у Літву і атрымаў пры хрышчэнні імя Шымон і прозвішча Булгак – слова, якое паходзіць з турэцкай мовы і абазначае «нялад, непарадак». Магчыма, да ўзнікнення нашага прозвішча маюць дачыненне абодва гэтыя словы, хоць калі б мне прыйшлося выбіраць, то я выбраў бы для нас хутчэй татарскае паходжанне, чым маскоўскае ці літоўскае, што, зрэшты, здаецца, адпавядае сапраўднаму стану рэчаў (глядзі генеалогію ў раздзеле I).

Дахновічы-Хацiскія хутка губляюць у паўсядзённым ужыванні першую палову прозвішча, і такім чынам парываюць з Усходам. Яны таксама з'яўляюцца памешчыкамі сярэдняга стану, сядзяць у вёсцы і не прад'яўляюць прэтэнзіі на вядучую ролю, але агульным узроўнем нібыта пераўзыходзяць Булгакаў. Яны больш адукаваныя, маюць большыя разумовыя здольнасці, шырэйшыя інтарэсы, бліжэй звязаныя з культурай, вызначаюцца слабейшай воляй, характарам і менш валодаюць сабой. У іх мацней іграюць дрэнныя звычкі і страсці, асаблівасці вырысоўваюцца выразней і яскравей. Хацiскія – менш вынослівыя, менш стрыманыя, чым Булгакі, але больш здольныя, жывейшыя, маюць больш схаваных магчымасцей. Прадстаўляючы гэтую дадуманую і даволі фантастычную характарыстыку двух родаў, з якіх я паходжу, я сказаў бы, што Булгакі больш вартыя маральна, але Хацiскія цікавейшыя з мастацкага пункту гледжання, а я, адчуваючы спадчынную прыналежнасць да абодвух родаў, павінен сказаць, што больш падобны на сям'ю маці, і сваім розумам, а магчыма, і характарам абавязаны ёй, а не бацьку.

Гэта ні ў чым не змяншае шчырай любові, якую я адчуваю да бацькі зараз, калі, на жаль, занадта позна навучыўся разумець яго і цаніць. Я адчуваю яго зараз усім сэрцам, разумею ўсе матывы яго ўчынкаў, бачу

яго як на далоні. Гэта быў чалавек высакародны і правільны, характар шчыры і моцны, быццам выкаваны з адной глыбы металу. Метал, можа, быў звычайны, просты, але чысты і маналітны, сапраўдная соль зямлі. Бацька належаў да людзей самаахвярных, якія нічога для сябе не патрабуюць, а ўсю сваю сутнасць прысвячаюць сям'і і дому. Ён працаваў старанна, зыходзячы з натуральнага інстынкту, жыў па-спартанску ўмерана і сціпла, застаючыся без малога перакананым, што не мае права хацець ад жыцця большага. Ён быў прызвычаены да недахопаў і загартаваны да нягод і фізічнай працы, меў каменнае здароўе, ніколі не хварэў аж да апошніх гадоў жыцця, па-сялянску абыходзіўся без дактароў і лекаў і лічыў прыроду найлепшым лекарам. Ён умеў працаваць фізічна, хоць пры шматлікай чэлядзі гэта было непатрэбна, умеў араць і касіць, запрагаць воз і кіраваць коньмі. Зямлю любіў таксама па-сялянску, падсвядома, не аналізуючы сваіх пачуццяў, можа, нават не разумеючы іх вагі і моцы. Затое прад'яўляў дзейсныя доказы гэтай любові, сутаргава трымаўся за зямлю, працуючы на ёй з усіх сіл з энергіяй і запалам, каб забяспечыць быт сям'і і ўмацаваць дабрабыт агульнага гнязда. Рэлігійнасць яго была евангелічна простай і без разважанняў, а ёй адпавядалі маральныя пачуцці, мужныя і непарушныя. Сумленны да глыбіні, ён ніколі не хлусіў і з агідай ставіўся да ўсялякага фальшу. Яго хапала на тое, каб не дбаць аб тым, як гэта выглядае, і заўсёды заставацца самім сабой, ён быў, які быў, не любіў гаварыць пра сябе, хваліцца альбо здавацца лепшым. Без прысяг і ганаровых запэўніванняў ён свята трымаў слова, і можна было спадзявацца на яго ў любым выпадку. У гэтым была яго дастойная сіла. Пакорна аддаены Божай волі, маўклівы і нясмелы ў кампаніі, ён меў, аднак, гордую свядомасць сваёй маральнай незалежнасці... І там, дзе яна пачынала дзейнічаць, заканчвалася яго нясмеласць, саступаючы месца павазе. Кожны дзень жыцця ён сапраўды жыў з Богам, пачынаў яго і заканчваў малітвай і запаўняў добрымі ўчынкамі. Ён быў сапраўдным хрысціянінам. Плануючы што-небудзь з далёкай мэтай, ён нязменна дадаваў: «калі Бог дазволіць...», «калі Пан Бог дазволіць нам дачакацца...», і гэтыя агаворкі не былі пустымі фразамі, а шчырым актам пакорнай веры. Свабодны ад усялякай позы, ён ставіўся да жыцця добрасумленна і сурова, без мудравання, як належыць першароднаму розуму, здароваму, сялянскаму, які трымаецца толькі істотных рэчаў, слушных і непасрэдных.

Аднак я лічу, што пералік рысаў характару майго бацькі выходзіць вельмі аднастайным. І таму таксама хачу спыніцца і замест гэтага прадставіць сабе самога чалавека. Мне дастаткова заплюшчыць вочы, каб убачыць яго як жывога. Высокі, даволі худы, але плячысты, добра складзены, трымаецца проста, поўны мужчынскай сілы ў свае 40 гадоў, мае шырокую, раздзеленую на дзве палавіны бараду, коратка абстрыжаную і вялікую, крыху абвіслыя вусы, высокі лоб з заўчаснай лысінай, кучаравыя, па баках доўгія валасы, прывабны выраз вуснаў і добразычлівую ўсмешку шэра-блакітных вачэй. Апранаецца нядбайна, у нейкае паношанае, мешкаватае і непрыгожае адзенне, а наверх часта надзявае скураную куртку, моцна пацёртую на швах і ўжо старую. Курыць моцны, дрэнны тытунь, залаты гадзіннік носіць на тампаковым ланцужку, бо гадзіннік атрыманы ў спадчыну, а ланцужок куплены. Аж свеціцца, калі бачыць жонку, гаворыць з ёй з асаблівай лагоднасцю і стараецца выканаць усе яе жаданні, бо не ўяўляе жыццё без яе і лічыць яе душой дома. Сыпле як з рукава сялянскімі прыказкамі, вымаўляючы іх выразна, з

дасканалым народным акцэнтам, і выбар гэтых прыказак, заўсёды трапны, доказна сцвярджае, што яны з'яўляюцца «мудрасцю народа». Калі, напрыклад, я скажу: «свая сярмяжка нікому не цяжка», альбо «даганяючы не нацалавацца», альбо «горка з'есці, шкада пакінуць», то адразу відаць матэрыяльныя ўмовы гэтых глыбока пераканаўчых сцвярджэнняў у форме пластычнага вобраза.

У поўдзень бацька прыходзіць дадому стомлены і галодны, бо ўстаў на досвітку і сняданне еў спяшаючыся. Не могучы дачакацца абеду, ён кладзецца падрамаць тварам на падушку і засынае адразу непрытомным сном, каб скараціць час, які доўжыцца аж да той хвіліны, калі яго клічуць на абед. Тады ён паспешліва зачэсвае грабеньчыкам валасы і бараду, растрапаныя падчас сну, прыходзіць у сталовую, становіцца ля стала, паціраючы з задавальненнем рукі, вострыць нажы адзін аб адзін, гучна шчоўкаючы імі, і наразае хлеб. Калі ўсе сядаюць да стала, ён хрысціцца і з апетытам прыступае да супу, а потым, наталіўшы першы голад, падсоўвае да сябе агуркі, наколвае адзін на відэлец і абірае яго ў чаканні мясной стравы. Пры гэтым ён паджартоўвае з дзядзькам Браніславам, размаўляе з маўклівым панам Лапушынскім, кідае ўважлівыя і чулыя погляды ў бок маці, недаверлівыя — у бок бабулі і ўплятае ў размову якое-небудзь народнае разважанне ў выглядзе пышнага аповеду, што «воўк сабакі не баіцца, адно звягі не любіць». Часам усміхаецца мне, штурхне прыязна ў бок, запытае пра ўрокі, часам прыкрыкне на Міхася, які на хвіліну замарудзіўся і падае талерку, скрывіўшы нос убок, і назаве яго «кастагрызам», бо той мае прывілей з'ядаць рэшткі са стала. Стомлены працай гаспадар атрымлівае асалоду ад гэтага абедзеннага часу адпачынку сярод сям'і і акунаецца з задавальненнем у атмасферу дамашняй сардэчнасці, якую сам стварае і падсілкоўвае. Пасля абеду ён дастае бляшаную скрынку з тытунем, скручвае папяросу, кладзе яе ў трысняговы муштук, выкурвае, пускаючы ўверх сінія колцы дыму, і тады кліча мяне да сябе, садзіць на калені і пачынае калыхаць, напяваючы з шырокай усмешкай:

> Самбізовы дочкі
> Пагналі бычкі
> Пад ліпку,
> А маленькі Янчык
> Выцінае таньчык
> На скрыпку.

Даходзячы да слоў «маленькі Янчык», бацька падкідвае мяне вышэй на калене, як бы хоча паказаць прысутным як свайго скрыпача, і падобраму смяецца, а мне робіцца на сэрцы так салодка і кранальна, што аж жаласна. Я слухаю, саромеючыся, бацькавы спевы і адначасова — дзіўная рэч — бачу дакладна сцэнарый песенькі, бачу, як дзяўчаты ў спякотны поўдзень пасуць цялят і заганяюць іх у цень ліпаў. Я бачу разложыстую купу пастарскай сядзібы на ўскрайку Асташынскай вёскі, побач з гарой з могілкамі, і нават жвава дастаю да хвастоў цялят, якія адганяюць мух, збіўшыся ў кучу пад дрэвамі.

Потым бацька пераходзіць да больш фрывольнага зместу, зачэрпнутага з таго самага вясковага рэпертуару, і сярод агульнага смеху заканчвае сваё пасляабедзеннае выступленне страфой:

Апанас валы пас,
Кацярына – бычкі.
Пачакай, не ўцякай!
Куплю чаравічкі...

Але ўжо чуваць званок ля пякарні – сігнал заканчэння абедзеннага перапынку і вяртання да працы, таму бацька ссоўвае мяне з каленяў, хутка ўстае, пераходзіць у прыхожую, хапае шапку і жоўтую палку з трыснягу з загнутым канцом – і ўжо няма. Пайшоў да гумна ці на поле, да сваіх штодзённых заняткаў, без якіх не мог бы жыць. Пайшоў распараджацца, даглядаць, клапаціцца, каб нам усяго хапіла, пайшоў працаваць старанна і да забыцця, як ён гэта рабіў заўсёды і як будзе рабіць яшчэ доўгія гады, пакуль толькі паслужыць здароўе і сілы. І я ўжо чую каля стайні ці на гумнішчы бацькаў голас, які кліча парабкаў ці аддае загады, голас энергічны, уладарны, непадобны на мяккі тон, якім хвіліну таму ён размаўляў з намі. І я ведаю, што так трэба і добра, што так ёсць, што ўсё па-за домам – на плячах бацькі і знаходзіцца ў парадку толькі дзякуючы яго старанням і клопатам, гэтаксама як у доме ўсё залежыць ад маці і робіцца па яе волі. І я адчуваю ў гэтым нейкую слушнасць, нейкі адвечны лад, абавязковы, непарушны, які акружае мяне быццам бы ахоўнай сцяной, за якой дзіцяці так лёгка жыць і радавацца ціхаму шчасцю кожнага дня... Я бачу добрую, лагодную ўсмешку на бацькавым твары, бачу прамяністыя складкі вакол сівых вачэй і хацеў бы, як раней, ісці на спатканне з іх добрым позіркам і цалаваць калючыя, спрацаваныя рукі з такімі загрубелымі пазногцямі, што нажнічкі іх не бралі і паддаваліся яны толькі вастраму сцізорыку... Як я мог баяцца яго і крывіцца на выбухі яго дрэннага настрою? Як я мог так няслушна яго судзіць?.. Цяпер я разумею, што суровую грымасу і маршчынкі гневу яму навязала жыццё, а яго ўласнай натурай была тая нясмелая, усмешлівая дабрыня, якая глядзела з яго твару. Праўда, што народжаная запальчывасць часта даводзіла яго да гневу, і тады ён мог абуджаць страх у тых, хто не ведаў яго бліжэй, але як жа ён умеў гэта ўзнагароджваць, калі праходзіла злосць, які ён быў тады добры, спагадлівы, сардэчны, як умеў з уласцівага яму калючага стаць мілым і аб'яднаць вакол сябе ўсіх. А маёй маці за ўсё жыццё, напэўна, ні разу не паказаў злога твару. Яна была для яго бажаством, перад якім ён гатовы быў укленчыць і замятаць пыл з-пад яе ног. Ён слухаў жонку, ва ўсім дагаджаў ёй, як толькі мог, паступаў з ёй заўсёды з найвялікшай далікатнасцю, лічыўся з яе меркаваннямі і схільнасцямі, дрыжаў над яе здароўем, акружаў выгодамі, амаль празмернымі, і, хоць быў па натуры вельмі ашчадным, нічога для яе не шкадаваў.

Я не змагу выказацца як трэба, думаючы пра бацьку, і ўпэўнены, што не раз буду паўтарацца. Мне ўсё жыццё было балюча, што ў маладосці я быў да яго такім несправядлівым, няўдзячным, нядобрым, што не мог яго ацаніць. Хіба я не павінен быў правільна ацаніць яго сэрца, яго бязмежную любоў да маёй маці, зразумець гэтыя поўныя адданасці намаганні, з якімі ён ратаваў яе слабае здароўе?! З першых гадоў ён вазіў яе ў дарагія варшаўскія і заграничныя лячэбныя кабінеты, а ў канцы, калі здароўе з кожным разам станавілася ўсё горшым, не вагаўся павезці яе ў Кройзнах у Надрэніі, дзе ў той час мы ўсе трое правялі цэлае лета, хоць гэта было нечувана дарагое лячэнне, амаль знішчальнае для нашых сродкаў. Бацька тады закрануў усе нашы запасы, выкарыстаў усе

15. Зак. 297.



***Рынак у Навагрудку.*** *Здымак да верасня 1908 г.*

магчымасці, каб справіцца з гэтымі непамернымі расходамі, аднак, па свайму звычаю, не пазычаў, бо даўгоў баяўся як агню. Па старому звычаю, ён не прызнаваў векселяў, лічыў іх небяспечным яўрэйска-купецкім заняткам, які не пасуе земляробу і шляхціцу, што жыве з зямлі. Земляроб, казаў бацька, не можа пазычыць вялікіх сумаў, бо не ведае, ці будзе мець з чаго аддаць, і не можа вытрымаць нейкі тэрмін, бо залежыць не ад сябе, але ад Пана Бога і ад дажджу і надвор'я, якія той пасылае. Таму хутчэй ён павінен заціснуць пояс, ва ўсім сабе адмовіць, дастаць апошнія ўласныя запасы, але разлічваць толькі на тое, што мае сам. Іншым бацька дапамагаў ахвотна, бо быў чалавечным і спагадлівым, але сам трымаўся прынцыпу нічога ні ад каго не патрабаваць і нікому не быць абавязаным, хіба толькі сваім самым блізкім, бо інакш чалавек становіцца залежным і губляе свабоду. Мяккі ў дамашнім жыцці, ён быў у сваіх прынцыпах цвёрдым і няўступчывым і тут выяўляў нечаканую сілу характару — гэту старапольскую дабрадзейнасць, такую недалёкую ад рымскай «virtutis» (доблесці).

Гэта была шляхетная гордасць, прыкрытая стрыманасцю характару ціхага і замкнёнага ў сабе, а зверху замаскіраваная вясковай грубасцю, з якой, напрыклад, ён цытаваў свае сялянскія прыказкі, нязграбныя, але такія трапныя і паважаныя. «Кінь за сабою, а знойдзеш перад сабою» альбо «над сіратою Бог з калітою» — любіў ён часта гаварыць, калі трэба было ад нечага адмовіцца, саступіць ці зрабіць іншы добры ўчынак, а я слухаў толькі словы і не ведаў, што гэтыя прынцыпы бацька заўсёды прымяняў у жыцці і рабіў гэта з усёй прастатой і натуральнасцю, не раздумваючы нават, на якіх вяршынях ён стаіць. Са сваёй пакорнасцю такую маральную пазіцыю ён лічыў звычайнай рэччу, але, па меркаваннях іншых, не быў такім патрабавальным, бо не любіў крытыкаваць людзей, а больш за ўсё асцерагаўся асуджаць іх. Ён не раз вучыў мяне, што ў адносінах да іх трэба кіравацца спакойнай стрыманасцю, «вялікія рэчы прымаюць за малыя, а малыя – за ніякія», паўтараў: «Не судзіце, каб самім не быць судзімымі». У супрацьлегласць маці ён не меў схільнасці ні да маралізавання, ні да навязвання людзям сваіх поглядаў і прыхільнасцей і, не ўмеючы раскрыцца, жыў моўчкі па-божаму, і толькі ўласным жыццём даваў прыклад, як належыць жыць. «Не чыні іншаму, што табе не міла», – вось была цэлая прапаганда маральнасці гэтага сапраўднага хрысціяніна.

Мяне бацька выхоўваў мала і, на жаль, не змог навучыць нічому з таго, што складала яго погляды і схільнасці. Ён не змог таксама прывіць мне любоў да сельскай гаспадаркі і да працы на зямлі. Калі часам і спрабаваў мяне да яе нязграбна заахвоціць, то не мог не зразумець, што я слухаю яго няўважліва і без ахвоты. Калі ён браў мяне з сабой у поле і пачынаў нешта тлумачыць і паказваць, бачыў, што я пазіраю толькі на жаваранкаў і васількі, а пра гаспадарку гаварыў так неўпапад, як быццам бы я прыехаў з горада. Зрэшты, бацька меў мала магчымасцей вучыць мяне практычнаму жыццю, бо ў кіраванні маім выхаваннем цалкам падпарадкоўваўся маці, а яна акружала мяне кніжкамі, настаўнікамі, музыкай, усім французскім, а на гэтыя справы не звяртала ўвагі. Бацька хваляваўся, што сын вырастае чужым да поглядаў яго любімага свету працы, і не раз са смуткам скардзіўся на гэта перад самымі блізкімі ў Шчэпаўшчыне. «Не, — казаў ён, — Янак ніколі не будзе гаспадаром... Вось Манюк – гэта нешта іншае, з яго бацька будзе мець радасць...» Мой стрыечны брат Мар'ян быў у значнай ступені поўны практычнага

сэнсу і з дзіцячых гадоў праяўляў незвычайную цікавасць да гаспадаркі. А мой бедны бацька глядзеў з баязлівай павагай на чужаземныя кнігі, падручнікі і ноты для фартэпіяна, сярод якіх праходзіла маё дзяцінства, падпарадкоўваўся насуперак жаданню больш моцнай волі маці, пацíху ўздыхаў, што яго сына хочуць перарабіць на гарадскога паніча, нарэшце, не мог з усім гэтым разабрацца, насоўваў на вушы шапку і ўцякаў да гумна і стайні, да парабкаў і рамеснікаў. Тапіў неспакой у працы. Такія былі вынікі разыходжання ў характарах прадстаўнікоў дзвюх сямей і разумовай перавагі маёй маці як Хацiскай, якая пераўзыходзіла мужа інтэлектам і энергіяй, а можа, і пэўнай суровасцю.

Калі домам кіравала маці, то ў сельскай гаспадарцы бацька быў усеўладным гаспадаром і там мог шукаць замену і палёгку, калі яго занадта засмучалі дамашнія клопаты. Там ён аддаваўся свайму захапленню будаўніцтвам, рамёствамі, вытворчасцю ў малым маштабе і за невялікі кошт розных патрэбных у гаспадарцы прадметаў. Там ён з задавальненнем бачыў, што яго праца дае добрыя вынікі, што двор займае працай усё больш людзей, добра адзетых і накормленых, што ў яго Асташыне расце дабрабыт і жыццё цячэ прыстойна і карысна. А калі часам здараліся нейкія выпадкі ці страты, то яны пасля кароткай дэпрэсіі абуджалі ў яго яшчэ большыя намаганні, каб пераадолець цяжкасці і дасягнуць поспехаў у сферы, дзе ён адчуваў сябе ўпэўнена і за ўсё адказваў асабіста.

Я да бацькавай гаспадаркі прыглядаўся менш, чым да матчынай, бо яна не акружала мяне такім блізкім і цесным колам, як дамашняя, і выпадала з-пад маёй увагі. Зрэшты, перавага кніжна-кабінетных уплываў настройвала мяне на «грэчкасеянне» крыху легкадумна, як на нешта другараднае, не вартае маіх вышэйшых здольнасцей і памкненняў. Я вучыўся глядзець зверху на тое, што бацька працаваў як вол, бо ўмовы, у якіх я знаходзіўся, падштурхоўвалі мяне да гэтага, і ніхто не паклапаціўся аб тым, каб выправіць гэтыя памылковыя ўяўленні. Гэта, безумоўна, было памылкай майго выхавання, бо затрымала ўва мне разуменне вышэйшага сэнсу сялянскага жыцця і працы на зямлі. Я ўздрыгваю сёння ад абурэння і сораму, калі падумаю, што я — будучы прыхільнік і харніст жыцця сядзібы, будучы знаўца ўсяго сялянскага, дамашняга, свайго, пачаў з п а г а р д ы да таго, што пазней так палюбіў, і бацькаву працу адорваў сумнай грымасай тупога мешчаніна, замест таго каб схіліць перад ёй з павагай галаву. Аднак дзіцячая рухавасць і празмерная цікаўнасць прадастаўлялі мне, нягледзячы на гэта, не адну магчымасць сутыкнуцца з гаспадаркай бацькі, хоць гэтыя магчымасці я ўжываў не так, як ён хацеў, але па-свойму, чыста эмацыянальна і сузіральна. Я шукаў у іх уражанняў, а не павучэнняў, падсілкавання для фантазіі, а не практычнага прымянення.

А бацькава праца, нягледзячы на сваю паўсядзённасць, мела даволі займальныя бакі. Бацька любіў вучыць і школіць слуг і рамеснікаў і са стану вясковай дзікасці выводзіць іх у людзі. Ён браў селяніна ад сахі, прызначаў яго ў стайню і, калі той там крыху паабатрэцца ў якасці хлопчыка на пасылках, садзіў яго на козлы параконнай брычкі, даваў у рукі лейцы і казаў павазіць пад яго наглядам. Сварыўся пры гэтым, вядома, і муштраваў, і крычаў на яго, колькі ўлезе, але праз год з парабка выходзіў нядрэнны фурман, які атрымліваў ліўрэю, шапку з галунамі з пяцікантовым верхам, спраўляўся з чацверыком стаенных коней і размашыста шчоўкаў кнутом, заязджаючы «фаэтонам» пад ганак. Такой была кар'ера ў Марка, якога бацька вывеў на першакласнага фурма-

на, падобным чынам ён вывучыў кульгавага Янку на каваля, Аляксея — на стэльмаха[2] і шмат іншых. Акрамя таго ён браў раменнікаў у дом з пачынаючых вучняў і ганяў іх да сёмага поту, аж пакуль з іх не выходзілі добрыя майстры. Моцна пры гэтым лаяў, але з самым лепшым вынікам, бо тыя, каго ён школіў, былі абавязаны яму набытай прафесіяй і добрым кавалкам хлеба і ніколі потым не гневаліся на тое, што бацька надзіраў ім вушы, наадварот, успаміналі з задаволенай усмешкай і ўдзячнасцю. Вартымі ўвагі былі разнастайныя ўменні бацькі, набытыя, між іншым, цалкам самастойна, і яго трапнае разуменне жыццёвых спраў, якое ператваралася ў пэўную сістэму. Дзякуючы яму ў двары былі круглы год калеснік, сталяр і каваль, а з рымарам дагаворваліся толькі па месяцах, таксама цэлымі кварталамі сядзелі маляр і абіўшчык, і бацька мог кожным распарадзіцца, бо ведаў усё і меў сапраўдную цягу да гаспадарчых рамёстваў. У доме ж рабілася ўсё: вазы, скрыні для бульбы, бароны, колы, васагі[3], плеценыя вуллі, мэбля, нават цэлыя брычкі і будаўнічая сталярка, рабілася, можа, не абавязкова правільна і прафесійна, але моцна, надзейна, на доўгія гады. І — асаблівая рэч — гэты нечувана ашчадны чалавек, які б не дазволіў сабе патраціць у горадзе некалькі дзесяткаў рублёў на нейкія гатовыя прылады, не вагаўся выдаткаваць дзесяць разоў па столькі, праўда, паступова і нязначнымі сумамі, на дамашнюю вытворчасць тых жа прадметаў, якая ажыццяўлялася без усялякіх гандлёвых разлікаў.

Бацька часта паўтараў прымаўку: «Ахвота горшая за няволю», якая азначала, што чалавек з'яўляецца нявольнікам уласных прыхільнасцей, і гэта выказванне самым лепшым чынам падыходзіла да яго самога. Калі ён вяртаўся з поля стомлены і галодны, не мог, аднак, вытрымаць, каб па дарозе не зайсці да каго-небудзь са сваіх майстроў і не паглядзець на іх работу. Пачыналіся нарады і расказы, часам спрэчкі і крыкі, часта, аднак, спакойны абмен прафесійнымі думкамі, бо бацька ведаў, чаго хацеў, і рамеснікі ішлі яму насустрач, таму паразуменне знаходзілі лёгка. З самой размовы з майстрамі было відаць, якое вялікае задавальненне знаходзіў бацька ў гэтых работах. І мне яны падабаліся: я любіў глядзець, як амаль з нічога, з кавалка жалеза, дрэва, скуры ствараюцца нейкія новыя прадметы, якіх дагэтуль не было, становяцца патрэбнымі, нават абавязковымі, і так уваходзяць у асяроддзе нашага існавання, займаючы ў ім з кожным разам усё больш высокае месца. Але бацька ўмеў спалучаць прыемнае з карысным: выраблялі рэчы, якія служылі ў гаспадарцы, і адначасова дбаў пра тое, каб забяспечыць жонку добрай мэбляй у доме і зручнымі экіпажамі для выезду. Разам з гэтай дробнай вытворчасцю ў Асташыне была пастаянная будаўнічая фабрыка, бо ў фальварку ўвесь час нешта перараблялі альбо будавалі занава, як, напрыклад, пасля пажару 1885 г. Для гэтага былі яшчэ патрэбны цесляры, пільшчыкі, муляры, не кажучы пра звычайных работнікаў, таму рух у двары быў вялікі і ніколі не канчаўся, а бацька ахвотна камандаваў усёй гэтай арміяй і свяціўся ад задавальнення, калі ў яго штосьці добра ладзілася і завяршалася добрым вынікам. Ён не зважаў на тое, што яму не давалі дыхнуць, што не раз еў халодны абед з-за рамеснікаў, што яму адтоптвалі пяты то з-за цвікоў, то з-за жалеза, то з-за нейкіх памераў ці іншых парад. Часам ён губляў цярпенне і прыкрыкваў на дакучлівых

[2] Стэльмах — рамеснік, які выконвае кузавы для вазоў і брычак, а таксама колы.
[3] Васаг — аснова верхняй часткі воза для пляцення альбо драбіна для вазоў.

прасіцеляў, але гэта хутчэй толькі для формы, бо ў сапраўднасці адчуваў сябе ў гэтым акружэнні і пры гэтай рабоце як рыба ў вадзе.

Гадавыя майстры не так моцна прыцягвалі маю ўвагу, бо яны былі з'явай пастаяннай, без якой я не ведаў Асташына і не мог яго сабе ўявіць. Таму большае ўражанне рабілі выпадковыя майстры, якія толькі часам паказваліся на нашым небасхіле. З іх у маёй памяці застаўся стары Шмая, маляр і лакіроўшчык экіпажаў, пра якога я зараз раскажу. Ён быў першым маім праваднікам у свет колеру, у якім я супакойваў сваю тугу, страсна любуючыся дзіцячымі акварэльнымі фарбамі і каляровымі алоўкамі. Я, праўда, нічога імі не маляваў, не шукаў для іх практычнага прымянення, толькі ўглядаўся ў самі каляровыя кружкі, у чырвань, блакіт ці зелень, атрымліваючы асалоду ад іх красамоўнасці і напружання, сугучнасці ці супрацьпастаўлення. Гэта былі сапраўдныя гадзіны шчаслівага сузірання колераў як увасаблення нейкай таямнічай высокай прыгажосці. А алейныя фарбы Шмаі былі шмат больш выразныя, чым мае бедныя акварэльныя, і поўнасцю адсоўвалі іх у цень. Перш, аднак, чым раскажу пра майго майстра фарбы, я павінен растлумачыць, у чым заключалася важнасць яго ролі ў Асташыне. Я ўжо ўспамінаў, што адзіным прадметам амбіцый і адзіным памкненнем маіх бацькоў былі стайня і вазоўня, гэта значыць мець добрых выязных коней уласнага выхавання, а таксама адпаведны набор экіпажаў і збруі. Гадаванне добрых жарабцоў ад добрых племянных кабыл было толькі пытаннем часу ў багатым на сена маёнтку з нягоршымі мурожнымі лугамі і багатымі ўраджаямі канюшыны, але шмат цяжэй было забяспечыць збрую і экіпажы, як рэчы, якія дорага каштавалі. Купіць новыя за наяўныя грошы патрабавала значна большага багацця, чым наша. А бацькі вельмі асуджалі жыццё некаторых памешчыкаў звыш магчымасцей і не толькі на словах выказвалі свае погляды аб адпаведнасці расходу прыходам. Яны былі асцярожнымі ў пытанні расходаў і, калі прымалі на шырокую нагу ў доме, будучы гасціннымі і дабрачыннымі, то, аднак, не раз паўтаралі з націскам, што «праз малую кладоўку можа прайсці самае вялікае гумно», а бацька спецыяльна для мяне дадаваў: «Што маеш зрабіць заўтра, зрабі сёння, а што маеш з'есці сёння — з'еш заўтра».

Нягледзячы на такія паводзіны, спакуса мець добры экіпаж з коньмі была вялікай, бацькі — нестарыя, жвавыя і таварыскія — любілі наведваць радню, якая жыла даволі далёка. Бацька вельмі часта меў справы ў павятовым Навагрудку і іншых мястэчках, як Мір, Гарадзішча і Цырын. Нават на самыя малыя адлегласці выязджалі, як найменш, параконнай брычкай, бо хадзіць пешшу лічылася простанародным, сведчыла аб апошняй ступені ўбогасці, нават больш — аб д э к л а с а в а н а с ц і. Хадзіць пешшу лічылася сялянскай справай, не шляхецкай, язда на адным кані — неўласцівай. Нават мелкапамесная шляхта, якая сядзела на некалькіх моргах і ненамнога адрознівалася ад сялян, не пайшла б ні за што ў касцёл у нядзелю пешшу і лічыла за гонар выехаць на кірмаш у калымажцы[4] альбо ў параконнай брычцы на дрожках замест рысораў. Тут, вядома, праяўляліся атавістычныя рэфлексы былой рыцарскай шляхты, коннай і збройнай, якая не магла зрушыцца з месца без каня і мела ў ім пастаяннага таварыша. Справа была не столькі ў

[4] Калымажка – малы аднаконны вазок, паменшанае ад «калымага», што азначае вялікі воз з будай.

зручнасці, колькі ў захаванні выгляду, у пацвярджэнні адвечнага меркавання, што яна з'яўляецца eques polonus[5], якой не прыстала хадзіць пешшу, бо гэта для яе зневажальна, як гмінная павіннасць. Даволі сказаць, што сярэдні шляхціц хутчэй адмовіў бы сабе ў першых выгодах, адрокся б ад дастатковай колькасці мэблі, адзення і ежы, чым згадзіўся б на тое, каб не мець вартай сябе запрэжкі. Ён павінен быў мець, чым прыстойна выехаць, дастаткова, нават пышна, не лічачыся з коштамі, якіх гэта вымагала. Коні маглі быць не пародзістыя, але рослыя, падабраныя ў пару ці чацвярык і добра адкормленыя, «стаенныя», як іх называлі ў адрозненне ад «пад'ездкаў», ці рабочых коней, і гэтыя стаенныя ўжо нічога не рабілі і стаялі бяздзейсна ў стайні да распараджэння.

Што ж да экіпажаў, то апрача добрай брычкі, лягчэйшай, вядома, была змяшчальная «нейтычанка», гэта значыць вялікая брычка на рысорах, часцей за ўсё чатырохконная, але і яна не выключала патрэбы ў крытым экіпажы, так званым «фаэтоне», бо брычкі служылі на кожны дзень і больш для мужчын, а ўрачыстыя выезды з жанчынамі і дзецьмі не маглі адбыцца інакш як на фаэтоне, альбо нават у кочы[6]. Коч уяўляў сабой яшчэ больш высокую ступень памешчыцкай прадстаўнічасці, быў ужо заўсёды толькі чатырохконным, разложыстым, як Ноеў каўчэг, забяспечваўся акрамя буды «фардэклямі», гэта значыць скуранымі бакавымі заслонкамі, якія ахоўвалі ад ветру і дажджу, але затое поўнасцю адгароджвалі ад навакольнага свету. На гэтай сямейнай карэце заканчыўся спіс неабходных транспартных сродкаў, бо карэта ўжо лічылася раскошай, не абавязковай для сярэдняга памешчыка. Аднак, я памятаю, і мы ўрэшце адважыліся на карэту, і нават двух відаў – летнюю і зімовую, бацька нічога не шкадаваў, калі справа тычылася зручнасці для маці і прыгажосці дома, дзе яна была гаспадыняй.

Маёмасць нашай вазоўні, аднак, не абмяжоўвалася пералічанымі экіпажамі, бо трэба было яшчэ мець калымажкі, драбінкі[7], а таксама аднаконныя лінейкі[8] на пасылкі і на аб'езд палёў. А ўжо мясцовай асаблівасцю была «фінціфлюшка», якую для мяне пабудавалі бацькі, калі я вярнуўся на канікулы, будучы вучнем другога класа Віленскай гімназіі. Не ведаю, адкуль вырвана назва «фінціфлюшкі», але яна вельмі падыходзіла да гэтай карыёлкі[9] на дзве асобы, лёгкай, як пярынка. Гэты мініяцюрны экіпажык не меў козлаў, але затое меў дадатковае месца ззаду, так што можна было ехаць утраіх. У яго запрагалі пару куцаў – малых прысадзістых конікаў з астрыжанымі грывамі і хвастамі, лагодных і лянівых, таму бяспечных нават у такіх няцвёрдых руках, як мае. Каня звалі «Шпунт», а кабылу «Карантышка», і абое яны былі карагнядой масці. Іх аддалі ў маё распараджэнне і дазволілі ездзіць самому ў запрэжцы альбо верхам, але не прасачылі, каб пры гэтай магчымасці я навучыўся сам запрагаць, а мне не прыйшло ў галаву, што варта было б валодаць гэтым уменнем хаця б для таго, каб не залежаць ад іншых. Я прапусціў магчымасць і ўжо потым ніколі не змог навучыцца гэтаму цяжкаму для мяне майстэрству, якое, аднак, было даступна кожнаму

[5] Польскі вершнік *(лац.)*.

[6] Коч – венгерскі крыты воз (назва паходзіць ад венгерскай вёскі Коцс), двух-, чатырох- альбо шасціконны.

[7] Драбіны, драбінкі – воз з бакавой абрашоткай.

[8] Лінейка – від вазка на высокіх колах з доўгім вузкім прадаўгаватым сядзеннем.

[9] Карыёлка – лёгкі двухколавы вазок.

вясковаму хлопцу. Забяспечваючы мяне ўласнай запрэжкай, падабранай па ўзросту, яшчэ раз пайшлі ўслед за глыбока засеўшым ў іх перакананнем, што ў вёсцы няма большай гордасці, як валоданне ўласным экіпажам і коньмі.

Але дарога, якая вяла да гэтай раскошы, не была ані хуткай, ані лёгкай, бо нічога не куплялася ў гатовым стане за дарагія грошы, а кожную рэч трэба было неяк змайстраваць, як кажуць, «без вялікіх намаганняў», гэта значыць дамашнім спосабам, не спяшаючыся і нядорага. Поўнасцю, аднак, дома выраблялiся толькі простыя вазы і брычкі, а на лепшыя экіпажы трэба было чакаць аказіі ці набываць які-небудзь стары ламач за грашы і рэстаўрыраваць дома любімымі бацькам спосабамі. Для гэтага патрэбны быў у Асташыне такі шматлікі штат рамеснікаў, тым больш што брычкі рабілі поўнасцю на месцы, апрача купленых у Навагрудку рысораў і восей. Колы і плеценыя кузавы ладзіў калеснік Аляксей, акоўванне і зборка рысораў былі справай каваля Янкі, і калі брычка праходзіла праз рукі рымара, абіўшчыка і маляра, яна была гатова да ўжытку, сапраўды выглядала не намнога горш за купленую, за якія дорага плацілі ў горадзе, і была, безумоўна, больш моцная і трывалая, чым яны. Аднак выраб крытых экіпажаў пераўзыходзіў мясцовыя магчымасці, і каб штосьці такое злавіць, трэба было падпільноўваць на нейкім аўкцыёне ці распродажы якімі-небудзь легкадумнымі банкрутамі, такімі частымі сярод «помещиков» усходняга тыпу, альбо, нарэшце, купляць стары хлам і грунтоўна аднаўляць яго. Пад спрактыкаваным вокам бацькі такія ламачыны станавіліся добрымі экіпажамі, змяняліся непазнавальна, бо бацька меў асаблівую жылку ў гэтым сэнсе і спалучаў вялікую практыку самавуцтва са спрытам і вынаходніцтвам.

Я добра памятаю фаэтон, які называўся ў нас «Глазенапка» таму, што быў куплены за бясцэнак у стане растрэсенага шкілету ў рускага марнатраўцы інжынера Глазенапа і перароблены ў Асташыне на першакласны экіпажык — лёгкі, зручны і сапраўды элегантны. Дзякуючы гэтаму прозвішча інжынера засталося прыклеенае да экіпажа і было ў нас увесь час на языку. Увогуле купленыя рэчы і жывёл было прынята называць іменем папярэдняга ўладальніка, і калі бацькам выпала набыць добрую кабылу ад нашых крэўных Янішэўскіх са Скрыля пад Мінскам, кабыла атрымала гэта прозвішча. Шмат гадоў пазней іх дачку таксама звалі «Янішэўская», што, напэўна, мне прабачаць нашчадкі гэтай сям'і, калі аб гэтым калі-небудзь даведаюцца. Карэту раздабылі таксама падобным спосабам, як Глазенапку, толькі, мусіць, яшчэ больш непрыстойным, які сведчыў аб бяспрыкладнай легкадумнасці расійскіх памешчыкаў-землеўладальнікаў у нашым краі, якія, зрэшты, станавіліся імі з ласкі ўрада задарма, у іх вецер свістаў у кішэні і русіфікацыя была сэнсам іх існавання. Яны мелі звычайна больш грошай, чым розуму, кіраваліся рознымі дзікімі фантазіямі і, адчуваючы сябе ў нас пералётнымі птушкамі, мянялі экіпажы, коней, дамы і маёнткі, як пальчаткі. Карэту, зусім новую, якая прыгожа блішчала блакітнай абіўкай і шліфаванымі шыбамі, купілі за нейкую смешна малую суму таму, што яна ўжо надакучыла ўладальніку і ён хацеў чагосьці іншага. Карэта была ўсярэдзіне поўнасцю з дамаску, падбітая, як шкатулка, ліставыя шыбы спускаліся на па-майстэрску вышытых тасёмках, а ззаду — аконца, праз якое было відаць дарогу, што бегла ўдаль. Яе чорны корпус – цудоўна лакіраваны — блішчаў як люстэрка, медная акоўка пералівалася залатым бляскам, а ўсё гэта разам абуджала ўва мне прыступы рабскага

захаплення. Я гладзіў рукамі і вачамі гэтыя аздабленні і ўпрыгажэнні з поўнай бескарыслівасцю будучага знатака вобразу і фарбы, і мне ўвогуле не прыходзіла ў галаву хваліцца карэтай як прадметам раскошы, якой нам, безумоўна, многія зайздросцілі.

Валоданне такімі экіпажамі патрабавала, вядома, адпаведнай збруі, і рымары па гэтай прычыне мелі ў нас шмат працы, падчас якой – у што на першы погляд цяжка паверыць – узнікала палітычнае пытанне. Справа заключалася ў тым, павінны быць хамуты рускія ці кракаўскія, бо англійскіх у нас яшчэ ўвогуле не ўмелі рабіць. Рускімі называлі простыя гладкія шоры, як тыя, што служылі для работы ў полі і для запрагання пад'ездкаў. Ужыванне кракаўскай збруі пасля паўстання 1863 года было забаронена, бо ў гэтым бачылі дэманстрацыю польскай асаблівасці. Але пазней забарона, не адмененая ўрадам, практычна з цягам часу ігнаравалася, і рагатыя «кракавякі» ўсё часцей упрыгожвалі конскія шыі дваровых запрэжак. Але немагчыма было ніколі ведаць, ці не захоча які-небудзь сквапны ўраднік зрабіць па закону і ці не прыцягне ўладальніка запрэжкі, які вядзе польскую прапаганду з дапамогай рагатага хамута, да грашовага пакарання. Бацька ўвогуле пазбягаў сутыкненняў з расійскімі ўладамі, але ў гэтым выпадку хацеў хутчэй рызыкнуць, чым адрачыся ад такога абавязковага дапаўнення да запрэжкі, і завёў кракаўскую збрую для экіпажа. Цэлых паўгода біўся над ёй рымар, працуючы ў вазоўні да позняй восені, і туды мяне пастаянна вабіў пах дзёгцю, які ішоў ад скураной сыравіны, што разразалася на рамяні, і пах смалы, якой аддавала дратва. Не трэба дадаваць, што толькі лакіраваныя скуры куплялі ў горадзе, бо бацька ўмеў кіраваць і гарбарскай працай, як быццам бы нічога іншага ў жыцці не рабіў.



***Двор у Чамброве з боку саду.*** *Здымак да 1926 г.*

Толькі цяпер я дабраўся да Шмаі, пра якога я хацеў расказаць раней. Апошняе слова пры заканчэнні экіпажа меў маляр-лакіроўшчык — адзіны яўрэй сярод рамеснікаў, паслугамі якога карыстаўся бацька. Яго звалі Шмая. Ён быў стары, барадаты, аброслы сівымі кудламі брудна-светла-жоўтага адцення, а над верхняй губой меў рабыя вусы, коратка абстрыжаныя і вечна ў тытуні. Ён за мілю пахнуў аліфай і кітам, а рукі і фартух у яго былі алеіста-зямлістыя, зашмальцаваныя тлустымі фарбамі. Асабліва пранізліва смярдзеў кіт, які здаваўся мне спецыфічна яўрэйскім пахам і быў патрэбны для шпаклявання дрэва перад пафарбоўкай. У пагодныя дні Шмая вылазіў з вазоўні, дзе меў сваю майстэрню, сядаў на пянёк ля сцяны і пачынаў расціраць фарбы на каменнай пласціне павольным і спрактыкаваным рухам, як бы выконваў нейкі таямнічы абрад. Затым ён выносіў з вазоўні кола, насаджваў яго на палку і фарбаваў у гранатавы колер, а калі фарба высыхала, упрыгожваў яго чырвонымі маленькімі лініямі, якія з каліграфічнай дакладнасцю выводзіў тонкім пэндзлікам. Чырвоныя палоскі — роўныя і зграбныя — аж гарэлі яскравым кантрастам на цёмна-блакітным фоне, які падкрэсліваў іх жывасць. Гэта маляванне здавалася мне верхам прыгажосці, я прыглядаўся да яго ў захапленні, поўным павагі, і быў вымушаны моцна трымаць руку за спінай, каб не паддацца спакусе дакрануцца да свежапафарбаваных месцаў і не заслужыць ад Шмаі наганяй. Шмая ў такіх выпадках не цырымоніўся і адкрыта казаў, што думаў пра дрэнна выхаваных дзяцей, калечачы беларускую мову сваім карава-шапелявым языком. Таму я глядзеў здалёк, захоўваючы вызначаную дыстанцыю, а Шмая паварочваўся да пліты і працавіта вадзіў па ёй паўкруглым каменем, падліваючы аліфу альбо падсыпаючы фарбу. Пад спіральнымі рухамі каменя фарба расплюшчвалася і змешвалася з аліфай, асядаючы па краях ліпкімі чырвонымі кругамі, якія шпатэль Шмаі зноў збіраў і падвяргаў далейшаму расціранню. Востры, прыемна раздражняючы пах шкіпінару, стары яўрэй, запэцканы па бялкі вачэй тлустым змазачным маслам, які трасе над каменнай плітой сваімі кудламі, мухі, што ўюцца над фарбамі і ліпнуць да пафарбаваных прадметаў, нарэшце, пурпуровыя палоскі, якія ўпрыгожвалі кола вясёлымі нотамі, — усё гэта на фоне белага муру вазоўні і яе цёмнага нутра стварала цэласнасць, якая прыцягвала незвычайнасцю і рабіла немалое ўражанне. Гэта было нешта абсалютна новае, нейкая цудоўная гульня з прыгожымі яркімі колерамі, якія давалі вачам невядомую высокую радасць, гэта было маляванне, прыдуманае наданне фарбаў рэчам, якія ад гэтага ставаліся весялейшымі і прыгажэйшымі. Гэта была ўжо справа не паўсядзённая, яна адрознівалася ад непрактычнай непазбежнасці і ахоплівала яшчэ чужую для мяне сферу мастацкага аздаблення, якую я ўжо, можа, адчуваў, уступ у прыхожую каляровага свету, які мяне так вабіў і абяцаў столькі радасці. Парабкі, што праходзілі міма, пасмейваліся са старога перамазанага яўрэя, але я глядзеў на яго з захапленнем, як на таго, хто валодае цікавым і каштоўным майстэрствам, і яго пахнучыя аліфай фарбы здаваліся мне нейкім асаблівым, вельмі прывабным выключэннем сярод аднастайных рэчаў, ужо добра знаёмых і даўно разгледжаных. А бацька, прыходзячы да вазоўні, праседжваў у ёй усё даўжэй, па меры таго як фарбаванне новага экіпажа набліжалася да канца, ён глядзеў з замілаваннем і гордасцю на сваё дзіця, здабытае з такой цяжкасцю, якое набывала заканчэнне ў руках маляра, і, рады, жартаваў з майстрам, злёгку пахлопваючы яго па зашмальцаваным халаце. Ра-

месніцкія майстэрні былі месцам, дзе ён ахвотна бываў і губляў сваю сярдзітую заклапочанасць, станавіўся мяккім і даступным. Там ён адчуваў сябе ў сваёй стыхіі, мог даваць выхад прыродным схільнасцям і займацца імі для адпачынку пасля працы на працягу цэлага дня.

Не менш часта бацька праседжваў у Аляксея ў калёснай, дзе выраблялiся колы, драбіны, плеценыя кузавы для экіпажаў і іншыя драўляныя канструкцыі. Гэта быў вялікі пакой у пякарні, які да гэтага займаў сталяр. Магчыма, ён першы ўвёў мяне ў сакрэты сталярнай справы і хутка пасля гэтага памёр. Аляксей быў чырвоны і васпаваты, але на яго твары, як прыклееная, заўсёды была пачцівая ўсмешка, у якой было шмат абаяльнай дабрыні і нават далікатнасці. Бацька вывеў яго ў калеснікі з парабка, а пачынаў сваю кар'еру Аляксей з падпаска, ці памочніка пастуха. Нічога не ведаючы пра цэхавых вучняў, бацька прысвоіў сабе іх прынцыпы. Калі ён заўважаў у селяніна нейкія здольнасці ў пэўным кірунку, то даваў яму магчымасць абцерціся і падвучыцца ў адпаведнага рамесніка, моцна надзіраў яму вушы і ў канцы звычайна рабіў з яго спецыяліста, які меў забяспечаны кавалак хлеба. Падобна было і з кульгавым Янкам. Яго імя даўно было таямніцай, бо ніхто не называў яго інакш як «кавалём», а ў прыступе злосці «кульгавым чортам», можа, таму, што сваё рамяство ён пачаў з дзіцячых гадоў і яго не памяталі інакш чым абсмоленага, як не божае стварэнне, і падпяразанага чорным фартухом. Каваль быў заўсёды маўклівым і панурым, трымаўся ўбаку, мала кантактаваў з чэляддзю, але затое працаваў заядла і належаў да тых, каго не трэба было пільнаваць або падганяць, хоць тэмп гэтай работы быў павольны і нязначны. Ужо здалёк, падыходзячы да кузні, было чуваць, як гучна звінела жалеза пад ударамі молата каваля.

Кузня знаходзілася ў канцы саду пад залкай, і ў яе ўваходзілі праз глыбокі чорны роў, як у нейкую д'ябальскую пячору, схаваную ў падзямеллі. Для мяне гэта было адно з самых цікавых месц у двары, багатае на харч для фантазіі. Усё там было дымнае, змрочнае, прыцемненае, бо вокнаў не было ўвогуле і святло давалі толькі адчыненыя дзверы і вугальнае вогнішча, распаленае дачырвана, якое раздзімалі скрыпучыя мяхі. Усярэдзіне ўсё было засыпана вугальным пылам і сажай, якая тоўстым слоем пакрывала жалезныя вырабы, што стаялі ў куце: шасты, колы і іншыя прадметы, якія выглядалі крыху падобна на прылады сярэднявечных катаванняў. На гэтым поўным настрою фоне каржакаваты каваль з нізкай квадратнай фігурай на выгнутых дугой нагах — сапраўдны міфалагічны Вулкан — вырысоўваўся цвёрдым сілуэтам, як быццам узяты з паўночнай байкі. Ён хапаў абцугамі жалеза, уціскаў яго паміж амаль патухлым шлакам, прыводзіў у рух мяхі і распальваў агонь. Подых паветра з гудзеннем агортваў вуглі і ўвенчваў іх сінімі язычкамі полымя, а жалеза паступова распалялася, чырванела, бялела і, нарэшце, станавілася іскрыстым цэнтрам, які свяціўся сам па сабе, які палаў магутным бляскам, рэзаў і асляпляў вочы, засланяў усялякую іншую бачнасць навокал і ўсю кухню напаўняў спякотным свячэннем. Калі жалеза пачынала так свяціцца, каваль даставаў яго з агню і пераносіў на кавадла як нейкую цудоўную жывую рэч, якая выпраменьвала наўкола ружовае зарава і сыпала залатымі іскрамі. Тады ён з закасанымі рукавамі падымаў молат, напружваў мускулы тоўстага пляча і з тугім размахам апускаў яго на распаленае жалеза. А калі ён удараў малатком, уздымаўся дождж іскраў і акружаў рухавым арэолам злітак, які свяціўся, а ён пад ударамі малатка пакрываўся цёмным крывавым налётам, скруч-

ваўся, як вуж, і пераўтвараўся ў руках сілача, аж пакуль, нарэшце, выгнуты, выкаваны малатком да пажаданай формы і кінуты ў ваду, не шыпеў і не сквірчэў у воблаках белай пары, як бы скардзячыся на ўчынены гвалт. І ўжо нічога не заставалася ад нядаўняй прыгажосці ў гэтым астыўшым кавалку чорнага метала, абабітага молатам да вуглаватай формы, якой толькі напільнік павінен быў надаць канчатковую гладкасць. У кузні зноў рабілася цёмна, і адчувалася туга па патухшай карціне, хацелася ізноў бачыць гэтыя чырвоныя і залатыя колеры, вогненна прасветленыя, што свяціліся ў змроку крывавым бляскам, і сачыць за палымянай гульнёй агню і жалеза ў руках «кульгавага чорта», які свяшчэннадзейнічаў у суровым маўчанні, выконваючы свае таямнічыя дзеянні. Быў нейкі стыль у гэтым дамарошчаным Вулкане, які пазбягаў людзей і жыў запанібрата з агнём у падземнай пячоры. Я не раз бачыў яго такім і назіраў, а яшчэ часцей прыходзіў да яго бацька, каб паглядзець, як пасоўвалася работа, і прыкінуць, як хутка яна будзе скончана. Але ён стрымліваў у сабе нецярплівае жаданне, бо ведаў, што каваля нельга прыспешваць, бо ён робіць усё, што можа.

Прыхільнасці бацькі займалі, зрэшты, значна шырэйшую сферу, чым выраб экіпажаў і мэблі, бо датычылі ўвогуле ўсяго вясковага будаўніцтва. Гумнішча было пастаянна завалена сасновымі калодамі і бярвеннем, засыпана трэскамі і пілавіннем, а воддаль у павеці сушыліся дошкі, складзеныя трохвугольнікам, ці ўзвышаліся гарой іншыя матэрыялы больш высакароднага гатунку, як дуб на спіцы, ясеневыя і бярозавыя дылі для сталярных работ, дубовыя восі для рабочых вазоў ці драбін і да таго падобныя рэчы. Плотнікі і пільшчыкі мелі ў нас пастаянны занятак, першыя апрацоўвалі будаўнічы матэрыял, часалі яго і склютавалі[10], а другія пілавалі дошкі, запарушваючы жоўтым пілавіннем, якое пырскала сыпучым струменем з-пад ядавіта-хрыплай пілы. Яе бліскучае зубатае вастрыё ўгрызалася з бяслітаснай дасканаласцю ў сярэдзіну калоды, ўздымаючыся і ападаючы згодна з рухамі пільшчыка. Ніжні пільшчык, узяты ў раму стаяка, ківаўся размерана, а верхні, што стаяў на версе калоды, выцягнутымі рукамі трымаў ручку пілы і запускаў яе ў дрэва рашучым, амаль раз'юшаным рухам, як бы страсаў нешта ў бездань. Такім, ва ўсялякім разе, было маё ўражанне, калі я да іх прыглядаўся.

Я ўвогуле любіў круціцца там, дзе апрацоўвалася дрэва, прыцягнуты яго формай, высакародным колерам і смалістым пахам, які я з прыемнасцю ўдыхаў, пры гэтым не прапускаў ніводнай магчымасці пэцкаць сабе рукі і вопратку кропелькамі празрыстай жывіцы, якая выступала на пнях і на дошках. Канцэнтрычныя слаі папярэчнага зрэзу калоды, чырванеючыя на светла-жоўтым фоне, падобным да слановай косці, мелі для мяне нешта прыцягальнае, як быццам бы тканкі жывога арганізма, і схілялі да падлічвання ўзросту дрэва і ўяўлення, што рабілася ў тыя часы, калі яно расло маладое, якія-небудзь сто гадоў назад альбо і больш. Шырокія хвалістыя пражылкі дошак, разрэзаных уздоўж, забаўлялі вока багатым сіметрычным узорам, вырысоўваліся апельсінавым малюнкам на крэмавым фоне, і калі на сонцы пачыналі серабрыцца кропелькі жывіцы, тады здавалася, што дошка жыве, адчувае і адорана здольнасцю плакаць сярэбранымі слязамі. Драўляную масу, з якой сталяр ствараў розныя геаметрычныя формы, я разглядаў, зацікаўлены якой-небудзь пластычнай матэрыяй, якую можна было дзяліць, кроіць, нада-

---

[10] Склютаванне – апрацоўка цяслярскай сякерай.

ваць форму і складваць у адвольныя формы паводле ўласнага жадання. Гэтыя магчымасці мелі ў сабе нешта дзівосна-пераканаўчае для мяне, што нагадвала пра нейкі невядомы раслінны свет, хоць, вядома, яны зусім не вязаліся з практычным прызначэннем гэтых прадметаў.

І вось я зноў успомніў рэальнае аблічча майго акружэння і сапраўдныя намеры тых, хто ім кіраваў. Нібы на палях рэчаіснасці, з любоўю ткаў я ўзоры ўласнай фантазіі, якая не мела нічога агульнага з гэтым акружэннем. Відавочная рэч, што ў такіх умовах я не мог дагадзіць бацьку, ані спраўдзіць яго патаемныя жаданні, каб я набраўся ахвоты да сельскай гаспадаркі і стаў яго памочнікам і нашчадкам. Відаць, гэта не было мне напісана лёсам, і мае паводзіны не пакідалі бацьку найменшых ілюзій з гэтага пункту гледжання, што з'яўлялася яго пастаянным клопатам. Я меў у Асташыне сваю «гаспадарку» і пра яе я менш за ўсё забываў, яна знаходзілася тут, побач з бацькоўскай, але ў цалкам іншым вымярэнні, чым таго б хацеў мой бедны бацька, — у чацвёртым вымярэнні паэтычных пачуццяў. І так ужо засталося назаўсёды — адзін да Саса, другі — да лесу, мы ўжо ніколі не зразумелі адзін аднаго.

Бацька ўставаў летам і зімой нязменна ў чатыры гадзіны раніцы, каб асабіста назіраць, як кармілі і даглядалі жывёлу. Не раз ён казаў, што «ад вока пана конь тлусцее», і штодня пацвярджаў слушнасць гэтай прыказкі з самым лепшым вынікам. Ён заўсёды прысутнічаў, калі задавалі корм альбо калі выганялі быдла на пашу, сам распараджаўся штодзённай працай парабкаў і наёмных рабочых. Эканом быў толькі выканаўчым памочнікам, але кожнай важнейшай работай ён кіраваў сам аж да канца, забываючыся пра ўласны час, і сачыў, каб работнікі не марна-



***Сядзіба ў Навадворцы.*** *Здымак 1906–1911 гг.*

валі часу. Яго адносіны да сялян былі справядлівымі і па-бацькоўску добразычлівымі, але таксама суровымі і патрабавальнымі, бо бацька яшчэ добра памятаў часы паншчыны і ведаў навылёт першую натуру нашага селяніна, якая патрабавала клапатлівай, але і рашучай рукі, якая ўмела і ўзнагароджваць, і караць, калі трэба. Ніколі, аднак, ён нікога не ўдарыў і не пакрыўдзіў, а суровасць яго грунтавалася, уласна кажучы, больш за ўсё на жорсткай форме, на гнеўных вымовах, страшных толькі для навічкоў. Бацька быў занадта добры, каб зрабіць каму-небудзь нешта сапраўды прыкрае або шкоднае, а гвалтоўнасцю сваіх выбухаў ён шкодзіў толькі сам сабе, бо ў такіх выпадках нерваваўся, крычаў так, што было чуваць за вярсту, біў сябе кулакамі ў грудзі так, што аж гудзела, і амаль траціў прытомнасць, чым, напэўна, шкодзіў свайму здароўю, хоць быў такі здаровы на выгляд. У момант кульмінацыі яму займала дух, ён кідаў на зямлю шапку ці ўсё, што трымаў у руках, нямеў і, калі наступала рэакцыя, ён хутка пасля гэтага лагоднеў; наступала разрадка і супакойванне, а справа, якая выклікала гэта, уладжвалася справядліва і з усёй скрупулёзнасцю. Бацька хутчэй бы дапусціў, каб пакрыўдзілі яго, чым іншага, быў настолькі выключна добрасумленны, і шырока вядомы сваёй добрасумленнасцю, і шчыра паважаны.

Адносіны бацькі да сваіх яўрэяў былі трохі іншыя, чым да сялян. Нягледзячы на тое, што яму не маглі быць чужымі адмоўныя адносіны да яўрэяў, бо з-за іх махлярстваў і эксплуатацыі іншых людзей такімі яны былі паўсюдна, ён, аднак, ставіўся да іх справядліва і па-людску, толькі з пэўным свавольным і іранічным адценнем, якое адпавядала агульнаму настрою. Яўрэяў у нас наогул не столькі, можа, не любілі, колькі пагарджалі і кпілі з іх. Гэта былі адносіны, якія характарызавалі кожнага пачцівага і працавітага селяніна да паразітуючага пасрэдніка, які ўхіляецца ад працы і адказнасці, а толькі гоніцца за лёгкім хлебам і жыве неахайна і стадна, адарваны ад прыроды. У народнай прымаўцы «жыд не бачыць сонца» адбіліся найлепш і найяскравей адносіны селяніна да яўрэя, адносіны талерантна-крытычныя, не пазбаўленыя пэўнага панскага жэсту. Меў яго і мой бацька, і ў яшчэ большай ступені, але гэта не перашкаджала яму кіравацца ў адносінах да яўрэяў не толькі непрадузятасцю, але нават уваходзіць у іх становішча. Калі гаварылі пра майго бацьку, яўрэі з адабрэннем цмокалі і выкрыквалі са згодай: «Уй, гэта акуратны і прыстойны чалавек! З ім можна гандляваць». І бацька ставіўся да іх чалавечна, але звяртаўся іранічна і непрыязна. Ён меў, напрыклад, асабістага шаўца Давыда з Валеўкі, які прыязджаў з уласнай швейнай машынай і праседжваў у нас цэлымі тыднямі, шыючы ў гасцінным пакоі, што прылягаў да сталовай, і напаўняючы яго спецыфічным пахам пратраўленай цыбулі. Дзякуючы гэтай блізкасці, я часта меў магчымасць прыглядацца да Давыда і адзначаць, як адметна відаць па ім адносіны бацькі да яўрэйскага племені, адначасова па-шляхецку насмешлівыя і па-хрысціянску міласэрныя.

Давыд быў нізкі, худы, з запалай груднай клеткай, з бледным тварам, шчуплым і празрыстым, як бы выразаным з воску, і з барадой — густой і салідна доўгай, нягледзячы на малады ўзрост, — тыповы яўрэйскі маламестачковы хіляк, які церпіць бяду і нястачу і абсыпаны паўтузінам бахуроў (дзяцей). Барада яго была нейкай ільняной, крыху славянскага колеру, хоць і з лёгкім рыжаватым адценнем, і прыгожа абрамляла яго мізэрнае аблічча. Пры гэтым яна ляжылася маляўнічай хваляй, бо была без каракулева-негрыцянскіх завіткоў, якія сустрака-

юцца ў яўрэяў-брунетаў афрыканскага паходжання. Трэба памятаць, што тагачасныя прававерныя яўрэі не ўжывалі брытвы або нажніц для сваіх валасоў і дазвалялі ім дзіка расці, і гэта неахайнасць нават падтрымлівалася рэлігійным, нацыянальным яўрэйскім рытуалам. Таксама і наш Давыд быў цалкам рытуальна зарослы, і здавалася, што ён расходуе ўсе жыццёвыя сілы на выпрацоўку поўсці валасоў за кошт мяса і тлушчу. Бясконца ветлівы і прыніжаны, ён гаварыў прыглушаным і нясмелым голасам, як быццам бы ў бесперапыннай спешцы, і пры гэтым з нейкім смешным, па-дзіцячаму шапялявым акцэнтам. Асабліва ён нізкапаклоннічаў перад маім бацькам і палохаўся кожны раз, калі той адзываўся. Такое, ва ўсялякім разе, ён ствараў уражанне, бо там было, я ўпэўнены, нямала прыкідвання, як вынік хітрага разліку. Давыд апранаўся ў паласатую камізэльку з дзіўна звісаючымі тасёмкамі і замызганы мешкаваты халат няпэўнага колеру, які даходзіў яму аж да пят. Апрача машыны ён прывозіў сабе запас шпулек з ніткамі, гузаваты напарстак з адрэзаным канцом і вялікія цяжкія нажніцы для разразання тканін, якія вы-глядалі хутчэй як прылады для катавання, прыдатныя для адразання людскіх галоў. Цэны за работу вызначаў нібыта бацька, хоць Давыд заўсёды ў канцы выпрошваў столькі, колькі сам хацеў. Я памятаю, што за пашыў гарнітура яму плацілі тры рублі, што было не так мала ў тыя часы дарагавізны грошай і таннасці тавараў, калі за тры рублі можна было купіць пару ботаў. Для формы бацька пытаўся ў Давыда, колькі «ён кажа яму заплаціць за дадзеную работу», а той скурчваўся пакорна, устрымліваўся пакуль што ад вызначэння цаны, нібы аддаючыся «на панскую ласку». Але гэта не перашкаджала яму потым пратэставаць, калі «ласка» акрэслівала суму занадта малую паводле яго меркавання, таму ён рабіў смешны прасіцельны выраз твару, складаў у роспачы рукі, хапаўся за бараду і прысягаў усімі Майсеевымі святынямі, што яму робяць велізарную крыўду. Ён стараўся любой цаной выгандляваць вышэйшую аплату і падняць кошт сваёй даволі халтурнай работы. «Уй, паноцік, дальбог затанна, каб я так быў здароў, што гэта будзе мая крыўда», — заводзіў ён адчайна і спазматычна, але ў канцы гладка браў грошы, якія яму давалі, бо толькі тады прыходзіла дапаўненне да аплаты ў натуры. Давыд паціраў рукі, аж у яго хрусцелі суставы, цмокаў бацьку ў манжэт і ліслівым шэптам, з кацінай усмешкай, выпрошваў у яго якую-небудзь «дробязь» – пару мяхоў бульбы, васьмушку[11] жыта ці іншага збожжа і таму падобныя прадукты, што часам шмат перавышала недаплачаную быццам бы розніцу. Але гэта бацька ўжо дадаваў па добрай волі, ад чыстага сэрца, хоць такім чынам ён плаціў, безумоўна, нашмат даражэй, чым узяў бы добры кравец з горада. Што было сваё, дамашняе, тое не лічылася і, нягледзячы на ашчаднасць, раздавалася таму, каму патрэбна, шчодрай і ахвотнай рукой. Такія ўжо былі абое мае бацькі.

Неяк аднойчы выцыганіў Давыд у бацькі вялікую колькасць гароху, але яму не ўдалося здабыць фурманку, бо ўсе коні былі ў раз'ездзе. Вясенняя дарога пачынала расклейвацца, і яўрэй, хітры і скупы, наняў нейкага дурнога вазніцу са здохлай клячай, наклаў поўны воз і пасунуўся з гэтым цяжарам на клейкія райчанскія глiністыя дарогі, дзе колы гразлі ў балоце па вось. Вядома, ён меў без меры прыгод, амаль не

[11]Васьмушка – мера збожжа на Літве, каля 18–20 гарнцаў. Новы польскі гарнец складаў каля 4 дм$^3$.

ўтапіўся ў нейкім прыдарожным рове, потым воз заграз ізноў і трэба было здымаць мяхі, выносіць іх на сухое месца. Яўрэй ледзь не надарваўся, цягаючы важкія мяхі, бо рукі меў малыя і далікатныя, як жанчына, быў вымушаны заначаваць у полі, і толькі рана чуць дасунуўся да Валеўкі, пасыпаючы дарогу гарохам з падраных мяшкоў і праклінаючы сваю няшчасную долю. Пра гэтыя свае славутыя цяжкасці ён расказваў потым са слязамі ў вачах, забываючы, што атрымаў воз гароху задарма і што яго аповед быў для слухачоў хутчэй смешным, чым трагічным. Пры гэтым ён церабіў залацістую бараду, праклінаў і гарох, і сваю хітрасць, а мы слухалі з паўусмешкай Давыдавы жальбы, не ў стане пазбавіцца ад уражання высокага камізму, якое абуджала яго худая і жаласлівая асоба. Нямала кпіў з яго й бацька і не раз добра крычаў на яго за сапсаваную работу, але, тым не менш, адчуваў нейкую слабасць да пакорнага краўца, хоць нібыта гневаўся на яго і абзываў яго рознымі жартаўлівымі мянушкамі. У канцы, аднак, заўсёды шкадаваў яго і дапамагаў, адорваючы вышэй за яго заслугі, бо ведаў, што кравец бедны, абсыпаны «бахурамі», якія не надта што маюць з'есці. Добрае бацькава сэрца заўсёды было чуйным і пад калючымі кіпцюрамі таіла шмат чуйнага спачування да людской бяды.

У бацькавай гаспадарцы важнае месца займала пчалярства. Яно дало пачатак вытворчасці рамачных вуллёў, якая займала пачэснае месца сярод асташынскіх сталярных вырабаў. Рамачныя вуллі былі ў нашых краях яшчэ невядомыя, бо наша прымітыўнае пчалярства здавальнялася звычайнымі калодамі. Штогод з іх выдзіралі мёд разам з воскам з вялікай шкодай для пчальніка, бо пчолы замест мёду павінны былі кожны раз пасля таго, як дастануць мёд, занава выраблядь васковыя соты. Бацька адным з першых недзе пазнаёміўся з прынцыпамі рамачнага вулля і адразу зразумеў выгаду і ашчаднасць новай сістэмы, пры якой пчолы атрымлівалі старыя васковыя соты пасля цэнтрыфугавання з іх мёду, і не трэба было губляць час на стварэнне новых. Ён дастаў адзін вулей для ўзору, пагаварыў у сталярні з Аляксеем і пачаў будаваць вуллі з такім запалам, што хутка ўвесь наш пчальнік складаўся з сучасных рамачных вулляў, калярова пафарбаваных, а старыя калоды пайшлі на дрывотню. Не ў стане сам скарыстаць усе зробленыя вуллі, бацька пачаў дарыць іх у Чамброў і Шчэпаўшчыну, але яму нават не прыйшло ў галаву прадаваць іх за грошы. Грошы ў нас можна было браць толькі за сырыя прадукты сельскагаспадарчага паходжання, і то хутчэй толькі ад купцоў-яўрэяў, але ніколі за ўласную работу ад сваіх. Хутка ўся ваколіца прызнала важнасць гэтай рэформы пчалярства і ўвяла яе ў сябе: бацька радзіў, вучыў, пазычаў рамкі, не атрымліваючы з гэтага, аднак, ніякай матэрыяльнай карысці.

Але гэта яшчэ не ўсё. Для таго каб апаражніць рамкі з мёдам, патрэбна была цэнтрыфуга, хуткія абароты якой аблягчалі б гэта выдаленне; але гэта была каштоўная рэч і яе нават немагчыма было набыць у малых гарадах. І тут бацька мог даць сабе рады: ён паглядзеў на малюнку на мадэль такой цэнтрыфугі, пасля доўгіх пошукаў дастаў недзе пры аказіі вось і трубы, рэшту жалезных дэталяў і саму кадку зрабіў дома і хутка цэнтрыфугаваў мёд з рамак, выклікаючы здзіўленне і зайздрасць суседзяў. Нават і я не быў абыякавы да дзейнасці цэнтрыфугі, у якой мяне цікавіла не толькі салодкае начынне васковых рамак, але і трансмісія паваротных рухаў усярэдзіне. Прыемна было глядзець на правільныя ячэі воску, якія ўтваралі ў рамках клятчастыя сценкі з дзівоснай

рэгулярнасцю, і на ліпкія бліскучыя кроплі мёду, які выплываў з іх пад уздзеяннем цэнтрабежнай сілы і паволі сачыўся ў падстаўленую скрыню важкім бурштынавым ручаём. Мёду мелі мы шмат і прадавалі яго пудамі за бясцэнак, бо цана была ніжэйшай, чым каштаваў цукар, а пчолам хапала, чым жывіцца, бо ў садзе было мноства ліп і жоўтай акацыі, і ў пару цвіцення дрэў іх пакрывалі пчолы і гудзелі суцэльным гулам. Апрача гэтага бацька сеяў грэчку і белую канюшыну, якую асабліва любілі пчолы: калі гэтыя палі зацвіталі, там аж роілася ад пчол, а подых ветру прыносіў хвалі мядовага паху, пахучы солад якога адчуваўся нават пры ўдыханні.

Самай эмацыянальнай падзеяй на бацькавым пчальніку было летняе раенне пчол. Тады ў двары рабіўся страшны гвалт: усе крычалі і беглі, як ашалелыя, на чале з бацькам куды-небудзь у сад ці ў поле. Увесь двор ахопліваў настрой сенсацыі. Сустракаючы каго-небудзь па дарозе, бацька кідаў кароткія і знамянальныя словы: «Рой выйшаў» — і бег далей. Гэта азначала, што нашы пчолы выраіліся, раздзяліліся ў нейкім вуллі на дзве часткі і вылецелі шукаць сабе новае гняздо разам з новай маткай. Рой трэба было падпільнаваць, злавіць яго і асадзіць на месцы ў вулей, каб не змарнаваўся ці не паляцеў дзе-небудзь далей да суседзяў, бо кожны быў сквапны на такую res nullius[12] і меў права прысвоіць сабе рой, які асеў на яго зямлі. Такі рой выглядаў як чорная хмарка, якая ляцела ў паветры збітай грамадой з гулам і хрустам, а за ёй беглі людзі з фартухамі, сітамі, як быццам бы па грыбы ці арэхі, задзіралі галовы, махалі рукамі і ўвогуле паводзілі сябе вельмі забаўна. Напера-

[12] Нічыйная рэч (*лац.*).



***Чамброў. Сыраварня, якую называлі таксама лядоўняй.*** *Здымак да 1926 г.*

16. Зак. 297.



***Чамброў. З правага боку — гумно, з левага — аўчарня.*** *Здымак да 1926 г.*

дзе бацька нёс у руцэ бляшаную курылку, у якой тлеючая губка выдзяляла шмат дыму. Як толькі рой ападаў на зямлю, бацька падкурваў яго і пазбаўляў кіраўніцтва, а пасля таго як зловяць матку, пчолы дазвалялі збіраць сябе рукамі і пераносіць у падрыхтаваны вулей. Калі, удала асадзіўшы рой, бацька вяртаўся дадому, ён быў задыханы і разгарачаны так, што ледзьве трымаўся на нагах, але ўсміхаўся пераможна і з задавальненнем аб'яўляў, што пчальнік павялічыўся яшчэ на адзін рой і налічвае ўжо столькі і столькі вуллёў. У канцы бацька, здаецца, дайшоў да дваццаці, і ўсё з большай стараннасцю займаўся сваім пчальніком, але я глядзеў на гэта раўнадушна, не ў стане звязаць раенне пчол са смачным пахучым мёдам, якім мне намазвалі хлеб на падвячорак. Аднак саму лоўлю рою я лічыў даволі займальнай, бо яна мела выгляд гульні і нагадвала мне маю любімую пагоню за матылямі.

Выбіранне мёду адбывалася два разы ў год: у сярэдзіне лета і ўвосень. Бацька рабіў гэта ўласнаручна, бо любіў пчалярства, ведаў яго і ніколі б не даверыў чужым рукам такой важнай работы. Ён толькі часам браў сабе на падмогу асаблівага спецыяліста — дзяка з Любаніч[13], які славіўся на ўсю ваколіцу як знаўца і аматар пчалярства. Я ўжо не памятаю, як звалі гэту напаўдухоўную праваслаўную асобу, якая адпавядала нашаму рызнічаму. Нам замест імя дастаткова было яго становішча, і на яго гаварылі папросту «дзяк». Дзяк меў кірпаты твар селяніна-велікароса з выступаючымі касцямі і папярэчнымі шчылінамі замест вачэй, насіў палатняную «рубашку», моцна сабраную ў складкі і падпяразаную поясам, а таксама доўгую і неахайную бараду, якая тырчала ва ўсе бакі. Ён размаўляў па-руску ўжо напалову па-сялянску і па прыродзе сваёй быў пачцівым чалавекам, закаханым у прыроду і ў пчол, і жыў з імі ў сапраўдным брацкім паразуменні. Ідучы на пчальнік, ён не апранаў ахоўнай сеткі і рукавіц, ішоў з голымі рукамі і адкрытай галавой паміж самымі раз'юшанымі пчоламі, і яны ўвогуле яго не джалілі, наадварот, лазілі па ім, як мухі. Ён смела браў іх у рукі, здымаў з сябе і клаў убок, перакананы, што пчолы ведаюць яго добрыя намеры і нічога яму не зробяць. Ён здаваўся чараўніком, які ўмеў заклінаць гэтых насякомых, як на поўдні закліналі змей. Пры гэтым ён любіў разважаць на тэму сваіх любіміц. «Пчолы, — казаў ён з павагай, — гэта не дурная муха, якая толькі дарэмна лятае, пчолы працуюць і ведаюць, хто ім дапамагае ў працы, ведае іх звычаі і жыве з імі ў згодзе». І ён уваходзіў без страху ў самы гарачы рой, мармытаў расчуленыя апастрофы, хаваючы ў пасмах барады замілаваную ўсмешку. Валасаты, бронзава-загарэлы, з парытым глыбокімі барознамі тварам, падобным на кару старога дрэва, апрануты ў зрэбнае адзенне — дзяк свабодна хадзіў паміж вуллямі пад галінкамі яблыняў і рабіў уражанне нейкага гратэскнага святога Францішка — бедалагі з Асізы — і меў у сабе сапраўды нешта стыльнае. Я мог гэта ацаніць, бо у нас дома ў спальным пакоі вісела іконка святога, які размаўляў са звяркамі.

Такі майстар, вядома, быў аўтарытэтам нават для майго дасведчанага бацькі, і ён рады быў запрасіць яго на важнейшыя падзеі ў пчалярстве. Сам бацька апранаўся ў шчыльна зашпіленую куртку, надзяваў рукавіцы, абвязаныя на кісцях рук шнуркамі, і капялюш, абшыты густой ахоўнай сеткай, а яго памочнік проста ўлазіў з галавой у сіта, абвязанае

[13] Любанічы – мястэчка ў Бабруйскім павеце над Любанкай, каля 10 км на поўнач ад Бабруйска.

палатном. Але дзяк ніколі не зганьбіў бы сябе такімі абразлівымі пе-расцярогамі, ён ішоў, як стаяў, з поўным даверам да пчалінай грамады, і трэба прызнаць, што не зведаў ад іх расчаравання. Затое іншых пчолы джалілі неміласэрна, асабліва прахожых і зявак, якія траплялiся на шляху іх пералёту ці падыходзілі заблізка да вуллёў. Падчас выбірання мёду пчолы былі звычайна раздражнёныя і кусачыя, разляталіся ў шырокім радыусе, таму ніколі не абыходзілася без успухшых твараў і завастрыў-шыхся насоў, якія выклікалі смех у тых, хто пазбег быць пакусаным. Вельмі смешна выглядалі тыя, на каго нападалі пчолы, асабліва жанчы-ны: яны ўцякалі з піскам, махаючы рукамі і хапаючыся за галаву, але ўсё гэта не дапамагала, наадварот, яшчэ ўзрастала заядласць пчол. Пас-ля таго як скончаць выбіраць, здабычу пераносілі ў альтанку ў садзе недалёка ад прыбудоўкі, дзе ўстанаўлівалі цэнтрыфугу і апаражнялі ў яе скрыні, нагружаныя рамкамі з мёдам, прычым дзяк спрачаўся з баць-кам, каб вытаргаваць большы запас мёду для пчол, калі гэта была во-сень, бо яго больш цікавілі пчолы, чым людзі.

Асоба дзяка звязвае гэтыя пчалярскія ўспаміны з садовымі: са збіран-нем вішняў у бацюшкі ў Любанічах, там, уласна кажучы, дзе дзяк вы-конваў сваю службу. У Асташыне вішняў было няшмат, але іх колькас-цю славілася ўся любаніцкая вёска, і асабліва бацюшкін сад на плябаніі ля царквы. Бацюшка Кезевіч быў таксама стары, светла-русы і барада-ты, як дзяк, і, бадай што, не саступаў яму ў некультурнасці і манерах, а гэта быў час, калі бацюшка разам з настаўнікам вясковай школы і з паліцыяй трэслі павет і маглі зрабіць шмат шкоды польскім памешчы-кам. Пра жудасную грубасць і дзікасць гэтых людзей можа сведчыць наступнае здарэнне, якога я сам быў тады сведкам.

Бацюшка Кезевіч прыехаў да нас па справе і быў запрошаны на абед, бо гэта было ў звычаі маіх бацькоў — аказваць такую пашану кожнаму прыезджаму. Было гарачае лета, і на стале пасярэдзіне стаяў вялікі графін вады ў акружэнні шматлікіх шклянак. Бацюшка, які адчуваў смагу, працягнуў руку да графіна, але ў тую ж самую хвіліну адсунуў назад і, хочучы быць «добра выхаваным», ветліва запытаў бацьку: «Извините, а может быть, это водка?» Сядаючы за стол з маімі бацькамі, настаўніцай і малым дзіцем, гэты расійскі дзікун палічыў магчымым, каб на стале для нас (а можа, для яго) быў падрыхтаваны гарнец га-рэлкі, і гэта не побач, а замест вады, бо другога графіна не было на стале. Але, пры ўсёй сялянскай непрыстойнасці, гэта быў у аснове сваёй добры чалавек, мяккі і спагадлівы: ён не займаўся палітыкай, у царкве аддаваўся выключна «богомолью», а рэшту часу прысвячаў садавод-ству, якое вельмі любіў. Як у галоўцы маку, падабраліся бацюшка-сада-вод і дзяк-пчаляр і, бадай, яшчэ лепш хвалілі Бога ў садзе, чым пад царкоўным дахам.

Паколькі бацюшка меў адборныя вішні ў вялікай колькасці і ахвотна прадаваў іх за нішто, не ведаючы, што з імі рабіць, бацька заключаў з ім які-небудзь аптовы дагавор на абмен і забіраў іх на варэнне. У дамоўле-ны дзень мы ўсім дваром рабілі наезд на бацюшкаў сад і, узброеныя кошыкамі і шастамі, пачыналі штурмаваць вішні. Дрэвы былі імі абця-жараны так, што галіны хіліліся да зямлі і самі падавалі ў вусны спелыя ягады, якія пырскалі цёмна-крывавым сокам. За чарнатой ягад амаль не было відаць лісцяў, а самыя салодкія ягады, пачатыя восамі, мы з'ядалі перш за ўсё. Вішань, зразумела, не шкадавалі нікому, і кожны еў, колькі хацеў, аж пакуль яму не абрыдне. Прыемна было валандацца па садзе

ад дрэва да дрэва і аб'ядацца ягадамі, ад якіх рукі рабіліся чырвоныя, а вусны і зубы чорна-сінія. Калі нам хапала, бацюшка запрашаў нас на падвячорак, накрываў стол у самім садзе і частаваў — літаральна — малаком і мёдам. Малако падавалі ў вялікім чорным гладышы[14], жытні хлеб наразалі проста з вялікага бохана, які яшчэ пахнуў печчу і аерам, а мёд у глінянай місе ўзвышаўся залацістымі пластамі, з якіх сцякалі густыя кроплі, якія прасвечваліся на сонцы. Над сталом віліся пранырлівыя восы, прываблeныя мёдам; іх адганялі галінкай, капалі бурштынавым дажджом на скібку хлеба і запівалі малаком гэту салодкую ежу, якая была смачнейшай за найпершыя прысмакі. Мы вельмі любілі гэтыя вішнёвыя паездкі і бацюшкін пачастунак, які быў падобны да маёўкі. Даўгавалосы і даўгаполы бацюшка ў попельнай расе аж да зямлі, падобны да праваслаўнага святога з царкоўнай іконы, прымаў гасцей у сваёй плябаніі, багатай малаком і мёдам, а калі мы ад'язджалі, насычаныя забавамі і падвячоркам, ласкава перахрышчваў нас на парозе свайго дома і запрашаў, каб мы ізноў калі адведалі яго.

Калі ўжо гаворка пра садавіну, то трэба сказаць, што ў Асташыне ў ёй не было недахопу, бо бацька клапаціўся пра добрыя гатункі яблыкаў і, не спыняючыся на вялікім садзе за жывёльным дваром, заклаў у год майго нараджэння, як патрабавала сямейная традыцыя, другі сад за пякарняй, і ён праз восем гадоў даваў ужо добрыя ўраджаі. Малін, трускалак, парэчак і агрэсту там было мора, а ў парніках вырошчвалі розную раннюю гародніну, таму што мы прывыклі да вялікай колькасці зеляніны, ягад і садавіны і з'ядалі іх у велізарнай колькасці пад любой зачэпкай. Здаровае і звыклае ласаванне было, зрэшты, звязана з уласнаручным збіраннем і зрываннем, і ў гэтым была самая вялікая прыемнасць. У малым дзіцячым маштабе гэта быў такі самы спорт, як паляванне. Якая была раскоша — вольна поўзаць па малінавым гушчары, які рос вышэй галавы дарослага чалавека, і выглядаць самыя спелыя, самыя чырвоныя ягады: салодкія, набухлыя сокам — яны расплываліся на вуснах і паміж вуснамі, не раз зрываліся з куста! І адчуваць сябе нябачным, затаіўшыся ў недаступным схованішчы, адным словам, мець гэта найбольш хвалюючае для дзіцяці пачуццё, што яно схавана, і з гэтага сховішча сачыць за ўсім, што рабілася наўкола, стрымліваць у сабе неадольнае жаданне выбухнуць гучным смехам, душыцца ад стрыманых прыступаў і, нарэшце, у пэўны момант выскачыць з засады і напалохаць каго-небудзь з прахожых, шалёна, няспынна смеючыся!.. Здаровы дзіцячы смех, сатрасаючы ўсё цела, выпырскваючыся праз усе поры, пакідаў пасля сябе цудоўную стомленасць, як быццам бы выканаў нейкую цяжкую фізічную працу, пасля якой соладка зведаць заслужаны адпачынак... Альбо таксама ў кампаніі іншых дзяцей гуляць у такіх зарасніках у хованкі, дрыжаць ад уражанняў і ныраць па вушы ў цяністыя малінавыя джунглі, поўныя жучкоў і мошак, траў і сплеценага зелля. А потым супакоіцца, зноў вярнуцца да ягад, зноў паляваць на самыя вялікія, якія часцей за ўсё трапляліся ў жоўтых малінах, і фанабэрыста пахваляцца, што знайшоў адну асабліва вялікую і смачную ягаду, каб узбудзіць зайздрасць таварышаў!.. А якія ж былі злосць і смех адначасова, калі разам з ягадай з'ядаў чарвяка альбо драўнянага клапа, які даваў аб сабе знаць смакам і пахам... Цэлымі днямі сядзелі ў малінніку, і гэта месца пераўзыходзіла ўсе іншыя ў садзе, бо парэчкі і агрэст не вабілі нас так, як

[14] Гладыш – керамічны посуд без ручак для захоўвання малака.

маліны, яны былі занадта бачныя, замала загушчаныя для нашых гульняў. А маліны хаваліся пад лісцямі як бы наўмысна, каб павысіць нашу дзіцячую прагнасць, трэба было падымаць і адхіляць апушчаныя галінкі, каб знайсці самыя лепшыя ягады, сціпла схаваныя ў гушчары, якія быццам прытуліліся ад страху, каб іх не заўважылі.

Збіранне сліў і арэхаў мела даслоўную «вышэйшасць» над малінамі, бо адбывалася ў паветраных сферах, а ўзняцца ўгару мела для мяне заўсёды вялікую прывабнасць, бо адкрывала шырэйшы і нештодзённы від. Бясстрашна ўздымаў я ўгару сваё васьмігадовае геройства і ўзлазіў на невысокія пні сліў і на шырока разгалінаваныя кусты старых ляшчын. І як жа саманадзейна глядзеў адтуль на зямлю ўнізе, цягнучыся за мірабэлькамі ці венгеркамі, або пералазіў з напханымі арэхамі кішэнямі верхнім шляхам па ляшчынавых спляценнях і адчуваў сябе ўзнесеным на крылах фантазіі да высокага стану афрыканскіх малпаў. Якія дзівосна смачныя былі вясёлыя па колеры светла-жоўтыя мірабэлькі і гранатавыя венгеркі, запарушаныя блакітнаватым пушком, або тыя недаспелыя арэхі, што мы разгрызалі зубамі разам з касматым церпкім шалупіннем зверху, аж пакуль вусны, скрыўленыя дзікай кісляцінай, не паспытаюць малочнай мякаці і яшчэ не зацвярдзеўшай сярэдзіны. Як вабілі арэхі пазней сваёй набытай меднаватай пацінай, калі ўжо лёгка вылушчваліся з чашачкі і, трэскаючыся пад маладымі зубамі, дазвалялі ім паглыбляцца ў хрумсткую мякаць спелага зярняці. Яны былі такія прыгожыя, авальна выцягнутыя, з квадратнай святлейшай лысінкай ля асновы і вастраканечным вяршком, што аж шкада было іх разгрызаць і не раз хацелася схаваць іх у кішэню, набіраючы дзесяткамі, і доўга насіць пры сабе, як які-небудзь скарб ці талісман... Якое, нарэшце, зведвалі гордае пачуццё сваёй сілы, сваёй «мужчынскай» сілы, калі па-трасеш дрэўцам, а з верху градам сыпаліся спелыя слівы, глуха стукаючы па мураве. З якой радасцю атрымлівалі імі па галаве ці сцвярджалі, што яны трапілі некаму іншаму... Немагчыма пералічыць усе прыемнасці, якія прыносілі сад і тое, што ў ім расло. Тут справа была не толькі ў тым, каб задаволіць паднябенне: з садавінай і ягадамі спалучаліся розныя забавы, прыцягваў азарт, здзіўлялі фарбы ў гарачых сонечных промнях, атрымлівалі вопыт лясного звярка, які поўнасцю жыў сярод зялёных зараснікаў, і падсвядомае захапленне будучага мастака, які ўжо ўмее цешыцца глыбінным і каляровым бачаннем навакольнага свету. Усе гэтыя ўражанні я вельмі моцна перажыў у дзяцінстве побач з гаспадаркай майго бацькі: блізкія кантакты з жывой сутнасцю нашага саду далі мне ў суме найвышэйшую радасць, якую можна мець. Ужо тады я навучыўся шукаць шчасце не сярод людзей, а сярод прыроды, і цаніць вышэй за ўсё хвіліны ўзаемаразумення з прыродай у маёй частай адзіноце.

Самыя любімыя садовыя адкрыцці пачыналіся з цвіцення пладовых дрэў у маі. Асабліва пышна цвіў звычайна малады сад за пякарняй. Потым ішлі каштаны, бэзы, акацыі, і двор ператвараўся ў адно пушыстае бела-ружовае і ліловае чарадзейства. Але гэтыя з'явы былі занадта звычайнымі, каб у нас было прынята імі захапляцца нейкім больш уважлівым, менш мімалётным чынам. Бо ўсё наўкола было квітнеючым, каляровым і самародна прыгожым, таму вочы, прызвычаеныя да прыгажосці мілай навагрудскай прыроды, станавіліся малаўражлівымі да яе, глядзелі раўнадушна на раскіданыя навокал скарбы і хутчэй ужо адчулі б і заўважылі, што нечага не хапае ці нейкі непарадак, калі б такое

трапілася. Але дзе ж было шукаць нешта брыдкае ў нашым прыгожым, зацішна рамантычным Асташыне, зарослым вялікімі старымі дрэвамі і так упрыгожаным зелянінай і кветкамі, што яны залазілі праз вокны, зазіралі ў пакоі, а вакол дома стваралі вялікі габелен, які аддзяляў нас ад усяго свету зачараваным кругам, які нішто злое і чужое пераступіць не магло. Ніхто з нас не дадумаўся, што тое, што нас акружае, такое прыгожае, успрымалася як звычайная рэч; як там гаворыцца, «дрэвы як дрэвы, кветкі як кветкі і на гэтым канец». Цікавіліся перш за ўсё толькі практычнымі рэчамі, і гэтак жа ў нас ставіліся да цвіцення пладовых дрэў. Мы заплюшчвалі вочы на святочнасць гэтай з'явы, шукалі ў ёй папярэдняе прадказанне карысці. Чым багацейшым было цвіценне, тым лепшыя ўраджаі садавіны можна было чакаць і тым большага прыбытку, падлік якога з'яўляўся прадметам частых размоў бацькоў у ранняя летні перыяд, калі гаспадарчыя расходы былі вялікія, а крыніцы даходу ад збожжа ўжо вычарпаны. На багата цвітучыя сады хмарай зляталіся яўрэі і адзін перад адным прапаноўвалі бацьку няпрэнныя грошы. Але бацька не спяшаўся ніколі, доўга раздумваў і казаў пачакаць, пакуль на дрэвах не з'явіцца завязь. Гэта затрымка не раз значна змяншала выдатныя першапачатковыя віды на ўраджай, але давала больш пэўныя падставы для ацэнкі збору, а бацька не любіў спекуляваць на чужой неасцярожнасці ці крыўдзе і хацеў спыніцца на заробку меншым, але сумленным і бясспрэчным. І так ён не раз восенню вяртаў яўрэю частку выплачанай ім цаны, калі бачыў, што ўраджай не спраўджвае чаканняў. Пры гэтым распякаў, крычаў на купца, колькі ўлезе, але ніколі яго не пакрыўдзіў. Эксплуатаваць уласную карысць у той час не спрабавалі і па распаўсюджанаму звычаю сады аддавалі ў арэнду яўрэям, якія, безумоўна, плацілі нейкія грашы ў параўнанні з атрыманым пазней прыбыткам і цішком пасмейваліся з «дурных, але пачцівых гояў». Яны наймалі вартаўнікоў і разам з імі ахоўвалі садавіну летам, а восенню пакавалі яе ў крацістыя праветрываемыя скрыні і адсылалі ў глыб паўночнай Расіі, якая не мела ўласнай садавіны з-за рэзкага клімату. Гэтыя вартаўнікі рабілі саламяныя будкі, у якіх яны начавалі і складвалі ападкі і ранні збор. У кожным з нашых трох садоў была такая



***Засценак каля Міраціч.*** *Здымак да 1912 г.*



***Езуіцкі касцёл у Нясвіжы, самы ранні храм у стылі барока, пабудаваны намаганнямі Кшыштафа Радзівіла Сіроткі.*** *Здымак да 1924 г.*

будка, а ля яе вогнішча, каб варыць ежу, і стосы жэрдак — падпіраць абцяжараныя галіны.

Вартавыя будкі пастаянна ўзбуджалі маю фантазію. Мала разумеючы сапраўднае жыццё садоўнікаў, я бачыў у ім вартыя зайздрасці свабоду і поўную прыгажосці незвычайнасць. «Божа мой, — думаў я, — якія шчаслівыя людзі гэтыя вартаўнікі! Незалежныя, нічым не звязаныя, не прымушаныя да ніякіх дамашніх парадкаў, ходзяць сабе па садзе цэлымі днямі, вечарам сядзяць ля вогнішча, як Рабінзон на сваім востраве, а ноччу замест прымусу рана класціся ў ложак маюць над сабой месяц і зоркі». І так я сабе ўяўляў наіўную садовую ідылію, вельмі далёкую ад сапраўднага стану рэчаў, але не мог аб гэтым ведаць, бо толькі на кароткі час днём мне ўдавалася забягаць ў сад. Вартаўнікі частавалі мяне тады салодкімі яблыкамі, выключна смачнымі пасля доўгага вясенняга перапынку. Я завязваў з імі размовы, перабіраючы моцныя пахучыя яблыкі, якія скрыпелі ў руцэ і пускалі сок на зубах. Елі, вядома, толькі самыя спелыя, якія належным чынам вытрымалі гэта прабаванне зубамі, іншыя, яшчэ церпкія, адкідваліся без ваганняў. Вечарам перад будкай палаў касцёр і чалавечыя постаці выдзяляліся рэзкім контурам на чырвоным фоне. Калі падкідвалі ў агонь, ствараўся прарыў у акаляючай цемры, светлы круг ахопліваў будку і вартаўнікоў, і гэта карціна, якую я бачыў заўсёды толькі здалёк, прыцягвала маляўнічасцю згрупавання і дадавала яшчэ адну прывабную рысу да маіх садовых уражанняў.

Немалую ролю ў гэтай любові адыгрывалі яблыкі. Грушаў у нас было няшмат, і запас абмяжоўваўся, бадай што, некалькімі сапежанкамі і малгажаткамі, што дажывалі век у старым садзе, але затое яблыкаў мы мелі мноства і адборных гатункаў, аднак з вялікай перавагай жоўтай зімовай антонаўкі, незвычайна смачнай у сырым выглядзе, але таксама добрай да перапрацоўкі і якая добра і доўга захоўвалася. Антонаўка лепш за ўсё пераносіла доўгую перавозку і была самым купляемым экспартным таварам, які вельмі шукалі ў Расіі. А пра Расію ў нас казалі, што яна ведае толькі два віды ўласных «фруктов», а менавіта «картошка» і «огурцы», і здаецца, у гэтым было няшмат перабольшвання. Мы, вядома, не елі антонавак, маючы ў распараджэнні шмат іншых лепшых сартоў, а я адчуваў да антонавак свайго роду пагарду, як да рэчы, абсалютна непатрэбнай. Я ў душы здзіўляўся, што бацька мог садзіць такія звычайныя гатункі — не добрыя і не смачныя, калі мог выбраць больш далікатныя, і не засмечваў сваёй дзіцячай галавы нават самай лёгкай думкай аб практычным значэнні бацькавага саду і аб патрэбе атрымліваць з яго прыбытак. Затое я аб'ядаўся лепшымі гатункамі, бо восенню есці яблыкі на працягу цэлага дня было ў нас звычайнай справай. Я не магу сцвярджаць, што мы асабліва любілі яблыкі, так, як ніхто не гаворыць, што любіць паветра або ваду, хоць пастаянна іх удыхае і п'е. Тое самае было і з яблыкамі: ад жніўня, калі пачыналі даспяваць папіраўкі (белы наліў), іх елі з раніцы да вечара, амаль аўтаматычна, і адзіным актам свядомасці ў гэтай справе была пераборлівасць і выбіранне самых смачных экзэмпляраў. Папіраўкі былі светла-жоўтыя, цалкам пазбаўленыя віннага смаку, а часам нават злёгку аддавалі прыемнай гарчынкай, але гэта быў кароткатэрміновы сорт, яны дрэнна захоўваліся, таму мы іх мелі ў невялікай колькасці. Хутка папіраўкі саступалі месца малінавым яблыкам крыху выцягнутай, закруглена-вуглаватай формы, вельмі прыгожым на выгляд. Іх чырвоныя плямкі і палоскі на зялёным



***Апсіда дамініканскага касцёла Св. Міхаіла ў Навагрудку.*** *Здымак да 1931 г.*

фоне здалёк вельмі прыгожа чырванелі, што аж вачам рабілася весела. Яны мелі выдатны смак — у меру салодкі, злёгку кіславаты, і цяклі духмяным сокам, а месцамі прасвечвалі жаўтавата і празрыста, як бы напоўненыя аліўкавым алеем. Але восенню з'яўляліся сапраўдныя масляныя яблыкі, якія перакрэслівалі ўсе іншыя. Яны былі вялікія, светлажоўтыя, колеру слановай косці, уся сярэдзіна ў іх была празрыстай, як бы насычанай маслам, ад чаго з'явілася іх назва, і немагчыма апісаць словамі, якія далікатныя яны былі на смак. Цяжка сказаць, што было лепшым у гэтых яблыках: выгляд, пах ці смак, бо ўсё гэта спалучалася ў захапляючай цэласнасці і рабіла тое, што мы аддавалі ім першынства перад усімі іншымі: такія яблыні былі выключаны з арэнды і захоўваліся для ўласнага спажывання.

Што да мяне, дык я проста быў закаханы ў яблыкі, і, вядома, не толькі платанічна, бо аб'ядаўся імі, маючы заўсёды поўныя кішэні, але і незалежна ад гэтага яны будзілі маю зацікаўленасць як адна з найцікавейшых рэчаў у раслінным свеце. Яблык здаваўся мне нечым вельмі асаблівым і не меў у гэтым свеце нічога сабе роўнага, меў адрозненне, якое можна было б назваць індывідуальнасцю. Вялікі памер, акругласць, цяжар, прыцягальная афарбоўка, прыгажосць тонкага характэрнага паху, таямніца ўнутры з сакавітай мякаццю і цвёрдай сярэдзінай, якая закрывала зярняты-насенне ахоўнымі плёнкамі, — усё было цікава і звяртала на сябе ўвагу, пабуджала да нейкіх туманных разважанняў, нагадвала байкі, у якіх яблык адыгрываў адметную ролю. Нездарма ж яблыня і яе плады з'яўляюцца самымі старымі ў свеце сімваламі, бо ад іх пачынаецца гісторыя чалавечага роду ў Святым Пісанні. Каляровыя, румяныя, жыва бліскучыя яблыкі прыгожа пакрывалі і аздаблялі ўвосень дрэвы ў нашых садах, а плады ў вялікай колькасці – асенні збор яблыкаў – была ўжо падзея, урачыстае свята для ўсяго двара!

Адбывалася гэта звычайна позняй восенню, калі ўжо было халадней і нізкае сонца не паліла так настойліва, як летам, а толькі грэла ў меру, каб было прыемна і добра. Таполі навокал саду стаялі ціха ў залацістай рыжыне парадзелых кронаў, чырванеў вінаград, аплятаючы ганак і прыбудоўку, і ўсё шырэйшымі палосамі карычневых і крывавых адценняў пераліваліся яго спадаючыя каскады. У садзіку за домам купы сумахаў, падобных на мініяцюрныя пальмы, таксама разгараліся сваімі рэдкімі перыстымі лістамі. У паветры з лёгкай дымкай адчуваўся надыход залатой восені, багатай дарамі фарбаў і ўраджаю, і гэта асенняе багацце заяўляла пра сябе перш за ўсё ў садах падчас збору яблыкаў, у якім удзельнічаў увесь двор. Яблыкі абрывалі рукамі з зямлі, трэслі дрэвы зверху, плады збіралі ў кашы і фартухі, зносілі і ссыпалі ў вялікія стажкаватыя капцы. Амаль усе капцы складаліся з антонавак і мелі светлы, зеленкаваты колер, і толькі па баках цямнелі меншыя кучкі чырвоных яблыкаў, якія належалі да іншых гатункаў. Пастаянна падносілі і дасыпалі ўсё новыя кашы, яблыкі каціліся адны па другіх з хрусткім шлёпаннем і займалі ўсё шырэйшую прастору паміж капуснымі градамі сваім пахучым россыпам. Гэта быў адзіны ў сваім родзе гатунак: гэта мноства яблыкаў, гэты благаслаўлёны дастатак пладоў, распасцёрты ў садзе, які ўтрымліваў у цудоўным згустку жар сонца, ураджайнасць зямлі і багацце яе сокаў, назапашаных у доўгія гарачыя дні і цёплыя летнія ночы... Ён ляжаў тут перад намі на зямлі і даваў радасць усім пачуццям бліскучай круглявасцю гладкіх, шаўковых пладоў, прыемных на дотык, прывабных тонкай скуркай і сакавітай мякаццю, як маладое

пружыністае чалавечае цела. Ад іх веяла тым непаўторным яблычным пахам, здаровым і свежым, чыстым і жыватворным, які не паддаваўся ніякаму вызначэнню гэтак жа, як пах вясенняга ветру, але прыносіў радасць, якую немагчыма выказаць словамі, сваім стрыманым цудоўным водарам, нібыта які чарадзейны эліксір, што ўтрымлівае цудатворныя карані маладосці і жыцця. У садзе паміж скірдамі назбіраных пладоў яблычны водар насіўся хвалямі і ствараў ў халодным асеннім паветры духмяную чашу, у якой прыемна было быць, рухацца і дыхаць... І было яшчэ тым больш прыемна, што, не ўсведамляючы сабе гэтыя адчуванні, далёкія ад аналізу, я адчуваў лёгкую ўзнёсласць, якая прыспешвае сэрцабіццё, ад якой блішчаць вочы, на вуснах з'яўляецца ўсмешка радасці і якая, магчыма, і ёсць найвышэйшая форма неўсвядомленага шчасця...

Так мы развіталіся з адыходзячым летам і пад знакам яблычнага ўраджаю віталі восень. Бацькі забіралі ў арандатараў дамоўленую «эксцэпцыю», гэта значыць пэўную колькасць адборных пладоў, якія нагружалі ў кошыкі і на вазы і перавозілі ў падвал. Пры гэтым не абыходзілася без спрэчак, бо яўрэі стараліся схаваць самыя лепшыя яблыкі і прымусіць бацькоў задаволіцца горшымі, таму пачынаўся крык, гвалт і мітусня. Маці ішла за фурманкай і сама сачыла за раскладваннем яблыкаў у падвале пад свірнам на драўляных кратках, дзе яны павінны былі захоўвацца да позняй вясны. Сарты падбіралі такім чынам, каб з пункту гледжання захавання яны маглі служыць як найдаўжэй, аж да майскай парніковай ранняй гародніны. Кіраванне выбарам належала бацьку, які добра ведаў і садаводства, умеў прышчэпліваць і акуліраваць пладовыя дрэвы і з захапленнем аддаваўся дагляданню іх ў садзе. Яму таксама быў абавязаны Асташын сваім багаццем пладоў, якія прыносілі не толькі шмат радасці, але і ўвогуле значны даход.

Палявыя работы цікавілі мяне менш, чым садовыя, бо адбываліся пераважна далёка ад двара, а, зрэшты, людзі не прыцягвалі мяне так моцна, асабліва згуртаваныя для сумеснай працы; я ўхіляўся ад тлуму і размоў і хацеў зашыцца ў які-небудзь дзікі кут саду і там, сярод мілай цішыні і адзіноты, даваць волю сваім «хімерам», цешыцца паўнатой гэтага адчування. Акрамя таго, апрацоўка зямлі здавалася мне абсалютна нецікавай рэччу і я не мог пранікнуцца ёй, як мой стрыечны брат Мар'ян, ані знайсці цікавасць у севазвароце і глыбокім аранні і таму падобных незразумелых справах. Я быў больш уважлівы і адчуваў больш сімпатыі да непасрэднай і жывой працы, такой, як жніво і сенаванне. Гэта апошняе асабліва было мне па густу, таму што мела рысы рухавай гульні і адбывалася ў самую прыгожую пару года, у сапраўды маляўнічым асяроддзі, у абрамленні чэрвеньскага росквіту, у гарачым каларыце іскрыстага сонца. Галоўным пунктам сенавання была касьба, якая хутка мінала, бо каб яе закончыць, патрэбна было няшмат часу, а сушка ўжо скошанага сена перад тым, як звозіць, патрабавала добрага ветранага надвор'я і немалой працы і цярплівасці, бо які-небудзь дождж марнаваў усю работу і прымушаў пачынаць яе зноў. Таму прагна карысталіся кожным распагоджваннем пры зменлівым надвор'і, і тады ўсё жывое высыпала на лугі, каб разбіваць сена, пераварочваць, сушыць і зноў складваць у копы, альбо высахшае як мага хутчэй звозіць у «адрыну» перад насоўваючайся бурай. Часамі сена, а асабліва канюшыну, у такіх выпадках вазілі доўга ноччу, за што работнікі атрымлівалі асобую ўзнагароду і пачастунак.

Нашы лугі мелі розныя назвы, самыя блізкія называліся «Селішча» і «За броварам», далейшыя — «Кармавы» і «Страча». Апрача гэтага быў вялікі выган над ракой, зручны, бо з усіх бакоў быў абмежаваны ракой Сэрвач і равамі-прытокамі. Называўся ён вельмі арыгінальна — «Казармы», хоць там не было ніводнага будынка. Селішча даходзіла амаль да двара і было любімай мэтай маіх паходаў па дзікія кветкі, якія раслі там у вялікай колькасці. Зрэшты, я раскажу пра яго шырэй у раздзеле пра «Зямлю Верашчакаў», якую бацька дакупіў да Асташына насуперак забароне ўрада, абмінуўшы царскую сістэму падаўлення польскасці. Часцей за ўсё я ўдзельнічаў у сенаванні на лузе «За броварам», дзе стаяла адрына, у якую змяшчалася сена з усіх лугоў. Гэта адрына была перароблена з бровара, якога ўжо ніхто не памятаў з жывых, але назва якога да гэтага часу захавалася. Луг за броварам з двух бакоў акружалі вербныя прысады, якія незвычайна буйна разрасліся ў вільготнай нізкай глебе і стваралі прыгожае абрамленне для сенавання. Вербы шырока раскінулі свае дзівацкія пакручаныя галіны, а іх сутулаватыя галавастыя ствалы, поўныя гарбоў і дуплаў, стваралі ўражанне жывых, гратэскных фігур, узятых з якой-небудзь страшнай байкі. Луг ад бровара паніжаўся плаўным спускам да суседніх сенажацяў і слаўся ўдаль гладка і плаўна, застаўлены, як шахматная дошка, сеннымі копамі, поўны свету ад белых кашуль сенавальшчыкаў, пярэсты ад рознакаляровых хустак і фартухоў, руху і гаворкі. Было прыемна глядзець, калі некаторая з дзяўчат завязвала на галаве чырвоную хустку і ішла па лузе з граблямі на плячах, а хустка адбівалася ад зеляніны луга дзівос-



***Кальвінскі касцёл у Асташыне, знішчаны падчас першай сусветнай вайны.***
*Здымак 1905—1911 гг.*

на багатым, сакавітым кантрастам, расцвітала чырвонай кветкай горача і палымяна, проста гарэла на гэтай зелені, як самастойнае полымя моцнага цудоўнага колеру. Я, безумоўна, не меў тады нават паняцця пра дадатковыя колеры, але і без ведаў я перажываў блажэннае пачуццё поўнай гармоніі колераў, і гэтае пачуццё давала мне вялікае задавальненне, сапраўдную радасць воку. Гэтую радасць я зведваў, зрэшты, і на працягу дзяцінства, і на працягу ўсяго жыцця вельмі часта і магу смела сказаць, што быў у жыцці шчаслівы перш за ўсё дзякуючы пачуццю зроку, дзякуючы вачам.

І калі я гэта гавару, у мяне перад вачамі стаіць Андрыёлі, апісаны сваім сябрам, доктарам Дабжынскім, які гаворыць пра яго такімі словамі: «Я не раз называў яго барометрам, ён жа прызнаваў, што гэта назва належыць яму слушна. Ясны сонечны дзень напаўняў яго радасцю. Тады ён кідаў усё і ўвесь аддаваўся прыгажосці вясновага ранку ці ўзыходзячага сонца, у сонечныя дні ён убіраў у сябе, як фатаграфічнае клішэ, святло і цені, каб потым знайсці іх у сваёй наступнай працы. Ужо з сённяшняга дня на заўтра цешыўся, як дзіця, калі зорнае неба абяцала заўтра добрае надвор'е. Ён проста наталяўся думкай, што пражывае яшчэ на адзін ясны дзень больш». А я, хоць не з'яўляюся мастаком, магу з прыемнасцю сцвярджаць, што пражыў жыццё, як той мастак, зведваючы столькі ж шчасця, дзякуючы «радасці вачэй», якую адчуваў гэтак жа моцна, як ён.

Наўкола далёка, як кінуць вокам, цягнуліся лугі, запоўненыя копамі, вазамі, людзьмі, даносіліся прыглушаныя адлегласцю галасы і спевы, кіпела бадзёрая праца, а дробныя фігуры людзей снавалі светлымі кропкамі па траве, як буслы на пашы. Часам вострым люстраным бляскам мільгала на сонцы каса, пачынаў стукаць малаток, які кляпаў яе вастрыё, ці размераным рэхам звінеў асялок, нібы дзяркач, што адгукаецца з балота двайным рытмам. Касцы то распадаліся на адзіночныя групы, каб направіць косы, то зноў выстройваліся па-гусінаму і пасоўваліся наперад роўнай шарэнгай, якая блішчала косамі, і клалі каля сябе густыя пакосы. Наводдаль ад нас людзі стваралі галоўны план гэтай сонечнай карціны, каляровы і пластычны пярэдні план. Яны ахвотна гуртаваліся, свяціліся белізной палатнянай вопраткі, разбівалі граблямі кучы сена, якія вецер падхопліваў і нёс у паветры, як рассыпаныя валасы. Тут жа адразу пад'язджалі вазы, каб забраць сухое сена з копаў, і тады адбывалася найвышэйшае дзеянне: узляталі ўгару граблі і пласты сена, якія прымалі парабкі, што стаялі на вазах, пад імі выраслалі высокія горы, якія засланялі від, са скрыпам рухаліся нагружаныя вазы, выстрэльвалі жарты, кпіны і выбухі здаровага звонкага смеху... А з блакіту свяціла гарачае сонца, і ў яго бляску кожны вобраз акругляўся і станавіўся больш бачным, кожная фарба набірала сілы і напружання, кожная пляма змянялася і іскрылася, несучы вачам бесклапотную летнюю радасць. Здавалася, радасць перапаўняе ўсё: лугі, святочна ўпрыгожаныя і набліжаныя да вяршыні сваёй прыгажосці, людзей, занятых лёгкай і прыемнай працай на іх зялёным аксаміце, і цэлы свет, расцвітаючы шчаслівай чэрвеньскай пышнасцю.

Пакатыя, моцна набітыя вазы ўз'язджалі на памост адрыны і знікалі ў яе квадратных варотах, а праз хвіліну, ужо разгружаныя, выскоквалі рыссю праз бакавыя дзверы з вясёлым грукатам пустых драбін і шпарка ехалі на луг па новы груз. А ля ўезда на ўзвышэнні стаяў бацька ў саламяным капелюшы і палатняным кафтане са сваёй неразлучнай жоў-

тай палкай у руках і з усмешкай задавальнення глядзеў зверху на гэты бурлівы людскі тлум, якім кіравала яго думка і воля. Глядзеў на цяжкія вазы добра сабранага сухога корму, вялікая колькасць якога цешыла яго гаспадарскае вока і забяспечвала дастатковую зімоўку стайні і хлява. Часам ён на хвіліну моршчыўся і гучным голасам граміў які-небудзь непарадак, але тут жа на яго твар вярталася добрая, лагодная ўсмешка, бо работа ішла складна, а выдатнае надвор'е прадказвала паспяховае яе завяршэнне.

Ля бацькавых ног ніжэй мастка сярод завалаў разбураных копаў гайсалі дваровыя сабакі, куляліся ў сене, як у купелі, праз пэўны прамежак часу яны са шчоўканнем высоўвалі наверх вясёлыя морды, а з імі і я выкідваў фартэлі, лавіў сабак за кудлы і паўтараў іх шчоўканне зубамі, заходзячыся ад смеху ад самай лепшай пацехі, якую яшчэ ўзмацняў від добрага і задаволенага бацькавага твару. Мае валасы былі поўныя сена, яго сцяблінкі трапляралі мне ў нос і выклікалі чханне, за каўняром адчувалася казытлівае пакусванне калючых сцяблін, але, не зважаючы на гэта, я правальваўся далей у пружыністае ложа і ўсім тварам туліўся да сена і ўдыхаў востры, цудоўна раздражняючы пах сапрэлай травы...

А наўкола было так зелена і пахуча, так весела і бесклапотна, так сонечна і прамяніста, як можа толькі быць у адным-адзіным «краі дзіцячых гадоў», калі яго даўно ўжо няма і калі яго чароўныя карціны разглядаюцца праз прызму незагойнай тугі...

17. Зак. 297.



***Чамброўскія маркоўнікі.*** *Здымак да 1926 г.*

## Раздзел XIII

# *Дарогі і двары. Праз Далматоўшчыну да Шчэпаўшчыны*

Бацькі часта адведвалі самую блізкую радню, нягледзячы на тое, што тыя жылі пераважна далёка, бо любілі такія далёкія паездкі на конях, падобныя на падарожжы. Да чыгункі тады яшчэ ніхто не прывык, наконт яе існавалі шматлікія прадузятыя думкі, а мой дзед Уладзіслаў Хаціскі да канца жыцця не рашыўся сесці ў вагон і ездзіў не інакш чым на конях, і то на ўласных. «Хіба я сабака, — гаварыў ён, — каб мне свісталі і прымушалі сядаць у нейкую клетку? Я еду і спыняюся тады, калі мне самому прыйдзе ахвота, а не па загаду якога-небудзь кандуктара...» Зрэшты, у нашым баку была толькі адна лінія чыгункі: Мінск—Баранавічы—Варшава, і да самай блізкай станцыі ў Гарадзеі[1] было чатыры мілі. Палескай чыгункі на лініі Баранавічы—Вільня яшчэ не існавала, яна была пабудавана толькі ў наступныя гады. Таму ўсе былі прызвычаены да доўгіх шматмільных падарожжаў konьмі і язда на працягу цэлага дня нікога не палохала і не стамляла. Двары, што знаходзіліся на адлегласці пары міль, яшчэ называлі суседствам, а дзесяць міль адлегласці не перашкаджала даволі частым сувязям. Падарожніцкі інстынкт быў тады агульным і спалучаўся з любоўю да коней і амбіцыямі валодаць добрай запрэжкай, ён быў у крыві ва ўсіх памешчыкаў, мелі яго і мае бацькі. Я, праўда, не адчуваў цягі да коней, але душу аддаваў вандроўкам.

Аб'яву аб выездзе я сустракаў з вялікай радасцю ўжо дзеля саміх уражанняў, звязаных з больш доўгай вандроўкай. Я любіў змяняць месца, даганяць уцякаючую даль гарызонта і выцягваць шыю да таго, што было «там недзе за гарой». Заклік «Едзем!» электрызаваў мяне і ствараў найлепшы настрой, бо абяцаў розныя прыгоды, якія можна сабе ўявіць «там, дзе нас няма», бо калі ты дзіця — маеш неспакойную ненасытную фантазію. З-за далікатнага здароўя маці мы ездзілі павольна і камфортна, часцей за ўсё чатырохконным экіпажам на рысорах, вельмі змяшчальным і забяспечаным будай ад дажджоў, якая, аднак, мела той недахоп, што за ёй нічога не было відаць па баках дарогі. Таму маёй марай было сядзець побач з фурманам на козлах, каб мець нічым не заслонены від і магчымасць глядзець зверху. Часам мне гэта дазвалялі, калі дарога была роўная і надвор'е добрае, і з гэтай хвіліны пачыналася мая вялікая радасць. Я мог так ехаць цэлы дзень не сумуючы і ўглядацца ў пастаянна розны і зменлівы краявід; я запамінаў кожны краявід з першага погляду з усімі рысамі мясцовасці і тварам пейзажу, але затое коней, ані нашых, ані чужых, абсалютна не ўмеў адрозніваць, і ўсе зда-

[1] Гарадзея — чыгуначная станцыя Маскоўска-Брэсцкай чыгункі. Пункт гандлю сельскагаспадарчымі прадуктамі. Там таксама знаходзілася гасцініца для пасажыраў чыгункі.

валіся мне аднолькавымі, бо я не звяртаў на іх увагі і здзіўляўся, што бацькі могуць столькі гаварыць пра коней і так за імі гнацца. Для мяне коні былі толькі сродкам, які прыводзіць у рух, можа, таму, што ў дарозе мяне занадта паглынала акружэнне. Адно сядзець на козлах уплывала ўзбуджальна на маё самаадчуванне і пранізвала мяне задавальненнем і гордасцю: я ўжо не быў маленькім хлопчыкам, які блытаецца пад нагамі старэйшых і якога яны вечна засланяюць, наадварот, я ўзвышаўся над бацькамі і з козлаў глядзеў з пачуццём перавагі на ўсё навокал. А да таго ж з вышыні вочы глядзелі далёка ў прастор, зацікаўлена беглі да краю гарызонта і летуценна танулі ў яго блакітнай імгле.

На ўсход ад Асташына дарогі разыходзіліся ў шматлікіх кірунках, вялі далёка ў край з убогім краявідам і прыродай, якая адрознівалася ад нашай. Але так сталася, што яны мелі мацнейшую вагу за іншыя ў маім жыцці, бо гэта былі дарогі, якія ўжо выводзілі з Навагрудскага павета ў чужыя краі, да Міншчыны, усё далей на ўсход, усё бліжэй да Расіі. Гэтыя дарогі былі як бы сімвалічным указальнікам дарог майго жыцця, накіроўваючай лініяй яго будучых прызначэнняў. Бо ў пачатку Мінскага павета адразу за Нёманам ляжаў Отмыт, які з часам стаў для мяне другім родным домам[2]. А адтуль праз Рубяжэвічы і Койданаў шырокія бярозавыя гасцінцы вычэрчвалі дарогу аж пад Мінск, куды пасля жаніцьбы[3] я вымушаны быў пераехаць, каб пасяліцца ў Пярэсецы[4], якую атрымаў у спадчыну ад маці, сярод новых мясцін, новых людзей і ўмоў і каб у выніку гэтага беспаваротна разарваць ніці, якія злучалі мяне з бацькаўшчынай у Асташыне і з усім Навагрудскім паветам. Усход прыцягваў мяне, і ў імкненні да яго гэтымі шляхамі можна было б угледзець нейкі фаталізм лёсу, які вызначыў шляхі майго жыцця. Гэтыя шляхі вывелі мяне з роднай зямлі і загадалі шукаць шчасця ў чужой старане, да якой я не меў ані пераканання, ані любові. Я быў вымушаны пасяліцца ў ёй і будаваць, закладваць новае дамашняе гняздо, нанова з цяжкасцю прырастаць да чужых мясцін, з мукай аддзіраючыся ад былога, успамінаючы яго з дзіцячых гадоў з ніколі не загоеным жалем. Нарэшце я быў вымушаны ў выніку ваенных пераваротаў усё гэта страціць і застацца з пачуццём няправільна выбранай мэты і змарнаваных намаганняў. Такім было ўздзеянне на маё жыццё ўсходніх краёў і яго падманлівых вандроўных шляхоў.

Існавалі два галоўныя кірункі нашых тагачасных паездак: паўночна-ўсходні да Отмыта і паўднёва-ўсходні да Шчэпаўшчыны. Аднак гэтыя дарогі разыходзіліся толькі праз некалькі вёрст ад Асташына, у Далматоўшчыне, і толькі пачынаючы адтуль кожная набывала свой характар, ідучы адна праз бясплодныя наднёманскія пяскі, пустэчы і сасанякі, а другая — праз урадлівыя, але плоскія гарадзейскія і клецка-ляхавіцкія раўніны.

Да Далматоўшчыны дарога была толькі адна, добра мне знаёмая, яна вельмі глыбока ўрэзалася ў маю дзіцячую памяць, таму што ёй карысталіся часцей за ўсё. Яна пачыналася адразу за нашым дваром, паварочвала направа крута на ўсход і адтуль нязначна, але пастаянна ішла ўгару і станавілася ўсё больш камяністай і поўнай дажджлівых равоў. Бо хоць

---

[2] Фальварак Янаўка – выдзелілі з Отмыта для Ганны Хацiскай-Булгак (1/7 маёмасці бацькоў) у 1922 г., называўся так па імені мужа Яна. Булгакі планавалі пабудаваць там дом, аднак гэтыя намеры перакрэсліў пачатак вайны.

[3] Шлюб адбыўся 13 жніўня 1901 г.

[4] Маёнтак каля прадмесця Мінск-Літоўскага.

Асташын знаходзіўся даволі высока, але з усходу яго акружалі яшчэ больш высокія ўзгоркі і выцягнутым хрыбтом засланялі гарызонт, а з-за нахілу ўтвараліся спускі, якія былі вечна размыты дажджамі і поўныя пясчанага ілу. На самай мяжы гэтага хрыбта рос лес, які называлі «Беразняком», — месца нашых дамашніх маёвак. Гэты лес меў выразны сілуэт, які вырысоўваўся на фоне неба, як шчаціністая чупрына на галаве, і яго контур надаваў усёй лініі гарызонта выгляд, які западаў у душу. Ён меў выгляд нейкай абяцаючай мэты, якая стаяла высока, да якой старанна імкнуліся па гарах і пясках у надзеі, што праца будзе ўзнагароджана відам, якім нас адорыць другі бок гары. Гэта выцягнутая паласа бярэзніку на гарыстай грані была відаць з усіх бакоў, калі пад'язджалі да Асташына; падчас усіх маіх выездаў і вяртанняў яна вітала мяне сваім знаёмым выглядам, мілым, як твар блізкай асобы. А едучы з дому паволі пад гару, я заўсёды меў даволі часу, каб прыглядзецца да гэтага віду, бо дарога была, як я ўжо казаў, проста непрыдатная і інакш як крокам ехаць было немагчыма.

Але хіба гэта каму шкодзіла? Едучы паволі, можна было разглядаць усё наваколле, увайсці ў няспешны, але грунтоўны кантакт з акружэннем і выбіраць з яго лепшыя фрагменты, як зрываюць кветкі на майскім лузе. Час пры гэтым ляцеў так незаўважна і так прыемна! Так добра было ехаць нага за нагу, цярпліва ківаючыся на няроўнасцях дарогі, і глядзець у задуменні перад сабой на першы погляд няўважлівымі вачамі, якія, аднак, не прапускалі ніводнай дробязі і чуйна чакалі, калі я даеду да бярэзніку і зменіцца пейзаж каля Далматоўшчыны. Так прыемна было азірнуцца назад і пераканацца, што наш Асташын прадстаўляе сабой здаля толькі малую купку дрэў, што прытулілася ў хвалістай нізіне луга, а Асташын Грабоўскіх утварае другую групу, якая цёмна вырысоўваецца на фоне палёў, што за ім весела бялее кальвінскі касцёл, маленькі, як гіпсавы архітэктурны макет, а далей, нібы зямля абяцаная, бязбрэжна рассцілаецца нізінны пейзаж даліны Сэрвачы, якая весела ўсміхаецца блакіту радаснай усмешкай нястомнага шчасця. Здавалася, што гэтыя два малыя двары наўкола, як адмысловыя дзіцячыя цацкі, параскіданыя па полі рукой велікана, выходзяць адзін да аднаго на спатканне, усцешаныя, што з'яўляюцца часткай прыгожага краявіду, цудоўна грэюцца ў промнях летняга сонца...

Усё гэта было такое сваё і любімае! Так улюбёна цягнулася вока да кожнай часткі гэтага раскінутага абшару, так ахвотна звярала думка знаёмыя рэчы яго быцця, так благаслаўёна і ўтульна адчувалася ў гэтым дамашнім акружэнні... Гэта было маленькае дзіцячае нязначнае шчасце, якое з цяжкасцю паддавалася акрэсленню, такое яно было звычайнае, агульнае, пазбаўленае больш падрабязнага зместу. Але я адчуваў яго моцна і горача, бо гэта было маё найвялікшае шчасце, мая найчысцейшая радасць, якую я запомніў на ўсё жыццё, захоўваў у сэрцы як каштоўны скарб аж да сённяшніх дзён. Гэта было бачанне бацькоўскага дома ў сонцы, у цішы, у радасці пад аграмадным скляпеннем ахоўных нябёсаў, гэта была ўпэўненасць убачыць у гэтым доме усё, што з'яўляецца самым дарагім і самым лепшым, ні з чым не параўнальным на свеце, упэўненасць непарушная і напаўняючая сэрца цёплай расчуленасцю. Гэта быў дар жыцця ў сонцы, цешанне жыццю і сонцу, і гэты дар пасылала мне Асташынскае неба, гэта благаслаўёная родная зямля, прыгожая і ўдзячная, якая ўскалыхвала мяне да мараў і вучыла глядзець, кахаць і любавацца...

Нарэшце міналі бярэзнік, рассыпаныя па пагорках бялявай шчацінай пні, і гарбом гары даязджалі да Далматоўскай царквы, дзе знахо-дзілася адна вяршыня, пра якую я павінен пагаварыць даўжэй, бо яна мела ў маім жыцці рашаючае значэнне. Перш, аднак, хачу гэтымі бярозавымі гайкамі збочыць на пару вёрст да Крышылоўшчыны, інакш праміну яе ўвогуле, бо яна знаходзіцца ўбаку ад гэтых маіх шляхоў і я забыўся б пра яе ўладальніка пана Хенрыка Войну, якога хачу тут паказаць. У Крышылоўшчыне быў вялікі і зручны жылы дом у выглядзе прысадзістай глыбы, з прыгожым ламаным дахам, але пусты і халодны, бо быў амаль без людзей. У ім адзінока жыў пан Хенрык — стары халасцяк пад пяцьдзесят гадоў — нейкая радня майго бацькі, брат пана Канстанціна Войны з Міраціч над Свіцяззю. Пан Хенрык бываў у нас даволі часта як самы блізкі сусед і заставаўся на некалькі дзён, яго ахвотна прымалі мае бацькі. Не ведаю, за што яны любілі гэтага пустэльніка і скнару, хіба што прыгарнулі яго па сваёй прыроднай дабрыні, бо пан Хенрык меў розныя халасцяцкія недахопы, быў смешны і ўвогуле несімпатычны. Худы і прыгорблены, ён хадзіў дробным крокам, з галавой, выстаўленай уперад, і нязменнай люлькай на доўгім вішнёвым цыбуку з пацеркавай вышыўкай. Ён меў парыты маршчынамі зямліста-завялы твар і казліную бародку, якая смешна адтыркала ад профілю. Калі яму нешта было не па густу, ён пацешна крывіўся, а бародка трэслася, як у казла. Яму не падабалася амаль усё, што рабілася на свеце, бо, будучы буркуном, ён шукаў дзіркі на цэлым, ніколі нічога не хваліў і на ўсё наракаў. Ён быў такі скупы, што насіў тое самае адзенне па некалькі гадоў, аж пакуль не падзярэцца да асновы, а ад'язджаючы, шкадаваў пару грошаў для слуг і стараўся пазбегнуць гэтага расходу, чым быў добра вядомы. Некалі нават скампраметаваў сябе, бо пакаёвы, атрымаўшы ад яго адну капейку, аддаў яе назад, дадаўшы нейкую нязветлівую рэпліку.

Пан Хенрык сумаваў у сваёй пустой Крышылоўшчыне, таму любіў прыязджаць у Асташын і сядзець у нас тыднямі, хоць меў толькі пяць вёрст дадому. Маці мая часта жартавала з ім, падкрэсліваючы яго халасцяцкую адзіноту, радзіла пашукаць жонку і прывесці гаспадыню на сваё дабро. Напамін пра дабро прыводзіў скнару ў роспач, бо ён хацеў, каб яго абавязкова лічылі незаможным, хоць меў усяго па горла. Ён крывіўся, як ад воцату, адмахваўся нецярпліва рукамі ад гэтых праектаў і крычаў пісклявым голасам: «Ат, братовачка, скажы што лепшае! Навошта мне на старасці жонка, і гэта яшчэ пры маёй беднасці?!» Яго палохала толькі сама думка аб расходах, якія такая жаніцьба павінна была выклікаць. А маці не давала яму аддыхацца і далей угаворвала, узгадваючы прыказку пра жанатага, які хоць жыве, як сабака, але памірае, як кароль, і пра халасцяка, у якога ўсё робіцца наадварот. Ну, і трэба ж так здарыцца, што маці прамовіла гэта ў дрэнны час, бо пан Хенрык, едучы да нас аднойчы зімовым днём, змерз, атрымаў гарачку, адразу па прыездзе злёг і ўжо не ўстаў з ложка. Памёр бедалага ад запалення лёгкіх, не дапамаглі ні дактары, ні лекі, якіх бацькі не шкадавалі, памёр так бяздомна, як і жыў, хоць у нас пра яго лепш клапаціліся, чым дома, на руках слуг, якія рабілі гэта за грошы. Яго шкадавалі і ўспаміналі, нягледзячы на яго не надта абаяльны характар, бо шматгадовае суседства і кроўная роднасць лічыліся важнейшым за тыя ці іншыя спрэчкі, да якіх заўсёды ставіліся паблажліва і з разуменнем. Зрэшты, бацькі пры сваім вельмі добрым сэрцы і чалавечых паводзінах удзячна ўспаміналі, што ён гарнуўся да іх і лічыў самай блізкай раднёй. І доўга

потым, аж да вясны, у нас гаварылі пра пана Хенрыка і ўспаміналі яго схуднелую фігуру і жаласлівыя скаргі з цёплым спачуваннем, як быццам бы сярод нас яшчэ знаходзіўся гэты стары пустэльнік, пазбаўлены сямейнага ачага.

Вяртаюся да Далматоўшчыны. Там было апошняе ўзвышша ў ваколіцы, потым ішлі ўжо плоскія жухавіцкія і мірскія далі, але перад тым, як яны пачыналіся, прырода рабіла яшчэ адно намаганне, каб здзівіць сваёй прыгажосцю. Мінуўшы асташынскія бярэзнікі, ехалі ўвесь час пад гару, вышэй і вышэй, і нарэшце былі на вяршыні, дзе разыходзіліся дарогі ля Далматоўскай царквы, дзе гэтыя дарогі перакрыжоўваліся, а навакольны краявід ляжаў, рассцелены, як карта, перакрэсленая жыламі дарог і палосамі сялянскіх шнуроў. Гэтыя апошнія, напэўна, не спрыялі дабрабыту дробных земляробаў, бо не раз цягнуліся на паўвярсты ў даўжыню, а ў шырыню мелі толькі пару крокаў і выглядалі як грады, але аптычна стваралі сапраўдную аздобу палёў, бо дзялілі іх на рознакаляровыя палосы і складалі з іх дзівосныя ўзоры дывановых шахматных дошак, зялёныя і карычневыя, ружовыя і залацістыя. Гэта было асаблівае месца, поўнае далёкіх перспектыў, — сапраўдная пейзажная абсерваторыя, створаная для таго, каб з яе панаваць позіркам над прасторай і губляцца ў яе далечыні. Я любіў гэты шлях і гэта месца, як рэдка якое іншае, і ведаў яго навылёт, бо куды б мы ні ехалі на ўсход, заўсёды дарога выпадала туды.

Калі сёння праз паўвека я думаю пра гэту ваколіцу, бачу яе дакладна перад вачамі, як карціну, намаляваную з дакладнасцю мініяцюрыста, такое ўсё там было мне добра вядомае і сардэчна любімае. Крок за крокам праходжу я ў думках гэтае паломніцтва па далматоўскім пейзажы і знаходжу кожную яго мясціну некранутай і верна захаванай у памяці.

У двары ў пана Яна Вяржбоўскага мы не бывалі, не ведаю ўжо чаму; здаецца, што ў іх быў дрэнны характар і яны былі вельмі суровыя да сваіх дзяцей. Такая ва ўсякім разе кружыла пра іх слава сярод суседзяў. Да двара вялі дзве дарогі: адна — зверху, другая — знізу. Ніжняя ішла праз вёску, цяністую ад купаў вербаў, якія выключна буйна разрасліся і разлажыліся над вялікімі лугамі і пашамі. На іх пасвілася мноства кароў і коней, а яшчэ больш гусей, якімі была багата далматоўская вёска з-за свайго нізіннага размяшчэння ля луга. Гусей там была такая колькасць, што лугі выглядалі як заснежаныя, калі гэтыя крылатыя атрады высыпалі з хлявоў і хмарамі ішлі на траву з сапраўдным кірмашовым шумам. Далей купіліся шляхецкія засценкі пераважна Дабжынскіх, апісаныя ў «Пане Тадэвушы», а за імі ішлі вялікія абшары сенажаці, якія падступалі аж пад Бурдзевічы. Гэта была адна дарога. Другая, верхняя, вяла міма царквы, што стаяла на самым вялікім узгорку і мела адкрыты від ва ўсе бакі, а потым перад самым дваром ішла ўніз па прыгожа зарослаunion яру, як бы ўзятаму з папкі Андрыёлі, альбо яшчэ лепш — з папкі Густава Дарэ. На дне яра праз дарогу бег ручай без мастка, разліваўся шырока і мелка, а за ім маляўніча размяшчаліся пабудовы двара, якія патаналі ў квітнеючых кустах. Па баках лашчыны раслі вялікія дрэвы, паважныя ліпы і клёны. Падшытыя зелянінай, аплеценыя хмелем, яны прыгожа спускаліся да ручая разам са схілам узгорка. Колькі разоў мы там ні ехалі, фурман нязменна праклінаў дрэнную дарогу: «Каб яна згарэла!», а бацькі хрысціліся ад страху, каб не здарылася што-небудзь, але я глядзеў з задавальненнем на гэта цудоў-

нае зацішнае месца і не падзяляў увогуле злы настрой фурмана і бацькоўскі страх. Гэты круты з'езд, пастаянна размыты дажджамі, быў добра вядомы ў ваколіцы як небяспечны, асабліва начной парой, але неяк нікому не прыходзіла ў галаву, каб даць рады радыкальна. Што з таго, што гэта некаму перашкаджала ў тыя бесклапотныя часы бязладнага дастатку і багатага бязладдзя? Урэшце, заўсёды неяк выбіраліся з гэтага пекла, а калі пры пераправе зломіцца дышаль ці сапсуецца рысора, то на гэта па дварах былі стэльмахі і кавалі, каб хутка выправіць шкоду. Дарог, уласна кажучы, не чапалі зусім і пакінулі іх пад Божай апекай. Ездзіць па іх было і нязручна, і небяспечна, але затое як прыгожа было на нашых дарогах, калі іх не паляпшалі інжынерныя прыстасаванні, калі іх не нявечылі выроўніваннем і спрошчваннем, не стрыглі пад нудны грэбень практычнасці і дазвалялі ім заставацца ў прыродным стане. Доказам быў той рамантычны яр, што зачароўваў зелянінай і квяцістасцю сваіх крутых схілаў, амаль непрыдатных для язды, і прабліскваннем ручая, што сачыўся па дне яра, які трэба было пераходзіць уброд. Ён стварыў прыгожае абрамленне для двара, які распасціраў за ручаём свае цяністасці і адкрываў на яго від з гары як на прыгожую, узорна скампанаваную карціну, да якой цягнуліся вочы.

Але потым, каля самай брамы далматоўшчынскага двара, зварочвалі ўлева, ехалі праз Бурдзевічы, Жухавічы да Міра, і там краявід поўнасцю мяняўся: было скончана з навагрудскай гарыстасцю і зялёным аздабленнем, пачыналіся бязлесся і пясчаныя раўніны, а за імі — Нёман і занёманскія вялікія лясы. Іншы край, іншыя людзі, іншыя віды — усё іншае...

Царква ў Далматоўшчыне іграла ў маіх падарожжах ролю Дантавай, бо стаяла на разгалінаванні двух галоўных шляхоў, па якіх пацякло маё далейшае жыццё, і, як у казцы, ля яе не хапала толькі надпісу, што павінна быць, калі паехаць направа, і што, калі — налева. Гэта было асаблівае месца, бо адна дарога вяла адтуль да Отмыта, адкуль пазней я ўзяў жонку і куды я эмігрыраваў з Навагрудчыны ў Міншчыну, а другая ішла да Задвеі, якая належала пану Ігнацію Чачоту, з дачкой якога бацька хацеў бачыць мяне жанатым. А калі я захацеў ехаць у сваты лепш у Отмыт, чым ў Задвею, бацька сам надумаўся ажаніцца паўторна і даў мне мачаху, што для мяне абрыдзіла Асташын і выгнала назаўсёды з Навагрудскага ваяводства. На гэтай ростані я выбраў (сам таго не ведаючы) дарогу жыцця, выбраў, уласна кажучы, ля той цэркаўкі ў Далматоўшчыне. Цэркаўка была драўлянай і беднай, цэлымі тыднямі зачыненая і мала каму патрэбная, і непрыстойна і прэтэнцыёзна пафарбаваная алейнай фарбай у блакітны і зялёны колеры, бо гэтыя колеры любілі ўрадавыя маскоўскія колы, якія трактавалі справы веравызнання з палітычнага пункту гледжання. Зрэшты, пры звычайна дрэннай якасці, колеры хутка бляклі, а потым кусты, якія разрасліся, закрывалі сцены. Царква стаяла на самым краі ўзгорка, адсюль быў від на нізка і далёка рассцелены паўднёвы бок, перакрэслены дарогамі. Адна з гэтых дарог ішла праз Юрэвічы, Паланечку, Задвею, Чарніхаў і Сноў да Клецка, побач з якім знаходзілася Шчэпаўшчына.

Задвея — вельмі прыгожая і абсалютна невядомая — была тут жа побач з брамай, заўсёды зачыненай. Мы не заязджалі туды ніколі, бо там жыў пан Здзіслаў Межэеўскі — чалавек хворы і, бадай, нават крануты розумам. Ён славіўся тым, што з вялікім густам упарадкаваў і ўпрыгожыў двор і парк і жыў, як пустэльнік: ён не хацеў прымаць у сябе

нікога з суседзяў, меў прыступы меланхоліі, урэшце звар'яцеў і памёр. Толькі пасля яго смерці Задвея адчынілася для суседзяў, калі яе пасля брата атрымала ў спадчыну пані Марыя Чачот, народжаная Межэеўская, стрыечная сястра майго бацькі[5]. Чачоты разам са сваёй адзінай дачкой Лолай пасяліліся ў Задвеі, і паколькі паненка падрастала, пачалі весці адкрыты дом. Тады, пасля смерці маёй маці, калі ў нас у Асташыне было сумна і сіратліва, па ініцыятыве бацькі пачаліся нашы ажыўленыя адносіны з Задвеяй: прыёмы, паездкі, маёўкі, але яны прывялі не да таго, што я ажаніўся са стрыечнай сястрой Лолай, як было ў праграме, а да паўторнай жаніцьбы майго бацькі з сястрой пані Чачот — паннай Казімерай Межэеўскай, старой дзевай, вельмі энергічнай і крыху характарнай. Гэты шлюб прымусіў мяне пакінуць Асташын, пасяліцца ў атрыманым ад маці ў спадчыну фальварку Пярэсека пад Мінскам і прыгаварыць сябе да выгнання з маёй навагрудскай радзімы і бацькаўшчыны. Прычынай была прысутнасць мачахі — асобы, поўнай добрых якасцей, але якая мела прыкры, нязносны характар у штодзённым жыцці. Гэта прысутнасць сцерла ўсе матчыны сляды ў маім бацькоўскім доме і зрабіла яго для мяне чужым і нямілым. Як гэта здарылася, сёння я ўжо не магу ўспомніць, каб не гаварыць дрэнна пра памерлую мачаху. Потым, пасля смерці бацькі і пасля таго як мачаха паехала з Асташына, калі я ўжо абжыўся і пачаў гаспадарыць у Пярэсецы, мне было не з рукі вяртацца на старое месца, якое моцна змянілася пад кіраўніцтвам дэспатычнай кабеты, і я не меў ужо да яго такой любові, як раней. Таму я згадзіўся на продаж Асташына суседу графу Грабоўскаму, які вельмі аб гэтым стараўся, маючы ўласны маёнтак, і мог аб'яднаць два двары ў адно цэлае. За атрыманыя грошы я купіў паблізу Пярэсекі фальварак Беліца, які да гэтага належаў дзядзьку Тадэвушу Хацiскаму, на той час ужо майму цесцю.

Так я перакрэсліў свае сувязі з Навагрудчынай і канчаткова ўладкаваўся на Міншчыне, аднак я ніколі не змог прывыкнуць да гэтай новай прымусовай сядзібы з новай ваколіцай, краявідам і акружэннем. Усё там здавалася брыдчэйшае і горшае, чым у нас, і перш за ўсё іншае, таму што чужое. Дванаццаць гадоў жыцця, дванаццаць маладых гадоў, самых лепшых, самых моцных змарнаваў я там бяздзейсна, седзячы, як у выгнанні. І нарэшце, пасля вялікай вайны Рыжскі дагавор пакінуў Пярэсеку і Беліцу на расійскім баку і пазбавіў мяне ўсёй маёмасці і ўсіх сродкаў да жыцця, якія я меў. Асташына ў мяне не стала з-за мачахі, якая мне яго абрыдзіла, а тыя фальваркі пад Мінскам забрала ў мяне вайна[6]. Я быў слушна пакараны за гандаль бацькаўшчынай, за тое, што забыўся, што яна з'яўляецца святой, недатыкальнай, якую належыць шанаваць і захоўваць, нягледзячы ні на якія цяжкасці і сямейныя складанасці. Такімі былі дарогі майго жыцця, накрэсленыя расстайным шляхам ля Далматоўскай царквы. Дарога на поўдзень замест жонкі надзяліла мяне мачахай і выгнала з бацькаўшчыны, а дарога на ўсход дала

[5] Паводле Рамана Афтаназі, апошнім нашчадкам сям'і Межэеўскіх па мужчынскай лініі быў Леон, стрыечны брат Марыі, якая была замужам за Ігнаціем Чачотам і атрымала ад яго ў спадчыну маёнтак у 1891 г. *Р. Афтаназі.* Гісторыя сядзібаў на былых ускраінах Рэчы Паспалітай: Ваяводствы Брэсцка-Літоўскае, Навагрудскае. Вроцлаў, 1992. Т.2.

[6] У 1912 г. Булгак пакінуў гаспадарку жонцы, а сам пераехаў у Вільню, дзе стварыў фатаграфічную майстэрню. Жонка і сын пакінулі Пярэсеку ў сярэдзіне 1920-ых гг., уцякаючы ад бальшавікоў.

мне жонку і пацягнула на чужую Міншчыну. Ці не хаваўся ў гэтым фаталізм прызначэння, аднолькава непазбежны, як з той казкі?

З Задвеяй я пазнаёміўся, толькі калі быў падрастаючым юнаком, якога бацька горача заахвочваў наведаць яе. Тады мне адкрыўся з сярэдзіны парк, раней зайздросна схаваны ад вачэй прыезджых, і я змог ацаніць вытанчанасць прыгожай старашляхецкай сядзібы з яе алеямі і клумбамі дэкаратыўных дрэў, што акружалі стыльны дом вянком гарманічна падабраных фарбаў і масіўных, эстэтычна згрупаваных раслінных формаў. Раней, праязджаючы міма, я толькі паглядаў з козлаў на гэтую прыгажосць, якая вабіла з-за паркавай агароджы, і з зайздрасцю думаў пра людзей, якія могуць кожны дзень хадзіць па гэтых алеях і атрымліваць асалоду ад такога гарманічнага акружэння.

Пасля Задвеі мы праязджалі праз Чарніхаў Гартынгаў, які не пакінуў у мяне іншага ўражання, апрача жудаснай гразюкі, ніколі не высыхаючай дарогі паўз фальварак, а пры набліжэнні да Снова я перажываў моцныя эмоцыі, калі бліз мястэчка мы перасякалі чыгуначную лінію. Мяне ўзрушвала надзея ўбачыць цягнік і жаданне, каб мы трапілі ў тую хвіліну, калі ён будзе ісці, што здаралася часцей у поўдзень, калі мы пад'язджалі да Снова. Ужо здалёк я зандзіраваў позіркам ахоўны чыгуначны пераезд, гадаючы, ці не спушчаны шлагбаўм, што прадказвала б блізкі прыход цягніка. Убачыць цягнік, нацешыцца яго незвычайным выглядам, ахапіць позіркам хоць на хвіліну гэты ўцякаючы жалезны вобраз, поўны руху, бразгання і прадчуванай таямнічай прывабнасці, — які гэта быў цуд, якое небывалае шчасце, што пераўзыходзіла самыя смелыя мары! Ну і, часам здаралася, што лёс здзяйсняў мае гарачыя жаданні і дазваляў мне нацешыцца выглядам гэтай прыгожай для мяне з'явы. Яна была кароткай, як імгненне вока, сатрасала ўсю маю няду-жую асобу, як ураган, выклікала перш за ўсё здзіўленне і пакланенне, а потым жальбу і смутак, калі мінала, як маланка, пасля якой цемра здаецца яшчэ чарнейшай. Дзівосна моцнай і рашучай была ўва мне гэта любоў да чыгункі і цягнікоў, любоў, блізкая да апантанасці і якая даволі мала стасавалася з агульнай сельскасцю маіх схільнасцей. Відавочна, ужо тады мяне няволіла паэзія руху і далі, адвечная казка пра прынцэсу за сямю гарамі і марамі, бо гэта захапленне засталося са мною на ўсё жыццё. Ехаць куды-небудзь заўсёды было для мяне радасцю, святам і адпачынкам, і разам з коннымі паездкамі я аднолькава палюбіў і чыгунку. Нідзе я не адчуваў сябе так добра, як у вагоне далёка ідучага цягніка, асабліва калі ў мяне не было суседзяў і я мог у адзіноце аддавацца ўражанням, якія мне прыносіла зменлівае акружэнне. Да Снова мы даязджалі не хутка, бо дарогі ў нашых краях былі прымітыўныя, пакінутыя ў прыродным стане, ці, як казалі, «пад апекай Божай», і не адзін масток трэба было грунтоўна даследаваць у дарозе, ці будзе ён прыдатны для праезду і ці не стане прычынай здарэння. Дарогі папраўлялі толькі тады, калі павінен быў праехаць губернатар альбо архірэй, і тады паліцыя гарачкава зганяла сялян на шарварку[7], загадвала засыпаць усе калдобіны, лужыны жоўтым пяском. Першы дождж змываў гэту дэкаратыўную меліярацыю, равы і выбоіны зноў вылазілі на свет Божы, масткі па-ранейшаму аб'язджалі бокам, і зноў усё рабілася пастарому на працягу некалькіх гадоў аж да наступнага прыезду высокай

[7] Шарварка — абавязак насельніцтва прадастаўляць людзей і інструменты для грамадскіх работ.

расійскай асобы. Таму мы ездзілі па гэтых дарогах без спешкі, а ў дадатак бацькі яшчэ шкадавалі коней, каб не стаміліся, і часта стрымлівалі фурмана. Коні былі светам вачэй майго бацькі, ён меў гняды чацвярык уласнай гадоўлі, які называўся стаенным у адрозненне ад рэшты рабочых коней, ці, як у нас казалі, ад «пад'ездкаў», і гэтыя стаенныя коні ніколі не ўжываліся для работы і служылі толькі для выездаў. Гэта была найбольшая і, зрэшты, адзіная раскоша бацькоў, якую лёгка зразумець, калі прыняць пад увагу, што нават дробная шляхта, якая сядзела на фальварачках у некалькі валок, павінна была мець хоць пару стаенных коней, і абавязкова ўласнай гадоўлі. Гэта не была дарагая рэч у нашай сеннай мясцовасці, дзе прыгожыя лугі над Сэрваччу давалі шмат добрага мурожнага сена. Нашы коні былі рослыя і выпасеныя, таму лёгка стамляліся і пакрываліся пенай, і тады бацька адразу стрымліваў фурмана і загадваў яму ехаць крокам. Мяне гэта раздражняла ў глыбіні душы, бо шыбкая язда здавалася мне справай больш прыемнай і важнай, чым конскае здароўе і адпачынак.

Так ці інакш, нарэшце мы былі ў Снове — малым яўрэйскім мястэчку, з якім тут жа побач суседнічаў сноўскі двор Рдультоўскіх з класічным палацам, раскінутым на пагорку доўгай анфіладай калонаў. Там скончыў жыццё самагубствам Людвік Шпіцнаяль, сябра Славацкага, якога ён апісаў у «Гадзіне думаў». У Снове мы спыняліся ў адзіным заезным двары, які знаходзіўся пасярэдзіне адзінай вуліцы ў вельмі старым і пачарнелым драўляным доме з высокім завостраным дахам і з ганкам, павернутым па яўрэйскаму звычаю да вуліцы. Хрысціянскія местачковыя дамы стаялі да вуліцы бокам, а ганак мелі з падворку, чым паказвалі сваю незацікаўленасць справамі гандлю і рынку, якія так паглыналі ўвагу яўрэяў. У заездзе зараз жа ставілі самавар, прыносілі



***Рэха.*** *Здымак да 1930 г.*

малако і абаранкі, распакоўвалі ўзятых з дому запечаных курэй, і пачынаўся дарожны падвячорак, які для мяне быў вельмі прыемны сваёй імправізаванай формай, што адыходзіла ад паўсядзённай. Пакой у карчме быў прасторны і моцна закопчаны, поўны павуціння і смецця, якія, відаць, рэдка вымяталі. У левым куце пакоя стаяў шынквас[8], а за ім батарэя біклажак у нязграбнай шафе, пафарбаванай у нейкі дзіка чырвоны рэзніцкі колер і ўвенчанай галерэйкай з палачак. Па шынку мітусіліся яўрэі ў халатах і сяляне ў кажухах, бегалі яўрэйскія бахуры з падоламі кашуль, выпушчанымі з трусоў, як хвасты, іх даганялі расхрыстаныя і кудлатыя яўрэйкі, і шум панаваў неапісальны. Навокал моцна пахла трайным пахам: махоркі, цыбулі і дзёгцю, што аж нос зварочваўся набок і хацелася плакаць. У каморцы ці гасцінным пакоі, прызначаным «для панства», знаходзілася смешная простая мэбля ў стылі той чырвонай шафы, пацёртая кушэтка з разяўленай сярэдзінай, з якой вылазіла валоссе, кульгавыя крэслы з точанымі ручкамі. На сценах віселі партрэты паважаных рабінаў у ярмолках, нерухома накрахмаленыя фотаздымкі амерыканскай радні з букетамі ў руках і тупым задавальненнем на тварах, а таксама карціны нейкіх фантастычна растапыраных птушак, вышытых каляровым гарусам і пасаджаных на дзіўнае «дрэва жыцця» з яўрэйскімі надпісамі, якое нагадвала тое, дзе змей спакусіў Еву. Усё было заседжана мухамі і павукамі і было ліпкім ад бруду, што, вядома, нікога не здзіўляла, бо было хранічным. Такі маламестачковы заезд з барадатымі яўрэямі, карчмаром у даўгаполым халаце з белымі завязкамі на камізэльцы меў свой пэўны стыль, які ўжо даўно знік.

Ад Снова дарога вяла па даволі манатонных раўнінах, якія, аднак, дзякуючы сваёй плоскасці, мелі пэўную выразнасць: позірк ішоў нястрымана ўдалячынь без усялякай перашкоды, апрача груш на межах і крылатых ветракоў, шматлікіх у тых бязводных краях, і губляўся ў смузе гарызонта, дзе зямля злівалася з небам. Калі міналі заможна пабудаваны двор у Наруцэвічах, пейзаж станавіўся яшчэ больш убогім, доўга ехалі па бязлюдных мясцінах, а потым праз так званыя «Ардзянскія кусты» — раскінутыя плоскія ўзвышшы, зарослыя нізкімі ляшчынамі, якія невядома чаму не церабілі, пакідаючы ўраджайныя землі ў стане пашавых пустэчаў. Гэта, напэўна, былі землі, якія закранула параза сервітуту, які тэндэнцыйна падтрымліваў расійскі ўрад для таго, каб распаліць супярэчнасці паміж вёскай і дваром. Самую блізкую вёску насялялі татары, і яна да гэтага часу захавала назву «Арда».

У канцы позні́м вечарам мы набліжаліся да Шчэпаўшчыны. Яе абвяшчалі ветракі, пастаўленыя па некалькі зараз, і іх прапелеры распасціраліся на цямнеючым небе, як крылы кажана. Па плоскай раўніне мы даязджалі да двара. Пасля шумнага прывітання сядалі за стол, і доўга за гарбатай цягнуліся аповеды пра дарожныя здарэнні. Мы з Мар'янам і Богданам нецярпліва чакалі, каб можна было сарвацца з-за стала і пагайсаць адным. У хлопцаў былі яшчэ малодшыя сёстры Валюся і Мася, але на іх мы глядзелі пагардліва, як на немаўлят, і не дапускалі іх да нашых гульняў.

Шчэпаўшчына з'яўлялася другой крайнасцю ў параўнанні з Чамбровам: такая яна была непрыгожая, запушчаная, амаль убогая. Домік быў невялікі, пакоі нізкія і больш чым сціпла абстаўленыя мэбляй, вокны і дзве малыя сцяны былі нічым не ўпрыгожаны, а ў садзе апрача жмені

[8] Шынквас — прылавак, за якім прадаюцца напоі.

пладовых дрэў і парэчак расла толькі трава і зелле. У доме было бруднавата і неахайна, на вокнах і сталах поўна гаспадарчага посуду і запасаў. Фальварак Шчэпаўшчыну дзядзька Антоній арандаваў разам з двума іншымі прылягаючымі фальваркамі ў князя Антонія Радзівіла з Нясвіжа, і, як арандаваны, ён не мог выглядаць так заможна, прыгожа, як уласны і спадчынны маёнтак, але для мяне гэта розніца была тады малазразумелай, таму, калі мне растлумачылі, што гэты дом, і сад, і ўвесь двор чужыя і не належаць дзядзьку, мне зрабілася страшэнна шкада ўсіх іх і адначасова я быў здзіўлены і абураны, бо мне здавалася немагчымым, каб хто-небудзь увогуле мог не мець уласнага дома і зямлі, а тым больш каб у гэтым стане быў брат майго бацькі. Наймаць дом у чужых здавалася мне верхам беднасці і нечым вельмі ганебным. Я не ведаў, што шмат памешчыкаў, асабліва пасля канфіскацый пасля паўстання, ходзяць так па арэндах і што не адзін з іх жыве нават не горш, асабліва арандатары Радзівілаў, якія мелі выключна выгадныя ўмовы і пакаленнямі сядзелі на адным месцы. Азначэнне «радзівілаўскі арандатар» традыцыйна лічылася сінонімам даволі вялікай заможнасці, бо кожны чалавек, гаспадарлівы і нелянівы, багацеў на такой арэндзе лепш, чым не адзін спадчынны ўладальнік. Гэта былі рэшткі былых звычаяў і часоў, калі князь «пане Каханку» рабіў сабе з арандатараў прыхільнікаў[9] і палову памешчыкаў ваяводства трымаў такім чынам у кулаку.

Грамадскага жыцця ў Шчэпаўшчыне не існавала, сыходзіліся толькі да стала, і то не заўсёды, а ў іншы час усе былі пастаянна занятыя і малабачныя: жонка дзядзькі — на кухні, дзядзька — у полі ці ў фальварках. З дзецьмі была настаўніца, альбо бонна, але старэйшыя вырываліся без нагляду, карыстаючыся тым, што бонна была занята малодшымі дзецьмі, і рабілі, што хацелі. Калі яны вельмі насваволяць і дзядзька гэта заўважаў, ён садзіў хлопцаў на покуць ці ставіў іх на нейкі час у кут пакоя, і гэта была адчувальная кара пры нашай рухавасці. Сад нас не надта вабіў, бо быў малы і густы, з адной толькі вялікай ліпай у канцы, але адразу за дзяцінцам пачыналіся гаспадарчыя пабудовы і падворак фальварка, таму можна было ўсюды бегаць, шастаць па розных дзірках і закутках, крычаць і гарэзіць, нічым сябе не абмяжоўваючы. Мы цешыліся, колькі ўлезе, і гэта магчымасць беспакаранага і даволі звычайнага свавольнічання была для мяне рэччу новай і тым больш прыцягальнай, чым менш мне падабалася атмасфера дома, якую стварала, галоўным чынам, дзядзькава жонка Ядвіга, і сутнасць якой змяшчалі словы «гаспадарчая кругаверць» і «бурчанне». Дзядзькава жонка была заўсёды занятая, перагружаная працай і панурая; грымаса злога настрою, здавалася, прысохла да яе грубых рысаў і тоўстых губ, адцененых цёмным пухам. У такой атмасферы адбываліся яе няспынныя паходы ад кладоўкі да кухні, ад кухні да сталовай і назад, з парай нямытых, неахайна адзетых служанак, якім яна не шкадавала вострых заўваг, выказваемых у форме пастаяннага непрыязнага бурчання. Яна ўвогуле рабіла ўражанне асобы, незадаволенай жыццём, акружэннем і цэлым светам, і гэты настрой не мог не перадавацца акружаючым, а я адчуваў

---

[9] Князь Радзівіл Караль Станіслаў, званы «пане Каханку» (1734—1790), літоўскі мечнік і ваявода, быў супраць караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага, даверная асоба пасла Рапніна, удзельнік Барскай канфедэрацыі, пасля яе ўпадку — у эміграцыі. Быў супраць рэформаў Чатырохгадовага сейма. Нясвіжскі ардынат, вядомы сваім разгульным жыццём.

яго так тонка, што стараўся пазбягаць прысутнасці дзядзькавай жонкі, уцякаючы як найхутчэй з дому на фальварак. Дзядзькава жонка была дачкой Антонія Булгака, сястрой Томаша — мужа цёці Басі, і паходзіла з сям'і Булгакаў, якія мелі ў Ігуменскім павеце маёнтак Кандратовічы, ці Зацішша. Гэта сям'я была ў такім далёкім сваяцтве з нашай, што два шлюбы, якія адбыліся паміж яе членамі, не патрабавалі касцёльнага вызвалення ад прадпісанняў. Дзіўная гэта была сям'я, яе асабліва цяжка закранулі наступствы паўстання 1831 года, бо яна збяднела маральна. Калі бацька Антонія Булгака з тых Кандратовічаў, Томаш, быў вядомы як самаахвярны патрыёт і чалавек надзвычайнага розуму, сын яго, народжаны ў няволі, той самы Антоній, не пайшоў па бацьку і, ажаніўшыся з Бохвічавай дачкой, вёў у сваіх Кандратовічах амаль сялянскае жыццё. Ён быў скнарам і дэспатам, напладзіў дванаццаць дзяцей і трымаў іх босымі і ў лахманах, ужываючы іх на гаспадарчых работах як парабкаў і шкадуючы нават кошту і клопату, каб іх своечасова ахрысціць, так што дзяўчаты і падросткі па гадоў дзесяць з нечым жылі нехрышчоныя. Не трэба дадаваць, што дзеці гэтыя нічога дома не вучылі і заставаліся ў стане дзікасці на мяжы з сялянскай. Не трэба блытаць гэтага Антонія Булгака з братам майго бацькі, таксама Антоніем Булгакам, які ажаніўся з дачкой таго — Ядвігай, апісанай хвілінку назад, пасля таго як страціў сваю першую жонку — каханую Масю Ляўковіч. Яе дзядзька часта і сардэчна ўспамінаў на працягу ўсяго жыцця і ніколі не мог па-сапраўднаму яе забыць, а да другога свайго шлюбу адносіўся крыху з пагардай і крытычна, не раз адзываючыся з дрэнна схаванай іроніяй пра «гаршкі» і «кухонныя працэсіі» сваёй гаспадарлівай, але невясёлай жонкі.

Выхаваныя ў такіх умовах, Мар'ян і Богдан рана набылі практычны розум. Яны добра ведалі, што робіцца ў гаспадарцы, і гаварылі рэчы, абсалютна мне незразумелыя, — пра нейкія палеткі, севазварот і папар. Гэтыя словы я часам чуў з вуснаў майго бацькі, але мне ніколі не прыйшло ў галаву спытаць аб іх значэнні. Не ведаю, чаму ў мяне стварылася перакананне, можа, пад уплывам частага бурчання бацькоў, што тое, што гавораць старэйшыя, наогул нецікавае, не раз нават нуднае і невартае маёй цікавасці. Таму што мяне прывучылі, што старэйшыя звяртаюцца да мяне толькі з перасцярогамі і напамінаннямі або забаронамі, а калі яны размаўлялі паміж сабой, то мяне не дапускалі да ўдзелу ў размове альбо вялі гэтыя размовы незразумелым для мяне чынам. З-за гэтага, нягледзячы на доказы прыхільнасці, якія мне столькі разоў давалі бацькі, у мяне рана склалася пачуццё адасобленасці мыслення. Я супрацьпастаўляў сябе старэйшым са сваім іншым светам думак, глыбока схаваных, і адчуваў, як расце бар'ер паміж мной і імі, лічыў гэта непазбежнасцю і не ўсведамляў, што магло быць інакш. Таму я прапускаў размовы бацькоў міма вушэй і здзіўляўся, што ў Шчэпаўшчыне хлопцы гэтага не робяць, наадварот, яны ўмешваюцца ў размовы сваіх бацькоў і старэйшых, задаючы ім пытанні, часам атрымліваюць заўвагі за іх неадпаведную форму, але на якія часам таксама атрымліваюць павучальныя адказы, і такім чынам прымаюць удзел у агульнай размове. Асабліва старэйшы з хлопцаў — Мар'ян — флегматычны і вечна прастуджаны, і з-за гэтага ён гаварыў у нос, разважаў за сталом з сапраўдным апломбам і выклікаў у мяне нейкае ўнутранае супраціўленне гэтым сваім аратарскім пылам. Я стараўся не заўважаць іх вопыт і ўпэўненасць у сабе, думаў пра свае кніжкі і мары, але на самай справе зайз-

дросціў гэтай іх перавазе, а хутчэй, мяне раздражняла тое, што яна існавала. Бацька ж мой яшчэ падліваў масла ў агонь, хваліў зацікаўленасць «шчэпаўскіх хлопцаў» і іх гаспадарчы вопыт і скардзіўся, што я не магу зраўняцца з імі. «А мой Яначак, — казаў ён са смуткам, — то ані блізка да гаспадаркі, толькі ф'ю-ф'ю ў галаве, блакітны міндаль і лядовыя замкі...» І так засталося на ўсё жыццё; яны хутка імкнуліся наперад практычнай дарогай і дасягнулі выразнага і карыснага становішча ў жыцці, а я сапраўды ніколі не навучыўся быць поўнасцю дарослым і не адрокся ад свайго «блакітнага міндаля».

З хлопцамі мы забаўляліся, біліся, сварыліся і зноў мірыліся паміж сабой па чарзе, як гэта звычайна бывае паміж такімі малымі свавольнікамі. Мы на сябе казалі ўсё, што сліна прынясе на язык, і не цырымоніліся, што мне падабалася значна больш, чым добрыя чамброўскія манеры. Я часцей за ўсё згаджаўся з малодшым з братоў Богданам, бо ён быў дабрадушны, сяброўскі і меў спакойны настрой, які вельмі аблягчаў адносіны, затое Мар'ян адштурхоўваў сваім самалюбаваннем, прычэплівасцю і плаксівасцю. Ён адчуваў сябе вечна пакрыўджаным і прад'яўляў на гэта прэтэнзіі нязносна плаксівым чынам. Нашы гульні, простыя і шумныя, часта канчаліся сваркамі і штурханінай. Найбольш даставалася Мар'яну, і гэтыя свае няўдачы ён шчодра паліваў слязамі, а тое, што ён апрача гэтага меў хранічную прастуду і вызначаўся таксама хранічнай адсутнасцю насоўкі, было прычынай для жартаў, у якіх мы прадстаўлялі яго сваяцкія сувязі з Элькай Смаркатай з Клецка альбо проста называлі яго ныцікам і плаксам. Мы біліся бесперапынна спосабам, далёкім ад версальскага, а хутчэй заснаваным на звычаях кухні і пякарні, а мірыліся мы, каб гуляць далей. Акрамя гэтага паміж намі не было падабенства схільнасцей альбо бліжэйшых сімпатый, наадварот, нас падзяляла вялікая розніца, і таварыства сцірала яе толькі на нейкі час. У імя гэтага мы стваралі крыклівую і надакучлівую банду, юркую і пранырлівую, якая карысталася адсутнасцю ўвагі і занятасцю дарослых, каб шнырыць беспакарана па ўсіх свірнах гаспадаркі і сеяць у ёй беспарадак, як арда дзікуноў.

Затое ў пакоях са старэйшымі трэба было паводзіць сябе ціха і ветліва, бо дзядзькава жонка была вечна нечым незадаволена, дзядзька — нервовы, заклапочаны і іранічны, лёгка выбухаў гневам. Дзядзька насіў блакітныя акуляры і быў крыху ніжэйшы за майго бацьку, але так да яго падобны, што чужыя часта не адрознівалі братоў, прымалі аднаго за другога, і гэта выклікала забаўныя qui pro quo (хто за каго). Абодва мелі заўчасныя лысіны, што было сямейнай булгакаўскай рысай, а ззаду адпускалі валасы па старасвецкай модзе, і таксама насілі вусы і квадратна пастрыжаныя бароды. Нягледзячы на фізічнае падабенства, браты моцна адрозніваліся характарамі: бацька быў больш мяккі і просты, не такі востры і не такі энергічны і прадпрымальны, як дзяцька Антоній. Я адчуваў страх перад людзьмі ў акулярах, асабліва цёмных, якія хавалі выраз вачэй, і такога чалавека ў думках называў «злым», асуджаў яго за тое, што ён ахвотна дакараў дзяцей за дробязь і звысоку лічыў іх вінаватымі і падлягаючымі пакаранню. Такія, уласна кажучы, намеры я прыпісваў і дзядзьку ў адносінах да мяне, і не без прычыны, бо не раз адчуваў яго позірк, які холадна ўпіраўся ў мяне, і ледзь устрыманыя вымовы пры нейкім маім жывейшым рэагаванні. Іншая рэч, што гэтыя рэагаванні маглі быць вельмі непрыемныя для людзей, якія любяць

спакой ці занятыя важнымі справамі, бо я быў шумны і непаслухмяны, не разумеў, што трэба стрымліваць сябе ў адносінах са старэйшымі, шанаваць іх вушы і захоўваць сякую-такую цішыню, калі яны размаўляюць паміж сабой. Спакойны і збянтэжаны перад чужымі па-за домам, у доме я дазваляў сабе розныя выбрыкі, адчуваючы беспакаранасць, таму вельмі веру, што мог тады каму-небудзь здавацца непрыемным і проста нязносным. Дзядзька меў прэтэнзіі да маёй маці, што яна дрэнна мяне выхоўвае, песціць, патурае, і не хаваў гэта перад бацькам, прадстаўляючы шкодныя наступствы такіх паводзін, а бацька, аднак, адданы жонцы і брату, аказваўся ў нерашучасці, каго слухаць, і моцна ад гэтага пакутаваў.

Справу майго выхавання распальвала яшчэ і другая сястра бацькі — цёця Бася, якую звалі на французкі манер Бабетка, якая часта прыязджала ў Шчэпаўшчыну, а жыла ў Садках у Ігуменскім павеце, яшчэ некалькі міль на паўднёвы ўсход. Яна была замужам за Томашам Булгакам — далёкім стрыечным братам, добрым расцяпам, занятым толькі механікай і паляваннем, і кіравала ім ціха, але безапеляцыйна. Цёця Бася была непадобная да сваёй мяккай, добрай сястры ў Чамброве, гаварыла шмат і з непрыхаванай зласлівасцю, была хуткай і суровай у меркаваннях аб людзях, непрыхільна настроенай да чужых поглядаў, але сваёй бліжэйшай сям'і — адданай з шавіністычнай выключнасцю. З самага пачатку, калі мае бацькі пачалі жыць у Асташыне, яна жыла там з імі, пакуль мой бацька не даў ёй пасаг з сумы, якую прынесла мая маці, калі цёця Бася выходзіла замуж за дзяцьку Томаша. Відаць, яна тады шмат папсавала крыві маёй маці, далучаючыся да крытычнай пазіцыі дзядзькі Антонія і яшчэ больш падсілкоўваючы яго папрокі ў сакрэтных размовах братоў. Ведаю, што маці праліла з-за яе шмат слёз і гэта сястра мужа была чорнай плямай у яе шчаслівым замужнім жыцці, пакуль яна, пасля таго як выйшла замуж, не пакінула Асташын і не перасялілася ў мужавы Садкі. Цёця Бася, хоць так лаяла выхаваўчыя метады маёй маці, сама рабіла падобныя памылкі ў адносінах да сваёй адзінай дачкі Янкі. Яна захоўвала яе ў пуховай шкатулцы, рассыпалася над ёй не горш, чым маці нада мной, і ў канчатковым выніку выхавала яе жанчынай без здароўя, ініцыятывы і кваліфікацыі да працы. Цёця Бася была вядома вялікай ашчаднасцю, блізкай да скнарнасці, і на гэту тэму вакол яе кружылі смешныя анекдоты. Аднойчы яна да ўпаду таргавалася з рэзнікам за адну капейку, бо ніяк не магла дакладна палічыць, колькі яна павінна яму заплаціць за прывезеныя дзве заднія чвэрці цяляціны, якія ў нас па-простаму называлі цялячым задком. Стары яўрэй з мястэчка спрабаваў розныя спосабы, каб растлумачыць рахунак, і паколькі гаворка ішла пра 99 капеек за мяса і ён павінен быў аддаць рэшту з рубля 1 капейку і не больш, то для больш зразумелага і вобразнага тлумачэння спраў сказаў: «Ну, як пані прыкладзе да задка капейку, то будзе рубель, вось і ўвесь інтарэс!» Гаворка ішла, вядома, пра той спрэчны цялячы задок, а не пра новы спосаб выраблящь расійскія рублёвыя манеты, але гэты анекдот доўга бытаваў сярод суседзяў як тэма для вясёлых расказаў, якія дайшлі і да нашага дзіцячага свету. Гэтая слуцка-ігуменская радня мела нейкую незразумелую прадузятасць да маёй маці, і гэта нягледзячы на тое, што з бацькам яны жылі ў вельмі сардэчных адносінах, таму і я адчуваў да іх пэўны недавер і не лічыў іх за сваіх. Мне здавалася, што яны заўсёды схільныя судзіць маму і мяне неаб'ектыўна і сурова і да нас на самай справе не ставяцца добразыч-

ліва. У Чамброве ў добрай цёці Карольці такія страхі ніколі нават не прыходзілі мне ў галаву...

Аднак я быў бы несправядлівы, калі б не прызнаў, што, нягледзячы на гэтыя няслушныя прадузятасці, дзядзька Антоній і цёця Бася былі добрымі і дастойнымі людзьмі, вельмі любілі сваю сям'ю і заслугоўвалі павагі як прыкладная радня, якая жыве ў працы і страху перад Богам, а таксама ў вялікім сяброўстве. Калі яны збіраліся разам учацвярых, рэшта свету магла для іх не існаваць. Яны сядалі сабе дзе-небудзь у ціхім кутку і гаварылі сакрэтна аб сваіх справах альбо ўспаміналі маладосць і былыя часы. Не было канца гэтым размовам і сяброўскім споведзям, якія, аднак, мелі характар поўнай выключнасці, у якіх для людзей звонку ўжо не было месца. Дзядзька Тадзя з уласцівай яму насмешлівай бесцырымоннасцю называў гэтыя сямейныя размовы «пірамідай з галоў», камічна апісваў іх выгляд на канапе, калі сваякі ўсаджваліся цесна адно да аднаго, і часта пасмейваўся з гэтага адасаблення, якое лічыў непрыемным для астатніх. Аднак жа прычына гэтай дробнай нетактоўнасці Булгакаў сведчыла аб добрых сямейных іх пачуццях, няхай нават не так добра аб іх паводзінах у адносінах да іншых. Дастаткова сказаць, што на маёй памяці гэтыя чацвёра сваякоў ніколі не разышліся ні ў чым, ані нават паспрачаліся, не ведалі, што такое абыякавасць альбо нагавор, жылі ў пастаяннай згодзе, адорвалі адно аднаго бязмежным даверам і дапамагалі адно аднаму ва ўсім, як толькі маглі. Іншая рэч, што фактычную матэрыяльную дапамогу аказваў радні больш за ўсё мой бацька, якога лічылі самым заможным; затое дзядзька Антоній аказваў паслугі вопытам у патрэбных справах, шырокімі сувязямі і быў юрыдычным саветнікам усёй сям'і, вырашаў справы ва ўрадавых установах і гарадах і пастаянна быў у раз'ездах. Для дому пры гэтых раз'ездах ён меў не шмат часу і моцна з-за гэтага перажываў, бо быў добрым бацькам і вельмі любіў сваіх дзяцей. Не раз ён скардзіўся брату, што вымушаны вечна ездзіць, спяшацца, гнацца за хлебам, жыць на брычцы і быць госцем дома. Затое калі часам ён мог сабе дазволіць адпачынак і правесці некалькі дзён дома з дзецьмі, тады знікаў суровы выраз з яго твару, звычайна сур'ёзнага і заклапочанага, ён праясняўся, дзядзька станавіўся гаваркі і мілы, змяняўся непазнавальна, і я пачынаў яго любіць.

Я памятаю адзін такі летні вечар, калі мы ўсе пайшлі на прагулку на луг, а дзядзька ўзяў з сабой скрыпку, на якой у маладосці часта іграў, пайшоў разам з намі і па-сяброўску размаўляў і жартаваў, як быццам бы быў старэйшым калегам. Было ціха і цёпла, цямнела, і з-за лесу ўставала чырвоная поўня месяца, на лузе адгукаліся дзеркачы, якія размерана скрыпелі, і жабы ў балоце квакалі жаласна і меладычна. Мы пачалі на чале з дзядзькам хорам спяваць «Па начной расе», дзядзька падыгрываў на скрыпцы, спяваючы мелодыю крыху ўзрушаным голасам. Было відаць, што яго захапілі ўспаміны і поўнасцю пераўтварылі, зрабілі добрым і мяккім, мілым і летуценным. Нам з ім было вельмі добра. Адчувалася згода часу і акружэння са словамі гэтай мілай дамашняй песні Манюшкі. Усё наўкола было такое рознае, як у той песні: раса сапраўды падала, галасы гучна плылі ўдаль разам з плачам скрыпкі і іх рэха напеўна разыходзілася ў змярканні надыходзячай ночы. Хвіліна была сапраўды прыгожая, і такой яна засталася ў памяці, як нешта выключнае, што больш там ніколі не паўтарылася. Але ж так няшмат было патрэбна для таго, каб усім было добра.

Адной са шчэпаўскіх прываб была язда ў Клецк. Мястэчка гэта, размешчанае ў некалькіх вёрстах ад Шчэпаўшчыны, было вядома па прычыне вялікай бітвы з татарамі і захавала высокія насыпаныя акопы на лузе каля горада. У Клецк здараліся амаль штодзённыя аказіі, таму і нам, хлопцам, удавалася часам паехаць туды разам з кім-небудзь са старэйшых. Няшмат, праўда, магло быць цікавага ў такім малым яўрэйскім мястэчку, бо пры расійскім кіраўніцтве край быў занядбаны і пакінуты ў стане беспарадку. Дарогі былі запушчаныя, масты — дзіравыя або гнілыя, мястэчка — небрукаванае, бедна забудаванае і пазбаўленае самых простых зручнасцей. Апанавана было яўрэямі, якія прадстаўлялі сабой карціну галечы і роспачы. Такім быў і Клецк, але нам яго выгляд увогуле не перашкаджаў, а наша зацікаўленасць скіроўвалася ў бок рынку, дзе былі магазіны з цукеркамі і іншымі ласункамі. Мы куплялі там «царскія» карамелькі, якімі потым усю зваротную дарогу хрумсталі навыперадкі. Пры гэтым нас забаўлялі старыя яўрэйкі, прадаўшчыцы гэтых прысмакаў, бо адну з іх называлі Элька Будоўля, а другую — Элька Смаркатая, і гэта былі не мянушкі, а сапраўдныя прозвішчы гэтых Макавеявых дачок. Трэба дадаць, што іх выгляд поўнасцю апраўдваў прозвішчы, бо абедзве былі і масіўныя, і брудныя. Успамін аб гэтых клецкіх «смаркатых будоўлях» разам з грызеннем цукерак запаўняў нам дарогу дадому і выклікаў выбухі шалёнага смеху, бо дзецям няшмат трэба для гэтага, і нават вялы Мар'ян развесяляўся і падзяляў наш мімалётны настрой.

З Мар'янам быў вечны клопат, бо ён меў флегматычны характар, які быў рэзкай процілегласцю маім жывым паводзінам, і гэта выклікала пастаянныя спрэчкі паміж намі і яшчэ павялічвала ахвоту дакучаць яму, якую не надта стрымлівала мая маці, якая яго таксама не любіла. Богдана, аднак, любілі ўсе, і я з ім жыў у згодзе і ніколі не рабіў яму нічога дрэннага, таму, напэўна, была віна і з боку Мар'яна. Аднойчы, напрыклад, мы разам капалі ў садзе, і мне стрэліла ў галаву напалохаць Мар'яна: вось зараз я зраблю такую глыбокую яму, што зямля будзе пракапана навылёт, і тады кіну яго ўсярэдзіну так, што ён праляціць праз гэты пракоп і вываліцца з другога боку Зямлі, дзе-небудзь у Амерыцы. Мне падабалася геалагічная незвычайнасць гэтай задумкі, і я менш думаў пра ўражанні падарожніка да нетраў Зямлі, але Мар'ян, паверыўшы адразу ў выканальнасць гэтага даволі фантастычнага праекта, моцна ўразіўся, кінуўся ў плач і пабег са скаргай да старэйшых. Пры гэтым яго не столькі спалохала быць укінутым углыб Зямлі, колькі тое, што ён потым выпадзе ў міжпланетную прастору, бо што праўда, то я рабіў асаблівы націск на гэту частку яго планаванага падарожжа як самую сенсацыйную. Доўга абліваў Мар'ян горкімі слязамі гэта падарожжа і скардзіўся, што «Янак здзекуецца з яго» такім адборным і жорсткім спосабам, хоць, здаецца, і старэйшыя былі больш здзіўлены маёй знаходлівасцю, чым спачувалі лёсу няшчаснага даследчыка нутра Зямлі.

Другі раз мы абодва ехалі ў экіпажы з маёй маці і ўслых выказвалі думкі, якія ў нас нараджала наваколле. «Цёця, — пазваў Мар'ян, гледзячы на поле, — паглядзіце, як тут добра заарана поле!» А я гэтага ўвогуле не заўважыў, бо не адрозніваў добрага ворыва ад дрэннага і ўвогуле ніколі не засяроджваўся на тым, якім павінна быць ворыва. Праз хвіліну мы праязджалі міма зялёнага луга, а гэта была мая любімая райчанская далінка, пра якую я ўжо казаў, таму і я не мог устрымацца, каб не

крыкнуць: «Мамачка, які прыгожы луг!» Гэту нашу ўзрушанасць запомнілі старэйшыя і потым часта цытавалі як ілюстрацыю адрозненняў нашых паводзін, і вядома, гэта былі прынцыповыя заявы: у іх хаваўся ўвесь пазнейшы змест жыцця Мар'яна і майго. Ён стаў земляробам па прызванню, а я пайшоў на службу прыгажосці і да гэтага часу стараюся на ёй заставацца. Мяркуючы непрадузята, я павінен прызнаць, што Мар'ян і Богдан былі дома выхаваны лепш, чым я, нягледзячы на тое, што ад іх бацькоў можна было менш патрабаваць з пункту гледжання розуму, чым ад маіх. Жонка дзядзькі не мела голасу ў справе выхавання дзяцей і, напэўна, не прэтэндавала, але дзядзька, будучы ўвесь час па-за домам, паклапаціўся пра добрую настаўніцу для дзяцей і знайшоў нейкую панну Разалію Вяржбіцкую, якая займалася імі ахвотна і даволі ўмела. Калі пры мне была француржанка, якая магла мяне вучыць толькі замежнай балбатні, шчэпаўскія хлопцы вучыліся ў панны Разаліі добрым польскім вершам, чыталі гістарычныя апавяданні і маглі пахваліцца веданнем польскай мовы, хоць былі малодшыя за мяне. Памятаю, як мне падабалася, калі Мар'ян дэкламаваў уступ да «Песні пра нашу зямлю» Вінцэнта Поля, узяты з польскай гісторыі Здановіча[10] ў віленскім выданні, і як мне падабалася гэта невядомая кніжка, у якой былі каляровыя карта і хромалітаграфаваныя партрэты польскіх каралёў у каронах і гарнастаях. Я слухаў са здзіўленнем, як Мар'ян у нас урачыста вымаўляў:

Пад Кракавам ляжыць замак,
а над замкам з вежы б'е
звон той слаўны Зыгмунтоўскі.
Звон, Зыгмунце, гучна, гучна,
і паважна, і жалобна
бі там Зыгмунтавым сэрцам
па-над горадам над Кракавам...
Няхай хмары ўскалыхнуцца,
няхай чуюць у магілах,
хай уваскрэсне дабрадзейнасць
на твой голасны прызыў...

Мяне ўзрушваў вобраз б'ючага звона, і я бачыў калыханне хмараў і як мёртвыя ўстаюць з магіл. Мне не перашкаджала нават тое, што Мар'ян абсалютна шчыра вымаўляў «зверы б'е», і я сам думаў пра тое, што б'юць нейкую звярыну пад Кракавам, бо мы яшчэ не ведалі, што такое «вежа». Слухаючы дэкламацыю Мар'яна, я вывучыў адразу цэлы верш пра Кракаў, бо памяць меў адмысловую, і з радасцю паўтараў за ім:

Пра памерлых гавары з жывымі,
пра гаротных — са шчаслівымі,
звані, звані нам, стары звон,
пакуль у нашым сэрцы вера.

Гэта быў нейкі новы, абсалютна невядомы мне заклік, на гук якога ўва мне адгукалася нешта вельмі гарачае і патаемнае. Нічога падобнага дома я не чуў, і гэтыя новыя галасы будзілі шэраг смутных, але ўзрушаных вобразаў, шэраг цёмных, але праніклівых пачуццяў. Я прыслухоў-

[10] Нарыс польскай гісторыі для дзяцей, укладзены ў двух курсах Аляксандрам Ждановічам. Вільня, 1859, 1861, 1862 гг.

ваўся з невядомай дагэтуль радасцю да вобразаў і рытмікі няхітрых строф Поля «Пра нашу зямлю», і яны здаваліся мне незвычайна прыгожымі, урачыстымі і гаварылі пра рэчы вельмі блізкія і дарагія. І, гледзячы на майго стрыечнага брацікa, які чытаў упэўненым голасам і з моцнай інтанацыяй гэтыя вершы, я забываў пра звыклыя прымаўкі, пра яго смаркаты нос, губляў ахвоту дакучаць яму мянушкамі і адчуваў павагу да панны Разаліі, якая навучыла яго такім прыгожым рэчам. Мяне вучылі толькі французскай мове, думаў я, але што мне да гэтых замежных глупстваў, ці не лепш такія свае любімыя вершы?..

Зноў не магу ўстрымацца ад заўвагі, што дарослыя часцей за ўсё не ведаюць, якой удзячнай глебай з'яўляецца дзіцячая ўражлівасць і якім у сто разоў большым плёнам вырастала б на ёй кожнае здаровае зерне, каб яго ўмелі кідаць у патрэбны час і з належным разборам. Наносіцца непатрэбная шкода, калі ў гэтую здольную і прагную глебу злы выпадак засявае марнае пустазелле, якое потым трэба вырываць з цяжкасцю і мукай.

А мне гэтага шалупіння не шкадавалі: вучылі дома розным абы-якім французскім банальнасцям і нават не паказалі, як выглядае польская граматыка і гісторыя, адпраўлялі барабаніць вальсы і полечкі, і ніколі я не пачуў ані слова пра наша мінулае, пра наш род і продкаў. Я не меў уяўлення, кім былі Томаш і Тэрэза Булгакі — дзве найбольш вартыя павагі і самыя прыгожыя постаці сярэдзіны XIX стагоддзя, якія ўвасаблялі марціралог той эпохі. А яны ж яшчэ жылі тады, былі не легендай, а людзьмі з крыві і касцей, хаця і знясіленыя ўзростам і перажытымі мукамі. Амаль стогадовымі старымі дажывалі яны век у Міцкевічах недалёка ад Шчэпаўшчыны, іх можна было ўбачыць, наталіцца відам іх сівой шляхетнасці, пацалаваць іх агрубелыя рукі, атрымаць благаславенне патрыярхаў нашага роду, якія ўсё сваё жыццё прысвяцілі Бацькаўшчыне і не мелі нічога за яе даражэйшага. Часам ад Мар'яна, якога бацькі вазілі ў Міцкевічы, я чуў падрабязнасці пра яго побыт у «прадзеда і прабабулі», не ведаючы нават, хто яны такія. А некалькі гадоў пазней, калі ў 1889 годзе яны ўрачыста святкавалі залатое вяселле — пяцідзесятую гадавіну шлюбу, які пачаўся ў сібірскай тайзе, толькі адзін Мар'ян расказаў мне, як гэта святкаванне выглядала, які цудоўны балдахін з залатымі ўпрыгажэннямі падарылі сівой пары на гэтыя залатыя гады, які быў велізарны сямейны з'езд у Міцкевічах — нешта, бадай, за пяцьдзесят асобаў з самых аддаленых канцоў краіны, якія кранальныя прамовы і доказы сардэчнай любові да вартых ушанавання старых упрыгожылі яго. Толькі адно дзіця, малое дурное дзіця, якое належала да роду Булгакаў, хацела мне нешта расказаць пра незвычайную ўрачыстасць, якая была сямейным святам і павінна была глыбока ўрэзацца ў памяць усіх прысутных. З Асташына ніхто на гэта свята не паехаў і не зацікавіўся яго рэдкім характарам, ніхто не палічыў патрэбным растлумачыць мне, што мы маем у радні такую незвычайную постаць, як Томаш Булгак, які быў два разы сасланы ў Сібір, правёў пасля першага паўстання 18 гадоў на пасяленні і 10 гадоў пасля другога (у 1839–1857 і 1864–1874) і толькі на схіле жыцця змог вярнуцца на радзіму. Тое, што разам з ім належыць ушанаваць яго высакародную жонку Тэрэзу з Вяржбіцкіх, якая, будучы маладой дзяўчынай, не вагаючыся паехала за мужам у далёкае сібірскае выгнанне, узяла з ім шлюб пад вартай расійскіх салдат, а потым адна праехала тысячы вёрст у азіяцкія стэпы па слядах сасланага мужа і не супакоілася, аж пакуль не знайшла яго ў нейкім

глухім бязлюддзі (у 1839 годзе). З таго часу ўсё жыццё падзяляла яго долю і нядолю як мужная і верная сяброўка: працу і бяду, мукі і тугу; верай, розумам і адданасцю нацыянальнай справе яна была роўнай мужу і пераўзыходзіла яго па літаратурных здольнасцях, якім блуканне па катарзе не дало развіцца і прынесці пэўны плён.

Калі сёння я пра гэта ўспамінаю, не магу стрымаць пачуццё горкай крыўды. Чаму мяне адлучылі ад таго, што было самым лепшым, самым святым?.. Чаму мне казалі ехаць у Просці[11], каб адбіць паклоны перад залатым цяльцом Пратасевічаў, і трымалі ў невядомасці, што мы маем у сваёй сям'і чалавека, вартага сапраўднай павагі, які не лгаў, чалавека выключнага, які так слаўна праявіў сябе ў бітвах за незалежнасць, што побач з надутымі, нуднымі Просцямі ёсць Міцкевічы, да якіх трэба было хадзіць у паломніцтва і нізка схіляць галовы перад іх жыхарамі. Як можна было ўчыніць такую крыўду ўласнаму дзіцяці, горача яго любячы і шчыра прагнучы яму дабра?..

Але я ведаю, чаму так зрабілі. Таму, уласна кажучы, што бацькі вельмі хацелі мне дабра, толькі разумелі яго памылкова і фальшыва, якраз процілегла таму, як належала. Бацькі не маглі не ведаць, што Томаш Булгак і яго жонка былі ўпрыгожваннем і прыкладам усёй нашай сям'і, яе гордасцю і каштоўнасцю. Але яны баяліся, каб гэта стала прыкладам для мяне, і наўмысна мэтанакіравана зрабілі так, каб я нічога пра іх не ведаў. Толькі такім чынам можна растлумачыць іх незразумелы ўчынак у гэтай справе. На жаль, растлумачыць — не азначае апраўдаць.

Горка мне і балюча гаварыць аб гэтым здарэнні. Гэта былі наступствы паўстання і спусташэння, якое яно выклікала ў грамадстве, наступствы духоўнай прастрацыі, у якую пагрузіліся тыя, хто не вытрымаў, хто прытрымліваўся прынцыпу «сядзець як мыш пад венікам».

[11] Просці — землі над ракой Ушой у Гарадзейскай гміне, налічвалі 64 валокі адборных лугоў. У канцы XIX ст. прыносілі значныя даходы ад млыноў і вінакурных заводаў.

## Раздзел XIV

### *Цёця Ідалька. Пані Абламовіч*

Асташын знаходзіўся на самым краі ўзвышша, якое панавала над далінай Сэрвачы, і яго палі былі апошнім краем, мяжой узвышша, якое акружала гэту даліну і спускалася потым лугамі ўніз да ракі. У выніку мы ўсе прывыклі да далёкіх перспектыў і шырокіх краявідаў, у кожным месцы было нейкае ўзвышэнне, адкуль позірк ахопліваў усю ваколіцу і сягаў далёка, аж да блакітнаватых краёў гарызонта. Нідзе не было ані цеснаты, ані заслоны, вока ўсюды ішло свабодна ўдаль і магло патанаць у ёй з задавальненнем. Гэта канфігурацыя мясцовасці ўплывала на мяне рашаючым чынам, хоць і нязначна, бо навучыла заўважаць, цаніць і адшукваць самыя лепшыя пункты назірання ў акружаючым пейзажы і рана выпрацавала ўва мне практычнае пачуццё перспектывы, арэны і сцэны. Калі падчас прагулкі я дзе-небудзь затрымліваўся і сядаў адпачыць, то падсвядома выбіраў месца паводле наступнага нязменнага прынцыпу: я пазбягаў месцаў закрытых або нізкіх і сядаў на ўзвышэнні, адкуль вока лёгка ахоплівала вялікую прастору, што рассцілалася амфітэатрам і ўтварала нейкую глядзельную цэласнасць. Я займаў месца гледача на арэне пейзажнага тэатра. Гэты парыў быў ува мне механічны, непазбежны і загадны, ён напамінаў шапкі сланечніка, што паварочваюцца да сонца, ці кароны дрэў, якія растуць у кірунку, дзе мацней за ўсё грэе сонца. Толькі ў старэйшым узросце я злавіў сябе на гэтым звычаі і зразумеў яго прычыну. Так прыроднае акружэнне фарміруе чалавека і ўплывае на яго схільнасці і нават на яго здольнасці.

Праз паўвярсты на поўдзень ад Асташына наша пласкагор'е абрывалася і тэрасамі спускалася ўніз да вёскі Баяры і да тарфянікаў над Сэрваччу. З гары была відаць дарога, якая вілася і хвалямі ішла ў накірунку Цырына, а справа на паўднёвы захад — шырокія палаці надрэчных лугоў і сама рака, зарослая алешынай. Я любіў сысці з дарогі ў гэтым месцы ўбок да сасняку, які рос на самым краі ўзвышша, стаць на яго ўскрайку, як на якім-небудзь чарадзейным «бельведэры» з прыгожай казкі, і адтуль ахапіць позіркам гэту «маю зямлю» — зялёную даліну Сэрвачы з альховымі купамі, ідучымі ўдаль лугамі і пашамі, пярэстымі ад статкаў; яны цягнуліся праз Цырын аж пад Туганавічы, нарэшце, лясістыя ўзгоркі Варончы, што замыкалі гарызонт. Гэтыя краявіды не былі такія прыгожыя і такія вясёлыя і разнастайныя, як той мой самы мілейшы з-пад кальвінскага касцёла, але яны мелі сваю выразнасць сканцэнтраванай, крыху змрочнай самоты. Тут, на гары, рассцілаліся нашы ворныя палі, якія так старанна даглядаў бацька, там, унізе, — капальні торфу, што чарнеў стажкаватымі прызмамі, — прадмет яго асаблівых стараннях, далей — лугі з копамі мурожнага сена — уся бацькава гаспадарка, у якую ён укладваў столькі працы, любові і душы, што кожная дробязь апрацоўкі, кожны камяк зямлі гаварыў пра

яе. Так, паўднёвы бок Асташына з гэтым крыху суровейшым краявідам заўсёды выклікаў у маіх думках бацьку, у той час як прыгажэйшы паўднёвы спалучаўся з вобразам маці, бо меў больш жаночай прыгажосці. Вось так пад дамашнія краявіды я падводзіў свае сямейныя пачуцці і мімавольна зліваў у адно зямлю і людзей.

Нашы выезды ў паўднёвы бок адбываліся няйначай як раменным дышлам, ад коміна да коміна, і цягнуліся некалькі дзён альбо і цэлы тыдзень, таму што мы павінны былі па чарзе адведаць некалькі дамоў. Спачатку — пані Туганоўскую ў Туганавічах, пра якія я маю шмат што расказаць, потым — цёцю Ідальку ў Скрабаўку, дзе мы праводзілі сама менш пару дзён. Адтуль трэба было з'ехаць у бок да Гарадзішча, каб нешта купіць, нарэшце, вярнуцца на старую дарогу, каб падацца да Міхалова, да дзядзькі і цёткі Керсноўскіх. Там заканчвалася наша падарожжа, калі мы яшчэ не заязджалі ў Сталовічы да пана Уладзіслава Хацiскага, якога не трэба атаясамліваць з маім дзедам з Міраціч, бо той належаў да іншай галіны сям'і Хацiскіх з Хацішчаў, якая была толькі ў далёкім сваяцтве з нашай. Краявід на гэтым шляху шмат саступаў заходняму, да Туганавіч ён меў характар нізінна-лугавы, не пазбаўлены пэўнага выразу тугі, але потым, ад Скробаўка, набіраючыся рысаў узвышша, ён станавіўся роўны і бязлесы, губляў усю навагрудскую гарыстую прыгажосць і ўжо не аказваў на мяне ніякага ўражання. Я глядзеў на яго з легкадумнай абыякавасцю, амаль з пагардай, і думаў напаўсвядома, што «немагчыма, каб усюды было так прыгожа, як у нас».

Таму ў гэтым раздзеле таксама будзе больш размовы пра людзей, чым пра зямлю, і то амаль пра жанчын, радню ці прыяцелек маёй маці. І тут на хвіліну я пакіну геаграфічны парадак апавядання, каб адразу скочыць на дзве мілі ад Асташына да Скробаўка, да цёці Ідалькі, а потым затрымацца ў Туганавічах. Я любіў ездзіць да Скробаўка, хоць там для мяне не было ніякай кампаніі дзяцей, бо там жылі толькі дзве асобы: цёця, уласна кажучы, бабуля Ідалька Анцута — адзінокая старая панна, — і яе эканом Юзік. Прабягаючы ў думках сяброўскія адносіны маёй маці, я бачу некалькі равесніц, але ніводнай старэйшай радні, апрача цёці Ідалькі. Бацькі маці не мелі радні: дзед Адам Грынеўскі, які так любіў маму, памёр рана, бацькавы бацькі таксама ўжо не жылі, і малады Валерый Булгак з сям'ёй застаўся адзін, не маючы навокал сябе нікога старэйшага. Маці акружалі равесніцы, як цётка Ядвіга Хацiская з Отмыта, Караліна Карповіч з Чамброва, пані Ядвіга Абламовіч з Міраціч і Юзэфа Туганоўская з Туганавіч. Маці мела толькі дзвюх цётак, што яшчэ жылі, пані Цывінскую з Сёгды, з якой, як з далёкай раднёй, ледзь падтрымлівала рэдкія кантакты, і панну Ідалію Анцуту са Скробаўка. Гэта апошняя была блізка і сардэчна з намі звязана, часта прыязджала ў Асташын і падоўгу ў нас сядзела. Яна была мне, уласна кажучы, баб-кай, але ані я, ані іншыя дзеці не называлі яе інакай як цёцяй, і гэтак-сама да яе звярталіся многія родныя і знаёмыя, робячы з яе сапраўдную павятовую цётку. Цёця Ідалька нічога супраць гэтага тытула не мела, бо ўсіх любіла, з усімі мела добрыя адносіны, і гэта назва ёй вельмі пады-ходзіла. І адначасова гэта была сапраўдная дама, якая была раднёй гэтакім сем'ям, як Цывінскія, Верашчакі, Слізені, Туганоўскія, і, нягледзячы на вельмі сціплы маёнтак, была акружана павагай і добразычлівай увагай з боку ўсіх. Не ведаю, чаму яна не выйшла замуж, бо гэта былі даўнія падзеі, значна старэйшыя, чым маё жыццё, старая дзева засталася ў няпэўным узросце, з тварам, дробна зморшчаным, як печа-

ны яблык, але жывая і румяная. Фігуру яна мела невысокую і шчуплую, але не пазбаўленую годнасці, якую надаюць высакароднасць, розум і добрае выхаванне. Яна вызначалася найлепшымі манерамі ў мінулым стылі, насіла старамодныя прычоскі, шырокія цёмныя сукенкі, «матэрыяльныя», з валанамі і бліскучымі пацеркамі з гагату, вялікую брошку пад барадой і даволі вялікія завушніцы, што тады неад'емна належала да ўбору кожнай пані. Нечувана сяброўская і гаваркая, поўная цікавасці да ўсіх праяў жыцця, яна была хадзячай хронікай Навагрудчыны, ведала паходжанне, сваяцкія адносіны і маёмасць шляхты ўсяго павета, і ўсюды яе ахвотна віталі не як госцю па этыкету, а як мілую сяброўку і прыязную дарадцу. Цёцю Ідальку перадавалі з рук у рукі і не хацелі выпускаць з дому, і яна не перашкаджала, бо пры сваіх рухавых і жвавых паводзінах любіла частую змену месца і людзей. Нягледзячы на даволі паважаны ўзрост, у ёй не было нічога старэчага, наадварот, яна мела жывы розум і шырокія інтарэсы, што рабіла яе прыяцелькай кожнай сям'і, добрым духам кожнага дома.

Калі цёця Ідалька прыязджала да нас, я любіў прыслухоўвацца да цячэння бясконцых размоў, якія яна вяла з маёй маці па-польску, пафранцузску, хоць я не шмат прыслухоўваўся да незразумелага іх зместу. Мяне радаваў ажыўлены тэмп гэтых размоў, які рассейваў паўсядзённую аднастайнасць, да таго ж я падсвядома паддаваўся ўздзеянню добрасумленнасці і дабрыні, якія выпраменьваў скульптурны, хоць і завялы твар цёці. Звычайна яна прывозіла невычарпальныя запасы суседскіх навін, і ў гэтай сферы яе можна было лічыць жывой газетай у ваколіцы. І гэта «газета» дакладна адрознівала бяздушную і зласлівую плётку ад прыхільнай зацікаўленасці жыццём суседзяў, і, малюючы справы бліжніх, яна чэрпала фарбы ў сэрцы, а не з жоўцевага пузыра. Слухаючы таго, хто гаварыў, цёця Ідалька мела звычай пацвярджаць яго словы дабрадушным ківаннем галавы, на якую былі надзеты чорныя карункі, і вымаўляла сваім нізкім альтам паддакваючае «ўгу, угу!», поўнае спакойнай і памяркоўнай зацікаўленасці. Гэтае «ўгу» было для яе вельмі характэрна і паўтаралася так часта, што немагчыма было ўявіць сабе цёцю Ідальку без яго. Яно дакладна адлюстроўвала яе цікавасць, поўную стрыманасці, і разам з тым схаваную паблажлівасць і разуменне.

Цёця Ідалька была вельмі прывязана да маёй маці як самая блізкая і амаль адзіная кроўная радня са старэйшага пакалення і ўзаемна атрымлівала ад яе вялікую сімпатыю і давер. А маці была ж яшчэ маладой, і ёй не раз была патрэбна вопытная парада старэйшай асобы, якая ведала свет і жыццё, таму яна гарнулася да цёці і ахвотна павярала ёй свае думкі і клопаты. Адбывалася гэта часцей за ўсё вечарам у прыбудоўцы ў маёй прысутнасці. Я любіў засынаць пад іх доўгія начныя размовы. Часам іх замяняла чытанне ўголас французскіх раманаў, якія цёця прывозіла з дамоў, што больш цікавіліся літаратурай. Некаторыя ўступы гэтых аповесцяў, напэўна, здаваліся чытачкам непрыстойнымі, бо я заўважаў на твары маці лёгкую ўсмешку, спалучаную са змоўніцкім поглядам у бок цёці. А я, хоць зусім не ведаў, скурай адчуваў, што там ідзе гаворка пра нешта «непрыстойнае», як у той час кваліфікавалі каханне. Я лічыў яго рэччу вельмі сараматлівай, мяркуючы па намёках і двухсэнсоўнасцях, якія дазвалялі сабе некаторыя са старэйшых у маёй прысутнасці. Словы «каханне», «нарачоная», «прапанова» абуджалі ўва мне вібрацыю складаных пачуццяў і выклікалі румянец на твары, а таксама жаданне схавацца так, каб ніхто, барані Божа, не заўважыў

маёй уражлівасці. Я станавіўся тады ўважлівым і пільным і зведваў раздражнёную зацікаўленасць, у якой бы не прызнаўся ні за якія скарбы на свеце. Але чытачкі не звярталі на мяне ўвагі, занятыя зместам кнігі і сваімі да яе каментарыямі. Маю маці збліжала яшчэ з цёцяй Ідалькай і тое, што яна была адзінай асобай, якая магла замяніць ёй маці, гэта значыць нашу хворую на розум дамашнюю бабулю Анетку Хацiскую. Кожны прыезд цёці Ідалькі быў вялікай радасцю і ўносіў ажыўленне ва ўвесь дом, і калі праз некалькі дзён цёця збіралася да ад'езду, маці не хацела яе пускаць, і не было канца гэтым сардэчным упрошванням. Спыняліся ўрэшце на тым, што мы лічылі цёцю членам дому, які належыць да сям'і, і хацелі, каб яна ніколі ад нас не ад'язджала.

Але больш за ўсё мне падабалася цёця Ідалька ў сябе дома, у Скробаўку, дзе мы яе з маці часта адведвалі. Скробавак знаходзіўся на паўднёвым шляху асташынскіх дарог, пра якія я яшчэ буду пісаць. Гэта быў малы фальварачак, размешчаны на добрай глебе, з добра ўтрыманымі будынкамі і нядрэнна дагледжаны, бо цёця была практычнай, ведала сельскую гаспадарку і ўмела кіраваць. Невялікі жылы дом патанаў у зелені і туліўся да пладовага саду, які замыкала пара ліпаў, а ўся сядзіба пры сваім дробным маштабе мела крыху засцянковы характар і, можа, менавіта таму была ўтульнай. Адразу за дзяцінцам быў луг, на якім пасвіліся малыя адкормленыя выязныя цёціны конікі, а таксама стада добрых каровак і кудлатых авечак, а далей цягнуліся ворныя палі і зубамі выступалі шнуры вясковых стрэх. Гэта быў асаблівы дворык, ужо ў сваёй назве ён меў рысы здрабнеласці. Ён быў падобны да сваёй уладальніцы: пахнуў добрасумленнай старасвецкай парафіяльнасцю і адначасова ў ім бадзёра пульсавала жыццё ў стылі гутарак Сыракомлі, пачцівае і людскае. Усюды адчуваліся дзейсныя і клапатлівыя рукі, якія ўмелі збіраць, зберагаць і памнажаць. У замкнёным ганку сушыліся пучкі зёлак і вянкі грыбоў, насенне і садавіна на палічках сустракалі ўваходзячых моцным раслінным пахам, прыемна дамашнім, у якім спрытны нюх мясцовага чалавека змог бы вылічыць гісторыю двара і адгадаць цяжкасці і прыхільнасці яго жыхароў. Гэты крыху застарэлы пах скробаўскага дома, аддаючы рызніцай і каморай, адрозніваў яго сярод іншых дамоў, якія не мелі такога выразна свайго асобнага паху ці, хутчэй, гублялі яго з-за скразных вялікіх пакояў. А ў Скробаўку было цесна, нерухома, спакойна, і гэты ўрачысты пах зёлкаў, напаўкасцельны, змяшаны са свежым і дражнячым пахам даспяваючых яблыкаў, прыемна уражваў ужо ад самага парогу сяней і надаваў доміку рысы зацішнай жывучасці. Цяжка было акрэсліць яго бліжэй, бо пахі, няўлоўныя, як музыка, маюць багатую і выразную палітру, уздзейнічаюць і ўзрушаюць глыбока, але ўхіляюцца ад ўсялякага бліжэйшага акрэслення. Яны з'яўляюцца, можа, вышэйшым і больш дасканалым, чым чалавечая мова, сродкам экспрэсіі, таму не могуць мець шмат агульнага са словам. Што да мяне, ужо на парозе скробаўскага ганка я з прыемнасцю ўцягваў у сябе гэту атмасферу цёцінага дома і вітаў яе як старога знаёмага. У яе здаровай моцы я адчуваў і знаходзіў маральныя якасці Скробаўка, увасобленыя ў характары і жыцці яго ўладальніцы: я падсвядома любіў іх і ўхваляў, лічыў іх добрымі і ішоў на спатканне з імі з прыхільным даверам.

З ганка ўваходзілі ў цесную прыхожую, застаўленую шафамі, якая вяла налева ў сталовую і направа да гасцінай. Бо такі «салон» павінен

быў быць у кожным самым сціплым шляхецкім доме, хоць бы цаной нязручнасці для ўсяго дома. Пакоі гэтыя былі невялікія і невысокія, з бэлькавай столлю, старанна пабеленай, а на нефарбаваных дзвярах, карычневых ад старасці, віднеліся літары «С.М.В.»[1], напісаныя свянцонай крэйдай і падзеленыя крыжыкамі. Пабелка на бэльках месцамі адвальвалася, дэманструючы святлейшыя плямы альбо калючыя адлушчванні; калі яна падала на падлогу, па ёй варажылі змену надвор'я. Парогі былі высокія, і я павінен быў быць да іх вельмі ўважлівым, каб не спатыкнуцца, бегаючы з пакоя ў пакой. У салоніку мэбля была абцягнута цёмна-вішнёвай тканінай, адзета ва ўрачыстыя белыя пакрывалы, і ўсё засцелена мноствам сурвэтак, пакрывал і патарафак[2] з каляровага гарусу работы самой цёці, якая не выпускала з рук кручка і пляла гэтыя гарусныя ўпрыгожанні абсалютна машынальна, амаль не гледзячы на работу. У вокнах стаялі вазоны з пеларгоніямі, і іх яскравая чырвань весела прасвечвала на сонцы. Іншыя большыя расліны, такія, як філадэндраны, фікусы, альяс, стваралі ў гасцінай малую аранжарэю — так было іх шмат, бо ў нашых дамах любілі мець чым больш зеляніны і кветак. Гаспадыні ўважліва вывучалі, як вырошчваць гэтыя расліны, ганарыліся тым, што самі гадавалі іх ад маленькай сцяблінкі, дзяліліся адна з адной чаранкамі і насеннем і супернічалі ў падборы самых прыгожых сартоў. У гэтых вазонах нашых кабет змяшчалася цэлая навука эстэтыкі, агародніцтва і лекарства. Але апрача ўмення і любові трэба было мець да гэтага яшчэ «шчаслівую руку», бо часам чаранкі не прымаліся альбо расліны не хацелі зацвітаць. Цёця Ідалька была ў гэтым сэнсе майстрам, а яе салонік узорна зелянеў і квітнеў. На круглым стале перад канапай ляжалі марскія ракавіны, дзіўна павыкручваныя, і пераліваліся апалавымі фарбамі, а на палічках і этажэрках хораша паблісквалі сувеніры з нямецкіх курортаў, шкляныя паўшар'і з краявідамі, нейкія рамкі, выразаныя лобзікам, падстаўкі, вышытыя пацеркамі: усё не вельмі эстэтычнае, але памятнае і асвечанае шматгадовай прысутнасцю на тым самым месцы. Кожны раз я з задавальненнем пераконваўся ў нязменнай прысутнасці гэтых забавак, не прамінаў палізаць крыж з вяліцкай солі і прыкласці да вуха ракавіны, каб пачуць прывабны працяглы шум, у якім я чуў нешта таямнічае, нейкае рэха далёкіх мораў. Ракавіна была рэзанатарам, які ўзмацняў гэтыя дзіўныя шумы, а я чуў, пэўна, не толькі тое, што гаварылі яе звіліны, але і тое, што нашэптвала фантазія, хуткая да імправізацыі розных незвычайнасцей.

Цёцін салонік быў для мяне крыху пазбаўлены жыцця, і я прасіўся ў сталовы пакой, дзе канцэнтравалася жыццё дому. У куце паміж вокнамі там былі палічкі, а на іх побач з кніжкамі знаходзіўся барометр з бернардзінам, які на пагоду выходзіў са свайго доміка, а на слату хаваўся ў яго, як быццам баючыся змерзнуць. Ён быў барадаты і вусаты і меў цагляна-ружовыя шчокі. Калі ён выныраў са схованішча, то вельмі смешна завісаў на баранавай струне, калыхаўся і круціўся ў паветры, круціў галавой у каптуры і тулавам у карычневай расе, падпяразанай шнуркамі. Маленькі домік бернардзіна з дахам і аконцам добра пасаваў да невялікага двара цёці Ідалькі, радаваў мяне як самая прыгожая дзіця-

[1] С.М.В. — лацінская версія літар К.М.Б. (азначаюць імёны трох каралёў: Каспар, Мельхіёр, Балтазар), якія пішуцца свянцонай крэйдай на дзвярах на свята Трох Каралёў.

[2] Патарафка — аздабляльная падкладка пад лямпу альбо ліхтар.

чая цацка і меў тую перавагу над цацкамі, што ўтойваў таямніцу прадказання надвор'я. На паліцах сярод кніг знаходзілася мноства календароў, састаўленых па парадку гадоў, бо цёця збірала іх старанна і захоўвала на памяць як свайго роду дамашнюю хроніку. Трэба ведаць, што ў тыя часы каляндар меў ролю значна важнейшую і шырэйшую, чым яго сучасны паслядоўнік. Ён быў дзённікам дзеянняў і падзей і ў доўгім спісе запісаў ад рукі на палях вобразна прадстаўляў жыццё двара, нягледзячы на тое, што быў напісаны па-руску, бо польскія календары нельга было выдаваць, гэтаксама як ніякія кніжкі ўвогуле, ані польскія часопісы. Апошнія можна было выпісаць толькі з «Польскага каралеўства», якое, зрэшты, хутка пачало называцца «Прывіленскім краем». Адзінай уступкай рэлігійным пачуццям каталіцкага насельніцтва былі змешчаныя побач з тэкстам імёны святых на лаціне. Такія «западнороссийские месяцесловы» друкаваліся ў той час для ўсяго краю ў яўрэйскіх друкарнях Сыркіна і Рома[3] з ухвалення ўраду, і толькі ў руках нашых жанчын гэтыя чужыя і прыкрыя выданні набывалі рысы сваіх. На тытульнай старонцы нязменна пісаліся пад датай года сакраментальныя словы: «Дай, Божа, шчаслівы», а ў сярэдзіне на ўсіх белых месцах запісваліся розныя дамашнія здарэнні, не выключаючы цялення кароў, стрыжкі авечак і пакрывання кабылы. Не абміналі, вядома, і метэаралагічных з'яў, асабліва ў сувязі з сяўбой, сенакосам і жнівом. Калі да гэтага старанная рука цёці Ідалькі дадавала нейкія дамашнія рэцэпты, кухонныя або лекарскія, факты з асабістага жыцця, выплаты, сустрэчы і іншыя заўвагі, гэты пануры афіцыйны «западно-российский месяцеслов» — родак чужой сілы і насмешкі — губляў сваю сухасць і станавіўся сапраўднай запісной кніжкай, старасвецкім «silva rerum»[4], поўнай выразнасці, жыцця і значэння. Цёця шмат гадоў выпісвала календары і захоўвала іх на паліцы побач з бернардзінам. Яна рабіла гэтыя запісы са сваёй звычайнай спакойнай разважлівасцю і няспешнай дакладнасцю, якая, зрэшты, адрознівала ўсіх тагачасных людзей, што не ведалі сучаснага бессэнсоўнага гарачкавага тэмпу. За сталовым пакоем была так званая буфетная, ці гаспадарскі пакой, у якой размяшчаўся Юзік — фурман, эканом і ключнік цёці ў адной асобе, каранасты, невысокі яго міласць у старым узросце. Ён не насіў барады, але таксама не любіў частага галення, у выніку чаго яго падбародак увесь час выглядаў як быццам аблеплены макам. Юзік належаў да разрада старых слуг, якія ўсё жыццё праводзілі на адным месцы і ганарыліся тым, што не ўмелі есці хлеб з многіх пячэй. Ён быў уparты і бурклівы, але шчыра адданы сваёй пані, і ахоўваў яе дабро, як сваё ўласнае. Насіў суконную куртку з бурай саматканай тканіны ў клетку і падпяразваўся раменным поясам, а боты меў заўсёды добра начышчаныя першакласным дёгцем, пахнучым здалёк, як цэлы шкіпінарны завод. Гарадскія франціхі, якія верылі, што хлеб расце на дрэвах, без сумнення, крывіліся б ад гэтага паху з-за яго простанароднага паходжання, але я прызнаюся адкрыта, што вельмі яго любіў, гэтак жа як пах конскага гною ў стайні, і лічыў гэты пах здаровым, натуральным і вельмі прыемным.

---

[3] Браты Ром (выдавецтва і друкарня ў Вільні на тагачаснай царкоўнай вуліцы, 2, рог завулка Глухога), друкавалі на рускай, польскай, літоўскай і яўрэйскай мовах (манаполія ў Расіі да 1862 г.); А. Сыркін, выдавецтва і друкарня ў Вільні, у 60-ыя гг. XIX ст. знаходзіліся на вуліцы Нямецкай.

[4] Кніга з рознай інфармацыяй, даслоўна: лес рэчаў *(лац.)*.

Пасля вячэрняй гарбаты Юзік прыходзіў да пані па распараджэнні, якія не вызначаліся ані кароткасцю, ані сціпласцю. Там абгаворваліся ўсе дзённыя справы ў адвольнай чарговасці, хутчэй выпадковай, і гэтыя дыялогі засталіся ў маёй памяці як нешта вельмі блізкае, як нязменная састаўная частка вячэрняй праграмы ў Скробаўку. Нізкі голас Юзіка выходзіў праз чорныя пастрыжаныя вусы, якія смешна адтапырваліся, і гучаў адначасова пачціва і хрыплавата. Пры гэтым Юзік глядзеў спадылба і ўжываў шмат ламанай мешаніны польскай і беларускай моў, якую лічыў абавязковым намаганнем добрага тону. Гэтыя вячэрнія размовы мелі яшчэ тую асаблівую рысу, што часта адбываліся, калі цёця і Юзік не бачылі адно аднаго, у двух розных пакоях. Цёця сядзела ў сталовай, а Юзік побач, у буфетнай, над сваім кубкам гарбаты; суразмоўцаў аддзяляла толькі сцяна і адчыненыя дзверы, праз якія ўсё было добра чуваць. Цёця кідала пытанні ў паветра, не бачачы свайго суразмоўцу, а ён таксама мармытаў адказ на пытанне цёці з месца, што было з яго боку не нялетлівасцю, а даўно прынятым звычаем. Від пані і эканома, якія гавораць цэлымі гадзінамі са сцяной у двух асобных пакоях, быў вельмі смешны. Да цёці Юзік звяртаўся «паненка», нягледзячы на яе пажылы ўзрост, бо зварот «пані» ўжываўся па вясковым звычаі толькі да замужніх асобаў. Распарадчык цёцінага двара ніколі не дапусціў нетактоўнасці, забыўшыся пра гэта, бо, нягледзячы на панібрацтва, ён лічыў этыкет справай уласнай годнасці. Ён закрануў бы свой гонар, каб не захаваў яго, бо даў бы доказ сваёй неадукаванасці, няведання дваровага абыходжання. Таму Юзік сядзеў, схіліўшыся над гарбатай, і бурчаў штохвілінна нізкім басам адказы альбо звяртаўся з пытаннямі: «Так, паненачка... ага, добра, паненачка...», а з другога пакоя яму адказвала хуткае, дабрадушнае «ўгу, угу» цёці Ідалькі. Шумеў самавар, цікаў у куце пакоя гадзіннік, і так у гэтых бяседах хораша і пабожаму праходзіў вечар у малым паважаным Скробаўку.

Спальня цёці і гасцінны пакой, у якім яна нас звычайна размяшчала, былі поўныя яе ўласных работ, сярод якіх першае месца трымалі фундаментальныя белыя пакрывалы, што складаліся з вялікіх выпуклых квадратаў, і каляровыя коўдры з воўны, мяккія і ўтульныя. Дываны над ложкамі і дыванікі на падлозе паходзілі з той жа самай крыніцы і былі сшыты з рознакаляровых абрэзкаў, якія стваралі стракатую мазаіку. Столікі, шафкі, куфры былі засланы сурвэткамі, кранальна дамашнімі, але практычнымі, разлічанымі на доўгае захаванне і зручнае карыстанне. Цёця любіла адорваць гэтымі творамі самых блізкіх, і маёй маці час ад часу даставаліся нейкія пакрывальцы, «міценкі»[5] альбо «пульсэткі»[6]. Зрэшты, яны з'яўляліся як па закліку, бо маці не мела да ручной работы ані здольнасці, ані жадання. Нельга сказаць, каб гэтыя гарусныя падарункі былі надта вытанчаныя, яны рабіліся пераважна навырост і ў выпадковых колерах, часцей наіўна яркіх, але затое іх упрыгожваў варты павагі намер цёці зрабіць прыемнасць таму, каму яна дарыла, і даць патрэбную рэч, хоць не абавязкова прыгожую. З кожнага вузялка і шыўка праглядвала гэта сардэчнае жаданне, і яно надавала асаблівую вартасць падарунку, у якім адчувалася нешта мацярынскае. Высакародная ба-

[5] Міценкі — баваўняныя ці шаўковыя пальчаткі, якія даходзілі да паловы пальцаў.

[6] Пульсэткі — шарсцяныя, на ваце альбо футравыя, нарукаўнікі, якія надзяваюць над кісцю рукі (у тым месцы, дзе мераюць пульс).

булька ўмела знайсці час на ўсё: трымала ў парадку сваю дамашнюю гаспадарку, праседжвала паўгода ў гасцях, раз'язджаючы раменным дышлам па ўсім павеце, умела быць усюды любімай, шанаванай і карыснай і яшчэ перапрацоўвала кручком гэтую вялікую колькасць гарусу, якую купляла ў краме Фейгі ў Гарадзішчы за старанна назбіраныя гаспадарскай ашчаднасцю грошы.

Лёс паскупіўся цёці Ідальцы на ўласнае сямейнае гняздо і прыгаварыў яе да самастойнасці старой дзевы, але ўзамен дазволіў ёй знайсці сурагат сям'і ў дамах шматлікіх сваякоў. Усё жыццё яна была прыяцелькай нашага дому і самай блізкай асобай маёй маці. Яна заўсёды ставілася да яе ўсім сэрцам, аказвала паслугі парадай, дапамогай і складала кампанію. Калі бацькі часам былі вымушаны выехаць з дому на даўжэйшы час, яны адразу выклікалі на дапамогу цёцю Ідальку, якая ахвотна прыязджала ў Асташын, прымала кіраванне і апеку над домам, і перш за ўсё над пакінутым без бацькоў адзіным дзіцем, берагла яго як зрэнку вока, мякка, але ўважліва і неадступна. Тое самае бывала, калі маці захворвала: дастаткова было паведаміць добрай цёці, і яна адразу сядала на сваіх нізкарослых рабочых коней, прыязджала з неразлучнымі клубкамі гарусу і кручкамі і не адыходзіла ад ложка хворай, пакуль яе не паставіць на ногі.

І так усё сваё доўгае жыццё пражыла цёця Ідалька спакойна, роўна і карысна, ствараючы сабе з кола сваякоў адну вялікую сям'ю. Яна была майстрам меры, вясёлай і гаваркой без афектацыі, таварыскай без пустаты, добразычлівай без навязвання, карыснай і прыемнай тактоўным і далікатным чынам. Яна ўмела вырашаць праблему залатой сярэдзіны ў жыцці і ўтрымліваць у гэтым жыцці ідэальную раўнавагу, якая ішла ў пары з сапраўднай культурай характару і розуму.

Спяшаючыся да Скробаўка, я прамінуў на паўднёвым шляху Туганавічы, якія не менш моцна ўрэзаліся мне ў памяць і якім я хачу тут прысвяціць даўжэйшы ўступ. Але перш чым я раскажу пра іх уладальніцу пані Тугаyоўскую, павінен спачатку заняцца асобай яшчэ адной прыяцелькі маёй маці — пані Ядвігі Абламовіч, яе супрацьлегласцю, і з гэтай мэтай яшчэ на хвіліну вярнуся на заходні шлях, да самой Свіцязі, над якой жыла пані Абламовіч.

Калі цёця Ідалька ўяўляла сабой узор памяркоўнасці і развагі, то дзве іншыя пані з самага блізкага акружэння маёй маці вызначаліся рысамі проста процілеглымі — бурнай летуценнасцю і неўраўнаважанай экзальтацыяй. Апошнія водбліскі згасаючага рамантызму праяўляліся тады ў афектных формах, якія часта былі на мяжы са смешным. Такую няшчасную карыкатуру зрабіла з сябе пані Ядвіга Абламовіч, а на супрацьлеглым полюсе лозунгам абавязку і ахвяры стаяла панна Юзэфа Тугаtоўская. Асоба з таксама нястрыманай фантазіяй, але не такая эгаістычная, яна мела шырокі разумовы кругагляд, якога не хапала першай. Гэтыя дзве кабеты ў маіх успамінах дапаўняюць адна адну, як святло і цень. І трэба ж, каб абедзве паходзілі з мясцін такіх знакаміта Міцкевічавых, як Свіцязь і Туганавічы.

Тагачасныя людзі мелі цягу да гучных фраз, да перабольшвання і позы, і гэтыя ўласцівасці праяўляліся ў паўсядзённым жыцці нават абсалютна пасрэдных асяродкаў. Жанчыны саромеліся хутчэй няведання салоннага этыкету ці французскай літаратуры, чым кухонных рэцэптаў і дамашніх работ, і ахвотней разважалі пра пачуцці, чым пра дзяцей і гаспадарку. Захапляліся найвышэйшай ступенню і неахвотна пакідалі

сферу ні да чаго не абавязваючых агульных фраз. Гэта не перашкаджала ім, зрэшты, быць дзейснымі і працавітымі нявестамі, бо гэта была толькі павярхоўная мода з французскай афарбоўкай, мода «перабольшвання, дэкламацыі і экзальтацыі». Яе ўплывы даходзілі пакрысе ўсюды. Не пазбегла іх і мая маці, якая па прыродзе мела цягу да літаратуры, схільнасць да метафар, гіпербал і сакавітых утварэнняў. Гэта некарысна адбівалася на шчырасці і непасрэднасці мовы, але фармальна рабіла яе вобразнай і больш высакароднай. Гэта клала пачатак стылістычнай адукацыі, карыснай у тыя часы, калі праграма хатняга навучання не заўсёды ўключала ў сябе навучанне роднай мове. Гэту рамантычную «адукацыю» атрымаў і я ў свой час, чэрпаючы з яе як добрае, так і дрэннае, і хіба што ці не болей гэтага апошняга. Затое я вывучаў колеры слова, прыгожа адшліфаванага і трапна падабранага, хоць і чужога, і набраўся схільнасці да перавагі слова над думкай. Ніхто не навучыў мяне, што найвышэйшай вартасцю слова з'яўляецца правільнасць зместу і прастата формы, і гэтае няведанне было адным з галоўных недахопаў майго выхавання ў атмасферы тагачаснага рамантызму.

Паселішчам такога запозненага правінцыйнага рамантызму былі Мірацічы ў ваколіцах Свіцязі, дзе жыла пані Ядвіга Абламовіч з дома Войнаў, прыяцелька маёй маці з яе дзявочых часоў. Калі, выйшаўшы замуж, маці пакінула родны дом, а таксама Мірацічы, толькі іншыя, і пасялілася ў Асташыне, гэта дружба астыла, і прычынай гэтага стала не толькі адлегласць, але і нешчаслівае замужжа панны Война з панам Янам Абламовічам з Жухавіч. Засталіся, аднак, успаміны маладых гадоў і пражытага разам дзвюх здольных захапляцца галоў з-над Свіцязі, і гэтыя ўспаміны часта аднаўляліся. Мірацічы Войнаў знаходзіліся амаль над самым возерам, праз дзве вярсты ад Мірацiч Хацiскiх. Суседкі і сяброўкі Юзя Хацiская і Ядвіга Война былі равесніцамі, ведалі адна адну з дзіцячых гадоў і калі, як падрастаючыя паненкі, атрымалі верхавых, пачалі ездзіць конна і з таго часу бывалі ўсюды ў ваколіцах Свіцязі. Яны кантактавалі штодзённа, а возера само навязвалася ў якасці месца сустрэч. Свіцязянскія грабавыя лясы і векавыя прыбярэжныя дубровы былі арэнай спатканняў і прызнанняў сяброўак і пакінулі на ўсё жыццё шмат трывалых успамінаў, адбіткі якіх нават я — няўважлівы слухач матчыных размоў — змог падхапіць і запомніць. А паколькі яны датычылі добра знаёмай мне мясцовасці, якая вызначалася незвычайнай маляўнічасцю, то ўрыўкі гэтых аповедаў аб сяброўстве з пані Абламовіч стварылі ў маёй галаве даволі выразны вобраз, авеяны асаблівай прывабнасцю, чаму яшчэ паспрыяў дзённік маёй маці з таго часу, а менавіта з 1865 года, які ўвесь час прыходзіць мне ў галаву, калі я пра гэта гавару.

Вобраз гэтых дзвюх свіцязянак мае пэўную стыльную прыгажосць, якая тут прагучала, і такім я хацеў бы яго тут адкрыць у межах гэтага пейзажу, хоць ведаю, што ізноў бяру заданне звыш сілы. Як апісаць гэты рамантычны час свіцязянскай краіны, дзе кожны кавалак прыроды з'яўляецца цудам, створаным для захаплення вока, і, каб раскалыхаць фантазію, з'яўляецца гатовым матывам для самага вытанчанага мастака і эстэта? Можна, сама больш, паспрабаваць акрэсліць атмасферу гэтага закутка, якім я адчуў яго рэтраспектыўна з нататак і ўзгадванняў маці і як яго, верагодна, адчувалі дзве сяброўкі ў той час, калі мяне яшчэ не было на свеце.



**Вясковыя хаты.** *Здымак да 1914 г.*

Вось прыклады гэтай атмасферы, некалькі вытрымак з дзённіка шаснаццацігадовай дзяўчыны, якая вырасла ў гэтым прыгожым акружэнні, дзяўчыны абсалютна адзінокай у бацькоўскім доме, бо яна мае маці, якая страціла розум, і бацьку, які вечна адсутнічае або заняты гаспадарчымі клопатамі. Прымушаюць задумацца гэтыя споведзі падлетка з гарачай галавой і заўчасна абуджанай пачуццёвасцю, неспакой маладой душы, пушчанай на самапас, якая шукае сваю дарогу з балючай цяжкасцю. Чытаю гэта ў пажаўцелай запісной кніжцы, апраўленай у малінавы шоўк і спісанай густым, дробным і ўмелым почыркам маёй маці, почыркам, які мае выдатныя характэрныя рысы энергіі, розуму і вытанчанасці. Почырк такі рашуча сталы, такі закончана сфарміраваны, смелы і правільны, як быццам бы належаў трыццацігадовай асобе. Рана пачала думаць і цярпець тая, што так пісала: «...Сесці на каня, блукаць па ваколіцах, глядзець на Божы свет, у яго цудах шукаць палёгкі, у свежых фарбах вясны — забаву і супакаенне — вось мой занятак... Залатыя гэтыя хвіліны, поўныя чароўнай паэзіі, толькі б песня, якая гучыць у маёй душы, не скончылася горкай і насмешлівай страфой...»

«...Думаю і веру, што дружба, якая завязалася, павінна быць вечнай і жыць прысвячэннямі...»

«...Мяне часта пытаюць, чаму я сумная, і што ж тут дзіўнага, бо я абудзілася для мараў, а мары з вясёласцю рэдка ходзяць у пары...»

«...Чалавечыя думкі інакш выглядаюць у галаве, калі снуюць натоўпам, калі адна апераджае другую, адна другую перарастае альбо падпірае, калі шыхтуюцца, як салдаты ў полі, калі кожная стаіць асобна і яе можна агледзець з ног да галавы: ці падыходзіць да раду, ці мае дастаткова росту альбо сілы, каб не сапсаваць месца, на якім стаіць, і вытрымаць цяжар, які на яе ўсклалі...»

«...Усе гэтыя мае думкі з'яўляюцца для мяне амаль загадкай, бо нават самой сабе я ніколі не сказала, адкуль яны ўзяліся, што з'яўляецца іх прычынай. Слова, якое вырашае, палохае мяне: з дрыжыкамі трывогі і разам з тым са шчасцем я паўтараю ў душы... І, аднак, адчуваю, што магу толькі аддавацца ілюзіям, як дзіця, якое не разумее адлегласці, якому здаецца, што адразу за лесам знаходзіцца неба... Гэта неба было б так блізка мне, той, каму апрача фантазіі і сэрца Бог даў, аднак, столькі развažлівасці, каб адсунуць ад сябе зводніцу-мару... І баюся я, і прашу, каб так было на самай справе, каб словам, якое разгадвае гэту загадку, быў гэты чарадзейны выраз, якім жыве і трывае свет і які такі прыгожы; выраз, які ва ўсёй сваёй паўнаце і моцы ёсць у Богу; выраз, якім з'яўляецца каханне... А як бы было дзіўна, калі б і ў маім сэрцы адазвалася гэтае напеўнае гучанне, якое разліваецца па ўсяму стварэнню, калі ўсё, што мяне да гэтага часу акружала, нацягвала і настройвала струны, каб яны загучалі гармоніяй, што дапаўняе жыццё...»

«...Так, буду халоднай і гордай з выгляду, буду старацца, каб у маіх употай заплаканых вачах ніхто не прачытаў прыгнечанага пачуцця...»

«...Усё мае сваю шчаслівую хвіліну, калі кветка ўспрымаецца лепш за ўсё, калі рука мацней хапае кола фартуны, калі бітва вырашае лёсы народаў, калі імя і слава здабываюцца адразу... Шчасце, шчасце... загадка жыцця, тысячы разоў яно здаецца блізкім і вечна недасягальным».

«...Часам здаецца, што шчасце — гэта цішыня ў душы, спакой без прагі жадання, доўгія гады без перамен... Не, нічога падобнага не бывае

19. Зак. 297.

на свеце, сапраўднае чалавечае шчасце цалкам іншае — гэта боль з надзеяй, надзея і радасць ў цярпенні, пастаянны рух, пастаянная барацьба, пастаянная дзейнасць — гэта наша шчасце... Іншага няма...»

«Пяць гадоў у гэты перыяд жыцця — гэта велізарны адрэзак — ад невыразных мараў, пераблытаных без форм і памераў, да поўнага абуджэння душы, да пазнання сябе і цудаў свету. Хоць і вялікім з'яўляецца для ўсіх нас гэты адрэзак, не па адной сцежцы і не аднолькава ўзыходзім мы на гэту вышыню, адкуль перад нашым вокам адкрываецца шырокі гарызонт сапраўднага жыцця, адкуль вядуць розныя дарогі... дзе невядомы голас гаворыць таму, хто там стаіць: «выбірай, ідзі паводле ўласнай сілы ўправа альбо ўлева...» Як жа дрэнна зразумелая бацькоўская любоў падаўжае, часам, гэту сцежку, як скрыўленае выхаванне нявечыць яе, выгінае і робіць памылковай... Рэдка якая з нас настолькі шчаслівая, што разумная маці правядзе яе і пакажа дарогу, перахрысціць і асвеціць слязой... Часцей розныя акалічнасці заўчасна ставяць нас на гэтай вяршыні, дзе пазнаеш саму сябе і сталым вокам паглядаеш на акружэнне...»

А зараз зоймемся выглядам сямейнага гнязда аўтаркі гэтага дзённіка, прыгадаем сабе гэтыя густыя ліпавыя сцены саду ў Мірацічах, гэты прыгожы спадзісты схіл да даліны за ставам і акамянелую яго дарогу, якая ізноў уздымаецца ўгару і цішком праціскаецца паміж нарастаючымі ўзгоркамі, а яны адкрываюць від на новыя прасторы і новую прыгажосць. Давайце ўздыхнём, заслухаўшыся цішынёй гэтага цудоўнага закутка, створанага для сузірання, і пабачым, як на яго фоне выглядае аўтарка дзённіка, якая так высока ставіць каханне, у той момант, калі яна прыспешвае каня і едзе на спатканне з даверанай сяброўкай, каб у даверлівых, шчырых размовах знайсці палёгку для сваіх самотных парываў і сумненняў. Адбываецца гэта праз два гады пасля паўстання, калі ўжо заціх роспачны мяцеж і застаўся пафас прыгнечаных пачуццяў, жар патаемных думак і мараў, утаптаных рэчаіснасцю ў балота. Пачуцці ідуць углыб, хаваюцца ў сэрцах, як у катакомбах першых хрысціян, і, напоўненыя да апошніх краёў, крычаць, патрабуючы права голасу, магчымасці раскрыцца. І адзінокая паненка з Мірацічаў хацела б знайсці дома нейкую сяброўскую і накіроўваючую руку, але навокал нічога, толькі азяблая пустэча, няма каму паверыць думкі, якія кіпяць у распаленай галаве. Таму паратунак — да сяброўкі, да Ядвігі Война... Скача амазонка знаёмай дарогай праз доўгую вёску з цяністымі агародамі, дзе замшэлыя стрэхі туляцца да вішнёвых садоў, дзе ў нізкія вокны заглядаюць каляровыя мальвы, а бярозы над варотамі развешваюць зялёныя хісткія фіранкі. Потым на скрыжаванні яна пакідае дарогу на Валеўку, каб павярнуць улева, праскакаць міма сядзібы Бародзічаў са старымі ліпамі, якія дрэмлюць над заплеснелай сажалкай, і павярнуць на дарогу да возера, дзе ў дамоўленым месцы чакае сяброўка. Фальварак Бародзічаў са стрэхамі, парослымі бура-зялёнай плесняй, выглядае як вялікі грыб-баравік, перарослы ад старасці, які панура расселся на варце ля самай дарогі, якая загароджвае і прымушае крута павярнуць. А паварот вядзе грабавай алеяй наўпрост да лясістага ўзбярэжжа Свіцязі. На сонечных палянах там пануюць разгалістыя дубы, якія думаюць пра незапамятныя часы, мажныя сосны ў акружэнні густога альховага маладняку сплятаюцца з бялявымі бярозамі і ўтвараюць вакол возера смараг-

давую аправу, з-за якой кожную хвіліну праблісквае яго блакіт. Хто аднойчы бачыў, як урачыста вартуюць моцныя дубы ля берагоў вялікай вады і як уладарна распасціраюць над ёй свае жылістыя плечы, хто чуў, як спакусліва шэпча свіцязянская хваля, што б'е аб іх падножжа плескатлівым рытмам, як шчасліва дыхае светлай цішынёй водны прастор у абрамленні гранатавага кола лясоў, той ведае, што таямніцу чараў Свіцязі лягчэй адчуць, чым выказаць, і што дастаткова наблізіцца да возера, каб цябе агарнуў яго дзівосны настрой, і ўжо цалкам аддаешся яго ўздзеянню. Гэты настрой нараджаецца, выпраменьваецца з гэтай зямлі з усёй непасрэднасцю і прастатой натуральных з'яў, так, як расцвітае радасць на нявінным твары дзіцяці ці мімалётная ўсмешка на прыгожым твары маладой дзяўчыны. Першабытны і нескладаны гэты настрой, а які ж моцны і пераможны, калі ён апаноўвае фантазіяй і абуджае яе ігру... Як ён можа ашаламіць гарачыя галовы, разбудзіць у іх незнішчальныя жаданні і авеяць іх подыхам небяспечнай экзальтацыі!

У такіх умовах і ў такім акружэнні праходзіла маладосць маёй маці і развівалася яе дружба з паннай Ядвіняй Война. Яны часта наведвалі адна адну, скачучы конна з адных Мірацічах у другія, сустракаліся на розных баках возера: то на Свіцянцы пры гарадзішчанскім тракце, дзе на паляне перад карчмой раслі самыя старыя і самыя высокія дубы, то на Пясчанцы, тут жа, ля двара Войнаў, дзе паненкі мелі свой любімы закутак, які называлі Каралеўскай купальняй, нарэшце, рабілі доўгія пешыя прагулкі вакол возера па гэтых пышных лясных калідорах, якія акружалі берагі і ўтваралі з іх найпрыгажэйшы дзікі парк — сапраўдную жамчужыну Навагрудчыны. Ля Каралеўскай купальні раслі два тоўстыя дубы, так блізка адзін да аднаго, што служылі апорай для лавачкі, якая ўрэзалася ў іх кару і была як быццам бы створана для ціхіх прызнанняў дваіх пры святле месяца, які ў тыя часы быў неад'емным фактарам паэтычнасці. Ніжэй былі сходкі, якія да паловы хаваліся ў вадзе і аб якія драбіліся хвалі возера, што прыплывалі да берага з подыхам ветру. Лясныя алеі ішлі вакол возера на некалькі вёрст у даўжыню па самаму берагу, разрэзанаму развілінамі карэнняў і засланаму аксамітным мохам. Гэтыя развіліны вылазілі з зямлі і крута звіваліся на беразе, як кольцы змей ці пальчатыя жмені веліканаў, загароджвалі прыбярэжныя сцежкі і, агаленыя, чорныя і аслізлыя, звешваліся да вады прагнымі шыямі альбо зноў урасталі ў вільготны грунт, вытыркалі паміж веераў папараці, як косці на могілках. Было нешта ад пушчы ў гэтым разнастайным гушчары дрэў і раслін, на стагоддзе пакінутым у стане адзічання, але гэтаму пярэчылі рэгулярныя высокія прыбярэжныя алеі, што, як насыпныя грэбелькі, узвышаліся над узроўнем прылягаючых балотаў. Паміж дрэвамі памінутна адкрываўся від на неба і ваду ў абрамленні гірляндаў з зялёна-залацістага муару. А калі якая-небудзь адкрытая прыбярэжная палянка перарывала анфіладу калонападобных прасекаў і адсланяла большую латку возера, тады вочы губляліся ў гэтым узніклым блакіце, за імі імкнуліся зняволеныя думкі, і сяброўкам ужо не заставалася нічога іншага, як адпускаць лейцы фантазіі, снаваць на гэтым фоне мары сваіх маладых сэрцаў і паддавацца двайному чараўніцтву прыроды і паэзіі.

Я адчуваю і адгадваю змест таго перыяду ў жыцці маёй маці, як калі б я быў яго відавочцам, а гэту пейзажную аправу я быў бы рады ўспамі-

наць і ўзнаўляць бясконца, бо не магу ніколі дастаткова нацешыцца яе невымоўнай прыгажосцю. Але ўсё праходзіць, і маладая дружба, аддадзеная на выпрабаванне часу, не заўсёды выходзіць з яго пераможна. Лёс паздзекаваўся з гэтых дзявочых мараў. Праз некалькі год абедзве сяброўкі павыходзілі замуж і змянілі месца пражывання і ўмовы жыцця. Маці перасялілася ў Асташын, а панна Ядвіня — у арандаваны мужам Свержань каля Стоўбцаў. Абедзве пакінулі міраціцкую старонку, і, натуральная справа, іх шляхі разышліся. Замужжа пані Ядвігі было самае нешчаслівае. Яе муж — перакупшчык коней, гуляка і растратчык — хутка змарнаваў частку жончынага маёнтка, а яе саму давёў сваімі паводзінамі да таго, што яна яго кінула, атрымала юрыдычны раздзел і вярнулася ў родныя Мірацічы, ужо пустыя, бо бацькі яе тым часам памерлі. Яна вярнулася адзінокая, страціўшы шмат ілюзій маладосці.

Гэтае перажыванне вельмі шкодна адбілася на яе характары. Яна адразу пастарэла, як быццам бы ёй прыбавілася дваццаць гадоў жыцця. Віно яе маладосці скісла на воцат і атруціла яе невылечна. Яна ўпала ў мізантропію і пачала рабіць розныя дзівацтвы. Яна рабіла з сябе знакамітую велічыню, прыпісвала сабе вулканы пачуццяў і здольнасці без меры, непрызнаныя толькі з-за чалавечай зласлівасці. Яна адносілася да людзей недаверліва і іранічна: мужчын агулам лічыла нягоднікамі, жанчын — пустымі лялькамі і рэдкае выключэнне рабіла толькі для пары навакольных кумачак, якія перад ёй зацікаўлена ліслівілі. Яна акружыла сябе нахлебнікамі і бяздзейсна марнавала з імі час у душнай атмасферы самалюбавання і непераборлівых хвалебных фіміямаў. Часам яна прыязджала да нас у Асташын і запрашала маці да сябе, захоўваючы ў памяці былыя сантыменты, але рэчаіснасць была ўжо толькі іх смутнай і смешнай карыкатурай. На той, уласна кажучы, час прыпадаюць мае першыя ўражанні ад знаёмства з Мірацічамі і іх уладальніцай.

Пані Ядвіга была высокай і статнай, але рысы мела грубаватыя і твар — змучаны і адутлаваты. Яна мела доўгія валасы і насіла іх заколатымі ў косы на галаве, з-за чаго здавалася яшчэ вышэйшай. На шыі яна любіла насіць медальён на чорнай аксамітцы, а ў вушах — бліскучыя завушніцы вялікага памеру, якія калыхаліся пры хадзьбе. Яна апраналася прэтэнцыёзна і разам з тым беспарадкава, прымала на канапе развязныя позы, узносіла вочы ўверх і падпірала локцем ускудлачаную галаву. Размаўляла шапялява, як малыя дзеці, і адпаведна мадулявала інтанацыі голасу, надаючы яму пяшчотнае і мілае гучанне. Любіла шмат гаварыць пра сябе і свае цяжкія перажыванні і толькі з цяжкасцю і ненадоўга магла пакінуць гэтую невычэрпную тэму. Галоўную ролю ў гэтых апавяданнях іграла асоба яе мужа. Гэты, хоць і ўзненавіджаны, называўся ў яе вуснах «Ясь», а часам нават памяншальна «Ясечак», што на яе дзіцячай мове гучала бесцырымонна «Ясіцяк». Яна вымаўляла гэта імя з чуйным упадабаннем, цешылася яго гучаннем. Любіла, відаць, мужа, нягледзячы ні на што, і, нават праклінаючы яго, любавалася яго вобразам.

Пасля расчаравання, якое яна зведала ад людзей, пані Абламовіч перанесла свае пачуцці на бацькаўшчыну і на прыроду і стала палымянай паклонніцай Свіцязі. Палова возера, якую называлі Пясчанкай, на-

лежала ёй і знаходзілася ад яе Міраціч на адлегласці 5 хвілін дарогі. Было так блізка, што ў спёку хадзілі ў Каралеўскую купальню па некалькі разоў на дзень. Пані Ядвіга са спазненнем у некалькі дзесяткаў гадоў зразумела прыгажосць Свіцязі, зрабіла з яе сабе алтар і храм і праводзіла перад ім самотныя рамантычныя набажэнствы. Яна адшуквала і падкрэслівала вартасці возера такім тонам арбітральнай вярхоўнасці, як быццам бы да яе ніхто гэтага не мог ведаць, а гаворачы, кідалася ад мімалётнага какецтва да саркастычнай грымасы: магла хутчэй адбіць ахвоту ў каго-небудзь да Свіцязі, чым схіліць да пакланення ёй. Яна была настолькі пазбаўлена самасвядомасці, што не адчувала смешнасці сваіх паводзін і добраахвотна аддавала сябе на здзек павятовым жартаўнікам. Яе называлі свіцязянскай ундзінай і «свіцязянкай у двукоссі», жартаўліва паўтараючы яе дзівацкія расказы. А яна сама яшчэ падлівала масла ў агонь. Расказвала, напрыклад, што муж, які абыходзіўся з ёй жорстка і нават груба, назваў яе аднойчы ў прыступе дрэннага настрою «пудзелем», таму што яна мела доўгія валасы і любіла іх модна прычэсваць. «А ведаеце, што я яму на гэта адказала? — пахвалялася пераможна пані Ядвіга, — Сказала: няхай сабе будзе і пудзель, але — свіцязянскі!» У гэтай наіўнай аргументацыі бачны з ўсёй крамольнай бездапаможнасцю культ беднай жанчыны да прадмета яе апошняй любові. Усе яе пачуцці выразіліся ў смешнай карыкатуры і рабілі з яе Дон Кіхота ў спадніцы, акружанага ўсеагульнымі здзекамі. Яе нават не пашкадавалі з-за страты любімага возера, гэтай апошняй прыстані ў яе самастойным і пустым жыцці. Дзяцей яна не мела, ад мужа адраклася, сяброў настроіла супраць сябе і засталася адна са сваёй любоўю да Свіцязі. Але і гэта абышлося ёй вераломным і бесчалавечым спосабам. Калісьці, яшчэ ў той час, калі яна жыла з мужам у большай згодзе, пані Ядвіга дала яму генеральныя паўнамоцтвы распараджацца яе маёмасцю і пасля таго, як атрымала раздзел, забылася іх адмяніць, ці, можа, таксама мела слабасць даць яму якое-небудзь новае паўнамоцтва. Даволі таго, што спрытны муж не меў ніякай больш тэрміновай работы, як прадаць увесь паўночны бераг Свіцязі — гэта значыць фальварак Пясчанку — у расійскія рукі[7]. Ён навёў туды нейкіх цёмных людзей, якія пачалі гаспадарыць і распараджацца ў свяцілішчы пані Ядвігі, наносіць ёй тысячы крыўд і гадасцей і атручваць жыццё ў такіх блізкіх штодзённых адносінах. Гэты варварскі і бессвядомы ўчынак выклікаў агульнае абурэнне сярод памешчыкаў, але вярнуць ужо нічога было нельга, бо зямля, якая аднойчы дасталася праваслаўнаму пакупніку, ужо не магла вярнуцца да паляка. Пані Ядвіга страціла сваю Свіцязь беспаваротна. Цяжка ўражаная ў самае балючае месца, яна пакутліва перажыла страту і канчаткова зацвердзілася ў перакананні, што «ўсе мужчыны з'яўляюцца зладзеямі без павагі і сумлення», а таксама што «найлепшы з іх варты шыбеніцы». З таго часу яна канчаткова зламалася, здзівачэла без астатку і замкнулася з кумачкамі ў неправетрываемым паўзмроку міраціцкага дома. Так скончылася апошняе каханне беднай свіцязянкі.

Мая маці вельмі спачувала былой сяброўцы і часам адведвала яе, хоць адносіны са скіслай дамай не былі ані лёгкімі, ані прыемнымі. Тады я пазнаёміўся з яе Міраціцамі, панурымі і сумнымі, але поўнымі

[7] У 1901 г. ён прадаў маёнтак чыноўніку Казакінаву з Гродна, у 1905 г. фальварак перайшоў у рукі пана Пушкарскага з Мінска.

характару. Вялікія дрэвы, якія раслі на траўніку, зацянялі дом, не дапускаючы да яго сонца, і надавалі яму выраз панурага змроку. Уязная алея заканчвалася недалёка ад дома двухпавярховай брамай, якую густа абступалі ясеневыя кроны, у якой заўсёды было вільготна і цёмна, як у магільным склепе. Шырокі выцягнуты дом меў нізкія столі, закураныя і завешаныя павуціннем, і быў застаўлены мэбляй так цесна і беспарадкава, што рабіў уражанне кладоўкі. Каля дома не было кветак, толькі сапраўдная пушча старых клёнаў і каштанаў, паміж якімі цямнейшыя елкі стаялі як жалобныя абеліскі. У пакоях было таксама цёмна, бо вокны, завешаныя цяжкімі фіранкамі і парцьерамі, затрымлівалі святло. У іх панаваў душны, з'ялчэлы пах тухліны, які аддаваў старасцю і запусценнем. Сярод пылу і беспарадку маўклівых пакояў вока сустракала мноства непатрэбных дробязяў, рэшткі ежы, надгрызеныя яблыкі і адкрытыя недачытаныя кніжкі. Выглядала гэта нудна, сумна і мёртва, як быццам бы нейкае праклянце вісела над гэтым домам і прыводзіла яго да непазбежнага ўпадку. Яго не маглі ажывіць нават кніжкі, якіх было поўна на сталах і этажэрках, і гэта былі пераважна французскія раманы ў жоўтых вокладках, такіх тыповых для тагачаснай белетрыстыкі. Апрача кніг там было мноства палотнаў і кардонаў, намаляваных і недаконченых, высахлых і свежых, у рамах і без рамаў, і значная іх колькасць прадстаўляла ў розных відах адзіны матыў — Свіцязь. Гэтыя карціны пані Абламовіч малявала з вялікім замілаваннем і настойлівасцю, але бяздарна, з такой адсутнасцю элементарных здольнасцей да малявання і пачуцця каларыту, што і мне яны здаваліся брыдкімі і смешнымі, нягледзячы на тое, што я не меў паняцця аб маляванні і не мог адрозніць добрай карціны ад дрэннай. Вельмі цяжкай была роля гледачоў, вымушаных разглядаць гэтыя нічога не вартыя багамазы. Вочы самі заплюшчваліся ад пачуцця непрыстойнасці, але ніхто не адважваўся развеяць падман беднай дзівачкі, якая такім кранальна-бяздарным чынам давала выйсце сваёй растаптанай любові да Свіцязі. Таму хвалілі гэтую мазню, паважаючы ў ёй намеры і пачуцці, а аўтарка, задаволеная сваімі шэдэўрамі, з гонарам паказвала іх рэдкім гасцям як доказ асаблівай прыхільнасці. Пры гэтым яна тлумачыла з пагардлівай перавагай, якой сур'ёзнай і цяжкай справай з'яўляецца мастацтва, якіх яно патрабуе шматлікіх прыналежнасцей, палатна, фарбаў і пэндзляў. Пры гэтым, здавалася, яна абсалютна забывала, што мастацтва гэтае патрабавала перш за ўсё здольнасцей і самакрытычнасці. Так пані Ядвіга ўпадала з адной смешнай крайнасці ў другую. Іронія лёсу захацела, каб і гэта яе законнае пачуццё любові да роднага возера вырадзілася ў карыкатуру. Такім ужо было гэта ўсё няшчаснае жыццё, якое таўклося ў цесным коле мізэрнага правінцыйнага эгаізму.

Адносіны пані Ядвігі да людзей былі фантастычныя і непрадказальныя, залежалі ад настрою і хвіліны. Да яе ў самы раз падыходзіла прыказка, што «панская ласка ездзіць на пярэстым кані». Яна магла ні з таго ні з сяго холадна прыняць госця і абысціся з ім як з нахабнікам, хоць гэта быў нехта добразычлівы, хто прыязджаў хутчэй з добрымі намерамі, чым дзеля ўласнай прыемнасці. Таму яна ўрэшце адштурхнула ад сябе ўсіх сваіх былых сяброў і знаёмых і засталася з шэрагам нахлебніц, якія захапілі яе падхалімствам і эксплуатавалі. З маёй маці пані Ядвіга любіла гаварыць аб літаратуры, а дакладней — пра любоў-

ныя канфлікты герояў прачытаных раманаў, у якіх яна старалася знайсці тое, у чым ёй адмовіла жыццё. Пры гэтым яна кідалася ад прагорклага песімізму да поўнага энтузіязму захаплення, і ніколі немагчыма было прадугледзець, у якім настроі будзе праз хвіліну капрызная летуценніца. Падчас чытання маіх вушэй дасягалі прозвішчы Флабэра, Жорж Санд, Поля дэ Кока, а абмеркаванне розных сітуацый з раманамі ў гэтых кніжках ствapала вакол мяне атмасферу сарамлівай зацікаўленасці, якую я назваў бы эратычнай, калі б быў на некалькі гадоў старэйшы. Пані Ядвіга пры гэтым не шкадавала высакапарных азначэнняў і ўвесь час вярталася да параўнанняў з уласнымі перажываннямі, што надавала гэтым літаратурным размовам рысы нездаровага ўздыму. Маці хутчэй неахвотна паддавалася гэтаму настрою і даволі стрымана падтаквала сяброўцы, хоць і яе часам захапляла народжаная схільнасць да паэтычнай выдумкі. Але яна не магла дастасавацца да тону пані Ядвігі і пачала скарачаць свае адведзіны, а пазней спыніла іх поўнасцю, калі была вымушана выехаць у Вільню. Яна была занадта аддалена ад гэтых пустых вымыслаў жорсткай і малацікавай рэчаіснасцю свайго жыцця, і сямейныя абавязкі клікалі яе мацней, чым кніжныя выдумкі. Таму, нарэшце, маці была вымушана прадаставіць сваю сяброўку разам з яе хваравітымі марамі ўласнаму лёсу, і іх дарогі цалкам разышліся. Праз некалькі гадоў мая маці памерла, але пані Абламовіч жыла яшчэ доўга і доўга журботна малявала свае возера, заўсёды любімае, але ўжо чужое, знявечанае і апаганенае[8].

[8] Пані Абламовіч памерла ў 1912 г.



***Чамброў. Від з ганка на свіран.*** *Здымак каля 1925 г.*

## Раздзел XV

### *Дарогі і двары. Паўднёвы бок. Панна Туганоўская. Цёця Хэленка*

Калі перасяленне ў Асташын аддаліла маю маці ад пані Ядвігі Абламовіч, затое зблізіла яе з пані Юзэфай Туганоўскай, якая жыла недалёка ад нас у Туганавічах. Маці была ёй радняй праз Верашчакаў, таму, калі яны пазнаёміліся бліжэй, пасябравалі паміж сабой, называлі сябе стрыечнымі і часта адведвалі адна адну, атрымліваючы значную асалоду ад сваёй кампаніі. Маці адносілася да пані Туганоўскай з сімпатыяй і павагай і цаніла яе за характар, выключны розум і добрае выхаванне. А што да мяне, то пасля Чамброва, які быў для мяне школай культурнага жыцця, Туганавічы маглі б стаць яго універсітэтам, калі б я быў старэйшы і больш уважлівы. А так я толькі ведаў, што яны асветлены бляскам Міцкевічавай легенды, як месца спаткання паэта з Марыляй Верашчакай.

Панна Туганоўская як асоба знаходзілася на супрацьлеглым полюсе ад пані Абламовіч, гэта значыць на станоўчым полюсе. Відаць, і яна была апанавана рамантычнай экзальтацыяй і любіла гаварыць высакапарна, але пад гэтай бачнасцю хавалася натура дзейсная і ахвярная, характар моцны, воля несагнутая, якая ўмее ўсё прысвяціць вялікай мэце альбо каханню. Таму я сказаў, што гэтыя дзве сяброўкі маці дапаўнялі адна адну ў маім уяўленні, як цень і святло. Але панна Туганоўская — хоць сумная і самастойная — была светлай з'явай. Яе жыццё было трагічнае, але прыгожае, бо не было эгаістычным, і яна пакінула пасля сябе добрую і трывалую памяць.

Род Туганоўскіх быў у блізкім сваяцтве з Верашчакамі і згасаў на панне Юзэфе. Туганавічы перайшлі да яе сям'і ад Верашчакаў у спадчыну і былі поўныя ўспамінаў пра Міцкевіча гэтак жа сама, як Свіцязь пані Абламовіч. Дзіўная акалічнасць: гэтых дзвюх жанчын, такіх непадобных адна на адну, звязвала блізкасць да самых дарагіх памятных навагрудскіх мясцін пасля Міцкевіча, да мясцін, дзе ён правёў сваю маладосць і перажыў каханне. У Туганавічах была бяроза, пасаджаная яго рукой, калі ў час студэнцкіх канікулаў ён гасцяваў у Міхала Верашчакі, была вялікая альтанка — вянок высокіх цяністых ліпаў, пра якія ён напісаў у «Дзядах»:

> Альтанка, майго шчасця калыска і магіла!
> Тут я сустрэў, тут развітаўся...

Апошняя з роду Туганоўскіх — панна Юзэфа — была постаццю выключнай і ў нечым анамальнай, як гэта бывае з тымі, на кім заканчваюцца дабрадзейнасць і грахі многіх пакаленняў, даведзеных да крайнасці. Яе бацька — Канстанцін — памёр у турме ў 1863 годзе, і гэта смерць кінула цень на ўсё яе жыццё. Яна была далёкай ад спакойнай памяркоўнасці і разважлівай сярэдзіны цёці Ідалькі Анцуты, з якой суседнічала амаль праз мяжу і якую вельмі любіла. У панне Туганоўскай усё было

ў стане кіпення: пачуцці, рашэнні, учынкі. Яна не ведала кампрамісаў, кіравалася гонарам і абавязкам, якія разумела сурова і безапеляцыйна, а экзальтацыя мела хваравіты характар і вагалася паміж геройствам і вар'яцтвам. Яе асобу акружаў трагічны арэол нязздзейсненага самагубства. Панна Юзэфа пасягнула на ўласнае жыццё з-за нешчаслівых заручын. Яна дала слова, што выйдзе замуж за нейкага пана Залескага, які арэндаваў у яе Туганавічы. Калі, аднак, пазней яна прыйшла да пераканання, што гэта замужжа ёй не адпавядае і не павінна адбыцца, то не знайшла іншага шляху, каб сарваць заручыны, як накіраваць на сябе дула рэвальвера. На шчасце, куля адхілілася ўбок і замах на самагубства скончыўся цяжкай хваробай, якая, нарэшце, вызваліла яе ад непажаданага жаніха. Гэты выпадак меў розгалас сярод суседзяў, і яго шырока каменціравалі: ім захапляліся, але і крытыкавалі роспачлівы ўчынак панны Тугаоўскай, якая хацела хутчэй забіць сябе, чым не стрымаць дадзенае слова, і не хацела прасіць чужой ласкі і ад яе залежаць. Людзі схільны бачыць ва ўчынках бліжніх горшыя матывы замест лепшых, гэтаксама і ў выпадку панны Тугаоўскай шмат разважалі пра выраджэнне выміраючага роду і не здольны былі паважаць годнасць і мужнасць у гэтым акце роспачы.

З таго часу ў жыцці панны Тугаоўскай наступіў перелом. З яе твару знікла ўсмешка маладосці, і пасялілася задумлівасць і заклапочанасць. Яна пачала адасабляцца і ўсё больш пагружацца ў глыб уласнага «Я», адкінула жаданне асабістага шчасця і сямейнага жыцця, не хацела больш карыстацца прывілеямі, якія ёй давалі нараджэнне і маёнтак, грэбавала пустой раскошай свайго акружэння і, зачыніўшыся ў Туганавічах, вяла жыццё сціплае і працавітае. Яна прысвячала час і сродкі на пашырэнне тайнай асветы сярод навакольных жыхароў у вёсках і засценках, на дабрачыннасць, урачэбную дапамогу і пашырэнне грамадскай працы ў хрысціянска-дэмакратычным духу. Але такая ініцыятыва сурова праследавалася расійскім урадам, і трэба было мець вялікую асцярожнасць, такт і адвагу, каб ажыццяўляць яе з доўгатэрміновай мэтай. У гэтым новым жыцці панна Тугаоўская, зрэшты, не адчувала сябе самотна, бо суседзі акружалі яе вялікай павагай, і акрамя гэтага яе падтрымлівалі і наведвалі знакамітыя людзі з усёй Польшчы, і толькі яны ведалі, якія значныя сродкі плылі з туганавіцкай касы на розныя агульныя мэты — важныя і тайныя.

Панна Тугаоўская была невысокая, шчуплая і хутчэй непрыгожая, апраналася сціпла, амаль нядбайна, бо была вельмі рассеяная і блізарукая. З-за гэтага яна прыжмурвала вочы і насіла акуляры, а людзей пазнавала толькі зблізку. У яе глыбокім, цьмяным і крыху ўрачыстым голасе было штосьці, што выклікала ўвагу і паслухмянасць, а з твару ішла павага і нейкая празорлівая засяроджанасць, якая пранізала блізкія рэчы і ўглядвалася ў далёкія. Яна жыла адна, з адной толькі калегай і сяброўкай — паннай Бухавецкай[1], пазбягала забаў і гучных сходаў, але часта ездзіла ў Варшаву і ў сябе ў Туганавічах прымала эліту польскай інтэлігенцыі. Прыязджалі грамадскія дзеячы, артысты, вучні, пісьменнікі і публіцысты. Кожны, хто хоць як-небудзь прадстаўляў польскую думку, быў у Туганавічах міла сустрэтым госцем і не раз меў ціхія нарады з уладальніцай, якая, здавалася, была цэнтрам нейкіх патаемных пам-

[1] Панна Бухавецкая трагічна памерла ў ліпені 1924 г., аб чым успамінае, між іншым, Марта Хубіцкая ў сваім артыкуле «Калі хто будзе ў Навагрудскай старане...», надрукаваным у спецыяльным нумары «Зямлі», прысвечаным Навагрудчыне. «Зямля». 1925. №10—12. Стар. 226—238.

кненняў і жыла перш за ўсё для далёка ідучых нацыянальных надзей і мэтаў. Таксама ў патоку размовы яна часта была няўважлівай, як быццам бы адсутнічала, адыходзіла ў думках ад рэчаіснасці і павінна была сябе да яе прызываць і прыгінаць. Рабіла гэта, аднак, адразу, калі гаворка ішла пра нечыя бяду або клопат: спяшалася на дапамогу са сваёй звычайнай гатоўнасцю і дабрынёй. Гэтак жа лёгка яна дазваляла вярнуць сябе да рэчаіснасці, калі ёю не з'яўляліся Туганавічы ў сувязі з легендай Міцкевіча. Яна была палымянай распаўсюджвальніцай апошняй, гатовай правесці кожнага госця па двары і парку і паказаць яму памятныя мясціны, звязаныя з асобай Марылі і Міцкевіча. Будучы блізкай раднёй Верашчакам, яна лічыла сябе перадатчыкам гэтай легенды, абавязанай пашыраць памяць і культ паэта. Гэты абавязак яна выконвала ўсё жыццё верна і старанна, нават больш: з захапленнем і ўзнёсласцю, уласцівымі яе поўнай крайнасцей натуры. Як жалобная весталка, яна добраахвотна прыгаварыла сябе сцерагчы попел святога полымя, якое запалілася тут, у Туганавічах, паўвека таму назад. А таму, што гэта ўжо быў толькі попел, які засыпаў пыл звычайнай і варожай паўсядзённасці, вартаўніца гэтых рэліквій глядзела на яго з пахмурным сумам і з усёй сілай волі супрацьстаяла іх знішчэнню. Яна жыла з гэтым попелам у добрым сяброўстве і верыла, што ў ім абудзіцца сіла ўваскрэшання, была ўвасабленнем тугі па светлым філарэцкім мінулым, але тугі дзейснай, якая не баялася працы, барацьбы і прысвячэння.

Трэба прызнаць, што Туганавічы былі як быццам бы створаны для захавання такіх рэліквій. Яны былі перапоўнены нейкай задумлівай цяністасцю, якая прыслухоўвалася да адгалосаў цудоўнага мінулага, прасякнутага глухім жалем, што гэта мінулае прайшло так незваротна. Вялікі сад, распланаваны з вытанчаным густам і прыгожа зарослы дрэвамі, дыхаў старадаўнасцю, бо самыя маладыя дрэвы мелі каля ста гадоў. Над ставам скупіліся вялікія кучаравыя таполі і ўглядаліся ў яго чорную нерухомую гладзь. Ля ўезда грукатаў стары млын, і яго бурклівы говар быў адзіным голасам, які прарываў цішыню. Ніводнае сучаснае фабрычнае прыстасаванне не замуціла спакой гэтага двара, які, здавалася, быў прызначаны толькі для таго, каб сцерагчы скарбы і сузіраць святыні, якія ён хаваў у сваім наваколлі. Там было прыгожа, ціха і сумна. У паветры насіліся трагічныя флюіды, цямнелі цені балючых і высокіх пачуццяў. Міжволі паніжаўся голас, як у касцёле. Адляталі вясёлыя і ветраныя думкі, заставаліся сумныя і ўзнёслыя, поўныя пачуццёвага сузірання. Жылы дом — прысадзіста-разлеглы — спераду засланялі два каштаны тоўстымі, нізка звешанымі галінамі, а іх парасткі, завершаныя пальчастымі лісцямі, як бы высоўваліся на разведку, датыкаліся да сцен і вокнаў дома, указваючы ўваход у яго. Здавалася, што дом і дрэвы з'яўляюцца сябрамі, звязанымі непарыўна, і адвеку дзеляць агульную долю.

У сярэдзіне дом меў характар дастатку, быў прыцемнены і знясмельваў. Цяжкія парчовыя шторы гасілі святло прасторных пакояў, абстаўленых са спакойным камфортам, уласцівым сядзібам старых і заможных памешчыцкіх сем'яў. Там не было нічога ані сучаснага, ані бліскучага. Нейкае пацямнелае чырвонае дрэва і матавы палісандр, нейкія высокія зашклёныя бібліятэчныя шафы, сталы, закіданыя пісьмамі і брашурамі, і ў гэтым акружэнні панна Туганоўская, якая глядзіць дзіўнымі вачамі не з гэтага свету і гаворыць пра незразумелыя рэчы патэтычным голасам варажбіткі, — вось што засталося ў мяне з успамінаў пра тагачасныя Туганавічы. Дом быў сур'ёзны, стыльны і сваім урачыстым характарам ствараў адпаведную раму для незвычайнай постаці



***«Мураванка» ў Туганавічах.*** *Здымак да 1910 г.*

ўладальніцы. Насупраць дома на другім баку траўніка стаяў флігель не меншы, чым дом, акружаны групай пустых высокіх дрэў, якія яго амаль закрывалі. Ён называўся «мураванка» і быў некалі жыллём Марылі Верашчакі. У тыя часы ў ім жыла пані Ганна Керсноўская — маладая ўдава, якая арандавала Туганавічы. Пані Ганна таксама была добрай знаёмай маёй маці, таму мы не раз гасцілі ў яе дома, дзе, аднак, было дзіўна панура і цёмна, і тут жа, перад вокнамі спальні, сярод збітай масы дрэў гняздзіліся совы і ўначы злавесна гукалі. Я не любіў гэтых пакояў, памятаючы расказ пра сына пані Керсноўскай — вельмі ўражлівага хлопца, якога давяло да нервовага зрыву лапатанне крылаў савы тут за вокнамі. Я ўяўляў сабе гэту ўражлівую сцэну вельмі рэльефна, калі наслухаўся расказаў, якія перабольшана драматызавалі гэта здарэнне і прыпісвалі яму нават смерць хлопца ад страху. Маці шмат гаварыла пра гэта з іншымі панямі, не звяртаючы ўвагі на маю прысутнасць, а можа, думаючы, што я гэтага не зразумею, а я аж дрыжаў унутры ад пачуцця пагрозы і ўжо ніколі не мог інакш глядзець на мураванку, як з найвышэйшай агідай. Праз некалькі гадоў пад вокнамі мураванкі паставілі гранітны слуп з надпісам: «Тут жыла Марыля, першае каханне Адама Міцкевіча». У той час гэта было вядома толькі ў вусным паданні, што складала частку мясцовай легенды, якую дамашнія прадстаўлялі гасцям стрыманым, але аўтарытэтным чынам. Зрэшты, само паветра ў гэтым поўным настрою двары было перанасычана нейкай урачыстай экстатычнасцю, далёкай ад штодзённых рэчаў і пустых думак.

Што ж да мяне, то я быў занадта дзіця, каб на доўгі час паддацца гэтым настроям, якія, аднак, так дамінавалі. Калі яны мяне занадта прыгняталі, я стараўся ад іх пазбавіцца, і, як вынік, сродкам на гэта былі прагулкі па-за дваром, а менавіта — да «Каменя Філарэтаў» — зацішнай паляны ў суседнім лесе, дзе некалі было любімае месца спаткання Міцкевіча і яго сяброў. На паляне ўзвышаўся аграмадны гранітны блок, вуглаваты, шэра-чырвоны, які быў сапраўднай асаблівасцю, бо меў некалькі метраў у вышыню, так што чалавек, які стаяў каля краю збоку, не дасягаў ростам нават яго паловы. Густы лясны зараснік, які акружаў той велізарны кінуты блок, надаваў месцу філарэцкіх сходак нешта канспіратыўнае і заахвочваў адпусціць цуглі фантазіі. Вяртаючыся ад «Каменя Філарэтаў» да двара, я абмінаў позіркам мураванку, бо не выносіў яе змрочнага зарасніку дрэў, які заўсёды напамінаў мне страх з совамі, перажыты ўначы. Я здзіўляўся нават у напаўсвядомых думках, як магла Марыля выбраць сабе для жылля такое панурае месца, калі кожнае іншае было ў сто разоў лепшае. Я лічыў, што Марыля «павінна была» жыць у галоўным доме, і больш таго — займаць вуглавы пакой, звернуты адным акном да саду. Тут усё выглядала інакш, святлей і весялей, і кампанавалася больш складна. Акно было вялікае, нізкае і адкрывала выгляд на сцежку, абсаджаную кветкамі, якая вяла да ліпавай альтанкі, старой і густа зарослай. Калі паглядзець ад альтанкі на дом, была відаць доўгая простая паласа сцежкі, якая бегла ў нейкай радаснай праекцыі паміж двюма прыгожымі градкамі флоксаў, ірысаў і іншых высокіх кветак у поўным росквіце. Сцежка, здавалася, фанабэрылася сваім каляровым пахучым абрамленнем і выбягала без памяці на сустрэчу з нейкай цудоўнай з'явай, якая магла паказацца ў адчыненым акне, а высокія букеты кветак стаялі ўздоўж дарогі двюма пачэснымі шарэнгамі, напружаныя ў поўным пакланення чаканні. Быццам бы казалі: вось каляровы карагод прыдворных выстраіўся на замкавым падворку і ва ўрачыстай цішы паглядае на дзверы, адкуль павінна з'явіцца цуда-каралеўна.

Усё замерла і чакае. Вось праз хвіліну расчыняцца яшчэ шырэй аконныя палавінкі і з іх рамы вынырне гнуткая постаць, заблішчыць светлай муслінавай сукенкай, скочыць на дарожку і пойдзе квяцістым шляхам да таямнічай альтанкі, дзе яе чакае нейкае вялікае, невымоўнае шчасце...

Цудоўны быў гэты закутак, напоены простай лірычнай прыгажосцю. Цёмная пляма акна на белай сцяне і рознакаляровая, поўная ўсмешкі сцежка, якая свавольна ўцякала да альтанкі, стваралі прыдуманую сцэну для нейкага сельскага рамана, і няшмат фантазіі было патрэбна, каб яго заўважыць і развіць ва ўсёй працягласці. Калі я пазнаёміўся з «Панам Тадэвушам» і прачытаў апісанне пакоя Зосі і садзіка ў Сапліцове, я зразумеў, адкуль паэт мог браць прыклады, бо гэты закуток Туганавіч быў як быццам бы ўзяты з паэмы і цалкам адпавядаў ёй сваім выглядам. Перад альтанкай панна Тугано̆ўская размясціла каменную табліцу з цытатай з «Дзядоў», якую я тут успамінаў у пачатку раздзела. Табліца стаяла ля ўвахода як жаласны напамін і наказвала ідучаму забыць пра ідылічны выгляд кветкавай сцежкі і вярнуцца да папярэдняга настрою, узнёслага і змрочнага, з якім яшчэ аглядалі бярозу, пасаджаную Міцкевічам, і хадзілі па парку — шырокаму, цяністаму, але змрочнаму, як усё ў гэтым праклятым двары.

На гэтым заканчваюцца ўспаміны васьмігадовага хлопца, які глядзеў на Туганавічы без належнай увагі і разумення. Але я не магу ўстрымацца ад дапаўнення біяграфіі панны Тугано̆ўскай пазнейшымі фактамі, якія з гэтай высакароднай, але неўраўнаважанай энтузіясткі зрабілі з часам заслужаную і ахвярную грамадзянку, выдатную фігуру, акружаную павагай і захапленнем усёй Навагрудчыны. Праз амаль паўвека я глядзеў, як вырасла духам гэта жанчына, надзеленая высокім пачуццём абавязку і заўсёды гатовая адрачыся ад уласнай асобы дзеля вялікай справы. І адначасова я бачыў, як звяла і змарнела другая энтузіястка — пані Абламовіч, якая не магла вызваліцца з цеснага кола дробязнага эгаізму, не ўмела жыць дзеля чаго-небудзь, акрамя самой сябе. Абедзвюх нарадзіла тая самая Навагрудская зямля, зямля Міцкевіча, маладосць абедзвюх прайшла на фоне прыгажосці той жа самай прыроды, чар тых самых краявідаў, абедзве супрацьпаставілі сябе рэчаіснасці і ў марах шукалі выйсце для сваіх парываў. Але панна Тугано̆ўская не змарнавала жыцця, бо змагла мары пераўтварыць у справы, а справам надаць рысы непераходзячай вартасці.

Дом панны Тугано̆ўскай быў да канца жывым, пульсуючым асяродкам польскай думкі, прадстаўленай самымі лепшымі тагачаснымі задумамі. Яе ведалі і паважалі ва ўсёй Польшчы. А яна прытрымлівалася нязменнай лініі жыцця, прысвечанага справам вышэйшага парадку. Будучы асобай больш чым заможнай, яна шчодра давала грошы на нацыянальныя мэты, але гэтыя грошы былі, напэўна, найменшай ахвярай, якую яна прынесла, у параўнанні з адрачэннем ад усіх асабістых намераў і жаданняў у жыцці. Гарачае і незгінальнае сэрца палала ў гэтай незвычайнай жанчыне і пераўтварала яе жыццё ў паласу бясконцага прысвячэння. Калі ў панны Абламовіч Свіцязь забралі людзі злой волі, то панна Тугано̆ўская сама добраахвотна пазбавілася свайго родавага маёнтка, асуджаючы сябе амаль на ўбожаства. Яна аддала яго народу. Яна прыйшла да пераканання, што не павінна карыстацца маёмасцю, якая можа быць выкарыстана лепш на грамадскія мэты. Пасля рускай рэвалюцыі 1905 года, калі наступіла большая свабода і магчымасць распараджацца зямлёй, яна вырашыла адрачыся ад памешчыцкай уласнасці, запісала і ахвяравала Туганавічы Мінскаму сельскагаспадарчаму

таварыству, захаваўшы для сябе толькі невялікі фальваркавы ўчастак са сціплым домікам. Гэты запіс моцна ўзрушыў тагачасныя водгукі і выклікаў агульнае захапленне і прызнанне. Сельскагаспадарчае таварыства павінна было акружыць апекай памятныя мясціны Міцкевіча і арганізаваць у Туганавічах ніжэйшую сельскагаспадарчую школу для сялян, на што яно атрымлівала выдаткі з даходаў маёнтка. Склад кіраўніцтва таварыства, у які ўваходзілі палякі, прычым самыя заслужаныя грамадзяне краю, служыў гарантыяй, што намеры ахвярадаўцы не будуць ані перакручаны, ані злоўжыты. Сельскагаспадарчае таварыства ў Мінску адыгрывала тады значную ролю ў грамадскім і нацыянальным жыцці нашага раёна і з'яўлялася яго неафіцыйнай кіраўнічай уладай. На чале яго стаяў пан Эдвард Вайніловіч — адна з самых моцных галоў і адзін з самых цвёрдых характараў Міншчыны. Ён з вялікай дэманстратыўнасцю здзейсніў акт прыёму дара панны Туганоўскай, а потым перадаў дапаўненне да ўмоў запісу адказным асобам і сам назіраў за выкананнем. У Туганавічах арганізавалі сельскагаспадарчае згуртаванне, а таксама эксперыментальную станцыю караняплодаў, якой умела кіраваў спецыяліст-прыродазнаўца Караль Карповіч з Чамброва, сын дзядзькі Юльяна і мой стрыечны брат. Туганавіцкая справа стварала ў павеце карысны фермент і станоўча ўплывала на актывізацыю грамадскага жыцця навакольных памешчыкаў, падымаючы дух і абуджаючы актыўнасць. Праект школы набліжаўся да ажыццяўлення, і панна Туганоўская з радасцю глядзела, як яе бацькаўшчына становіцца асяродкам хутка пульсуючага грамадскага жыцця.

Але, на жаль, прыйшла вайна 1914 года і перакрэсліла гэтыя карысныя пачынанні, а калі пасля рыжскага міру 1920 года Мінск апынуўся на расійскім баку, гэтым самым было распушчана Мінскае сельскагаспадарчае таварыства і былі ануляваны яго правы на Туганавічы, бо



***Фрагмент фасада двара ў Лапушне ў пачатку XIX ст.*** *Здымак да 1925 г.*

такая магчымасць была прадугледжана ў даравальным акце. Трэба было шукаць новую форму далучыць Туганавічы да грамадскага жыцця і пераўтварыць яго ў фундацыю, даручаную апецы польскага ўрада. Адсюль, аднак, — прыкра гэта сцвярджаць — пачаўся заняпад Туганавіч, і віну гэтага ўпадку трэба прыпісваць не каму-небудзь іншаму, але нашаму ўраду. Разумныя намеры ўладальніцы пайшлі памылковым шляхам фармалістыкі, справу разглядалі на паперы, далёка ад жыцця, што прывяло яе ў стан хранічнага застою. Замест прызнання панну Тганоўскую напаткала поўнае неразуменне і выразная дактрынёрская бяздзейснасць з боку ўрадавых чыноўнікаў. Туганавіцкая фундацыя падзяліла лёс усёй сельскагаспадарчай справы ў Польшчы, занядбанай ворагамі нацыі, якія імкнуліся знішчыць памешчыцтва, не падымаючы сялянства і зніжаючы агульны ўзровень сельскай гаспадаркі. Фундацыя была пахавана ў бюракратычнай цяганіне, стала карыкатурай вялікіх намераў панны Туганоўскай, папросту змарнела ў няўмелых руках новых апекуноў.

Дарэмна старалася панна Туганоўская ваяваць з гэтым бюракратычным паралічам: дух часу быў мацнейшы, чым палкасць захапленняў фундатаркі, і яго знішчальны ўплыўператварыў у прах яе найлепшыя жаданні. Яна памерла ў старым узросце, амаль у нястачы, пераследуемая падатковымі судовымі выканаўцамі, і не дажыла да той радасці, каб убачыць працвітаючай сваю школу, аб якой яна марыла. Але з яе вуснаў ніколі не прагучала ані слова сумнення, ані горычы. Яна мужна пераносіла зменлівасць лёсу, гледзячы на высокія зоркі, якія свяцілі ёй усё жыццё. Яна памерла, верачы разам са Славацкім, што «ўсё створана для духу і не існуе нічога для цялесных мэтаў...»

З Туганавіч мы звычайна падаваліся да цёці Ідалькі ў Скробавак, але перад гэтым заязджалі ў Гарадзішча, дзе маці заўсёды трэба было нешта вырашыць. Гэта было маленькае мястэчка, размешчанае на гары, уласна кажучы, адна вуліца з рынкам пасярэдзіне і царквой, перабудаванай з забранага пасля паўстання касцёла. На рынку было поўна яўрэйскіх магазінчыкаў з «сялянскім» таварам, гэта значыць з жалезнымі вырабамі, газай і селядцамі. Сярод іх першае месца займаў магазін Фейгі — самы вялікі і самы багаты, дзе побач з названымі прадметамі можна было атрымаць шакалад, гальштукі, бакалейныя вырабы, глаўбераву соль, а таксама самыя новыя плёткі з усёй ваколіцы Гарадзішча. Фейга неафіцыйна прадстаўляла мястэчка, і кожны прыезджы заходзіў да яе ў магазін і лічыўся з ёй больш, чым з самім панам «іспраўнікам» — прадстаўніком расійскага ўрада. Яна, вядома, мела мужа і сыноў, але яны былі дапаўненнем і звычайна заставаліся на другім плане, а на першы пастаянна выходзіла сквапная індывідуальнасць пані купчыхі — тоўстай, нізкай, круглай, заўсёды святочна ўбранай у атласны бронзавы парык і аграмадныя залатыя завушніцы. Фейга мела не толькі талент гандляваць, але і дыпламатычнае разуменне: яна ведала ўсіх у павеце, ведала пра кожнага тое, што было патрэбна, каб яму дагадзіць, а самой скарыстаць, жыла з усімі ў добрых адносінах, вылучала памешчыкаў, хоць у сваёй краме адкрыта займалася нібы толькі дробным гандлем, але паціху пазычала грошы ў рост пад працэнты і скупляла за бясцэнак збожжа на пні. Так, паспяхова выконваючы шматлікія грамадска-гандлёвыя функцыі, яна пакалеўску кіравала шмат гадоў за сваім прылаўкам з сасновых дошак, абабітых заржавелай бляхай, і, будуючы свой дабрабыт сярод газава-селядцовых выпарэнняў, магла, не без падстаў, лічыць сябе цэнтральным пунктам гарадзішчанскай краіны. Сапраўды, у гандлёвыя дні яе крамка выглядала як клубны сход, а пані старшыня ласкава адорвала прысутных

лісlівымі ўсмешкамі свайго чырвонага, добра адкормленага твару. Дзяцей шчодра частавала цукеркамі, гладзіла пад барадой паблажлівым жэстам, што мяне заўсёды ўражвала і адбівала смак ад цукерак.

Краявід за Гарадзішчам і Скробавам станавіўся плоска-манатонны, пазбаўлены нашых багатых лясоў, і пераставаў займаць мяне, абуджаючы толькі рассеянае спачуванне. «Як можна так убога жыць сярод гэтых непрыгожых раўнін?» — думаў я сабе, гледзячы на гэты роўны і голы гарызонт. Я быў тады шчыра перакананы, што неад'емнай умовай існавання кожнага чалавека з'яўляецца валоданне ўласным добра пабудаваным дваром і маёнткам, размешчаным у маляўнічай ваколіцы. Пакінуўшы Сэрвач недзе паміж Туганавічамі і Скробавам, мы ўязджалі ў роўную і пустую мясцовасць, непадобную ані на зялёныя лугавыя поймы Сэрвачы, ані на яе гарыстае надбрэжнае абрамленне. Пачыналася паўднёвая Ляхавіцка-Клецкая раўніна, ураджайная, але бязлесая і бязводная, якая цягнулася аж да памежжа Палесся пад Ганцавічамі, мясцовасць густа заселеная, запоўненая дварамі, вёскамі і засценкамі, і з мноствам ветракоў. Гэтыя ветракі, невядомыя ў нашай рачной старане, асабліва палохалі мяне сваім самотным, як бы роспачлівым выразам распасцёртых крылаў, асабліва калі вырысоўваліся моцнымі контурамі на фоне палаючага захаду. Мне бачылася нешта тужлівае ў гэтых чорных постацях крылатых зданяў-вартаўнікоў і думалася, што яны выглядаюць як аграмадныя птушкі, заклятыя ў нерухомасці нейкай чарадзейнай сілай. Ветракі былі, бадай, адзінай разнастайнасцю гэтай нецікавай дарогі, па якой мы праязджалі міма Завосся і недалёка ад Калдычэўскага возера, якое роўна ляжала ў балоцістай мясцовасці, не пакрытае ані якімі раслінамі. Пра Завоссе я чуў мімаходам ад бацькоў, што гэта было месца, дзе нарадзіўся Міцкевіч. Мне паказвалі свіран паэта ў гэтым засценку без вялікага натхнення, а Калдычэўскае возера выглядала вельмі ўбога ў параўнанні са Свіцяззю і здавалася мне не вартым таго, каб на яго глядзець. Стомленыя дарогай і знудзіўшыся пад вечар, мы даязджалі праз Тарчыцы[2] Рудзінскіх да Міхалова, апошняй мэты нашага падарожжа.

Міхалоў дзядзькі Керсноўскага быў непадобны ні да аднаго іншага з вядомых мне двароў — і дом, і людзі. Ён выглядаў неяк інакш, быў уступам у іншы, невядомы мне свет вялікіх гарадоў і іх цывілізацыю, і то вабіў і здзіўляў, то адштурхоўваў і палохаў. Уласна кажучы, у Міхалове былі сплецены разам два светы: новы, да якога належала асоба дзядзькі Аляксандра, яго варшаўскія спекуляцыі і ўрадавыя «падрады», яго суровы выраз твару, густая барада і цёмныя суровыя акуляры, а таксама наш звычайны, паважаны, дамашні мірок, прадстаўніцай якога была жонка дзядзькі Аляксандра, добра любімая цёця Хэленка з дадаткам «маё жыццё». Гэта быў яе аднолькава часты і любімы зварот, як у дзядзькі Юльяна, але ў яго — выпадкова і крыху суха, адпаведна яго абыякавай натуры, а «маё жыццё» цёці Хэленкі было такое цёплае, мяккае, поўнае такой пранікнёнай сардэчнасці, як яна сама. Калі яна глядзела на каго-небудзь сваімі лагоднымі, сумнымі вачамі і звярталася да яго з некалькімі словамі з гэтай нязменнай урачыстасцю, то здавалася, што ён сапраўды дарагі, як само жыццё, і што яна гатова ад усяго сэрца прысвяціць яму ўсё, не выключаючы гэтае жыццё. Так уздымалася і пералівалася праз берагі прыродная дабрыня, якая не мела дастатковага натуральнага выйсця. Калі я сёння спрабую выклікаць са змроку за-

[2] Тарчыцы — вёска, каля 5 км ад Сталовіч, налічвае 13 двароў, уласнасць Рудзінскіх. Фальварак займаў 16 валок.

 быцця вобраз мілай цёці Хэленкі, у вушах увесь час гучаць яе прыглушаныя, пачцівыя, поўныя бязмежнай аддачы словы: «маё жыццё...»

Ужо ад пад'езда пачыналася ўражанне асаблівасці Міхалова. Там не было ганка на калонах, толькі доўгая і шырокая веранда, якая бегла ўздоўж усяго фасада і была цалкам схавана за дзікім вінаградам. Вокны пакояў з фасада адчыняліся на гэту веранду, і з яе было відаць, што знаходзіцца ў іх сярэдзіне так блізка, як быццам бы сам у іх знаходзіўся. Але летам мала заглядвалі ў тыя пакоі, бо ўсё жыццё канцэнтравалася на верандзе, дзе было вельмі прасторна і цяніста, так што вечарамі на абедзенным стале маглі запальваць лямпу і вецер да яе не даходзіў. Вясёлы круг святла, які падаў на абрус сярод цёмнага абрамлення вінаграда і на фоне блакітнага змроку летняй ночы выдзяляў моцнымі контурамі сабраўшыхся за сталом, ствараў карціну, поўную зацішнай і крыху таямнічай інтымнасці, якая была для мяне абсалютна новай рэччу, ніколі не бачанай, і якая вельмі прыйшлася мне да густу, хоць я не задумваўся, чаму. Увогуле, дом у Міхалове, дзякуючы сваёй верандзе і вокнам, што адчыняліся на яе, размешчаным нізка, ствараў уражанне даступнага, шырока адчыненага, каб прыняць летнюю прыроду, і быў блізка звязаны з садам і дрэвамі на дзяцінцы. Гэта было вельмі прыемна, бо было не паўсядзённым, а нечым святочным і пікніковым.

Міхалоў знаходзіўся недалёка ад Баранавіч — чыгуначнай станцыі Маскоўска-Брэсцкай чыгункі, якая вяла праз Брэст і Тэрэспаль да Варшавы, куды можна было заехаць за дзесяць з нечым гадзін, што ў той час здавалася надзвычай хутка. У двары кожны дзень атрымлівалі пошту: свежыя газеты, часопісы і лісты, бо дзядзька Аляксандр пры сваіх сталічных інтарэсах меў вялікую карэспандэнцыю і павінен быў ведаць, што робіцца ў свеце. Мястэчка Баранавічы было невялікае, але рухавае, і побач са станцыяй яно пачало добра развівацца дзякуючы нядаўна пабудаванай чыгунцы, якая злучыла яго з вялікімі гарадамі. У выніку гэтага слова «Варшава» не сходзіла з вуснаў жыхароў Міхалова, бо з ёй былі звязаны пастаянна, дзякуючы частым раз'ездам дзядзькі Аляксандра, а гэта стварала асобую, абсалютна для мяне новую атмасферу руху, змены і наплыву чужых элементаў, якая адначасова прыцягвала і абуджала нейкі цёмны страх, як усё, што было далёкім і невядомым. На кожным крокуназіраліся праявы гарадской цывілізацыі, фабрычныя прадметы хатняга ўжытку, пасылкі з пошты і з чыгункі, узгадванне аб падарожжах і цэнах на чыгуначныя білеты, расказы пра людзей і новыя рэчы, дзіўныя, часам, можа, прыгожыя, не раз, пэўна, страшныя... Да прыгожых я перш за ўсё адносіў саму чыгунку, якая так выдатна ўздзейнічала на атмасферу Міхалова. Я ведаў ужо не толькі па гульнях, але і на самай справе, як выглядаюць цягнікі, рэльсы і пуці, вагоны і лакаматывы, бо бачыў іх пару разоў па дарозе да Шчэпаўшчыны, недалёка ад Снова, дзе ўсе дарогі перакрыжоўваліся і наша пераразала чыгуначны пуць. Сам выгляд паласатых чорна-белых шлагбаумаў, якія загароджвалі дарогу, хваляваў мяне, бо я ўжо з вопыту ведаў, што спушчаныя плечы шлагбаумаў азначалі хуткі прыход цягніка, і ў гэтай паездцы ў Сноў маёй самай гарачай марай было дачакацца цягніка і ўбачыць яго на поўным ходзе. Нават прамалінейная манатоннасць пуці з рэльсамі, якія роўна беглі наперад, зусім не здавалася мне нуднай, наадварот, уздзейнічала на мяне з вялікім уздымам, я лашчыў вачамі дасканалую рэгулярнасць і смелую прамату дарогі, якая паглыблялася ў бясконцы прастор і ішла ўдалячынь, каб патануць у ёй знікаючай кропкай. У Міхалове мой чыгуначны вопыт ажываў, набіраўся рысаў прывабнай рэчаіснасці і наводзіў на думку пра лінію Бара-

навічы—Варшава як пра краіну дзіваў і цудаў, прыгажэйшых за ўсе фантазіі. Нягледзячы на страх перад гэтым новым светам, прыцягненне да яго было такім моцным, што я не запомніў у Міхалове ані выгляд саду, якога, зрэшты, можа, там не было, бо ніхто пра яго не клапаціўся, ані пабудоў фальварка, і нават пакоі здаюцца мне нейкімі мутнымі і невыразнымі. Але затое я бачу дакладна гэту зялёную шырокую веранду, лямпу, якая асвятляе стол, накрыты для вячэрняй гарбаты, і старэйшых, што сабраліся вакол яго, якія гавораць пра Варшаву, да чаго я ахвотна прыслухоўваўся. Я таксама мала памятаю хлопцаў, маіх стрыечных братоў Адася і Караля Керсноўскіх, бо яны былі старэйшыя за мяне, вучыліся ўжо ў школах у Варшаве і менш бывалі дома. З рэдкіх спатканняў з імі ў мяне застаўся ўспамін пра нейкіх далікатных панічоў, вельмі патрабавальных. Яны гаварылі з маці даволі няветлівым тонам, поўным пачуцця ўласнай перавагі, а з іншымі былі схільныя да непрыстойных і нават цынічных размоў, якія я слухаў з неапісальным страхам і пазбягаў, як мог. З-за гэтага таксама ўся мая ўвага сканцэнтравалася на дарослых, на дзядзьку Аляксандру і цёці Хэленцы, і асабліва на апошняй.

Гэта дрэнна падабраная пара прадстаўляла сабой вялікі кантраст, які адчуваў нават такі малы і няўважлівы падлетак, як я. Гэта быў саюз ястраба з галубкай, чалавека здабычы і інтарэсу, прыхільніка гарадскіх уцех і матэрыяльнага прымянення з жанчынай мяккай, слабай, поўнай ціхага прысвячэння, адданай сям'і і дому, такой, адным словам, якімі былі ўсе маці і бабкі, усе гаспадыні дому і матроны ў нашым пачцівым навагрудскім мірку. Дзядзька Аляксандр гаварыў голасна і ўладна, з вышыні паўбога, дазваляў сабе саркастычныя і непрыстойныя жарцікі ў прысутнасці жонкі і іншых паняў альбо замыкаўся ў коле сваіх інтарэсаў і знікаў з гарызонта. Яна саступала, цярпела, тлумачыла, змякчала доб-



**Двор у Моладаве.** *Здымак да 1912 г.*



**Двор у Ліпе.** *Здымак да 1926 г.*

рым, ціхім словам, была напагатове кожную хвіліну паспяшыць аказаць паслугу мужу і сынам і супакоіць іх капрызы альбо, урэшце, калі ўжо нічога не магла зрабіць, маўчала і цярпела з усмешкай на вуснах. Яна была ўсёй душой, усёй існасцю наша, блізкая, сардэчная і любімая, ад яго веяла чужым, нечым эгаістычным, цвёрдым і непрыступным. З выгляду дзядзька і цётка Керсноўскія адпавядалі дакладна маральнаму зместу.

Ён меў халодны і рашучы твар, арліны нос і цяжкі нерухомы позірк, насіў вялікую бараду і цёмныя акуляры ў залатой аправе, якія злавесна блішчалі, абуджаючы ўва мне недавер і страх сваёй суровай таямнічасцю. Я баяўся ўсіх людзей у акулярах, і тым больш, чым цямнейшае было шкло. Сёння я ўжо не прыпомню дэталяў, але ў мяне засталося ў памяці, што дзядзька Аляксандр быў вельмі галантным у адносінах да маладых і прыстойных жанчын, займаўся імі вельмі ўважліва, затое з дамашнімі абыходзіўся бесцырымонна, гаварыў прыкрасці ці ўвогуле непрыстойнасці, якія выклікалі слёзы ў вачах ціхуткай цёці Хэленкі, бо з'яўляліся дрэнным прыкладам для хлопцаў, і без таго ўжо распешчаных. Але яна не адважвалася дзейнічаць супраць гэтага інакш, як цярплівасцю свайго ўсё разумеючага і даруючага сэрца, была такой падпарадкаванай мужу, такой безабароннай і падатлівай, што нават сыны па прыкладу бацькі рана пачалі адносіцца да яе легкадумна, са з'едлівым альбо пратэкцыянісцкім гумарам. Яна цярпела ўсё гэта не столькі з-за слабасці характару і любові да спакою, колькі з-за любові, таму што верна і без сябелюбства кахала іх, што прабівалася ў кожным яе ўчынку і слове. Яна звярталася да іх: «маё жыццё», соладка глядзела ў самыя вочы і ўсміхалася з найвышэйшай дабрынёй, цёплай і абаяльнай, і гэта ўсмешка падымала ўверх карычневую бародаўку, якая была ў яе на твары, але зусім яе не псавала. Наадварот, здавалася, што гэта бародаўка дадае яшчэ больш тайнай прыгажосці мілай цёці Хэленцы, створанай для таго, каб клапаціцца пра ўсіх, апрача сябе самой, і думаць толькі аб адным, каб кожнаму з іх было добра. Прыгадвалася французская прыказка: «Souffrir et sourire — c'est le destin d'une femme»[3]. Колькі ж я выслухаў гэтых даверлівых начных размоў, калі цёця сваім сумным меладычным голасам паверала маёй маці не свае цярпенні ці прэтэнзіі, барані Божа, бо яна ніколі ні на каго не наракала, нікога не асуджала, — толькі свой клопат і неспакой за блізкіх, за мужа, які забываў пра яе ў віхры варшаўскіх спраў і забаў, азартна ўвязваючыся ў няпэўныя прадпрыемствы, за сыноў, зарана ідучых услед за бацькам, якія звысок глядзяць на дамашняе акружэнне ў Міхалове, пасля таго як паспрабавалі сталічных прыемнасцей. Гэтыя размовы былі для мяне малазразумелыя і не надта цікавыя, я прапускаў іх міма вушэй, і толькі іх урыўкі даляталі да маёй свядомасці. Рэшту я дадаваў хутчэй інтуітыўна, але і гэтыя абрыўкі скаргаў цярплівага жаночага сэрца гучалі нейкім праніклёным пафасам і з хваляваннем падхопліваліся маёй дзіцячай фантазіяй, з хваляваннем, моц якога і напружанасць я магу толькі сёння ацаніць поўнасцю. Мне было сардэчна шкода беднай цёці Хэленкі, што яна так пакрыўджана ўсімі і так сумна скардзіцца на сваю адзіноту, хоць я не вельмі разумеў ані сутнасці гэтай заклапочанасці, ані таго, хто, уласна кажучы, яе стварае. Я адчуваў гэта спачуванне агульна і няясна, але не мог вызваліцца ад гэтага ўражання, такі прабіваўся ў яе вачах выраз безнадзейнага цярпення.

Маці з сардэчнай увагай выслухоўвала прызнанні стрыечнай сястры, бо любіла яе і блізка з ёй сябравала. Цёця Хэленка, як з дому Булгакаў,

---

[3] Цярпенне і ўсмешка — прызначэнне жанчыны (*фр.*).



***Двор у Міраўшчыне.*** *Здымак да 1926 г.*

была стрыечнай сястрой майго бацькі, якога ведала з дзіцячых гадоў і называла па імені. Яна часта таксама прыязджала да нас адна, бо дзядзька Аляксандр пераважна адсутнічаў, яго пастаянна клікалі ў Варшаву яго «работы» і дзяржаўныя «падрады». Мне добра ўрэзалася тады ў памяць гэта рускае слова, якое азначала пастаўкі ўрадавага прадпрымальніка, а ў нас мела прысмак нечага слізкага і не надта прыстойнага, хоць бязмерна карыснага. Вядома было, што думаць пра чалавека, які мог зарабіць грошы на «падрадах», бо марнаванне маскалямі дзяржаўных грошай было ў прыказках і хабарам у іх можна было ўсё паскорыць. Таму з пачутых размоў я таксама ствараў сабе дзіцячыя фантазіі з наіўнымі спрашчэннямі больш-менш такога зместу, што «ў Варшаве дзядзька капае на работах зямлю для маскалёў і ставіць дамы, а яны яму за гэта сыплюць шмат грошай і даюць яму розныя добрыя рэчы...» У канцы гэтага разважання, аднак, закрадвалася думка, што ўсе гэтыя дабрадзействы, якія паходзяць з рук ворагаў, падазроныя і не робяць вялікага гонару.

Міхалоў быў другім этапам майго сутыкнення з далёкім і чужым светам, бо прыезд дзядзькі Браніслава ў Асташын з-пад Мінска быў першым этапам гэтага знаёмства. У абодвух выпадках, нягледзячы на цікавасць, я атрымліваў гусіную скуру на душы ў маральным сэнсе, бо адчуваў, што да нас прыходзяць справы і звычаі не нашы, бо яны паходзяць з варожага нам свету, — яны абуджалі мой інстынктыўны недавер і непрыязь. Дзядзька Аляксандр, аднак, першы даў мне пазнаёміцца з тыпам чалавека дагэтуль мне невядомага, даў мне знаць, што не ўсе належаць да распаўсюджанага ў нас роду людзей сціплых і высакародных, адданых сям'і і дому, якія не паддаюцца расхістванню звычаяў і наўмыснаму выкарыстанню. Са здзіўленнем я зразумеў, што ён адрозні-



***Сямейныя могілкі з каплічкай, пабудаванай у 1896 г. Каралінай Булгак, жонкай Юльяна Карповіча. Стан перад першай сусветнай вайной***



*Каплічка з фігурай Хрыста, які нясе крыж, на сямейных могілках Карповічаў у Чамброве. Пабудавана ў 1896 г. Каралінай і Юльянам Карповічамі па ўзору капліцы перад віленскім касцёлам Св. Рафаіла на Сніпішках, ад якой пачыналася дарога паломнікаў да віленскай Кальварыі. Пасля 1945 г. чамброўская капліца ператварылася ў руіны, віленская — разабрана.* Здымак да 1926 г.

ваецца ад усіх маіх самых блізкіх: ад яго веяла нейкім душком цывілізацыі вялікага горада, больш рафінаваных патрэб і навыкаў, больш кампрамісных маральных асноў. Вядома, я не мог гэта сфармуляваць дакладна, але адчуваў чужароднасць людзей такога роду і толькі з цягам часу змог кваліфікаваць гэта як уплывы русіфікацыі, якая несла бяздумнае карыстанне і маральную немач. А бедная цёця Хэленка цярпела сваю долю з лагоднай усмешкай і ўсё, што ёй прыносіў лёс, сустракала гэтымі самымі словамі: «маё жыццё», хоць, вядома, вакол яе панавалі іншыя жыцці і заўсёды заглушалі яе ўласнае, не даючы яму загаварыць. Зрэшты, яна сама ад яго адраклася і прысвяціла яго без жалю і скаргі сваім самым блізкім аж да самага канца... На яе помніку належала б выразаць словы: «Сваё жыццё я аддала вам...»

У палове жніўня, у дзень Узнясення Маці Божай, у Сталавічах, недалёка ад Міхалова, адбывалася вялікая штогадовая ярмарка, на якую прыязджала шмат людзей з самых далёкіх бакоў павета і нават губерні. Гэта было нямала, калі ўзяць пад увагу, што абшар тагачаснай Мінскай губерні быў не намнога меншы за цэлае Каралеўства Польскае, якое складалася з дзесяці губерняў. Бацькі звычайна так планавалі восеньскія адведзіны Керсноўскіх, каб у гэты дзень заехаць у Сталавічы, да якіх я меў асаблівую сімпатыю, таму што з іх паходзіла мая няня Юлька. Ваколіца Сталавічаў была багата каталікамі з дробнай засцянковай шляхты, але была пазбаўлена касцёла, бо Сталавіцкі быў забраны на царкву пасля паўстання 1863 года пры нейкіх драматычных абставінах, смутныя чуткі пра якія даходзілі і да маіх вушэй. Побач з мястэчкам на адлегласці некалькіх дзесяткаў крокаў знаходзіўся двор Сталавічы, спадчынна арандаваны ў



***«Альтанка Марылі» ў Туганавіцкім парку, утвораная з шасці часткова зрослых паміж сабой ліп. Падобныя альтанкі садзілі ў навакольных дварах, у т.л. у Чамброве.*** *Здымак да 1910 г.*

Радзівілаў сям'ёй Хацiскiх. У той час там жыў пан Уладзіслаў Хацiскi, цёзка майго дзядулі з Міраціч, але ён быў нам толькі дальняй раднёй, бо гэта была іншая лінія Хацiскiх, якая выходзіла з Хацiшча за Гарадзішчам.

Ярмаркі, якія ў нас звалі часцей кірмашамі, адыгрывалі вялікую ролю ў нашым вясковым жыцці і блізка датычылі ўсіх: і памешчыкаў з двароў, і сялян з вёсак, і яўрэяў з мястэчкаў. Кожны меў тады нейкую справу на кірмашы, прадаваў альбо купляў тое ці іншае, і пры гэтым знаходзіў сабе кампанію, сустракаўся з мноствам даўніх знаёмых ці шукаў новых, мог нагаварыцца ўволю, даведацца што-небудзь з апошніх і перадапошніх навін. Хтосьці маладзейшы і гарачэйшы, часам падпіўшы, увязваўся ў нейкую авантуру на кірмашы, пра якую потым доўга расказвалі «гмінныя навіны» павета. Купіць там можна было ўсё — ад цыбулі да каньяку, ад грыбоў да шакаладу, ад дзежак да збожжа, быдла і коней, але найважнейшым прадметам гандлю былі, без сумнення, гэтыя апошнія, і менавіта яны надавалі кірмашам найбольшую вагу і самы цікавы каларыт. Адусюль з'язджаліся перакупшчыкі, пасрэднікі, яўрэі-зводнікі, кацапы, нават цыгане, розныя цёмныя тыпы, якія шнырылі інкогніта на гастролях, а пры гэтым, вядома, і мясцовыя земляробы выводзілі сваю жыўнасць і далучаліся да кірмашовага мурашніка. Там было лягчэй за ўсё прадаць каня са схаваным недахопам, бо на рынку ўжо не абавязвалі паважаныя дамашнія звычаі, згодна з якімі не толькі шляхціц, але нават селянін пасаромеўся б выкарыстаць чый-небудзь давер і каня з дэфектам прадаць з дому як здаровага. Але на кірмашы гэта сходзіла, бо там збіраліся чужыя з усіх канцоў свету, і трэба было мець вочы і глядзець, што купляеш. Так да справы набыцця дадаваліся рызыка і азарт, і гэта дадавала ёй асаблівы смак, які, напэўна, вабіў не аднаго.

Асенні кірмаш у Сталавічах быў такі ж знакаміты і ў ім гэтак жа шырока ўдзельнічалі, як у майскім і снежаньскім у Міры ў дзень святога Мікалая, ці як у гарадзішчанскім на так званую Дзесятуху[4], якая ўжо не памятаю, калі прыпадала, бо гэта было нейкае праваслаўнае свята, адкуль яго царкоўная сялянская назва. Яшчэ адбываліся вялікія кірмашы ў Навагрудку, Клецку, Нясвіжы і іншых мястэчках, але Мір, Гарадзішча і Сталавічы пераўзыходзілі ўсё сваёй універсальнасцю і шырынёй дыяпазону. Сталавіцкі рынак у дзень Узнясення сапраўды ўяўляў сабой займальны выгляд з гэтым нагрувашчваннем людзей, коней, вазоў, са шматлікімі ларкамі, закіданымі ўсялякім дробным таварам, з мноствам распрэжаных вазоў, цесна састаўленых радамі, якія тырчалі ў паветра выцягнутымі аглоблямі, са страката-чарнявай збітай масай, якая бесперапынна хвалявалася павольнымі нервовымі дрыжыкамі, як жукі, што аб'ядаюць майскую зеляніну на дрэвах. Узмацняў уражанне незмаўкаючы гоман, што пераліваўся, як азёрная хваля, людскія крыкі і смех, конскае ржанне, свіныя віскі і ўсюдыіснае лапатанне яўрэйскага мноства, паразітуючага на кірмашовым тлуме.

Што да мяне, то кірмаш я любіў аглядаць толькі з пэўнай дыстанцыі, бо я меў агіду да таўкатні і баяўся ў ёй згубіцца. Найбольш мне падыходзіла месца на козлах нашага экіпажа, дзе я адчуваў сябе дастаткова ўзнятым і адасобленым, каб спакойна прыглядацца да таго, як клубіцца кірмаш. Але гэта было магчыма толькі спачатку, калі мы даязджалі да рынку, пазней ён запаўняўся так шчыльна, што не магло быць гаворкі пра іншае перамяшчэнне, як толькі пешшу. Пасля полудня напружанне

---

[4] Дзесятуха — праваслаўнае свята, якое святкуецца праз 10 тыдняў пасля Вялікадня, падчас яго на Міншчыне адбываліся вялікія кірмашы.

руху крыху слабела, частка ўдзельнікаў кірмашу раз'язджалася дадому, частка разыходзілася на абед. Мы звычайна ішлі ў двор да пана Уладыслава, бо так было заведзена, што ў гэты дзень ён прымаў — без перабольшання — усіх прыезджых памешчыкаў, некалькі дзесяткаў асобаў, і быў у стане ўсіх накарміць. З гэтага відаць, якія паважаныя былі ў той час звычаі, як цесна былі звязаны паміж сабой памешчыкі і як уся павятовая шляхта складала вялікую сям'ю. Гэта не было дробяззю — такі абед на сто асобаў, і патрэбны былі стагоддзі і дзесяткі пакаленняў, каб стварыць умовы жыцця, якія прывялі да гэтага.

Сталавіцкі двор даходзіў да мястэчка, дастаткова было пару хвілін дарогі, каб апынуцца на сцежцы паміж бэзамі і акацыямі і адразу потым на парозе дома. Пан Уладыслаў — стары халасцяк, дарма што не быў ваенным, меў высокую і шчуплую фігуру, доўгія бакенбарды, якія ўжо даўно ніхто не насіў ад часу турэцкай вайны[5], славіўся гасціннасцю на ўвесь павет, бо сам любіў смачна паесці і заўсёды меў добрага кухара, якога мог яшчэ вымуштраваць і натрэніраваць на розныя кулінарныя тонкасці. Праз ганак уваходзілі ў сталовы пакой, застаўлены аграмадным сталом на ўсю даўжыню, і адразу сядалі на свабоднае месца, не чакаючы запрашэння гаспадара, бо ён хадзіў з пакоя ў пакой, у кожным з якіх былі сталы. Гасцей з кірмашу частавалі абедам як у якім-небудзь рэстаране. Я памятаю, што ўся сталовая была застаўлена высокімі жоўтымі бібліятэчнымі шафамі, якія абуджалі маю неспакойную цікавасць, я памятаю яшчэ більярдны стол у нейкім з дальніх пакояў, кіі і белыя шары са слановай косці, якія вабілі не менш, чым шафы. Але больш за ўсё мне ўрэзалася ў памяць шумная, вясёлая размова абедаючых, поўная расказаў, крыкаў і анекдотаў, якая кіпела, як у чыгуне. У яе разгары я адчуваў сябе, седзячы побач з бацькам, маленькім і прыдушаным, глядзеў спадылба на столькі незнаёмых твараў, прыкідваўся, што нешта ем, але яда не лезла мне ў горла, і прагна чакаў канца, бо быў вельмі дзікі і непрызвычаены. Канец, зрэшты, неўзабаве прыходзіў сам, бо напłывалі ўсё новыя хвалі гасцей і папярэднія павінны былі саступіць ім месца. Гэта быў сапраўдны парад грамадзян нашага павета, і толькі цяпер я бачу, як шмат нас было тады і якую вялікую матэрыяльную і культурную сілу мы ўяўлялі на фоне тагачасных дзяржаўных уладаў і гаспадароў нашага краю.

На вечар мы вярталіся ў Міхалоў, і ён заўсёды абуджаў ува мне спрэчныя і складаныя пачуцці, адкрываў аспекты невядомых спраў цывілізаванага свету, выклікаючы цікавасць і страх, і адначасова заставаўся блізкім і родным, дзякуючы добраму сумнаму позірку цёці Хэленкі і яе лагоднай усмешцы, якой яна нас сустракала, часцей за ўсё адзінокая, на парозе міхалоўскага дома. Калі я схіляўся да яе рукі, яна цалавала мяне ў галаву, гладзіла па доўгіх кучарах і гаварыла сваім ціхім голасам: «Хадзі, жыццё маё, атрымаеш зараз гарбаткі з канфіцюрам».

Калі напісанне маіх успамінаў ішло ўжо да завяршэння, трапіла ў рукі — па добраму распараджэнню лёсу — невядомая мне да гэтага кніжка Эдварда Паўловіча пад назвай: «Успаміны. Навагрудак — турма — выгнанне» (Львоў, 1887). Я сустрэў яе з вялікай сімпатыяй, як родную па намерах, якая апісвала маю родную старонку, і хоць я не карыстаўся падчас напісання гэтымі ўспамінамі суайчынніка і земляка, лічу карысным упамянуць, што на старонках 56—62 у ёй утрымліваецца дакладны алфавітны спіс 265 навагрудскіх двароў, парафій і мястэчкаў разам з прозвішчамі памешчыкаў — уладальнікаў гэтых двароў.

---

[5] Турэцкая вайна — вайна паміж Расіяй і Турцыяй і яе саюзнікамі Англіяй, Францыяй і Сардзініяй (1853—1856).



***Лістапад.*** *Здымак, выкананы да 1911 г. у ваколіцах Дзераўной.*

## Раздзел XVI

## *Дарогі і двары. Усходні бок. За Нёман*

Я яшчэ раз вяртаюся да скрыжавання ля Далматоўскай царквы, каб ад яго накіравацца ў сваю апошнюю дарогу дзяцінства і маладосці — на паўночны ўсход у бок Отмыта, за Нёман... Тут пачыналася бязлесая раўніна, якая нічым асаблівым не вабіла вока. Праз пару вёрст ад Далматоўшчыны мы праязджалі праз Бурдзевічы. Ля самага ўезда вёска мела прыгожы драўляны крыж з атрыбутамі Пакуты і трыкутным невялікім дахам па даўнейшаму ўзору, ужо цалкам забытаму, а ў двары жыў наш стрыечны брат Стэфусь Булгак, малады чалавек, з нядаўняга часу — гаспадар Бурдзевіч. Стэфусь быў нізкі, каранасты і плячысты, амаль квадратны, вельмі чырвоны ў твары, вельмі ўпэўнены ў сабе, гаварыў гучна і з непарушным апломбам. Ён гаварыў выключна пра сябе і свае справы, бо нішто іншае не выклікала ў яго зацікаўленасці, наіўны эгаізм юнака не быў здольны прыкідвацца. Здароўе, дабрабыт і задавальненне сабой аж пырскалі з яго поўных румяных шчок і выпуклых вачэй шклянiстага бледна-блакітнага колеру. Стэфусь здаваўся мне забаўным, амаль смешным, і я любіў назіраць за ім са свайго кутка. Ён рабіў на мяне ўражанне барана, бо меў квадратны і цвёрды лоб, зарослы густой ускудлачанай чупрынай, падобнай на каракуль. Гэта быў тып так званага «грамадзянскага сына», нешта накшталт прымаўкі «ў літарах не адчувае смаку», а калі няма шаблі, рады хоць бы цэпам памахаць, абы не брацца за пяро і не выходзіць па-за кола рэальнага жыцця, свабоднага ад усялякіх разумовых намаганняў.

Стэфусь прымаў нас звычайна вельмі гасцінна ў сваёй першай гаспадарцы ў Бурдзевічах, і для гэтага ён часта меў магчымасць, бо гэта было нам па дарозе да Міра і Отмыта. Бацькі даволі любілі гэтага цвёрдагаловага сваяка, пра якога я не ўспомніў бы, каб ён не засеў у маёй памяці з-за пажару, што закрануў яго, а было гэта яшчэ перад пажарам у Асташыне, такім страшна памятным. Пажар у Бурдзевічах знішчыў гумно і адрыну, напоўненыя да краю ўвосень, адразу пасля ўборкі ўраджаю, і быў выкліканы помстай за дрэннае абыходжанне Стэфуся, які не цырымоніўся з сялянамі і меў цвёрдую панскую руку. Такія рэванш-ліквідацыйныя пажары фальваркавых пабудоў здараліся ў нашых краях звычайна ў верасні ці ў кастрычніку і былі, як мне здаецца, часцей выражэннем дзікасці і цемнаты сялян, чым доказам дрэннага абыходжання з імі памешчыкаў, бо трэба памятаць, што расійскі ўрад рабіў усё, каб вёска як найгорш ставілася да двара. Пасля гэтага пажару Бурдзевічы аказаліся ў стане роспачы, бо гаспадарка была пазбаўлена сродкаў для далейшага існавання, але я гэтага тады зусім не разумеў і здзіўляўся, чаму Стэфусь так хвалюецца па прычыне страты нейкіх будынкаў, якія так лёгка адбудаваць нанова. Даведаўшыся пра пажар, бацькі паехалі са мной у Бурдзевічы, каб аказаць яму бескарысную дапамогу, як гэта

было ў нашым звычаі ў такіх выпадках. Мы засталі Стэфуся ў полі паблізу пажарышча ад гумна, якое яшчэ дымілася, і як жа ён змяніўся! Знікла бясследна яго самаўпэўненасць і зразумелая фанабэрыстасць: ён сядзеў няшчасны на снапах нязвезенага жыта і горка плакаў, як дзіця, якое страціла любімую цацку.

Недалёка за Бурдзевічамі былі Жухавічы, вёска і млын над ракой Ушай, прытокам Нёмана, за імі — шырокія прыбярэжныя лугі, крыху наводдаль — абсаджаны таполямі Жухавіцкі двор, які належаў пану Міхалу Абламовічу. Ён быў родным братам Яна, жанатага з паннай Ядвігай Война з Міраціч, а таксама нашым сваяком, але не бываў у нас, і мы таксама бачыліся з ім няшмат. Зрэшты, ён мала бываў у сваіх Жухавічах, бо выконваў абавязкі генеральнага ўпаўнаважанага князя Антонія Радзівіла ў Нясвіжы і ў сувязі з гэтым званнем быў уплецены ў арбіту нясвіжскага двара. Ён належаў да тых, хто меў высокія намеры ў кар'еры, не звязваўся з навакольнымі памешчыкамі і цалкам ігнараваў свайго марнатраўнага брата, які быў вечна пад хмелем і забаўляўся на кірмашах у карчэмных кампаніях. Жухавічы ляжалі пасярод прасторных лугоў над Ушай, і толькі іх таполі, як вострыя вежы, уздымаліся над вялікай раўнінай надрэчных пашаў. Тут мы ўступалі ў сферу ўплыву Нёмана, у памежжа Навагрудскага і Мінскага паветаў, і доўга ехалі да Міра па высокім пласкагор'і, пазбаўленым дрэў і ўсялякай выразнасці.

Перад паездкай за Нёман я павінен яшчэ скіравацца ўбок на поўдзень ад Жухавіч, каб захапіць мясціны, да якіх я потым ужо б не трапіў. Я маю на ўвазе дарогу праз Мядзведку, Астраўкі, Просці да Гарадзішча, дзе чыгуначная станцыя — самая блізкая з Асташына, і туды ехалі праз Баранавічы і Брэст да Варшавы. У Мядзведцы жылі Дамейкі, якіх мы блізка не ведалі, а ў Астраўках сядзеў Ясь Булгак — брат Стэфуся з Бурдзевіч, таксама нізкі і каранасты, як і той, і, бадай, яшчэ больш замкнуты ў сваім адзінокім быце, як слімак у ракавіне. Але не гэтыя двары прыцягвалі маю ўвагу на паўднёвым адгалінаванні ўсходняга шляху, толькі Просці, якія належалі пану Маўрыцыю Пратасевічу, і гэта з-за славы, якая акружала яго імя. Пан Маўрыцый, самы багаты памешчык у ваколіцы і вельмі паважаны з-за свайго багацця, быў нейкім нашым сваяком, бо бацька называў яго дзядзечкам, а ён казаў бацьку па імені «Валерка» і адносіўся да яго добразычліва, але з паблажлівай фамільярнасцю, як прыстала багачу, які займаў высокае становішча і прывык да пакланення. Бацька лічыў гэта слушным, бачыў у гэтым «дзядзечку» нейкі надзвычайны аўтарытэт і аб Просцях заўсёды гаварыў з належнай павагай. Пан Маўрыцый моўчкі прымаў пашану і фіміям усяго павета як даніну, якая належала яму паводле становішча і багацця, і меў дастаткова розуму, каб не рызыкаваць сваім меркаваннем і не мяняць золата маўчання на серабро слова. І так без цяжкасцей і недарагой цаной ён захоўваў сваё першынство ў павеце, хоць, здавалася, не падлягала сумненню, што галоўным для яго была жаніцьба з сястрой Юзафа Монтвіла з Вільні, шырока вядомага фінансавага магната і грамадскага дзеяча, які стаяў на чале Віленскага памешчыцкага банка. А паколькі пан Маўрыцый і сам па сабе меў значную маёмасць, гэта сувязь зрабіла яго багачом і вывела ў рад самых значных памешчыкаў у павеце, хоць ніколі не было чуваць пра нейкія яго асаблівыя здольнасці ці грамадзянскія ўчынкі. У поўным значэнні слова гэта была рэпутацыя ў крэдыт.

Пан Маўрыцый быў непаваротлівым, насіў свабодныя і нізкія каўнерыкі на апаплексічнай шыі, камізэльку на выпуклым жываце ўпрыгожваў тоўсты залаты ланцужок, а заплыўшы твар акружалі банкірскія бакенбарды. Ён гаварыў няшмат і з пэўным намаганнем, а калі маўчаў, яго ніжняя губа, надзьмутая і крыху абвіслая, надавала яму пастаянны выраз незадаволенасці, якая межавала з грэблівасцю. Прычынаю гэтага была падагра, бо такому абранцу фартуны не магло чагосьці не хапаць для шчасця, апрача здароўя. Штогод ён ездзіў у Карлсбад, куды звычайна выязджалі тыя, хто пакутаваў на дрэнны абмен рэчываў, набыты ў выніку празмернага дабрабыту. Вярнуўшыся з лячэння, ён станавіўся крыху больш гаваркі і паловай губы даваў зразумець прастакам, колькі яму каштаваў Карлсбад, які, нягледзячы на сваю дарагавізну, не пераўзыходзіў яго фінансавых магчымасцей.

Дом у Просцях вызначаўся не столькі шляхетнасцю архітэктуры, колькі раскошай абстаноўкі, бляскам нацёртага воскам паркету і халаднасцю ліўрэйных слуг. Як жа ўсё гэта было далёка ад нашых пачцівых запэцканых пакаёвак, сукаватых падлог і выпадковай мэблі! У багатых і не вельмі з густам абстаўленых прасцянскіх салонах гаспадарыла маці пана Маўрыцыя, сямідзесяцігадовая бабуля, Харунжая, як яе паўсюдна называлі ў памяць пра яе нябожчыка-мужа харунжага. Мне ніхто не растлумачыў значэння гэтага слова, таму я сам сабе прыдумаў, што «Харунжая» з'яўляецца такім жа самым іменем, як Паўліна ці Мальвіна, а тое, што бабулька была хворай на ногі і прымала гасцей пераважна ў крэсле, крыху падобным на трон, то я палічыў слушным, што хворую асобу называлі «Харунжая». Нягледзячы на калецтва, гэта была вельмі энергічная і жывая пані, з грубаватай мовай і абыходжаннем, якая бесцырымонна гаварыла праўду. Яна мела прыслоўе «мая ма шэр», але гэтым, бадай, абмяжоўвалася ўся яе французская мова. У верасні ў Просцях урачыста святкавалі імяніны Харунжай, і з павагай да векавой імянінніцы з'язджаўся літаральна цэлы павет. Прыём быў вельмі ўрачысты, з замежнымі вінамі і шампанскім, з вячэрай, якая цягнулася за поўнач, і з начлегам для гасцей з далейшых краёў, якіх зручна размяшчалі ў аграмадным флігелі. Мае бацькі звычайна таксама прыязджалі на гэты прыём і часам бралі мяне з сабой, а паколькі ў гэтай цеснаце не было і размовы пра нейкі спакойны куток, дзе б можна было пакласці мяне спаць, то мне добра ўрэзалася ў памяць гэта імяніннае начное няспанне, бадай, першае ў маім жыцці і таму такое цяжкае. Нягледзячы на падбадзёрванне бацькоў і на тое, што яны прывівалі мне павагу да Просцяў, я не меў да іх прыхільнасці, бо яны здаваліся мне нуднымі, пыхлівымі, прасякнутымі нейкай непрыемнай, адштурхоўваючай помпай. Здаецца, што і бацькоў у глыбіні душы не надта радавала атмасфера гэтага дома, і яны наведвалі паноў Пратасевічаў хутчэй толькі па абавязку ветлівасці.

На Просцях скончылася траса нашых паўднёвых падарожжаў. Далей была ўжо толькі Гарадзея — мястэчка і чыгуначная станцыя, якая вяла на ўсход — да Мінска і на захад — да Варшавы.

З Жухавіч, як я ўжо казаў, ехалі да Міра, дзе звычайна затрымліваліся на папас, бо гэта была палова далёкай дарогі. Мы спыняліся ў заездзе Левіна непадалёк ад рынку і былога касцёла дамініканцаў, забранага на царкву. Бацька выходзіў па справах, якіх заўсёды меў шмат у мястэчку, а маці займалася пакупкамі і прыгатаваннем ежы. На стале

з'яўляўся самавар і добрыя абаранкі, залацістыя і хрусткія, якія разам з пернікамі былі мірскай асаблівасцю. Мы ўсе любілі гэтыя мядовыя яўрэйскія пернікі, грызлі іх з задавальненнем у дарозе, а рэшту прывозілі дадому. Яны мелі выгляд вялікіх аладкаў з нарэзанымі краямі-падушачкамі прыгожага насычанага залаціста-карычневага колеру. Падушачкі адломваліся па лініі нарэзу, і кожная была дакладна на адзін укус. Можа, гэтыя пернікі не адрозніваліся ад пякарскіх вырабаў іншых мястэчкаў, але для мяне тады яны былі адборна смачныя, як карамелькі, купленыя ў Клецку ў Элькі Смаркатай. Відаць, і ў адных, і ў другіх быў схаваны цудатворны эліксір маладосці, і ў гэтым заключалася таямніца іх смаку. Калі бацькі доўга не вярталіся, я пачынаў сумаваць. З пэўнай цікавасцю я паглядаў на цёмна-чырвоныя вежы замка, бачныя над дахамі яўрэйскіх дамоў, але, вядома, мне не хапіла ініцыятывы, каб самому пайсці да яго, чаго б, зрэшты, бацькі мне не дазволілі. Замак знаходзіўся на адлегласці пары соцень крокаў ад мястэчка і выглядаў сапраўды прыгожа, паважана і сумна, як кожная велічыня, якая аджыла сваё. Але ніхто наўкола не заўважаў яго, на яго глядзелі, не бачачы яго зусім, як быццам бы яго ўвогуле не было, і, на жаль, павінен прызнацца, што і мае бацькі адносіліся да мясцовага звычаю з такога ж пункту гледжання. У выніку гэтага і я звяртаў на замак невялікую ўвагу, хоць у іншых умовах ён, безумоўна, выклікаў бы ў мяне вялікае ўражанне. Чакаючы бацькоў і ад'езду ў далейшую дарогу, я ішоў у гумно да фурмана, каб паглядзець, ці не запрагае ён ужо коней. Гумно было вялізнае і даходзіла непасрэдна да карчмы, з якой было накрыта агульным дахам так, што ўязджалі ўсярэдзіну з экіпажам і выходзілі адразу на ступенькі, якія вялі ў гасцінны пакой. Дах гумна быў увесь у дзірках, і сонечныя промні, пранікаючы туды, стралялі ўглыб светлымі палосамі і высвятлялі галубоў, якія гняздзіліся на паддашку. Яркія сонечныя плямы моцна кантраставалі з астатняй зацемненай прасторай і дадавалі ёй таямнічасці. Па таку праходжваліся галубы і куры, коні, якія жавалі корм ля драбінаў, дапаўнялі карціну, а ўсё разам нагадвала Віфлеемскія яслі і Нараджэнне Хрыста, бачанае ў кніжках, і рабіла гэты заезд у маіх вачах асабліва прыгожым і маляўнічым. Таму я даваў волю фантазіі, адмаўляючыся ад агляду замка, і цешыўся тым, што мяне яшчэ чакалі пераправа на пароме праз Нёман і цёмныя яловыя лясы каля Аталезі, якія вечарам набывалі грозны выгляд і ўздзейнічалі на мяне, як страшная казка. У душы я нават ухваляў запознены выезд з Міра, бо ён абяцаў патрапіць на заход сонца да Жукава Бара, чаго мне вельмі хацелася, а таксама даволі «страшны» змрок у лясах над Сулай, які дапамагаў мне ўвасабляць гэту начную язду ў настраёвых вобразах.

Лясы за Мірам пачыналіся ўжо ў Міранцы. Там была прыгожая лясная дарога сярод старых соснаў і елак, змешаных з бярозамі і адцененых светлай зелянінай ляшчын і папаратніку. Стройныя елкі стаялі групамі і па адной, як абеліскі, накрытыя цёмнымі гірляндамі кронаў, а святлейшы гушчар іншых дрэў ствараў фон, які яшчэ больш падкрэсліваў іх змрочную дэкаратыўную чэрнь. Месцамі адкрываўся від на мілыя зялёныя палянкі, зарослыя ягаднікам, дзе было так прыемна збіраць суніцы і чарніцы альбо хрусткія жоўтыя лісічкі, рассыпаныя сярод моху, як залатыя шапачкі. Лес у гэтым месцы на павароце дарогі быў радзейшы і дазваляў заглянуць у глыб паміж калонамі дрэў і кулісамі галінак. У гэтую перспектыўную глыбіню вока патанала з сапраўднай раскошай,

бо яна нагадвала мне ілюстрацыі з нейкіх казак і дабудоўвала рэчаіснасць фантазіямі. Мы мелі звычай спыняцца ў міранскім лесе на нейкую чвэрць гадзіны, нягледзячы на тое, што толькі што скончыўся папас і перад намі заставалася даволі доўгая дарога. Але месца было такое прыгожае, цяністае, так вабіла адпачыць, што спакушала нават маіх паважных і заўсёды заклапочаных бацькоў, няскорых да захаплення прыродай, і заахвочвала адпачыць там без істотнай патрэбы. Была гэта, зрэшты, як мне здаецца, ініцыятыва маці, якая любіла такія імправізаваныя маёўкі, калі была ў добрым настроі і адчувала сябе здаравейшай. Яна сядала на траве пад дрэвамі, а я збіраў для яе суніцы і прыносіў ёй з крыкамі радасці, калі траплялася выключна вялікая і прыгожая ягада. Бацькі ляніва размаўлялі ў пасляабедзеннай спякоце, коні фыркалі і адганялі хвастамі кусачых мух, івалга і зязюля адгукаліся рэхам у ляснои цішы, і ўсім было добра і весела ў такі летні поўдзень у гэтым прыгожым лесе.

Потым лес канчаўся, і аж да Нёмана ехалі па пясчанай пустыні, парослай купамі ядлоўцу. Гэта былі выганы, якія, напэўна, ніколі не апрацоўвалі, бо збожжа не хацела там расці і замест яго залаціліся сухацветы і карлікавыя папаратнікі, а на выганах пасвіліся атары авечак і худых кароў — такой няўдзячнай была гэта наднёманская зямля, занесеная на вялікім абшары пяском. Гэта быў ужо іншы свет, які меў мала агульнага з маім навагрудскім. Размяжоўваў гэтыя два светы Нёман, тут яшчэ неглыбокі і нешырокі, але яго былое рэчышча было вялізным і рассцілалася па абодва бакі ракі вельмі далёка. Гэта прадаліна Нёмана ўтварала на поўдні паміж Жукавым Барком і Стоўбцамі шырокую, на некалькі вёрст, пясчаную банку, пустую і бясплодную, таму што зямля была пакрыта наплыўшым пяском, а на поўначы ў Бярэзне, Крынічным і Ярэмічах яна праяўлялася ў выглядзе вялікіх нізінных абшараў сенажацей, пашаў і балот, якія злучаліся з Налібоцкай пушчай. Відавочна, што ў нейкую раннюю геалагічную эпоху Нёман займаў усе гэтыя абшары сваімі водамі, і калі потым ён звузіўся і паплыў па сваім сённяшнім рэчышчы, то пакінуў пясчаныя наносы і балоты, на якіх ужо мала што магло расці. Гэтыя «нёманскія разлогі», занесеныя белым пяском і ракавінкамі, якія блішчаць, як апал, звярталіся да фантазіі новымі асацыяцыямі, наводзілі на думкі аб нейкіх спрадвечных пераваротах, аб нейкіх велізарных уздзеяннях сіл прыроды, якія бушавалі на гэтых прасторах і да сённяшняга дня пакінулі сляды сваіх змаганняў. Гэтыя балоты на поўначы і пяскі на поўдні лажыліся выразным памежным шляхам, пустым і бязлюдным, на парозе Міншчыны і сваёй убогай манатоннасцю, сваёй тужлівай раўніннай далечынёй выразна кантраставалі з адкрытай, усмешлівай, поўнай жыцця Навагрудчынай. Можа, гэта і не было дзіўна, што зямля Міцкевіча не магла зраўняцца з зямлёй Сыракомлі, які тут, над Нёманам, правёў вялікі кавалак свайго жыцця. Тут, уласна кажучы, была яго родная зямля, зямля святая, «жоўтым пяском, дробнай траўкай прысыпаная», якая так адпавядала тужлівай душы вясковага лірніка. Ён жыў недалёка ад Бярэзны, у Залучы, а потым арандаваў фальварак Тулёнку па суседству з Отмытам, дзе часта бываў у дзявочыя гады маёй бабулі.

Дарога да Жукава Барка вілася паміж невысокімі стажкаватымі пагоркамі, прыцененымі ядлоўцам, якія здаваліся быццам бы навеянымі віхрамі афрыканскай пустыні. Сумная гэта была краіна і роспачна без-

21. Зак. 297.

надзейная, аж дрыжыкі прыходзілі ад думкі застацца тут надаўжэй. Але праезджы меў іншае ўражанне, бо ведаў, што пасля хвіліннага побыту на гэтай спаленай сонцам наднёманскай Сахары яго чакаюць крутыя берагі прыгожай Сулы і яе зялёныя прасторы, а за імі недалёка сам Отмыт, мілы і любімы. Але дарога цягнулася доўга, бо ў сыпучым пяску нельга было ехаць інакш як крокам. Колы шалясцелі і перасыпалі пясок са шклопадобным манатонным скрыпам, як старажытны пясочны гадзіннік, які адмервае няхітры бег часу. Да Нёмана мы даязджалі звычайна на заходзе, калі сонца ў кароне залатых і чырвоных хмараў заходзіла за гарызонт і адбівалася ў гладкай паверхні вады, малюючы гарачымі тонамі плыты з дрэвам, якія свабодна сунуліся па рацэ. Плытагоны з доўгімі каламі ў руках стаялі, як статуі, пазалочаныя бляскам заходу, а дым кастроў цягнуўся за плытамі блакітнымі палосамі, якія расплываліся ў вячэрняй імгле. Мы стаялі на беразе і клікалі перавозчыка з паромам, а тым часам фурман з дапамогай бацькі распрагаў лейцавую пару коней і заводзіў паступова ўсю запрэжку на памост. Коні стрыглі вушамі і палохаліся, пераступаючы нагамі, і стук іх капытоў аб бэлькі парома разносіўся ў цішыні глухім рэхам. Мы плылі да другога берага, дзе чырванеў дах цэркаўкі ў суправаджэнні пары сумных піхтаў, а неба на захадзе распаляла ўсё больш агністыя колеры, і ўсё больш палымнеючыя хвалі каціў Нёман да сваіх берагоў.

За Жукавым Барком мы зноў уязджалі ў лясісты край, дзе хутка забываліся аб бачаным хвіліну назад каляровым відовішчы. Спачатку цягнуліся зараснік і сасновыя пералескі, але потым, паблізу Аталезі, пачынаўся прыгожы, густы векавы бор, які надзвычайна ўзвышаў маю фантазію, тым больш што гэта было звычайна на змярканні, калі абрысы мутнеюць, сціраюцца, павялічваюцца ў памерах і даюць багатае падсілкаванне фантазіі. Думаючы пра гэты лес, я загадзя хацеў, каб мы праз яго ехалі толькі тады, калі зусім сцямнее, і толькі з той мэтай, каб было «вельмі страшна». Я ўжо не раз успамінаў, што цемра абуджала ўва мне складаныя пачуцці, бо яны былі дваякія: пачуццё агіды і прыцягнення. Таму, едучы праз цёмны лес, я любіў выдумляць сабе, што вось мы ўцякаем ад нейкай пагоні, якая імкнецца ўслед за намі, і толькі ад хуткасці нашых коней залежыць, ці здолеем мы ўцячы цэлымі і ўратавацца, ці праз хвіліну таксама трапім у кіпцюры нейкай страшнай, не акрэсленай дакладней небяспекі. Я прымушаў сябе паверыць у як мага большай ступені ў гэтую небяспеку, каб атрымаць звязаныя з гэтым уражанні. Лес перад Сулай даваў мне іх столькі, як ні адзін іншы, бо быў высокі і густы, пераважна яловы, вечарам хутка насычаўся непрабіваемай чарнатой. Калі мы ўязджалі ўглыб лесу, гэты змрок агортваў адразу і выклікаў у мяне пачуццё ўжо цалкам рэальнай пагрозы. Мне здавалася, што над намі ўздымаецца нейкая сапраўдная небяспека ў выглядзе нябачных страшыдлаў ці вампіраў, якія раз'юшана гоняцца за намі і кожную хвіліну могуць дагнаць і схапіць. Я хацеў, каб коні гналі што ёсць моцы ў нагах, і, перапалоханы, у думках дадаваў ім сілы і лёту, дапамагаў ім несці экіпаж у кірунку якой-небудзь збавіцельнай прыстані, дзе вораг не зможа нам пагражаць. Маё сэрца замірала ад трывогі, і я не мог дачакацца такога жаданага вызвалення ад лясной цемры. Яно прыходзіла з той хвіліны, калі мы набліжаліся да Сулы, на якой быў высока падняты мост, што патрабавала асцярожнасці пры пераездзе. Там змрок ужо радзеў, і на свят-

лейшым небе паблісквалі зоркі, якія мелі абрысы алешыны над вадой, часам выратавальна чырванеў агонь начлежнікаў, якія пасвілі на берагах коней... Гэта вяртанне да рэальнага свету я вітаў з палёгкай і расслабленнем нерваў, а поўнае супакаенне наступала, калі мы спыняліся перад мастом: запальвалі ліхтар і выпрагалі прыпражных коней, каб у руках правесці іх праз ненадзейны мост, стары і трухлявы, які пастаянна рамантавалі.

Ад Сулы было ўжо толькі дзве вярсты да Отмыта, і ад думкі аб ім усё ўва мне праяснялася і скакала ад радасці, бо я ведаў, з якой шчырай і шумнай сардэчнасцю нас будуць там зараз сустракаць, як дзядзька Тадзя падхопіць мяне і падыме ўгару пад акампанемент скавытання сабак і пад выкрыкі дамашніх і якая шалёная мітусня падымецца ва ўсім доме ў сувязі з нашым прыездам. Ад гасцінца быў паварот направа, які ўначы было цяжка заўважыць, потым белы крыж на скрыжаванні, яшчэ кавалак дарогі сасновым ляском, потым бярозавыя прысады з зоркамі, якія прасвечваліся праз сетку кронаў... Направа пад гарой маячаць дрэвы на могілках, грукоча пад коламі масток каля млына, мы ўязджаем пад каштанавыя скляпенні, ад якіх ідзе пахучае цяпло, грымяць колы па бруку, брэшуць сабакі, мы спыняемся перад ганкам, у вокнах успыхвае святло, расчыняюцца дзверы, гучаць радасныя прывітанні... Я ўзыходзіў па сходках высокага ганка, з цяжкасцю падымаючы ногі, нехта хапаў мяне, цалаваў, здымаў паліто, праводзіў у сапраўды асветленую сталовую, дзе не было канца выкрыкам і запытанням, пачастункам і апавяданням, якія перапляталіся са смехам. А пакоі ў Отмыце былі вялікія і даволі пустыя, столі высокія і рэха такое гучнае, што таго, хто не прывык, цалкам аглушала. Але гэтае аглушэнне было такое ж цёплае і ўтульнае, як і абдымкі, якімі мяне адорвалі: я аддаваўся ім ахвотна, лыпаў ужо крыху соннымі вачыма, усміхаючыся любімым людзям, якія так радаваліся нашаму прыезду, як быццам бы знайшлі скарб. Я адчуваў сябе там, як ва ўласным доме, і на ўсё жыццё ў мяне засталося ўражанне, што тут знаходзіцца мая самая блізкая і сапраўдная сям'я, тыя, каго я люблю больш за ўсё. Гэта ўражанне дамінавала над усім і сфарміравалася ў мяне вельмі рана, інстынктыўна і рашуча. З цягам часу яно таксама аказала ўплыў на ўсё жыццё.

Радня маёй маці не была такой шматлікай, як бацькава. Яе складаў адзіны брат — Тадэвуш Хаціскі, які ажаніўся з Ядвігай Астроўскай з Навагрудка і хутка пасля жаніцьбы пасяліўся ў Отмыце. Яго звалі нават для мяне памяншальна — «дзядзечка Тадзя», ён быў малодшы, прыстойны, пуставата вясёлы і так малапаважны, што я бачыў у ім хутчэй таварыша і равесніка, чым дзядзьку. Ён атрымаў значную маёмасць у спадчыну ад свайго дзядзькі Адама Грынеўскага, ажаніўся і, кінуўшы родныя малыя Мірацічы, пасяліўся ў Отмыце. Мая маці мела не адзін папрок да свайго легкадумнага браціка з-за яго гулявшчага жыцця, але я яго страшна палюбіў, гэтак жа, як і яго жонку — цёцю Ядвігу, — за іх вясёлы характар і сяброўскія нязмушаныя паводзіны. Калі яны прыязджалі да нас, рабілася свята з раніцы да вечара і ў доме пачынала панаваць атмасфера прыемнай бяздзейснай бесклапотнасці, якая мне падабалася. Дзядзька расказваў салёныя анекдоты і спяваў пад акампанемент фартэпіяна патрыятычныя песні альбо без акампанементу — рускія рамансы і куплеты з кабарэ. З яго вуснаў я першы раз пачуў польскія нацыянальныя песні, якія ў нас былі на

 ўліку як небяспечныя. Але дзядзька быў «страшнае дзіця», і яму ўсё сыходзіла з рук, не выключаючы непрыстойных жартаў і моцных рускіх выразаў.

Цёця Ядвіня была прыстойнай шатэнкай з мілым абліччам, прыгожай фігурай крыху цяжкаватага складу, якая, аднак, пры яе маладосці толькі дадавала ёй прыгажосці і прывабнасці. Яна лёгка здабывала сімпатыі ўсіх, мае бацькі любілі яе нейкім сардэчна-паблажлівым чынам. Маці мела крыху мацярынскую любоў да сваёй не зусім дарослай братавай, якая была на дзесяць гадоў маладзейшая за яе. Што да мяне, то не трэба і гаварыць, што я быў у захапленні ад яе вельмі прыцягальных жаночых вартасцей. Яна паводзіла сябе мякка і нясмела, лёгка паддавалася ўплыву мацнейшых ці грубых характараў, мела меладычны голас, умела іграць на фартэпіяна, размаўляла па-французску і па-нямецку, гэты апошні меў цікавы рыжскі акцэнт, нарэшце, валодала таварыскімі якасцямі ветлівай размовы, дзякуючы якім яе ўсюды з прыемнасцю сустракалі. Яна была маладзенькай і складала з мужам вельмі прыгожую пару, якая толькі ўступала ў жыццё і была раззбройваюча недасведчанай. Таму, напэўна, да іх так цягнула дзяцей. Я добра разумеў, што цёця Ядвіся — самая прыгожая з усіх жанчын, якіх я ведаў, я любіў яе за гэта асобна і з прыемнасцю на яе глядзеў. Маладая пара сумавала ў Отмыце, амаль пазбаўленым суседзяў, бо ваколіца была глухая і бязлюдная, Хацыскія яны часта прыязджалі да нас, не забываючы прывезці гасцінцы «для Яначка», які хутка стаў для іх светам вачэй. А паколькі яны часта бывалі ў Мінску, дзе ўсё было лёгка дастаць, то іх падарункі мелі невядомы мне дагэтуль гарадскі і фабрычны адбітак, які мне надзвычай падабаўся, і тэта яшчэ больш павялічвала прывабнасць сюрпрызу. Цёця прывозіла мне часцей за ўсё кніжкі і тым самым рабіла мяне невымоўна шчаслівым, бо гэта былі казкі, падарожжы і прыгоды, прыгожа аформленыя і багата ілюстраваныя, часам нават каляровымі гравюрамі. Якая гэта была радасць для вачэй, якое зачараванне для думкі, якое неапісальнае захапленне на працягу многіх дзён! Бо я дагэтуль не толькі такіх прыгожых, але ўвогуле ніякіх кніг не бачыў і не меў у сваёй уласнасці, калі не лічыць тых розных недабіткаў з жоўтай шафы ў кабінеціку, абгрызеных мышамі і моллю! Падумаць толькі, што раптам я стаў такім багачом! Што маю, напрыклад, «Казкі з тысячы і адной ночы», альбо «Выгнаннікаў у лесе», альбо «Духа пушчы», альбо, нарэшце, аповесці Верналя — дзівосныя, фантастычныя, якія не даюць спакою, пераносяць у цудоўны свет зіхатлівых мараў... Я гладзіў рукамі і вачамі гэтыя любімыя кніжачкі, разглядваючы вокладкі з цісненымі золатам назвамі, запамінаў кожны малюнак і подпіс, не выключаючы адрасу друкарні і дазволу цэнзуры. Апрача карысці для фантазіі яны давалі яшчэ цалкам матэрыяльнае задавальненне ад валодання добрымі кніжкамі і радасць ад іх графічнага зместу, які я скрупулёзна вывучаў. Хутка я ведаў на памяць змест кожнай маёй кніжкі і мог назваць, у якім годзе яна надрукавана, дзе і якім накладам выдадзена. З рук любімай цёці я атрымаў, такім чынам, першае друкарска-пісьменніцкае пасвячэнне.

Цёця Ядвіня не толькі не забывала прывезці мне які-небудзь падарунак, але на кожным кроку давала мне адчуць, што любіць мяне: брала на калені, заахвочвала да сяброўскай размовы, спявала мне песні і расказвала казкі. Я быў з ёй больш смелы, чым з кім-небудзь іншым са старэйшых, і любіў слухаць, прытуліўшыся да яе пляча, яе словы і голас, і нават давяраць свае думкі, бо мы лёгка знаходзілі прадмет

агульных інтарэсаў і захапленняў — кветкі, прыгожыя віды, кнігі, музыка... Мне было сапраўды прыемна, што цёця была такая маладая, прыгожая, старанна апранутая і міла ўсміхалася, што была поўнай супрацьлегласцю стрыечнай сястры Антанёвай са Шчэпаўшчыны, заўсёды такой насупленай і сварлівай, і пры гэтым выключна непрыгожай. Я пазбягаў апошняй, як толькі мог, бо мне здавалася, што з яе з'яўленнем гіне ўся прывабнасць жыцця і застаецца толькі яго шэрая нуда і тупая суровасць. Я меў чуйны інстынкт і лёгка ўгадваў сорт людзей і іх адносіны да мяне. Таму адразу палюбіў дзядзьку Тадзю і яго жонку: па-першае, адчуваў у іх узаемнасць, а па-другое, і гэта, можа, самае важнае, што яны не прыгняталі мяне маральным аўтарытэтам, што я мог быць з імі самім сабой, не саромеючыся і не прыстасоўваючыся. Яны ўспрымалі мяне такім, якім я быў, і гэта, можа, не толькі з-за сваёй паблажлівасці і сімпатыі, якую яны да мяне мелі, але і з-за ўласцівасці ўласнага выхавання, якое пакідала жадаць шмат лепшага, бо абое былі адзінымі дзецьмі, распеставанымі ў доме, падобна, як і я. Так я атрымліваў у гэтых трох дамах самай блізкай радні абсалютна розныя пачуцці: у Чамброве — павагі і баязлівага пакланення, у Шчэпаўшчыне — асцярожнай абыякавасці і чужасці, а ў Отмыце, у сям'і дзядзькі Тадзі, — паўнату даверу і задавальнення, сімпатыі і адсутнасці маральнага ціску.

Першы мой успамін з Отмыта, аднак, даволі смутны. Анця, мая сяброўка дзяцінства, а пазней жонка, была яшчэ такая маленькая, што я памятаю яе на руках нянькі як вялікую пушыстую пляму белага мусліну з меншай плямкай ружовага твару. У першыя гады я таксама звяртаў на яе няшмат увагі, бо яна яшчэ не падыходзіла для сяброўкі па гульнях. Тым менш я мог цікавіцца малодшымі дзецьмі, якіх там заўсёды было поўна, бо і нараджаліся яны, і паміралі даволі часта. Мне заставаліся толькі старэйшыя, і на іх я канцэнтраваў усю ўвагу, зацікаўлены сардэчнай і нязмушанай атмасферай, якая мяне з імі звязвала. Праўда, гэтыя дарослыя былі яшчэ зусім нясталыя, але гэта, уласна кажучы, было ў маіх вачах іх самай вялікай вартасцю і яшчэ павялічвала маё захапленне маладой і вясёлай парай маіх дзядзькі і цёткі, якія тады разам мелі ненамнога больш чым сорак гадоў і не мелі ніводнай прэтэнзіі на павагу і аўтарытэт.

У Отмыце было поўна кантрастаў і недарэчнасцей. Дом быў новы, вялікі і відны, з аграмаднымі дзвярамі і вокнамі. Меру іх вышыні паказвалі клямкі, якія размяшчаліся вышэй за мой поўны рост. Гэтымі дзвярамі штохвіліну бразгалі, як з пісталета, і ад кожнага ўдару па дому ішло гучнае рэха. Мэблі было няшмат, і некаторая была даволі вытанчаная, а іншая — звычайная і выпадковая. Побач з прыстойным домам на прыгожым мураваным падмурку флігель з кухняй былі ў стане развалін, і іншыя дваровыя будынкі не вылучаліся добрым утрыманнем. Не відаць было на іх прыказкі, што «ад панскага вока конь таўсцее». Таўсцелі, уласна кажучы, толькі людзі. Стол быў накрыты багата і вытанчана, елі і пілі з раніцы да вечара шмат і смачна, але на вышчарбленых талерках і з абы-якіх шклянак, а кніг і часопісаў у доме было «як кот наплакаў», апрача разрозненага збору нябожчыка дзядулі Грынеўскага, пра які не клапаціліся, хоць там былі добрыя рэчы. У салоне цяжка было прайсці з-за вазонаў з дэкаратыўнымі раслінамі, якія даглядала цёця, але ў садзе было пуста, ані клумбаў з кветкамі, ані ягад, толькі каля самага дома туліліся некалькі кустоў

кветак, пасаджаных панам Пузіноўскім — отмыцкім ключнікам. Убранне дома мела рысы часовасці, якая межавала з нядбайнасцю і выглядала, як прывал: нічога не мела свайго месца, ставілася і кідалася дзе папала, а потым яго доўга ўсюды шукалі, толькі не там, дзе яно было. Калі хто насмеціць на падлозе, то непаднятая паперка магла дачакацца наступнага дня, пасля гэтага яе вымятала шчотка таго, хто прыбіраў, а само прыбіранне адбывалася толькі спрошчаным спосабам, гэта значыць на сярэдзіне пакоя, пакідаючы некранутай падлогу пад мэбляй і ля сцяны. Панавала вечнае свята, не было вызначаных гадзін для прыняцця ежы, не было вызначана, калі ўставаць раніцай і калі класціся спаць увечары, поўнасцю адкрыты беспарадак і відавочны бязлад былі з'явай пастаяннай і нармальнай, якая нікога не здзіўляла і нікому не перашкаджала. Абедзенны стол заставаўся накрытым цэлы дзень і летам чарнеў ад мух, бо за яго сядалі пяць разоў у дзень, а самавар, які падаграваўся ўвесь час, вяртаўся на сваё месца на стале і сваім шумам прымаў удзел у агульнай мітусні. Сабакі, вялікія пакаёвыя выжлы, якіх ніколі не ўжывалі для палявання, вылежваліся на канапах, пакідаючы на іх легіёны блох, ці валэндаліся пад сталом, грызучы там косці, што, вядома, не спрыяла паляпшэнню дамашняга парадку.

У гэтай дзяржаве цёця Ядвіня была каралевай літаральна, бо яна панавала, але не кіравала. Яна ўмела вельмі ветліва запрашаць на гатовыя прысмакі за ўжо накрыты стол, але гатаваць іх, захоўваць і падаваць павінны былі іншыя рукі, бо маладая гаспадыня не мела паняцця пра хатнюю вясковую гаспадарку, як быццам бы ніколі не выязджала з горада. Яе выхоўвалі бацька і брат пасля заўчаснай страты маці па-мужчынску, гэта значыць цалкам апускаючы жаночыя ўменні, якім яе не было каму вучыць. Таму цёця прывыкла ўсё даручаць слугам і абмяжоўвалася толькі тым, што аддавала загады, не ўнікаючы ў спосаб іх выканання. Гэты парадак перайшоў з Навагрудка ў Отмыт, а вынік быў такі, што слугі без нагляду былі закінуты, марнавалі ўсё, і бязладдзе ў доме было б страшэннае, калі б не апека і старанне пана Пузіноўскага — адзінага паважнага чалавека ў гэтым храме легкадумных дзяцей. Я, можа б, не змог заўважыць гэты стан рэчаў, калі б не частыя размовы бацькоў, якія з абурэннем і шкадаваннем абмяркоўвалі паміж сабой непарадкі і марнатраўства ў Отмыце. Гэта была такая пастаянная тэма, і яна так не адпавядала маім уласным уяўленням пра гэты прадмет, што добра ўрэзалася мне ў памяць, нягледзячы на няўвагу, з якой я ставіўся да бацькоўскіх размоў. Зрэшты, я і сам пачынаў рабіць параўнанні і сцвярджаць, што парадкі ў Отмыце не падобны ні на якія іншыя: нідзе, напрыклад, я не бачыў, каб рэшткі ежы не прыбіралі да наступнага дня альбо дзіцячыя пялюшкі, якія мелі не зусім прыемны пах, былі паразвешаны на шнурках і мэблі нават у салоне. Дзеці з'яўляліся кожны год, і не раз я чуў з вуснаў маці незразумелае выказванне, што ў Отмыце «што рок (год) — прарок» альбо што «Ядвіня зноў ужо не выязджае», і пераконваўся пасля прыезду ў Отмыт, што ізноў там у гасцінным пакоі развешаны новыя пялюшкі і новае немаўля, чырвонае і зморшчанае, жаласна крычыць на руках новай мамкі. Але ніхто аб гэтым не хваляваўся, для парадку тэарэтычна былі слугі, а для дзяцей — мамкі і нянькі, ключы ад кладоўкі захоўваў пан Пузіноўскі, а рэшта рабілася неяк сама па сабе, па інерцыі. Цёця тым часам вяла з гасцямі ветлівыя размовы ці

шумна іграла на фартэпіяна «Le reveil du lion» альбо «Wanderer» («Вандроўніка»), а дзядзька спяваў рускія цыганскія рамансы, пазбіраныя ў мінскіх кабарэ, ці таксама рыпаў на ручным гармоніку з заўзятасцю фурмана. Садзіліся за стол, аб'ядаліся, цяжка ўставалі з-за яго, і так ішоў час з мілымі гасцямі хутка і прыемна. Пры такім стане рэчаў, вядома, не было калі займацца дзецьмі і ўнікаць у асаблівасці гаспадаркі, і яна ішла неяк аўтаматычна, бадай што без ведання і ўдзелу пана і пані.

Пра захаванне нейкага сэнсу ў гэтым беспарадку непакоіўся толькі адзін «Дзядзя» — так Анця называла старога пана Аляксандра Пузіноўскага, прыяцеля нябожчыка Адама Грынеўскага, якога дзядзька Тадзя атрымаў у спадчыну ад апошняга разам з Отмытам. Пан Пузіноўскі наглядаў за ўсім у двары, меў пад наглядам дом, кладоўку, стайню, гумно і свірны, быў адначасова эканомам, ключнікам і нянькай у гэтым вясёлым хаосе, які называлі Отмытам. Маці, адрасуючы аднойчы брату ліст, у якім была выключна вялікая порцыя вымоў і маралі, перахрысціла Отмыт на «Одмэнт» (вір, бездань) і, як я сёння памятаю, напісала ў гневе на канверце: «Вяльможны пан Тадэвуш Хаціскі ў Одмэнце». Праз шмат гадоў я зразумеў, колькі трагічнай праўды змяшчалася ў гэтым саркастычным жарце. Адзіны пан Пузіноўскі не даваў прарывацца вірам гэтай бездані і сачыў, каб пані з раніцы атрымала ў ложак каву са смятанкай і каб біфштэкс на снеданне для пана быў належным чынам засмажаны і ў час пададзены, каб дзяўчаты з фальварка своечасова выходзілі на ранішнюю дойку, а парабкі — на аброк. І апрача гэтага пан Пузіноўскі не забываў праверыць, ці атрымала Анця кашку на малацэ, і ці мае сяк-так прычасаную галаву, і ці няма ў ёй насякомых, а потым разам з ёй паліваў кветкі ў садзіку пад вокнамі салона і хадзіў з ёй на прагулку. Дзядзька любіў Анцю сапраўды як бацька і даглядаў яе з уменнем самай клапатлівай пястункі. Ён хадзіў з Анцяй па лесе і вучыў яе шукаць грыбы, расказваў казкі і вадзіў яе ўсюды, трымаючы, як нянька, за руку. Будучы старым халасцяком і застаючыся у пажылым узросце адзінокім пасля страты сябра і таварыша маладых гадоў, пан Пузіноўскі адорваў Анцю ўсім запасам гэтых невыказаных пачуццяў і выказваў ёй сваю любоў кранальным спосабам, а яна, крыху закінутая занадта маладой маці, гарнулася ўсім сэрцам да добрага Дзядзькі і бачыла ў ім свайго апекуна. Незвычайную пару складалі гэты сівы стары і маленькая залатавалосая дзяўчынка, якая неадступна дробненька тупала за ім, бо яны гутарылі паміж сабой так самадастаткова, занятыя сабой і задаволеныя сваёй кампаніяй. Дзядзька меў старамодны выгляд: твар без раслiннасці, гладка выбрыты, як у дыпламата сярэдзіны XIX ст., шчацінiстую шыю, павязаную пышным шырокім гальштукам, у абрамленні клінамі раздвоенага каўнерыка тыпу «Vatermörder»[1]. У зашпіленым доўгім сурдуце, поўны павагі і пачцівасці, а таксама злёгку бурклівай дабрыні, ён нагадваў герояў Дзікенса. Ён быў верным сябрам сям'і Грынеўскіх, а пасля смерці яе апошняга прадстаўніка перанёс свае пачуцці на нашчадкаў, зрэшты, без узаемнасці, як здавалася, і ненадоўга, бо маладыя яго не цанілі і адносіліся без увагі, а праз некалькі гадоў ён прастудзіўся ў гумне, калі наглядаў за збожжам, і памёр ад

[1] Фатэрмёрдэр – даслоўна «забойца бацькі» *(ням.)*, назва вельмі вострых каўнерыкаў .

запалення лёгкіх. Дарослыя хутка забылі Дзядзьку, але яго шчыра шкадавала і аплаквала Анця, якая страціла ў ім самага лепшага сябра. З ім знік апошні след былога Отмыта Грынеўскіх, які меў рысы павагі, розуму і ладу, і пачаўся новы перыяд — вясёлы, зручны і прыемны, але беспарадкавы, марнатраўны, які вёў да самазнішчэння.

Тут трэба патлумачыць, што мая бабуля, маці дзядзькі Тадзі, Ганна, была сястрой Адама Грынеўскага — уладальніка Отмыта. У адным выданні вершаў Сыракомлі знаходзіцца выпадковы верш «На імяніны панны Ганны Грынеўскай у Отмыце»[2], напісаны паэтам, калі ён арандаваў па суседству Тулёнку і часта гасціў у Отмыце. Дзядуля Грынеўскі, паміраючы бяздзетным у 1879 годзе, пакінуў сваю вялікую маёмасць сястры і яе дзецям, але фактычна ўсю спадчыну атрымаў дзядзька Тадзя, бо псіхічна хворая бабуля не ўмешвалася ў справы, а пасля яе смерці мама хоць і прыспешвала яго час ад часу да раздзелу, каб атрымаць належную ёй частку спадчыны, аднак не дачакалася яго ажыццяўлення. Дзядзька ўхіляўся ад раздзелу пад рознымі прэтэкстамі, адцягваў справу ці проста адважваўся на націск, і маці, дзеля свайго спакою, змаўкала і спыняла свае прэтэнзіі пагардлівым узмахам рукі аж да наступнай размовы і наступнага выбуху сквапнага брата. Так цягнулася гадамі, і калі ў 1893 годзе маці памерла, уся атрыманая ў спадчыну ад Грынеўскіх маёмасць знаходзілася ў валоданні дзядзькі. Толькі пасля яе смерці дзядзька паддаўся патрабаванням майго бацькі і рашыўся выдзеліць мне Пярэсеку пад Мінскам як частку, якая належала мне па праву спадчыны, і за гэта яшчэ ўзяў даплату наяўнымі грашамі, хоць больш за дзесяць гадоў сам адзін карыстаўся гэтай спадчынай.

Дзядуля Грынеўскі быў вядомы гаспадарлівасцю і ўменнем упраўляць. Не маючы дзяцей, асаблівай апекай і прыхільнасцю акружаў маю маці і даў ёй пасаг шчодрай рукой, калі яна выходзіла замуж. Праз пару гадоў ён памёр, але я чуў пра яго шмат. Бо памяць аб ім была свежай, а імя часта і сардэчна ўспаміналася ў нашых дамашніх размовах. Разам з дзядулем Адамам з яшчэ большай пашанай успаміналі яго маці і маю прабабку Юзэфу з Верашчакаў Грынеўскую. Яна пакінула пасля сябе ў вуснай сямейнай хронікі добрую памяць як жанчына энергічная, разумная і высакародная, якая сваімі добрымі якасцямі характару і працавітасцю заклала фундамент будучага багацця і рашучым чынам удзельнічала ў яго павелічэнні, набыўшы ад Радзівілаўскага Анопаля пад Мінскам фальваркі Беліцу і Міхалаў. З гэтай вось Беліцы выдзеліў мне дзядзька зямлю каля лесу ва ўрочышчы Пярэсека пасля таго, як дашчэнту выразаў у ім каштоўны сасновы лес і за бясцэнак прадаў яго яўрэям. Нават пасля знішчэння, калі ўжо толькі голыя пні тырчалі на высечаных участках, яўрэі і далей сядзелі ў гэтай Пярэсецы і нішчылі яе рабаўнічым гаспадараннем. Бацька быў вымушаны адкупіцца адступным, каб, нарэшце, пазбавіцца ад нахлебнікаў, і змог прыступіць да пабудовы фальварка, у якім я пасяліўся пасля таго, як ажаніўся. Усю сваю маладосць я чуў у Отмыце расказы пра гэту прабабку Юзэфу, імя якой насіла і мая маці, пра яе жыццё, паводзіны і звычаі, якія ў сціплых мясцовых межах рабілі з яе фігуру, вартую ўвагі і павагі. Яна, відаць, мела аўтарытэт сярод суседзяў за сваю працавітасць, а паходзіла яна з

[2] Вершы Людвіка Кандратовіча (Уладзіслава Сыракомлі). Варшава, 1872. Т. 10. Стар. 329.

вядомай і заможнай сям'і Верашчакаў з Навагрудскага павета, адкуль і стрыечная роднасць маёй маці з паннай Юзэфай Туганоўскай з Туганавіч, якая нарадзілася ў сям'і Верашчакаў. Добрыя былі гэта часы, калі ў кожнай сям'і пахвальна вызначалася нейкая лепшая і выдатнейшая асоба, і трэба падкрэсліць, што часцей за ўсё нашы жанчыны захоўвалі лепшыя якасці і дамашнія дабрадзейнасці, і ў вельмі шырокім маштабе, бо было гэта, пачынаючы ад звычайнай гаспадарчай працы і заканчваючы высакародным прысвячэннем саміх сябе сям'і і грамадству. Я ўвесь час шкадаваў, што так мала ведаю пра людзей гэтай эпохі і павінен гаварыць пра іх толькі здагадкамі і агульна, хоць мне здаецца, што не адну слаўную старонку можна было б напісаць пра асобу прабабулі Грынеўскай з Отмыта.

Отмыт быў для мяне свайго роду адкрыццём: расшыраўся мой невялікі кругагляд вопыту новымі тыпамі людзей і новымі праявамі краявіду. Ужо Жукаў Барок быў уязной брамай у новы свет — пясчаны, лясісты і глухі свет, які паказваў мне шматлікія рэчы ў іншым выглядзе, прыносіў новыя паняцці і ўражанні, устанаўліваў новыя адносіны да прыроды. Я вучыўся не толькі радавацца прывабнаму краявіду, але і ўдумвацца ў яго змест. У Асташыне гэтыя адносіны былі імпульсіўна радасныя: нашы шырокія, вольныя гарызонты, пазбаўленыя вялікіх лясоў, якія можна было аглядаць з вышыні, усміхаліся таму, хто глядзеў, сваім прыгожым разнастайным покрывам, дазвалялі позірку без перашкоды плыць угару і ўдаль, чэрпаць поўнымі жменямі радасць, бачыць іх залітую сонцам прыгажосць. Гэта было альбо сквапнае выбяганне з раскінутымі рукамі на спатканне мілага сябра, альбо экстатычнае ўкленчванне пад скляпеннямі якой-небудзь велізарнай святыні і малітоўнае пакланенне яе бязмернай прыгажосці. Абсалютна інакш у Отмыце. Там гарызонт быў занадта прыбліжаны, занадта сціснуты і акружаны лясамі, таму позірк, які не мог бегчы далей, быў вымушаны спыняцца на відах першага плана, якія не раз былі проста адзіным, што было відаць, і калі часам з пагорка позірк дасягаў якога-небудзь перспектыўнага прабелу, ён быў звычайна ўбогі і не вельмі займальны. Тут я ўжо не бег насустрач усмешлівай чарадзейцы-прыродзе, якая адорвала шчасцем адным сваім відам, а, як пушчанскі звер, крочыў наперад паволі і асцярожна, бо не ведаў, што знаходзіцца ў лесе і па-за лесам. Я даследаваў асаблівасці невядомага акружэння і распазнаваў яго ўласцівасці, і толькі праз пэўны час паволі наступала збліжэнне і зжыванне з лясной прыродай, і чым больш я з ёй збліжаўся, тым мілей і красамоўней станавіліся гэтыя пяскі і сасьнякі і тым лепш я пачынаў разумець іх сумную і праніклівую прыгажосць.

Там не было дыстанцыі для панарамнага сузірання, трэба было стаяць вочы ў вочы з фрагментамі блізкага пейзажу, вывучаць іх і рабіць з гэтага высновы. Дзіця палёў, лугоў і гаёў вучылася лесу, бору і пушчы. Толькі ў Отмыце я заўважыў, калі першы раз убачыў шчыльныя хвойныя лясы, як яны шмат адрозніваюцца ад лісцевых, і набраўся паняцця, што такое сапраўдны сасновы і яловы бор. Увесь час ад Жукава Барка да Отмыта ехалі такім прыгожым борам са старымі дрэвамі, які не вельмі адрозніваўся ад пушчы. А ўрэшце, і сам Отмыт патанаў у сасновых гушчарах і нетрах і ледзь высоўваўся з іх сваімі палямі, а праз пару міляў ад яго пачыналася Налібоцкая пушча, і ўступам да яе былі іншыя

вялікія лясы, якія называліся Рудзьмай. Ужо за вёскай Дудкі зусім недалёка знаходзілася ўрочышча з пераканаўчай назвай Купелішча — густыя цёмныя яловыя нетры, поўныя небяспечных багністых мясцін.

Вострая дзіцячая фантазія, прызвычаеная да лісцевай Навагрудчыны, рабіла тут новыя адкрыцці. Адразу адчувалася асаблівасць хвойных дрэў, розніца іх колеру, пабудовы і маладняку, нават уласцівасці галасоў, якімі яны адзываліся, калі вецер варушыў іх галіны. Занёманскія сосны і елкі размаўлялі абсалютна інакш, чым мае асташынскія бярозы і вербы, вязы і таполі. У Асташыне меншыя дрэвы шамацелі шумна альбо паднімалі хаатычную шчабятлівую мітусню, а векавыя ліпы і старыя таполі, калі раздуваліся ў віхры, уздымаліся магутным гукам, гнеўна рыкалі і штурмавалі неба сваімі выбухамі. Інакш размаўлялі отмыцкія дрэвы. Яны шумелі роўна і спакойна, не вельмі голасна, але моцна, шырока і разліўна, і ў іх голасе было чуваць дыханне самой зямлі, яе адвечны пульс, які ідзе з глыбіні зямлі, ад самых карэнняў, і спявае нейкія песні пра старажытныя часы.

Я зразумеў, што толькі хвойныя дрэвы сапраўды шумяць, тады як іншыя — шапацяць, трапечуцца альбо гучаць і грымяць. Гэты шум сваім гукавым зместам адпавядаў анаматапеі з'явы: вецер, праплываючы паміж сухімі шпількамі кронаў, выразна выдаваў такое шумнае «ш ш ш ш ш ш ш ш ...», якое часам пераходзіла ў цвёрдае «с с с с с с» са свістам і доказна нагадвала, што гэта «сссосссны» так адгукаюцца. Фонам жа для гэтых гукаў было нейкае сумнае на працяглай ноце «у у у у у у у у», і вібрацыя канцавога «м м м м м м м м» надавала гэтаму шуму адценне расплываючайся меланхоліі... «Ссссосссснаў шуууууммм... ссосссснаў шуууууммммм...» — чуў я паўсюдна ў отмыцкіх лясах, і гэты шум станавіўся фонам паўсядзённага жыцця. У ім была ўся шкала тонаў і адценняў, якія магло ўлавіць толькі прызвычаенае вуха і прыхільнае сэрца. Я хутка зжыўся з гэтым шумам, палюбіў яго, сам таго не ведаючы, і навучыўся раствараць у ім свае ўласныя пачуцці. Я інстынктыўна ішоў у лес на размову з дрэвамі. Калі яны маўчалі, то я чакаў, што яны адзавуцца, і ніколі не трэба было чакаць доўга. Спачатку пачыналі па адной уздыхаць сосны, як быццам бы абуджаліся і зноў правальваліся ў сон, лёгка і рухава пасопваючы. Потым яны сціхалі адна за другой і дазвалялі наступным весці далей мелодыю гэтай лясной фугі, пакідаючы сабе права толькі патаемна тураваць. Яны стваралі ўражанне хору, раскладзенага на галасы, і гэты хор скардзіўся і засмучаў, уздыхаў і ўспамінаў альбо зноў абвяшчаў з мудрай павагай аб справах жыцця і смерці, аб вечных рэчах. Часам сярод хвіліннай цішыні якое-небудзь дрэва зашуміць нясмелым рэчытатывам, а суседнія падхопліваюць гэтыя ўздыханні і ўтвараюць з іх бясконцую фугу, што, як вуж, раскручвае свае пярсцёнкі-завіткі, як каскад, пералівае сваю цякучую струменістасць, захоўваючы, нягледзячы на гэта, адзіны вобраз меладыйнай асновы і калышучы рытмічнасць думкі, як лодку на хвалях соннага возера. А часам вецер зноў мацней ускалыхваў вяршыні хвояў, іграў на ўсіх струнах сасновага аркестра, і ўвесь лес пачынаў гучаць шумнай паліфаніяй, у якой усё было нягучнае, павольнае, само прыслухоўвалася да сябе, але моцна ішло стыхійным напорам, насоўвалася з падветранай далі з-за краёў гарызонта — адусюль, са спакойнай нястрыманай моцай марскога прыліву... Толькі заплюшчыць вочы, аддацца на волю шуму ветру і плыць у бясконцасць...

Але на гэтым не канец. Апрача музычных лясы адорвалі мяне багаццем зрокавых уражанняў. У Асташыне я мала жыў з дрэвамі, якія ўспрымаюцца як калектыў, а прыгожыя дубовыя лясы ў Райцы і на Свіцязі я аглядаў толькі ўрыўкамі і з сярэдзіны як часовы прахожы, без магчымасці пранікнуць у іх унутраны змест. Толькі ў Отмыце я апынуўся адзін на адзін з лесам у штодзённым непазбежным сужыцці, выкліканым блізкім суседствам, і мог зразумець прывабнасць хвойных дрэў, пазнаёміцца з сасной і елкай як з жывымі прадстаўнікамі ляснога люду, даведацца пра асаблівасці іх выгляду і постаці. Я моцна палюбіў абрысаваны і выразна раздзелены сілуэт сасны з яе барочна пакручаным балдахінам кроны, якая пануе багатым перапляценнем галін над рэдкім і непрыглядным лісцем. Я з любоўю пераводзіў позірк ад яе шэрага ля зямлі ствала ўсё вышэй да першых разгалінаванняў бакавых сукоў, дзе сасна губляла сваю зямлістую шэрасць, набывала ржавую весялейшую афарбоўку і, нарэшце, зусім уверсе румянілася цёплымі апельсінавымі тонамі і ў зараве заходу сонца чырванела ўрачыстым пурпурам, свяціла палымянай паходняй на фоне бляднеючага блакіту...

Отмыцкі двор акружалі сасновыя лясы, свабодныя ад прымесі іншых дрэў, але далей у так званым «вялікім лесе», ва ўрочышчы Барсучына альбо ў дзяржаўным лесе над Сулай, густа перамешваліся елкі і бярозы, і гэтыя лясы былі самыя прыгожыя. Сосны ўзвышаліся там стройнымі ржавымі каланадамі, сярод якіх пышна чарнелі абвіслыя яловыя намёты ў выглядзе пірамід. Яловыя кісці развешвалі трыумфальныя гірлянды пастаяннай лясной урачыстасці, а іх скляпеністыя галерэі дыхалі



***Дрэвы ў Райчанскім парку.*** *Здымак да 1911 г.*

змрокам таямніцы. Шырока і прыгожа расселася каралева-елка пасярод стройных сасновых порцікаў і азмрочвала іх празрыстасць веліччу сваёй уладарна ўзвышанай постаці. Дасканалая сіметрыя стогападобнай формы надавала ёй выразны і моцны выгляд: ад самай зямлі пышнымі зборкамі чорна-зялёнага пакрывала ўздымалася аграмадная піраміда, звешвалася з кожным разам усё карацейшымі плячамі-крыламі, якія апускаліся іглістымі каскадамі, і, нарэшце, выстрэльвала ў неба востраканечнай вяршыняй, як упрыгожаны разеткамі шпіль гатычнай вежы.

Бліжэй да двара, як я ўжо казаў, былі самі сосны. Я любіў іх шумныя размовы, але для вачэй яны мелі менш прыемных пунктаў адпачынку, чым елкі, асабліва перамешаныя з бярозамі і падфарбаваныя іх жывой і светлай зелянінай. Самы прыгожы лес такога кшталту быў за Трасцянкай, за некалькі вёрст ад двара ў Барсучыне, раскінутай на маляўнічых, зрытых равамі пагорках, дзе быццам бы некалі знаходзіліся барсучыныя норы. Там ужо не было ўбогай і звялай сасновай сухасці, ні шэрага і матавага адценняў хвойнага лісця, наадварот, у лесе адчувалася вільготная ўраджайнасць глебы, якая хутчэй выдавала багатыя парасткі ляшчыны, ягадніку, разнастайных траў і імхоў. Позірк з задавальненнем вітаў узрастаючую сакавітасць фарбаў і разнастайнасць вобразаў і ахвотна паглыбляўся ў прыгожае нутро змешанага лесу. А лес сплятаў кронамі смарагдавую столь, падмаляваную блакітнымі прагалінамі неба, і адтуль развешваў да зямлі фіранкі, заслоны і кулісы, якія пераліваліся ўсёй гамай колераў і адценняў. Доўга і ўважліва на працягу незлічоных гадзін і дзён я любаваўся размеркаваннем колераў і святла ў гэтых сціслых лясных гушчарах, шчодрасцю іх разнастайных форм, далікатным адценьваннем водбліскаў і зацямненняў, шалёнымі скачкамі ад асветленых сонечных палян да змрочна-цяністых скляпенняў і загібаў. Я любаваўся вясёлкавай каляровасцю перыстых папаратнікаў, якая прамянілася і свяцілася сама па сабе, пушыстага верасу і брусніц, мяккіх дываноў імхоў — то серабрыста-сініх, то малахітавых, то ржава-бурых, што сцелюцца і пераліваюцца пад аркадамі галін, як залежы каштоўнасцей.

А потым я зноў вяртаўся да пакручаных сосен з гнядой карой і слухаў іх ціхі шум, калі разам з вячэрнім ветрам яны рыхтаваліся да сну. Зрэшты, я часта забываў пра назіранні дзеля больш уласцівых майму ўзросту забаў: я збіраў ягады і грыбы, зрываў кветкі, праводзіў пошукі ў імхах і лясных травах і рабіў адкрыцці, залазіў на невысокія ніжнія галіны сосен і прыслухоўваўся да дзятлаў, якія шалёна дзяўблі гнілую кару. Лес даваў мне мноства забаў, у якіх неўзабаве пачала далучацца да мяне малютка Анця. Прадпрымальная і задзірыстая, колькі разоў яна ўцякала з-пад апекі крыху згорбленага, лагодна-бурклівага і вельмі любімага Дзядзькі Пузіноўскага. Дзядзька пасвячаў яе ў розныя лясныя справы, адшукваў цацкі і прысмакі, вёў клапатліва ад дрэва да дрэва, паказваў ягады, выграбаў баравікі, схаваныя пад купінамі імху, і з-за гэтага іх было нялёгка заўважыць, і з павагай тлумачыў ёй сакрэты правільнага збірання грыбоў. А грыбы ў Отмыце былі ўсюды, і іх збіранне ад ранняй восені было небывалай гульнёй і заняткам: ім займалася ўсё, што жыло ў двары і вёсцы ў гэтай ляснай краіне.

Так, гэта быў іншы край, непадобны на мой родны, край пусты і бязлюдны, забыты Богам і людзьмі, пакінуты сам сабе сярод бароў і лясоў. Ад Нёмана зніклі ўсялякія сляды прысутнасці чалавека, навокал былі толькі пяскі і сасняк, толькі бліжэй да Сулы, каля Аталезі,

вечарам на асветленым фоне заходняга гарызонта быў відаць ружанец чорных вясковых хат, якія вырысоўваліся на гэтай залацістасці цвёрда і панура, як злавесныя здані пустыні. А потым дарогу заступалі вялікія лясы, што належалі да Тулёнкі і заканчваліся толькі ля прыбярэжных лугоў крутой і капрызнай Сулы, даліна якой была ўпрыгожаннем ваколіцы. За мостам на Суле балоцістую грэблю зацянялі вялізныя старыя вербы, і іх раскірэчаныя тулавы выглядалі, як згорбленыя чараўніцы, якія ідуць адна за адной. Далей на ўзгорках тапырыліся ізноў дзяржаўныя лясы, узвышаліся дародныя мачтавыя старыя дрэвы, якія палохалі ўначы змрокам таямнічых глыбінь, а ўдзень шумелі свае таямнічыя малітвы. І так аж да самага Отмыта падарожнік цягнуўся ўвесь час і хаваўся па лясным бездарожжы, па сасновых гушчарах, хаваўся ў іх, як загнаны звер, і мог незаўважаны наблізіцца цішком да самага дома, бо ўсюды былі дрэвы, усюды — сховішчы, гушчар і ахоўны цень.

Ваколіца Отмыта выгадна адрознівалася лепшым месцазнаходжаннем і была маляўнічым выключэннем у гэтым убогім краі, пазбаўленым ураджайнай глебы. Яна была абавязана гэтым вадзе, ставу з рачулкай у двары і даліне Сулы па-за дваром. Праз некалькі дзесяткаў крокаў ад двара знаходзіўся вялікі стаў з берагамі, зарослымі цёмнымі вольхамі і светлымі вербамі, якія мачалі ў вадзе свае кучаравыя навіслыя кроны. Пасярэдзіне знаходзіўся альховы востраў, да яго вёў зграбны мосцік, а насупраць вострава, каля грэблі, рассеўся млын, ён страсаў з колаў пеністыя пасмы і грукатаў, малоў няспынна, а рассыпаныя па ставе качкі разразалі роўнядзь вады хуткімі карагодамі і штохвілінна пачыналі ўсе разам сварліва кракаць. Ля берага калонамі ўзвышаліся вольхі, клаліся далёка ад берага люстранымі адбіткамі і дрыжалі разам з хваляваннем вады. На адной з вольхаў з засохлай каронай было буслінае гняздо, і бусел нёс на ім варту, стоячы з адной падкурчанай нагой, важны і маўклівы, як вартавы на пасту. За ставам лугавыя зараснікі злучаліся з ляскамі на ўзгорках і зялёным пярсцёнкам ізноў замыкалі гарызонт.

Праз пару вёрст ад двара рассцілалася даліна Сулы: рака вілася крутымі загібамі сярод альховых купаў па сакавітых лугах, багатых вільгаццю і шчодра зарослых, а далей па абодвух берагах узвышаліся ўскрайкі лесу, адкуль нізіна была відаць як на далоні і адкуль бег ракі вабіў яшчэ прыгажэйшымі відамі. Сярод пясчанай манатоннасці плоскага басейна Нёмана гэта даліна ўяўляла сабой сапраўдную чашу, і якраз каля Отмыта, паміж вёсачкай Сулай і млынам у Наваполі, даходзіла да найвышэйшай ступені маляўнічасці. Рака насіла жаночае імя і, па сутнасці, мела ў сабе нешта ад капрызнай і каварнай маляўнічай жаночай чароўнасці, якая, невядома, з'яўляецца ці больш прыгожай, ці небяспечнай. Вясной яна разлівалася так шырока і нечакана, што не раз перарывала сувязь і пакідала Отмыт на некалькі дзён адрэзаным ад свету. Пасрэднікам паміж ставам у Отмыце і Сулай была рэчка Отмытка — маленькі ручаёк, што выцякаў з крыніцы, якую называлі Катламі, напаўняў стаў, пераліваўся праз кола млына, арашаў выган за садам, а потым за Дудкамі знікаў у лесе і ўпадаў у Сулу.

Пра крыніцу Катлы нават хадзіла паданне, што некалі ў ёй утапілася пара валоў з сахой і збруяй і бадай што не з аратым, такой бяздонна глыбокай была гэта непрыкметная крыніца. Яе акружалі рослыя вольхі, якія ўтваралі наўкола альтанку, што здалёк паказвала гэта небяспеч-

нае месца, да якога нас, дзяцей, вядома, асабліва цягнула. Там было сапраўды так глыбока, што самай доўгай жэрдкай немагчыма было дастаць да дна, а на паверхні, балоцістай і чорнай, булькала ўспененая вада, якая была як быццам бы ў стане пастаяннага кружэння, і на паверхню разам з жоўтым пяском выходзілі вадзяныя бурбалкі, якія сведчылі аб няспынным руху нейкіх унутраных цячэнняў. Гэта надавала крыніцы дзіўны, крыху загадкавы выгляд, які лёгка абуджаў фантазію, таму мы таксама любілі сядзець паблізу ў зацішных месцах, зарослых травой і кветкамі, глядзець на віраванне вады і правяраць яе глыбіню з тайнай надзеяй, што нарэшце дабяромся да дна і да тых затануўшых валоў. Звычайна заканчвалася тым, што прамочваліся ногі на беразе крыніцы, бо ісці далей мы не мелі адвагі. Вада ў Катлах была вельмі халодная і чыстая, выключна смачная, адтуль звычайна насілі яе ў двор для гарбаты, хоць стаў быў значна бліжэй.

Такім быў Отмыт, які мая маці так не любіла, што называла яго «Одмэнтам» (бяздоннем) з-за пануючага там беспарадку і дрэннай арганізацыі. Усё там было неяк адсунута ад свету думкі і дзеяння, вяло вартае жалю існаванне, вялае, заглушанае здзічэлымі ляснымі нетрамі і кінутае на рубяжы цывілізаванага свету. Нават мястэчка, што знаходзілася на адлегласці пары міль, называлася Рубяжэвічы, як быццам бы для таго, каб падкрэсліць самой назвай, што далей за ім ужо заканчваўся наш свет і пачыналася нейкая чужая і дзікая краіна. Прасторы там былі вялікія, вёскі і паселішчы рэдкія, дарогі заўсёды пустыя і ледзь бачныя сярод пясчаных палянак і працярэбленых прасек з самотнымі крывымі соснамі. Маёнтак дзядзькі займаў каля тысячы дзесяцін пустой, малаўраджайнай зямлі, пераважна зарослай добрым, але дрэнна дагледжаным лесам, які легкадумна знішчаўся, а межы Отмыта выбягалі далёка за гарызонт, да якога дastаваў позірк, і губляліся ў пакрытай лесам раўніннай далечыні.

Тут жа, побач з дваром, на схіле пагорка пры дарозе, што вяла на Марозаўку, знаходзіліся старыя могілкі, дзе я любіў сядзець і гуляць або проста ляжаць у траве і глядзець уверх на праплываючыя воблакі. З аднаго боку дарогі былі магілы сям'і Грынеўскіх, і там спачывалі прабабка Юзэфа і дзед Адам у цені разложыстых елак, пышныя гірлянды якіх датыкаліся да помнікаў і звешваліся аж да магільнага дзёрна. Насупраць былі вясковыя могілкі, якія датаваліся яшчэ, бадай, часам крапаснога права, а потым закрытыя па прычыне перапоўненасці і абсалютна закінутыя. Яны былі сапраўды прыгожыя ў сваім натуральным здзічэнні з пышнай расліннасцю. Уваход на іх ахоўваў нейкі плот, бо агароджа даўно ўжо сатлела і рассыпалася без следу. Адусюль можна было свабодна ўваходзіць у гэты прыгожы гай, зялёны, квітнеючы і бязлюдны, як усё навокал, але ніхто гэтага не рабіў, бо практычна гай ужо перастаў быць могілкамі, нікога не цікавіў, і адначасова ён захаваў недатыкальнасць прытулку смерці і забабонную славу, якая ўтрымлівала прахожых воддаль ад іх. А паколькі яны знаходзіліся на сядзібнай зямлі, на значнай адлегласці ад вёскі, таму ўсялякая сувязь з імі даўно была перарвана, і забытыя могілкі вярнуліся ў прыродны стан і сталі як бы дапаўненнем да сямейных магіл Отмыта. Іх перыметр стваралі больш як дзесятак галінастых высокіх соснаў, што раслі па краях, а ўсярэдзіне былі густыя кусты, якія буйна разрасліся паміж

замшэлымі магіламі і нахіленымі крыжамі. Некаторыя крыжы, ужо паваленыя і зарослыя мохам, ледзь значыліся на зямлі лёгкімі пагоркамі, і калі я выпадкова на іх наступаў, ногі з глухім хрустам затрымліваліся ў спарахнелым дрэве, як быццам бы хрусцелі косці пахаваных. Аднак гэта ўражанне было кароткім, бо наўкола нічога не нагадвала аб смерці, наадварот, прырода ўжо ўзяла гэты пакінуты закутак пад сваю ўладу і ўпрыгожыла яго сапраўдным багаццем пышнай раслінасці і дзікіх кветак, а лясныя птушкі так весела спявалі на дрэвах, што сярод гэтых абсыпаных кветкамі акацый бачыўся толькі пераможны ход жыцця, якое ільснілася ўсімі фарбамі лета.

Пасярэдзіне стаяла малая драўляная хатка — былая трупярня, збуцвелая і заплеценая кустамі, квітнеючыя галінкі якіх заглядвалі ў адчыненыя дзверы і жывымі паласамі колераў упрыгожвалі вартыя жалю сцены, што дажывалі сваё жыццё. Яна выглядала, як манастыр, прызначаны для пустэльніка, які б захацеў правесці тут рэштку свайго жыцця ў пакутлівых успамінах. Адзін прадпрымальны куст каліны рос пад самай сцяной, звешваў праз замшэлае акенца жменю чырвоных ягад у цёмную глыбіню трупярні і задзірліва свяціў на яе фоне сваёй сакавітай красой. Паміж магіламі буйна расла трава, някошаная ад веку, а кусты язміну акружалі яе высокім непралазным гушчаром, як зялёным мурам. Над усім гэтым сасновыя скляпенні абдымалі шырокімі пышчотнымі разгалінаваннямі запушчаныя могілкі і шумелі свае тужлівыя ўспаміны, шумелі працягла, удумліва, сардэчна, як быццам бы самыя грудзі зямлі, з якіх гэтыя сосны выраслі, дыхалі пад іх родным цяжарам. І сярод гэтых спарахнелых крыжоў, запаўшых магіл і ўпрыгожаных зялёнай зараснікаў двое дзяцей бесклапотна гулялі, зрывалі кветкі на магільных пагорках, лавілі жучкоў, якія поўзалі па кары дрэў, кідаліся шышкамі і адчувалі сябе прамяніста шчаслівымі ў гэтым зацішным прытулку памерлых, апанаваным жывой і творчай прыродай. Забытыя старэйшымі і радыя свабодзе, дзеці праводзілі там у забавах доўгія гадзіны, якія міналі як адна хвіліна, і перажывалі самае высокае, бо яно было неўсвядомленым, шчасце. Гэтыя дзеці — Анця, якой было пару гадоў, мая будучая жонка, сяброўка забаў майго дзяцінства, а пазней сяброўка ўсяго майго жыцця, і я, які піша гэтыя словы.

Адразу за могілкамі пачынаўся лес, ва ўсе бакі цягнуліся ляскі, гаі, альбо і густыя бары, разгойданыя сасновым шумам, поўныя загадкавых глыбінь і таямнічых урочышч. Усюды рассцілаўся першабытны лясны свет, сваёй суровасцю ён супрацьстаяў вясёлай Навагрудчыне, якая кіпела жыццём, вабіў да сябе нейкай дзікай прыгажосцю і крыху ўцягваў у бязмежнасць сваіх сумных бязлюдных абшараў...

**Уцёкі**

На калымазе, празванай «карэта»,
мы выпраўляемся сёння ў дарогу.
Шлях — аж шэсць міляў. І радасці гэтай
зменшыць усе засцярогі не могуць.
Бацька фурману загадвае рушыць,
хрысціцца маці і кажа, што хоча
з ласкі гасподняй «даехаць да ночы».
Бічам фурман сытых коней варушыць.

Сам чацвярык рады хуткаму бегу,
я ж змрок пільную (бо маю прычыну).
Мір за плячамі, але да начлегу
шмат вёрст. А вечар гусцее няспынна.
Позняй часінай стаім ля парома
над сінім Нёмнам, разлітым увесну.
Чырвань заходу з нябесных праломаў
люстра вады адбівае злавесна.
Выпраг фурман і павёў пару коней,
я ўвішна ракавінкі тут збіраю
і ў плынь ракі апускаю далоні,
а Нёман вольна мкне да небакраю...

........................................................................

Бацька злуецца, бурчыць штосьці потым,
наша затрымка ў дарозе віною.
Хітра маўчу я і цешуся ўпотай,
бо вечар слаўны, а ноч — прада мною,
бо ўсё бліжэй мэта даўняе мары,
тыя бары, што стаяць па-над Сулай,
цемра ўжо ўвесь далягляд паглынула...
Сэрца малога мацнеюць удары...

Лес абступіў. Цемра сціснула цела,
нервы напнула чаканнем зацятым.
Разам са стукам падкоў зухаватым
сэрца ад звадак начных затрымцела.

Вось адпусціў я фантазіі лейцы,
вось ноч мяне жахам некуды гоніць,
вось да мяне сосны цягнуцца з лесу,
каб затрымаць у нязграбных далонях.
Вось у кар'ер скачуць дужыя коні,
ды ці прарвуць сетку чортавых ніцяў?
Ці данясуць да святла вольных гоняў?
Ах, коні, коні! Хутчэй вы скачыце!

Страх, а затым захапленне — на змену,
што саладзей, не магу я адрозніць...
Тут, у бары, жах маўклівай пагрозай
і пад карчом, і пад дрэвам праменіць...

Цішу калыцяць шалёныя коні,
сэрца з грудзей рвецца стомленым птахам,
душыць мяне змрок пранізлівым страхам,
цісне нястрымнасць упартай пагоні...

..............................................................

Раптам страх знік. Мы ўжо едзем свабодна,
скрозь тут лугі. Зоры ў небе раяцца,
вунь там агеньчык... Не трэба баяцца,
хоць сэрца з гэтым пакуль што не згодна.
Мост цераз Сулу зламаны. Нам трэба
выйсці, чакаць перапраўленых коней.
Круцяць віры чарнату ціхіх тоняў,
ломячы водбліскі зорнага неба.
Столькі вакол светлякоў — падзівіцца,
а ў лозах гэтых ліхтарыкаў болей.
Ціша, і толькі аўсянаму полю
ад цвыркуновых руладаў не спіцца.

Тут недалёка. І я зараз смелы,
там нас чакаюць, сустрэнуць ля дома...
Поўнач імгліцца над светам знямелым,
а цвыркуны граюць, граюць без стомы...

22. Зак. 297.



**Возера Свіцязь.** *Здымак да жніўня 1908 г.*

## Раздзел XVII

# *Дамашнія клопаты. Зямля Верашчакаў (1885–1886)*

Год 1885-ы быў для мяне асабліва памятны, бо быў багаты на нештодзённыя падзеі, якія сатрасалі нашу спакойную дамашнюю атмасферу і разбуралі яе манатоннасць. Перш за ўсё на пачатку лета бацька ўпаў у сячкарню, цяжка скалечыў правую руку, і праз пэўны час з'явілася боязь, што ён можа яе страціць. Страшна гэта выглядала, калі бацька, бледны, хістаючыся, ледзь даваломся да дома, а рука, наспех перавязаная шматком тканіны, нацякала крывёй. У доме зрабіўся перапалох, жах, беганіна, а я, заплаканы, дарэмна шукаў суцяшэння ў маці, якая тады не мела для мяне часу і ўвагі. Я памятаю дзіўны, як быццам бы здзірванелы спакой, у якім маці імкнулася схаваць свае пачуцці, калі абмывала гэту бедную знявечаную руку над мядніцай з вадой, чырвонай ад крыві. Толькі потым, калі аказалася, што раны, на шчасце, павярхоўныя і не пагражаюць пашкоджаннем косці і мышцаў, яна дазволіла сабе выказаць атрыманае ўражанне і паддацца хвіліннай дэпрэсіі, але пакуль была патрэбна, захоўвала сапраўдную мужчынскую цвёрдасць і раўнавагу. Не ведаю, ці выклікалі тады якога-небудзь лекара, бо бацька ніколі не лячыўся і не любіў дактароў, сцвярджаючы, што яны толькі павялічваюць хваробу, а дапамагаў сабе дамашнімі сродкамі, як гэта было ў нас у звычаі. Нехта, на шчасце, параіў прамываць рану адварам з альховых лісцяў, і гэта лякарства аказалася вельмі эфектыўным. Цэлы месяц маці ўвесь час запарвала чырванаваты адвар, пералівала яго і студзіла, а потым асцярожна адвязвала бінты, абмывала руку і мяняла павязку. Бацька цярпліва пераносіў боль і нават не сыкнуў, хоць напачатку раны былі вельмі балючыя. Аднак праз тыдзень яны пачалі пакрыху зацягвацца, а потым загойвацца, і нашы страхі адступілі, асабліва калі аказалася, што да бацькі павoлі вяртаецца валоданне пальцамі, хоць ён яшчэ доўга не здымаў рукавічку і насіў руку на перавязі. Нарэшце і гэта перастала быць патрэбна, бо ўсё пакалечанае зарубцавалася. Мы радаваліся ўсім домам выздараўленню бацькавай рукі, але сляды на ёй засталіся назаўсёды ў выглядзе рубцоў і белых шрамаў, якімі былі парэзаны пальцы.

Гэта быў увогуле нешчаслівы год, бо нас закранулі розныя няўдачы і нават беды. Перш за ўсё, я ўпаў у ваду ў ставе і вельмі напалохаўся, бо не ўмеў плаваць, і хоць ля берага было не надта глыбока, аднак я ледзь неяк выбраўся з гэтай бяды. Мне нічога не зрабілася, але ўзрушэнне ў доме было вялікае, бо занадта ўражлівая маці вечна звыш меры пра мяне клапацілася. Хутка пасля гэтага я ўпаў з каня і даволі моцна ўдарыўся аб зямлю. Гэта было на дарозе недалёка ад кальвінскага касцёла, кабыла, відаць, нечага спалохалася, скочыла раптам убок, а я зляцеў, ударыўся аб камень і страціў прытомнасць. Так мяне знайшлі непрытомна ляжачага, калі кабыла вярнулася дадому адна без ездака і

ўстрывожыла дамашніх. Неўзабаве, зрэшты, я прыйшоў у сябе і назаўтра ўжо быў здаровы як конь, але маці такія перажыванні вельмі дорага каштавалі, бо яна адразу ўяўляла сабе самае горшае, дрыжала за маё здароўе і жыццё, і толькі з цяжкасцю ўдавалася супакоіць яе роспачлівую трывогу пра адзінае дзіця. А я адчуваў сябе героем гэтых «падзей», і гэта роля цешыла маю фантазію і рабіла мяне ў яшчэ большай ступені фецішам усяго дому. Трэба прызнаць, што мяне выхоўвалі абсалютна не па-спартанску, трымалі ў скрыначцы з ватай і баяліся для мяне ўсялякіх намаганняў ці рызыкі, не развівалі ані прадпрымальнасці, ані адвагі, ані альтруізму. Штучна стваралі ўмовы, якія павінны былі ў бездапаможнага, распешчанага ўлюбёнца развіваць эгаістычную выключнасць, бездапаможнасць і вузкае самаабажанне. Таму нічога дзіўнага, што я так пакутліва запомніў першыя дробныя няўдачы, якія выцякалі з сутыкнення з жыццём, хоць гэта маё тагачаснае жыццё было проста засцелена ружамі.

Неўзабаве прыйшлі і сапраўдныя беды. Спачатку нас напаткаў неўраджай, які выклікалі зацяжныя дажджы ў канцы лета, якія перашкаджалі збіраць, звозіць сырое, ужо прарослае, непрыдатнае для ўжывання збожжа. А яно тады было амаль адзіным прадуктам на продаж, бо малако і масла не мелі попыту і малочная гаспадарка не была яшчэ развіта. У палове ліпеня, у самае жніво, пачалі ісці настойлівыя, бесперапынныя дажджы — то ліўні з бурамі і перунамі, то дробная імжа, якая сыпалася цэлымі днямі пры высокай тэмпературы. Яны паскорылі гніенне ў полі несабранага збожжа і прарастанне зярнят. Калі крыху распагоджвалася, пераварочвалі мэндлі, адкрывалі верхнія шапкі і выстаўлялі пад сонца кожны сноп асобна. Часам, калі праходзіў адзін дзень без дажджу, бацькі падманвалі сябе, што гэта ўжо канец мукі і што хутка жыта можна будзе звозіць у гумно. Але над дасыхаючым жытам ізноў расчынялася бездань нябесная, снапы ізноў намакалі і станавіліся брудна-шэрага колеру безнадзейнай гнілі. «Жыта расце», — казаў упаўшым голасам бацька, вяртаючыся з поля на абед, а маці прымала гэту незразумелую мне навіну з вельмі заклапочаным тварам у панурым маўчанні, якое рабіла на мяне цяжкае ўражанне, бо я адчуваў, што ў доме робіцца нешта нядобрае. Аднойчы, нарэшце, мне растлумачылі, што жыта з прарослымі зярнятамі ці з распачатым працэсам прарастання губляе амаль усю сваю вартасць, бо ўжо не падыходзіць для выпечкі хлеба і можа служыць толькі на корм жывёле, і то самы апошні.

Цяжкія гэта былі дні. Калі бацькі заставаліся адны, яны хмурнелі яшчэ больш, пры маім з'яўленні перапынялі размову, якая, напэўна, была невясёлай, і ва ўсім доме панаваў прыгнечаны настрой. Гэты настрой перадаваўся, урэшце, і мне, пазбаўляючы мяне звычайнай легкадумнай весялосці. Але, праўда, гэта не цягнулася доўга: як толькі я губляў бацькоў з вачэй, тут жа забываў пра непакоячы іх клопат і радаваўся якой-небудзь гульні. Ахвотней за ўсё я забаўляўся з дажджом, бо дзіця з усяго можа зрабіць сабе гульню. А летні дождж не быў ні халодным, ні прыкрым на самай справе, неба распагоджвалася на пару гадзін, праз дажджавое сіта прасвечвала расістае сонца, а потым зноў зацягвалася алавяная завеса, пачынала імжэць, крапіць, нарэшце, паліваць як з вядра і зноў вярталася да дробнай імжы. Пад гэтай апошняй лепш за ўсё было гуляць у правядзенне каналаў вакол ганка, у капанне ям і равоў, спускаць у іх ваду, капацца ў лужынах, што стаялі ля ганка, будаваць там на адгалінаваннях раўкі і ствараць штучныя запруды і

азёрцы, словам, гэта была цэлая сапёрная і каналізацыйная інжынерыя. І ўсё гэта адбывалася пад акампанемент дажджавых кропляў, якія гучна пляскаліся, праплываючы па бляшаных вадасцёкавых трубах, альбо проста капалі з даху ў падстаўленыя кадкі. Размоклы грунт каля ганка станавіўся мяккі, угінаўся пад націскам ног, утвараў пры гэтым выразныя паглыбленні ў выглядзе чалавечай ступні, і гэтыя паглыбленні хутка заплывалі вадой і ўтваралі маленькія прадаўгаватыя сажалкі, якія я потым злучаў каналамі, што праводзіў кавалкам чарапка альбо проста пальцам. Выдатныя гэта забавы! Не ведаю, ці атрымлівалі стваральнікі Суэцкага і Панамскага каналаў столькі моцных узрушэнняў, колькі іх можа атрымаць малое дзіця, якое поркаецца з палачкай у руцэ ў дажджавых лужынах у радыусе дзесяці крокаў ад дома. А вадасцёкавыя трубы акружалі ўвесь наш дом, бо бацька вельмі глядзеў за парадкам і не прамінаў ніякіх практычных паляпшэнняў. Гэтыя трубы давалі цэлыя канцэрты, калі дождж пераставаў і яго адзінкавыя кроплі прасочваліся і пляскаліся розным тонам у залежнасці ад вышыні падзення. «Цур...цур...цур...» — спявалі жаласна вадасцёкавыя трубы, то паўтаралі нейкае птушынае цвырканне, то нагадвалі кваканне вячэрніх жабак на лузе.

Стрыманае меладычнае капанне гучала часам у тэрцыях і квінтах, як другі голас у спевах, і стварала музычны фон, які прызвычаенае вуха слухала з падсвядомым задавальненнем як добра знаёмае суправаджэнне дажджавой забавы. Са шчылін грунту выпаўзалі чарвякі, вылазілі малыя зялёныя жабкі і нязграбна падскоквалі на балоцістай сцежцы; па лужынах прабягалі пліскі, паласкалі свае ножкі і кланяліся элегантнымі хвосцікамі, кропелькі паўсюдна цурчалі меланхалічным рытмам, а мая дажджавая каналізацыя прапаноўвала мне ўсё цікавейшыя задумкі, усё мілейшыя гульні, якія захаплівалі ўсю маю ўвагу і прыносілі моцнае задавальненне. Ці мог я ў такіх умовах памятаць пра жніво і клапаціцца, што жыта «расце»?

Так мінаў дзень за днём, плюханіна не пераставала, і паводзіны бацькі рабіліся ўсё больш змрочнымі. Маці праводзіла яго неспакойным позіркам, калі ён прыходзіў з поля на абед, і задавала яму нясмелыя пытанні, на якія бацька адказваў паўсловам, замыкаўся ў прыгнечаным маўчанні альбо гаварыў адно кароткае «расце», пасля якога наўкола станавілася яшчэ цяжэй і сумней. Аднойчы падчас кароткага распагоджвання бацькі ўзялі мяне з сабой і пайшлі за гумно, дзе на палетку, які датыкаўся да двара, стаялі нязвезеныя мэндлі жыта, ужо пачарнелага ад слаты. Бацька ўзяў у рукі мокры пашарэлы каласок і вылускаў з яго зярняты, паглядзеў і падаў маці: зярняты пачыналі набракаць і выпускалі белыя парасткі, а з-пад распарушаных на зямлі снапоў месцамі падымалася бледна-зялёная шчацінка. Бацькі, блізкія да роспачы, глядзелі на яе з заламанымі рукамі і выглядалі, як прыгавораныя. Мне было іх шчыра шкада, але толькі хвіліну, бо адразу потым я заняўся гэтымі парасткамі, я заўважыў, што яны так роўна і прыгожа ўстаюць ад зямлі, як буйміна на Вялікдзень у вазоне; я падумаў сабе, што не можа быць дрэнным ці шкодным тое, што так прыемна выглядае, і на гэтым скончыўся мой удзел у бацькоўскіх засмучэннях. Я лёгка адгароджваўся ад чужой бяды сцяной свайго эгаістычнага эстэтызму, каб без перашкоды аддавацца хараству ўласнага невялікага свету, і гэты свет здаваўся мне заўсёды такім займальным і прыгожым, што рабіў цалкам неадчувальным да чужых праблем і клопату. Зрэшты, не толькі

 ў гэтым выпадку, але і ў шмат іншых я прывык не вельмі лічыцца з меркаваннем бацькоў, бо іх погляды здаваліся мне нейкімі няслушнымі і нерэальнымі. Я больш верыў уласным інстынктам і парывам: я лічыў, што старэйшыя маюць памылковае і скажонае паняцце пра многія справы жыцця, нязначныя рэчы прымаюць за важныя, і наадварот — цалкам не ўмеюць разбірацца ў рэчах сапраўды важных, гэта значыць тых, якія былі блізкія мне і абуджалі маю зацікаўленасць.

Гэта быў фатальны год, багаты на неверагодныя здарэнні. Пасля мокрага, гнілога лета прыйшла ранняя восень, падзьмулі моцныя вятры і пасыпала сухім, каравым і завялым лісцем. У прыродзе адчуваўся нейкі неспакой, нейкі жаль па мінулым леце, нейкая нерашучасць восені, якая шкадавала сваёй развітальнай прыгажосці. Сабакі з брэхам і выццём ганяліся па агародзе, скручанае і счарнелае лісце ляцела з ветрам, танцуючы па дарозе нейкі чортаў млын, на небе — абяскoлераным і збялелым — сонца свяціла бледна і неахвотна, неспакой і сум віселі ў паветры і мучылі сваім амаль фізічным уздзеяннем. Дзяцінец, як бы прысыпаны шэрым пылам, адштурхоўваў сваім выглядам, быў амаль варожы, і я адчуваў гэты настрой вельмі балюча, згодна з уласцівай мне схільнасцю да хуткай рэакцыі. У гэтай ранняй асенняй сушы, змрочнай і ветранай, якая адбірала летнюю прывабнасць у свету, падымалася нейкая неакрэсленая пагроза, якая кідала цень на маю звычайную весялосць. Калі б у мяне было больш свядомасці, то я б мог сказаць, што тады мяне агарнула прадчуванне нейкага няшчасця.

Ну і няшчасце прыйшло на самай справе і ўдарыла ў мяне якраз тады, калі я быў пазбаўлены бацькоўскай апекі. Быў канец верасня, бацькі з самай раніцы паехалі ў Просці на імяніны Харунжай, маці пана Маўрыцыя Пратасевіча, і павінны былі вярнуцца толькі на днях, бо імяніны ў Просцях святкавалі гучна і прысутнасць на іх была свайго роду традыцыйным абавязкам. Мы са Стасем засталіся пад апекай пана Лапушынскага, што раўнялася поўнай свабодзе, бо настаўнік па-за ўрокамі абсалютна не цікавіўся намі і пакідаў нас на саміх сябе, на што мы, вядома, не наракалі. Пасля абеду Стась адразу недзе знік, пан Лапушынскі рыхтаваўся да сіесты на ганку пад яшчэ нядрэнна прыграваўшым сонцам і, ківаючыся ў крэсле, то грозна хроп, як насарог у гушчары, то на змену — соп з грунтоўнай павагай. Я затрымаўся ля ўвахода ў нерашучасці, што з сабой рабіць, калі раптам убачыў Стася, які ва ўвесь дух бег да стайні. Стась махаў рукамі і нешта крычаў што было моцы. Урэшце я пачуў яго словы: «Пане Лапушынскі, гумно гарыць!» Адначасова ў розных баках дзяцінца раздаліся тупат і крыкі, і ўсё, што жыло ў двары, высыпала з кухні і пякарні і пабегла ў бок гумна.

Мяне напалохаў не пажар, які я яшчэ не мог сабе ўсвядоміць, а страшны крык і мітусня, якія азначалі сабой якое-небудзь няшчасце. Дагэтуль я ніколі не бачыў пажар зблізку, а зарава, бачнае часам здалёк, выглядала не толькі бязвінна, але нават займальна. Тут, аднак, было нешта іншае: жудасная блізкасць страшнай стыхіі, якая навальвалася з грознай непасрэднасцю. Я ўбачыў над дахам стайні, за якой стаяла гумно, шырокі і вялікі слуп дыму, рухавы і цёмны, усыпаны воблакам іскраў і языкамі чырвонага агню. Я пачуў пякельны гук, трэск і гул, як быццам бы палала ў якой-небудзь велізарнай печы, гул гэты быў яшчэ страшнейшы, чым від пажару з дымам, які ўздымаўся

ўгару і распасціраўся на небе чорнай гулкай хмарай. З яе вылятали адзінкавыя палаючыя кавалкі, запальвалі неба сваёй бруднай стракатасцю і сыпалі іскрамі, здавалася, што яны разносяць агонь па ўсім двары. Гэты пажар, які панура дымеў, ударыў мяне сваім відам як перуном і праняў несвядомай трывогай. Ён быў не толькі страшны, але поўны жудаснай, неапісальнай брыдоты, што нагадвала нейкі апакаліпсічны канец свету... І на яго глядзелі вочы дзіцяці, якое яшчэ ніколі не бачыла пажару.

Гэта доўгае апісанне ў сапраўднасці адпавядала, можа, толькі некальнім дзесяткам секунд, падчас якіх я стаяў нерухома і аслупянела слухаў галасы і крыкі агульнай панікі. Сярод іх я адрозніваў гучныя каманды дзядзькі Браніслава, якіх ніхто не слухаўся, а таксама візгатлівы лямант жанчын, якія збіліся ў кучу недзе каля стайні. У нейкі момант я адчуў, што нехта бярэ мяне за руку і выводзіць з дзяцінца. Гэта дзядзька Браніслаў падштурхоўваў мяне за панам Лапушынскім, а той, ужо ўбраны ў шапку з шырокім верхам і апіраючыся на палку з алавяным набалдашнікам, пакідаў дом, баючыся, што і ён загарыцца, і ўцякаў у суседні Асташын. Як потым высветлілася, пан Лапушынскі забыў пра давераных яму дзяцей, бо выбіраўся ратаваць душу адзін, але дзядзька Браніслаў нагадаў яму аб нашым існаванні і загадаў нам ісці за ім як найхутчэй. І добра зрабіў, бо пан Лапушынскі са страху страціў галаву і нават не ведаў, куды ісці, пакуль Стась не прапанаваў яму быць праваднікам. Пан сказаў весці яго самай кароткай дарогай і тупаў за Стасем як бездапаможнае дзіця, а я замыкаў марш. Стась горда правёў нас сцежкай, схаванай у высокім зарасніку ля става, дзе было вільготна і гразка. Мы, малыя, прайшлі там даволі лёгка, але



***Фасад сядзібы Ганны і Яна Булгакаў у Пярэсецы.*** *Здымак да 1911 г.*

масіўны настаўнік паслізнуўся, упаў у балота і добра ў ім заграз, а калі выбраўся на сухое месца, быў вельмі напалоханы і адначасова разазлаваны і доўгі час лаяў Стася, што той павёў яго такой небяспечнай дарогай.

Я ішоў за імі бязвольна, аглушаны раптоўнасцю і грознасцю падзеі. Я адчуваў як бы палёгку, што ўжо не бачу страшнага слупа дыму і жудаснага выгляду дзяцінца, ахопленага пажарам, але зноў прыгнятала думка, што я кінуў наш дом замест таго, каб ратаваць, і пакінуў яго на здабычу полымю. Я аглядваўся назад, але дом ужо хавалі дрэвы, а пан Лапушынскі падганяў спяшацца, ішоў дробным жвавым крокам і, не могучы забыць аб прыкрай пераправе, увесь час бурчаў на Стася, больш са страху, чым па патрэбе. Мне здавалася дзіўным, што старэйшы чалавек, якога нам ставілі ў прыклад, не мае большага клопату ў такую балючую хвіліну, як прамоклыя ногі, і больш думае пра ўласную выгаду, чым пра бяду, якая нас напаткала. Я адчуў сваю адзіноту сярод абыякавых людзей і падумаў, што не так трымалі б сябе мае бацькі, калі б яны былі тут са мной. Калі мы мінулі грэблю і наблізіліся да двара Грабоўскага, пакідаючы за сабой нашы вялікія таполевыя прысады, дарога вяла пад гару, і я, вязнучы ў сыпучым пяску, адчуў сябе малым і ўбогім, як бяздомны жабрак, які ішоў у свет і не ведаў, дзе вечарам прытуліць галаву. Мяне агарнуў бязмерны жаль ад думкі, што бацькі далёка, а я вымушаны пакінуць дом і ўцякаць з Асташына, і першы раз у жыцці я зразумеў, як выглядае няшчасце. Я не памятаю, як мы дайшлі да Грабоўскіх, гэта частка дарогі прайшла цалкам па-за маёй свядомасцю, і затым я бачу сябе ўжо ў вялікай зале з беленымі сценамі і важнай старадаўняй мэбляй, даволі халоднай і пустой. З крэсла ля глыбокага аконнага праёма ўстаў пажылы пан, падышоў да мяне і безвынікова спрабаваў заняць мяне і пацешыць прысмакамі і цацкамі. Я не хацеў на іх глядзець, кінуўся да вокнаў і ў адным з іх убачыў як на далоні наш двор, акружаны прамавугольнікам таполяў, а над імі ізноў тую самую варожую хмару дыму з языкамі полымя, і пачаў плакаць голасна і роспачна. Граф Грабоўскі спрабаваў мяне супакоіць, але я зусім не памятаю, каб у гэтым як-небудзь удзельнічаў пан Лапушынскі ці нават каб ён знаходзіўся разам з намі; яго асоба цалкам стушавалася і знікла з гарызонта маіх успамінаў, як быццам бы яго ніколі не было. Відаць, ён больш думаў пра свае выгады, чым пра выхаванцаў, і, стомлены пераходамі, праспаў дзе-небудзь на бачку той страшны вечар, які для мяне быў адной працяглай тупой прыгнечанасцю.

Позна ноччу прыехалі бацькі і забралі мяне дадому. Маці моцна прытуліла мяне да сябе, як быццам бы ўжо страціла надзею, што знойдзе цэлага і здаровага. А я быў стомлены і спакутаваны настолькі, што не мог радавацца вяртанню з бацькамі дадому, у наш уцалелы дом, за які баяўся, што ён можа згарэць у агульным пажары. Гэта было зашмат для маіх дзіцячых сіл, я заснуў адразу ў дарозе, і жыватворны сон прынёс мне забыццё.

Назаўтра я прачнуўся са свежай галавой, абсалютна не памятаючы перажытыя напярэдадні ўзрушэнні, і са звычайнай ахвотай да жыцця, але засмучаныя твары бацькоў хутка напомнілі мне аб сумнай рэчаіснасці, а калі выйшаў на дзяцінец, то адчуў прыкры пах гарэлага, які распоўзся па ўсім двары і ўсюды пранік сваім агідным смаліста-кіслава-

тым смуродам. Было ў ім нешта злавеснае, нейкае выпраменьванне трывогі і паражэння, якое доўга насілася наўкола і нагадвала аб злавесным кашмары пажару. Шмат дзён пазней я ўсюды адчуваў гэты жудасны пах, які праследаваў мяне як неадступны знак няшчасця.

Але трывогі дзіцяці па праву гэтага ўзросту такія ж пералётныя, як майскія хмары, якія не могуць заставацца надоўга на сонечную радасць. Таму і ўва мне барацьба гэтых настрояў скончылася хуткай перамогай другога. Калі я бачыў каменныя вочы бацькі, прыкаваныя да папялішча спаленых будынкаў, калі глядзеў на заплаканы твар маці, якая безвынікова старалася яго развесяліць, тады ў мяне рабілася вельмі цяжка на душы і хацелася растапіць гэты невыносны цяжар у гарачых слязах ці пазбавіцца ад яго ў нейкай сардэчнай блізкасці. Але гэта цягнулася нядоўга: я не разумеў прычыны роспачы бацькоў, быў няздольны ахапіць матэрыяльны бок гэтага здарэння, і таму — павінен гэта прызнаць — праявы іх смутку мяне невымоўна радавалі і, не могучы нічога з гэтым зрабіць, я ўцякаў ад іх з палёгкай у сад, дзе так лёгка, так хутка аддаваўся сваім гульням, а з імі забываў аб усім, што не з'яўлялася радасцю і захапленнем. Гэта эгаістычнае адмежаванне ад чужых клопатаў не рабіла гонару маім сыноўнім пачуццям, але адлюстроўвала інстынкт самазахавання будучага мастака.

У наступныя пасля пажару дні пачаў дакладна праясняцца стан рэчаў. Відаць, гэта здарылася таму, што нехта з парабкаў страсянуў агонь у гумне. Пра наўмысны падпал, здаецца, не магло быць гаворкі, бо бацька не меў ворагаў і нікога ніколі не пакрыўдзіў. Першым загарэлася гумно, ад яго заняліся аўчарня і хлеў. Стайню разам з тым, што было ўсярэдзіне, уратавалі, як і ўратавалі ўсю скаціну, бо яна ў той час была на пашы. Але тры вялікія будынкі з мураванымі слупамі згарэлі амаль дашчэнту, бо засталіся толькі муры франтона і недапаленыя бярвенні. Невыразна прыкры быў выгляд чорных, абсмаленых і дымячых папялішчаў, у якіх доўгі час капаліся, дастаючы недагарэлыя рэшткі і раскладваючы іх у нейкім парадку для пазнейшага выкарыстання. Кіраваў гэтым бацька, які не разлучаўся з пажарышчам, а яго засмучаны твар абуджаў ува мне жаль, неспакой і страх у спалучэнні з няёмкасцю, бо я не ведаў, як суцешыць яго якім-небудзь сардэчным словам, якога я саромеўся і якое ніякім чынам не хацела сысці з вуснаў. Таму ў далейшым я ўцякаў з дому, дзе ўсюды панавала прыгнечанасць. Бацькі былі хмурыя і заклапочаныя, дамашнія маўчалі, і павінна было прайсці шмат дзён, пакуль паволі пачалі вяртацца былы спакой і жыццярадаснасць. Я тады не разумеў, што пажар пахіснуў падставы нашага быту, бо згарэла збожжа, сена, салома, таму не было з чым перазімаваць некалькім дзесяткам быдла і коней і не было чым пракарміць звыш дзесятка людзей і нас саміх. Не было нічога на продаж — абсалютна ніякіх даходаў, а нас чакалі аграмадныя расходы на адбудову спаленых будынкаў і набыццё знішчанага збожжа, прылад працы і посуду. Словам, былі змарнаваны здабыткі дзесяцігадовай цяжкай працы бацькі, што пагражала разарэннем, і не трэба здзіўляцца, што бацькі маглі ўпасці ў роспач і з цяжкасцю прыходзілі ў сябе пасля цяжкага выпрабавання.

Але Бог, які выпрабоўвае людзей, пасылае ім таксама радасці. Неўзабаве зведалі радасць і бацькі, калі суседзі даведаліся пра няшчасце і калі ў іх загаварыла традыцыйнае пачуццё салідарнасці, дзякуючы яко-



***Від двара ў Пярэсецы.*** *Здымак да 1911 г.*

му бацькі маглі пераканацца, як іх любяць і цэняць. Дапамога — добраахвотная, па ўласнаму жаданню, сяброўская — пасыпалася з усіх бакоў, і яе можна было прыняць без прыніжэння ўласнага гонару таму, што аказанне ўзаемнай дапамогі ў выпадку жыццёвых бед было распаўсюджаным звычаем сярод нашай шляхты, і бацька сам не раз гэта рабіў і добра ведаў, што пры першай магчымасці ізноў сам каму-небудзь дапаможа ўзаемна. Гэта было практычна арганізаванае прыватнае таварыства ўзаемазабеспячэння, якое не мела ніякіх іншых статутаў, ані выканаўчага бюро, апрача сумлення і чалавечнасці. Таму Чамброў і Шчэпаўшчына ўзялі перазімаваць большую частку быдла. Рэшту разабралі бліжэйшыя суседзі, хтосьці пазычыў насення збожжа, хтосьці іншы — саломы і сена, нарэшце, пан Маўрыцый Пратасевіч сам прапанаваў свайму пляменніку без працэнтаў вялікую суму наяўнымі. Кожны паспяшаў па меры магчымасці з якой-небудзь дапамогай, і так былі сяк-так задаволены першыя патрэбы пасля няшчасця, а бацькі мелі ў гэтай бядзе хоць тую ўцеху, што доказна пераканаліся ў чалавечай добразычлівасці. Дзядзька Антоній, які непакоіўся за бацьку, часта бываў у Асташыне, гатовы дапамагчы, наглядаў, каб бацька занадта не паддаваўся роспачы, не губляў ахвоту да працы, абуджаў у ім энергію, дапамагаў яму праектаваць адбудову спаленага двара, словам, рашаючым чынам удзельнічаў у аднаўленні нашай дамашняй раўнавагі. Доўгія асеннія вечары праводзілі браты над рахункамі і планамі, абмяркоўвалі планы, звязаныя з будучай будоўляй, закідваючы сталовы стол паперамі і падлікамі. Пры гэтым яны не раз суцішалі мае занадта шумныя гульні ў іх прысутнасці, якія асабліва не любіў дзядзька і на якія адразу рэагаваў суровым позіркам з-за акуляраў. У выніку гэтых нарад яшчэ да зімы пачалі звозіць з міранскага лесу дрэва на будоўлю і абчэсваць на гумнішчы бэлькі і кроквы; свежыя трэскі і стружкі неўзабаве прыкрылі чорны попел пажарышча і развесялілі яго сваім светлым колерам, а на працягу зімы пры добрым санным шляху падвоз будаўнічых матэрыялаў пайшоў яшчэ хутчэй. Да Міранкі было, папраўдзе, каля пяці міль дарогі, але лес быў уласны, складаўся з прыгожых, амаль мачтавых соснаў, таму было з чаго выбіраць. Забыты быў асенні смутак у прыліве энергіі, якую абуджалі гэтыя прыгатаванні, павесялелі і пасвятлелі твары бацькоў, і ўсё ў доме вярнулася да былога выгляду.

Пасля доўгіх нарад з дзядзькам Антоніем бацька рашыўся прымяніць пры адбудове новы спосаб, які ў нас яшчэ не ведалі: будаваць сцены з бітай гліны. Цагляны мур быў занадта каштоўны на нашы сродкі, сцены з дрэва лёгка гараць і, зрэшты, таксама не надта танныя. Затое гліны было ў Асташыне даволі, і добрага гатунку, прыклад жа Украіны вучыў, што глінабітныя будынкі — моцныя і трывалыя і выходзяць вельмі нядорага. А ад спаленых будынкаў у нас засталіся мураваныя слупы, і пабудова паміж імі гліняных сцен рабіла іх яшчэ больш грунтоўнымі. Я чуў гэтыя разважанні на працягу зімы шмат разоў, так часта, што хоць быў няўважлівы і меў чым-небудзь іншым забітую галаву, я запомніў іх дакладна.

Рана вясной пачалася гэта новая глінабітная работа, і яна выклікала ў ваколіцы зацікаўленасць, якая межавала з сенсацыяй. Гліну, замешаную з вадой і пасечаным ядлоўцам, мясілі конным катком, які апчаціўся калёсікамі, аж пакуль з яе не зробіцца густая аднародная маса, якую набіралі шуфлікамі на насілкі і пераносілі на месца будоўлі. Там

яе, як цеста, убівалі паміж дошкамі, складзенымі ў паз, і стваралі такім чынам усё вышэйшыя слаі, падымаючы дошкі па меры росту сцен. Гэта работа была няцяжкая, хуткая і танная, а гледзячы, як выраслі сцены гумна і хлява, бацька паціраў рукі і вяртаў сваю былую прамяністую добразычлівасць, калі ішоў з работы на абед дадому. Некаторыя суседзі сапраўды абуральнаківалі галавой на гэтыя «навінкі» і сцвярджалі, што «гліняныя муры» нічога не вартыя, бо пасля першага дажджу расплывуцца і разваляцца, але бацька не хваляваўся на гэты конт, бо грунтоўна вывучыў справу на практычных прыкладах і ведаў, што рабіў. Здзіўляюча шматбаковымі былі здольнасці бацькі ў сферы будаўніцтва, а ўсё апіралася на самавуцтва.

У мяне гэта бацькава майстэрства не абуджала асаблівага захаплення, бо, па-першае, яно датычыла сельскай гаспадаркі, якой я грэбаваў, а акрамя таго — я адчуваў, што яно мае сваёй мэтай выключна практычную карысць, што яно простае і ашчаднае, пазбаўленае якой-небудзь аздобы і эстэтыкі. Ужо тады ўва мне пакутавала падсвядомая туга па прыгожай форме рэчаў, і я лічыў нецікавым і нудным тое, што яе не задавальняла. Практычныя справы выклікалі ў мяне абрыдласць і бунтарскую пагарду, я не выносіў, напрыклад, размоў пра грошы, заробкі і матэрыяльную карысць, хоць дабрабыт, што акружаў мяне дома, я лічыў рэччу, якая мне належала і была неабходнай. Але гэтыя справы павінны былі вырашацца недзе за кулісамі і не выстаўляць на дзённае святло сваіх трывіяльных падрабязнасцей: з усёй дзіцячай наіўнасцю я здзіўляўся ў душы, што людзі могуць мець такі дрэнны густ, што забіваюць сабе галаву падобнымі сумнымі рэчамі. Ужо тады я пачаў выхоўваць сам сябе, а ці добра — гэта ўжо іншая рэч, але я выхоўваў сябе больш, чым гэта рабілі са мной бацькі і акружэнне. У выніку такога «самастойнага» пункту гледжання я даволі раўнадушна ставіўся да бацькавай працы, цікавіўся ёй толькі дзеля навізны ці забавы. Будоўля, аднак, была выключэннем, бо разам з ёй прыходзілі справы і прадметы, да гэтага невядомыя. Такімі з'яўляліся тыя глінабітныя будынкі, у якіх было столькі бацькавай працы і заслугі. З часам яны сталі мне блізкія і мілыя дзякуючы таму, што больш за ўсё нагадвалі мне бацьку, як і пах торфу, хоць сам па сабе не надта прыемны, але заўсёды меў для мяне нешта агульнае з асобай бацькі, з яго асабістым назіраннем за тым, як паліліся печы, і з летнімі работамі на копцы і сушцы торфу на лузе пад Баярамі. І так склалася, што потым ужо ўсё жыццё пах торфу і выгляд глінянай сцяны былі для мяне блізкія і кранальна мілыя, бо нагадвалі бацьку, амаль увасаблялі яго ў маіх успамінах, і да гэтых успамінаў вяртаўся тым ахвотней, чым я станавіўся старэйшы, а яны — больш блакітныя. Але хіба толькі адно гэта? Можна сказаць, што ўсё ў асташынскім двары мела гэту самую пячатку бацькавай асобы, бо ўсё там было ім дагледжана, абдумана, памножана і на кожным месцы, на кожным кроку сведчыла пра яго нястомныя старанні і намаганні. Увесь Асташын быў поўны працы майго бацькі, увесь быў помнікам вялікай працы гэтага ціхага, стараннага, нястомнага працаўніка, так недаацэненага ўласным сынам.

У маі 1886 года ўсе тры будынкі ўжо стаялі і свяціліся, як люстра, светла-жоўтымі плітамі новых гонтавых дахаў, ад якіх рабілася весела ва ўсім двары. Салідна цямнелі карычневыя гліняныя сцены з новымі дзвярамі і нанова атынкаванымі слупамі, і я круціўся па гумнішчы, узнёслы ад таго, што рабілася наўкола, і моцна зацікаўлены новымі

аспектамі гэтых падзей. Наступіла асвячэнне гатовых будынкаў ксяндзом — пробашчам Кодзем, які спецыяльна прыехаў з Варончы і ўрачыста акрапіў свянцонай вадой збудаваныя сцены, але найбольш мне ўрэзалася ў памяць закладка вуглавога каменя пад гумно на самым пачатку вясны, калі чатыры перапісаныя Евангеллі былі пакладзены ў бляшанку і змешчаны глыбока ў зямлю пад фундаментам вонкавага вугла гумна. Пры гэтым маці чытала малітвы, якія аддавалі пад Божую апеку наша гняздо, і асабліва гэту будоўлю. Я любіў глядзець на маці, калі яна ўголас малілася з намі, і верыў, што яе просьбы будуць пачуты Панам Богам хутчэй, чым якія-небудзь іншыя.

Бацькі вырашылі адзначыць заканчэнне гэтага будаўніцтва, відавочным чынам уцякаючы пад крыло Божай апекі і паставіўшы ля ўезда ў двор крыж, якога дагэтуль не было, бо пасля паўстання нават звычайныя драўляныя крыжы ў дварах былі забаронены і сурова праследаваліся. Аднак бацька не звяртаў на гэта ўвагі, тым больш што мясцовая паліцыя была дастаткова куплена хабарам і ён мог разлічваць на яе паблажлівасць. Таму выбралі самае лепшае месца ля ўезда насупраць бярозавай алеі на скрыжаванні, дзе раслі дзве бярозы, і ў іх засені ўзнёсся крыж, пафарбаваны ў белы колер, з фігурай Збавіцеля, а маці занялася ўстаноўкай ля яго лаўкі і абсадзіла кустамі і кветкамі. Верх крыжа бялеў здалёк і прыцягваў вочы, бо нават з сярэдзіны дзяцінца ён быў відаць, і тыя, хто праязджаў па дарозе, набожна хрысціліся, калі бачылі яго.

Быў канец чэрвеня, здаецца, дзень святога Яна, калі вечарам мама ўзяла мяне за руку і павяла першы раз па алеі да новага крыжа. Там, укленчыўшы, яна доўга малілася сама, потым прачытала разам са мной «Пад Тваёй аховай», нарэшце села на лаўцы, прытуліла мяне і пачала гаварыць пра падзеі мінулага года. Гаварыла пра гэты страшны пажар, які мог знішчыць увесь двор разам з нашым домам, гаварыла пра цяжкія выпрабаванні мінулай зімы, пра тое, як Божая ласка і людская дапамога дазволілі нам выйсці з бяды і выратаваць наш быт. Гаварыла доўга, ціха і салодка пра тое, як трэба любіць гэты дом і гэту зямлю, як працаваць з напружаннем усіх сіл, каб у нас іх не забралі, як дзякаваць Богу, што ён дае нам здароўе і сілу для гэтай працы, што дазваляе нам жыць на сваёй зямлі спакойна, годна і богабаязна... Я не ўсё разумеў са слоў мамы, але слухаў яе ўсхваляваны, бо бачыў слёзы ў яе вачах, адчуваў дрыжанне яе голасу і поціск яе рукі, а голас, нягледзячы на прыглушанасць, гучаў паважна і ўрачыста, як запавет, які старэйшае пакаленне перадае малодшаму, і трапіў мне ў сэрца, дзе былі толькі ўласныя эгаістычныя прыхільнасці...

Наўкола стаялі доўгія блакітнаватыя цені, а сонца пасля гарачага і рознакаляровага летняга дня заходзіла спакойна, афарбоўваючы гарызонт высокім чырвоным заравам. Моцна пахлі скошаныя травы і цвітучыя ліпы, а наводдаль на мокрым лузе корпаўся дзяркач і выкрыкваў раз-пораз свае балбатлівыя дыялогі. Са словамі маці і з вячэрняй цішай у маю душу сыходзіла нейкая палёгка, нейкае замілаванне і ціхая ўдзячнасць Богу за тое, што ўсё менавіта такое, як у гэтую хвіліну, што ён пасылае мне гэта і захоўвае, і дазваляе быць шчаслівым побач з любімымі бацькамі... Мне было жаласна і маркотна, бо я бачыў яшчэ рэшткі слёз на твары маці, але ў гэтым смутку я адчуваў нейкае добрае і мяккае супакаенне, блізкае да шчасця, і горача і шчыра дзякаваў за яго Богу... Магчыма, гэта была першая мая сапраўдная малітва...



**Возера Свіцязь.** *Здымак да 1912 г.*

Не ведаю, ці ў тым годзе ў бацькоў істотна дадалося клопатаў, ці я з узростам станавіўся больш назіральным, лепш разумеў падзеі, якія прыносілі змены часу. Даволі таго, што ў наступным, 1886-ым усплыла справа «зямлі Верашчакаў», якая ўзрушыла бацькоў да глыбіні і нават у маю свядомасць увайшла выразна і трывала. Зямля Верашчакаў — гэта быў чужы луг, які знаходзіўся тут жа каля нашага двара і ўваходзіў анклавам у нашы землі. У выніку гэтага ён быў нам выключна патрэбны, яго нельга было нічым замяніць і трэба было далучыць да Асташына любой цаной. Перад гэтым лугам знаходзіўся наш уласны, які звалі Селішчам і які быў адразу за ўязной грэбляй у двор, там, дзе ўзвышаліся рады аграмадных надвіслянскіх тапалеў, якія акружалі ўвесь двор і сваёй цудоўнай разложыстасцю надавалі яму выразны сілуэт высокага чатырохвугольніка. Гэтыя два лугі стваралі адно цэлае размежаванне толькі парай ніцых вербаў. За вербамі, уласна кажучы, быў анклаў Верашчакаў, які сяляне называлі «Раецкае», бо да Верашчакаў Райца належала сям'і Раецкіх. Уладальнікам было задалёка, каб апрацоўваць яго ўласнаручна. Таму ад незабыўных часоў здавалі яго ў арэнду Асташыну. Знаходзячыся шмат гадоў у добрых руках бацькі, ён, урэшце, быў выкуплены бацькам, але, вядома, толькі пад прыватную распіску ў форме вечнай арэнды, і то ў вялікай тайне, бо выкрыццё гэтага злачынства мела б для абодвух бакоў вельмі нядобрыя наступствы. Палякам і католікам, ці «лицам польского происхождения», ва ўсім нашым краі не дазвалялася набываць зямлю, і кожная падобная трансакцыя пасля таго як стане вядомай, была б скасавана, а тыя, хто яе здзейсніў, — сурова пакараны.

Абодва лугі, якія складалі адно цэлае пад назвай «Селішча», былі маім любімым месцам знаходжання, гэтак жа, як узгорак ля кальвінскага касцёла. Тут, праўда, від не быў такі шырокі, бо з усходу луг абмяжоўвалі далматоўскія ўзгоркі з бярэзнікам на гарызонце, а з захаду — таполевая сцяна нашага двара, але менавіта такое размяшчэнне надавала яму поўную прыгажосці зацішнасць, каляровую, мяккую і пахучую. Пасярэдзіне цёк ручай, такі невялікі, што нават я мог пераскочыць, а берагі ручая буйна зараслі незабудкамі, якія сплывалі да вады блакітным разлівам. Воддаль пераліваўся і іскрыўся луг ад самых розных кветак, якія выглядвалі з высокай буйнай травы, дзе мая невялікая асоба хавалася цалкам і адчувала сябе выдатна ў зялёна-каляровай калыханцы, як у некранутым лесе. Я любіў хадзіць туды ў чэрвені кожны дзень, і не раз нават мяне пускалі на Селішча аднаго. Я прывык лічыць яго нечым уласным, як Асташынскі сад, царствам маіх гульняў і фантазій, падуладных маёй волі, паслухмяным усім капрызам і вельмі блізкім сэрцу. Хто ведае, ці не было Селішча яшчэ бліжэйшае мне, чым сад, як больш прасторнае і квяцістае, якое давала пачуццё яшчэ большай свабоды і незалежнасці ў выніку аддалення ад дома. Гэта было так прыемна — застацца аднаму, быць цалкам адрэзаным ад нецікавых хатніх спраў, пакінутым пад асабістую адказнасць, быць захопленым рознымі эмацыянальнымі адкрыццямі ў свеце траў і насякомых. Вочы радаваліся сіняве незабудак, нясмелай і баязлівай, як дзіцячая малітва, амарантавай чырвані смолак, ліпкіх ад мядовага соку, іржавай зеляніне конскага шчаўя, што ўзвышалася меднымі султанамі над усім раслінным брацтвам і патанала ў разнароднай каляровай мазаіцы, якая засцілала луг. А потым ад траў вочы пераходзілі да насякомых, каб сачыць то за кропкамі на крылах божай кароўкі, якая ўзносіцца ў палёт, то за худымі

нагамі палявога коніка, які пружыніста скакаў вышэй травы, то за светлым роем матылёў-капуснікаў, адрозніваючы ў іх звычайным натоўпе чырвоных адміралаў з прыгожай яркай афарбоўкай.

Немагчыма падлічыць усю красу павеўнага, поўнага шэлесту, пахучага Селішча, і не аб гэтым падліку, зрэшты, гаворка, і так я не пералічыў бы ўсіх кветак і сцяблінак, усіх матылькоў, мошак і жучкоў, якія мне там рабілі мілейшым жыццё, бо імя іх было — легіён, бясконцасць. Але ўсіх іх я разглядаў уважліва і прыхільна, усе здаваліся мне ў пэўны момант цікавай з'явай, часам дзіўнай і незвычайнай, не раз — цудоўна прыгожай, выклікалі ўсмешку захаплення і доўгія гадзіны сузірання і разглядвання. Гэта была не толькі забава дзіцяці, я проста жыў з імі ўсімі ў штодзённым кантакце і бачыў у іх любімых сяброў, ім быў абавязаны больш узрушальнымі і памятнымі перажываннямі, чым якім-небудзь людзям. Цяжка расказаць, як гэта адбывалася з тымі забавамі на лузе, бо, уласна кажучы, там не адбывалася нічога асаблівага: па небе кружыліся са шчэбетам ластаўкі і пралятали белыя кучавыя хмары, веяў вецер і калыхаў сцяблінны траў, кветкі моцна пахлі на сонцы і давалі прытулак гудучым пчолам і чмялям, а я, схаваўшыся ў высокіх травах, глядзеў, цешыўся і быў шчаслівы легкадумным шчасцем дзіцяці, якое разгулялася, такі бязмерна шчаслівы, што забываўся пра гульні, дом, бацькоў і ўвесь свет... І гэта ўжо было ўсё, толькі гэта, і, аднак, яшчэ сёння Селішча здаецца мне зямным раем, самым прыгожым на свеце, а праведзеныя там хвіліны — безупыннасцю цудоўных прыгожых гадзін, з якімі нішто ніколі не магло зраўняцца...

Дарэмна сіліцца апісаць: мне не стварыць сапраўдны вобраз гэтага майго лугу, бо сёння для мяне ён быў толькі адзін такі на ўсім свеце і існаваў толькі тады, калі я быў васьмігадовым дзіцём; потым знік, каб ужо больш ніколі не паўтарыцца ў сваім прымроіўшымся выглядзе. Зрэшты, тут справа не ў вобразе, а хутчэй у тым, што ён мне нашэптваў, у пабуджэнні да фантазіравання, у тым, каб адпусціць цуглі фантазіі, у першай спробе творчасці, якая з'яўляецца самай любімай забавай дзіцяці, бо ставіць яго нароўні з мастаком, з гэтым самым паўнацэнным чалавекам. Я не сумняваюся і раблю націск на гэтым параўнанні: кожнае дзіця мае ў сабе пачаткі мастацкай творчасці, схільнасць да яе і патрэбныя здольнасці, толькі жыццё гэтыя парывы часцей за ўсё ўтаймоўвае і знішчае, не дазваляе ім развівацца. Луг і сад давалі мне шмат магчымасцей ствараць з іх жывога зместу штосьці цікавае, сенсацыйна небывалае. З гэтымі новымі творамі фантазіі я насіўся доўга, радаваўся ім, як каштоўным набыткам, і сквапна ўплятаў іх у кола свайго жыцця, якое станавілася поўнае ўражанняў і ўзрушэнняў, багатае на прыдуманы змест, але для мяне цалкам рэальнае. Сад і луг пабуджалі дзіцячую фантазію ствараць гэтыя вобразы, каб супрацьпастаўляць іх паўсядзённай рэчаіснасці. У пялёстках браткаў я бачыў людскія твары і звярыныя пашчы, вясеннія фіялкі свяціліся для мяне з рудой леташняй травы дзіцячай усмешкай, якая запрашала да сумеснай гульні. Нейкая звычайная з няроўнымі краямі раслінка, якая, калі надломіцца, выдзяляе светла-жоўты сок, атрымала павышэнне да небяспечнай атруты з назвай «курарэ», хоць гэта было звычайнае зелле з-пад плоту, што называлі «ластаўчынай травой». Я разразаў разам з малой Анцяй сцябліны і насенне раслін, змешваў іх у розных камбінацыях, і гэта называлася гульнёй у аптэку. Гэтымі лекамі мы частавалі адзін аднаго альбо ратавалі пашкоджанае

здароўе дзяцей з фальварка. У сліўняку, дзе рос хмель і лопух, я знаходзіў патаемныя месцы для хованак, падзеленыя тунэлямі і пераходамі, і планаваў у іх засады і напады, ад якіх стыла кроў у жылах. Сярод насякомых, якія роіліся там, я бачыў страшных скарпіёнаў і тарантулаў і ўпіваўся трывогай, якую абуджала ўва мне думка аб гэтых страшных стварэннях. На кустах пахучага бружмелю каля дома вечарамі ляталі чырвоныя начныя матылі з непамерна рухавымі крыламі, якія стваралі вакол іх нейкі рыжы арэол. У вячэрнім змроку яны выглядалі крыху дзіўна, і я глядзеў на іх з забабоннай трывогай, змешанай з дражнячай цікаўнасцю, і ўяўляў сабе, што гэта — нейчыя пакутуючыя душы, заклятыя ў гэтыя дзіўныя вобразы.

Мой прасторны сонечны луг рабіў на мяне ўражанне больш мяккае і лепшае, чым цяністы сад, поўны здзічэлых зараснікаў. У ім было менш таемна, але было больш колераў і прасторы. Ручаёк, які плыў праз луг па вузкаму руслу і быў зарослы незабудкамі, здаваўся мне ракой, што вяла бледна-блакітным шляхам да недалёкага мора. Гэта мора павінна было пачацца адразу за вербамі, што стаялі на краі. Вербы зацянялі крынічку, а вакол яе было блакітна ад незабудак, і яны таксама размаўлялі са мной і красаваліся бірузовымі вочкамі і жоўтымі зрэнкамі. На маім лузе не было недахопу нават у трапічных пальмах: іх ролю адыгрывалі шырокія парасоны моркаўніку, якія ўзвышаліся над усімі травамі, не выключаючы шчаўя, і толькі часам я сумняваўся, ці не з'яўляюцца яны хутчэй бразільскімі піньёрамі[1]. А ўжо завіткі хмелю ў садовым сліўняку, шурпатыя і чаплястыя, з усёй пышнасцю ўяўлялі сабой паўднёвыя ліяны і прыцягвалі маю ўвагу фантастычнай рухавасцю і дыяпазонам сваіх выгнутых гірляндаў. Калі, аднак, гаварыць пра ўражанні, якія я атрымліваў ад асобных кветак, то мне прыносіў іх больш сад, дзе макі ўспыхвалі чырвоным полымем, бутоны ружаў румяніліся, як дзявочыя губы, а кусты півоняў пышна кучаравіліся вялікімі белаваружовымі ядрамі. Нерасцвіўшыя бутоны півоняў мелі акругласць чалавечых галоў, пасаджаных на танюсенькія шыі, па іх хадзілі адзін за адным вельмі занятыя мурашкі і правакавалі мяне, каб я іх скідваў прэч, бо яны псавалі кветкі сваімі карагодамі. Я асабліва любіў прытуліць шчаку да расцвіўшых півоняў, каб фізічна адчуць іх атласную цудоўна-пяшчотную гладкасць, і гэтыя прыбліжэнні былі падобны ледзь не на пацалункі. Увогуле, я палка любіў кветкі, да бяспамяцтва, неяк інакш, чым гэта бывае звычайна, бо справа была не толькі ў іх колеры і выглядзе, але яшчэ ў розных нечаканых асацыяцыях, якія я прыдумваў з іх дапамогай. Так ці інакш, кветкі абуджалі ўва мне вельмі гарачыя пачуццёвыя парывы, паглыналі маю фантазію амаль дэспатычна, я заўсёды бавіўся з кветкамі, любаваўся імі, і гэта кантактаванне надавала асаблівы тон майму дзіцячаму жыццю, тон мяккі, прыглушаны і крыху містычны.

Аднак гэта не азначае, што я лічу сябе нейкім выключным дзіцем, аддадзеным выключна тонкаму парадненню з прыродай. Вядома, у мяне хапала свавольства, каб трапляць у іншую крайнасць і дазваляць выхадкі не вельмі далікатнага характару, чаму вельмі спрыяла адсутнасць добрых манер у сяброў і кантакт з сялянскімі дзецьмі. Падштурхоўвала мяне звычайна да гэтых выхадак кампанія равеснікаў і жаданне пахва-

[1] Відавочна, гаворка ідзе пра araўкарыю.

ліца перад імі сваёй сілай, якая была хутчэй звычайнай разбэшчанасцю. Аднак калі я заставаўся адзін, адразу скідаў гэту маску грубасці і вяртаўся да самотнага і сузіральнага настрою; у адно імгненне з разбэшчанага свавольніка я ператвараўся ў мяккага і ціхага хлопца, занятага карцінамі прыроды ці малюнкамі ўласнай фантазіі.

Цвіценне раслін звязвалася для мяне з календаром і порамі года з кранальнай сілай. Тужліва чакаў я хвіліны, калі чорныя сілуэты вербаў пачнуць апушвацца танюсенькай зеленаватай імглой, а іх пупышкі — выпускаць шаўковыя «коцікі». Я з радасцю сустракаў першыя фіялкі, што блішчалі ў траве на садовай тэрасе, бо для мяне яны ўвасаблялі прыход вясны, неабвержна сведчылі, што ўжо скончылася зімовая няволя і бясколернасць, і давалі абяцанні, ад якіх мне рабілася светла і шматколерна ў душы. Расчулена глядзеў я на першыя парасткі зімовых кветак, якія вылазілі з зямлі на клумбах шчаціністымі радамі, і правяраў, як набухаюць пупышкі на агрэсце і прадвяшчаюць, што хутка зазелянее сад. Кожная такая заўважаная перамена, кожны крок наперад у вясеннім развіцці я сустракаў сардэчнай усмешкай, бо яны прыносілі ўпэўненасць, што зараз пачнецца шэраг усё цяплейшых дзён, якія прынясуць новыя дары. Сэрца заходзілася ў захапленні ад думкі пра шчасце, шчасце такое вялікае, такое поўнае, што аж цяжка было яго сабе ўявіць. Я жыў, як у казцы, у нейкім цудоўным свеце здзяйснення ўсіх жаданняў, жыў, абсыпаны міласцю вясенняй дабрадзейнай сілы здзяйсняць жаданні адразу, меў перад сабой куфэрак неабмежаванай радасці, які штодзённа павялічваўся, і чэрпаў з яго поўнымі жменямі. А куфэрак быў невычэрпны і яшчэ множыўся і багацеў з цягам часу. Кожны дзень прыносіў нешта новае і захапляючае, і гэтыя змены ў прыродзе былі заўсёды адзначаны свежым роквітам, нейкімі каляровымі сюрпрызамі, і яны ўзорыста аздаблялі бег майго шчаслівага часу, падобна да таго, як бліскучыя пачатковыя літары ўпрыгожваюць лісты старога пергаменту.

Гэта было адно свята, якое ніколі не заканчваецца. Радасць жыцця кіпела ўва мне і пералівалася, як ігрыстае віно праз край крыштальнага кубка, шумела, як вясеннія віхры, уздымалася, як летняя навальніца, трымала мяне ў пастаянным напружанні ў стане экстазу. Я прагнуў моцна, горача, нясцерпна і згараў ад гэтай нецярплівай прагі ўсё убачыць, усяго дачакацца, усё пражыць як мага паўней і хутчэй. Раніцай я прачынаўся з думкай пра кветкі, турбаваў бацькоў, каб рана ўставалі, не мог дачакацца хвіліны, калі мне можна будзе бегчы ў мой сад і на мой луг. І калі я ўжо аказваўся там, не мог здаволіцца і нацешыцца пупышкамі, што расчыняліся да сонца, як здзіўленыя вочы, і праводзіў гадзіны ў нястомнай малітве перад якой-небудзь купкай сярэбранай мятліцы, перад якім-небудзь жучком з залацістымі крыльцамі. Немагчыма было даклікацца мяне, каб паесці, і калі б можна было, то я б поўнасцю адмовіўся ад ежы і сну і ўсяго, што знаходзілася па-за гэтым кругам шчаслівага ашаламлення, па-за гэтым шалёным зачараваннем, якому я аддаваўся з такім бяскрайнім, палкім выключэннем... Ранішняе сонца я сустракаў як дабрадзейнае бажаство, доўгі летні дзень праводзіў як адну хвіліну, атрымліваючы асалоду ад дароў сонечнай міласці, а ўвечары, калі сонца заходзіла, змрок апускаўся на мяне, я гаснуў разам з сонцам і са сціснутым сэрцам дазваляў адвесці сябе ў безнадзейнасць ночы, у сум і пагрозу змроку. Я баяўся і ненавідзеў начную цемру за тое, што яны забіралі маё яснае сонечнае шчасце кожны дзень, і не раз доўга не мог заснуць, пакутаваў ад тугі па мінулым дні і ўспамінаў яго цудоўную

імгненнасць. Адзінай радасцю была думка, што ранак вернецца, сонца заблішчыць ізноў і пакліча мяне ў сад на новыя забавы і гульні, на новыя адкрыцці і захапленні. І так ішлі чароўным ходам гэтыя летнія дні, нібы рад апалавых жамчужынак, нанізаных на светлую нітку шчаслівай дзіцячай долі...

Калі я пішу гэтыя словы, што пабляклі ад частага, празмернага ўжывання, я разумею, што яны не маюць ніякага дачынення да прадмета, які я хацеў бы тут падаць з усёй сілай маіх тагачасных адчуванняў. Я разышоўся наконт захаплення нейкімі летнімі кветкамі і забаў з імі з адзінай толькі мэтай — каб пры гэтымі ўхапіць істотны змест тых гадоў: тыя няўлоўныя чары сонечнага бляску і дзіцячага захаплення, якія не паддаюцца апісанню, тую бесклапотную летнюю свабоду, тую яснасць і каляровасць зямлі, неба і маёй нічым не парушанай долі. Усё гэта выпраменьвалася ў нейкую вышэйшую палкасць, сплятался ў нейкую незвычайную квяцістасць, ператваралася ў песню радаснага ўзнясення, якая сапраўды мела ў сабе нешта ад паднябесных анёльскіх хораў, такая яна была чыстая і белая, салодкая і нявінная. Таму можа лепш будзе сказаць, што хоць і лета, і луг, і кветкі былі, напэўна, такія самыя, як усюды, але ўва мне была выключна моцная здольнасць адчуваць шчасце, і ў спосабах гэтага адчування знаходзілася нейкая іскарка прыгажосці, сапраўднай прыгажосці, бо яна ўвесь час жыве ва ўспамінах і бессмяротна, пастаянна размнажаецца і адраджаецца, як цудоўныя хлебы.

А з чаго ж нараджаецца прыгажосць, як не з любові? Ва ўсякім разе Норвід ужо даўно сказаў, што «прыгажосць — гэта вобраз любові». Вось, напэўна, ключ да ўсіх пытанняў, якія столькі разоў я задаваў на гэтых лістах у пошуках сутнасці асаблівых чараў майго «краю дзіцячых га-



***Свіцязь у месячную ноч.*** *Здымак да жніўня 1908 г.*

 доў». Можа, выпадак падараваў яму большае багацце форм, большую разнастайнасць паверхні, чым іншым ваколіцам краю, але не ў гэтым сутнасць рэчаў. Самыя прыгожыя карціны прыроды здаюцца халоднымі і сухімі, пакуль мы не ўстановім з імі нейкую пачуццёвую блізкасць. «Le paysage est un état d'âme»[2], — слушна сказаў Анры Бардо, бо ніколі прырода не бывае такой прыгожай, як яе адлюстраванне ў чалавечай душы. Так было і з маёй роднай зямлёй, з нашым цудоўным Асташынам, з маім квяцістым лугам на Селішчы. Прыгажосць, створаная пульсаваннем людскіх сэрцаў, прыгажосць любові авявала яе гэтым невымоўным цудам, які я тут безвынікова імкнуся перадаць.

П р ы г а ж о с ц ь   л ю б о в і — гэта завяшчанне маіх продкаў і спадчына маіх бацькоў. Яны перадалі мне яе самым пераканаўчым спосабам, бо зрабілі гэта ўласным падсвядомым прыкладам. Яны любілі зямлю, любілі дамашняе гняздо, любілі птушак, што раслі ў гэтым гняздзе. Для гэтага пісклянаці яны ўмацоўвалі і ўпрыгожвалі гняздо, дзеля яго пазбавіліся ўсіх асабістых жаданняў і працавалі з напружаннем усіх сіл. Яму прыносілі, як тыя птахі-карміцелі, ежу і ахову, баронячы гняздо ад варожай напасці, і сцераглі яго спакой. Дзеля яго дабра аддавалі ўсіх сябе безагаворачна... Ці ж магло такое самаспаленне ў любові застацца без творчых наступстваў?..

Некалі мая бабка распланавала і засадзіла двор у Асташыне, унёсшы ў запушчаную сядзібу лад і аздобу. Бацька ў год майго нараджэння заклаў новы пладовы сад з думкай, што адначасова будуць падрастаць і яблыні, і сын, які некалі будзе гуляць у іх цені. Маці рабіла на тэрасах саду прыгожыя сцежкі і альтанкі, а перад вокнамі дома рассыпала цэлыя дываны каляровых кветак, як быццам бы прадчувала будучыя прыхільнасці дзіцяці і хацела іх тым самым прыспешыць. Урэшце, бацькі, не спыняючыся на старым дамашнім гняздзе, выпесцілі ў думках і ўвасобілі ў рэальны вобраз новае гняздзечка, яшчэ цяплейшае і ўтульнейшае, — збудавалі побач з домам так званую «прыбудоўку», і сцены гэтай прыбудоўкі схавалі таямніцу іх сямейнага шчасця, напоўніліся адгалоскамі іх шэптаў і прызнанняў, іх малітваў і ўздыхаў, іх радасці і смутку.

Так развівалася і ўпрыгожвалася гняздо, станавілася ўсё больш вартым прыняць узнагароду п р ы г а ж о с ц і,   н а р о д ж а н а й   к а х а н н е м. Кожнае пакаленне прыносіла ў гняздо сардэчную дань працы і клопату, любові і прысвячэння. Адпаведна гэтай дані фарміравалася само гняздо, расло яго багаццем, прыгажэла яго ахвярнасцю; убірала ў сябе цяпло, солад пачуццёвых парываў і праз гады насычалася імі так, як старая яліна — бурштынавай жывіцай, што капае з шурпатых шчылін патрэсканай кары. Там не гінула ніводная добрая думка, не праходзіў бясследна ніводзін уздрыг вернага сэрца: усё складалася на благаслаўлёны спакой гнязда, поўны жыццярадаснасці і дабраты, ператворанай у п р ы г а ж о с ц ь   л ю б о в і.

Бо не з раслін і кветак Асташына, не з яго цяністых закуткоў і сонечных лугоў чэрпаў я тады сваё радаснае шчасце: я браў яго з бацькоўскай любові, якой было перапоўнена сямейнае гняздо, гэты містычны Д о м, збудаваны з людскіх душаў на фундаментах сэрцаў. З клопату бацькі, з сэрца маці нарадзілася хараство і дома, і зямлі, і маіх дзіцячых захапленняў.

[2] Пейзаж — гэта царства душы *(фр.)*.

Больш за ўсё гэтых захапленняў мне прыносіў чэрвень, мой любімы месяц, які асыпаў свет незлічоным багаццем летняга буйства. Пасля вясновага бэзу і акацый у садзе з'яўляліся язмін, півоні і ружы, а на Селішчы даспяваючыя травы ўтваралі з яго ўзорысты дыван, які гарэў на сонцы мешанінай усіх колераў. Асабліва я любіў збіраць там кветкі перад святам Божага Цела і разам з маці сплятаць з іх вяночкі. Мы іх завозілі потым у Варончу і клалі на алтары, каб іх пасвянціў ксёндз. Гэта адбывалася на восьмы дзень пасля позняй абедні. Мы вельмі сачылі за нашымі дзевяццю вяночкамі, туга сплеценымі і пахнучымі асташынскім лугам, і забіралі іх беражліва назад дадому, дзе яны лічыліся талісманам супраць злых сіл. Падвешаныя ў сенях, яны павінны былі ахоўваць дамашніх ад бур і перуноў, а закапаныя па чатырох вуглах засеянага поля — ратаваць збожжа ад градабою. Не ведаю, ці выконвалі гэтыя паважаныя вяночкі ўсё, што ад іх чакалі, але мы свята верылі ў іх чарадзейную сілу і з пакорным уздымам духу складалі іх на алтары, калі выходзіла працэсія, калі гучалі пераможна арганы, а харугвы выраcталі наўкола каляровым лесам, развіваліся і калыхаліся ў сонечнай славе, падсіненай дымам хвалебных кадзілаў.

Асаблівай любоўю я адорваў час ад Божага Цела да Святога Яна, бо ўжо ведаў ад бацькоў, што гэта самы прыгожы адрэзак лета, час самых доўгіх дзён у годзе, калі сонца стаіць высока, заходзіць позна і толькі накоратка расстаецца з намі на некалькі начных гадзін, светлых да зары. Я проста адчуваў любоў да любімага сонца, што яно так доўга застаецца з намі, і радаваўся прыгнёту ненавіснага начнога кашмару на карысць прыгожага прамяністага дня. Ніводная каляндарная з'ява не была для мяне так лёгка зразумелай, як гэта прыбыванне дня: я атрымліваў асалоду ад думкі, што з кожным днём сонца свеціць усё даўжэй, і адначасова разам з дзённым святлом само, без чыйго-небудзь удзелу, расце, павялічваецца і маё шалёнае летняе шчасце... Што так будзе яшчэ доўга, аж да куццi святога Яна Хрысціцеля, да белай ночы Купалы, калі расцвітае казачная кветка-папараць, якая адчыняе доступ да скарбаў, схаваных у лясных падзямеллях, а ў блакітным паўзмроку бушуюць вызваленыя патаемныя сілы і зводзяць людзей у зман. Праўда, я ведаў, што потым дзень пачне паволі зноў змяншацца і лета будзе пераходзіць у восень, але пра гэта я не хацеў думаць, захоплены гэтай хвілінай, і жыў ёю з адмысловай легкадумнасцю. Я тады не верыў ні ў які блізкі канец ці цемрадзь, верыў толькі ў ясны, прамяністы дзень, поўны бязмежнага шчасця, які ніколі не канчаўся. Я прымаў яго дары як абавязковую даніну ў перакананні, што адзінаму дзіцяці маіх бацькоў у Асташыне па праву самога яго існавання належыць усё самае прыгожае на свеце. Здавалася, што менавіта таму мне было дадзена імя Ян, каб яно мне прыносіла і папарацькветку, і іншыя прыгожыя кветкі, і ўсялякае летняе шчасце Святога Яна. Я быў падсвядома горды гэтым імем, сапраўды добрым, простым, прыгожым, якое нельга параўнаць ні з якім іншым, хоць я не змог сфармуляваць гэту думку больш выразна. Не было, аднак, нічога караццейшага за яго, гучнейшага, больш вартага, гэтаксама як не было месяца, прыгажэйшага за чэрвень, і круглейшай, больш гарманічнай і закончанай даты, чым дзень дваццаць чацвёртага чэрвеня, дзень Святога Яна Хрысціцеля. Я вельмі ганарыўся, што мае імяніны прыпадаюць на гэты пераломны дзень, калі гарачэй за ўсё свеціць сонца, цудоўней за ўсё расцвітаюць кветкі і ўвесь Асташын становіцца падобным на рай са Старога Запавету, падараванага першым людзям дзеля ціхамірнага шчасця.

Гэту прыхільнасць яшчэ павялічвала лічба «24», якую я лічыў самай цікавай з усіх, адзінай у сваім родзе, найбольш выразнай і закончанай. З дзіцячых гадоў я меў да яе асаблівую прыхільнасць, лічыў яе шчаслівай датай, і гэта перакананне засталося ў мяне на ўсё жыццё. Дваццаць чацвёрка адплаціла мне вернай узаемнасцю, не падвяла ніколі, а ў некаторыя важныя хвіліны майго жыцця цалкам апраўдала сімпатыю, якую абуджала ўва мне. Я амаль любіў гэту чарадзейную лічбу, любаваўся яе гучаннем, графічным выглядам і камбінацыямі, якія яна мне падказвала. Бо 24 — гэта азначала два тузіны, чатыры шасцёркі, дванаццаць двоек, гэта былі дзве парныя лічбы, якія выступалі ў падвойным рытме, яны памнажаліся паміж сабой і дзяліліся без рэшты, лічбы збалансаваныя, спакойныя і прыстойныя, свабодныя ад вераломнай заблытанасці тройкі і дзесяткі, лічбы гладкія, лёгкія, прыхільныя, якія прадказвалі ўсё самае лепшае, лічбы, не падобныя на варожыя кампазіцыі 93, 13, 31 і 39, якія ў гэтай паслядоўнасці адыгралі ў маім жыцці фатальную, амаль трагічную ролю, былі прадвяшчальнікамі шматлікіх няшчасцяў і ўжо ў дзяцінстве выклікалі мой недавер і страх. Бо мая маці памерла 13 чэрвеня 1893 года, гэта значыць пры самых горшых камбінацыях гэтых лічбаў; бацька мой у 1903 годзе перажыў прыступ паралічу, які праз два гады скончыўся яго смерцю. Хоць яшчэ шмат раней перад гэтымі датамі я перажыў узрушэнне, чытаючы змрочную кніжку Віктора Гюго са злавеснай назвай «L'an quatre-vingt treize»[3], і гэта назва мела для мяне нешта фатальнае. Затое з дваццаць чацвёркай я сутыкаўся спакойна і з поўным даверам. Яна звязвалася нават з «выключна важным і шчаслівым» фактам майго нараджэння, якое адбылося ў 1876 годзе, гэта значыць за 24 года да канца стагоддзя, што павінна было быць не без нейкага значэння, а ў любові да гэтай лічбы мяне ўмацоўвала назіранне, што і суткі маюць 24 гадзіны, і кожны дзень майго шчаслівага жыцця дзеліцца на столькі ж частак. І з усяго гэтага бясспрэчна вынікала, што цэнтральны дзень усяго года, найважнейшы дзень маіх імянін Святога Яна не мог выпасці калі-небудзь інакш як толькі 24 чэрвеня. Гэтых перакананняў я набіраў, вядома, не без дапамогі бацькоў, якія святкавалі гэты дзень надзвычай урачыста. Для мяне не шкадавалі тады ласункаў, падарункаў і абсыпалі маю невялікую асобу доказамі ўсеагульнай увагі, як якога-небудзь іспанскага інфанта, што я прымаў з вялікай прастатой, як рэч, што разумелася сама па сабе. І нягледзячы на гэта, я не быў карысталюбцам, можа, таму, што мне не давалі магчымасці развіваць у сабе гэтую рысу, папярэджваючы кожнае маё жаданне. Калі мяне неяк спыталі, што я хацеў бы атрымаць на імяніны, я адказаў не раздумваючы, што прасіў бы вянок ружаў і язміну, хоць такі дробны падарунак мог бы атрымліваць таксама і ў кожны будні дзень. Праўда, што за язмінам я гнаўся дзеля яго паху, якім упіваўся да бяспамяцтва, утуляючы твар у вязанку расцвіўшых галінак і прыплюшчваючы вочы, каб яшчэ мацней адчуваць чароўны водар кветак і прыгажосць фантазій, якія ён мне навяваў; гэта было глыбокае, але невыказнае ўражанне. Немагчыма выказаць словамі сутнасць паху, гэтак жа як немагчыма перадаць прыгажосць музычнай мелодыі, таму я вымушаны спыніцца на сцвярджэнні, што, будучы бязмерна чулым да мовы пахаў, я знаходзіў у язмінавым водары крыніцу вельмі тонкай прыгажосці, і калі сёння, у дзень Святога Яна, я пішу гэтыя словы,

[3] *В. Гюго.* «Дзевяноста трэці год».

перада мной на стале стаіць букет язміну, які свеціцца крэмавай белізной расцвіўшых кветак. Гэтыя кветкі кіруюць маім пяром, ажыўляюць успаміны і пераносяць мяне ў тыя часы, калі чэрвеньскі дзень Святога Яна разам з прыгожай лічбай 24 пахучым язмінавым вянком як жамчужнай спражкай зашчэпліваў летнюю вязанку майго шчаслівага дзіцячага часу...

Пасля гэтага зацяжнога, але абавязковага адступлення я вяртаюся да «зямлі Верашчакаў». Гэта справа выйшла тады наперад дамашніх падзей і, як ніколі дагэтуль, займала думкі бацькоў. Гаворка ішла аб юрыдычным афармленні ўладання, аб канчатковым «далучэнні» луга да Асташына праз юрыдычнае далучэнне да нашых межаў, каб не быць пастаянна пад страхам, што выпадак ці чыя-небудзь злая воля пазбавіць нас зямлі, здабытай з такой цяжкасцю. Мог памерці пан Верашчака, а яго нашчадак — не прызнаць прыватнай дамовы, не толькі недазволенай юрыдычна, але нават вартай пакарання ў вачах урада. Ён мог бы проста захацець вярнуць «здадзены ў арэнду» луг і прадаць яго ізноў якім-небудзь сялянам, а тыя, пабудаваўшыся ля самага нашага двара, улазілі б беспакарана ў шкоду ў нашыя землі. Асабліва баяліся бацькі такіх суседскіх «язваў», заклапочана абмяркоўвалі гэтую магчымасць доўга і шмат разоў, калі знаходзіліся адны без пабочных асобаў, разбіраліся паціху і асцярожна, але не раз у іх палка прарываліся пачуцці: яны не маглі вытрымаць і павышалі голас, назапашанае раздражненне ўжо нічым не было прыхавана. Бо тут гаворка ішла пра «зямлю». Іх даводзіла да роспачы думка, што яны маглі страціць гэты луг, яны адшуквалі розныя спосабы, як дапамагчы, адзін мудрэйшы за другі, гублялі галаву і сохлі ад засмучэння. Не ведаю, што я змог тады зразумець з гэтых бацькоўскіх клопатаў і запомніць пры маёй звычайнай рассеянасці, а што дапоўніў пазнейшымі ўзгадваннямі, тым не менш, ужо тады для мяне было ясна, што бацькі хацелі, каб Селішча было поўнасцю наша і каб ніхто не мог яго ў нас адабраць. Я цалкам быў з імі заадно, бо я лічыў луг не толькі нашым, але нават сваім уласным, сваім любімым «месцам знаходжання» кветак і траў, і ў маёй галаве не магло змясціцца, каб калі-небудзь магло быць інакш.

А час быў вельмі цяжкі: гэта было праз некалькі гадоў пасля забойства цара Аляксандра II[4] і пасля ўступлення на трон тупога і дзікага Аляксандра III; ва ўсёй краіне лютавалі праследаванні, і польскасць знаходзілася пад пагрозай у сваёй самай важнай аснове — у зямлі, якую ў нас выдзіралі ўсімі спосабамі. Не абмяжоўваліся забаронай набываць зямлю ва ўласнасць, адчынілі яшчэ дзяржаўны сялянскі банк, які аблягчаў пераход зямлі ад польскіх памешчыкаў у рукі праваслаўных сялян і выдаваў ім з гэтай мэтай вялікія пазыкі на вельмі выгадных умовах. Нарэшце прыступілі да знішчэння арандатараў-палякаў, выкідвалі іх з арандаваных фальваркаў наступным чынам. Аграмадная колькасць дробнай засцянковай шляхты, а часта і беззямельныя прадстаўнікі сярэдніх памешчыцкіх сямей цэлымі пакаленнямі сядзелі на арэндзе на радзівілаўскіх землях, якія займалі добрую палову Навагрудчыны і суседніх рэгіёнаў. Ад князёў Радзівілаў гэтыя аграмадныя землі перайшлі ў якасці спадчыны да нямецкай сям'і Вітгенштэйнаў, а ад іх праз кароткі час таксама да нямецкіх Гогенлоэ. Адносіны паміж Расіяй і Гер-

[4] Цар Аляксандр II загінуў 13 сакавіка 1881 г. у Пецярбургу ў выніку замаху — ад бомбы, якую кінуў паляк Ігнацій Грынявіцкі, што таксама памёр ад атрыманых ран.



***Гара Міндоўга ў Навагрудку. Па традыцыі лічыцца месцам пахавання першага караля Літвы.*** *Здымак да 1910 г.*

маніяй былі тады абвостраныя. Калі князь Гогенлоэ не хацеў задаволіць палітычныя фармальнасці, якіх ад яго патрабавалі, каб мець права на атрыманне спадчыны пасля Радзівілаў, Пецярбург адмовіў яму ў гэтым праве і прымусіў пазбавіцца ўсёй гэтай маёмасці на працягу нейкага нядоўгага часу. Сотні сядзібаў, арандаваных пакаленнямі польскай шляхты, якая лічыла іх амаль спадчыннымі, былі экспрапрыіраваны і пушчаны ў чужыя рукі шляхам свабоднага продажу з малатка на аўкцыёне. Польская цяжкая праца ўзбагаціла спекулянтаў або нейкіх цёмных асобаў з усходу. Усюды відаць было гора людзей, выкінутых з наседжаных дамашніх гнёздаў. Так гэтыя знішчальныя ўсходнія віхры вымяталі тысячы польскіх сем'яў і кідалі ў чужы свет, дзесьці на гарадскі брук, на пагібель і бадзянне, а гэта, аднак, быў каштоўны элемент, працавіты, гаспадарлівы і моцна прывязаны да сваёй нацыі. Змрочныя адгалоскі гэтага паражэння даходзілі і да маіх вушэй і нават у маёй дзіцячай памяці пакінулі глыбокія ўспаміны. А адбывалася гэта праз дзесяць з нечым гадоў пасля паўстання і пасля страшнай расправы Мураўёва, у якой столькі людзей пазбавілі жыцця альбо маёмасці, пасля якой край апусцеў ад палякаў і запоўніўся чужым элементам. Таму лёгка зразумець, як сутаргава трымаліся за зямлю тыя палякі, якіх абышлі рэпрэсіі і пакінулі ў сваіх гнёздах. Да такіх належалі мае бацькі.

Яны перажылі ў маладосці трагедыю паўстання, і на ўсё жыццё ў іх засталося пачуццё пагрозы і страху. Неахвотна вярталіся яны да гэтых балючых успамінаў, і то ўжо хіба толькі дзеля таго, каб мне паставіць перад вачамі прыклады, якія адпалохвалі, каб прывіць мне неабходнасць пасіўнай асцярожнасці ў адносінах да пераможнай сілы ворагаў. Я часта чуў ад іх выслоўі-наказы накшталт: «не кідацца з матыкай на сонца» і «пакорнае цяля дзвюх матак ссе», калі датычылася няроўнай бітвы за жыццё і асабліва адносін да захопніцкага ўрада. Маці лепш за бацьку ўмела сфармуляваць гэтыя апартуністычныя прынцыпы і не раз растлумачвала мне, што мы бяссільныя перад ціскам ворага, які ў нас ужо амаль усё забраў, імкнецца знішчыць нас поўнасцю і злітуецца толькі над пакорнымі. «Нам засталася ўжо толькі зямля — наша апошняя апора, — часта гаварыла маці, — толькі там яшчэ пануе наша вера, мова і звычай, дзе зямля знаходзіцца ў польскай руцэ. Таму мы павінны трымацца за зямлю ўсімі сіламі, бо без яе мы нішто. Мы павінны вытрымаць і захаваць тое, што маем. Таму нельга паляку пазбывацца самага маленькага кавалачка зямлі, нельга нічым ствараць пагрозу свайму ўладанню, трэба працаваць і сядзець ціха...»

Так у духоўнай пазіцыі бацькоў ваявалі паміж сабой два супярэчлівыя імкненні: з аднаго боку, патрыятычная любоў да зямлі, любоў стыхійная і па-сялянску цвёрдая і нязломная, а з другога — падатлівасць пад уплывам тэрору, якая была вынікам упадку духу пасля нацыянальных паражэнняў. Далёкі ад жадання судзіць бацькоў, я хачу хутчэй растлумачыць і спыніцца на акалічнасцях, якія іх зрабілі такімі пакорлівымі. Адначасова гэта будзе дапаўненнем іх характарыстыкі, накіданай у іншых раздзелах, дапаўненнем патрэбным, бо яно апісвае свет, якога ўжо няма, але пра які добра ведаць і памятаць.

Заглядваючы ў мінулае, я павінен прызнаць, што дамашняе выхаванне маіх бацькоў было занядбана і што выхоўваліся яны хутчэй самапасам дзесьці на свеце паміж людзьмі. Падчас паўстання бацьку было дваццаць гадоў, маці — чатырнаццаць, і мы ведаем, як гэты 63-і год цяжка паўплываў на ўсё жыццё нашага грамадства і асабліва на лёсы і

 характар моладзі. Бацьку тады забралі з чацвёртага класа гімназіі ў Навагрудку, дзе ён жыў у пансіянаце француза Пансэ, і схавалі дома, дзе, зрэшты, хутка памерла яго маці, а за ёй пайшоў і бацька, мой дзед Ян, які быў драхлы і не надта меў вагу ў доме. Цяжар абавязкаў галавы сям'і зваліўся на дваццацігадовага хлопца. Маці на дванаццатым годзе жыцця аддалі ў Мінск у пансіён паненак Монтэграндзі, таксама француженак. Дарэчы кажучы, гэтыя пастаянныя французскія прозвішчы раздражняюць, выглядае так, што для выхавання нашай моладзі не хапала палякаў, бо на кожным кроку іх замянялі французы. Жывейшы і вастрэйшы розум маці змог больш набрацца ведаў і добрых манер у людным Мінску, але гэта было хаатычна, павярхоўна і, зрэшты, кароткатэрмінова, бо неўзабаве хвароба бабкі Ганны Хацiскай прымусіла маці перарваць навуку і вярнуцца ў Міацічы, каб заняцца, таксама заўчасна і без дастатковай падрыхтоўкі, кіраваннем дому.

Прайшло дванаццаць гадоў. Калі ў 1875-ым пажаніліся 33-гадовы Валерый Булгак і 26-гадовая Юзэфа Хацiская, яны былі ўжо сталымі людзьмі, людзьмі цяжкай і самастойнай працы, а пазней абое запрэгліся яшчэ ў ярмо сямейных абавязкаў, заняліся будаўніцтвам гнязда ў Асташыне і так ужо засталіся на ўсё жыццё з недахопамі выхавання са сваіх маладых гадоў. Яны былі рэлігіёзнымі і міласэрнымі, шмат працавалі, мелі сціплыя патрабаванні і самае лепшае жаданне выконваць абавязкі, але ў нацыянальных справах блудзілі ў цемнаце і марудзілі, а ў педагагічных — з пункту гледжання ўласнага дзіцяці — былі няўмелымі і маласвядомымі, пераацэньвалі значэнне разумовых здольнасцей і матэрыяльнай кар'еры і поўнасцю абміналі справу фарміравання характару дзіцяці, яго волі, пачуцця годнасці і адказнасці. Гэта наданне першынства розуму было тады такім паўсюдным, што пра характар амаль не гаварылі, хоць таленты, асабліва дасціпныя, узносілі да нябёсаў і лічылі найвышэйшай вяршыняй людскіх дасягненняў. У выніку гэтага маё дзяцінства і маладосць прайшлі ў поўным няведанні таго, што тычыцца ролі характару ў жыцці людзей і грамадстваў, я не меў паняцця аб магчымасці фарміравання волі, развіцця ў сабе вытрымкі, адвагі, пачуцця адказнасці і іншых рысаў — рашаючых для сапраўднай асобы мужчыны. Словам, бацькі ў выхаванні дзіцяці ішлі шляхам найменшага супраціўлення і карысталіся педагагічнымі шаблонамі, якія бачылі наўкола. Яны пераканана лічылі, што дастаткова жыць у працы і страху Божым, і на гэтых самых прынцыпах выхоўвалі дзяцей. Таму і мяне фарміравалі адпаведна, павучаючы, што належыць працаваць і маліцца, а акрамя гэтага — не рызыкаваць нічым і нікім, захоўваць свой кавалак зямлі і старацца «прытрымацца любой цаной». Гэты даволі вузкі жыццёвы і грамадзянскі кругагляд маіх бацькоў не толькі не даваў мне пераканання, але здаваўся мне чужым і адштурхоўваў, а з часам, калі я стаў старэйшы, пачаў будзіць ува мне супраціўленне і жаданне дзейснага супрацьпастаўлення, што амаль паўплывала на наша ўзаемнае духоўнае адасабленне.

Зараз я стараюся лепш зразумець сваіх бедных бацькоў. Яны былі сведкамі шалёнага тэрору Мураўёва і ў маўклівай роспачы былі вымушаны глядзець на тое, як тапілі ўсё польскае па ўсёй Бацькаўшчыне, як выкідвалі сем'і з іх адвечных сядзібаў, як даводзілі да галечы тысячы найлепшых палякаў. У іх падсвядомасці засела перакананне, што ў гэтай агульнай пагібелі адзіным паратункам з'яўляецца ўтрыманне на сваім кавалку зямлі, бо без яго паляк становіцца галыцьбой, пазбаўленай спадчыны і адсунутай ад усіх спраў жыцця. Таму яны скіравалі ўсе нама-

ганні на тое, каб утрымаць зямлю, і на такіх жа прынцыпах выхавалі сына. Яны прагнулі абараніць яго ад усіх небяспечнасцей, што пагражалі звонку, і зрабіць яго здольным да гэтай вышэйшай ступені пасіўнага супраціўлення, разам з якім распаўсюджваецца і вырастае, нягледзячы ні на што, пустазелле, якое знішчае чалавека. Яны меркавалі, што такім чынам разам з людзьмі ўратуецца Айчына. Матывы яны мелі сур'ёзныя, але ў гэтай цяжкай барацьбе за быццё яны забывалі, што барацьба ідзе не толькі за зямлю ўвогуле, але за п о л ь с к у ю зямлю, якая не можа быць прадметам кампрамісу, не можа губляць сваю душу.

Такім вось быў псіхалагічны фон апісваемых падзей. Лета было ў зеніце, Асташын пераліваўся ў распаленым сонцы фарбамі поўнага росквіту, я плавіўся ў яго промнях сярод няспынных гульняў, а бацькі ламалі галовы і клапаціліся далей, шукаючы выйсця ў справе зямлі Верашчакаў. Яе вырашэнне станавілася яшчэ больш тэрміновым, бо памёр пан Францішак Верашчака, а яго брат і нашчадак пан Казімір са Смольчыц пад Навагрудкам, праўда, пацвердзіў абавязацельствы нябожчыка брата, але, будучы чалавекам старым і любячы сістэму, станоўча захацеў ад бацькі, каб той не пакідаў справу ў палавінчатым стане і паклапаціўся аб яе канчатковым упарадкаванні. Лягчэй, аднак, было сказаць, чым зрабіць. Я памятаю доўгія вячэрнія размовы бацькоў на адну і тую ж тэму, пошук спосабаў атрымаць ва ўласнасць луг, няспыннае прагнае кружэнне вакол гэтага ўладання, сумненні і страхі, ці ўдасца затрымаць гэту зямлю, ўвесь круг жаданняў і мук, з якіх складалася жыццё польскага земляроба, прывязанага да карміцелькі-зямлі. Частымі і важкімі, напэўна, былі гэтыя размовы, калі ўрэзаліся мне ў памяць так глыбока, што і сёння іх яшчэ ўспамінаю.



***Старыя могілкі на схіле гары Міндоўга ў Навагрудку.*** *Здымак да 1911 г.*

Эпілог наступіў пад канец лета, бо памятаю, што было тады мноства агуркоў, якія мы елі са свежым мёдам. Мёд быў празрысты, густы і капаў цяжкімі залацістымі кроплямі, ад якіх заўсёды былі ліпкія рукі, і трэба ж, каб агуркі прынялі пэўны ўдзел у вырашэнні пытання Селішча. Не ведаю, якія крокі прадпрымаў бацька і якія гераічныя тайныя сувязі з расійскім чыноўніцтвам ён усталяваў, але аднойчы пачалі гаварыць, што да нас павінен прыехаць нейкі важны чыноўнік, ад якога залежалі справы, што датычылі Асташына. Адразу пасля гэтага пачалася падрыхтоўка да ўрачыстага прыёму. Гэта быў, бадай, першы і адзіны выпадак, калі бацькі прынялі ў сваім доме і сям'і расійскага чыноўніка, таму сенсацыя была надзвычайная, слугі шапталіся па вуглах, а бацька з раніцы хадзіў злы і нерваваўся, бо не выносіў гаварыць па-руску, а чыноўнікаў пазбягаў, як чорт свянцонай вады. Не абы-якой павінна была быць прычына, што прымусіла яго зрабіць выключэнне з традыцыі, якая сурова захоўвалася, што расіян прымалі толькі ў канцылярыі, як наведвальнікаў, і ніколі ў сямейным коле. На вячэрнюю гарбату накрылі вельмі рана і не там, дзе звычайна, а ў святочным сталовым пакоі з палісандравай мэбляй, абцягнутай чырвоным, дзе мы збіраліся па святах. Стол з незлічонай колькасцю ног заслалі найлепшым галандскім абрусам, заставілі фарфоравым сервізам з пазалочанымі абадкамі і выцягнулі з кладоўкі усякага роду вяндліны, сыры, канфіцюры і піражныя ў колькасці, якой бы хапіла накарміць дваццаць расійскіх гасцей. Але здаецца, што наша дабрадушная нездагадлівасць прапусціла самае важнае для дыпламатычнага пасоўвання справы, бо на стале не было гарэлкі, без якой увогуле не размаўлялі з маскалямі. На шчасце, гэта не прынесла шкоды, а чаму — раскажу.

Калі мяне паклікалі на гарбату і пасадзілі ў канцы стала, я ўбачыў нейкага чужога вяльможу, які сядзеў на ганаровым месцы, невысокага, плячыстага, з брыдкім рабаватым тварам і з прэтэнцыёзна растрапанай прычоскай. Гэты чалавек быў апрануты ў службовы гранатавы мундзір з залатымі гузікамі, на якіх блішчалі расійскія арлы, і выглядаў адначасова смешна і непрыемна. Ён бесцырымонна распінаўся за сталом, гаварыў гучна і з апломбам, з задавальненнем смяяўся з уласных анекдотаў. Калі смяяўся, яго блакітныя пабляклыя вочы амаль хаваліся ў шчылінах вачніц, а пузатае тулава трэслася і смешна падскоквала. Было нешта нечувана вульгарнае і нахабнае ў паводзінах гэтага саноўніка, і настрой за сталом панаваў адчайны, бо бацькі самі не ведалі, з якога канца пачынаць з такім госцем. Я глядзеў раскрыўшы рот на гэту пачвару, бо нічога падобнага ў жыцці не бачыў. На шчасце, сітуацыю ўратавала панна Амелія, французская настаўніца Анці, якая разам з Анцяй гасціла тады ў нас. Яна сядзела побач з госцем і загаварыла з ім паруску, бо крыху ведала гэту мову. Той з гатоўнасцю ёй адказваў і пачаў доўгую жартаўлівую размову. Настаўніца была моцная брунетка з грубымі, малаінтэлігентнымі рысамі і даволі сумніўнай дзявочай прывабнасцю, але яна відавочна магла зацікавіць госця як адзіная малодшая прадстаўніца прыгожага полу, а паколькі яна паводзіла сябе даволі какетліва, то адразу заваявала госця, які ў захапленні забыўся пра астатнюю кампанію дзеля сваёй суседкі. Ён вёў з ёю доўгую фрывольную размову, якую я б назваў фліртам, калі б гэта слова было ў нас тады вядома, пры гэтым смешна крыўляўся і ўвесь час вагаўся паміж ветлівасцю і грубасцю. Еў агуркі, капаючы мёдам на абрус, выхваляўся веданнем французскай мовы, смешна каверкаючы словы на рускі манер, і

падкрэсліваў гэтыя жарты выбухамі гучнага смеху. «Мне очень приятно с вами манжировать канкомбры[5], — паўтараў ён некалькі разоў. — Ну, сударыня, будем еще манжировать, пожалуйста». Пры гэтым ён рагатаў усё непрыстойней, а бацькі сядзелі, як намаляваныя, і бадай што за ўвесь вечар, апрача запрашэння, не выпусцілі з вуснаў пару, радыя выпадковай замене панны Амеліі.

Атмасфера гэтага вечара была скаваная, і нават я адчуваў яе напружанне. Усё гэта, на мой розум, выглядала даволі незразумела і бязглузда, але аказалася, што я памыляўся, бо госць выехаў ад нас адразу пасля гарбаты, вельмі задаволены прыёмам, пра што, відаць, сказаў бацькам на развітанне. Па гэтай прычыне была вялікая радасць у доме, бацькі ўздыхнулі, пазбавіўшыся ад нямілага госця, да бацькі вярнуўся звычайны добры настрой, ён са значэннем глядзеў на маці, хадзіў з усмешкай і паўтараў: «Дзякуй Богу, што гэта ўжо скончылася, нібы камень упаў у мяне з душы». Астатак гэтага памятнага вечара прайшоў для нас усіх надзвычай прыемна, а назаўтра бацькі мне сказалі, што справа Селішча, ці зямлі Верашчакаў, вырашана раз і назаўсёды і што ніхто ўжо ў нас гэтага луга не адбярэ.

Аб падрабязнасцях я даведаўся толькі праз пару гадоў, калі быў ужо старэйшы і мог лепш разумець справы. Бацька, хоць нясмелы і не надта прадпрымальны, калі гаворка ішла пра справы далікатнага характару з расіянамі, знайшоў у канцы, не ведаю — які, спосаб, напэўна, пры дапамозе яўрэяў, — магчымасць падкупіць падатковага інспектара хабарам, мабыць, немалога памеру, бо частка павінна была асесці ў яўрэйскай кішэні. За гэта інспектар быццам бы правёў рэвізію зямель і планаў на

[5] Есці агуркі *(скажон. — фр.)*.



***Перад лініяй фронту.*** *Здымак да 1918 г.*

месцы з мэтамі, вядома, фіскальнымі і зацвердзіў фактычны стан межаў і ўладанняў усяго Асташына разам з лугам Верашчакаў. Такім чынам гэты луг апынуўся на новым асташынскім плане, падпісаным высокай падатковай уладай, і тайная купля зямлі палякам была аўтаматычна асвечана санкцыяй раз назаўсёды, бо пры вядомым бязладдзі і безгалоўі расійскіх органаў кіравання можна было не баяцца, што каму-небудзь захочацца яшчэ капацца ў аднойчы вырашанай справе. Я, вядома, не ведаў падрабязнасцей гэтага таямнічага пагаднення і не магу ўявіць сабе бацьку, які дае каму-небудзь хабар, але той арыгінальны візіт падатковага інспектара быў, уласна кажучы, яе вынікам і вянцом, пасля чаго бацька ўжо не меў ніякіх клопатаў з прыкупленым лугам і валодаў ім паўнамоцна ў поўным спакоі. Засталася толькі назва «Раецкае» ў вуснах парабкаў і навакольных сялян, бо назвы настойліва трымаюцца месцаў і не раз перажываюць сапраўдны стан спраў, але гэта нам было ўжо абсалютна ўсё роўна.

На гэтым скончыліся нашы тагачасныя дамашнія беды. Асташын быў адбудаваны пасля пажару, Селішча прыкуплена і юрыдычна афармлена, бацькі — жыццярадасныя і задаволеныя — па-ранейшаму клапатліва мітусіліся, а я таксама па-ранейшаму ганяўся за кветкамі і авадняmі на нашым лузе, цяпер ужо поўнасцю нашым — да вялікай радасці бацькоў. Гэтай радасці толькі я не мог падзяліць па той простай прычыне, што і да гэтага я лічыў луг заўсёды сваім і яго законнае прысваенне, здавалася мне, не мела значэння. Луг быў маім па праву сэрца без увагі на тое, каму ён належаў фармальна, і гэта пачуццёвая прыналежнасць была найвышэйшым тытулам уласнасці, які не патрабаваў ніякіх санкцый, ані ўзаконьванняў.

І так кожны з нас па-свойму — бацькі і сын — здабывалі права ўласнасці на жаданае і любімае Селішча. Праз паўвека маё права аказалася больш законным і трывалым, чым тое, што прагнуў расійскі чыноўнік, бо час і яго трагічная зменлівасць знішчылі ўсе правы, апрача майго. Сёння, у канцы трагічнага 1942 года вайны, і Селішча, і Асташын, і ўся Навагрудчына, апісаная тут,ператварыліся ў пустыню без гаспадара, у шалёны засценак, па якім гуляюць знішчальныя віхры вайны, як, зрэшты, па ўсёй Еўропе альбо і амаль па ўсім свеце. Збэшчаная, скатаваная, знішчаная непазнавальна, гэта «мая зямля» штогод мяняе ўладальнікаў адпаведна шляхам вайны, і кожны часовы ўладальнік нешта забірае з яе, вывозіць, рабуе і нішчыць. Палаюць двары і мястэчкі, рассыпаюцца ў руіны касцёлы, пустымі стаяць сады і палі, спусташаюцца лясы і зарастаюць дарогі і сцежкі. Утвараюцца новыя дзікія палі, на якіх не застаецца нічога, апрача здзічэлай паверхні. Мой прыгожы «край дзіцячых гадоў» быў знявечаны, забіты. На яго месца прыйшоў хаос агіднага спусташэння. З Божага дазволу чалавечыя правы былі адменены.

Але адно засталося нязменным: засталося маё паўнапраўнае валоданне гэтымі абшарамі бацькоўскага краю і іх сардэчнай прыгажосцю, якое нельга забіць, якое жыве і будзе жыць вечна ў вобразах тужлівых успамінаў, што пастаянна адраджаюцца. Хто мае ва ўласнасці такія, як мае, шырокія і шумлівыя таполі, такія пахучыя вянкі бэзу і язміну, такія на сотні фарбаў кветкавыя дываны перад белым домам і ганкам з калонамі, такі гушчар буйнай зеляніны, такі прастор лугоў і палёў, узгоркаў і далін, такую блакітную даль, такое неба і сонца, шчодра разлітае над краявідам Навагрудчыны? Усё гэта — маё, уласнае, уваскрэшанае сэрцам, незнішчальнае, выкліканае да жыцця маёй воляй...

Маёй застаецца гэта Навагрудская зямля, і гэтага права на яе ніхто і нішто не можа мяне пазбавіць. Гэта права застаецца непарушным, мацнейшым за вайну, мацнейшым, можа, нават за смерць, і яно мне сёння дыктуе гэты «інвентарны спіс» маёй святой уласнасці...

**Выгнаннік**

Думаю часам, што зманлівы горад,
дзе існасць сцёрта ў каменныя звалкі,
вуліц сцюдзёных і чорных разгалкі,
нават удых з перацiснутым горлам —
гэта аблог, сном гарачкавым скуты,
спрут нездаровых, вар'яцкіх памкненняў,
ён у душу лье такую атруту,
што і збуджэнне не зычыць збавення.
Ды прыйдзе хвіля — і ў зморак пракляты
сонца збавення праменнямі хлыне,
збудзіць і верне жыццёвае свята
у роднай сэрцу вясковай айчыне.

Там, на парозе якойсь белай хаты,
сяду, прыму лусту з братняй далоні,
шчырасць сардэчная, думак крылатасць
зноўку мяне, як раней, запалоняць.
Ластаўкі ўсцешаць гамонкай вясёлай,
мальвы прывабяць красой прамяністай,
вытча павук свой вітраж серабрысты,
дружны арганны харал зладзяць пчолы,
і калі вечарам злетнены вецер
мне прынясе брэх сабачы здалёку,
і над гранатавым лесам засвеціць
месяц чырвоным агромністым вокам,
і ад травы, што ў пракосах самлела,
пах церпкі хлыне да сцен хаты мілай,
і Млечны Шлях дыяментавым пылам
перасячэ небасхіл пацямнелы,
я, сын нядбайны, вярну свой прытулак,
лёсам крутым ад зямлі адарваны,
тут на калені пакорліва стану
і прыхінуся грудзьмі да матулі,
мне будзе чутна, як ноч спеліць росы,
як падрастае туман у нізіне,
як зашуміць вецер раптам і згіне,
як каласоў сон вартуюць нябёсы...

Потым у храме начы светла-сінім
вусны прамовяць малітву маленства,
маці-зямля забярэ на калені,
ёй буду верным і ўважлівым сынам.
Я галаву прыхаваю ў падоле,
ейнае ўлонне — як шанц ратавання,
буду расказваць памалу, паволі,
як там па маці тужыў сын-выгнаннік.



***Двор Карповічаў у Чамброве.*** *Здымак каля 1925 г.*

## Раздзел XVIII

## Равеснікі. Гульні і мроі (1886)

Усведамляючы сабе, што хоць мой аповед падыходзіць да канца, не абышлося без спакусы лірычнай апісальнасці за кошт прадметных падзей, што у ім амаль няма ўвогуле дзеянняў, а постацей людзей за выключэннем самых блізкіх асобаў ён уводзіць няшмат. Аднак я думаю, што гэтыя недахопы, без сумнення, недаравальныя ў чыста літаратурнай справе, лягчэй прабачыць у дзённіку, які ўяўляе асабістыя перажыванні, і гэтыя перажыванні — на фоне пейзажу, таму яны маюць абмежаваны і доўгапланавы стафаж.

Мяркуючы напісаць у гэтым раздзеле пра сяброў па гульнях, я хачу перад гэтым патлумачыць, чаму дагэтуль я так мала пра іх успамінаў і пісаў амаль выключна пра сябе самога. Перш за ўсё я хацеў паказаць, як выглядала маё дамашняе гняздо, бачанае вачамі дзіцяці, якое мела некалькі год. Тое, што я прапусціў равеснікаў, выцякала з таго, што іншыя дзеці займалі няшмат месца ў маім дзяцінстве, бо, будучы адзіным дзіцем, я рос у адзіноце альбо сярод старэйшых. Часцей я атрымліваў кампанію толькі каля 1886 года, калі крыху падраслі мае стрыечныя браты Мар'ян і Богдан Булгакі са Шчэпаўшчыны і сястра па маці Анця Хацiская з Отмыта.

Я не магу сказаць, чаго я хацеў — кампанію дзяцей ці адзіноту. Здаецца, што і аднаму і другому я аддаваўся без астатку, хоць хутчэй пасіўна, гэта значыць, што не шукаў таварышаў, прызвычаіўшыся да самотнага існавання. Я не быў прадпрымальны, а распешчанае адасабленне, у якім мяне выхоўвалі, не спрыяла развіццю ініцыятывы. Таму дзяцінства для мяне прайшло хутчэй у бясплодных жаночых марах, чым у мужчынскай актыўнасці. Выхаванне навучыла мяне чакаць, калі падзеі прыйдуць звонку, і аддавацца паволі іх уздзеянню, таму я не разумеў, што значыць намаганне волі, стыхійнае і пераможнае. У пазнейшым жыцці гэты недахоп рашучасці я не раз моцна адчуваў і быў вымушаны прайсці праз шмат унутраных змаганняў, каб у важныя хвіліны жыцця навучыцца не толькі моцна хацець, але і ўстанаўліваць волю непасрэдным дзеяннем.

Я рос у доме адзін. Ад дзяцей слуг у фальварку і дваровых парабкаў мяне аддзяляла мая рассеяная нясмеласць; мне нават не прыходзіла ў галаву, што мне дазволена гуляць з імі альбо каб такая забава магла быць прыемнай. Яны знаходзіліся недзе далёка, дзесьці на занядбаных ускраінах дагледжанай сядзібы, якую ўтваралі наш дом і сад, а я, як каралевіч, захоўваў у гэтай сядзібе цудоўную адасобленасць і заставаўся адзін са сваімі марамі і капрызамі. Праўда, пазней у мяне была кампанія Стася Хацiскага, але ён не мог ісці ў разлік, бо не падыходзіў мне ані па ўзросту, ані па паводзінах, ані па інтэлекту: ён быў цалкам пазбаўлены фантазіі, цікавіўся толькі тым, што можна было ўзяць у руку, і абыякава ставіўся да маёй няўлоўнай фантазіі.

24. Зак. 297.

Ці гэтыя фантазіі нараджаліся ўва мне, ці прыходзілі звонку, гэта сапраўды я не мог вызначыць. Можа, было адно і другое. Я часта пакутаваў ад пранізлівай тугі па якіх-небудзь пераменах, па якой-небудзь неспадзяванай падзеі, якая б перарвала штодзённую манатоннасць і вылечыла мяне ад нуды, у якую я часам упадаў без прычыны. Без прычыны, гавару я, бо маё жыццё ішло весела і шчасліва, а яго дробныя няўдачы шчодра ўраўнаважваліся становішчам, якое я знайшоў у доме і ў сэрцах бацькоў. Але, нягледзячы на гэта, нуда час ад часу пераможна апаноўвала мяне, усё здавалася надта знаёмым, надта аднастайным, нязменным аж да абрыдласці. Кожны дзень былі тыя самыя ежа, урокі, заняткі, тыя самыя клопаты і бурчанне маці, тое самае гаспадаранне і грошы бацькі... я ведаў усё гэта на памяць... Я адчуваў тэрміновую патрэбу пераменаў, хоць бы нават горшых, чагосьці цікавага, непрадбачанага, узрушэння... Мяне раз'ядаў голад невядомых уражанняў...

Гэта патрэба пераменаў прыходзіла асабліва ў дрэннае надвор'е, якое прымусова трымала мяне дома, знішчала каляровасць акружэння і зацягвала яго непрыгожай шэранню. Менавіта адсутнасць сонца кідала мяне ў абдымкі чытання, якое дазваляла так лёгка забыць пра рэчаіснасць, а кніг у мяне было дастаткова, бо яны былі ў падарунках ад родных, асабліва ад цёці Ядвіні з Отмыта, і я корпаўся ў дамашніх каморках, выцягваў тое, што засталося, недагрызенае мышамі з былых часоў. У доме, як звычайна ў тыя часы, не было недахопу ў добрых кніжках першай паловы стагоддзя, забытых і дажываючых век у пыле бібліятэчных шафаў. Гэта былі асветніцкія і паважаныя выданні часоў Віленскага універсітэта альбо сярэдзіны XIX ст., багатай на навуковыя творы. Але час пасля 1863 года быў ужо пусты і бясплодны, і замест польскай творчай навукі гучала ўсялякае чужаземнае смецце ў шматлікіх перакладах. А пра новых аўтараў, як Ажэшка і Канапніцкая, нічога яшчэ ў нашай перыферыі не ведалі, бо, зрэшты, чыталі толькі тое, што само трапляла ў рукі, а пра асабісты выбар не было гаворкі.

У гэтых умовах наіўная раскіданасць майго чытання была надзвычайнай, бо мела дыяпазон ад «Пілігрыма ў Дабраміле»[1] і «Дзённікаў Эвы Фелінскай»[2] да «Апошніх дзён янычараў» Маўрыцыя Жакея[3], «Пана Лекока» Эміля Габора[4] з «Бібліятэкі раманаў і аповесцяў»[5]. Чарговасць чытання таксама была фантастычнай. Пасля «Хаціны дзядзькі Тома»[6] ішлі нейкія дзіцячыя аповесці з «Сяброў дзяцей» і «Les amours de Provence»[7] Ксаверыя дэ Манпеня, пасля балад Міцкевіча — егіпецкі соннік, зашмальцаваны, абслінены пакаёўкамі. Апрача сонніка я знайшоў яшчэ ў гардэробнай «Гісторыю пра Магелону, неапалітанскую прынцэсу», «Рынальда Рынальдзіні, славутага італьянскага разбойніка», і творы гэтыя мяне моцна захапілі. Потым пасля «Духу пушчы»[8] і «Вы-

---

[1] *Ізабэла Чартарыйская.* Вандроўнік у Дабрамілі, альбо Вясковыя навукі. Выд.1. 1818 г.

[2] *Эва Фелінская.* Успаміны жыцця. Серыя 1. Вільня, 1856. Т. 1—3; Серыя 2. 1858. Т.1. 1859. Т.2.

[3] *Мор Жакей.* Апошнія дні янычараў // Вечары з аповесцямі (дадатак да «Літаратурнай бяседы»). Варшава, 1885. Т. 31.

[4] *Эміль Габор.* Масье Лекок. Парыж, 1869.

[5] Штотыднёвік раманаў і аповесцей.

[6] *Г. Б. Стоу.* Хаціна дзядзькі Тома.

[7] Каханні Праванса (*фр.*).

[8] *Роберт М. Бёрд.* Дух пушчы. Апавяданне з амерыканскіх лясоў.

гnаннікаў у лесе»[9] ішла «Мар'я» Мальчэўскага[10] і «Казкі тысячы і адной ночы», пасля «Геніяльнага інжынера»[11] — «Капрэя і Рома» Крашэўскага, і на завяршэнне гэтага спіска — «Гісторыя Анцьен» — апавяданні для дзяцей Лама Флёра[12] ці «Мацярынскае выхаванне» пані Амабль Тасту з выдатнымі гравюрамі. Я забыўся яшчэ сказаць, што атрымліваў таксама асалоду ад «Дон Кіхота» з цудоўнымі ілюстрацыямі Дарэ, якія я знайшоў у «Каласах», і што пасля Матэйкі больш за ўсё звярталі маю ўвагу на сябе малюнкі Андрыёлі і Дарэ. Я прагна чытаў усё і запамінаў правільна, а чужыя словы ўразаліся ў маю памяць з такой трываласцю, з якой уразаецца ў спёкшуюся зямлю падаючая кропля дажджавой вады. Як друкаваныя, так і пачутыя з чужых вуснаў словы я запамінаў дакладна з іх напісаннем ці з усімі адценнямі інтанацыі і мімікі твару асобы, якая чытала.

Чытанню я аддаваўся горача, з палкасцю, якая адрознівала ўсе мае прыхільнасці і дзейнасць. «Ні ў чым не ведае памяркоўнасці, — наракала маці, — альбо зачытваецца цэлымі днямі, альбо лятае, як падсмалены, і кідаецца ў гульні без памяці...» Выказванні маці былі слушныя, але не бралі пад увагу тое, што гэтую палкасць я атрымаў ад яе, а ў дадзеным выпадку гаворка ішла аб уцёках ад рэчаіснасці ў сферу выдумкі і ілюзій, і гэтую схільнасць я таксама атрымаў у спадчыну ад яе. Гэтыя жаданні былі падсвядомыя, а таму вельмі раптоўныя, амаль стыхійныя, не ведалі ані развагі, ані стрымлівання ўгаворамі. Ужо тады я валодаў здольнасцю адарвацца ад умоваў акружэння і пагрузіцца да самага дна ў свае фантазіі. Гэта было не выказаць як прыемна і чароўна, нібы ўздзеянне якіх-небудзь гашышавых сноў: я мог у адну хвіліну ўцячы ад нуды і бясколернасці асяроддзя і па жаданню мець перад вачыма прывабны і зменлівы калейдаскоп уражанняў з «таго» свету, адыходзіць ад усяго, што было брыдкім і звычайным, і замяняць гэта вобразамі, ад якіх гарэла галава і моцна білася сэрца. Пры гэтым, аднак, я не ўяўляў сабе, што, адыходзячы ад рэчаіснасці, я кантактую з выдуманым светам, які не меў рэальнага існавання. Наадварот, я глыбока верыў, што гэты лепшы і прыгажэйшы свет маіх мараў існуе недзе сапраўды поўнасцю матэрыяльна, толькі ён далёкі, невядомы і для мяне недасягальны. Гэта вера была такая наіўна моцная, што датычыла і літаратурнага вымыслу: я быў перакананы, што асобы, апісаныя ў аповесцях, існуюць на самай справе і што з імі адбывалася сапраўды ўсё тое, што там было апісана. Я прымаў на добрую веру ўсе перыпетыі пачуццяў і драматычныя падзеі, што ўтрымліваліся ў кніжках, і перакананне ў іх праўдзівасці дадавала ім у маіх вачах яшчэ больш выразнасці і прыгажосці. Гэта была дзіўная непаслядоўнасць дзіцячага розуму: уцякаць ад паўсядзённай рэчаіснасці ў міражы, а вымысел аповесцей лічыць рэчаіснасцю.

Я быў закаханы не толькі ў змест кніжак, але і ў іх вонкавы вобраз, і іх выгляд быў мне не толькі неабыякавы, але ён цікавіў мяне выключна моцна. Я любаваўся самім паняццем друкаванага слова як цудоўным талісманам, чарадзейным напоем, які выклікае сны прыгожых міражоў. Я глядзеў з захапленнем на каляровыя вокладкі і пазалочаныя карашкі

---

[9] Не ўдалося ўстанавіць, аб якой аповесці ідзе гаворка.
[10] *Антоній Мальчэўскі.* Марыя: украінская аповесць.
[11] Не ўдалося ўстанавіць, аб якой аповесці ідзе гаворка.
[12] *Лам Флёр.* Жуль Раймонд.

маіх друкаваных скарбаў, клапатліва пастаўленых у рад у шафцы сталовага пакою, да якіх я штодня пяшчотна датыкаўся і перакладаў. Мяне захапляла безгустоўнае залатое цісненне на каляровым палатне аправы і звычайныя хромалітаграфічныя малюнкі з дрэнна падабранымі колерамі, мяне займаў кожны адбіты шрыфт, крэска ці арнамент, цікавіў адрас друкарні ці выдавецтва, які ўтрымліваў магічныя словы «Варшава», «Кракаў», «Познань», «Вільня»... Я прачытваў і даследаваў кніжку ўсю ад тытула да апошніх строф у канцы і ўсё захоўваў у памяці з фатаграфічнай дакладнасцю, я паглынаў гэтую друкаваную сечку без разбору і памяркоўнасці з прагнасцю трагічнага вужа, які праглынае антылопу разам са шкурай, поўсцю і нагамі.

Бацькі мала цікавіліся зместам майго чытання, а маці хутчэй наракала, што я прысвячаю яму занадта шмат часу з уронам для навукі. Таму яна сачыла, каб я вучыўся і чытаў тое, што ўваходзіла ў сферу ўрока, але па-за межамі гэтага давала мне волю ў выбары кніжак, а што да бацькі, то ён не меў тут голасу, бо сам ніколі нічога не чытаў. Таму мяне пусцілі на самапас, і змест чытання вырашаў выключна выпадак. Калі цёця Ядвіня прывозіла мне якую-небудзь добрую аповесць з Мінска, я не знаходзіў месца ад радасці, але бацькі толькі цярпелі маю радасць. Самі яны не прымалі ў ёй удзелу і ніколі да яе не далучаліся, быццам бы баяліся для мяне наступстваў шчырага чытання. А мне нават не прыйшло ў галаву прасіць іх аб якой-небудзь кніжцы, я ўвогуле не ўмеў гаварыць аб маіх тайных захапленнях і нават баяўся гэтага, бо выяўленне інтымных думак лічыў нечым сарамлівым і недапушчальным і чырванеў ад думкі аб магчымасці такога выяўлення. Я быў замкнуты на сіле пачуццяў з усім, што было ўва мне лепшага, тонкіх пачуццяў саромеўся як граху ці злачынства, але зусім не адчуваў няёмкасці ад звычайнага гарэзлівага свавольнічання і адкрыта дазваляў сабе розныя звычайныя выбрыкі ў прысутнасці іншых дзяцей, хоць гэта не было ў маёй натуры і я не меў да гэтага схільнасці. Гэтыя схільнасці былі хутчэй сузіральныя, ціхія і спакойныя, і калі мелі якую-небудзь асаблівую афарбоўку, то хіба толькі эратычную. Любоўныя сцэны, якія я час ад часу сустракаў у кніжках, праймалі мяне цудоўнымі дрыжыкамі, у якіх пачуццё затоенага захаплення злівалася з трывожнай нясмеласцю, і яна скоўвала вусны і паралізоўвала ўсялякую ініцыятыву. Я прагна паглынаў забаронены плод, аддадзены маўчанню, і хутчэй даў бы пасекчы сябе на кавалкі, чым прызнаўся б перад кім-небудзь нават з равеснікаў у сваіх марах, якія мяне наведвалі. А былі гэта нясмелыя мары пра нейкае вялікае каханне, аб тым, каб кідаць пад ногі незнаёмай каханай вышэйшыя доказы пакланення, магчыма, таленту і славы, магчыма, надзвычай геройскіх учынкаў, хіба я ведаю, што мне тады мроілася ў сляпых закутках дзесяцігадовага розуму?..

Культ кахання, служэння перад алтаром жаноцкасці, не ведаючы аб гэтым, падсілкоўвала мая маці, выхаваная на рамантычнай фразеалогіі. У размовах з сяброўкамі яна не адчувала няёмкасці ад маёй прысутнасці, а паколькі была з імі гаваркой і адкрытай, то не раз падала якое-небудзь неасцярожнае слова, якое не надта адпавядала маім вушам. «Асцярожна, Юзечка, — стрымлівала яе тады цёця Ідалька ці цёця Ядвіня, бо з імі галоўным чынам вяліся гэтыя матчыны даверлівыя размовы,— асцярожна, бо Яначак можа пачуць...» — «А, нічога, — адказвала бесклапотна маці, — ён жа не зразумее...» — і вяла далей свой больш-менш непрыстойны аповед. А я, вядома, разумеў тады вельмі мала, але затое

запамінаў усё, а потым з цягам часу пачынаў супастаўляць і разумець не адну рэч і дадумваць рэшту. Я не быў асабліва ўважлівы, хутчэй наадварот, але пачутыя словы западалі нейкім чынам самі ў вушы і заставаліся ў памяці, я каменціраваў іх потым і ўвасабляў у вобразе, на які хапала маёй фантазіі. І такое слова, падкрэсленае прыдуманай ілюстрацыяй, мела ўжо трываласць надпісу, выбітага на камені.

Маці іграла значную, але неўсвядомленую ролю ў развіцці маіх інтэлектуальных схільнасцей, бо вучыла мяне сваім прыкладам гаварыць шмат і добра, выбіраць сакавітыя азначэнні, якія даходзілі да сутнасці рэчаў, афармлялі іх вобразна і каляровa. Сама яна гуляла словамі і выразамі, як каляровымі мячыкамі, якія падкідвала і лавіла на ляту з немалой лоўкасцю і без аніякай рэальнай мэты, дзеля самога мастацтва. Гэтак жа сама яна пісала свае бясконца доўгія і красамоўна закручаныя лісты, і бацьку з такой цяжкасцю ўдавалася ўтрымацца, каб не аддаць іх у чужыя рукі. А бацька, хоць яму было далёка да матчынай красамоўнасці і манер, іграў таксама сваю немалую ролю ў гэтых славесных гульнях, бо з'яўляўся невычэрпнай крыніцай прыказак і народных разважанняў, сыпаў імі, як з рукава, і ахвотна цытаваў іх пры кожнай магчымасці. Таму, разам узяўшы, у дзяцінстве мяне акружаў — дзіўная рэч — даволі значны культ жывога слова побач з поўным ігнараваннем слова друкаванага. Я рана навучыўся цаніць слова і надаваць яму большую вагу, чым іншыя дзеці з майго асяроддзя. Вядома, гэта была несфарміраваная першапачатковая сімпатыя, якая ў вялікай ступені апіралася на схільнасць да пустой формы, да дэкламатарскага малпавання, але з-за гэтага не менш гарачая і шчырая.

Наяве я не ведаў, як дапамагчы ёй выразіцца, заблукаўшы ў паўзмроку несвядомага, але ў сне быў значна смялейшы: я не раз сніў, што бегла гавару на розных мовах, прыводжу людзей у захапленне цудоўным красамоўствам, проста паную над натоўпам і трымаю яго ва ўладзе крылатага слова. Гэта мне даецца лёгка, само па сабе, без аніякага намагання, я адчуваю сябе натхнёным уладаром, даходжу да вяршыні ўсеўладдзя і шчасця, да экстазу, за якім ужо заканчваюцца чалавечыя магчымасці і пачынаюцца незямныя абшары асалоды. Прачнуўшыся, я стараўся іх затрымаць і ўзнавіць знікаючы змест гэтых сноў, а калі не мог з гэтым справіцца, хапаў якія-небудзь вершы ці дыялогі з аповесцей і наўгад гучна дэкламаваў урыўкі, значэння якіх я не разумеў, наталяючыся рытмікай перыядычнасці. Але гэта не перашкаджала мне цешыцца сугучнасцю рыфмаваных канчаткаў і захліпацца ап'яняючым водарам вытанчанага слова, яшчэ невядомым, толькі прадчуваным, якое я цаніў больш за ўсё. Гэта прыгажосць была не раз, безумоўна, абсалютна праблематычнай, бо выбар паэтычнага матэрыялу вырашаў мой дрэнны густ ці сляпы выпадак. Добра было, калі мне траплялiся вершы Міцкевіча і «берагам сіняй Свіцязі» я ішоў за ім «пры бляску месяца». Але не раз мяне здавальнялі і горшыя ўзоры, і я прымаў звычайныя бліскучыя каменьчыкі за каштоўныя камяні...

Аднойчы мы былі з бацькамі і Стасем у Чамброве і затрымаліся там даўжэй, чым звычайна. Дзяўчынкі, шмат за мяне старэйшыя, зачытваліся вершамі з малых томікаў анталогіі, якую называлі «Польская ліра»[13]. Томікаў было там нешта каля дзесяці, выбар вершаў у іх быў вельмі

[13] «Польская ліра» — дзесяць сшыткаў паэзіі, якія выдаваў у Варшаве Лесман у 1882—1897 гг.

разнастайны і часта не падлягаў крытыцы, але гэта не змяншала папулярнасць «Ліры» сярод чамброўскай моладзі. Гэтыя вершы найбольш падабаліся сярэдняй з маіх стрыечных сясцёр — Каці, летуценніцы і энтузіясткі, якая па-старасвецку любіла паэтычнасць. Яна вылучала Стася як старэйшага, які больш адпавядаў з пункту гледжання ўзросту, і разам з ім вартавала томікі анталогіі, шукаючы там з бянтэжачай настойлівасцю любоўныя вершы. Нарэшце яна знайшла «Імправізацыю» Нарцызы Жміхоўскай, якая пачыналася словамі:

> Бедным было маё сэрца,
> калі без рэха ў грудзі самотныя
> ўдарыла, перапоўненае
> неразумных жаданняў крывёю...

Там было шмат пра каханне, даволі няскладна і звычайна. Каця ў захапленні пачала гучна чытаць гэты верш, адначасова саромеючыся і стрымліваючы асалоду. Пры гэтым яна паглядала на Стася, як бы чакаючы ад яго пэўнага разумення, але Стась слухаў без усялякага ўражання, лыпаючы вачамі, і меў даволі дурнаваты выраз твару, бо галава ў яго ўвогуле была слабая і складаная мова з цяжкасцю прабівала яго тоўстую скуру. На мяне не звярталі ўвагі, мяркуючы, што такая мелюзга, як я, нічога не можа сказаць пра такую ўзнёслую матэрыю. Аднак гэта «Імправізацыя» зрабіла на малога грамавое ўражанне, доказам чаго з'яўляецца тое, што да сённяшняга дня я ведаю яе на памяць. Гэты няхітры верш пра напаўдзіцячую закаханасць здаўся мне шэдэўрам, які адкрываў самыя скрытыя тайнікі сэрца, і хваля цудоўнай сарамлівасці ўпершыню накацілa на мяне так моцна сваім дрыготкім патокам і прабілася румянцам на палаючым твары. Я ўцёк у сад, хоць ніхто мяне не гнаў і не затрымліваў, а потым дачакаўся хвіліны, калі нікога не было ў салоне, дарваўся да «Імправізацыі» і спазматычна ўпіўся ў яе вачамі, пакуль не праглынуў усю, як адзін глыток ап'яняючага віна. Пры гэтым я дрыжаў ад страху, каб мяне хто-небудзь не злавіў па гарачых слядах на месцы здзяйснення гэтай «бессаромнасці».

Неяк так адбылося, што я пачаў лічыць каханне нечым ганебным. Я быў вельмі ўражлівы на кожнае ўзгадванне аб каханні, развіваў у закутках фантазіі пачуццёвыя канфлікты і патэтычныя сітуацыі, але ўголас ніколі б у гэтым не прызнаўся. Словы «каханне», «каханая», «нарачоная» гучалі для мяне спакусай забароненага плода і абуджалі ўва мне страшэнную сарамлівасць, блізкую да страты прытомнасці. Думка, што мой уласны лёс і мая асоба могуць калі-небудзь быць звязаны з такімі справамі, пагружала мяне ў салодкі неспакой і праймала такім шалёным сорамам, што я баяўся падняць вочы ўверх, каб у іх што-небудзь не прачыталі. Гэтыя пачуцці абуджалі ўва мне перш за ўсё прыгожыя маладыя дзяўчаты, таму, як вынік, я пазбягаў іх, і гэта мая «сарамлівасць» была своеасаблівай формай майго паклонення дзявочай прыгажосці. Калі ў Асташын час ад часу завітвала якая-небудзь маладая асоба жаночага полу, для мяне адразу наступала крытычная хвіліна і выклікала буру ва ўсёй маёй натуры. Я не мог ні аб чым іншым думаць, як толькі аб гэтай «прыгожай незнаёмцы», і яе прысутнасць у нас, якую я здалёк адчуваў нервамі, балюча пранізвала мяне цудоўнай трывогай. Верх зацікаўленасці прыбыўшай асобай я праяўляў такім далікатным чынам, што не даваў ёй ні падысці да сябе, ні загаварыць, плакаў, калі мяне да яе

падводзілі, сілай вырываўся і ўцякаў ад яе ўглыб саду, як ад заразнай чумой. Дамашнія ў такіх выпадках паблажліва жартавалі з мяне, мае паводзіны прыпісвалі майму няўменню паводзіць сябе і нясмеласці і не адчувалі, якімі драматычнымі шляхамі пры гэтым праходзіла мая невялікая асоба, якая разрывалася паміж пачуццём самага салодкага захаплення і найвышэйшай прыгнечанасці, бо я сам добраахвотна адмовіўся ад віду гэтых дражнячых прывабнасцей і пазбаўляў сябе ўзрушэнняў, ад думкі аб якіх муціла ў галаве.

Розныя гэтыя мае хімеры з'яўляліся, вядома, стыхійна, без выразнага ўдзелу свядомасці, бо былі навеяны выпадкам, нібы хмары ветрам пераменнага напрамку. Сёння я мог змясціць гэтыя фантазіі ў паняццях кахання, творчасці і славы, але тады я не мог сябе зразумець. Я апускаю прагу кахання, але творчасць і слава спалучаліся ў маіх думках у адно, і пры гэтым «слава» ішла заўсёды ў пары са «словам». Не ведаючы аб гэтым, я любіў прыгажосць слова, тужыў па бездакорнай форме выказвання, хоць бы нават незалежнай ад зместу, бо пра змест я думаў няшмат, мне было дастаткова адчуць рытміку і музыку слова і атрымліваць асалоду ад гэтых яго цудоўных уласцівасцей. Я памятаю, што ў «Літаратурнай бяседзе» я адкапаў пасрэдную аповесць, перакладзеную з англійскай мовы, пад назвай «Геніяльны інжынер», у якой апісвалася гісторыя кахання чалавека з простанароддзя да дзяўчыны высакароднага паходжання. Я ўпіваўся шаблоннымі перыпетыямі гэтых пачуццяў, але перш за ўсё не мог адысці ад захаплення, што яе звалі «Лільяна» і што яна іграла на фартэпіяна «Баркаролу» Гуно. Розныя спатканыя выразы і вершы гучалі для мяне як самая прыгожая музыка, і яны самі станавіліся інструментамі, на якіх мая фантазія спрабавала іграць уласныя мелодыі.

Іншым разам я ізноў дазваляў экзотыцы далёкіх падарожжаў і прыгод ахапіць сябе, і тады мяне ўражваў Верн. З яго «Капітанам Ферагусам»[14] я здзяйсняў цудоўныя марскія прыгоды, назіраў жыццё акеанічных глыбінь, разам мы вялі нейкія шалёныя праследаванні ў прыдуманым ім прататыпе падводнай лодкі. Там ужо справа была не ў гучным слове, а ў незвычайным змесце, які абуджаў фантазію і даваў ёй высокую асалоду перажывання гэтых цудоўных здарэнняў, адарваных ад рэчаіснасці. Пры гэтым, аднак, у пагоні за ўражаннямі, якія прыходзілі звонку, падораныя неяк выпадкова, я без увагі і лянiва абмінаў усе дасягненні, якімі я быў абавязаны ўласнай волі, уласным рысам характару, бо наконт фарміравання характару ў нас заўсёды было глуха, пра такія рэчы я проста ніколі не думаў. Таксама, зрэшты, шануючы захапленне словам, я не думаў пра духоўны змест, якім слова можа тайна валодаць і які можа быць важнейшы за форму. Такім чынам ува мне выпрацоўваўся пэўны від успрымання жыцця, сібарыцкі і эстэцкі стыль, запазычаны з павярхоўнай рамантыкі акружэння.

Рысай гэтага стылю было прызнанне першынства формы над зместам, таленту над характарам, дэкламацыі і летуценнасці над рэальным дзеяннем, словам, патэтычная эфектнасць, пазбаўленая грунтоўнасці і глыбіні, пены рамантызму. Карацей кажучы, на мне адбіліся якасці пакалення пасля паўстання, і на чале іх — жаночая пасіўнасць, бясплод-

[14] Напэўна, памылка ў прозвішчы капітана Фарагута, камандзіра фрэгата ў аповесці «20 000 лье пад вадой». Булгак, відавочна, пераблытаў яго з галоўным героем твора — капітанам Нэма.

ная і летуценная ў процілегласць мужчынскай актыўнасці папярэдняй эпохі, актыўнасці цвярозай, яснай і моцнай. Адбіліся шкодным чынам, забіраючы ў мяне шмат ініцыятывы і ўмення ў маладыя гады і пагружаючы ў некіруемы квіетызм, ад якога мне ўдалося вызваліцца толькі ў другой палове жыцця, у віленскі перыяд. Гэтаму перыяду, ужо як свядомаму і дзейснаму, я намерваўся прысвяціць другую частку маіх дзённікаў пад назвай «Палова жыцця ў Вільні»[15]. Вазьмуся за яе адразу па заканчэнні дадзенай працы, каб такім чынам прадставіць сваё жыццё на ўсім яго працягу. Ну, і каб шукаць далей падмацаванне ў сучасных умовах, на пачатку чацвёртага года вайны, калі ўжо проста няма чым дыхаць і людзі жывуць, як у пустыні — панурай, здзічэлай, пазбаўленай усяго чалавечага.

Вяртаюся да сваіх «хімер». Каб пазбегнуць паўсядзённасці, якая ў мае горшыя дні выглядвала з кожнага кута і бязлітасна пазбаўляла маё жыццё фарбаў, я любіў, паміж іншым, выклікаць, амаль інсцэніраваць настрой страху і пагрозы. Я ўяўляў сабе нейкіх духаў ці страхі, якія хаваліся за парцьерамі цёмнага салона, нейкія варожыя здані, што даганялі наш экіпаж у вячэрнім змярканні сярод лясной глушы занёманскага бязлюддзя. Я правакаваў халодны рэалізм рэчаіснасці, каб ён прыслухоўваўся да маіх жаданняў і прыстасоўваўся да маіх сімпатый, шукаў паглыблення ўнутраных фактараў, каб выжываць спосабам, які заспакойваў маю тугу, бо ў выніку ўмоў выхавання я не мог знайсці гэта супакаенне ў сабе самім, у намаганнях волі і здабытках уласнай прадпрымальнасці. Адсюль узнікалі частыя прыступы смутку і нуды, якія я перажываў у поўным маўчанні, бо і сам у іх не шмат разумеў і саромеўся з кім-небудзь гаварыць аб сваіх пачуццях. Здаецца, што ў гэтай сарамлівасці засеў інстынктыўны страх, што мае перажыванні будуць высмеяны і зблшчаны; яны мне здаваліся такімі кволымі і безабароннымі, такімі балюча ўражлівымі, ахутанымі такой імглой недасказанасці, што іх мог напалохаць любы дотык, а перш за ўсё, калі іх хапалі грубыя і жорсткія рукі. Мной кіраваў інстынкт самазахавання, у сваёй аснове патрэбны і слушны, але гэты шчыт недаверу псаваў мае адносіны да людзей, пазбаўляў іх прыязнай адкрытасці і спакойнай прастаты, будаваў вакол мяне высокі ізаляцыйны мур, закладваў фундамент пад жыццё самастойнага эгаіста.

Толькі адзін раз я спрабаваў зрабіць пралом у гэтым муры, і то, як аказалася, дарэмна і безвынікова. Справа гэта тычылася Стася Хацiскага і адбылася, здаецца, у 1887 годзе, апошнім, які я правёў дома перад выездам у Вільню. Апанаваны прыступам хандры, я сядзеў асалавелы ў малым салоне, які называлі кабінецікам, і не паддаваўся ўгаворам ні на якую гульню, нягледзячы на ўзмоцненыя дамаганні Стася. На самай справе мне было неяк выключна тужліва і цяжка на душы, акружэнне глядзела на мяне невыносна знаёмым тварам, як быццам бы насміхалася з майго засмучэння. Летні поўдзень, здаецца, сам падгаворваў да гульні і свавольства, але я не варушыўся і на ўсе перакананні Стася

---

[15] Гэтыя ўспаміны Булгак пісаў у 1942—1944 гг. З'явілася каля 300 старонак тэксту, і аўтар лічыў, што патрэбен яшчэ год, каб іх скончыць. Тэкст быў знішчаны падчас пажару ў доме на вуліцы Ажэшкі 10 ліпеня 1944 г. Вярнуўшыся ў Варшаву ў ліпені 1945 г., Булгак планаваў аднавіць тэкст успамінаў (гэтак жа, як і фатаграфічны архіў), аднак справа скончылася напісаннем трох старонак (захаваліся ў прыватных калекцыях).

адказваў магільным маўчаннем. Мне падабалася, што я магу быць вышэй за дурныя дзіцячыя забавы і свавольствы і мець у галаве больш важныя клопаты, недаступныя такому прастаку. Я бачу, як я сяджу, гаротна падпёршыся ў крэсле каля дзвярэй, а перада мной — рыжавата-рабаваты Стась з вялікай нязграбна астрыжанай галавой, які паглядае на мяне з пэўнай мімавольнай павагай. Стась быў на некалькі гадоў за мяне старэйшы, але такое дзіця і такі някемлівы, што ахвотна паддаваўся маёй перавазе. «Ну, пайшлі, Янaчак, гуляць. Даволі тут сядзець, шкада часу!» — пераконваў Стась з прасіцельнай усмешкай малых выцвілых вочкаў, а я яшчэ больш умацоўваўся ў сваёй настойлівасці менавіта таму, што мяне ўпрошвалі. Нарэшце, я б перамог сябе і паслухаў Стася, але цешыла тое, што мяне так доўга просяць і з такімі цырымоніямі, таму я яшчэ больш падкрэсліваў сваю трагічную маску. Зрэшты, прытворства датычыла хутчэй знешняй формы, бо мой настрой быў сапраўды багаты дзіўнымі думкамі, адкрыццё якіх пранізвала мяне небывалым хваляваннем. Гэта было як быццам бы тлумачэнне нейкага невыразнага шрыфту, расшыфроўка нейкіх старых нечытаемых старонак, якія набліжаліся да маіх вачэй і дазвалялі мне здагадвацца аб новых, незнаёмых абшарах пачуццяў і хваляванняў. Я спрабаваў пранікнуць у самога сябе, разгледзець зблізку гэты хаос падсвядомасці і вырашыць, што мне ўласціва, чаго я прагну, чаму я так раблю...

«Янaчак, што з табой здарылася?» — прыставаў Стась, выключна заклапочаны на гэты раз, альбо, можа, яго мучыла цікаўнасць, атрыманая ў спадчыну ад маці.



**Двор у Задвеі.** *Здымак да 1912 г.*

«А нічога са мной», — неахвотна адказваў я.

«Што ты думаеш? — не здаваўся Стась. — Я ж бачу, што ты нейкі сам не свой, цалкам змяніўся. Можа, маеш які-небудзь клопат?» — дадаваў ён, гледзячы з дурнаватым спачуваннем, пры гэтым злёгку шапялявячы па-свойму.

«Не, толькі крыху баліць галава», — прыдумваў я для адчэпнага, і адначасова ў мяне пачынала праблісקваць новая задумка, якая здзекавалася з маёй звычайнай скрытнасці. А можа, сапраўды, пераадолець сябе і расказаць Стасю, што робіцца ў маёй галаве?.. Даверыцца яму, аблягчыць сябе і на яго зрабіць уражанне?.. Нарэшце, разам пазбыцца гэтага невыноснага цяжару... А калі ён не зразумее?.. А потым, чаму я павінен яму ўсё расказваць?.. Хіба я сам ведаю, што мяне трывожыць і не дае спакою?.. Можа, гэта сапраўды нейкае глупства, «не вартае ламанага граша», як гаварыла маці? Нарвуся толькі на смех... скажуць, што гэта «фантазіі, лунанне ў аблоках...» — паўтараў я ў думках багаты рэпертуар матчыных выказванняў...

І, аднак, я адчуваю, што я іншы, што часта мяне не займае тое, чым забаўляюцца іншыя дзеці, што я маю кола патаемных думак і схільнасцей, якія яны, напэўна б, не зразумелі. І першы не зразумеў бы ён, гэты разява Стасік з канапатым тварам, які зараз стаіць нада мной, як чорт над грэшнай душой, і круціцца ад цікавасці, каб выманіць у мяне якія-небудзь прызнанні. Не дачакаецца, не для сабакі каўбаса... Тое, што я адчуваю, занадта моцнае і прыгожае, але і надта цяжкае, каб яго можна было выказаць, не нарваўшыся на смех. Пакуль яны знаходзяцца ўва мне, гэтыя пачуцці, я ганаруся імі, яны ахутваюць мяне дзіўнымі чарамі, даюць мне нейкае невядомае, аграмаднае шчасце, хоць у ім столькі тугі... Але як я змагу каму-небудзь расказаць?..

Я скоса глядзеў на сябра, які стаяў перада мной, і мераў яго паблажлівым позіркам, якім дарослы чалавек адорвае дзіця. Што ён можа ведаць аб парывах, у якія мяне кідаюць думы, што мрояцца ў мае маўклівыя часы, пра лёсы, якія мяне некалі чакаюць, калі, можа, нарэшце, я здабуду залатыя ключы шчасця і адамкну імі зачараваныя вароты невядомага прадчування свету?..

Усё гэта, аднак, яшчэ такое смутнае, няпэўнае, якое ўцякае праз пальцы!.. Так цяжка распазнаць свае жаданні, так цяжка ведаць, што адчуваем і чаго сапраўды хочацца... Але гэта рэчы страшэнна прыцягальныя, ганарлівасць захаплення распірае мяне, калі падумаю аб гэтым невядомым свеце, аб аграмадных памерах прыгажосці, якую я ў ім угадваю, да якой я навобмацак набліжаюся ў сваіх марах. Я не аддаў бы гэтых мараў ні за якія скарбы свету, хоць я не заўсёды іх варты, хоць не раз мне было цяжка зрушыць іх цяжар і я маю спакусу адрачыся ад іх дзеля звыклых дзіцячых забаў і ў пустой весялосці забыць аб сваім салодкім цяжары... але, можа, зрабіць сабе палёгку, пашукаць паратунку ў прызнаннях, выклікаць у Стася здзіўленне і пакланенне?..

І так я вагаўся, раздзіраемы спрэчнымі жаданнямі, і цягнуў з адказам, а Стась глядзеў на мяне і ўсміхаўся ў чаканні, можа, уяўляючы сабе, што мае прызнанні будуць мець прысмак забароненага плода.

І раптам нешта ўва мне перамагло. Як гэта? Я буду гэтаму прыдуркаватаму хлопцу раскрываць таямніцы, якіх яшчэ ніводнае вуха ад мяне не чула?.. Буду падвяргаць іх дотыку нязграбных рук, погляду раўнадушных вачэй, здзекаванню словамі тупасці ці насмешкі?.. Ці варты ён — гэты зусім ні ў чым не вінаваты Стасік, каб я заваліў яго справамі,

якія ён будзе выслухоўваць з бяздушнай усмешкай, каб я яму паказваў рэчы, якія перавышаюць яго разуменне?.. Мае думкі расплывуцца ў няўмелых, пустых словах, развеюцца, як ранішняя імгла, потым дойдуць да фармуліроўкі, і застануцца ад іх толькі нейкі каляровы туман і моташлівае пачуццё дарэмных намаганняў!.. Ці не лепш перарваць усялякую споведзь, застацца ў сваім адзінокім свеце і неаднойчы ў ім маркоціцца, але як жа шматколерна і хвалюючая жыць?!. Зрэшты, жыць надзеяй, што некалі заблішчыць для мяне нейкае святло, прыйдзе нейкае разуменне, мітусня маіх перажыванняў складзецца ў нейкі вышэйшы лад, у якім я знайду сваю долю, сваё прызначэнне, знайду, нарэшце, можа, самога сябе?..

Так я ламаў галаву ў думках, даходзячы паволі да яснага рашэння. Відавочная рэч, што думкі гэтыя былі невыразныя, хутчэй падсвядомыя, і што сёння я растлумачваю іх з пункту гледжання адчуванняў дзесяцігадовага хлопца на мове дарослых людзей. Рашэнне выспела: я ўстаў, узняўся з крэсла з выглядам удзельнага князя, які паказвае, што аўдыенцыя закончана, і прамовіў з годнасцю: «Ужо даволі, мой Стась, не будзем больш аб гэтым. Сам добра не ведаю, што сёння са мной. І калі б нават ведаў і спрабаваў табе гэта расказаць, то, напэўна, ты б гэта не зразумеў. Таму пакінем гэта ў спакоі. Калі-небудзь, з цягам часу, можа, я растлумачу табе гэта, калі ты мяне запытаеш, але не сёння...»

Але Стась мяне ніколі больш не запытаў, што я тады адчуваў, бо проста забыў пра гэту размову, якая толькі для мяне была такой памятнай, а яго не вельмі датычыла. Так скончылася мая спроба адкрыцца. Я не дазволіў сваім фантазіям вылецець на блакіт шчырасці і пакінуў іх зачыненымі, нераскрытымі ў падзямеллях...

Пасля гэтай размовы я страціў усякую ахвоту даверыцца каму-небудзь і замкнуўся ў сабе на доўгія гады, баючыся кожнага чужога заглядвання ў мае пачуцці. У гэтым страху было нешта стыхійнае, на мяжы нервовай траўмы, а ўзмацняла яе тое, што я зусім не мог прызнацца ў неаформленых сваіх пачуццях і ніколі не змог выйсці з хаосу гарачкавых хваляванняў на ясную дарогу роздуму. Я адчуваў сябе то сумна і без усялякай ахвоты, то выпраменьваў радасць быцця і быў схільны да выбрыкаў шалёнай весялосці, то зноў пагружаўся ў тужлівыя і паветраныя мары, але не мог дакладней вызначыць свой стан, ані ўсвядоміць яго прычыны. Лічачы гэтыя настроі справай вельмі далікатнай, якую трэба хаваць ад усяго свету і асабліва ад бацькоў і старэйшых, я быў прыгавораны да пастаяннай адзіноты ў сваіх пачуццях. Гэта адзінота не раз мяне моцна прыгнятала і, хоць была для мяне гонарам, здавалася занадта цяжкай для маіх плячэй. Размова са Стасем, якую я тут прывёў, была першым намаганнем паглыблення маёй свядомасці, і гэта намаганне было поўнасцю няўдалым.

Наступная спроба была больш паспяховай, дзякуючы, можа, таму, што адбылася ўжо ў адзіночку, без удзелу другой асобы. Перад тым як апісаць, я хачу сказаць, што людзі ўвогуле больш мне перашкаджалі, чым дапамагалі наладзіць жыццё паводле майго разумення. Я заўважыў, што не толькі ў дзяцінстве, але і ў пазнейшы час я стрымліваў, па меркаванню іншых людзей, самыя лепшыя пачуцці тады, калі гэтыя пачуцці залежалі толькі ад мяне самога, гэта значыць, калі працэс адчування адбываўся ўва мне без удзелу зацікаўленых асобаў. Так лёгка было і міла любіць людзей здалёк! Нават сваіх самых блізкіх я заўсёды любіў больш за ўсё тады, калі іх нешта аддзяляла, хоць бы гэта была

 адлегласць у некалькі пакояў. Адносіны мае да іх былі самымі сардэчнымі і давалі мне ўражанне поўнай унутранай гармоніі, пакуль прадмет маіх пачуццяў знаходзіўся на адлегласці і не мог непасрэдна ўплываць на спосаб майго адчування. Усё тады змяшчалася ў маёй галаве і ў сэрцы найлепшым чынам і прыносіла мне поўнае маральнае задавальненне. Людзі здаля, акружаныя арэолам маёй фантазіі, якія паводзілі сябе так, як яна дыктавала, былі вельмі дарагімі і любімымі, і думка аб сувязях, якія нас злучалі, давала мне поўнае шчасце.

Але зблізку, удваіх, усё рабілася інакш і горш. Як толькі людзі прымалі ўдзел у складзеным мною адрэзку жыцця, як толькі пачыналі «папраўляць і паляпшаць» мае распараджэнні і перастройваць іх на ўласны лад, адразу ўсё ўва мне блыталася і псавалася, мёд маіх пачуццяў скісаў на воцат, рассыпаліся ў прах мае зачараваныя сады, вялі кветкі самых прыгожых намераў, а ў маёй руцэ заставалася голая і шэрая сцябліна, на жаль, вельмі брыдкая і нічым не падобная на прыдуманы правобраз маіх пачуццяў. Людзі вабілі мяне здалёк міражамі чароўных абяцанняў і заставаліся такімі, пакуль мяне ад іх аддзяляла прастора, а іх сутнасць вызначала мая галодная і буйная фантазія. Але пры першым непасрэдным сутыкненні з імі яны страчвалі фарбы і прыносілі мне пастаяннае расчараванне.

З дзіцячых гадоў я не ўмеў жыць з людзьмі, не ўмеў прымаць іх такімі, якімі яны былі на самай справе. Я не лічыўся з іх сапраўдным абліччам і надаваў ім іншае адпаведна сваім уласным марам, а калі яны мне не падыходзілі ў гэтым абліччы і заставаліся сабой, я адчуваў сябе абсалютна абражаным, разгубленым і няшчасным. Таму мара пра людзей была шмат прыгажэйшая, чым самі людзі, але гэта яшчэ і таму, што я дэспатычна абыходзіўся з людзьмі, як стафаж на пейзажах маіх мараў, і не ўмеў спасцігнуць сэрцам і розумам іх сапраўдную вартасць, схаваную глыбей. Я не прызнаваў самастойнага быцця іншых людзей і хацеў у іх бачыць толькі пластычны матэрыял, які служыць для аздаблення майго ўласнага жыцця. Такім чынам, мае псіхічныя схільнасці з дзіцячых гадоў прадвызначылі маю адзіноту, а гаворачы ад імя мастака — прызначылі мне жанр лірыкі і пейзажа, а не драмы і партрэта, бо гэтыя апошнія патрабуюць лепшага разумення і адчування чалавека, чым маё, патрабуюць актыўнай, альтруістычнай зацікаўленасці людзьмі, якой не магло быць у адзінага дзіцяці, ад нараджэння скіраванага на эгаізм. Але ў сваю чаргу трэба прызнаць, што мне не асабліва шанцавала з людзьмі ў першай палове жыцця і што расчараваннем у іх я абавязаны не толькі недахопам майго характару, але і стараннасці маіх блізкіх абясколерыць мае мары, і гэта было эфектыўным.

Калі сёння я задумваюся, адкуль браліся гэты ненасытны голад па марах і гульня фантазіі, якія вечна ўсё ўпрыгожвалі, то думаю, што на гэта паўплывалі ўмовы майго шчаслівага дзяцінства. Распесчанае бацькамі адзінае дзіця з першых дзён з наіўным эгаізмам навучылася верыць, што яму належыць ад жыцця ўсё самае лепшае, і належыць само па сабе, без ніякіх стаpанняў і намаганняў з яго боку. Адсюль гэты вялізны бесклапотны аптымізм, які, зрэшты, не пакідаў мяне ўсё жыццё і дазволіў мне пражыць яго даволі добра, нягледзячы на цяжкія перажыванні і выпрабаванні, якіх лёс мне не шкадаваў. Я заўсёды па-дзіцячаму верыў у лепшае заўтра і непахісна чакаў яго прыходу, не бянтэжыўся ад зведаных расчараванняў. Я быў у гэтым падобны на вальтэраўскага Кандзіда, які пасля таго, як яму адрэзалі вуха і нос, працягваў

гаварыць з поўным аптымізмам: «Tout est au mienx dans le meilleur des mondes»[16]. А самае вялікае сваё шчасце я бачыў не столькі ў здзяйсненні, колькі ў чаканні гэтага здзяйснення. Чакаць прагна і ахутваць жаданні ў самае цудоўнае адзенне летуценных увасабленняў заўсёды было найвышэйшай асалодай жыцця, яго зместам і каштоўнасцю. Каб не закіснуць ад нуды, не драхлець, не марнець, я быў вымушаны заўсёды чакаць штосьці прыемнае, светлае, квяцістае, сонечнае, што павінна было аднекуль абавязкова прыйсці і ўжо самім абвяшчэннем прыводзіла мяне ў стан тужлівай, поўнай жадання ўзнёсласці, недалёкай ад шчасця. Як шкала напружання, гэта прагная туга была нечувана моцнай, яе нельга было ні з чым параўнаць: яна нараджала вобразы сваёй будучай рэалізацыі, адзін яшчэ больш чароўны, чым другі, і запрагала фантазію для нястомнай самотнай працы, рознакаляровай і шматвобразнай. А фантазія была нястрыманай і не ведала межаў, таму і маё тужлівае чаканне расло па меры фантазіі і ўзмацнялася аж да болю, да забыцця, да гарачкавага шаленства!.. Што ж тут дзіўнага, што рэчаіснасць ніколі не магла справіцца з такім чаканнем і адорвала мяне пастаяннымі расчараваннямі?

Хвіліна, да апісання якой я набліжаўся так марудна, не мела ані сведкаў, ані калег-акцёраў і таму, напэўна, не страціла фарбаў і засталася ў маіх успамінах нічым не скажоная, такая ж прыгожая, жывая і хвалюючая, якой была тады, у той красавіцкі вечар, які мне яе падарыў. Гэта быў выключна цёплы вечар, які мяккай каляровасцю нагадваў майскую пару. Напярэдадні з Карэліч прыйшоў чарговы нумар «Сябра дзяцей». Я знайшоў у ім пачатак «Веслава» і прачытаў з цікавасцю, уражаны яго прыгожай і годнай сельскасцю. У загалоўку стаяла: «Веслаў, ідылія Казіміра Брадзінскага», а паколькі я не меў паняцця, што значыць ідылія, то ўявіў сабе, што гэта прозвішча ўхваленага героя, і было мне з гэтым тлумачэннем цалкам зручна. Я чытаў аж да вечара ў садзе, бо было ўжо зусім цёпла, а потым з нумарам часопіса ў руцэ ўсеўся на ступеньках альтанкі і пачаў думаць аб тым і аб гэтым, аддаючыся ўздзеянню лагоднага вечара.

Сонца ўжо зайшло, і на захадзе з боку Кайшоўкі разгаралася чырвонае зарава, такое чыстае і гарачае, бццам бы канчаўся пагожы летні дзень. Яскрава палымнелі ад яго сцены дома, зеляніна маладых бярозавых лісткоў і мае рукі, якія трымалі часопіс з «Веславам». Гэта імя так цесна злучылася з перажываннямі таго вечара, што з таго часу на працягу ўсяго жыцця мне было дастаткова шапнуць загаловак ідыліі Брадзінскага, каб убачыць апісаную сцэну ва ўсім яе каляровым настроі. Таму Веслаў таксама ружавеў у маіх вачах і набіраўся ад акружэння мяккай палымнеючай прыгажосці, якая з таго часу засталася ў маёй памяці і нязменна робіць на мяне ўражанне «ружовага».

Вячэрняя зара апраменьвала свет урачыстым святлом, і бярозавыя кроны з развешанымі радамі гронкамі станавіліся ў гэтай зары ўсё больш цяністымі і крывавымі. Святло ператваралася ў нейкую ўсюдыісную субстанцыю, якая пранізвала паветра і надавала яму асаблівы выраз чароўнанапеўнасці. Прасторы дрыжалі і пульсавалі гэтай напеўнасцю, далікатнай і гнуткай, як дотык кахаючых дзявочых рук, і ўладарнай і

[16] «Усё робіцца як найлепей у гэтым лепшым са светаў». Гэта быў, уласна кажучы, дэвіз Панглоса, настаўніка Кандзіда (*Вальтэр*. Філасофскія аповесці. Варшава, 1984).

непазбежнай, як прыгавор прызначэння. Ружовая кантата заходу, здавалася, расла, узмацнялася і напаўняла прасторы каляровай аўрай меладычнай прыгажосці, якая абдымала маю галаву і ўводзіла думкі ў стан узнёслай зачараванасці.

Я быў адзін, дамашнія знаходзіліся далёка, і нішто не парушала ціхай павагі хвіліны, у якую я раптам зведаў загадкавае хваляванне, як быццам бы нейкая ласка сышла на мяне зверху і несла мне дар поўнага яднання з меладычнай яснасцю вечара. Я застыў, углядваўся ў гэта наплываючае святло і ва ўласныя думкі, і мне здалося, што яны не такія мутныя, як звычайна, што праз іх прасвечваюць пробліскі разумення. З румяных, спяваючых нябёс плыла лагодная задумлівасць, дабрадушная павага, урачыстая запаведзь вышэйшых рэчаў, якія вызначаюць усё жыццё. Пад гэтым высокім нябесным скляпеннем, якое расцвіло вячэрняй зарой, я адчуў сябе як у святым Божым касцёле — узвышаным, уражаным і шчаслівым...

Усё, што было ўва мне пачуццём, прыпала да зямлі, скарылася перад веліччу вячэрняй гадзіны душы. Без руху, стрымліваючы дыханне, я глядзеў і слухаў яе з'яўленне. Часам паўліны, якія начавалі ў залцы, трывожна крычалі самотным лямантам, альбо пачыналі шаптаць галінкі беразняку пад акном, як бы ўспамінаючы прайшоўшы дзень. Але ўсе гэтыя водгаласкі саступалі і змаўкалі перад урачыстай цішынёй, якая сыходзіла з нябёс, выпраменьвала свет, уваходзіла ў маю душу і аб'яўляла яе сваёй. Я быў шчаслівы, што жыву і пачуцці мне пасылае гэта ружовая з'ява. Я глядзеў, усхваляваны, на прыгажосць нашага дамашняга гнязда і першы раз у жыцці адчуў уражанне, што нейкія высокія сілы кладуць мне на галаву благаславёныя далоні і напаўняюць асвячаючай ласкай, што нейкія нябачныя ніці, тонкія, як шоўк, і моцныя, як смерць, абмотваюць мяне чарадзейнай уладай і прывязваюць да гэтага дома, да гэтай зямлі на ўсе дні жыцця, на долю і нядолю, на вечную любоў і вечную муку, на крывавы боль гэтай любові і на яе найвышэйшае шчасце...

І вось дзіця на парозе альтанкі з «Веславам» у руцэ, раптоўна агорнутае гэтым Божым полымем, акрыленае пробліскамі анёлаў, адляцела ў бязмежжа заходзячай зары, і аграмадныя вогненныя нябёсы расчыніліся, каб прыняць новую душу, здабытую ў гадзіну ружовага цуда... І мінаў час, дагасала зара, сыходзіла на зямлю ліловае змяркание...

Хвіліна натхнення мінула... Памутнелі і расталі патокі ружовых прывідаў і дрыжыкі ад гэтых невядомых пачуццяў, засталося толькі рэха гімна, і яго ў душы праспявала чырвоная зара заходу. Я глядзеў на лісты, якія трымаў у руцэ, мой позірк ізноў сустрэўся са словамі: «Веслаў, ідылія Казіміра Брадзінскага», і гэта ідылія яшчэ раз загучала для мяне ружова і меладычна, як подых шчаслівага супакою.

Калі б пасля гэтага вечара Стась ізноў задаў мне сваё зацікаўленае пытанне, чаму я задумлівы і сумны, мне было б ужо лягчэй яму адказаць. Але зараз, пасля перажытага з «Веславам», — тым больш маўчаў бы і захоўваў яго для сябе...

У мае дзіцячыя гады лягчэй было з фантазіямі, чым з гульнямі, бо такое распешчанае і прыгаворанае да самотнасці адзінае дзіця не вельмі мела з кім забаўляцца, а Стася, як шмат старэйшага, нельга было браць у разлік. Таму я моцна сумаваў па кампаніі равеснікаў і ў кожным

ахвотна шукаў паратунку ад нуды, кожнаму без выбару быў шчыра рады. Так было са шчэпаўскімі хлопцамі, з якіх Мар'ян быў на два, а Богдан на тры гады малодшы за мяне. Яны мне не надта адпавядалі, бо мы мелі цалкам розныя схільнасці, але на бязрыб'і і рак рыба. Наша сяброўства грунтавалася, вядома, не столькі на чулых адкрытых размовах і даверлівых гутарках, колькі на звычайных гарэзлівых стычках, лаянцы і свавольстве, вельмі недалёкіх ад звычаяў вясковых пастушкоў. Лаяліся мы і таўкліся без цырымоніі, і нашы забавы часта заканчваліся плачам, пасля якога ізноў наступала згода. Інакш было з Анцяй. Яе выхаванне не знаходзілася на лепшым узроўні, чым наша, і, зрэшты, яна не была жаданай кампаніяй для хлопцаў, будучы шмат малодшай, але мяне яна цікавіла менавіта як маленькая дзяўчынка, што патрабавала апекі і клопату, якія я дарыў ёй з усёй гордасцю майго старшынства. Больш не было ніякіх дзяцей сярод нашага кола знаёмых. Урэшце я быў вымушаны задавольніцца таварыствам гэтай тройкі, і як толькі хтонебудзь з іх прыязджаў з бацькамі ў Асташын, я, замест таго каб радавацца іх прысутнасці, пачынаў адразу хваляваца аб тым, што яны хутка ад'едуць і зноў пакінуць мяне аднаго. Таму я не даваў спакою старэйшым, націскаючы і ўпрошваючы, каб дзеці маглі затрымацца ў нас даўжэй. Маё дакучанне часам мела вынік, шчэпаўскіх хлопцаў на самай справе пакідалі ў нас даволі часта, бо яны ўжо мелі настаўніцу ў доме і, зрэшты, дзядзькава жонка была не вельмі ласкавай у адносінах да маёй маці, але Анцю дзядзька з цёткай аддавалі ахвотна на цэлыя тыдні, аж да свайго наступнага прыезду.

Маці вельмі любіла малую «Анцютку» і з радасцю прымала яе сабе за дачушку, а мне за сястрычку. Першым дзеяннем мамы, калі ўжо дзядзька з цёткай ад'ехалі, была праверка, ці мае Анця пад святочнай сукенкай у парадку бялізну, а потым — стараннае вычэсванне яе доўгіх, залацістых і прыгожых кучаравых валасоў. І, вычэсваючы насякомых, якія ў іх звычайна гняздзіліся па прычыне дамашняга недагляду, абураная маці бурчала пад нос: «От, гэта Ядвіня! Мае столькі мамак і нянек, а не можа дагледзець дзіця. Зверху аксаміты, а бялізна падраная і вошы ў галаве!» Але ў гэтым бурчанні было больш любові, чым вымовы, і больш прыхільнасці, чым злосці, бо яна шчыра любіла цёцю Ядвіню за яе мяккі характар і паблажліва ставілася да яе як да не зусім дарослай. Анці ж не трэба было два разы паўтараць запрашэнне, бо дома на яе ўвесь час бурчаў бацька, і пераважна без прычыны. Таму ў яе было нялёгкае жыццё, і яна была рада расслабіцца ў нашай спакойнай дамашняй атмасферы, дзе яе любілі і песцілі і ніхто не лаяў і не штурхаў без прычыны.

У час, які я апісваю, гэта значыць у апошні год перад школай, Анця мела шэсць гадоў, была малой і шчуплай, даволі маўклівай і замкнутай. Яна выглядала, як быццам бы была ўвесь час напалохана і ўстрывожана, і гэта былі вынікі матчынага занядбання і бацькавай лаянкі. Гэта панурасць маленькай дзяўчынкі дзіўна кантраставала з яе прыгожым тварыкам правільнага авалу, светлымі валасамі і блакітнымі вачамі, як створанымі для бацькоўскай ласкі. З-пад гэтай прыцішанай нясмеласці выглядвала, аднак, натура жывая, схільная да свавольства, і вырысоўваўся характар мацнейшы, не пазбаўлены ўпартасці і пэўнай дэспатычнасці. Пасля некалькіх разоў такога гасцявання ў Асташыне Анця стала



***Над вадой.*** *Здымак да 1926 г.*

нашай любіміцай і заняла месца маёй сястры. Маці не рабіла ніякай розніцы паміж намі абаімі і адносілася да Анці як да ўласнага дзіцяці. Лічылася, што яна належыць да нашай сям'і, і так заставалася доўга, а што да мяне, то я навучыўся бачыць у Анці самую блізкую асобу ад самага пачатку, і гэта растучая сімпатыя з гадамі скончылася нашым шлюбным саюзам.

Пасля Анці ў мой невялікі свет уціснулася яшчэ адна дзяўчынка — Ганна, дачка Алесі Троскі, непрыгожа насатай і вядомай тым, што яна мела трох дзяцей, кожнае з якіх паходзіла ад іншага невядомага бацькі. Ганна была равесніцай Анці, і неяк так стала, што яна пачала ўдзельнічаць у нашых забавах, калі ў іх увайшла Анця. Жанчыны ж заўсёды цягнуць адну за адну. Такім чынам, асташынскі інфант меў ужо світу па баках, складзеную з дзвюх дам двара, і летам бываў амаль пастаянна ў іх таварыстве. Ганна не належала да прыгожых, бо дакладна прадстаўляла непрыгожы беларускі тып ва ўсім сваім суровым прымітывізме. Яна мела курносы нос, вечна вільготны і запэцканы, і выцірала яго наводмаш рукавом абсалютна адкрыта і рашуча... Ганна насіла даматканую спадніцу, доўгую, да самай зямлі, і такую ж брудную, як зямля, а на галаве — хустку накшталт буды, рукі ж і ногі мела чорныя ад балота і мылася толькі сімвалічна, паліваючы ваду на руку і злёгку датыкаючыся ёю да твару, як кошка лапай. Яна была адначасова дзікая, і хітрая, і цікаўная, як усе сялянскія дзеці, старалася выдурыць у нас што-небудзь смачнае, а калі не атрымлівала, кідала гульню і ішла да пякарні, ведаючы, што мы пойдзем шукаць яе ўслед. Тады яна прыкідвалася моцна занятай сваім малодшым брацікам Сымонам, якога быццам бы ёй сказала нянчыць маці. Сымон — гэта было няшчаснае малое, брыдкае, як сем смяротных грахоў, закарэлае ў брудзе, аблепленае мухамі аж да дзірак у носе і падрапанае, як старая прасціна... Аднак дастаткова было пячэння ці кавалачка цукру, каб змяніць погляд Ганны на абавязкі нянькі Сымона і на абавязковую паслухмянасць і схіліць яе да легкадумных прагулаў у нашай кампаніі. Нам жа яна была вельмі патрэбная, бо была першай у гульні, заўсёды поўная ініцыятывы і розных задумак. Ганна мела рашучы характар і абыходзілася з намі запанібрата, нават з пэўным адценнем перавагі, як з панамі-расцяпамі. Ёй не падабаліся нашы «панскія» манеры, наадварот, будучы больш прадпрымальнай, яна глядзела на нас крыху звысоку і нават высмейвала нашы паводзіны. Калі, напрыклад, хто-небудзь з нас ветліва гаварыў «дзенькуе», гэта слова смяшыла і здзіўляла Ганну, якая нават не ведала яго значэння. Яна бралася за бакі, заходзілася ад смеху і перадражнівала нас, паўтараючы ў нос: «Дзікуны, дзікуны». Яна рабіла гэта з такім апломбам, што мы разяўлялі раты і былі недалёкія ад пераканання, што не Ганна, а мы не ўмеем сябе прыстойна паводзіць. Гэтыя «дзікуны» былі, бадай што, найлепшым паказальнікам таварыскага ўзроўню нашай тройкі, бо яны нас зусім не бянтэжылі, а нават станавіліся нашай гульнёй. Мы павінны былі таксама прыстасоўвацца да Ганны ў мове, бо яна не ведала польскай, таму яна была нашай першай настаўніцай народнай мовы. І, нягледзячы на ўсё гэта, кампанія дзвюх дзяўчынак станоўча ўплывала на мой характар і ўстрымлівала мяне ад занадта акцэнтаванай грубасці, якую я праяўляў у кампаніі хлопцаў.

Нашы гульні былі абсалютна простыя і знаходзіліся на ўзроўні лясных людзей, такіх, уласна кажучы, «дзікуноў», якімі мы тады былі. Цыві-

25. Зак. 297.

лізаваныя гульні, як серсо, мяч і крыкет, былі нам невядомыя і прыйшлі пазней з Вільні, калі я быў гімназістам. Дзікунам, як і вяскоўцам, не трэба было прадметаў для забавы, ім было дастаткова ног. Мы проста бегалі па ўсіх закутках двара і саду, залазілі на невысокія дрэвы, узлазілі на стрэхі, швэндаліся па гаспадарчых пабудовах, і ў гэтых паходах верхаводзіла Ганна, дзякуючы свайму сялянскаму спрыту і знаходлівасці. Акрамя таго, мы гулялі ў хованкі альбо ў «бабу-закутніцу» і «чараўніка». Першая гульня не патрабуе тлумачэнняў, і гэта яна падштурхоўвала нас шнырыць па ўсім двары, служачы зачэпкай да сапраўды шалёнага свавольства. Другая была ўжо крыху больш складаная: яна заключалася ў тым, што мы бегалі навыперадкі, хто хутчэй дабяжыць да месца знаходжання «бабы-закутніцы», яна сама ці тыя, хто гуляў разам, і хто каго здолее хутчэй «закаваць»; усе гэтыя гульні патрабавалі спраўнасці рухаў і жвавасці ў нагах, а гэтага нам, вядома, хапала.

У зарослым гушчаром Асташыне было шмат цудоўных схованак, і кожнае такое месца давала нам магчымасці развіваць у сабе інстынкты лясных людзей. Не ведаючы яшчэ Тарзана, які не нарадзіўся, мы прадчувалі яго і імітавалі ў нашых гульнях. Мы зусім прымітыўна давалі выхад сваёй энергіі, ганяючыся адно за адным і ловячы адно аднаго, хаваючыся, выследжваючы і падглядваючы. Не раз у нас аж дух захоплівала ад хвалявання, калі хаваліся на гарышчы якога-небудзь хлява, у якім-небудзь гушчары ў садзе ці на вяршыне куста ляшчыны і адтуль сачылі за рухамі тых, хто нас дарэмна шукаў, аж пакуль нястрыманы выбух смеху не выдаваў прысутнасці схаваных. А як гэта было цудоўна: бегчы да лаўкі, на якой ляжала чароўная палачка, і закаваць ёю «бабу-закутніцу», калі тая неабачна адышла задалёка і страціла ўладу, звязаную з палачкай. Беглі, колькі было духу, хоць да ўпаду, трэба было перамагчы, трэба было выйграць, і сэрца стукала ў грудзях, як жывое стварэнне. Нарэшце дабягалі да лаўкі, стукалі з апошніх сіл па ёй тры разы і кідаліся на зямлю, дыхаючы, як кавальскія мяхі, і смеючыся да ўпаду. Не раз позняе летняе змярканне заставала нас засопшыміся, разагрэўшыміся, і толькі энергічнае ўмяшанне старэйшых заганяла нас дадому на гарбату, падчас якой пасля такой стомы так выдатна ажыўлялі якія-небудзь сакавітыя ягады, абсыпаныя цукрам і палітыя густой смятанай.

Часам, калі мы, даганяючы адзін аднаго, забягалі ў бок хлява, самі паддаваліся спакусе хвіліну адпачыць. Мы ўваходзілі ўсярэдзіну, слухалі размеранае цырканне малака ў дайніцы і нецярплівыя воклічы дзярак, якія сварыліся паміж сабой і на кароў. Гэтыя воклічы лёгка пераходзілі ў лаянку і праклёны, калі якая-небудзь з іх атрымлівала ад каровы хвастом па твары альбо карова пераварочвала даёнку з малаком, і заканчваліся агульным смехам. Нам падабаўся гэты шумны абрад у халодным цемнаватым хляве сярод шапацення саломы, і было вельмі смачнае малако, якое чэрпалі проста з цэбра, яшчэ цёплае і пеннае. Трэба было толькі вельмі ўважліва сачыць за мухамі, незлічоныя раі якіх насіліся паўсюдна, каб не праглынуць якую-небудзь разам з малаком. На крэселцы ля дзвярэй сядзела Юлька, якая наглядала за парадкам даення, а высокі худы сіваваты арандатар Іцка ківаў нам прыязна барадой і выказваў пажаданне, каб «малако пайшло на здароўе вяльможнаму панічу і паненцы», пасля чаго ён вяртаўся да сваёй прагулкі па двары і, соваючыся з кута ў кут, развяваў поламі попельнага халата і

сварыўся далей з даяркамі з-за мыцця рук і чысціні малака. Тады яго прыніжаны тон адразу мяняўся і амаль страчваў дваровыя акцэнты, а даяркі не заставаліся перад ім у даўгу. Нарэшце дойка заканчвалася, каты злізвалі рэшткі разлітага малака, даяркі збіралі посуд, працягвалі насілы пад вушкі цэбраў і шумным карагодам выходзілі з хлява, адносячы малако ў арандатарскую і ў лядоўню. На двары цямнела, а з хлява даносіліся раўнамернае пяражоўванне кароў і бразганне ланцугоў, цёплы пах саломы, гною — такі знаёмы, моцны і няпрыкры. Пасля стомы ад бегатні на працягу ўсяго дня было прыемна вярнуцца ў пакой, з вачамі, якія зліпаліся ад сну, сесці за стол, і амаль ужо ў сне ўспамінаць уражанні мінулага дня, поўнага руху, крыку і смеху. Я, робячы выгляд смельчака, штурхаў Анцю ў бок і жартаваў з яе, што яна зараз зваліцца з крэсла і згубіцца пад сталом, а Анця — згорбленая, дробная і маленькая, ненамнога вышэйшая за стол, сядзела з растрапанымі светла-залацістымі валасамі і са шчылінкамі замест вачэй на выцягнутым, крыху хмурым тварыку. Але і я нядоўга мог заставацца такім малайцом: стома перамагала мяне, і агортвала салодкая млявасць, у якой я ледзьве мог, заікаючыся, прагаварыць пацеры і ўжо забываў папрасіць Бога, каб ён абараніў мяне ад страшных сноў.

Нашы гульні з Ганнай мелі зусім нечаканыя наступствы, бо не мы з Анцяй рабілі Ганну больш цывілізаванай, а яна, як бы гэта сказаць, «рабіла нас вясковымі», служачы прыкладам сялянскага спрыту і сялянскай прастаты. Яна была смялейшая за нас і спраўней лазіла па дрэвах, знаходзіла арэхі і ягады, а таксама іншыя рэчы, прыдатныя да ежы ці да гульні, лепш умела хавацца ў гушчары і выскокваць з засады, спрытней выказвалася, чым мы, — словам, давала доказы лепшага знаёмства з прыродай, лепшага красамоўства і практычнай сталасці. Ёй мы былі абавязаны адной з самых прыемных забаў лета — каб пячы бульбу, яна прыдумала печ, якая была пабудавана па ўсіх мулярскіх законах у куце саду за альтанкай.

Гэту печ, спраектаваную Ганнай, зрабіў яе брат Міхась, буфетны слуга. Яны абое, як я ўжо казаў, былі дзеці Алесі — гаспадыні пякарні, абавязкам якой было гатаваць ежу для чэлядзі і карміць пагалоўе свіней і птушак. Гэта сям'я вызначалася асаблівай агіднасцю і поўнай адсутнасцю прывабнасці, што, зрэшты, было даволі распаўсюджанай рысай навагрудскіх сялян у процілегласць віленскім, больш спаланізаваным і пародзістым. Алеся была васпаватай, і шурпаты ком яе твару нагадваў круглыя нарывы на карце Месяца, але гэта не змяншала яе поспеху сярод агіднага роду... Адсюль выцякалі сезонныя марганатычныя саюзы, пладамі якіх былі, уласна кажучы, Міхась і Ганна, а потым Сымон... Усе трое дакладна паўтаралі пачварнасць маці. Першае месца ў гэтым трымаў Міхась са сваім качыным носам і беднымі вачамі, з чупрынай, якая тырчала ў розныя бакі і надавала яму выгляд толькі што абуджанага ад сну. Гэта, зрэшты, не перашкаджала яму быць першарадным свавольнікам, як толькі ён аказваўся па-за межамі ўвагі майго бацькі, якога баяўся больш за ўсё і на вачах якога рабіў пакорлівую і нявіннахваравітую міну, што сведчыла аб тым, што ён заўсёды нешта меў на сумленні. Міхась быў, згодна з беларускім азначэннем селяніна, «дурны, як варона, і хітры, як чорт», і дзякуючы гэтай яго хітрасці мы атрымалі печ, пабудаваную Міхасёвымі рукамі з добрай цэглы, і перажылі каля яе шмат прыемнага.

Перш за ўсё само будаўніцтва. Мы са здзіўленнем глядзелі, як Міхась мяшаў гліну ў цэбры і рыхтаваў з яе густую кашу для замацавання цаглін; як з заўзятасцю спецыяліста замочваў цэглу ў вадзе і складваў яе адна на адну, а шчыліны паміж імі замазваў «сапраўднай» мулярскай кельняй, якую выпрасіў у майго бацькі. Потым, пасля таго як былі выведзены сцены і вусце, верх печы закрылі скляпеннем і зрабілі комін з бляшанай трубы, і гэта труба нам больш за ўсё падабалася, бо надавала ўсяму салідны і вельмі практычны выгляд. Была вялікая радасць, калі Міхась скончыў работу, а мы назбіралі трэсак і першы раз запалілі ў нашай печы, якая мела добрую цягу, бадзёра гучала і біла ўгару слупам вясёлага дыму. Мы выраўнялі месца перад печчу, каб было дзе пасядзець, назносілі у запас трэсак і падпалкі, і вось наш лагер быў гатовы. Тут зноў лепшай кампетэнтнасцю вызначылася Ганна, якая добра ўмела распальваць агонь, бо мы з Анцяй не мелі аб гэтым паняцця і псавалі запалкі адну за адной. Яна ж з разуменнем падбірала сухія дроўцы, засланяючы іх ад ветру, і запальвала з першай запалкі.

Нам вельмі падабалася такое гатаванне бульбы як самастойная гаспадарчая дзейнасць, але з гэтым было нямала клопату, бо бульба, няўмела спечаная, то прыпальвалася, то недапякалася і заставалася напалову сырой. Трэба было зноў звяртацца да вопыту Ганны, якая, нягледзячы на свае шэсць гадоў, умела гэта рабіць добра, з развагай дарослай асобы. А якія нам былі смачныя гэтыя чорныя асмолкі, уласнаручна выцягнутыя з гарачага попелу, што дыміліся жоўтай крохкай мякаццю! Як ім дадавала смаку дробка солі ці кавалачак масла, зачэрпнуты са сподка пальцамі, чорнымі, як смала, як сквапна падбіралі з зямлі ўпаўшую бульбяную мякаць і хрумсцелі кавалкам абвугленай лупіны, якая трашчала на зубах і рабіла чорнымі вусны... З якім гонарам мы часам запрашалі каго-небудзь са старэйшых у наш лагер і частавалі яго бульбай, нягледзячы на падазрэнне, што такія тупыя дарослыя не здолеюць належна ацаніць гэта запрашэнне і паставіцца да яго з належнай пашанай. Мы таксама хацелі спадабацца прыезджым дзецям, як больш кампетэнтныя ў такіх важных справах, і былі загадзя ўпэўнены ў вялікім уражанні, якое гэта на іх зробіць, бо наша прывілеяванае становішча не падлягала ніякаму сумненню. Пару тыдняў мы пражылі выключна пад знакам печы, былі закінуты ўсе іншыя гульні, не было гаворкі пра іншае, апрача смалякоў і бульбы: цэлымі днямі мы сядзелі купкай ля печы, як вандроўныя цыганяты, і немагчыма было даклікацца нас у пакой. Ганна адчувала сябе пры гэтым яшчэ лепш, чым мы, у сваёй стыхіі, бо гэта ўжо была не якая-небудзь бессэнсоўная «панская» гульня з незразумелымі рэчамі, а штосьці добра вядомае і цалкам рэальнае. Так усе трое мы дасягалі на гэтай бульбяной аснове найлепшага паразумення.

Мая занятасць печчу спалучалася пры гэтым з пошукам вопыту, як заўсёды крыху эмацыянальнага характару. Мяне, без сумнення, радаваў і практычна цікавіў гульнявы бок справы, я ахвотна займаўся дзейнасцю, звязанай з абслугоўваннем печы, насіў разам з дзяўчынкамі трэскі з дрывотні і краў з кухні бульбу з-пад рук повара, псаваў запалкі і вучыўся нялёгкаму майстэрству пячы бульбу ў гарачым папялішчы. Але гэта было не ўсё, для мяне справа была ў іншым. Я наўмысна расцягваў забаву з агнём, каб дачакацца вечара, калі ў надыходзячым змроку вогнішча заблішчыць поўным бляскам, пачне адкідваць наўкола доўгія

палосы полымя, ярка асвятляць твары сядзячых і стане той загадкавай стыхіяй, на якую немагчыма наглядзецца, якая так уражвала мой позірк і думку ў зімовыя вечары, калі Юлька расказвала казкі ля палаючай печы ў гардэробнай. Ужо тады я навучыўся шанаваць агонь як малодшага брата сонца і шукаць у ім паратунку і суцяшэння, калі ненавісная мне цемра забірала маё сонечнае шчасце. Зімой я гарнуўся да палаючай печы і не мог адарваць вачэй ад яе чырвонага нутра і пахмурнеў, калі нехта са старэйшых прыходзіў зачыняць дзверцы і пазбаўляў мяне гэтага чароўнага віду. Я перахрышчваў яго ў маўклівым пратэсце і гэтак жа з нямой неўсвядомленай радасцю вітаў вячэрняе запальванне лямпы, якое ўводзіла светлую, цёплую і каляровую ноту ў пакой, адразу развесяляла і ажыўляла яго змрочную шэрань. Я любіў і паважаў агонь ва ўсіх праявах і лічыў яго свячэнне першай умовай шчасця. Як расліна, я марнеў у цемнаце і не мог жыць без дабрадзейнага святла — крыніцы любой прыроднай прыгажосці. Калі самой радасці вачэй мне хапала, каб «жыць», то крыніца гэтай радасці, крыніца ўсялякага шчасця, зведанага мной у жыцці, знаходзілася ў божай стыхіі агню. Таму я так любіў сонца, таму печ за альтанкай стала для мяне такой важнай падзеяй.

Яна знаходзілася недалёка ад дома, таму нам дазвалялі гуляць ля яе дапазна, і нішто не перашкаджала вячэрнім размовам ля палаючага вогнішча, з-за якога я некалі так зайздросціў вартаўнікам садовых яблынь. Можна ўявіць сабе, як сквапна я карыстаўся гэтай магчымасцю, каб зведаць уражанні, якіх я прагнуў. Бульбяны пір даўно ўжо быў скончаны, але мы падкладвалі агонь яшчэ дзеля прыемнасці і ўглядаліся, як разам з дымам узляталі ў неба бліскучыя раі іскраў, ад якіх святлела і калыхалася дрыготкае лісце сумахаў, што акружалі наш лагер. Наўкола станавілася ўсё цішэй і цямней, і ў гэтай цемры маляўніча мільгалі чырвоныя водбліскі на тварах дзяўчынак, а здаля іх цьмяныя фігуры рэзка вырысоўваліся на фоне распаленага вогнішча. Дом, сад і яго вялікія дрэвы станавіліся нябачнымі і расплываліся ў цемры, а ў ёй фантазія магла так лёгка імправізаваць нейкія фантастычныя сцэнарыі і адорваць лёгкімі дрыжыкамі сенсацый. Пад дрэвамі згушчаліся цені, над імі ахоўна распасціраліся блакіты летняй ночы, якая мільгала зоркамі праз бярозавыя кроны, і ўсё гэта служыла фонам для палаючага кастра, які іграў першую скрыпку ў гэтым начным канцэрце. Чырвонае святло, мільгатлівае і дрыготкае, прыцягвала позірк і затрымлівала яго на сабе ўладарным загадам. Я мог доўгімі гадзінамі ўглядацца ў агонь, і гэтае сузіранне стварала гарманічнае сугучча думак, скаваных нейкімі гарманічнымі чарамі. Думкі былі бледныя і цяжкія, яны вымушана кружыліся вакол палымянага відовішча, але ап'янялі, як чарадзейны напітак. Разам з імі я патанаў у рытме бушуючага полымя, як быццам бы слухаў бесперапынную мелодыю, якая развівала розныя варыяцыі на тую самую вогненную тэму, і дазваляў ёй несці сябе з пасіўнай гатоўнасцю. Палаючыя шчэпкі рассыпаліся чырвоным шлакам, нібы груды распаленага золата, якое з сярэдзіны прасвечвала сонечнымі іскрамі. А вакол іх дрыжалі, віліся і танцавалі вогненныя языкі, напаўняючы вогнішча шыпеннем і трэскам рассыпаючыхся галавешак і вылятаючы праз комін у загусцелую чарнату ночы, дзе праз хвіліну гаслі, як падаючыя зоркі...

У такія хвіліны я забываў пра гульні і цалкам аддаваўся ўздзеянню начнога акружэння. Я з гордасцю канстатаваў сваю самотнасць, тое,

што я адрозніваўся ад сваіх сябровак, і уяўляў сябе вольным птахам, вандроўнікам, які вядзе бесклапотнае жыццё, поўнае незвычайных прыгод, і вольна падарожнічае па казачных абшарах фантазіі. Гэтыя прыгоды хаваліся, можа, дзесьці побач у ліловым покрыве ападаючай ночы, можа, толькі чакалі, пакуль пагасне вогнішча, каб здзівіць мяне сваім нечаканым з'яўленнем і асляпіць цудамі, якія пераўзыходзілі самыя смелыя мары. Ноч падкрадвалася ўсё бліжэй, лашчыла мяне ўсё больш даверліва аксамітнымі крыламі і шаптала чарадзейныя словы, ад якіх вочы станавіліся невідушчымі, глядзелі ўнутр, а скроні гарэлі, як быццам бы іх распальваў жар тлеючага вогнішча... Я быў яшчэ занадта малы, каб зразумець значэнне гэтых чарадзейных начных шэптаў, але адчуваў, што не можа быць нічога прыгажэйшага за іх, што варта адмовіцца ад усяго, каб толькі мець магчымасць іх слухаць далей і насычацца іх спакуслівымі чарамі. Таму я пранікнёна слухаў патаемныя галасы ночы, а ноч паказвала мне з-за сваіх сапфіравых заслон нейкія імглістыя прывіды, поўныя прыцягальнасці, млява калыхала думку аж да салодкага забыцця і дазваляла адчуць рэдкую асалоду яднання ілюзіі з рэчаіснасцю. Ноч клікала ў гэты цудоўны свет мараў, які спакушаў прадчуванымі абрысамі, у свет, дзе забава і фантазіі майго дзяцінства сплятаxліся паміж сабой у поўнай згодзе і, апраменены любоўю прыгажосці дому, давалі мне прадчуванне найвышэйшага на зямлі шчасця, якое з'яўляецца водбліскам вечнай гармоніі...

Такім было заканчэнне нашага вячэрняга лагера ля палаючага кастра, і так выглядала страва, якую мне ўдавалася часам зварыць на ім самому, ужо без удзелу маіх сябровак.

## Чаканне

Так сёння сумна... і даць сабе рады
нeяк... дзень шэры сплывае паволі...
Сонца зацьміў круг пахмурнае звады,
вецер абскубвае кроны таполяў...

Я з кута ў кут мкну то ціха, то хутка,
думкай надоўга нідзе не прыстану;
а галава абцяжарана смуткам
па нечым дзіўным, далёкім, нязнаным...
скупа надзея прарочыць удачу,
што нешта новае выйдзе з туману,
што шчасце спеліцца неспадзявана...
вось яно блізка... я зараз убачу...
буду смяяцца, бо радасць мне трэба,
буду гарэць незямным захапленнем,
кветкай душа расцвіце аж да неба
і там замрэ — у спатолі здзяйснення...

.......................................................................

Вецер шалее і з д'ябальскім смехам
ломіць галлё, ліст за лістам ён гоніць,
буры адказвае гулкае рэха,
быццам бы грукат... галоп хуткіх коней...

стукат вазка... мо з далёкага краю
госць набліжаецца з неспадзяванкай,
і замест гэтага сумнага ранку
радасць вялікую я прычакаю...
Радасць якая, адкуль — невядома,
толькі яна будзе надта прыгожай...
Вецер за садам бушуе без стомы,
грукат бліжэе — аб'ехаць не зможа...
.......................................................

Мкнуся за браму ў крылатай пагоні,
птахам лячу на паветранай хвалі,
позірк шукае... абрыс цьмяны коней,
пыл залаты пад падковамі звоніць,
тупат цішэе... наўзбоч праскакалі...
коні схаваліся ўжо за блакітам...
Там іх чакае свет вольны, адкрыты,
я ж тут застаўся са смуткам надалей...

## Раздзел XIX

### *Фінал дамашняй навукі. У Вільню. Заканчэнне*

Зіма 1886/87 года прайшла для мяне ў навуцы з панам Лапушынскім, але навука гэта давала нязначныя вынікі, нягледзячы на тое, што я быў дастаткова кемлівы і што настаўнік ніколі на мяне не скардзіўся. Я паслухмяна выконваў зададзеныя ўрокі, не выклікаў на сябе ніякіх нараканняў, наадварот, меў рэпутацыю добрага вучня, а ўсё гэта, аднак, не рухала наперад справу майго навучання. Вясной бацькі ўсё часцей пачалі думаць аб гімназіі ў Вільні і разважаць, ці здолею я здавальняюча здаць уступны экзамен. Здаецца, яны ўжо тады мелі сумненні наконт гэтага, хоць не вельмі арыентаваліся ў праграме дзяржаўнай навукі. Іх страх яшчэ больш павялічыўся, калі нейкі студэнт, што надарыўся выпадкова, добра праверыў мяне, заціснуўшы ў кут, асабліва па рускай і лаціне. Высветлілася, што па гэтых двух прадметах я вельмі слабы, а маёй агульнай падрыхтоўкі недастаткова, і не відаць нічога добрага, бо да гэтага часу мяне вучылі састарэлым спосабам, які не адпавядаў гімназічным патрабаванням.

Гэта выклікала разгубленасць і нарады старэйшых за зачыненымі дзвярамі. Затым бацькі мелі адкрытую размову з нашым педагогам. Не ведаю, які быў яе змест, але вынікі далі аб сабе неўзабаве знаць відавочным чынам, бо раптам аднойчы развіталіся з настаўнікам, а затым хутка ўзялі для мяне па нейкай суседскай рэкамендацыі рэпетытара, студэнта Пятроўскага. Пры гэтым я зусім не заўважыў ад'езду пана Лапушынскага, гэтак жа, зрэшты, як не памятаю яго прыезду, бо асоба старога настаўніка не належала да тых, хто абуджае сімпатыю і пакідае пасля сябе трывалыя ўспаміны. Ён проста знік з гарызонта, як быццам бы яго ніколі ў нас не было, відавочна, што ад яго пазбавіліся вельмі хутка і без вялікіх цырымоній. А новы рэпетытар адкрываў у маім навучанні ўсё новыя недахопы. Ён любіў іх падкрэсліваць з юнацкай фанабэрыстасцю і тым самым выстаўляць свайму папярэдніку непахвальнае пасведчанне. Стала ясна, што пан Лапушынскі не меў кваліфікацыі настаўніка і, трапіўшы ў гэтай ролі да нас, злоўжыў даверам бацькоў. Праз некалькі дзён пра гэта гаварылі з абурэннем, але потым хутка забылі і выкраслілі яго з дамашніх размоў, затое сканцэнтравалі ўвагу на неадкладнай справе майго экзамену, якая выглядала роспачна. З тым, што я ведаў, не было чаго ехаць у Вільню, а да тэрміну ледзь заставалася тры месяцы. Бацькі блізка прынялі да сэрца гэта расчараванне, вырашылі звярнуцца да гераічных метадаў і прымусіць мяне вывучыць на працягу квартала ўсё, што я недабраў за папярэднія два гады. Яны растлумачылі мне абавязковасць узмоцненай працы на працягу ўсяго лета і запрэглі мяне ў яе зараз жа пад кіраўніцтвам пана Пятроўскага, адкладваючы ўбок спачуванне бацькоўскага сэрца, так што я вымушаны быў пазбавіцца канікул, без усялякай віны з майго боку.

Так у той год замест летняга адпачынку я меў сапраўднае гавенне і, што называецца, націскаў на вучобу. Я працаваў, як ніколі дагэтуль, літаральна з раніцы да вечара, не выключаючы нядзелі і святаў, і гэту знясільваючую працу падсалоджваў сабе толькі тым, што вучыўся ў садзе, пад вялікай бярозай каля прыбудоўкі, тут, побач з маім любімым садком, поўным кветак і матылёў. Будучы мяккім дзіцём, я пакорна падпарадкаваўся волі бацькоў, хоць не вельмі разумеў, якое няшчасце здарылася б, калі б я не здаў экзамены і не быў прыняты ў гімназію ў Вільні. Канешне, такі паварот я лічыў бы самым лепшым, бо не трэба было б ехаць у горад і я мог бы застацца ў Асташыне, з якога мне зусім не было патрэбы выязджаць. Але бацькі мелі іншае меркаванне, а ў асобе пана Пятроўскага знайшлі гарачага прыхільніка, які ўзяўся за справу з надзвычайнай энергіяй. Ён пачаў з таго, што не размаўляў са мной інакш як па-руску, чаго пан Лапушынскі ніколі не рабіў. Такім чынам я быў вымушаны насуперак жаданню часта карыстацца гэтай чужой і нямілай мовай, засвоіў яе даволі хутка і перастаў яе калечыць, пераадольваючы цяжкасці вымаўлення і акцэнту. Астатняе пайшло ўжо лягчэй, бо здольнасцей у мяне хапала, а з новым настаўнікам немагчыма было не рабіць вялікіх крокаў наперад. Але ўсё гэта разам было, аднак, прыкра і цяжка: я сядзеў над кніжкамі ўсе доўгія і прыгожыя летнія дні, паглядаў, сціснуўшы зубы, на матылёў, што насіліся над клумбамі, на асірацелую печ за альтанкай і на розныя іншыя садовыя спакусы, якія мне нагадвалі шчаслівае мінулагодняе лета. Часам я ўжо не мог вытрымаць, ахоплены жаданнем адпачыць, гуляць і расслабіцца, аднак адразу ўспамінаў прадпісанні бацькоў і дысцыплінавана, рашуча вяртаўся да навукі. Больш за ўсё мяне шкадавала маці, спынялася каля майго століка, расчулена глядзела на мяне, а часам прытуляла да сябе і гладзіла, дадаючы мне натхнення і сіл.

Так міналі канікулы, бясколерна і нудна цягнуліся дні, падобныя адзін на другі. З-за аднастайнасці мне было цяжка ўсвядоміць, што гэта хвіліна з'яўляецца пераломнай падзеяй у маім жыцці, мяжой, якая абазначае канец дзяцінства і ўводзіць у новы, іншы этап. Часам я нешта інстынктыўна адчуваў, і гэта пачуццё пранізвала мяне смуткам і страхам. Тады я з жалем думаў пра мінулыя гады з іх ціхамірнасцю і свабодай, але суцяшаўся думкай, што гэты прымус толькі часовы, што потым ужо неяк складзецца і вернуцца былыя шчаслівыя часы. Я не разумеў, што ад'езд у гімназію — гэта расставанне з домам на восем гадоў, а такі адрэзак часу ў жыцці чалавека — радыкальная змена ва ўсім. Я не ведаў, што развітваюся з Асташынам надоўга, а з дзяцінствам — ужо назаўсёды. Думаю, што гэтаксама я не мог бы сабе ўявіць магчымасць смерці, калі б мне абвясцілі яе прыгавор, і прыняў бы яго таксама без вялікага хвалявання, з поўнай раўнадушнасцю няведання. Цяжка хвалявацца з-за таго, чаго не ведаеш і што лічыш немагчымым, што пярэчыць вопыту, які маеш на гэты час. Так і я занадта зросся з дамашнім хараством і дамашнім шчасцем, каб мог паверыць, што нешта калі-небудзь у жыцці можа мяне іх пазбавіць.

Мудра распарадзіўся Бог: чалавек не ведае, што яго чакае ў будучыні, перад яго вачамі закрыта і дабро, і зло, якія яму суджаны. Таму і я даволі спакойна перажываў сваю лаціну на працягу ўсяго лета, адмаўляючыся ад усялякіх забаў, але не губляючы надзеі на ўзнагароду хоць бы ў далёкай будучыні. А ўзнагародай для мяне было толькі адно: каб усё засталося па-старому, як было дагэтуль. Я не ведаў, якім неміласэр-

ным з'яўляецца час, што прыносіць непазбежныя змены, я нават не прадчуваў, як гэтыя змены могуць выглядаць. Я не ведаў, што гэта такое — туга па дому сярод цеснаты і агіднасці шумнага горада, не меў паняцця, што можна жыць без сонца і прасторы, без дрэў і неба, сярод тысяч чужых людзей у змрочных жылых кубах, якія пазбаўляюць жыццё яго вольнасці і красы. Я не ведаў, што пакідаю беззваротна свой дамашні свет, а з ім свой благаслаўлёны «край дзіцячых гадоў», адгароджаны сцяной таполяў і чуласцю любячых сэрцаў. Што ад'язджаю далёка, каб ужо ніколі не вярнуцца назаўсёды ў гэты край, каб праз доўгія гады тужыць па ім у гарадской няволі, вырывацца да яго на кароткія канікулы, а потым губляць яго яшчэ больш. Што жыццё будзе год за годам аддзіраць гэты мой самы вялікі скарб ад яго былога зместу, пазбаўляць яго старых дрэў, старых дамоў і старых людзей, такіх мілых і любімых, каб, урэшце, цалкам змяніць яго да непазнавальнасці, пераараць уздоўж і ўпоперак страшным плугам дзвюх войнаў і ў канцы, знішчыўшы датла яго прыгожы выгляд у сапраўдным жыцці, захаваць яго ў марах і ўспамінах, захаваць яшчэ прыгажэйшым, бо ўжо незнішчальным у маім сэрцы... Я не ведаў і таго, што, пакідаючы дом разам з маці, я падпісваю прыгавор аб яе страце, прымаючы ад яе найвышэйшую ахвяру яе ўласнага жыцця, бо яе слабае здароўе не пераносіла горад і яго ўмоў і толькі ў вёсцы, на сонцы і ў цішыні, яна магла сяк-так трываць. Вырваная з дамашняга акружэння, прымушаная да гарадскіх цяжкасцей і нягод, яна пачала хутка вянуць, раптам пастарэла і пасівела, а яшчэ праз пару гадоў не вытрымала смяртэльнага для яе горада і згасла ў страшэнных муках, пакінуўшы шаснаццацігадовага хлопца без апоры і кіраўніцтва, без гэтага найвышэйшага дабра, якім з'яўляецца сэрца маці...

З таго лета я не маю амаль ніякіх успамінаў. Яго цалкам запоўнілі заняткі з панам Пятроўскім ці вучоба ў самоце пад маёй бярозай. Я не ведаю, ці адбывалася што-небудзь на працягу гэтых сапраўды цяжкіх месяцаў, але затое з новым настаўнікам я зрабіў за лета большы прагрэс, чым за ўвесь час побыту яго папярэдніка. Канец лета застаў мяне належна ўзброеным патрэбнымі асновамі дзяржаўных ведаў і адначасова даволі-такі атупелым ад пастаяннага карпення над кніжкамі. Бацькі былі мной задаволены і крыху пазбавіліся страху за вынікі экзамену, але, нягледзячы на гэта, маці не пераставала заахвочваць мяне да далейшых намаганняў, яе мучыла амбіцыя, каб яе адзінае дзіця вылучылася на экзамене і здало яго добра. Адбылося па жаданню маці, я быў прыняты адным з першых, але вопыт паказаў, што мы зрабілі памылку залішняй стараннасцю. Дзяржаўныя патрабаванні былі даволі памяркоўныя, я ведаў значна больш, чым было патрэбна для першага класа, а бацькі пераацанілі значэнне справы і сапсавалі сабе і мне канікулы. Мы даведаліся аб гэтым праз некаторы час, а пакуль паслухмяна, але хутчэй аўтаматычна я выконваў бацькоўскія пажаданні, сустракаючы гэты новы паварот у сваім жыцці з бязвольнай прыгнечанасцю. Я адчуваў сябе, як дзікае звераня, перанесенае з лясной свабоды і замкнёнае ў цеснай клетцы. А гэта ж быў толькі ўступ у сапраўдную клетку ў сапраўднай турме, якой мне хутка пасля гэтага здалася Вільня, нягледзячы на ўсю сваю сельска-памешчыцкую важнасць, злёгку прыкрытую павярхоўным расійскім лоскам.

Нашаму ад'езду, прызначанаму на сярэдзіну жніўня, папярэднічалі доўгія прыгатаванні, падрыхтоўка куфраў, валізак і скрынь, пакаванне

манаткаў і харчовых прыпасаў — усё з грунтоўнымі нарадамі і зборамі, бо такую паездку ў горад перажывалі першы раз у жыцці, і перажывалі яе ледзь не як катастрофу. Нялёгкі пераход ад хадзьбы самага сціплага памешчыцкага сам-сабе-гаспадарання на ўласным смецці да абмежаванага сутаргавага існавання на гарадскім бруку ў даходным доме. Таму бацькі былі неспакойныя і ўстрывожаныя, і нават усхваляваныя, бо павінны былі расстацца адно з адным надоўга: бацька павінен быў застацца ў Асташыне і прыязджаць да нас па меры магчымасці, а маці павінна была лічыцца з тым, што кожны школьны год будзе прывязваць яе да горада, які яна не любіла і пагаджалася толькі дзеля таго, каб не пакідаць мяне. Таму ўсё гэта было даволі нявесела, і хоць занятасць неадкладнымі справамі ратавала нас ад таго, каб не паддацца сумнаму настрою, аднак маці не магла ад яго абараніцца, як быццам бы мела прадчуванне, што ўжо не вернуцца добрыя дамашнія гады, а ад'езд у Вільню прыспешыць канец яе нядоўгага жыцця, поўнага цяжкасцей і адмаўлення. Адным словам, хмара клопату зацягвала наш пагодны гарызонт і тушыла яго святло. А гэта ж былі толькі першыя лёгкія хмаркі; сапраўдная слата, буры і гром прыйдуць пазней...

У дзень ад'езду, калі ўжо коні стаялі перад ганкам, а бацька каля стайні выпраўляў фурманкі з рэчамі, маці сказала мне з ціхай і засмучанай павагай: «Хадзем, Яначак, памаліцца пад крыжам. Мы выязджаем з дому надоўга, і невядома, калі Бог дазволіць нам вярнуцца. Папросім яго ахоўваць нас і наш дом...» Па стромкай алеі мы пайшлі да белага крыжа, пастаўленага пасля пажару, і зноў, як тады, пасля адбудовы двара, укленчылі ля яго падножжа. Маці пагрузілася ў малітву і доўга не ўставала з каленяў, поўная цяжкіх дум і прадчуванняў, а мне зрабілася вельмі шкада, і я быў блізкі да плачу не столькі з-за самога ад'езду, колькі пад уражаннем матчынага гора, якое мяне заўсёды расчульвала.

Гэта быў дзень Узнясення Божай Маці — нейкі пахмурны і ветраны, які не прадказваў нічога добрага. Найгоршымі былі апошнія хвіліны перад ад'ездам, і я быў рады, калі яны нарэшце скончыліся, наш экіпаж выкаціўся на двор і адразу заграз на пясчаным узгорку каля Грабоўскага. Мне падсаладзілі развітанне з Асташынам, дазваляючы ехаць усю дарогу конна ўслед за экіпажам. Першы раз я атрымаў такую свабоду і самастойнасць і быў ёй так моцна ўражаны і абрадаваны, што адразу забыў пра ўсе маркоты. Я горда выязджаў наперад, губляючы з віду экіпаж з бацькамі, каб стварыць ілюзію язды ў адзіноце, вызваленай з-пад апекі старэйшых, якая мае ўласную мэту і ўласны іншы сэнс, але гэта ўдавалася мне не заўсёды, рослыя стаенныя коні без цяжкасці даганялі майго нізкарослага. Пасля гэтага вопыту я прызнаў больш бяспечным пускаць бацькоў наперад і ехаць павольна ззаду, атрымліваючы асалоду ад поўнай адасобленасці. Гэта паездка конна вельмі аблегчыла маё гора, і пад'язджаючы да Чамброва, я ўжо быў амаль задаволены, а рэшту дапоўніла ў самым Чамброве адборная садавіна, якой нас шчодра пачаставалі. Менавіта ў той дзень збіралі раннія гатункі і кашамі прыносілі з саду вялікія сакавітыя слуцкія бэры, якія расплываліся на вуснах, і выдатныя рэнклоды, якія вабілі далікатным сінім пушком і смачнымі трэшчынамі гранатавай шкуркі. У нас у Асташыне не было такіх адборных гатункаў, таму гэты пачастунак мне вельмі спадабаўся і здаўся адметнай рысай нейкага лепшага свету. Да гэтага часу я памятаю дзівосны смак гэтых грушак і слівак, іх вытанчаны выгляд і духмяную сакавітасць, якая мела прысмак нейкай вышэйшай асалоды. Я ніколі не

быў гурманам і не надта захапляўся ежай, але ягады і садавіна былі выключэннем і маглі давесці мяне да граху ласавання.

У Чамброве мы спыніліся на ноч, што было прадугледжана загадзя, бо да бліжэйшай чыгуначнай станцыі было яшчэ тры мілі, а Чамброў знаходзіўся якраз пасярэдзіне дарогі паміж ёй і Асташынам і напрошваўся як самае лепшае месца для папасу. Станцыя называлася Наваельня, і, не ведаю чаму, гэта звычайная назва гучала ў маіх вушах варожа, як брама ў новы свет — невядомы і грозны. Праз Наваельню праходзіла Палеская чыгунка, якая злучала Вільню з Лунінцом і Сарнамі. Гэта новая лінія, пабудаваная толькі пару гадоў таму назад, збліжала наш край з Вільняй, з якой да гэтага не было чыгуначнай сувязі і трэба было ехаць па дарозе на конях. Чыгунка тады была пэўнай сенсацыяй, пра яе шмат гаварылі, але мала хто карыстаўся. Мае бацькі, у прыватнасці, ні разу яшчэ гэтай чыгункай не ездзілі, і наша падарожжа было першым. Людзі тады не былі рухавымі, кожны памешчык грэбаўся ў сваіх дамашніх справах, шмат ездзіў на ўласных конях па суседзях, але не высоўваў носу за межы свайго павета і не спяшаўся ў горад.

Назаўтра мы выехалі з Чамброва, нас урачыста правялі і перахрысцілі, як быццам бы мы выбіраліся ў падарожжа вакол свету. Ад цэркаўкі ў Валеўцы мы пакінулі гарадскі тракт і павярнулі направа ў кірунку на Косічы. Пры ўездзе ў незнаёмую ваколіцу я адчуў як бы папярэджанне аб новых і трывожных падзеях, чаго не было, пакуль мы ехалі знаёмым шляхам. Паступова трывога мая ўзрастала. Прызвычаены да нашых маляўнічых ваколіц, я лічыў Чамброў галоўным цэнтрам і не сумняваўся, што і дарога да Наваельні будзе такой жа цікавай. Уласна кажучы, я нават не задумваўся аб гэтым, перакананы, што разнастайнасць і прыгажосць краявіду — гэта рэч звычайная. Таму таксама быў вельмі непрыемна здзіўлены, калі за Косічамі дарога пачала станавіцца плоскай, зямля — набываць шэра-жоўтую афарбоўку, якая паказвала, што глеба тут бедная і неўраджайная. Дубоў не было ўжо ані следу, пазнікалі прыгожыя лісцевыя дрэвы, а за Барышынам пачалі з'яўляцца худыя саснякі, змрочна зачарнелі ядлоўцы на каменістых пустках, а потым мы ўехалі на сумную і нудную раўніну, усыпаную рэдкімі іглістымі гайкамі і так засыпаную камянямі, што цяжка было зразумець, як там людзі могуць араць і што можа вырасці на такой пустцы. Розныя камяні бялелі на голых пагорках, ствараючы ўражанне могілак, засеяных людскімі касцямі, і ўзмацнялі змрочны від наваколля. Я глядзеў, уражаны, на гэту галечу і адчуваў, што яна закранае мяне асабіста, мне было як быццам бы сорамна, што ў нас праз пару міль ад Свіцязі могуць быць такія панурыя ваколіцы і людзі прыгавораны ў іх жыць. Абураны ў найвышэйшай ступені, я глядзеў з агідай на растучую густату пясчанага краявіду і, уздыхаючы, думаў з жалем, але і з гордасцю аб нашай штодзённай дамашняй прыгажосці, якой тут не было следу. А потым я нават перастаў прыглядацца да мясцовасці, смутак і прыгнечанасць апанавалі мяне поўнасцю, засланяючы святлейшыя думкі і адбіраючы ахвоту да жыцця. Я ўжо нічога не хацеў, ні на што не спадзяваўся ў будучыні, у якой, здавалася, выкраслены ўсе лепшыя надзеі. Перада мной уставаў кашмар горада, грозны і таямнічы, і ўжо нават дарога, якая вяла да яго, з самага пачатку была негасцінная і агідная, як быццам бы вяла да месца пакарання ў пакінуты, а не сонечны горад, у прыгожую Вільню, якую некалі я так моцна буду любіць...

І вось ужо ад гэтага непрыгожага месца нашага падарожжа, ад гэтых бясплодных палёў, засыпаных мёртвым каменнем і ледзь пакрытых убогай раслліннасцю, пачалося змаганне ўсяго майго жыцця, папераменна па чарзе туга і заспакаенне, прылівы і адлівы. Пачалося супраціўленне рэчаіснасці, з кожным разам усё больш свядомае і дзейснае, пачалося непрызнанне таго, што п р ы х о д з і л а і было чужое і нямілае, і любоў да таго, што п р а х о д з і л а, але было родным і прыгожым. Пачалася туга па дому і дамашняй прыгажосці, замілаванне «краем дзіцячых гадоў», які чым далей, тым больш я страчваў, любоў, якая ў другой палове майго жыцця стала яго галоўным зместам і самым важным творчым стымулам, крыніцай усіх маіх фатаграфічных і намаляваных словамі пейзажаў. З тугі па дому паўсталі ўсе мае кнігі, і перш за ўсё — гэта апошняя, самая вялікая, якую я зараз заканчваю і якая поўнасцю прысвечана прыгажосці роднай прыроды, асветлена успамінамі пра мацярынскае сэрца.

Пасля прыезду ў Вільню я адразу адчуў сябе ў ёй чужым і дрэнна, і пачаў тужыць па дому і лічыць вяртанне ў яго адзінай добрай рэччу, вартай, каб прагнуць яе як самага вялікага шчасця, а потым на працягу ўсяго года я толькі лічыў прамінулыя дні і выкрэсліваў у календары даты, каб дачакацца жаданай хвіліны канікул. Толькі дома мне было добра, толькі там, здавалася, я адчуў мацней за ўсё цяпло і слодыч мацярынскай любові, незаглушанай гарадскім скрыгатам. Гэтак жа сама я жыў і тужыў і пазней, у наступныя школьныя віленскія гады; тое, што мне прыносіў горад, было часовым прывалам, справай, недастойнай увагі, бо маё сэрца і думкі мае былі дзесьці ў іншым месцы... там... ля дамашняга парога. А ў канцы мне застаўся для любові толькі краявід радзімы, бо сэрца маці не стала: яе прыняла зямля Віранчанскіх могілкаў пад цень касцёльных каштанаў...

І так было з таго часу заўсёды, на працягу цэлага жыцця. Пасля заканчэння гімназіі я падаўся ва універсітэт у Кракаў, але там я быў сляпы да акаляючых мяне цудаў архітэктуры і краявіду, да вяршыні польскага мастацтва і розуму. Замест таго каб глядзець на помнікі нацыянальнай гісторыі, першы раз убачаныя ў іх каменнай веліччы, я ўцякаў тужлівай думкай да далёкай Навагрудскай зямлі і ўяўляў сабе ў самых прыгожых фарбах шчасце вяртання да яе кожны раз. А калі я вярнуўся ў край назаўсёды і ў выніку таго, як склаліся сямейныя адносіны, быў вымушаны пакінуць радзіму ў Навагрудскім ваяводстве і закладваць новую сядзібу ў Пярэсецы пад Мінскам, у старане, цалкам невядомай, тады прыйшла новая барацьба: я ізноў узбунтаваўся духам супраць гэтай жорсткай абавязковасці, лічыў сябе выгнаннікам і ўсімі сіламі жадання імкнуўся ў мой Асташын, у маю любімую родную старонку, якую мне нішто не магло замяніць...

Але лёс не дазволіў мне да яе вярнуцца, а шляхі жыцця занеслі мяне ў Вільню, пасялілі назаўсёды ў гэтым горадзе, спачатку абыякавым, потым бліжэйшым. Па меры знаёмства ён усё больш прывязваў да сябе, а ў канцы, дзякуючы сяброўскім адносінам, — стаў поўнасцю сваім і родным. Палова жыцця, цэлых трыццаць гадоў прайшлі там на любімай і небезвыніковай працы, сярод дастойных людзей і паважаных сяброў. Мяне звязалі з Вільняй вузлы самых моцных асабістых перажыванняў і мастацкіх дасягненняў, але я не перастаў лічыць горад месцам выгнання, не перастаў адчуваць сябе вяскоўцам, верным дзіцем маёй прыго-

жай роднай зямлі. Я не перастаў ірвацца да яе ўсімі сіламі фантазіі, шукаць збліжэння з ёй пры кожнай магчымасці і праводзіць з ёй усе кароткія хвіліны, выкрадзеныя з жыццёвага прымусу, які мяне знявольваў у Вільні. І там, у горадзе, туга па ДОМУ, па МАЁЙ ЗЯМЛІ, жаль па яе страчанай красе мучылі мяне гадамі, у канцы выліліся ў творчы боль, згусціліся ў дзейсны пратэст, выражаны ў мастацтве, праявіліся ў свядомай любові, увасобленай у вобраз і слова.

Але тады ДОМ згінуў, а ЗЯМЛЮ напаткала няшчасце. Першая вайна сцерла мой Асташын з твару зямлі, а другая, цяперашняя, робіць тое самае з усёй ваколіцай, ператвараючы яе ў здзічэлую пустыню, засыпаную руінамі і пажарышчамі. Адарваны ад гэтай зямлі, адчуваючы здаля яе страшныя блуканні, я застаўся жывым у адносінах да магіл людзей, шкілетаў дамоў і попелу дрэў са сваім вечным пратэстам супраць брыдоты і агіднасці рэчаіснасці, з выразаным у сэрцы і ў памяці вобразам дамашняй прыгажосці, вобразам усё больш поўным, дасканалым, бо ён быў аздоблены ігрой фантазіі, упрыгожаны тугой, якой боль любові надаваў высакароднасць...

Але не з мяне ідзе гэта любоў, не мая гэта заслуга: я абавязаны ёй сэрцу, якое так моцна білася ў гарачых грудзях жанчыны — маці, якая змагалася за мяне са светам і з лёсам і была заўчасна скошана смерцю. Усёй сваёй духоўнай існасцю я абавязаны сіле і глыбіні матчынага пачуцця, якое навучыла мяне любіць радасць жыцця і прыгажосць яго любові. Сэрца маці было маім натхненнем: яно дало мне ўсё, што калі-небудзь было ў маім жыцці самае лепшае і самае светлае і што на гэтых старонках я стараюся замацаваць і перадаць людской памяці.

Чым жа іншым я мог бы сёння скончыць, чым завяршыць гэту аповесць пра дзіцячыя гады, як не пашанай, аддадзенай сэрцу маці, як не пакорна прыпаўшы да яе каленяў, як не думкай, поўнай шанавання, прысвечанай яе ценю?.. Пішучы, я прагна ўглядаўся ў абрысы гэтага ценю, стараўся ўгледзець у люстэрку тугі постаць, якой ён належаў, адгадаць шляхі яе жыцця, міражы маладых гадоў, унутраны разлад і боль у пазнейшы час, імкнуўся пазнаць яе душу і адчуць сябе яе дзіцем, звязаным з ёй самым цесным адзінствам. Я знаходзіў паміж маці і сабой роднасць думкі і пачуццяў, падабенства схільнасцей і здольнасцей, сцвярджаў іх прысутнасць з удзячнай радасцю, любаваўся самім гэтым сцвярджэннем, бо яно дазваляла мне адчуваць сябе яшчэ бліжэй да яе сэрца...

Таму сёння размове з гэтым сэрцам хай будуць прысвечаны апошнія старонкі маіх успамінаў, і няхай іх запоўняць словы любові і павагі тым больш глыбокай, чым менш умеў нядобры сын ёй гэтыя пачуцці некалі пры жыцці выказваць. Няхай іх сённяшняе выяўленне будзе актам мальбы аб прабачэнні за ўсю горыч, зведаную з-за мяне, няхай яны будуць павагай, аддадзенай яе прысвячэнню, платай за вышэйшыя памкненні, якія яна перадала мне, падзякай за святы агонь, які яна змагла ўва мне распаліць...

Бо так ёсць на самай справе. Ёй адной я абавязаны гэтым агнём, у яе я ўзяў у дзяцінстве імкненні і парывы, ад якіх яна сама была вымушана адрачыся ў сваім ахвярным жыцці. Вымушаная развітацца з марамі маладосці, яна ўсёй душой прагнула блакітных даляў, узвышаных вяршынь і паднябеснага палёту для адзінага сына. Яна жадала гэтага інстынктыўна, насуперак суровай прозе акружэння, насуперак уласнай прымусовай паўсядзённасці. І нават тады, калі пад уплывам гэтага акружэння

 была вымушана змагацца з маёй нястрыманай летуценнасцю і з практычнага пункту гледжання пярэчыць былым ідэалам.

За гэтыя жаданні, за гэту спадчыну няхай будзе ўшанавана яе самая дарагая памяць тым адзіным, на што мяне сёння хапае: прысвячэннем гэтай кніжкі пра ДОМ яе святым ценям. Кнігу я насіў у душы і песціў шмат гадоў, хто ведае, ці не з той хвіліны трыццаць гадоў таму назад, якую я апісаў у прадмове. Сёння, гледзячы на ўжо скончаную справу, якая мае ўласнае жыццё, я перажываю ціхую і сумную радасць ад думкі, што яна прысвечана табе, о Мама, што ты б гэта ахвяраванне, напэўна, прыняла з удзячным сэрцам, калі б яшчэ жыла на гэтым свеце. Веру, што не адхіліш яго з таго свету, у якім ты знаходзішся...

Веру, бо памятаю адну такую дзіўную хвіліну з майго дзяцінства, калі ты сама захацела таго, што сёння я кладу да тваіх ног, як вязанку позніх асенніх кветак. Тады нас наведаў ксёндз Вітольд Чачот, доўга іграў на фартэпіяна і між іншымі рэчамі зайграў паланез уласнага сачынення, а потым пакінуў табе друкаваныя ноты свайго твора, на якіх быў, відаць, загаловак «Да дамашняга парога» і прысвячэнне: «Маёй маці». Ты ўважліва слухала яго цудоўную музыку, поўную рыцарскага жэсту і сардэчнай сімпатыі, потым, пасля ад'езду ксяндза Чачота, раптам знікла з пакоя, а калі я знайшоў цябе дзесьці ў глыбіні дома, ты была ўзрушана, вочы блішчэлі і слёзы былі на шчаках. Ты доўга маўчала, прытуліўшы мяне да сябе і выціраючы расчуленыя слёзы, нарэшце пачала гаварыць упаўголаса, як быццам бы снуючы ніць мары, што шчаслівай павінна быць маці, якой сын-артыст прысвяціў такую сваю працу, што ты хацела б быць на яе месцы і дачакацца гэтага ад мяне. І шаптала гэтыя свае патаемныя надзеі, што і я калі-небудзь буду такім артыстам, што стану тваёй гордасцю, здабуду ў свеце імя талентам і працай, а ты будзеш цешыцца лісцікамі вянца, якім мяне ўзнагародзіць свет і які я табе прынясу як даніну...

Я нічога табе тады не мог адказаць, о Мама! Не здолеў адплаціць табе такім жа гарачым парывам, не змог запэўніць, што калі-небудзь я стану дастойным тваёй любові і ажыццяўлю твае мары. Я не адчуў крык твайго згаладалага сэрца, а потым прайшлі гады, прыйшлі горшыя часы, тваё сэрца перастала біцца і не дачакалася сыноўняга ахвяравання...

Таму сёння, о Мама, усе сардэчныя разважанні, якія вядуць «Да дамашняга парога», я прыношу табе, усе святыя ўспаміны ДОМУ ахвярую табе, усю прыгажосць любові да ЗЯМЛІ прысвячаю табе...

Прымі іх і благаславі, бо яны сапраўды твае, пачаліся з твайго сэрца...

*1 кастрычніка 1942 года, Вільня*

### Бяздомны



Я ўжо не маю нічога —
ані зямлі, ні сялібы,
што меў, тое страшнай лапай
усё звер вайны павыбіў,
і думка, як слота, плача,
і цвердзіць роспач нямая,
што ты ўжо свайго парога
не маеш, даўно не маеш...

Аднак ёсць у гэтым свеце
вандроўнік, усім невядомы,
каб верыць паўсюль — я дома.
Бо звыклай ласкай прывеціць,
пакліча старая брама
у двор зялёнае волі,
і стройна стаяць таполі,
і ганакззяе той самы,
і ўзносяць абрыс натхнёны
ў абдымках лозаў калоны.

Прыйду — не ведаю, хто тут,
але дом вітае ўсмешкай,
травой схаваныя сцежкі
пад ногі ляцяць з ахвотай,
сябры, тыя, што не здрадзяць, —
бярозы, сосны наўкола,
і ўсё, што квітнее ў садзе,
вітае тварам вясёлым,
мілосцю ў сваім паглядзе.
І я ў гаворцы сардэчнай
нікога з іх не мінаю,
нібыта родных, вітаю,
такі наш звычай спрадвечны.
Любоў, якую без плёну
шукаў між людзей гадамі,
сама паўстае аддана
ўва мне і ў сябрах зялёных.
Так, не прымаючы ў вочы
агідны людскі мурашнік,
іду я ўдалеч бясстрашна,
і ўслед любоў мая крочыць.

Любоў стала не ўрачыстай,
як смерць, магутнай надзіва,
як споведзь дзіцяці, чыстай,
як кліч сумлення, праўдзівай.
Па свеце іду без стомы
і вечна ў вандроўцы буду.
Хоць я ўжо не маю дома,
мой дом — усюды.

26. Зак. 297.

## *Ян Булгак. Жыццё і творчасць*

Ян Булгак нарадзіўся 6 (18) кастрычніка 1876 г. у Асташыне, які называлі Мураваным, у сям'і Валерыя Антонія Станіслава Булгака герба «Сыракомля» (1842–1905) і Юзэфы Хацiскай герба «Рох» (пам. у 1893) з Міраціч. Традыцыя навагрудскай зямлі Міцкевіча – «таго краю дзіцячых гадоў», і асабліва сядзіба ў Чамброве, які атаясамліваецца з легендарным Сапліцовым, дзе жыла яго хрышчоная маці, родная сястра бацькі Караліна Карповіч, – аказалі велізарны ўплыў на фарміраванне асобы будучага майстра фатаграфіі, што ён неаднаразова падкрэсліваў у сваіх публікацыях.

Ва ўзросце 11 гадоў (1888) ён пакінуў Навагрудскі край і быў аддадзены ў І Віленскую гімназію – школу з класічным профілем. Скончыў яе ў 1897 г. Працягваў навуку, вывучаючы літаратуру і гісторыю на факультэце філасофіі Ягелонскага універсітэта ў Кракаве, у тым ліку ў прафесараў Станіслава Тарноўскага, Мар'яна Здзяхоўскага, Ежы Мыцельскага і Яна Бадуэна дэ Куртэнэ. Праз два гады фінансавыя цяжкасці прымусілі Булгака перарваць навуку і вярнуцца ў родны край. Ён пасяліўся ў невялікай маляўнічай сядзібе Пярэсека пад Мінскам (Літоўскім), якую атрымаў у спадчыну ад стрыечнага дзеда Адама Грынеўскага і маці. У той час ён не мог вярнуцца ў родны Асташын, дзе гаспадарыла новая жонка бацькі Казімера Межэеўская.

У жніўні 1901 г. ён ажаніўся са стрыечнай сястрой Ганнай Хацiскай з Міраціч і на працягу некалькіх гадоў вёў жыццё тыповага грэчкасея. Пасля смерці бацькі прадаў бацькоўскі маёнтак Генрыку Грабоўскаму – уладальніку другога сядзібнага ансамбля ў Асташыне. На атрыманыя грошы купіў у Радзівілаў фальварак у Беліцы каля Мінска. 27 красавіка 1906 г. нарадзіўся на свет яго адзіны сын Януш.

У 1905 г. Ян Булгак выканаў сваю першую фатаграфічную працу. Як гаворыць сямейная легенда, жонка атрымала ў падарунак прымітыўны фотаапарат, і ён дапамагаў ёй друкаваць здымкі. Захоплены вобразамі, якія малявала святло, сам заняўся фатаграфіяй. Спачатку эксперыментаваў як самавук, якому дапамагалі парадамі навагрудскі фатограф Баляслаў Ігнацій Данейка і старэйшы на пару гадоў стрыечны брат Караль Карповіч з Чамброва. У 1908 г. ён абсталяваў прафесійную лабараторыю ў сядзібе ў Пярэсецы і хутка дэбютаваў у якасці фатографа, здабыўшы галоўную ўзнагароду на фатаграфічным конкурсе, аб'ўленым рэдакцыяй «Ілюстраванага жыцця» – штотыднёвага дадатку да «Літоўскага кур'ера». Праз два гады Булгак упершыню выслаў свае працы на замежную выставу ў Брусэлі, арганізаваную як сусветная выстава. Каб паглыбіць свае веды, ён наладзіў карэспандэнцкія сувязі з Парыжскім фотаклубам і адным з самых вядомых французскіх фатографаў – Канстанцінам Пуё. Сваімі кіраўнікамі лічыў таксама іншых прадстаўнікоў парыжскага асяроддзя: Роберта дэ Сіззрана і Леанарда Місона. У той жа час ён пачаў супрацоўніцтва (і працягваў да канца жыцця) з часопісам «Зямля», які выдаваўся ў Варшаве, дзе друкаваў фотаздымкі і

артыкулы, а таксама з Польскім краязнаўчым таварыствам, збор якога з гэтага часу ўзбагачаў сваімі творамі. Яго студыйныя працы разам з хвалебнымі рэцэнзіямі змясцілі два сшыткі берлінскіх «Фатаграфічных паведамленняў» у 1910 г.

У 1905—1911 гг. Булгак выканаў некалькі соцень здымкаў у ваколіцах Мінска і Навагрудка, якія з 1915 г. выйшлі ў выглядзе альбомнага выдання «Літва ў фотаздымках Яна Булгака», у шасці тамах, дзе ўтрымлівалася «звыш 270 арыгінальных фатаграфічных планшэтаў, на якіх былі прадстаўлены віды і пейзажныя даследаванні літоўскай вёскі, вясковыя сядзібы і іх інтэр'еры, а таксама памятныя і маляўнічыя мясціны, такія, як Навагрудак, Свіцязь, Мір, Нясвіж, Крэва, Тракай, Вілейка». Да яго першых сур'ёзных прац належала фатаграфічнае дакументаванне палацава-паркавага ансамбля ў Дабосні (Жылічах), які належаў іншай лініі сям'і Булгакаў, а таксама мастацкай выставы, арганізаванай у Мінску ў 1911 г.

Да гэтага часу лічылася, што талент Булгака развіўся пад уплывам выдатнага віленскага мастака Фердынанда Рушчыца, з якім ён пазнаёміўся восенню 1910 г. Аднак відавочна (што заўважыла Міраслава Рупацінская), што Булгак ужо раней быў сталым мастаком, а Рушчыц даў яму ўрок польскага жывапісу і заахвоціў карыстацца мастацкай эстэтыкай.

Літоўскія фатаграфіі Булгака змяшчаў «Віленскі штотыднёвік», які выдаваў Рушчыц. Булгак таксама наладзіў супрацоўніцтва з варшаўскім «Ілюстраваным штотыднёвікам» (працягвалася да 1939 г.), а таксама з «Варшаўскім фотографам», адзіным на той час часопісам на польскай мове, прысвечаным фатаграфіі. Яго заўважыў «Нямецкі фотаальманах» (1911). Вялікім поспехам скончыўся яго ўдзел у выставе фатаграфіі ў Цяхоцінку ў жніўні гэтага ж года. Свае здымкі ён выслаў на фатаграфічны конкурс у Антверпене, арганізаваны фірмай «Жэвэр», на які падалі заяўкі звыш шасці тысяч удзельнікаў з амаль шасцюдзесяццю тысячамі прац. Булгак быў узнагароджаны ганаровым дыпломам у катэгорыі мастацкага партрэта.

У 1911 г. Фердынанд Рушчыц унёс прапанову ў гарадскі магістрат аб стварэнні ў Вільні пасады гарадскога фатографа для фатаграфічнай інвентарызацыі архітэктурных помнікаў. Ён пераканаў прызначыць на гэту пасаду Булгака, які павінен быў пасяліцца ў Вільні і адкрыць тут майстэрню мастацкай фатаграфіі.

Мастак, які ведаў пра ўласную недасканаласць, у 1912 г. паехаў на некалькі месяцаў вучыцца да дрэздэнскага майстра, аднаго з самых выдатных нямецкіх фатографаў, Хуга Эрфурта. Знаходжанне ў цэнтры тагачаснай фатаграфічнай вытворчасці прынесла плён не толькі ў выглядзе грунтоўных ведаў аб магчымасцях тагачаснай тэхнікі і практычнага майстэрства, але і пазнаёміла з перадавымі эстэтычнымі кірункамі тагачаснага нямецкага фатаграфічнага мастацтва. Булгак не прымаў новых плыняў без крытыкі, ён пайшоў уласнай дарогай. Гэты памешчык і традыцыяналіст, выхаваны ў духу Міцкевічавай сядзібы, які ўжо шмат гадоў жыў у Вільні — цэнтры польскай рамантычнай культуры, да канца жыцця заставаўся рамантыкам, майстрам патрыятычнага пейзажа. У сваёй працы ён імкнуўся да таго, каб фатаграфія перастала быць толькі рамяством, а стала адной з галін мастацтва, роўнай у правах з жывапісам. Ён перш за ўсё апрацоўваў пейзажную фатаграфію, якую называлі піктарыяльнай (карціннай. — *Пер.*). Выкарыстоўваў тэмы, сты-

лістыку і падыходы, якімі да гэтага часу карысталіся мастакі. Прагнуў дасягнуць эфекту жывапіснасці, набліжанага да таго, які атрымлівалі імпрэсіяністы. У яго фатаграфічных працах, у якіх была важнай «рэпрадукцыя» акаляючага святла, рэчаіснасць, створаная талентам мастака, з'явілася новым непаўторным творчым вобразам, які быў інтэрпрэтацыяй, а не занатоўваннем краявіду. Не адзін раз на здымках паштовак з відамі ён надаваў патрэбны выгляд асобным планам з дапамогай шматуспышкавай оптыкі, які адрозніваўся ад таго, што бачыла чалавечае вока. Многія яго працы гэтага перыяду насілі характар «даследаванняў формы», для якіх паходжанне матыву мела другараднае значэнне. Ён шмат разоў вяртаўся да адной і той жа тэмы, паказваючы яе са зменена з дапамогай святла фактурай і пераўтворанай з дапамогай аб'ектыва фотаапарата фатаграфічнай прасторай. Ён прымяняў свабодную тэхніку, якую называлі таксама высакароднай: гуму, пігмент. Штодзённа карыстаўся рэтушшу. У пазнейшы час стаў гарачым прыхільнікам брому. Прапагандаваў тэхніку папяровага негатыва, якую называлі двайніком.

Вярнуўшыся ў Вільню, пад духоўным кіраўніцтвам Рушчыца ён заняўся, як сам пісаў, «фатаграфічнай інвентарызацыяй архітэктурных помнікаў Вільні, суседніх раёнаў і, нарэшце, усёй Польшчы». Прадаўжаў справу энтузіястаў XIX ст. з-над Віліі і Віленкі — Яна Казіміра Вільчынскага (пам. у 1885), які выдаў манументальны твор «Віленскі альбом», а таксама іншых віленскіх фатографаў: Юзафа Чаховіча (1819—1888), Станіслава Філіберта Флёры (1858—1915) і Тыбурцыя (Тыберыя) Ходзькі (1840—1908). Увекавечваў на негатывах самыя цікавыя аб'екты віленскай архітэктуры. Гэту працу ён выконваў, нягледзячы на ваенныя дзеянні, да 1915 г. Гатовыя здымкі складваў у архіўныя альбомы. Пятнаццаць тамоў, якія налічвалі першапачаткова 462 фотаздымкі, захаваліся да нашага часу ў зборы Літоўскай Акадэміі навук у Вільні (былой бібліятэцы Урублеўскіх).

На працягу амаль чатырох гадоў мастак зрабіў звыш васьмісот здымкаў Вільні: перш за ўсё відаў старога горада, касцёлаў і кляштараў, палацаў і жылых будынкаў. Выпадковы адбор фатаграфаваных аб'ектаў быў абумоўлены поглядамі і пачуццямі пачынаючага майстра, які шукаў матывы. Яго нярэдка натхнялі Фердынанад Рушчыц і гісторык Вільні Вацлаў Гізберт Студніцкі. Большасць здымкаў таго часу змешчана ў каталогу, выдадзеным у 1915 г., з якога пачалося стварэнне фатаграфічнай майстэрні творцы.

Некалькі соцень віленскіх здымкаў з'явіліся ў неспакойныя 1915—1920 гг. Нягледзячы на тое, што акупанты не дазвалялі рабіць здымкі прыватным асобам, і ў дадатак не хапала фатаграфічных матэрыялаў, мастак, дзякуючы супрацоўніцтву з нямецкім гісторыкам мастацтва, архітэктарам і кансерватарам паручнікам Манфрэдам Бюльманам, змог прадаўжаць справу. Немцы апублікавалі некаторыя яго працы — некалькі серый паштовак з відамі Вільні, а таксама здымкі, якія ілюстравалі даведнікі па горадзе. Выкананыя ў той час фатаграфіі прадстаўлялі перш за ўсё інтэр'еры касцёлаў і іх убранства. Тады Булгак праявіў сябе як выдатны назіральнік паўсядзённага жыцця, храніст горада, запісаўшы на негатывы, між іншым, здымкі, як расіяне падчас эвакуацыі здымалі з цокаля помнік ненавіснага Міхаіла Мураўёва («Вешальніка»), ваенныя нямецкія абозы перад кафедральным касцёлам і народныя кухні для гарадской беднаты. У красавіку 1919 г. ён фатаграфаваў разам з

іншымі войска палкоўніка Беліны-Пражмоўскага ў Вільні перад франтонам кафедральнага касцёла, а таксама пахаванне 28 польскіх салдат, якія загінулі пры абароне горада (жалобную пахавальную працэсію на фоне былога палаца біскупа). Ён дакументаваў урачыстасці ўзнаўлення дзейнасці універсітэта імя Стэфана Баторыя ў Вільні, у якім яму даверылі кіраўніцтва майстэрняй мастацкай фатаграфіі на мастацкім факультэце. У якасці старшага асістэнта працаваў тут да яе закрыцця літоўцамі ў снежні 1939 г. За некалькі месяцаў перад гэтым (у верасні 1939 г.) — пасля 20 гадоў працы — сенат прысвоіў яму ганаровае званне дацэнта.

Да сярэдзіны 1920 г. створана галоўная частка віленскай калекцыі Яна Булгака. У пазнейшыя гады мастак выканаў ужо няшмат фатаграфій, прысвечаных забудове старога горада. У ліпені 1929 г. ён пакінуў Вільню, эвакуіраваўся ў Варшаву. Тут ён пачаў працаваць у аддзеле прапаганды II генеральнага інспектарата добраахвотнай арміі, а пасля яе роспуску кіраваў фатаграфічнай майстэрняй навукова-школьнага аддзела ў Міністэрстве ваенных спраў, а таксама супрацоўнічаў з Таварыствам аховы крэсаў. Перад тым як вярнуцца ў Вільню (у красавіку 1921 г.), ён стварыў варшаўскі цыкл, у які, між іншым, уключыў Стары горад, Каралеўскі замак, Бельведэр, Лазенкі, Вілянаў, Яблонне, Стары Отвацк і Натолін-Трусоўню.

Пасля заключэння Рыжскага дагавору ў 1921 г. яго маёнтак у Пярэсецы аказаўся па-за межамі Рэчы Паспалітай. З гэтага часу мастак назаўсёды звязаў сваё жыццё з Вільняй. Ён прадаўжаў працу ва універсітэце і ва ўласнай майстэрні на Ягелонскай вуліцы, 8. З памешчыцкай традыцыяй яго яднаў фальварак жонкі ў Янаўцы, які ёй выдзелілі з маёнтка ў Отмыце (на поўдзень ад Нясвіжа). Пачаў інтэнсіўна падарожнічаць па краіне з фотаапаратам, ствараючы пачаткі калекцыі «Польшча ў фатаграфічных карцінах Яна Булгака», самай важнай калекцыі мастацкай фатаграфіі ў міжваеннай Польшчы. У 1939 г. яна налічвала звыш 10 000 карцін, сабраных у 158 тэматычных альбомах, у тым ліку «Вільня», «Кракаў», «Познань», «Памор'е», «Польская Балтыка» і «Гданьск», а таксама «Навагрудскае ваяводства». Гэтыя калекцыі прыраўноўваліся да найбольшых міжнародных архіваў агенцтваў прэсы.

З сярэдзіны 20-ых гг. Булгак інтэнсіўна пасылаў свае творы на айчынныя і міжнародныя выставы мастацкай фатаграфіі, атрымліваў шматлікія ўзнагароды і адзнакі, у тым ліку на найважнейшых парыжскіх і лонданскіх салонах, а таксама ў Бруселі, Амстэрдаме, Нью-Вэстмінстэры, Кобе, Токіо і Осацы, Дзюсельдорфе, Ам'ене, Кале, Бірмінгеме, Ліверпулі, Брэдфордзе, Турыне, Мадрыдзе, Сарагосе, Гіёне, Нью-Йорку, Бостане, Сіэтле, Буфала, Пітсбургу, Сан-Францыска, Празе, Будапешце, Таліне, Кейптаўне, Дурбане і ў Бандуэнгу. У 1927/28 сезоне паводле «Хто ёсць хто ў мастацкай фатаграфіі», змешчаным у «Амерыканскім штогодніку фатаграфіі», Булгак удзельнічаў у 68 міжнародных выставах з 261 працай (у іх адзначаны ўдзел 26 палякаў з 722 працамі; сярод іх: Тадэвуш Ваньскі — 31 выстава, 78 прац; Тадэвуш Цыпрыян — 28 выст., 61 праца; Клеменс Складанэк — 26 выст., 77 прац). Ён быў найбольш вядомым польскім мастаком, якога цанілі, запрашалі на элітарныя замежныя салоны, а таксама на індывідуальныя выставы (Парыж, 1922, 1923; «Форт Дэборн Камера Клуб», Чыкага, чэрвень—ліпень 1930). У 30-ыя гг. Булгак актыўна супрацоўнічаў з замежнымі часопісамі, прысвечанымі мас-

тацкай фатаграфіі. Яго працы шмат разоў публікавалі швейцарскі «Фотаапарат», амерыканскі «Нацыянальная геаграфія» (як першага ў гісторыі польскага аўтара), лонданскі «Фотаграмы года», «Штогоднік фотасябра», японскі «Фатографы года», а таксама венская «Галерэя» — самы сур'ёзны еўрапейскі фатаграфічны штомесячнік, з якім ён супрацоўнічаў як аўтар спецыяльных артыкулаў у галіне тэорыі фатаграфіі.

Яго ўдзел у салонах рэцэнзавалі самыя сур'ёзныя мастацкія часопісы, напрыклад, «La revue du Vrai et du Beau» («Агляд праўды і прыгажосці») (снежань 1924) заўважыў, што падчас парыжскага салона «Я. Булгак перадаў у гэтым творы («Лістапад») глыбокую меланхолію восені, якая набліжаецца да заканчэння, апошнюю ўсмешку паміраючай прыроды {...} гэта — сапраўдны твор мастацтва, тонка адчуты і выкананы па-майстэрску. {...} Я. Булгак супрацоўнічае са шматлікімі еўрапейскімі і польскімі выдавецтвамі творамі і словам {...}, прапагандуе асновы артыстызму фатаграфіі ў падтрымку парыжскага «Фотаклуба», членам якога з'яўляецца {...} ён прымае ўдзел ва ўсіх самых значных агульных выставах Еўропы і Амерыкі {...}, ён атрымаў за свае выдатныя працы шэраг адзнак і медалёў {...}, быў ганарова адзначаны шматлікімі еўрапейскімі часопісамі, якія падкрэслілі арыгінальнасць яго таленту. {...} Булгак дастойна прадстаўляе асновы мастацтва, якія ён сам сцвярджае». Два разы пра Булгака пісала Роза Бэйлі: у 1925 г. у вераснёўскім нумары «Сябра Польшчы» («Ян Булгак. Мэтр фатаграфіі») і ў 1927 г. у сакавіковым сшытку «Кур'ера фатаграфіі» («Ян Булгак: майстра фатаграфіі»). У сакавіку 1929 г. самы сур'ёзны амерыканскі прафесійны часопіс «Амерыканская фатаграфія» змясціў на шасці старонках уступны артыкул Джона Мак-Саймана, прысвечаны Булгаку, — восьмы ў гісторыі часопіса матэрыял, у якім расказваецца аб творчасці самых знакамітых мастакоў-фатографаў свету. У лютым 1931 г. пра яго пісаў «Нямецкі фатаграфічны альманах», а ў жніўні 1936 г. — «Адлюстраванне», якое выдавалася ў Йаханесбургу і дзе раней друкаваліся фрагменты яго «Эстэтыкі святла».

Працы Булгака былі істотным элементам турыстычных і сусветных выстаў (у польскім павільёне ў Парыжы ў 1937 г. і ў Нью-Йорку ў 1939 г.). Менш вядома яго дзейнасць як дакументаліста. Ён супрацоўнічаў з Віленскай кансервацыйнай камісіяй з самага яе пачатку, дзякуючы асабістым кантактам з першым акружным кансерватарам (на Навагрудскае і Віленскае ваяводствы), кіраўніком Віленскага аддзела мастацтваў, выдатным гісторыкам мастацтва Ежы Рэмерам, які пасля прыезду ў Вільню ў жніўні 1922 г. пасяліўся разам з жонкай у Булгака. Віленскі мастак удзельнічаў у кансервацыйнай і археалагічнай працы ў Вільні: у тым ліку ўвекавечыў працу пад час кансервацыі іконы Маці Божай Вастрабрамскай, якая папярэднічала яе каранацыі ў ліпені 1927 г. (а таксама і самі ўрачыстасці каранацыі). Выкананы падчас гэтага «Вастрабрамскі альбом» быў перададзены Папе Пію XI і змешчаны ў зборы Ватыканскай бібліятэкі. На мяжы 20-ых і 30-ых гг. ён дакументаваў аднаўленне фрэскаў у спавядальні кляштара візітак у Росі (1929), інтэр'еры і ўбранства касцёла Св. Тэрэзы пад час і пасля рэстаўрацыі (1928—1930), рамонт і змену ўбранства Вастрабрамскай капліцы ў 1931—1932 гг., а таксама працы па ахове і кансервацыі на паўднёва-заходняй вежы Верхняга замка. Для чарговага кансерватара Станіслава Лорэнца ён выканаў дакументацыю аховы руін замкаў у Крэве, Каралеўскім Меднінкаі, Навагрудку і Тракаі. Для кансервацыйных патрэб выканаў здымкі сядзі-

баў у Ёдах, Альшэве, Каменполі, Крыцэвічах, Немежы, Міжрэччы над Дзвіной і Стэфанах, а таксама руін палаца ў Бельмонце. Дакументацыя памятных аб'ектаў у Друі, якая налічвала звыш двухсот адзінак, была самай поўнай працай гэтага тыпу, выкананай у Рэчы Паспалітай да 1939 г. Некалькі соцень арыгінальных шкляных негатываў з фатаграфічнай майстэрні Булгака памерам 13×18 см — таксама з ваколіц Навагрудка — трапілі ў збор Віленскай кансервацыйнай камісіі, і пры яе дапамозе — у Цэнтральнае бюро інвентарызацыі пры Міністэрстве веравызнанняў і публічнай асветы ў Варшаве. Яны шчасліва перажылі другую сусветную вайну і сёння з'яўляюцца адзінымі (апрача адзінкавых негатываў і дыяпазітываў у Літве) захаванымі негатывамі віленскага майстра, створанымі да 1944 г.

Булгаку даверылі выкананне фатаграфічнай дакументацыі, калі адчынялі каралеўскія труны ў крыпце Віленскага кафедральнага касцёла ў верасні 1931 г.: членаў камісіі, якія даследавалі крыпту, стану захавання падзямелля, паэтапнага адкрыцця каралеўскіх рэшткаў і манаршых рэгалій караля Аляксандра Ягелончыка, а таксама дзвюх жонак апошняга Ягелона Зыгмунта Аўгуста: каралеў Елізаветы Ракуш і Барбары Радзівіл. Мастак увекавечыў іншыя важныя падзеі ў жыцці горада і краіны: адкрыццё драўлянага макета помніка Адаму Міцкевічу Юзафам Пілсудскім, твор Збігнева Пранашкі (1924), візіт прэзідэнта Вайцяхоўскага на Свіцязь (чэрвень 1924), паводку вясной 1931 г. альбо ўрачыстасці з нагоды пахавання сэрца маршалка Пілсудскага ў маі 1936 г. Кожны год з фатаграфічным апаратам ён наведваў віленскія кірмашы — традыцыйныя Казюкі.

У міжваенны перыяд ён шмат вандраваў па ўсёй Рэчы Паспалітай, фіксаваў прыгажосць прыроды і архітэктуры краіны і радзей — людзей, якія ў ёй жылі. Падчас паездак у ваколіцы Навагрудка ён спыняўся ў стрыечных у Чамброве. Тут яны з жонкай адзначылі сярэбранае вяселле. Вярнуўшыся ў Вільню, ён апрацоўваў экспанаваныя негатывы разам са шматлікімі супрацоўнікамі, у т. л. Эдмундам і Браніславай Здаоўскімі, Францішкам Вяжэвічам, Леанардам Сямашкам у сваёй майстэрні, якая знаходзілася спачатку на вул. Партовай, 4, потым — Партовай, 6, Ягелонскай, 8 і на плошчы Ажэшкі, 3.

У 1927 г. ён стварыў славуты Віленскі фотаклуб — элітарную арганізацыю, якая аб'ядноўвала самых вядомых фатографаў, што імкнуліся да ўдасканалення сваёй мастацкай творчасці. Іх працы выйшлі ў «Альманаху віленскай фотаграфікі», што стаў узорам для «Альманаха польскай фотаграфікі», выдаванага пазней, органа Польскага фотаклуба, адным з ініцыятараў стварэння яго быў Булгак, які кіраваў абодвума аб'яднаннямі. Прымаў актыўны ўдзел у мастацкім жыцці — удзельнічаў у шматлікіх выставах, атрымліваў шмат залатых і сярэбраных медалёў. Пазней ён сам стаў іх арганізатарам і членам журы: быў адным з прапагандыстаў арганізацыі ў Польшчы Міжнародных салонаў мастацкай фатаграфіі (першы адбыўся ў Варшаве ў 1927 г.). Яго непасрэднаму ўдзелу абавязаны высокі ўзровень IV Салона ў Вільні (1930), а таксама фатаграфічная секцыя ў Аддзеле мастацтва на Агульнай выставе краіны ў Палацы мастацтваў у Познані ў 1929 г.

Ён чытаў шматлікія даклады, прысвечаныя фатаграфіі, у тым ліку і на віленскім радыё, быў выкладчыкам на шматлікіх курсах, прысвечаных мастацкай фатаграфіі. У канцы 20-ых гг. ён стварыў невядомы ў іншых мовах тэрмін «фотаграфіка», які абазначаў мастацкую фатагра-

фію. Свае погляды ён прадставіў у кнігах «Фотаграфіка. Нарыс мастацкай фатаграфіі» (Варшава, 1931), «Бромавая тэхніка» (Вільня, 1933), «Эстэтыка святла. Асновы фотаграфікі» (Вільня, 1936) і ў апублікаванай ужо пасля смерці «Роднай фатаграфіі» (Вроцлаў, 1951). У 1931—1936 гг. выдаў цыкл з 9 сшыткаў пад агульнай назвай «Вандроўкі фатографа», у якім была сабрана не толькі інфармацыя на тэмы галіны мастацтва, якой ён займаўся, але і шматлікія апісанні прыроды, уласныя перажыванні ад сустрэч з прыгожымі куткамі радзімы, творамі мастацтва і архітэктуры, людзьмі. Тэкст быў ілюстраваны фатаграфіямі. Гэта былі «аповесці ў слове і вобразе», як акрэсліў у падзагалоўку сам аўтар.

У лютым 1927 г. здаў экзамен на падмайстра Асамблеі цэха фатографаў горада Варшавы і кіраваў арганізацыйным камітэтам Віленскага цэха. У сакавіку яго выбралі членам кваліфікацыйнай камісіі таварыства польскіх мастакоў-пластыкаў «Мастацтва ў Польшчы».

Булгак разумеў магчымасці выкарыстання фатаграфіі як сродка прапаганды прыгажосці роднага краю. У 30-ыя гады ён стаў прадстаўніком развіцця фатаграфіі краіны. Свае фатаграфічныя працы друкаваў як у выглядзе альбомаў з арыгінальнымі пазітывамі, так і ў выглядзе друкаваных ілюстрацый, паштовак. У 1921 г., у падтрымку ініцыятывы Фердынанда Рушчыца, ён падрыхтаваў 40 фатаграфій для альбома «Польская Вільня. Галоўныя помнікі польскай нацыянальнай архітэктуры ў Вільні, некалі другой сталіцы Польшчы» па заказу МЗС (дэлегацыі ўрада), прызначанага для членаў Лігі Нацый у Жэневе (перакладзены на французскую мову) і польскіх дыпламатычных прадстаўніцтваў (тэкст напісаў праф. Юліуш Клос). Каля 1922 г. яго здымкі былі ўключаны ў серыю паштовак, выпушчаных у Парыжы «Выданнямі сяброў Польшчы». Асобнае месца займаюць звыш 200 здымкаў-сепій, выдадзеных у выглядзе паштовак у 1937—1939 гг. знакамітым львоўскім выдавецтвам «Кніжніца Атлас». За мастацкую творчасць і прапаганду польскага краявіду ён быў адзначаны ордэнам Адраджэння РП і Залатым Крыжам Заслугі.

Пачатак вайны ў верасні 1939 г. перарваў дзейнасць у галіне фатаграфіі. У новых умовах «Атэльє Яна Булгака» на вул. Ажэшка, 3 у далейшым прапаноўвала паслугі, размнажаючы даваенныя негатывы і выконваючы здымкі для дакументаў. З першых дзён акупацыі мастак уключыўся ў дзейнасць польскага падполля: здымаў на мікрафільмы дакументы для віленскага Бюро дэлегата ўрада. Пажар пад час бітвы за вызваленне Вільні ў ліпені 1944 г. знішчыў увесь вынік мастацкай працы Булгака. «10 ліпеня згарэў дом на вул. Ажэшка, 3, дзе мы жылі 11 гадоў, згарэла шасціпакаёвая кватэра, а ў ёй мая фатаграфічная майстэрня, архіў, г.зн. негатывы і альбомы з 10 000 здымкаў «Польшча ў фатаграфічных карцінах», вялікая бібліятэка, збор лістоў, выразак, рукапісаў літаратурных прац, дашчэнту згарэла ўсё, над чым я працаваў і што сабраў за сорак гадоў,ператварыўся ў попел увесь мой фатаграфічны і літаратурны здабытак», — успамінаў Ян Булгак. Вялікай стратай для мастака была смерць жонкі Ганны (8 жніўня, пахавана на могілках ля касцёла Св. Пятра і Паўла на Антаколі; зараз магілы няма) і неабходнасць пакінуць любімую Вільню, якая аказалася на тэрыторыі іншай дзяржавы. Перад выездам разам з сынам Янушам па заказу віленскіх уладаў ён зрабіў дакументацыю, якая зафіксавала знішчэнне горада. Яна дапаўняла пісьмовы рапарт, які датычыў ваенных страт Вільні, падрыхтаваны вядомым віленскім гісторыкам мастацтва Мар'янам Марэлёўскім.

Галоўнай крыніцай даходаў мастака ў апошні перыяд жыцця ў Вільні было напісанне прашэнняў для польскіх рэпатрыянтаў і фатаграфаванне савецкіх салдат.

У ліпені 1945 г. мастак пасяліўся ў Варшаве. Апошнія гады жыцця ён правёў, узнаўляючы карціну знішчэнняў, а таксама прыгажосць сталіцы, таго, што ўцалела. Адпраўляючыся ў цяжкіх пасляваенных умовах на адкрытым аўтамабілі ў шматлікія падарожжы, ён захаваў на сучасных фотаздымках вобраз заходніх і паўночных зямель. На працягу няпоўных шасці гадоў разам з сынам Янушам ён выканаў каля васьмі тысяч здымкаў. У 1946 г. удзельнічаў у арганізацыі Саюза польскіх мастакоў-фатографікаў і пэўны час быў яго першым прэзідэнтам і старшынёй кваліфікацыйнай камісіі.

Яго далейшыя мастацкія планы перарвала нечаканая смерць. Булгак памёр у Гіжыцку 4 лютага 1950 г. Пасля яго засталіся легенда, вучні і дасягненні ў мастацтве, крыху забытыя і адкрываемыя нанова на працягу некалькіх апошніх гадоў.

Навагрудская зямля — «край дзіцячых гадоў» — адыграла асаблівую ролю ў творчасці Яна Булгака. Калі ў 1905 г. ён узяўся за фотаапарат, першымі матывамі для здымкаў былі партрэты самых блізкіх, родных і характэрных вясковых тыпажоў, а таксама краявіды ваколіц Пярэсекі каля Мінска і ваколіц Асташына і Чамброва ў Навагрудскім ваяводстве, дзе жыла яго самая блізкая радня. Яго дэбют адбыўся на фатаграфічным конкурсе, прысвечаным прыгажосці літоўскага краявіду, абвешчаным у № 2 ад 13/26 студзеня 1908 г. «Ілюстраванага жыцця». Вынікі конкурсу былі падведзены ў жніўні. Журы (Станіслаў Флёры, Ян Германовіч, Філіберт Грыневіч) аднагалосна прызнала найлепшай падборку з 16 фатаграфій пад дэвізам «Нетутэйшы», сцвярджаючы, што «як незвычайна стараннае выкананне, так і падбор відаў і тыпажоў ставяць гэту падборку на мастацкую вышыню і сведчаць пра добры густ і любоў аўтара». Апошні не прыслаў канверта з прозвішчам, і толькі праз некалькі тыдняў высветлілася, што пераможцам стаў Ян Булгак з Пярэсекі. Адзначаныя фатаграфіі друкаваліся ў «Ілюстраваным жыцці» у канцы 1908 — пачатку 1909 г., у тым ліку «Свіцязь у месячную ноч», «Свіцязь удзень», «Фрагмент рынку ў Навагрудку», «Сядзіба ў Навагрудскім павеце» (Чамброў і Асташын), «Яўрэй з аколіц Клецка». Тады ён таксама перадаў свае фатаграфіі з Навагрудскага ваяводства ў збор Польскага краязнаўчага таварыства ў Варшаве, распачаўшы тым самым супрацоўніцтва, якое працягвалася да канца жыцця. У 1908 г. «Польская кнігарня» А. Флешара з Вільні выдала паштоўку з фатаграфіяй Булгака «Фара ў Навагрудку». У чэрвеньскім (№ 26 ад 25 чэрвеня) нумары «Зямлі» за 1910 г. на старонках 27—29 быў надрукаваны артыкул «Экскурсія на Свіцязь», першы тэкст Яна Булгака, ілюстраваны пяццю здымкамі і анансаваны фатаграфіяй на вокладцы. Наступныя здымкі Навагрудка і ваколіц змясцілі чарговыя нумары «Зямлі» за той жа год («Дубы», «Стары вятрак на схілах у Навагрудку», «Касцёл у Навагрудку», «Вуліца ля касцёла ў Навагрудку», «Сядзіба ў Туганавічах», «Базар у Навагрудку», «Прыдарожныя вербы» і пяць здымкаў Свіцязі). Магчыма, што некаторыя вучэбныя працы, змешчаныя ў сшытках 13 і 22 берлінскіх «Фатаграфічных паведамленняў», паўсталі ў ваколіцах Навагрудка. Фатаграфіі Навагрудскай зямлі паказаў Ян Булгак на першай фатаграфічнай выставе (жнівень 1911 г.) на вядомым курорце ў Цяхоцінку. За працы «Вечарам (коні на пашы)», «Віхар», «Дарога»,

«Прынёманскія пяскі» і «Кветкі» ён атрымаў узнагароду ў агульным аглядзе. У 1911 г. яго фатаграфіі ілюстравалі артыкулы ў штотыднёвіку «Свет» (напр. «Абуджаючыся народ» у № 34). Іх друкавалі ў «Варшаўскім фатографе» і «Зямлі». У ёй 13 студзеня 1912 г. (№ 2) на старонках 20—21 Булгак апублікаваў тэкст «Сядзіба ў Асташыне» пра бацькоўскі дом, ілюстраваны двума фотаздымкамі сядзібы і здымкам печы ў сядзібе Грабоўскіх. На выставе «Польскі краявід», арганізаванай ПКТ у Вялікай ратушнай зале ў Варшаве, здымкі Булгака размясцілі асобна ў аддзеле «Фатаграфічныя карціны». Іх адзначылі ганаровым дыпломам, а некаторыя з іх змясцілі ў спецыяльным сшытку «Зямлі» разам з артыкулам «Краявід і фатаграфія» (С. 136—143), у альбоме з гэтай нагоды «З нашых краявідаў» і на серыі паштовак «Гасцінец пад Мінскам», «Лета» (з ваколіц Навагрудка). Навагрудскія матывы займалі важнае месца сярод шматлікіх публікацый Булгака ў «Варшаўскім фатографе» і «Зямлі» да вайны. Залатым медалём узнагародзілі яго фатаграфіі, выстаўленыя на «Кірмашы прамысловасці і народнага мастацтва ў Вільні» (Айчынная выстава дробнай прамысловасці і народнага мастацтва Літвы і Белай Русі), арганізаваным Рушчыцам у Гарадской зале ў верасні 1912 г. Рэпрадукцыі некаторых з іх былі надрукаваны ў «Ілюстраванай вёсцы», прысвечанай выставе. Гэткім жа чынам адзначылі яго ўдзел у экспазіцыі «Польская вёска», арганізаванай у Варшаве ў 1915 г. Тады, ужо ўласным коштам, ён выдаў у Вільні серыю друкаваных паштовак № 1 «Літоўскі краявід у фатаграфіях Яна Булгака» (6 штук, бронза). Пяць тамоў «Літвы», выдадзеных у 1915 г., змяшчалі 270 табліц: тамы I і II з Міншчыны (90) і больш ранняя матывы з творчасці, згрупаваныя ў дзве падборкі: «Ваколіцы паміж Стоўбцамі і Дзераўной», а таксама «Ваколіцы Мінска ў кірунку Самахвалавіч»; тамы III і IV (89 табліц) — гэта «Віленскі край»: «Ашмянскі павет, ваколіцы Вішнева» і «Крэва, ваколіцы Вільні да Вілейкі, Пушкарня, Кучкурышкі, Затрочы»; тамы V і VI (94 табліцы) «Навагрудскі край», а таксама самыя ранняя працы мастака з 1907—1910 гг.: «Навагрудак. З Навагрудка да Гарадзішча» і «Свіцязь. Мір. Нясвіж».

Ян Булгак займаўся паэзіяй: у 1917—1918 гг. ён напісаў верш «Мая Зямля», выдадзены ў Вільні ў 1919 г. Першапачаткова намер быў ілюстраваць тэкст уласнаручна выкананымі фатаграфіямі, але з-за ваенных цяжкасцей мастак адклаў ілюстрацыйную частку да чарговага выдання, якое ніколі не выйшла. Фрагменты верша (са здымкамі) з кастрычніка 1922 г. друкаваў двухтыднёвік «Крэсы». Верагодна, мастак падрыхтаваў бібліяфільскае выданне, ілюстраванае арыгінальнымі здымкамі.

Пасля заканчэння вайны Булгак, нягледзячы на тое што жыў у Вільні, рэгулярна наведваў Навагрудскі край, таму яго фатаграфіі з гэтага рэгіёна былі базавым ілюстратыўным матэрыялам у польскай прэсе: напрыклад, у «Ілюстраваным штотыднёвіку» (№ 15 ад красавіка 1925 г., прысвечаны ўскраінам). Некаторыя, як, напрыклад, «Прэзідэнт Вайцяхоўскі над Свіцяззю ў акружэнні прадстаўнікоў народа і вясковай дзятвы» і «Жыхары берагоў Свіцязі прыплываюць на лодцы, каб прывітаць прэзідэнта хлебам і соллю», напэўна, зроблены спецыяльна (1924) для патрэб прэсы.

Булгак належаў да асоб, якія падтрымлівалі «Віленскі штотыднёвік» (выдаваўся з 1925 г.). Ён вёў там рубрыку «Польшча ў фатаграфічных карцінах Яна Булгака», у якой, між іншым, размясціў віды возера Кро-

мань і Замкавай Гары ў Навагрудку. У канцы 1925 г. у спецыяльным трайным нумары «Зямлі», прысвечаным Навагрудскай зямлі, ён апублікаваў артыкул «Аб навагрудскім краявідзе» (С. 195—202), ілюстраваны шматлікімі здымкамі. Навагрудскія матывы часта з'яўляліся тэмай прац, рэпрадукцыі якіх друкаваліся ў польскай фатаграфічнай прэсе ў 1925—1939 гг.: «Польскім фатографе», «Польскім фатаграфічным аглядзе» і «Фатаграфіі ў школе». Віды мясцін, якія ён помніў з дзяцінства, шмат разоў экспанаваў падчас выстаў як дома, так і па-за межамі краіны. «Дзядзькі», «Грэчкасеі», «Кірмаш у Навагрудку» — гэта некаторыя з выстаўленых матываў. У лістападзе 1927 г. 150 здымкаў «краю дзіцячых гадоў» ён паказаў у залах «Апекі» ў Навагрудку. Побач ён змясціў фатаграмы свайго першага навагрудскага майстра Баляслава Ігнація Данейкі і працы з І Міжнароднага салона мастацкай фатаграфіі ў Варшаве. Яго «Хаты ў снезе», «Будзе дождж — сядзіба Отмыт, Навагрудскі павет», «Вёска Радагонцы», «Краявід — сядзіба ў Чамброве», «Жыта», «Асобныя ліпы», «На поўнач — сядзіба Отмыт» былі паказаны на першай выставе «Прыгажосць краявіду Польшчы» ў лістападзе 1937 г. у Львове ў раздзеле «Навагрудскае ваяводства».

Толькі ў апошнім томе «Вандровак фатографа» знаходзіцца апісанне Навагрудскага краю: у сшытку VI (1936) «Чалавек — творца краявіду», прысвечаным сядзібам, ён паказаў сядзібы, якія ведаў з дзяцінства: Чамброў, Нача, Отмыт... Булгак аб'явіў аб выданні чарговага сшытка — «Край дзіцячых гадоў», але працу над ім перарваў пачатак вайны. Не захавалася ніякай інфармацыі аб матэрыялах, якія ён хацеў апублікаваць, аднак можна меркаваць, што там не магло не хапаць апісанняў і здымкаў касцёлаў, цэркваў, сінагог і маляўнічых драўляных дамоў Навагрудка, сядзібы, парку і царквы ў Райцы, царквы ў Валеўцы, сядзібаў у Чамброве, Мірацічах, Туганавічах, Асташыне і Варончы, замка ў Міры, лугоў над Сэрваччу і Нёманам, рынкаў у Клецку і Нясвіжы, а таксама іх святынь і палаца Радзівілаў.

У 1937 г. ён выдаў аўтабіяграфічную аповесць «Д.О.М.», прысвечаную ўсім тым, хто ў выніку ваенных дзеянняў 1914—1920 гг. страціў сваё роднае гняздо. У аповесці аўтар выступаў у асобе галоўнага героя — малога Юрэка. Іншыя героі, напрыклад, цётка Караліна з Булгакаў Карповіч, — гэта сапраўдныя асобы, родныя і знаёмыя мастака з дзіцячых гадоў, якія ён правёў на Навагрудскай зямлі. Амаль сто старонак аповесці склалі першую версію пазнейшага тэксту ўспамінаў пра дзіцячыя гады. Ілюстравалі іх фатаграфіі з дзяцінства сына Янушка і сядзібы ў Пярэсецы.

Першы том успамінаў — «Край дзіцячых гадоў» — ён пісаў у Вільні са студзеня 1940 г. да кастрычніка 1942 г., у час, калі горад па чарзе пераходзіў у літоўскія, савецкія і нямецкія рукі, а інтэнсіўнай працы дома спрыяла ўведзеная каменданцкая гадзіна. Машынапісны тэкст, які налічваў звыш 600 старонак, з папраўкамі аўтара, уцалеў у ваенным пажары. Другі том — «Паўжыцця ў Вільні», які ён пісаў з лістапада 1942 г., налічваў звыш 300 старонак тэксту, і для яго заканчэння аўтару патрэбны быў яшчэ год. Машынапісны тэкст згарэў у ліпені 1944 года. Яшчэ перад рэпатрыяцыяй у Польшчу Булгак планаваў аднавіць спалены тэкст, аднак справа скончылася напісаннем трох старонак. У Польшчы віленскага майстра захапілі новыя справы — дакументацыя знішчанага і адбудова Варшавы, фіксацыя вобраза Вернутых зямель, арганізацыя аднаўлення польскага фатаграфічнага руху, а таксама навучанне мо-

ладзі. Па ініцыятыве сына Яна Булгака — Януша — у 1952 г. уцалелы том успамінаў быў перапісаны ў сямі экзэмплярах, у наступныя гады — яшчэ два разы. Усяго разам выканана 18 копій, якія зараз знаходзяцца перш за ўсё ў руках прыватных асобаў. Машынапісны тэкст узбагацілі выкананымі пасля вайны фатаграфіямі, якія скапіравалі з уцалелых калекцый, галоўным чынам прыватных асобаў.

Успаміны, напісаныя ў ваенны час, праз паўвека, рэгіструюць паўсядзённае жыццё сядзібы і апісваюць прыгажосць навагрудскага краявіду, бачаныя вачамі ўражлівага хлапца ва ўзросце некалькіх гадоў. Як жа няшмат яны адрозніваюцца ад вобраза, перададзенага іншым жыхаром гэтага краю — Адамам Міцкевічам! Сувяззю паміж успамінамі бацькі польскай мастацкай фатаграфіі і творчасцю прарока з'яўляецца загаловак кнігі — «Край дзіцячых гадоў», узяты з нацыянальнага эпасу Міцкевіча. Як піша прафесар Рышард Керсноўскі, «акрамя значэння дакумента, сведчання часу і крыніцы па гісторыі краю, які сёння страчаны і знішчаны ў сваёй польскай субстанцыі, гэты тэкст прадстаўляе сабой род літаратуры, якая зараз ужо не сустракаецца, ва ўсялякім разе з'яўляецца рэдкім відам, які некалі нават знішчаўся, на мяжы паэзіі і прозы. Гэта — гімн роднай зямлі, дань любові да бацькі і маці, апафеоз сялянскага дамашняга ўкладу жыцця, а таксама тлумачэнне паняццяў любові і прыгажосці, споведзь не толькі дзіцяці, але і дарослага, вельмі плённага жыцця. Вяртанні назад і паўторы ў тэксце з'яўляюцца сведчаннем пастаяннага кружэння думкі аўтара вакол найважнейшых для яго спраў у сферы эмоцый і эстэтыкі, як быццам бы ствараючы фотаздымак самога аб'екта з розных бакоў і пры розным асвятленні, таму не трэба іх трактаваць як пісьменніцкія хібы».

Акрамя фактаграфічнага і дакументальнага значэння, тэкст мае літаратурную каштоўнасць. Ён напісаны прыгожай, крыху старасвецкай польскай мовай, з такімі характэрнымі для Булгака, ім жа створанымі ўласнымі словамі, якія перадаюць (як заўважыў іншы славуты польскі мастак-фатограф Ян Сандэрланд) барочную паўнату вобразаў і зместу. Успаміны, упершыню выдадзеныя праз шэсцьдзесят гадоў пасля іх напісання, прадстаўляюць нам асобу крыху забытага зараз віленскага майстра аб'ектыва з дагэтуль не вядомага нам боку — не толькі як цудоўнага фатографа, але і выдатнага пісьменніка.

Іаланта Б. КУХАРСКАЯ<br>*Варшава, сакавік 2002 г.*

## Бібліяграфія Яна Булгака (выбранае)


**Розныя публікацыі**

1. Замак у Міры, жменя ўражанняў // Віленскі квартальнік. 1910. С. 23–28.
2. Экскурсія на Свіцязь // Зямля. 1910. № 26. С. 207–209.
3. Калядныя песні на Міншчыне // Віленскі квартальнік. 1911.
4. Nec megitur (Уражанні з мастацкай выставы ў Мінску 12–14 сакавіка) // Віленскі штотыднёвік. 1911. № 14. С. 2–6.
5. Двор у Асташыне // Зямля. 1912. № 2. С. 20–21.
6. Мая зямля (верш). Вільня, 1919.
7. Аб навагрудскім краявідзе // Зямля. 1925. Сш. 10–12. С.195–202.
8. Чаму Рушчыц перастаў маляваць. Вільня, 1936.
9. Фердынанд Рушчыц — жыццё і дзейнасць. Вільня, 1939 (рэдагаванне і раздзел «Дваццаць шэсць гадоў з Рушчыцам»).

**Альбомныя выданні**

1. Віленскія святыні. Вільня, 1914.
2. Вільня. Восем гравюр на падставе здымкаў Я. Булгака. Вільня, 1918 (ням.).
3. Польская Вільня. Галоўныя помнікі польскай нацыянальнай архітэктуры ў Вільні, былой сталіцы Польшчы. Вільня, 1921 (англ.).
4. *Г. Масціцкі.* Вільня. Варшава, 1922.
5. Вільнюс 1323–1923. Каунас, 1923.
6. *Я. Мартквіч.* Вільня. Вільня, 1924.
7. Варшава. Варшава, 1924.
8. Люблін. Варшава, 1924.
9. Стары Львоў. Варшава, 1924.
10. Вастрабрамскі альбом. Вільня, 1927.
11. Польшча ў краявідах і помніках. Варшава, 1931. Т. 1–2.
12. Каталог пасмяротнай выставы мастацкіх прац і малюнкаў Фердынанда Рушчыца. Вільня–Варшава–Кракаў, 1937.
13. Вільня. 20 відаў з фотаздымкаў Яна Булгака. Вільня, 1937.

**Кнігі**

1. Класічны і «урбаністычны» матывы ў фотаграфіцы // Некаторыя пытанні польскай фотаграфікі. 1929. С. 5–12.
2. Фотаграфіка. Апісанне мастацкай фатаграфіі. Варшава (1931).
3. Бромавая тэхніка. Вільня, 1933. Выд. 2-ое. Вільня, 1938.
4. Бромаграфіка, ці другасны метад. Вільня, 1934.
5. Эстэтыка святла. Асновы фотаграфікі. Вільня, 1936.
6. Родная польская фатаграфія. Фатаграфічны дапаможнік. Познань, 1939.
7. Родная фатаграфія. Абагульненне фатаграфіі. Вроцлаў, 1951.
8. Вандроўкі фатографа ў слове і вобразе:

Сш. 1. Віленскі краявід. Вільня, 1931.
Сш. 2. Краявід, бачны праз лінзу. Вільня, 1933.
Сш. 3. Праз Панары да Трок. Вільня, 1933.
Сш. 4—5. Нарач. Самае вялікае возера ў Польшчы. Вільня, 1935.
Сш. 6. Чалавек — творца краявіду. Вільня, 1936.
Сш. 7. Рушчыцавы дажынкі. Вільня, 1936.
Сш. 8—9. Пейзаж Вільні. Вільня, 1936.

9. Альманах віленскай фатаграфікі. Вільня, 1931.

10. Нацыянальнасць у фатаграфіцы // Альманах віленскай фатаграфікі. 1931. С. 11—25.

11. Людзі і кнігі // Альманах віленскай фатаграфікі. 1931. С. 26—31.

12. Аб сумленным фатаграфічным рамястве // Альманах віленскай фатаграфікі. 1931. С. 38—44.

13. Аб Віленскім фотаклубе // Альманах віленскай фатаграфікі. 1931. С. 51—54.

14. Альманах польскай фатаграфікі, 1934. Вільня, 1934. Т. 1.

15. Альманах польскай фатаграфікі, 1937. Вільня, 1937. Т. 2.

## Змест

Літаратурна-мастацкае выданне

**Булгак Ян**

**КРАЙ ДЗІЦЯЧЫХ ГАДОЎ**

Рэдактар *Ю.А. Паўлюкевіч*
Афармленне і мастацкае рэдагаванне *Н.В. Барай*
Камп'ютэрная вёрстка *Т.А. Тарасенка*
Карэктары *А.С. Шагун, Г.К. Піскунова*

Падпісана да друку 23.11.2004. Фармат 70×108 $^1/_{16}$. Папера афсетная. Гарнітура Пецярбург.
Афсетны друк. Ум. друк. арк. 36,40. Ул.-выд. арк. 29,16. Тыраж 2000 экз. Зак. 297.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларусь» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. ЛІ № 02330/0056828 ад 02.03.2004. 220004, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Мінская фабрыка каляровага друку».
220024, Мінск, вул. Каржанеўскага, 20.

ISBN 985-01-0538-0

9789850105387

